ISSN 0130–8068

# ПОЛЫМЯ

У НУМАРЫ:



5 2003



# ПОЛЫМЯ

5

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС

(883)

ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА

2003
май



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2003

## ЗМЕСТ



**ЗАСНАВАЛЬНІК — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**

# ВЕЧНЫ АГОНЬ ПЕРАМОГІ

## ПІМЕН ПАНЧАНКА

### ФРАНТАВІК

На ўсе лады паэмы і быліны
Пяюць: хвала, хвала табе, баец!
А ён у нейкім дорфе за Берлінам
З палёгкай уздыхнуў — вайне канец.

І толькі той адчуе ў сэрцы слодыч
Ад гэтых слоў, ад гэтай цішыні,
Хто столькі год, як ён, ішоў паходам
Праз дзікія смяротныя агні.

Закончаны салдацкія турботы.
Нібы на штык, павесіць на кіёк
Заслужаную пару добрых ботаў
І франтавы апошні свой паёк.

Ён зойме месца сціплае ў вагоне,
Гудок раўне з палёгкаю: дамоў!
Сто колаў паравоз на ўсход пагоніць
Праз гушчары усіх замежных моў.

Рассыпле па мастах густое рэха
Цягнік — і стане светла на душы.
Нямецкія фарсіраваныя рэкі
Ужо не фарсяць, плывуць сабе ў цішы.

Мінаючы славутыя сталіцы
У зарыве чужых садоў і траў,
Ён будзе пазіраць і сам дзівіцца:
У якую даль захопнікаў загнаў.

Не прынясе салдат з вайны крывавай
Багацця. Прынясе з сабой з дарог
Ён пяць падзяк — пяць звонкіх песень славы
І водбліск найвялікшых перамог.

А вернецца дахаты — жонцы, дзецям
Найлепшым падарункам будзе сам.
Цяплейшым стане ў тое ранне вецер,
Утульней будзе нівам і лясам.

Ні ордэнам, ні таннай пахвальбою
Суседзям ён не будзе дакучаць.
Пасля даўгіх дарог і перуновых боек
Захочацца салдату памаўчаць.

Чытаючы крыклівыя трактаты
Пра подзвігі свае, пра гром атак,
Падумае з усмешкай вінаватай:
«Здаецца, што было у нас не так».

А досвіткам на сенажаць з касою
У новы наступ выйдзе.
Па траве
Яму насустрач з залатой расою
Сто тысяч мірных сонцаў прыплыве.

*1945*

## МАКСІМ ТАНК

### ПАСЛЯ ВАЙНЫ

Можа, і лепш было б нам будавацца
На новым месцы.

А то падымаю бярно,
А з ім — успаміны.

Дах новы рыштую —
І чую буслоў спаленых клёкат.

Шулы ўстаўляю —
І чую скрып даўніх дзвярэй,
Калі адчыняла іх маці.

Шклю вокны —
І бачу ў іх водсвет
Юнацтва свайго.

Кладу печ —
І чую зноў пах
Праснакоў партызанскіх
І мокрых, як восень,
Ануч.

Можа, і лепш было б нам
будавацца
На новым месцы.
Але я на ўсёй зямлі
Месца другога,
Дзе мог будавацца б,
Не знаю.

*1966*

## АЛЯКСЕЙ ПЫСІН

* * *

Даўнія кантузіі, раненні
Адгукнуцца болем, што не ўтоім.
А забыты выпраўка, раўненне,
Быццам зроду не хадзілі строем.

Вэтэраны на сваім парадзе
Адзначаюць сёння Перамогу.
Паглядзець жа збоку, — то папраўдзе, —
Развучыліся хадзіць у ногу.

Нават тыя, нават тыя,
Палкавую школу што канчалі,
Ведалі прыёмы штыкавыя,
Павароты, строгі шаг чаканны.

Вельмі, вельмі быў аркестр дарэчы,
Медзь зайграла, заспявала, зазвінела.
Развінулі ветэраны плечы,
Грукнулі па бруку левай,
левай.

Духавыя гукі шлях акрэсляць,
Барабан шчыруе — ледзь не лопне.
...Так праводзяць нас цяпер аркестры,
То ўрачыста-звонка,
то жалобна.

*1977*



**АЛЕСЬ САВІЦКІ**

# ПІСЬМО Ў РАЙ

***Раман-споведзь*** *

*Памяці бацькі майго*
*Ануфрыя Якаўлевіча Савіцкага.*

## 1

У вечаровым сутонні за акном, на скарабачанай ветрам плыні Свіслачы трымцелі адбіткі барвовых клёнаў парку на левым беразе, і Смоліч у новым, нязнаным раней, узрушэнні ўзіраўся ў бясконцую гульню вады з асеннімі фарбамі. Вось з цёмнай глыбіні выбілася агняная мярэжка, бясконцая і жывая, і, пагойдваючыся, сунецца вольна, дзівосна зменьваючы адценні; вось пыхнулі і згаслі кароткія залачоныя акраўкі, а на іх месцы выцягнуліся ліловыя стужкі, але тут жа сціснуліся, згарнуліся, даючы дарогу россыпу буйных жарынак, і яны, гэтыя жарынкі, скачуць па вадзе, адале зліваюцца ў вогненны шлейф, але і ён нядоўга трымаецца, адсоўваецца ў блізкую цемру.

«...всё истребилось, что миновал...»

Знаёмая мудрая выснова Салавецкага старца Нестара з ягонага мужнага «Слова», моўленага ў прыдворнай царкве Зімовага Палаца ў 1843 годзе ў прысутнасці імператара, двара і ваеннага чынавенства, неспадзявана адкрывала Смолічу новы глыбінны сэнс. Нібыта агняная мярэжка з адбіткаў барвовай восеньскай лістоты на рачной плыні, ускудлачанай ветрам, высвеціліся ў памяці словы страснай пропаведзі чалавека, які не збаяўся сказаць уладарам горкую праўду.

Смоліч знайшоў «Слова» ў сорак першым годзе на беразе Палаты — гітлераўцы выкінулі туды, на сметнік, шыкоўную гарадскую бібліятэку. У тую восень палымяная і мужная пропаведзь сумленнасці і дабрыні ўсхвалявала хлапечае сэрца. А пазней, студэнтам ужо, ён зноў прачытаў яе ў матчынай хаце і быў агаломшаны веліччу чалавечага духу. У Мінску ж, калі пераехаў са старой кватэры на новую, у гэты гмах на беразе Свіслачы, неаднойчы шукаў «Слова» ў сваіх кніжных шафах і, не знайшоўшы, палічыў, што нехта не вярнуў кнігу — даваў яе шмат каму чытаць.

Дарагая яго сэрцу рэліквія адшукалася неўспадзеў. З верхняй паліцы здымаў цёмна-сіні том, выконваючы патрабаванне ўнука Яўгенкі: «Знайдзі, дзядуля дарагі, Горкага. Казкі пра Італію загадана прачытаць.

* Часопісны варыянт.

Калі не будзеш ведаць — «банан» улепяць», — і ўбачыў за тоўстымі фаліянтамі выданне, што дагэтуль безвынікова шукаў і ўжо зміры ўся са стратаю.

Кніга ляжала цяпер на падаконніку, разгорнутая на знаёмай старонцы. У вечаровым сутонні чорныя радкі на белай паперы — на ёй трымцеў слабы адбітак агнянай мярэжкі на рачной плыні — выдавалі жывымі, яны як бы рухаліся, сплывалі ў цень пад тоўстымі шаблямі альваса, і Смолічу падалося, што з вады, на якой выгінаецца бясконцы шлейф нежывых чырвоных і малінавых бліставак, выплывае глухі голас.

«Чувствуя и зная недостоинства свои, я однакож почту за преступление заботиться о своем тщеславии и о похвале вашей. Доныне я проповедывал о правосудии всевышнего в хижинах, покрытых соломою, я проповедывал неизбежные истины веры нашей трудолюбивым, добрым земледельцам; проповедывал несчастным, часто неимеющим дневного пропитания, об ужасе вечного наказания. Что же я сделал, несчастный? Я опечалил бедных лучших друзей Бога моего, я внёс ужас и скорбь в добрые, простые сердца, которые я бы должен был покоить и утешать. Но здесь, куда ни взгляну, я вижу гордых вельмож, которые полагают, что неизмеримое пространство разделяет их от бедных тружеников; они забыли, что после часовой их жизни вечная их могила одинакова, а на суде всемогущего последние будут первыми, а первые последними; здесь вижу тех недоступных судей, которые лишь на страшном суде вспомнят, что они были судьями: здесь вижу богатых, знатных; тех сильных утеснителей бедности, тех грешников нераскаянных, отвергающих суд Божий и не страшащихся суда человеческого, где то и нужно было оглашать неизбежное слова Божие… последнего Судью, пришедшего отмщать невинным их слёзы, печали и скорбь…

…тысячи огорчений, забот, болезней постигают нас на пути; но это безделица, если б я мог избегнуть пропасти, у которой хотел бы остановиться. Иди! а между тем все истребилось, что миновал…»

Крэканне качак — выплылі з цёмнай пячоры маста і няроўным клінам сунуліся па агнянай паласе на рачной плыні — было прыгожай рэальнасцю, і Смоліч зноў жыў у ёй, і яна заўжды ўлагоджвала, надавала развагам будзённасць. Зрабілася ўжо звычкай — мінула трыццаць гадоў з таго дня, як ён пасяліўся тут, — стаяць вось так, каля акна, сачыць за тым, як гусцее начны змрок над вадою, і разважаць над усім пакрысе. Тады, у тую першую ноч, калі толькі нараджалася гэтая звычка, берагі за акном не былі закаваны ў бетон, не зеўрала пашча пячоры пад драўляным мастком, каля зялёных паляў вытыркаліся з вады зялёныя шаблі аеру, пад старымі вербамі, дзе доўгае плецiва гнуткага голля вымалёўвала на ціхай плыні мудрагелістыя карункі, чакалі сваю спажыву ленаватыя язі і вёрткія краснапёркі, а на мелкаводдзі левага берага купаліся і чысцілі крылцы гарадскія вераб'і, і на іх грэбліва паглядалі ганарлівыя белыя чайкі. Тады, у тую першую ноч жыцця на гэтай новай кватэры, вялікай і ўтульнай, нарадзілася ў Смолічавай душы думка, якая больш узрадавала ніж здзівіла яго: табе, дружа, наканавана небам, відаць, было нарадзіцца і заканчваць свой жыццёвы шлях пад дахам хаты, з вокнаў якой заўжды можна бачыць няспынны рух вады. Дзве рэчкі ў розных кутках твае роднае зямлі, і толькі тае і розніцы, што клёны маленства былі паміж вокнамі і рэчкамі, а клёны сталасці пераскочылі яе, рэчку, растуць далей ад берага, мабыць, на тое, каб ты лепей бачыў іх і параўноўваў з тымі, што люлялі дзіцячыя мары. Затое

сутнасць іх, гэтых рэчак, аднолькавая: няспынны і бясконцы ў іх рух вады, і яна сплывае, каб застацца вечнай. Сплываем і мы, рух наш спыняецца толькі аднойчы і назаўжды.

«Все истребилось, что миновал...»

Радок гэты жыў у памяці даўжэй за іншыя, і ад сэнсу яго, што нечакана высвечваўся новымі гранямі, зрабілася самотна і тужліва. Мігнуліся клёны ў канцы саду, зыркае рабацінне вады ў затоцы пад лазнякамі, блакітны човен, прыкуты ланцугом да кляновага карча, — бацька прыгнаў новы човен ад майстра, што жыў за Дзвіной, у той дзень, калі Смоліч перайшоў у чацвёрты клас.

«Ці ацалеў наш човен?..»

Бацька пытаўся пра гэта ў сваім другім пісьме, якое даслаў з вострава Пуцяцін. Смоліч нічога не адказаў, бо маці параіла не трывожыць бацькаву душу дробязным клопатам. Дый самому было цяжка пісаць пра тое, як паліцаі, клятыя тыя «бобікі», падагналі машыну і ўлупілі кіем і яму, і Генку за тое, што адмаўляліся дапамагаць цягнуць з хлява човен: загад гарадской управы быў жорсткі — неадкладна здаць уладам «все имеющиеся плавсредства, независимо от их состояния».

Той ліст, у якім бацька пытаўся пра човен, Смоліч паклаў у канверт побач з першым пісьмом да Сталіна. Бацькаў ліст гэты ён згадваў часта. І чамусьці менавіта клопат бацькаў пра човен выклікаў заўжды незразумелую горыч і тугу, чаго Смоліч раней аніяк не мог патлумачыць. А зараз, калі глядзеў, як ад руху качак шырэе, расплываецца агнявая мярэжка, Смоліч нечакана злавіў сябе на тым, што можа той клопат бацькаў патлумачыць. Як жа ён раней не дапяў да тлумачэння простага і дакладнага! Тут жа толькі адно тлумачэнне і можа быць!

У пакоі загусцеў паўзмрок. Смоліч сеў на крэсла ля стала, націснуў белую кнопку ўключальніка. Пыхнула мяккае святло настольнай лямпы. Справа ад яе стаяла бацькава фотакартка, і з яе спакойна і ўдумліва глядзелі на Смоліча родныя, да болю знаёмыя вочы.

## 2

Даруй...

Даруй мне, татка родны...

Даруй мне, мілы бацька мой, даруй...

Гэтае маленне студзіць сэрца штораз, калі ўглядаюся ў твае вочы на фотакартцы, якую ты збярог у фашысцкім палоне. Цяпер давяраю яго паперы і дасылаю табе ў Рай. Перакананы, што ты цяпер там, бо кожнаму з нас на згоне жыццёвага шляху на зямлі небам дараваны толькі дзве дарогі — альбо Рай, альбо Пекла. Пекла ты адбыў тут, на зямлі. А двойчы туды, як кажуць мудрыя людзі, трапіць немагчыма.

У сэрцы маім ужо не месцяцца горыч і адчуванне свае віны перад табою. І гэтае пісьмо не проста ядучы спамін і горкая развага, а спадзяванка простая і шчырая на тое, што злюцца яны, мае словы, у адно колца і ў ім, з болю і тугі, роспачы і немага крыку, выплавіцца праменьчык цеплыні і спагады, і ён, праменьчык гэты, даляціць да цябе і хоць на хвіліну якую ўсцешыць, залюляе тваю спакутаваную душу.

Не ведаю, татка любы, ці даруеш ты мне даўнія, непапраўныя мае памылкі, што зрабіў я ў дужа ж далёкім цяпер сорак шостым годзе, калі ат-

рымалі мы твой ліст, які закрэсліў афіцыйнае паведамленне, дзе чорным па белым было напісана: «...пропал без вести на фронте в сорок первом году...»

Той ліст ад цябе, жывога, прынесла знаёмая паштарка, маладая і прыгожая. Звычайна я жартаваў з ёю, і яе вялікія блакітныя вочы праменілі прыязнасць. А тут на жарт мой не адказала, аддала канверт, сказала, што пісьмо маме, і пабегла, нават не развітаўшыся. Мяне гэта не вельмі і здзівіла: ці мала чым можа быць засмучана прыгожая дзяўчына. А вось я, узяўшы канверт, быў здзіўлены і напалоханы. У мяне склалася звычка спачатку на адрас адпраўшчыка глядзець, адкуль ліст прыляцеў. Маме часта лісты прыходзілі — яна была народнй засядацелькай у гарадскім судзе, — а тут прачытаў незвычайнае, раней нязнанае: Прыморскі край, востраў Пуцяцін, паштовая скрынка 267/2. Смолічу А. Л.

І тут мяне як варам абдало. Гэта ж ліст ад цябе! Ты маме пісьмо даслаў! Так, ёй! Вось жа і пазначана: Смоліч Марылі Данілаўне!..

Мама была ў садзе, сеяла моркву, і я паімчаў да яе, ляцеў па сцежцы і клікаў, і паўтараў адно і тое ж: «Мама! Мама! Глядзі, мама! Ад таткі ліст! Бацька жывы! Глядзі! Табе ён пісьмо прыслаў!»

Матчыны рукі, чорныя ад зямлі, уздрыгвалі, калі яна ўзяла пісьмо. Яна паднесла яго пад самыя вочы і тут жа аддала мне і, сеўшы на вядро, абернутае на краёчку сцежкі, папрасіла:

— Чытай, сынок, — голас яе быў глухі і дрыготкі. — Нейкая мільгаўка ўваччу. Літары не бачу...

Я разадраў канверт. Ты ж памятаеш той ліст? Ён быў кароценькі, на адну старонку з вучнёўскага сшытка. У сорак першым быў паранены на правым беразе Нёмана, непадалёк ад Гродна. Трапіў у палон, і за гэта быў асуджаны на пяць гадоў, а зараз у лагеры на востраве Пуцяцін. І заканчваўся ліст словамі, якія я памятаю і зараз: «Калі атрымаю ад вас вестку, напішу аб усім падрабязна. Вы жывыя, мне гэта сэрца гаворыць. І ведайце: мая віна толькі ў адным — не збярог і не паспеў спаліць фінансавыя дакументы штаба, і не застрэліўся, бо барабан майго нагана быў пусты — усе кулі я паслаў па ворагу...»

Мама выдрала канверт з маіх рук, пахіснулася, вядро абярнулася, але яна не павалілася на зямлю — я падхапіў яе. Потым яна прыціснула ліст да твару, ціха галасіла, паўтараючы адно і тое ж: «Ён жывы, ён жывы, ён жывы...» Адале села на бярэмца леташняга лісця на сцежцы, паклала пісьмо сабе на калені і чытала моўчкі, час ад часу праводзіла па твары левай рукой, і  чорныя ад зямлі пальцы рабіліся яшчэ чарнейшыя; чорныя пісягі былі на канверце, і яны ўздрыгвалі — на іх падалі чорныя маміны слёзы.

На старых шпакоўнях, якія мы змайстравалі з табой і павесілі на клёнах за малінікам перад ад'ездам у Гродна, спявалі шпакі. Я глядзеў на іх і сэрца кроіў дзікі боль. О, каб мне крылы! Я б паляцеў на той невядомы мне востраў Пуцяцін!.. Змружыў на міг вочы, і мне падалося, што і сапраўды імчу да цябе, жывога, каб прытуліцца да тваіх грудзей і паплакаць разам, падзяліць з табою боль, роспач і тугу...

Але гэта быў падман, я анікуды не пабег, не паляцеў, не паімчаў. Я застаўся ў горадзе, хадзіў на працу, дапамагаў маці садзіць бульбу, даглядаў старыя яблыні, што пасадзіў ты, калі я быў зусім малы, і з нецярпеннем чакаў паштарку штодня, чакаў адказу на наш ліст, які мы даслалі табе ў той жа дзень.

Чакаў... Вось яна, мая першая і непапраўная памылка.

На стале ў маленькім пакоі — памятаеш, як улетку, калі я перайшоў у пяты клас, ты даручыў мне фарбаваць у ім падлогу і я абярнуў бляшанку з густой вохрай і пляснуўся ў тую мяккую лужыну? — цяпер штодня ляжаў вялізны Атлас свету. На трыццатай старонцы, уверсе над каляровай картай, кароткі надпіс: «РСФСР. Дальний Восток». Я разгарнуў тоўсты — у тры пальцы! — і доўгі фаліянт адразу ж, як толькі мы з мамай перачыталі твой ліст. Дзе ж ён, гэты кляты востраў? Сахалін, Уладзівасток, Находка... І вось дробненькімі літарамі пазначана назва вострава — малюпасенькая кропачка паблізу нашага берага ў Японскім моры... У памяці ажыло знаёмае яшчэ з другога класа: наша краіна цягнецца з Захаду на Усход амаль на дзесяць тысяч кіламетраў!.. І ведаеш, што адразу згадалася? Лыжны пераход з Полацка ў Кутняны, у тваю родну вёску, што на правым беразе Ушачы. З вайсковай часці — вайсковы гарадок месціўся тады ў Экімані, у лесе па левы бераг Дзвіны, — ты прыцягнуў старыя салдацкія лыжы: на тых, што дасталіся Генку, стаяла лічба «4», а на маіх — «2». Але колер іх быў аднолькавы — зеленаваты, і аднолькава былі пазбіваны з абодвух бакоў рабрыны і канцы. Як я цяпер разумею, лыжы былі спісаныя на дровы. Але нам яны здаліся багаццем казачным. І казачным быў твой давер — самастойны лыжны прабег на дзесяць кіламетраў! І зусім не было крыўдна, што ты прызначыў за камандзіра Генку: нічога не папішаш, ён на два гады за мяне старэйшы і ўжо ў шостым класе. Мы толькі аднойчы спыніліся ў полацкім бары, падмацаваліся хлебам з салам, апаражнілі салдацкую біклагу гарачага духмянага чаю, надзіва салодкага — мама ад душы сыпанула ў біклагу цукру.

Цётка Марфа сустрэла нас па-царску. Мы ўжо ў сенцах адчулі дзівосны водар свежага жытняга хлеба з кменам, смажанай цыбулі і сялянскай кілбасы. А ў хату ўвайшлі — галава закружылася. Колькі гадоў мінула, але і дагэтуль у памяці шырокая і вялізная, з тоўстымі вензлястымі ручкамі з бакоў і медзяным паскам ля донца, з высокімі беражкамі патэльня — ледзь месцілася на прыпечку. У печы дагаралі дровы, агняныя водсветы скакалі на блішчастым кілбасным вянку, пасярэдзіне якога горбіліся, ільсніліся дранікі.

Увечары ў Казюкі прыкаціла кінаперасоўка, і ўсе кутнянцы сыпанулі праз дарогу — у хату-чытальню. Мы з Генкам пабеглі, нацягнуўшы на рукі чорныя скураныя танкісцкія пальчаткі, — выхваляліся перад вясковымі жэўжыкамі. Але яны, чэрці, наладзілі нам сапраўдны экзамен. Пакруціўшы спачатку ручку невялікай дынамамашыны, што стаяла ў кутку, яны забаставалі: няхай, маўляў, і гарадскія папрацуюць. Круціцца дынама — скачуць на белай прасціне кадры, а як толькі адпусціў ручку, глохне гук і атухае, як бы дагарае, экран. Прасіць падмену — паказаць, што слабакі прыехалі ў Кутняны? Э-э, не! Падмяняючы адзін аднаго, абліваючыся потам, мы вырашылі круціць ручку дынамамашыны да апошняга ўздыху. Відаць, зваліліся б ад перанапругі, каб не кінамеханік. Стаўляючы новы дыск кінастужкі, ён уголас, добра разумеючы хітрыкі вясковых жэўжыкаў, сказаў адабральна:

— А нічога, гарадскія, можаце! Цяпер вы, казюкоўцы-дынамшчыкі, пакажыце, чаго вартыя!

Пасля кіно мы вярталіся ў Кутняны, не надзеўшы пальчатак, — было нават рукам горача, і далоні гарэлі, што на агні падпечаныя. А на душы былі лагода і радасць: мы з Генкам адчувалі сябе пераможцамі. І да гэтай

радасці дадалася хваля новага ўзрушэння, калі мы адчынілі дзверы хаты. Тое, пра што мы марылі дарогаю, — э-э, каб на нас татка зараз паглядзеў, на малайцоў сваіх, што давер ягоны апраўдалі! — здзейснілася. За сталом у хаце сядзеў ты, насупраць — дзядзька Павал, і ён вітаў нас, сашчапіўшы над галавой у замок рукі:

— Слава мужным удзельнікам лыжнага пераходу ад берагоў Дзвіны да берагоў Ушачы. Вітаем вас на Кутнянскай зямлі, зямлі нашых бацькоў і дзядоў!..

Радасна смяялася цётка Марфа, нешта казаў яшчэ дзядзька Павал. Але яны былі як бы воддаль, а мы бачылі толькі цябе, і гэтак дружна, імпэтна шухнулі табе на плечы, што ты ледзьве ўстояў на нагах, плюхнуўся на лаву, і нешта ў яе шырокіх ножках трэснула, і загула сцяна, а цётка Марфа весела прасіла-маліла:

— Толькі хату мне не абярніце, лыжнічкі вы мае міленькія!..

А потым мы стаялі каля заінелай ліпы ў садзе, і белае голле паціху гайдалася ад ветру, па ім скакалі вялізныя белыя зоркі, і гурбы снегу пад яблынямі трымцелі ад звонкага татакання вагонных колаў — цягнік імчаў праз мост на Ушачы...

Згадаўшы гэта, я з новай трывогай углядаўся ў маленечкую кропку вострава, назву якога адкрыў для мяне твой ліст. Пагладжваў і назву яго, і чыстую попельную разлогу вакол маленечкай кропачкі, і сэрца сціскалася ад нечаканага і жахлівага адкрыцця: каб сустрэцца з табою, мне давядзецца адолець тысячу кавалачкаў дарогі, што прабеглі мы тады з Генкам на лыжах. Пасунуў Атлас бліжэй да сябе, і далоні адчулі нейкі дзіўны холад калянай і бруднай вокладкі. Мы з Генкам шаравалі яе ў той дзень, калі прыцягнулі са звалкі на беразе Палаты, па правы бок ад Чырвонага маста — нейкая сотня крокаў ад нашых клёнаў. І шаравалі яшчэ двойчы — усё без вынікаў: рудыя глiністыя пісягі заставаліся на пакарабачанай вокладцы, і штораз, калі разгорнеш Атлас, тхала ў нос дзіўным пахам палыну і цвілі — непаўторны смурод звалкі, дзе дагнівае папера.

Мы апаролі гэтую звалку ўлетку сорак першага, калі вярнуліся з бежанства. Памятаеш, што ты сказаў нам на досвітку ў нядзелю, калі фашысты бамбілі гродненскія масты на Нёмане і траскотна білі нашы зенiткі? «Гэта вайна!» У пакоі быў шэры паўзмрок, ляпалі на калідоры дзверы суседзяў, таксама вайскоўцаў са штаба, дзе ты служыў, яны клікалі цябе, і ты, таропка зашпільваючы рэмень на гімнасцёрцы, на якім жаўцела кабура нагана, загадаў: «Чакайце! За вамі прыедуць!»

Гэта былі апошнія словы, якія пачуў ад цябе.

Праз нейкі час, калі аціхлі выбухі і стрэлы зенітак, мы з Генкам, паабяцаўшы маме, што «нікуды далёка, толькі зірнем, што там і як», пабеглі да Нёмана. Мост быў цалюткі, але наўкола ўсё было пераарана бомбамі. З варонак ішоў саладжавы незнаёмы пах, яны шчэ курыліся дымам і параю, і з зямлі тырчэлі асколкі — прыгожыя рабрыстыя зазубрыны свіціліся загадкавым фіялетавым колерам. Мама насварылася, калі знайшла іх у маіх кішэнях, загадала павыкідаць.

Блізка пад полудзень падкаціла палутарка — нас адвезлі на вакзал. Мама з Генкам праціснуліся ў тамбур — іх бралі штурмам ашалелыя ад жаху людзі, а мяне, Валю і Віктара шафёр увапхнуў у вагон праз акно. Эшалон — яго двойчы бамбілі — шчасліва дайшоў да Полацка. Праз чатыры дні — новы эшалон. Пасадка ішла па спісах ваенкамата: толькі жонкі і дзеці вайскоўца. Нашай бабулі ў тым спісе не было, і без яе мама ехаць адмовілася.

Мы ўцякалі з горада пешкі — дарогаю на Ленінград, да дзядзькі Паўла, перакананыя, што фашысты туды аніяк не дойдуць. Але яны каціл на машынах, і непадалёк ад Невеля, у вёсцы Краснаполле мы іх пабачылі: вясёлых, загарэлых, з закасанымі рукавамі, сп'янелых ад лёгкіх перамог.

Мы вярнуліся на наш трэці Стралецкі завулак. Хата ацалела, але была абрабавана ўшчэнт. Радасць чакала нас з Генкам на беразе Палаты — аграмадная звалка кніг. Пабеглі на рэчку з вудамі, а вярнуліся без рыбы, згінаючыся пад цяжарам кніг, — гітлераўцы вывернулі на бераг рэчкі ўсю бібліятэку новага Дома афіцэраў, вызваляючы месца пад свой шпіталь.

За тыдзень мы перацягалі дамоў процьму самых розных кніг. Самай вялікай з іх быў Атлас свету. Але ён ляжаў нечапаны да таго дня, пакуль мне не давялося шукаць маленькі востраў з назвай загадкавай і незразумелай.

Аднойчы, калі мы разглядалі з мамай карту Далёкага Усходу, у пакой прыбегла Валя. Зыркнула на карту, потым на нас, спытала з незразумелай для мяне насцярогаю:

— А што вы над гэтым Атласам варажыць пачалі? Ці не ехаць куды сабраліся?

Мама разгубілася. А я здолеў пажартаваць: надакучыла, маўляў, па раёнах вобласці гойсаць. Хачу папрасіць у рэдакцыі камандзіроўку на самы край зямлі, на бераг Японскага мора...

— Камандзіроўку туды табе ніхто не дасць. А мяне, калі Ленінградскі універсітэт скончу, могуць туды лё-ёгенька запраторыць. Ну, скажам... — нахілілася над картай, торкнула ў яе ўказальным пальцам. — Сюды вось. Находка. Прыгожая назва. Бераг мора. Вялікія караблі...

Валін палец закрыў і назву гэтага горада, і маленечкую кропку — востраў Пуцяцін, — ды неяк ласкава пагладжваў паперу карты, і я, сумеўшыся, закрыў Атлас і зноў адкрыў яго наўгад, сказаў весела, хаваючы сваю разгубленасць:

— Калі пашлюць куды далёка, дык гэта сюды. Бачыш, якая карта табе выпала? Заходняя Сібір. І што ў цэнтры? Новасібірск!..

Ці мог я тады падумаць, што прароцкай была мая жартоўная варажба?.. Затое ў той час, калі мы жартавалі, і цазней, калі сядзеў у пакоі адзін, зноў разгарнуўшы Атлас на той старонцы, дзе была карта Прыморскага краю, я падумаў пра тое, што ёсць у чалавечым сэрцы нешта нікім неспазнанае. Якая сіла павяла Валіну руку туды, у бок вострава Пуцяцін, а не ў бок Сахаліна, які быў на карце бліжэй і выглядаў вельмі ж прывабна? Ці, можа, здагадвалася, што мы нешта ўтойваем ад яе? Альбо дазналася ад каго-небудзь пра твой ліст? Аб ім, акрамя нас, ведалі дзядзька Васіль, цётка Ніна і бабуля, мы іх папярэдзілі, каб трымалі ўсё ў сакрэце, пакуль не атрымаем ад цябе новае пісьмо з усімі падрабязнасцямі твайго палону і прыгавору. Дзядзька Васіль наша рашэнне не казаць праўды Валі і Віктару ўхваліў: не трэба, маўляў, ім тое ведаць пакуль што, каб не ўскладняць школьнае жыццё і адносіны з сябрамі.

Утойваў праўду і я ад сваіх сяброў у рэдакцыі. Вырашыў, што адкрыюся толькі Бельскаму і толькі тады, калі атрымаю ад цябе другі ліст. Адзіны чужы чалавек, каму мы адкрыліся, быў капітан Лівін з ваенкамата, які дапамагаў афармляць маме пенсію на Валю і Віктара. Мы з мамай не вагаліся: ты жывы, трэба ісці ў ваенкамат, усё расказаць, няхай спыняюць выплату пенсіі. Мама вярнулася адтуль разгубленая: сівы капітан яе аблаяў. На якой падставе, маўляў, спыніць пенсію? У вас ёсць афіцыйны даку-

мент, што муж жывы?.. І ў мяне таксама такой паперы няма. А ёсць дакумент, на падставе якога вам і налічваецца пенсія як жонцы афіцэра, пенсія на дзяцей непаўналетніх. Ідзіце і гадуйце іх. І не цягніце мяне пад абух!..

— Пад які гэта абух я магу яго зацягнуць, сынок? — спытала мама. — Нешта не магу сцяміць. Нейкі страх у вачах чалавека я ўбачыла...

Вусцішна стала мне ад маміных слоў. Акамянелы ў душы страх душыў штодня, але ён сядзеў ува мне, і, здавалася, што аб ім не ведае аніхто. Цяпер я зразумеў, што памыляўся: — той страх, напэўна, у маіх вачах бачылі тыя, ад каго я ўтойваў яго. Страх падману, няпраўды, па якіх я жыў, па якіх прымусіў жыць сястру і брата. Ім, вядома, было лягчэй, бо яны не ведалі, што ты жывы, яны былі «в неведеньи счастливом».

Але недзе глыбока ў душы жыло адчуванне, што раблю правільна, што не маю права нявечыць горкай праўдай слабенькія душы, кідаць іх у вір злабы і нянавісці. Я ўсе надзеі ўскладаў на той другі ліст, верыў, што ён, гэты ліст, павінен нешта змяніць, адкрыць перад усімі намі новы далягляд.

І вось гэты ліст мы атрымалі. Паштарку цяпер чакалі, як пасланца Госпада Бога, і па яе хадзе я ўжо навучыўся разумець, з весткай да нас яна ідзе ці без яе, і кожны дзень умудраўся збегчы з працы на якую часіну і пасядзець разам з маці на ганку ў чаканні горкім, трывожным і радасным. Я не ведаў тады пра нормы лагернай перапіскі.

Мы атрымалі доўгачаканы ліст толькі ўлетку, калі на бярэзіне, што пасадзіў ты ў той год, калі нарадзіўся мой старэйшы брат, лямантавалі ў старой шпакоўні са спічастым дахам маладыя шпакі — старыя падляталі з харчам.

Паштарка прынесла ліст у аўторак. Яна толькі павярнула ў наш завулак, і ў мяне ад яе хады грукатліва забухала сэрца. Звычайна паштарка, угледзеўшы мяне ці маму, ішла ціха, нага за нагу, як гаворыцца, нібыта адцягвала сустрэчу з намі, чорная сумка на шырокім сінім рэмені боўталася за плячыма, і яна падтрымлівала яе заўсёды правай рукой. Цяпер жа яна пыліла подбегам, правая рука была ў сумцы — вісела на грудзях, — і паштарка прытрымлівала яе левай рукой.

— Сынок, вестка добрая да нас ляціць — мне сон на тое быў, ды я табе казаць не адважвалася, — мама ўзнялася з лавачкі і паклала руку на маё плячо, нібыта загадвала сядзець на месцы. — І паштарка — бачыш? — радасна крочыць, не гэтак, як заўжды...

Мама, выяўляецца, не горш за мяне вывучыла хаду паштаркі. Звычайна і пастаіць ля нашага ганка, і пагамоніць, і нешта папытае, а тут толькі два словы сказала — «письмо вам» — і, аддаўшы канверт, скоранька пашыбавала далей.

Адрас на канверце быў напісаны тваёй, татка мілы, рукой!

Мы чыталі пісьмо ў садзе, каля бела-ружовай ігрушы — цвіла дружна і густа, як ніколі раней. Яблыні толькі-толькі браліся на цвет, а груша накінула на сябе дзівосны вэлюм — клёны захінулі яе ад паўночнага ветру. Спачатку чытаў я, мама ж чытала моўчкі, і я не прасіў яе, каб чытала ўголас, — глядзеў на старыя шпакоўні на клёнах. Гуд пчол — несціханы і густы — час ад часу перапынялі рэзкія і патрабавальныя крыкі маладых шпакоў. Ладныя ўжо птушаняты, і на клёнах яны вылупіліся раней, чым у шпакоўні на бярозе, — чарвякоў літаральна выхоплівалі ў старых, глыналі прагна, давячыся і каўкаючы, і зноў шырока разяўлялі раты з жоўта-белай аблямоўкай каля дзюбак. Я глядзеў і на іх, і на старых шпакоў, якія ўвішна бегалі па градах, па зямлі ў малінніку, і адчуваў, як у душы маёй усё

імкліва іначыцца. Сплываў страх, ясніўся абсяг заўтрашняга дня, куды апошнім часам мне боязна было зазірнуць. Я зноў быў тым адчайным і рызыкоўным партызанскім падрыўніком, да якога ўдвая старэйшы камандзір атрада ставіўся з павагай. Што трэба рабіць без вагання, не адкладаючы ні на адзін дзень? Змагацца разам з табой, адстойваць праўду і выбавіць цябе з бяды.

«Сталіну напішу. Правадыру нашаму напішу пісьмо!»

Я вырашыў гэта цвёрда, і там, пад клёнамі, пад басавіты гуд пчол і патрабавальны лямант маладых шпакоў ведаў не толькі што неадкладна зраблю гэта, але і тое, з якіх слоў складзецца мой ліст. Праўда, у той міг я яшчэ не ведаў, што да пісьма Сталіну прыкладу і горкую тваю споведзь — неабвержны доказ таго, што ты і на шэлег не вінаваты.

Мама, аднак, засумнявалася: можа, сынок, пароць гарачку не варта, пачакаць, мабыць, лепей, пісьма ад таткі дачакацца наступнага... Каб жа горай не было з нашае скаргі...

Чакаць? Рабіць яшчэ адну непапраўную памылку? Не, толькі не гэта! І не пра скаргу тут гаворка! Праўду хачу абараніць!..

Адаслаўшы ліст Сталіну, я на згоне другога дня адчуў раптам неўсвядомленую і незразумелую трывогу. Міналі дні, а яна не знікала. Нават уночы, здаралася, я прахопліваўся і доўга ляжаў без сну, убіўшы вочы ў столь, мучыў сябе развагаю і пытаннямі. Ці доказны ліст паслаў? Дык жа там, на паперы, і слёзы, і боль, і пакуты, і надзеі ўсіх нас! Дык жа там, у канверце, твой ліст, дзе кожнае слова-доказ, сведчанне таго, што не вінаваты ты, што не здрадзіў Бацькаўшчыне: сам кроў за волю яе праліваў і тое ж і дзеці твае рабілі, і ўсе мы табе, дарагі Правадыр, адданы бясконца...

Аднойчы я прачнуўся на досвітку — за вокнамі шугала залева. Ліло, як з вядра, мокрая лістота бэзу то мякка, то рыпліва шлэпала па шыбах, і я згадаў, што мяне абудзіла. Памятаеш, як мы пасварыліся з Генкам у лазні напярэдадні Новага года?.. Ты перадаў яму венічак, папрасіў папарыць мяне, а сам пайшоў набраць з крана вады халаднейшай. Генка пашараваў мне ёмка плечы, а потым, калі я павярнуўся і ляжаў на спіне, ён па грудзях маіх венічкам лагодна гэтак паляпаў, а потым — плёх-плясь, плясь-плёх па твары. Ды з вышыні, і венік з таго гарачы, што з агню! Бляшаны тазік — я ім тады Генку ўлупіў, месца не выбіраючы, — пакаціўся, заскакаў з палка па прыступках. І табе — па назе!.. Ты не сварыўся ў парыльні — на палку, акрамя нас там пяцёра мужчын было, — не сварыўся і дома, толькі расказваў маці пра вэрхал у лазні з гэткай горыччу, што мне хацелася плакаць. Не лепей адчуваў сябе, помніцца, і Генка...

Дык вось, той вэрхал у лазні мне і сасніўся. Я ляжаў на ложку, слухаў, як мокрае голле бэзу шлэпае па адчыненай фортцы, і шчокі мае гарэлі, нібыта іх толькі што адхвасталі гарачым венікам. Жахлівая думка цюкнула ў галаў: нешта важнае я ўпусціў, пісаў не вельмі пераканаўча Сталіну, таму і няма гэтак доўга адказу. А следам новая трывога падкаціла да сэрца. Бельскі, мой непасрэдны начальнік у рэдакцыі, якому я шмат чым у жыцці абавязаны і які па-сяброўску неаднойчы ратаваў мяне і ўбярог ад бяды вялікай, — я табе пра гэта шчэ напішу! — па дзіўнай выпадковасці прачытаў мой ліст да правадыра. Гэтаму чалавеку я давяраў, як самому сабе. А што, як памыліўся я? А што, калі ён нейкія захады зрабіў? Ён жа не ўхваліў мой намер, не раіў пасылаць пісьмо Сталіну. Добра, што я не паслухаў яго.

Я ўзняўся, прачытаў чарнавік свайго пісьма Правадыру, паклаў яго на

ранейшае месца — хаваў гэтыя дзве няпоўныя старонкі ў лоўка падрэзанай і падклеенай вокладцы Атласа — і зноў зашыўся пад коўдру. Дождж аціх, я слухаў мяккае шапаценне мокрага бэзу і быў перакананы, што пісьмо складзена добра, доказна. А вось Бельскі... Каб у часе таго начнога майго дзяжурства адчайна не закрычала на вуліцы дзяўчына, каб не выскачыў я з рэдакцыйнага пакоя на дапамогу, каб не пакінуў ліст на стале, каб не ўвайшоў у кабінет Бельскі... Выпадковасць, што ён зайшоў у пакой, калі мяне там не было?.. А што як не выпадковасць — я табе абавязкова напішу пра загадкавую, але вызначальную ролю выпадковасцей у маім жыцці, выпадковасцей, што крута іначылі мае жыццёвыя дарогі, — а што, як зайшоў тады Бельскі ў кабінет з нейкім пэўным разлікам?..

Ранкам — пасля камандзіроўкі ў мяне быў вольны дзень — было сорамна за начныя думкі і падазронасць.

Ранкам паштарка прынесла ліст на маё імя з Масквы.

Да Сталіна маё пісьмо не дайшло — я гэта зразумеў адразу ж, як толькі распакаваў вельмі лёгенькі і тонкі канверт. Нейкі следчы з Упраўлення па справах рэабілітацыі паведамляў, што «...для пересмотра дела вашего отца нужных оснований не найдено». У маёй галаве пульсавалі дзіўныя бомы, калола ў грудзях і я доўга і тупа глядзеў на гэтыя радкі, а ўся існасць як бы скамянела. Потым крыху праяснілася ў галаве. Як жа гэта сталася? Я ж самому Сталіну пісаў! Мабыць, па нейкіх прычынах пісьмо маё да яго не трапіла!

На другі дзень я сказаў маме, што буду зноў пісаць пісьмо Правадыру. Яна ўстрывожылася, прасіла не рабіць гэтага, што добрага не будзе нічога, што, можа, татку сваім ліставаннем шкоды наробім. Маміна трывога надала мне рашучасці. Сядзець склаўшы рукі? Толькі не гэта! Нейкі чыноўнік не знайшоў «нужных оснований»? Дык няхай шукае, няхай папрацуе больш старанна — яму за гэта грошы плацяць! Хай, зрэшты, уважліва прачытае бацькаву споведзь!

Я перапісаў той, першы ліст, і да новага дадаў скаргу на чэрствасць чыноўніка, чыё прозвішча стаяла пад сухой канцылярскай адпіскай, на ягоную нядбайнасць і бяздушнасць.

Справіўся позна ўвечары, калі ацямнела ўжо, і тут жа пабег на пошту. Вякнула вечка паштовай скрынкі, і ў сярэдзіне яе нешта зашорхала, нібыта мыш прабегла пад старымі шпалерамі, і я, пагладзіўшы халодную сінюю бакавіну скрынкі, ціха прамовіў запавет свайго партызанскага камісара, адрасаваўшы яго табе: «Нічога, бацька, прарвем аблогу. Як не перапаўзем, дык пераскочым».

А на душы было пагана і тужліва. Але ранкам настрой палепшыўся, — атрымалі ад цябе пісьмо. Ты пісаў, што прыслаў табе пасылку і грошы дзядзька Павал і цётка Фаіна з Ленінграда, што ў цябе ўсё ёсць, нават залішне, і каб мы не турбаваліся, нічога не пасылалі, пакуль не дасі нам знак. Пахваліўся добрай навіною — за стараннасць і кемлівасць прызначылі цябе брыгадзірам грузчыкаў, а ў брыгадзе народ працавіты, штодня кожны выконвае па дзве нормы амаль, і за гэта атрымаў дазвол пасылаць сваякам не адно, а два лісты ў месяц. Так што чакайце: неўзабаве прыляціць новае пісьмо. Таму не спяшайцеся, адказ пашлеце, калі яго атрымаеце. І не прысылайце газет!!

І гэта мяне дужа ўстрывожыла. Раней ты прасіў пісаць часцей, а тут раптам папярэджанне: не спяшайцеся. Чаму? Навошта? І чаму пасля слова «газет» ты паставіў два клічнікі? Нейкі, мабыць, знак у гэтым ёсць. Але ж які? Які?!

Адказаў на гэтае пытанне ў мяне не было. Карцела пагутарыць шчыра з Бельскім, параіцца. Але ў адносінах з ім адчуў я халаднаватасць і вырашыў рабіць тое, што ты нам параіў, — чакаць твайго адказу на нашы апошнія лісты. Мой ліст і мамін.

І мы дачакаліся. Але пісьмо было не з вострава Пуцяцін, не ад цябе. З Масквы! На здзіўленне хутка атрымаў я адказ на свой другі ліст Сталіну. Канверт быў цяпер зусім іншы, незвычайнага фармату, карычневага колеру, з доўгім сінім штэмпелем-пячаткаю на левым куточку. Быў той штэмпель цьмяны, як падмыты вадой, і я здолеў прачытаць толькі адзін верхні радок на ім: «Управление делами…»

У нядобрым прадчуванні ёкнула маё сэрца. Няўжо не дайшло пісьмо да Сталіна? Няўжо зноў той гад-чыноўнік затрымаў, не паказаў Сталіну мой ліст? Няўжо зноў бяздушны, мёртвы адказ?..

Я памыліўся толькі ў адным: чыноўнік другі падпісаў адказ. Але выснова была тая ж, мне ўжо вядомая — слова ў слова. Не, адно слова было новае: «...к сожалению…» Не ўзятае ў коскі, гэтае слова надавала радку здзеклівае адценне, сэнс бяздумнай паспешлівасці, пагардлівасці і абыякавасці.

Добра, што мамы не было дома, — засядала ў судзе, куды збіралася ў гэты раз з вялікай неахвотаю, — і пісьмо ад яе схаваў. Вырашыў не паказваць адказ з Масквы, нічога ёй не гаварыць, а новы ліст паслаць Сталіну.

Пісьмо тое я напісаў у той жа дзень, напісаў на рэдакцыйным бланку, запакаваў яго ў новы рэдакцыйны канверт — вялікую партыю прыгожых канвертаў толькі-толькі зрабілі ў друкарні. І адрас, і сам ліст я выдрукаваў на машынцы. У дачыненні да цябе, дарагі татка, я нічога не мяняў — ані слоўца, усё было так, як і ў ранейшых лістах. Затое бяздушным чыноўнікам дасталося. Я цяпер не прасіў, я патрабаваў сурова пакараць тых, хто хавае ад нашага дарагога Правадыра праўду, хто безадказна ставіцца да людскога гора, да людское бяды.

Друкаваць на машынцы мне ніхто не замінаў — была ноч, усе кабінеты пустыя. Ліст перачытаў двойчы і застаўся задаволены і тэкстам, і тым, што машынапісная старонка, складзеная ўдзвейгу, добра месціцца ў канверт.

І зноў — выпадковасць. Пазваніў мой партызанскі сябар Сяргей і сказаў, што едзе ў Маскву атрымліваць нейкае новае абсталяванне тэлеграфнае. І я дзякаваў небу за гэты званок: Сяргей завязе мой ліст у сталіцу і там апусціць яго ў скрыню на галоўным паштамце.

Сяргей зрабіў тое, пра што я папрасіў. Ён вярнуўся з Масквы ў наступны чацвер, якраз праз тыдзень. А ў пятніцу мы атрымалі ад цябе ліст. Вельмі кароткі, мне падалося, што ты пісаў яго, некуды спяшаючыся. Паведамляў, што на новым месцы працуеш — брыгада разгружае вялізныя лайбы, на якіх прывозяць у порт дошкі, доўгія брусы з лістоўніцы і іншыя будаўнічыя матэрыялы. Брусы з лістоўніцы ты апісваў падрабязна: які іх колер, як паблісквае смала на тарцах, які водар струменяць, толькі хрушчы на іх не садзяцца. А на той лістоўніцы, што за нашым садам, ля дарогі да маста на Палаце, хрушчоў было шмат, на іх вы з Генкам лавілі галаўнёў. Ці ацалела ў вайну лістоўніца?..

Я напісаў табе пра тую лістоўніцу. Хадзіў каля яе, спрабуючы даўмецца, чаго яна гэтак завабіла цябе? Разумеў, што ёсць тут нейкі знак мне. Але які? Варажыў над гэтай загадкаю штовечар, углядаючыся ў фотакартку, якую ты прыслаў. Яна была зроблена за нейкія паўгода да вайны, на адва-

ротным баку яе ў сорак трэцім, ужо ў палоне, ты зрабіў надпіс — прасіў тых, хто застанецца жывы, даслаць на наш адрас. Цяпер яна ляжала на маім стале, у роднай тваёй хаце, і я разумеў, што гэта таксама нейкі знак, сутнасць якога спасцігнуць мне аніяк не ўдавалася. Я яшчэ не разумеў, што пісьмо, у якім дайшла да нас твая фотакартка, гэта апошні ліст ад цябе.

З кожным тыднем раслі ўва мне трывога і прадчуванне бяды. Мама ўчарнела — яе палохалі пачварныя сны. Але што трызнілася ёй у снах — казала вельмі скупа альбо не казала зусім. Ад цябе — аніякіх вестак. З Масквы таксама не было адказу.

У снежні мама атрымала ліст з вострава Пуцяцін. У аўторак. А я вярнуўся з камандзіроўкі ў пятніцу — вярнуўся сярод ночы цягніком з Шайтарава, прыгожай вёскі на правым беразе Дзвіны каля Дрысы, — і калі мама дала той ліст, калі я ўбачыў не твой пачырк на канверце... Не, спачатку ўбачыў маміны вочы — атухлыя, як попелам пасыпаныя зрэнкі ў чорных і глыбокіх правалах вачніц, — і зразумеў, што ў канверце стаілася бяда. Пісьмо было адрасавана мне, і я пракляў той дзень, калі паехаў у камандзіроўку, бо мне трэба было прачытаць той жахлівы ліст першым. Мама аніколі не чытала лісты, што былі адрасаваны мне. Але на канверце адрас адпраўшчыка быў пазначаны чотка: «Прыморскі край, востраў Пуцяцін...»

У хаце было ціха, Валя і Віктар спалі, не было святла і ў вялікім — ад вуліцы — пакоі, дзе яшчэ жылі кватаранты. Мне і зараз цяжка браць у рукі той ліст і чытаць радкі, што і дагэтуль апякаюць сэрца. Але я зараз яго табе прачытаю, прачытаю, прачытаю...

А ў тую ноч мама прыпала да маіх грудзей, сціснула маю руку з канвертам, як бы збіраючыся скрышыць, раструшчыць яго, сказала пошапкам, голасам сіпатым і тужлівым:

— Яны забілі яго, сынок... Тваё ліставанне іх напалохала... Сябе ратуючы, яны татку пад абух і кінулі... Я ж казала табе, прасіла. Навошта табе тыя лісты былі? Навошта?!

Лёс маіх лістоў да Сталіна мне адкрыўся праз шэсць гадоў пасля тае ночы. Выпадкова.

Праўда маміных слоў адкрылася мне таксама выпадкова. Але праз трыццаць пяць гадоў.

Цяпер — той жахлівы ліст. Нейкі Філяеў яго пісаў...

*13.XII.47 года Гайдамак*

***Здравствуйте Андрей Он.***

*Полагая, что Вы и есть старший сын О. Я., я пишу эти строки к Вам. Сегодня получена корреспонденция и 3 письма в адрес О. Я. Все письма розданы. Эти три оставлены. Вечером того же дня обращаюсь к вам, именно, как к старшему, мужественному, способному вынести всякие удары. Надеюсь вы таков. Ну крепитесь, эти слова у меня поперек горла стоят. Вы лишились отца.*

*Пишет Вам его товарищ по работе. Официально сообщат позже, через суд. Некоторые подробности:*

*В ночь с 10 на 11 декабря, будучи бригадиром, он повел бригаду на выгрузку леса с парохода; в 23.00 привезли ужин. Он стоял у самого борта,*

*наклонившисць вниз к стоящей барже, командовал подноской. В это время прогревавший лебедку матрос включил движение и большой крюк-гак весом в пуд, качнувшись, ударил Он. Яковлевича в спину. Как был нагнувшись, так и упал вниз с высоты 5—6 метров прямо на баржу. Падая ударился виском о угол борта баржи и не вскрикнув оказался через 2—3 минуты мертв.*

*Утром он был доставлен в лагерь, а на следующий день схоронен, как положено по христиански, правда, вместо крестика стоит на его могиле столбик с дощечкой, написанной простой краской «Смолич О. Я. 1898 г. р. Умер 11. XII. 47 г.*

*Нет слов тяжело нам, лично мне переносить его кончину. Ведь только вчера был со мной, такой бодрый, веселый, усатый и вдруг нет и навсегда нет. Начал он срок 9.6.45 и кончил бы 9.6.50 года. Да, что делать — не повезло. Бывает. Вы уж не убивайтесь так сильно. Не вернешь. Точный адрес погребения: Приморский край, Находкинский район б.к. «Гайдамак». После его осталось 100 рублей денег, ручка с пером. Вероятно это будет выслано. Мы все об этом сожалеем. Вот все, что мог написать про кончину вашего папы. А письмо я ваше прочитал. И получилось как у К. Симонова: «его за смертью адресата между собой мы слух прочли, уж извините нам солдатам».*

*Так и у меня. Извините. Ну как предупредить жену сами знаете.*
*С искренним уважением вашему семейству.*

***Воспитатель П. Филяев.***
***П.Х. Что будет интересовать, спросите Вл-к, 2 речка, п. я. 267/2***
***ФИЛЯЕВ***

У тую снежаньскую ноч, калі ў спіну грукнуў каляны метал, табе, татка родны, ішоў сорак дзевяты год.

Гэтулькі ж гадоў я захоўваю ліст Філяева і зараз не змяніў у ім нічога, нават коскі. Парудзела папера, нейкім празрыстым зрабіўся апошні радок і зваротны адрас, зроблены ў кутку аркуша звычайным графітным алоўкам. А кожнае слова пісьма не згубіла ранейшы колер, не выцвіла — нідзе болей не сустракаў я гэткага густога, ядуча-зялёнага чарніла.

А тады, уначы, чытаючы ліст, я не звярнуў аніякай увагі на колер чарніла. Радкі зыбаліся ў мяне перад вачыма, ад болю заходзілася сэрца, слёзы душылі, у галаве звінела, нібыта гакнулі па ёй цяжкой даўбешкай. Я не хацеў, каб маці бачыла мае слёзы і, схапіўшы вядро, пабег да калодзежа. Там, у садзе ля яблыні, голле якой абвісала над калодзежам, я плакаў доўга і горка. Потым пачуў рыпенне снегу — па сцежцы да калодзежа ішла мама.

— Вось калі спраўдзілася варажба, — сказала яна. — Спраўдзілася...

Не адразу дапяў, пра што яна гаворыць. А потым дайшло: мама згадала словы цыганкі, што некалі варажыла мне.

Невядомы мне Філяеў, мабыць, невыпадкова ўжыў слова «вероятно», калі паведамляў, што нам будзе даслана «ручка с пером». Ніхто і нічога нам не даслаў. Аніякі суд не даслаў нам аніякага афіцыйнага дакумента пра тое, што здарылася з табою. Нікуды не звярталася і нікога не прасіла мама. Не рабіў гэтага і я. Збіраўся, праўда, напісаць на той адрас, што даў Філяеў. Але сядзеў над чыстым аркушам паперы, словы глухлі ў душы, шчымілі сэрца горыч і крыўда. Каму пажаліцца? Каго вінаваціць? Што прасіць? У каго? Дзеля чаго?

Невядомы мне востраў Пуцяцін прыходзіць да мяне ў снах.

У вялікім пакоі, дзе тры акны — два на вуліцу і адно ў сад, — на сонечнай сцяне вісеў вялікі партрэт Сталіна. У сярэдзіне студзеня, калі я вярнуўся з камандзіроўкі з Браслава, мяне ўразіў цёмны квадрат на сцяне — там, дзе вісеў партрэт, шпалеры не выцвілі. Мама перахапіла мой здзіўлены позірк. Але яна нічога мне не патлумачыла. Нічога не папытаў і я: думкі, што віравалі ў маёй галаве, мяне самога палохалі. І да гэтага дня не ведаю, што з тым партрэтам зрабіла мама, куды яго запраторыла.

Брат і сястра знікнення партрэта не заўважылі. Мажліва, мне тое падалося — у іх быў свой клопат, і гора, што кроіла сэрцы нам з мамай, пакуль што абыходзіла іх бокам, і твая бяда не нявечыла маладыя іхнія душы.

Да скону дзён буду ўдзячны табе, родны татка, за тое, што ты даслаў, паспеў даслаць нам сваю фотакартку, зробленую шчэ ў даваенны час. Каб ты гэтага не зрабіў, яна б, напэўна, пайшла той жа дарогаю — калі не горшай! — што і твая «ручка с пером». Ты, перакананы, прадчуваў бяду, разумеў, што яна ў цябе за плячыма. Але ці так гэта было — мне ўжо не даznацца аніколі.

## 3

Па дарозе з Ленінграда — гасцявалі ў цёткі Фаіны, а потым у дзядзькі Павала ў Сабліна — ты нам з Генкам цвёрда паабяцаў:

— Наступным разам — Масква! Пры ўмове, вядома, што вучыцца будзеце добра. Па Краснай плошчы пройдземся, бомы курантаў паслухаем. У сталіцы нашай я і сам толькі аднойчы быў. У грамадзянскую, як на Перакоп ішлі, — цягнік прыпынілі тады ў Маскве на палову дня...

Пад татаканне колаў ты расказваў нам пра той легендарны паход чырвонаармейскай брыгады, якую склалі, у асноўным, маладыя рабочыя Пуцілаўскага завода, і пасяліў у нашых сэрцах прыгожую мару. Хто мог тады прадбачыць, што спраўдзіцца яна толькі праз чатырнаццаць гадоў? Але без цябе і Генкі.

Першая сустрэча з Масквой мяне ўсхвалявала, але не ўзрушыла. Наш эшалон — ехалі на фронт пасля лячэння ў шпіталі пад Арэнбургам у канцы лістапада сорак чацвёртага — спыніўся ў прыцемках і стаяў, абціснуты з абодвух бакоў белымі ад снегу пасажырскімі вагонамі. Немаладога веку салдат у акулярах з тоўстымі чорнымі дужкамі — яшчэ ў запасным палку мы прыляпілі яму мянушку «акадэмік» за ягоную звычку часцяком ужываць выраз «с научной точки зрения» — першым прасунуў галаву ў адсунутую дзверыну вагона і радасна абвясціў: «Это Москва, други вы мои! Меня жена встретить должна, ежели телеграмму получила. Хотя, с научной точки зрения...» Ён нахіліўся, паўглядаўся ў паўзмрок і раптам гукнуў асіплым голасам: «Ірь-ы-ына-а-а! Я тут! Ту-у-у-ут!»

«Акадэмік» саскочыў на снег, схапіў у абдоймы жанчыну, якая да яго падбегла. Яна была высокая, танклявая, у кароткім паліто з шырокім белым каўняром, у белай пышнай хустцы, канцы якой скрыжоўваліся на грудзях. Каўнер паліто і пышная хустка нагадвалі вянок, у якім свяціўся гожы жаночы твар, і гэты вянок быў падобны на дзівосную кветку, што раптоўна расцвіла сярод стоўчанага і чорнага ад вугальнага пылу снегу і пярэстых і маўклівых пасажырскіх вагонаў — вокны іх былі без шкла.

Гэты вобраз Масквы — гожы і радасны жаночы твар у шырокім белым вянку — доўга жыў у маім сэрцы.

Красную плошчу я ўпершыню ў сваім жыцці убачыў у той год, калі памёр Сталін. Ён сканаў у сакавіку, а я паехаў паступаць у Маскоўскі інстытут у жніўні. Паехаў, бо выпадкова сутыкнуўся з былым партызанскім камбрыгам — у той час ён яшчэ быў сакратаром абкома — і адкрыў яму сваю душу.

Зноў — выпадковасць. Шчаслівая! А каб не яна? Чалавеку, якога выключылі з партыі, — а менавіта гэтым скончыўся б разгляд маёй асабістай партыйнай справы, — стукацца ў дзверы вышэйшай навучальнай установы сталіцы? Безнадзейная турбота!

Але, мабыць, неба на тое і кідае на нашу дарогу яго вялікасць Выпадак, каб альбо ўратаваць чалавека, альбо спіхнуць у прорву.

Кобут выходзіў з машыны, калі я мінуў абкомаўскі ганак. Убачыў мяне, паўглядаўся, а потым зрабіў уладарны ўзмах рукой — клікаў да сябе.

Нейкія паўгадзіны перад гэтым у адным з аддзелаў гаркома мне абвясцілі проста і даходліва: аніякай гаворкі пра зняцце з партыйнага ўліку не можа быць, пакуль не разгледжана ваша асабістая партыйная справа. Тады ўжо, як будзе прынята пэўнае рашэнне, можаце ехаць, куды пажадаеце. Шчэ і падкрэслілі, аддаючы маю заяву з адмоўнай рэзалюцыяй: нядобра, маўляў, члену партыі ўцякаць ад адказнасці за свае ўчынкі.

Відаць, скруха на маім твары была дужа выразная, і гэткі ж, мабыць, быў адчай у вачах, і гэта Кобут прыкмеціў, папытаў прыязна і ветліва:

— Чаго гэткі сумны? Нібыта ў аблогу трапіў.

Горай, шчыра прызнаў я. У аблогу калі траплялі, дык ведалі, па кім страляць. Сказаў і тут жа мільганула думка: гэтая выпадковая стрэча можа павярнуць мой лёс. А што як папрасіць, каб выслухаў ён мяне? А што, калі расказаць яму аб сваіх нягодах шчыра, як на споведзі? Няўжо не знойдзецца ў яго адна гадзіна вольная? Мне болей і не трэба...

— Знойдзецца, — сказаў Кобут, ані не павагаўшыся, нібыта ведаў, пра што яго папросяць. — Толькі зараз і хвілінкі вольнай няма. А вось увечары, недзе там каля дзевяці, скажам. Альбо дакладна: дваццаць адна трыццаць. У прыёмнай будуць ведаць. Сакратарка даложыць.

Калі за Кобутам зачыніліся высокія і шырокія цёмна-карычневыя філянговыя дзверы, маё парыванне падалося бязглуздзіцаю. Добра, адкрыю я Кобуту сваю душу. Здолее ён мяне зразумець? Разбярэцца ў нашым з Лінай сямейным бязладдзі? Зменіць ход разгляду маёй асабістай справы, калі, як сказаў мой сябар з партбюро, у рэдакцыі дадзена каманда «выключыць, як урок іншым»?

Сумненні кроілі душу, чаканне гаворкі з Кобутам прыгнятала. Спрабаваў чытаць, браў кнігі з паліцы, адкрываў наўгад, прачытваў колькі старонак і стаўляў кнігу на ранейшае месца. Не супакойвала і праца ў садзе — усё валілася з рук.

Адчуў сябе крыху лягчэй пад канец дня, калі намысліў пайсці на Дзвіну, пасядзець на замчышчы і паразважаць над тым, з чаго пачаць і як весці гаворку з Кобутам. Ішоў туды не завулкам, а па сцежцы ўсцяж левага берага Палаты, дзе знаёмыя кожная лапінка, кожная паваротка, кожны вірок. Пад гэтымі лазнякамі заўжды возьмеш на хрушча язя ці добрага галаўня, у гэтым вось вірку, над якім схіліліся вярба з пабітай перуном вяршалінаю, трапіў аднойчы на кручок тоўстагаловы сом — адной рукою і не падняць было, а тут вось улетку сорак другога зыбаўся над вадой вузенькі масточак — дзве доўгія лагі-лясіны з панабіванымі поверх кароткімі аполкамі: масток зрабіла ахова аэрадрома, разоў у пяць скараціўшы шлях ад ка-

зармаў да кулямётных бункераў. Паміж жалезнымі рэйкамі на левым і правым беразе быў нацягнуты тоўсты сталёвы трос, і за гэтыя трывалыя парэнчы зачапіўся чэрвеньскай ноччу сорак другога года наш нягеглы човен, на якім мы — чацвёра падлеткаў, што пазнаёміліся ў час працы на лесапілцы, — наважыліся вывезці з горада зброю і рушыць у партызанскі атрад.

На чоўне мы былі з Лявонам — два нашыя сябры чакалі нас на левым беразе Дзвіны, — я веславаў, радуючыся, што не проста плывём, а нібыта ляцім па чорнай гонкай плыні, адкідаючы назад чорныя бухматыя лазнякі. Напярэдадні ішлі моцныя дажджы, масток заліло, сталёвы трос вісеў над самай вадой, і ён зачапіўся за жагялі і перакуліў наш човен. Правы борт увагнала пад канцы аполкаў, а левы ўціснула ў берагавую вымоіну, і выдраць човен з гэтае пасткі мы не здолелі.

Каб човен не перакуліўся, ці, вызваліўшы яго, паплылі далей — да Дзвіны заставалася ўсяго дзве павароткі! — мы б трапілі ў рукі гітлераўцаў. Немцы часцяком рабілі засады то ў адным месцы, то ў другім, падпільноўваючы партызанскіх разведчыкаў. У тую ноч, калі мы адчайна спрабавалі выбавіць свой човен, засада сядзела ля вусця Палаты, і абмінуць яе нам бы не ўдалося: шчаслівая выпадковасць мяне і сяброў уратавала...

Ад таго нягеглага масточка засталіся толькі дзве жалезныя рэйкі на левым беразе. Вада падмыла правы бераг, і рэек на ім не было відаць, на месцы іх асеў рагаты корч, на яго наматала шмат водарасцяў, і яны ўтварылі прыгожы зялёны астравок, які паціху пагойдваўся. Рэйкі на левым беразе ад іржы былі чырвоныя, метал іх трымцеў ад напору гонкай плыні. Паміж імі і сцежкай узняўся лазовы куст, доўгае жоўтае карэнне матлялася ў вадзе, і штораз, калі яно хвастала жалезныя рабрыны, рэйкі ўздрыгвалі, ціха гулі, нібыта паміж імі была напятая струна, па якой слізгае доўгі смык. Дакранешся да тарцоў рэек, і гук знікае, а толькі адпусціш руку — узнікае зноў, быццам выплывае з гонкай плыні.

Вузкай пакручастай сцежкай я ўзняўся на замчышча і доўга, усцешаны нечаканай спадзяванкай на добрую паваротку лёсу, сядзеў на затравелым узмежку. Я шчэ не ведаў, як пачну гаворку з Кобутам, не ведаў, ці хопіць мужнасці расказаць аб усім, як на споведзі, і гэта мяне не турбавала ані. Закалыхваў посвіст ластавак, што вынырвалі з густых палыноў на схілах замчышча, завінчваліся ў нізкую сінечу неба і знікалі, нібыта зліваліся з чорнымі крыжамі над белымі царкоўнымі вежамі, люляў густы палыновы пах, вабіў і дзівіў небакрай над Экіманскім борам, ля якога Дзвіна крута вярнула ўправа і знікала за бухматымі попельнымі лазнякамі. Дзве доўгія аблачыны, падобныя на вузкае каромысла, завіслі над зялёна-чорным грабеньчыкам лесу і як бы разрэзалі вячаровае сонца на тры часткі, і кожная з іх увачавідкі зменьвалася і пагойдвалася. А на плыні Дзвіны, насупраць спавітага лазнякамі ўзвала, трымцела другое сонца, але не парэзанае на кавалкі, і яго вялізнае роўнае кола, абціснутае бэзавымі абручамі, імкліва і дзіўна зменьвала колеры; абручы гэтыя святлелі, паўзлі ў сярэдзіну кола, пакідаючы за сабой белаватыя дзіды, і яны нібыта штурхалі, ціснулі ўсё кола, прыўзнімаючы яго над прыгаслай, як з волава, плынню ракі. І раптам агняныя абручы скдаліся ў адзін, і кола заірдзела, як бы падскочыла над вадой. Гэтак жа хутка змянілася ўсё і ў высі: вышэйшая аблачына апусцілася на ніжнюю, утварыўшы шырокае і доўгае каромысла, і пад ім велічна свяціўся роўны дыск сонца, было яно чыстае, але

не агнянае, а як бы загорнутае ў залачоную тканіну, і здавалася, што не сонца апускаецца, — а сунецца яму насустрач роўны грабеньчык бору; увачавідкі сцямнела малінавае кола на вадзе і раптам знікла, як праваліла-ся ўглыб ракі.

І там, на замчышчы, углядаючыся ў цьмяную плынь Дзвіны, на якой, ля павароткі, не засталося і следу ад прыгожага малінавага кола, мне нечакана адкрылася сутнасць таго, што мучыла сэрца апошнім часам: табе, дружа, кранты, калі здасіся і не будзеш змагацца. Адзіны паратунак — паступіць у інстытут, і калі дзверы яго не адчыняцца перад табой, дык ты прападзеш, не зможаш жыць і працаваць, юкнеш у прорву гэтак жа, як тое малінавае кола, што нядаўна зіхацела на рачной плыні.

Закажанелы ў тыя гады атэіст, я прасіў-маліў неба дапамагчы, паўтараючы бабулін зварот да Госпада Бога. «Божачка ўсемагутны, звінела ў маёй галаве, прашу ў цябе толькі адной маленечкай ласкі: няхай інстытуцкія дзверы адчыняцца і для мяне. Толькі гэтага прашу. І нічога болей! Ты забраў да сябе Генку і татку, пачакай, не забірай мяне!..»

Шырокая хмара-каромысла асела на грабеньчык бору. На супрацьлеглым беразе гусцеў змрок і шаты нізкіх старых соснаў на пагорку за лесапілкай здаваліся чорнымі і пукатымі, а крыжы над белымі старадаўнімі мурамі яшчэ асвятляла нябачнае воку сонца, і ад іх струменілася дзівоснае святло; яшчэ больш яркі, ніж у сцямнелай высі, адбітак залачоных крыжоў і белых муроў велічна і нерухома ляжаў на рачной плыні. Посвісту ластавак ужо не было чутно, затое ўнізу замчышча, у вусці Палаты, вада як бы пенілася і адтуль далятаў то звонкі, то глухі, то гучны, як стрэл, жор рыбы — пачынаўся лёт мітуліцы. Ля павароткі Дзвіны, дзе нядаўна ірдзела на рачной плыні малінавае кола, пыхнулі дзве бляклыя ружовыя плямы — збіраць мітуліцу выплылі на чоўнах экіманскія рыбакі.

І ад усяго гэтага хараства, а можа, ад шчырага майго малення, усё ўва мне ўлагодзілася, супакоілася, нарадзілася вера ў добрую паваротку мае жыццёвае дарогі, і я ўжо дакладна ведаў, з чаго пачну, як павяду сваю споведзь у кабінеце Кобута.

Ён аніводнага разу не перапыніў мяне, нічога не ўдакладняў, нічога не распытваў, слухаў з нейкім адчужаным выразам твару. Але вялікія карыя вочы часта і дзіўна зменьваліся, у іх то знікаў, то запальваўся знаёмы мне агеньчык жорсткасці.

Калі я скончыў свой аповед, Кобут здзівіў мяне нечаканым прызнаннем:

— Пра тваё ліставанне Сталіну... Табе рабіць тое — справа даўняя, не вернеш і не пераробіш! — не варта было. Ты выклікаў агонь на сябе. Гэта быў крык адчаю, парыванне дзёрзкае, смелае. І пра адказы табе з Масквы мне дакладвалі таксама адпаведна. Я ведаў усё.

— Ведалі? — міжвольна вырвалася ў мяне.

Кобут паглядзеў спачувальна, але без іроніі. І голас гучаў даверліва:

— Было б смешна, каб абком нешта не ведаў... На тваю шчырасць тым жа і адкажу. Мне даліктана, але настойліва раілі прыцягнуць цябе да адказнасці за тое, што на рэдакцыйным бланку, у службовым канверце, адправіў ты трэці ліст Сталіну. Я выкарыстаў сваю ўладу: парады тыя пайшлі ў архіў. Не думай, што Кобут дужа смелы. Тут іншае. Дзе і калі памёр мой Данік, дзе пахаваны — ведаеш. І седзячы за гэтым сталом, разглядаючы тую паперу, што магла павярнуць твой лёс не ў лепшы бок, я развper жаў шмат. А што было б, спытаў я самога сябе, каб мы памяняліся з тваім

бацькам месцамі, а на тваім месцы быў мой Данічак? Ці абараняў бы ён мяне гэтак жа адчайна, пра сябе не думаючы, як бараніў свайго бацьку ты? Адказу ў мяне не было, няма і не будзе. Але твайму бацьку, хай яму пухам зямелька, трэба сказаць дзякуй: ён выхаваў чалавека мужнага і адданага. А мужнасць — гэта тое адзінае ў чалавеку, перад чым нам трэба схіляць галаву заўжды. Слухаючы цябе зараз, я згадаў дні партызанскія. Дзесяць год таму я мог уратаваць чалавека, і не зрабіў гэтага... Паклёп на яго ўзвялі, добрае імя партызана, праўда, ён запляміў. Ён прасіў-маліў — начштаба мне дакладваў — выслухаць яго, зразумець, пасланць на заданне безнадзейнае абсалютна, каб загінуць сумленна, у баі... Але камбрыг быў няўмольны і загад свой — расстраляць! — не адмяніў...

Я слухаў Кобута, дзівячыся шчырасці ягонай і не разумеючы яе. Быў агаломшаны і не адразу расшалопаў, навошта пакладзены перада мною чысты аркуш паперы. Пісаць заяву? Якую і куды? У сектар уліку? Дык я ж пісаў ужо, і рэзалюцыя на ёй ёсць. Заява другая, дык і рэзалюцыя будзе другая, сказаў Кобут. Рабі тое, што сакратар абкома табе гаворыць!..

На маёй заяве ў тры няпоўныя радкі ён наўскасяк, у левым кутку, чырвоным алоўкам вывеў сваю рэзалюцыю. Потым націснуў выключальнік настольнай лямпы, узняўся і націснуў два выключальнікі на сцяне. З акон у кабінет лілося святло новага дня, і два словы, зробленыя на белым аркушы паперы чырвоным алоўкам, — «З уліку зняць» — здаваліся рэзкім барвовым матузком.

Амаль гэткага ж колеру матузкі заірдзелі на шчоках гарбаносай загадчыцы сектара ўліку, калі я паклаў ёй на стол сваю новую заяву з Кобутавай рэзалюцыяй. Жорсткі нораў былога партызанскага камбрыга партыйныя чыноўнікі горада ведалі выдатна: кожнае ягонае распараджэнне выконвалася без прамаруджвання і не патрабавала аніякіх тлумачэнняў. Патрабаваць якія-небудзь удакладненні ці тлумачэнні рызыкантаў не знаходзілася.

Праводзіла мяне ў Маскву толькі адна матуля — болей не было каму. Віктар, студэнт другога курса Ленінградскага універсітэта, быў на студэнцкай практыцы з геолагамі на Сахаліне, а сястра з мужам паехалі летась на працу. Калі цягнік крануўся, мама нейкі час ішла побач з вагонам, твар яе быў стомлены, занепакоены, і я падумаў аб тым, што правільна зрабіў, нічога не расказаўшы ёй пра гаворку з Кобутам. Навошта ёй новыя клопаты, трывожны роздум і трывога? Гісторыя маіх лістоў да Сталіна — палічыў я — ужо дзень учарашні і памяць аб табе толькі ў нашых сэрцах. Выснова была памылковая, і на другім годзе маскоўскага жыцця мне давялося ў тым пераканацца.

Не скажаш, каб Масква стрэла мяне, як гаворыцца, раскрыўшы абдымкі. Але і не адпіхнула: у спісе студэнтаў першага курса было і маё прозвішча. Праўда, той спіс яно завяршала, ішло апошнім параграфам, з прыпісачкай маленечкай, але ж для мяне поўнай горычы: «Смоліч А. А., без стыпендыі, без інтэрната, з абавязковым прадстаўленнем атэстата сталасці да 30 верасня бягучага года». Карацей кажучы, прыняты ўмоўна.

Але сэрца маё перапоўніла радасць: студэнт! Студэнт маскоўскага інстытута! І пытанні будзённыя — дзе жыць? як жыць? — у той момант, калі вочы былі прыкаваны да майго прозвішча ў спісе студэнтаў першага курса, існавалі недзе дужа ж далёка, іх нават як бы і не было зусім.

Першым са сваякоў, хто павіншаваў з незвычайна высокім для мяне ў той момант званнем студэнта, быў швагер, Валін муж Якаў Дворкін. На

сваёй фатаграфіі, што была з табой у палоне, ты пазначыў на адваротным баку: «1940 г. Военторг». Дык вось, швагер мой — гэта сын дырэктара таго ваенторга, у майстэрні якога табе і зрабілі фотакартку. Вось ужо сапраўды: «неисповедимы пути...» Валя і Яша вучыліся ў адным класе, скончылі школу з залатымі медалямі. Закахаліся. Мама паўстала супраць гэтага кахання і зарадавалася, калі Валя, скончыўшы інстытут, паехала працаваць у невялічкі літоўскі гарадок: гэтаму, маўляў, яшчэ год вучыцца — на адлегласці вялікай каханне тое школьнае і выпарыцца, тым больш, што два прыгажуны — не раўня таму Яшку! — вакол Валі ўпарта ходзяць. Але ж здаўна і мудра гавораць: маці адно бачыць, дачка — зусім другое. Праз год, скончыўшы Маскоўскі авіяцыйны, Яша прыехаў у той маленькі літоўскі гарадок і прывёз Валі дзве прапановы акрамя вясельнай: праца ў Маскве і кватэра — у лепшым выпадку! — не раней, як праз дзесяць гадоў; праца ў Новасібірску — ключ ад аднапакаёўкі сёння, разам з білетам туды. Сястра выбрала тое, што некалі, жартуючы, наваражыў я, разгарнуўшы Атлас, — яны паехалі працаваць у Сібір.

Швагер прыехаў з Новасібірска на сёмы дзень майго студэнцкага жыцця. Я пасаромеўся расказваць яму пра тое, што спаць у электрычцы, якая шпарыць ўначы на Клін ці Падольск, намнога зручней ніж на вакзале, які нікуды не рухаецца; ды, зрэшты, яго гэта мала цікавіла — свайго камандзіровачнага клопату было вышэй галавы. Але ён адсунуў яго, той клопат, убок і рашуча сказаў: едзем да дзядзькі. Мой, маўляў, цёзка і чалавек добры. Але своеасаблівы. Вайну прайшоў камандзірам танкавага палка. Вышэйшай франтавой узнагародай лічыць не ордэны свае, а тое, што прозвішча яго пяць разоў згадваецца ў Загадах Вярхоўнага Галоўнакамандуючага. Раю неназойліва гэтак папытаць, ці не яго гэта прозвішча ў тых сталінскіх загадах. Убачыш, як ён адрэагуе. Адразу сябрам будзеш!..

Параду шваграву я скарыстаў, быў за яе яму ўдзячны. Палкоўнік у адстаўцы адразу паглядзеў на мяне прыязна, і, прызнаюся, ягоныя аповеды пра танкавыя баі ў першыя дні вайны я слухаў з увагаю, захапляючыся памяццю і здольнасцю цікавага апавядальніка. Мы гаманілі з ім доўга. Неўзабаве з'явілася стрункая чарнявая жанчына, якой гаспадар вельмі ўзрадаваўся: «О, наша Верачка заявілася!» Швагер сказаў аб ёй не з меншым захапленнем: Гіляроўскі, маўляў, у спадніцы. Яна была ў сям'і адстаўнога палкоўніка дужа блізкім чалавекам, бо сябравала з яго жонкай са школьных гадоў.

Швагер мой не памыліўся ў сваёй характарыстыцы: «наша Верачка» ведала Маскву не горш за славутага дарэвалюцыйнага журналіста, кнігі якога пра сталіцу і яе жыхароў вядомы далёка за межамі Расіі.

Не адзін год я сябраваў з гэтай абаяльнай, разумнай і вельмі далікатнай жанчынай. Яна адкрыла мне неабдымны тэатральны, музейны і гістарычны свет сталіцы, дзівосныя мясціны Падмаскоўя, дзе пакінулі свой нязгасны след слынныя людзі слыннай рускай зямлі.

На першым часе майго студэнцкага жыцця палкоўнік у адстаўцы даў мне прытулак, паставіўся дужа добра, з нейкай падкрэсленай прыязнасцю, вытокі якой я зразумеў толькі на другім курсе. Тады, пры нашым першым знаёмстве, ён угледзеў у маёй асобе не проста франтавога субяседніка, але і надзейнага сябра ў ажыццяўленні сваіх будучых планаў, дакладней, танную рабочую сілу. І ён не памыліўся. Не месяц і не два сумленна і самааддана працаваў я разам з ім на голым полі непадалёку ад чынугачнай станцыі Дамадзедава — назва гэтага аэрапорта вядомай зрабілася крыху паз-

ней, — дапамагаючы яму будаваць дачу. Мы разам білі траншэі падмурка, цягалі бутавы вапняк і залівалі яго цэментавым растворам, выбіралі і вывозілі ў калдобіны дарогі жвір з шырокіх і глыбокіх шурфаў, у якіх потым саджалі дрэвы шыкоўнага ў будучым саду. Сам не зломак, штораз па-новаму ўлюбёны ў якую хочаш фізічную працу — гэта ад цябе, татка, гэта ты навучыў таму! — я часцяком дзівіўся з цягавітасці, увішнасці і павагі да фізічнай працы былога кадравага вайскоўца і франтавіка. Штораз я вяртаўся ў Маскву з галавой чыстай і яснай, хоць фізічна змораны дазвання, удзячны невялічкай лапіне зямлі, на якой узняўся чужы, не мой дом, але ў які было пакладзена шмат і маёй шчырай працы, майго бескарыслівага старання.

Перадапошні дзень верасня — першага месяца майго студэнцкага жыцця — быў знамянальны: я трапіў у невысокае збудаванне каля Крамлёўскай сцяны, на паліраваным франтоне якога выціснуты былі два вядомыя ўсёй зямлі прозвішчы. Выстаяўшы вялікую чаргу, хвост якой быў недзе каля Манежа, трапіў у маўзалей.

Уваходзіў туды з хваляваннем, сэрца замірала ад прадчування сустрэчы з велічным і раней недасягальным, а выходзіў збянтэжаны, разгублены, збіты спанталыку. Было такое адчуванне, што мяне падманулі, нешта адабралі і схавалі. Пад пукатым шклом не вельмі празрыстага саркафага ляжаў зусім не той чалавек, вобраз якога быў злеплены ўва мне скульптурнымі выявамі, вялікімі і малымі партрэтамі і мастацкімі палотнамі і які глядзеў з плакатаў. Там — шырокія плечы, велічная пастава, густая чупрына над высокім і чыстым лбом... А тут! Зусім незнаёмы твар!.. Пабітыя цёмнымі плямкамі-ямінкамі шчокі, нізкі маленькі лоб, рэдзенькія рудаватыя і як бы падсмаленыя валасы. Нават фрэнч нейкі злінялы, з абвіслым каўняром...

Чорная брукаванка Краснай плошчы дымілася рэдкай параю — пакуль быў у маўзалеі, пакрапаў дождж, а цяпер зіхацела ў высі незвычайна яркае сонца: над каляровымі купаламі дзівоснага ў сваёй прыгажосці храма лёталі галубы. Я паглядаў на іх і часта азіраўся наўкола, слухаў людскую гаману і ішоў павольна, асэнсоўваючы тое, што давялося пабачыць. Я адчуваў не простае расчараванне: усведамленне падману мацнела і прыгнятала. Няўжо гэтаму чалавеку я верыў болей ніж самому сабе? Няўжо гэтаму чалавеку пасылаў я тваю споведзь, палітую і тваімі і нашымі слязьмі, споведзь, якую мне трэба было захоўваць як самую вялікую святыню?..

Назаўтра раніцою, нявыспаны і ўстрывожаны, у адчаі вялікім, я стаяў у кабінеце нашага дырэктара Івана Мікалаевіча Сярогіна, чалавека шырокай, добрай душы і сёння для мяне святога. А тады я з нядобрым прадчуваннем, але з глыбока прыхаванай надзеяй глядзеў на ягоны нечым дужа заклапочаны твар. Мне здавалася, што прычынаю тут — мая заява, што ляжала перад ім на стале: у ёй я прасіў падоўжыць адтэрміноўку з прадстаўленнем атэстата сталасці да новага года.

На стале зазваніў тэлефон. Іван Мікалаевіч крыху паслухаў, сказаў, што «праз паўгадзіны буду ў вас» і паклаў трубку. Зыркнуў на мяне, тут жа чыркануў на заяве кароткае «дазволіць», піхнуў яе на краёк стала пад маю руку і папрасіў, як бы толькі гэта яго і турбавала: «У вучэбную частку».

Выбег з кабінета, нібыта на крылах, нават не сказаўшы слова падзякі, услаўляючы невядомага чалавека з міністэрства, які выклікаў дырэктара. Іван Мікалаевіч спяшаўся, гэта, мабыць, мяне і ўратавала. На калідоры апамятаўся і павярнуў назад, каб падзякаваць яму. Ён выходзіў з кабінета,

і мае словы шчырай падзякі за давер перапыніў лёгкім узмахам рукі: «Падзякуеш, як атэстат здасі».

Мне пачуліся ў гэтых словах і папярэджанне, і прысуд. Радасць ува мне атухла. Дзе ўзяць атэстат, які паабяцаў здаць да першага студзеня? Купіць? Украсці?.. Я быў у адчаі. Але надзея — слабая і зусім мне незразумелая! — у душы жыла.

У інстытуцкай бібліятэцы ўзяў кнігі, патрэбныя для здачы заліку па гісторыі рускай літаратуры. Герцэнаўскі часопіс «Полярная звезда» разгарнуў, калі ехаў у метро. Радкі першага ж артыкула, што пабачылі свет у Лондане сто гадоў таму, нібыта для мяне былі напісаны Іскандэрам: «Теперь только идите, не стойте на одном месте, что будет, как будет, трудно сказать, никто не знает, но толчек дан, лед тронулся. Двиньтесь вперед... вы сами удивитесь, как потом будет легко идти...»

Гэтымі радкамі пачынаўся артыкул Герцэна «Вперед! Вперед!» Ён захапляў мяне, і я не заўважыў, як праехаў чатыры прыпынкі лішніцы. Назад не паехаў, а ўзняўся з метро. З правага боку ад уваходу былі стракатыя рэкламныя шчыты, і на першым з іх угледзеў вялікую каляровую аб'яву пра тое, што ў СШ № 1 працуюць платныя курсы па здачы экстэрна на атэстат сталасці.

Я адшукаў гэтую школу, напісаў заяву, заплаціў грошы за прайшоўшы верасень, — гэта ад мяне патрабавалі! — і грошы за ўвесь курс навучання. Заняткі ішлі ўвечары, да позняй ночы. Гэта быў паратунак.

У пачатку студзеня я зноў панёс заяву дырэктару. Зноў тое ж самае: прашу адтэрміноўку... Толькі сам я быў ужо не той, які быў у верасні мінулага года. Па выніках экзаменаў за першае паўгоддзе мне прызначылі стыпендыю. Персанальную! Імя Бялінскага! На справаздачна-выбарчым сходзе абралі ў склад бюро партыйнай арганізацыі інстытута. Але самае галоўнае — курсы экстэрна на атэстат сталасці: за плячыма было ўжо тры месяцы ўпартай вучобы.

Іван Мікалаевіч прачытаў заяву, спытаў з цікавасцю і недаверам. Не ведаю, маўляў, на што ты спадзяешся? На добрае ваша сэрца, сказаў я, ваша дабрыня ўратавала мяне. Добра, сказаў ён, зраблю я табе ласку яшчэ на паўгода. Але што далей? Без атэстата сталасці дыплома аб заканчэнні інстытута табе не відаць: закон тут бязлітасны, аніякая дабрыня не дапаможа. Марна толькі патраціш час...

Шчыра, нічога не ўтойваючы, я расказаў яму ўсё, паказаў нават квіткі аплаты за вучобу на курсах экстэрна. «Зарбабаў наш пра гэта ведае?» — спытаў Іван Мікалаевіч. Я сказаў, што ён першы чалавек у інстытуце, каму я кажу пра сваю вучобу па начах. Гэта дужа ўзрадавала Сярогіна, ён засмяяўся, сказаў, што сакратар парткома лепей за яго, дырэктара, разумее людзей, што менавіта ён, Зарбабаў, настояў на тым, каб персанальная стыпендыя была прысуджана мне.

Сярогін пацiснуў мне руку, не аддаў заяву, сказаў, што перадасць яе ў вучэбную канцылярыю з іншымі паперамі, і пажадаў поспехаў.

Ад гэтай нечаканай чалавечай дабрыні хацелася плакаць. Там, у кабінеце Сярогіна, я яшчэ не ведаў, што гэтая дабрыня і мужнасць армяніна Зарбабава яшчэ двойчы будуць ратаваць мяне, беларуса, ад жыццёвых нягод. Затое разумеў, што ўдзячнасць дабрыні і чалавечнасці гэтых людзей будзе жыць у маім сэрцы да скону дзён.

У інстытуцкай бібліятэцы ўзяў дзве апошнія, якія яшчэ не прачытаў, кніжкі часопіса «Полярная звезда». Бронзавая выява Герцэна ў маленькім

скверыку перад уваходам у інстытут здаецца надзіва маленькая пад высознымі таполямі, вяршаліны якіх звісаюць над дахам будынка. Штораз, праходзячы ля сціплага помніка, я міжвольна прыпыняў хаду, а цяпер, сціскаючы ў руцэ шыкоўныя кнігі, што выдаваліся стагоддзе таму ў Лондане, стаяў доўга, слухаючы залівісты спеў лазараўкі. Якія птушкі спявалі тут, на гэтых дрэвах, калі не бронзавы, а жывы гаспадар гэтага белага гмаха выходзіў на нізкі ганак, вітаючы новы дзень? Ці мог ён уявіць сабе тых, чые галасы вылятаюць зараз з адчыненых шырокіх вокнаў? У што ён верыў, пасылаючы на сваю радзіму з далёкага Лондана чарговую кніжку часопіса, што будзе ўзвышаць чалавечую душу і складзе неўміручую славу рускай зямлі, яе веліч і гонар?

Глядзеў на хмарнае маскоўскае неба, што нібыта асела на макаўкі старых таполяў, і згадваў нашу бабулю. У сорак першым годзе, увосень, калі белай ад ранняга прымаразку была кляновая лістота на зямлі і ў садзе быў добра чуваць грукат таварнага цягніка, я выпадкова падслухаў яе маленне. «А хай жа на злом коціць гэтая чорная сіла фашысцкая... Зрабі гэта, Божачка ўсемагутны... Веру табе: зробіш...»

Чалавек можа зрабіць усё, калі ён верыць. Вера — гэта жыццё.

Верай я і жыў. Верай у тое, што адолею ўсе цяжкасці. Ведаў, што мама жыве верай у гэта, жыве надзеяй на лепшае. Яна не дужа часта пісала мне, але лісты яе акрылялі мяне, і кожнае пісьмо было святам.

У лютым, якраз напярэдадні Дня Савецкай арміі, ранкам каля ўваходу ў інстытут мяне сустрэў Зарбабаў. Не толькі я — увесь наш курс быў улюбёны ў гэтага чалавека. Выдатны выкладчык, эрудыт незвычайны, ён чытаў свае лекцыі па гісторыі марксізму-ленінізму не проста натхнёна, а прымушаў ажываць даты і факты, знаходзіў у іх тое, што адгукалася ў душы кожнага, прымушала разважаць і верыць: і ён бачыў гэта на тварах слухачоў, і яго ўласны твар заўжды праменіў добрае святло.

Тым ранкам ягоны твар здзівіў, чорныя вочы глядзелі пахмурна і занепакоена. Папрасіў зайсці ў партком. З вялікім задавальненнем, сказаў я. Але па голасе Зарбабава, у якім не было ранейшай ветлівасці, па заклапочанасці на твары я адразу здагадаўся, што ў кабінеце, які добра мне знаёмы, чакае мяне нешта не вельмі прыемнае.

Прадчуванне не падманула, Зарбабаў уручыў мне ліст, дасланы на імя сакратара парткома, і папрасіў з ім азнаёміцца. Лінін почырк пазнаў адразу. Але чаму ў партком? Чаму не мне асабіста? І што, што ёй спатрэбілася?

Ліст быў кароткі. Ліна скардзілася, што я ўхіліўся ад выхавання дачкі, не дапамагаю ёй матэрыяльна, і падпісала сваю скаргу незвычайна: «Маці дачкі Смоліча А. А.». Да скаргі была прыкладзена выпіска з пастановы суда і выканаўчы ліст.

Крыўда душыла мяне, было сорамна глядзець Зарбабаву ў вочы. Сорамна і за сябе, і яшчэ больш за чалавека, якога я кахаў, якому верыў, хацеў давесці, што гэтага кахання варты. Зарбабаў, відаць, добра разумеў, што са мною творыцца. Ён узяў паперы з маіх рук і, хаваючы іх у шуфляду стала, горка ўсміхнуўся: гэткія паперы, маўляў, ён за ўсе гады працы ў інстытуце бачыць упершыню. Студэнт-аліментшчык. Дзіўна, вядома, гучыць. Але тут жа дадаў па-сяброўску і памяркоўна, каб я ішоў на лекцыі, а пасля заняткаў зайшоў «пагаманіць па-сутнасці».

Добра, што ў той дзень лекцый Зарбабава на нашым курсе не было. Душа мая гарэла. Але намаганнем волі я прымусіў сябе слухаць выкладчыкаў, рабіць, як рабіў звычайна, канспекты.

Пасля заняткаў я пастукаў у дзверы парткома. Мне ніхто не адказаў. Дзверы былі ўзяты на ключ. Звесіўшы галаву, ішоў па калідоры, спыніўся каля шырокага акна і ўбачыў Зарбабава. Ён стаяў на вузкай, абціснутай снегавымі гурбамі алеі і глядзеў на інстытуцкі будынак. Вокны былі падвойныя, але мне падалося, што ён глядзіць на мяне і як бы нешта гаворыць.

Гэтак яно і насамрэч было. Зарбабаў чакаў мяне, сказаў, што нават паклікаў, калі згледзеў у акне, што вырашыў пагаманіць па-сяброўску, паза сценамі кабінета, каб ніхто не замінаў.

Шмат пра што думалася і на лекцыях, і на перапынках, і калі ўбачыў Зарбабава і хуткай хадою шнураваў да яго. Расчулены цяпер даверам, даверам нечаканым і гаючым, я расказаў яму ўсё і аб сваім сямейным бязладдзі, і аб горкім лёсе бацькі, нічога не ўтойваючы і не прыхарошваючы. Мы ішлі ад Пушкінскай плошчы па вуліцы Горкага да Беларускага вакзала, і ён слухаў мяне гэтак жа, як увосень слухаў Кобут, не перапыняючы, нічога ні пра што не пытаючыся.

Скончыўшы сваю споведзь, я маўчаў, як бы чакаючы нейкага прысуду. Мы ўжо выйшлі да помніка на плошчы каля Беларускага вакзала, абышлі вакол высокага паліраванага пастамента, і снег ціха рыпеў у нас пад нагамі. Зарбабаў нечакана нешта прамовіў на незнаёмай мне мове, і тут жа патлумачыў па-руску: «Беда приходит бегом, а уходит медленным шагом». Прымаўка, маўляў, ёсць такая армянская. І яшчэ ў іх там, у Арменіі, кажуць: «Если тебе на голову упадёт листок, считай его деревом; если на твою голову свалится дерево, считай его листком». Так што, дружа, лічы, што на цябе звалілася лісцінка. Малі неба, каб не звалілася і само дрэва.

Мабыць, я слаба прасіў у неба ласкі: недзе праз год ужо сукаватае дрэва грымнула мне на галаву. Але зноў мудры сын Арменіі дапамог беларусу, падставіў свае грудзі і дапамог адолець роспач і тугу.

А ў той зімовы вечар, шчыра падзякаваўшы Зарбабаву за сардэчнасць і дабрыню, я не проста ішоў, а бег на курсы экстэрна, перакананы, што добрыя зоркі свецяць мне з маскоўскага неба.

Вясной я здаваў інстытуцкую сесію ранкам, а ў другой палове дня — экзамены на курсах экстэрна. Сесію здаваў выдатна, пацвердзіўшы права зноў атрымліваць стыпендыю імя Бялінскага — яна была ўтрая большая за звычайную.

Усё ішло добра і на курсах, тым больш, што ўмовы для падрыхтоўкі былі выдатныя — напрадвесні я атрымаў месца ў студэнцкім інтэрнаце, які месціўся ў тыя часы ў Перадзелкіне, цудоўнай мясціне Падмаскоўя. Пад густы салаўіны пошчак, на беразе ручаіны, што хавалася ў белых чаромхавых нетрах, я гартаў падручнікі па алгебры і геаметрыі і з горыччу думаў пра тое, што ў той час, калі трэба было спасцігаць мудрасць алгебраічных і геаметрычных формул, спасцігаў зусім іншую навуку — выплаўляў тол з гаўбічных снарадаў у калгаснай кузні ў Пятроўцах. Але горыч знікала, адкінутая радасцю, што ўзвышала, і я славіў неба за дараваную мне слодыч жыцця.

Апошнім экзаменам быў экзамен па хіміі, якую я незалюбіў шчэ ў даваенныя школьныя гады. Сябры па курсах — у асноўным рабочая моладзь сталіцы, слаўныя хлопцы і дзяўчаты, якія часцяком, стомленыя ў завадскіх зменах, проста засыналі на занятках, што цягнуліся да глыбокай, здаралася, ночы — мяне запэўнілі: у нас жа, маўляў, класныя шпаргалкі — Зямава прадукцыя нікога не падводзіла. Зяма, цыганскага крою хлопец, праца-

ваў у фотаатэльe непадалёк ад нашага інстытута. Весялун, выдатны матэматык — з ім сябравалі ўсе. Шпаргалка яго была выдатная і на мой білет. Добрасумленна перапісаў яе і адбарабаніў ліха. Дзве маладыя выкладчыцы слухалі і неяк загадкава, але весела пераглядваліся, і гэта натхняла мяне. «Добра, — сказала адна з іх, калі я скончыў свой адказ. — На білет нумар дзевяць вы адказалі грунтоўна і ўпэўнена. У вас білет які?..» Колкія званочкі перасыпаліся ў вушах. Лічба дзевяць выразная, чорная, а перад ёй кволая, як бы пашкрабаная адзінка. Нумар дзевятнаццаць! А я выцягнуў шпаргалку на дзевяты білет і па ёй барабаніў!.. Як я мог пераблытаць? Як гэта здарылася?..

Часу паразважаць над гэтым было. Я стаяў у калідоры, і гармідар, што панаваў на ім, абмінаў мяне, час як бы спыніўся. Якая прыкрая памылка! І калі? На апошнім экзамене. Заставаўся адзін толькі крок да мэты...

Адчыніліся дзверы, на калідоры з'явіліся члены прыёмнай камісіі. Гучалі прозвішчы, і кожная адзнака сустракалася радасным гулам і воклічамі. Маё прозвішча прагучала ў цішы — сябры ўжо ведалі, што «зрэзаўся». Тая маладая выкладчыца, якая нядаўна ўхваліла мой адказ на дзевяты білет з саркастычнай усмешкай, цяпер усміхнулася прыветна і добра: вас, малады чалавек, мы пашкадавалі. Выдатны атэстат і раптам апошняя адзнака. Упэўненасць ваша заслугоўвае добрага слова. Траяк вам паставілі. Вы не супраць?..

Яна была стрункая, лёгкая, і я высака ўзняў яе на руках і, асцярожна апусціўшы на падлогу, гучна цмокнуў у шчаку. Калідор выбухнуў смехам, воплескамі, радаснымі воклічамі...

Студэнт другога курса! Маці плакала, калі я ёй аб усім расказаў. З Лінай мы не сустрэліся ў тое лета: яна адпачывала недзе пад Рыгай на курорце — паехала туды за два дні да майго прыезду.

## 4

Дымломную маю працу — кнігу нарысаў, што пісаў у часе студэнцкай практыкі на Байкале, Ангары і Амуры, — ухвалілі на кафедры, і я ведаў, што абарона дыплома будзе паспяховай, і жыў у светлым, поўным хвалявання і надзей, радасным свеце. А тут яшчэ адна поўная неспадзяванка — выклік у ЦК камсамола. І гаворка там — яшчэ большая нечаканасць: прапанавалі месца ў выдавецтве і ў вельмі блізкай перспектыве — кватэру.

Кругам пайшла галава. Гэта зусім нечакана, сказаў я, мне трэба падумаць, усё ўзважыць. Ветліва дазволілі: ведама, падумаць ёсць над чым. Вы беларус, давядзецца шмат памяняць у сваім жыцці і планах. Дом, пра які ідзе гаворка, будзе здадзены ў канцы лістапада, так што два-тры месяцы пажывеце ў інтэрнаце за наш кошт. Таму мы вас і не вельмі прыспешваем. А потым нам патэлефануеце. Вось, калі ласка, па гэтым нумары...

Зарбабаў — ён быў першы, з кім я раіўся наконт нечаканай прапановы, — напачатку сказаў мне толькі два словы: табе рашаць. Потым дадаў, што туды, адкуль я толькі вярнуўся пасля неспадзяванай гаворкі, запатрабавалі на мяне характарыстыку, і што ён праўдзіва аб поспехах у вучобе і актыўнай грамадскай дзейнасці напісаў. Але рашэнне застаецца за мной.

Так, вядома. Але што параіць чалавек, які мне за бацьку быў усе гэтыя студэнцкія гады? Дакладней, два бацькі ў мяне былі: Сярогін, на вялікі жаль, па стане здароўя пакінуў працу ў інстытуце.

— Раіць нічога не буду, — сказаў Зарбабаў. — Але ўслых, з твайго дазволу, паразважаю з ахвотаю. Ты прыехаў у Маскву дзеля чаго? Вучыцца, набываць веды, таямніцы мастацкага слова спасцігаць. Пяць гадоў, лічы, за плячыма. Але ёсць мажлівасць у гэтым напрамку яшчэ тры гады пражыць. Я тваю творчасць ведаю, крытычныя артыкулы чытаў. Чаму не напісаць рэферат і не паступіць у аспірантуру? Не сёння, дык заўтра здадуць новы інтэрнат, на будаўніцтве якога і ты нямала папрацаваў. Атрымаеш асобны пакой — усе ўмовы для працы. І стыпендыя неблагая. Сталічныя лаўкачы пішчом лезуць, нібыта для іх аспірантура і створана, разумнікаў вялікіх. Дык чаму беларус павінен ім саступаць? Не, няхай яны крыху асядуць. Справа, вядома, не з лёгкіх, але вартая таго, каб за яе ўзяцца...

Слухаў яго, і мігнуўся мне наш завулак, хата і тое лета, калі пілавалі дошкі на новую падлогу — старыя маснічыны зыбаліся і рыпелі асабліва моцна ў нашым з Генкам пакойчыку. На высокія козлы ўсцягвалі дзерава і распускалі яго на дошкі доўгай бліскучай пілой з шырокімі зубамі. Штодзень, калі пільшчыкі канчалі працу, нам з Генкам трэба было наводзіць парадак ля козлаў: у адну скрыню складаюцца трэскі, у другую — кара, пілавінне — у трэцюю. Гэтак звычайна рабілася і раней, калі пад паветкаю рыхтаваліся на зіму дровы.

У апошні дзень распілоўваліся чырванаватыя тоўстыя сасновыя лясіны, і ад іх шмат было і трэсак, і кары, і пілавіння, і ўсё гэта на мае плечы — у Генкі былі заняткі авіямадэльнага гуртка на дзіцячай тэхнічнай станцыі. Пачаў я, было, капрызіць: мой дзень на веласіпедзе гойсаць, а тут гэтае смецце. Але ты быў няўмольны: сашчыраваў, маўляў, дзела — тады гуляй смела. Ды і колам трэба адпачыць, бо яны ўжо дымяцца ад вашае натугі!..

На ўсім завулку веласіпед быў толькі ў нас, і нам зайздросцілі, і ў нас з Генкам усё было распланавана па днях. А тут шчэ і сястра насядала: і я, маўляў, хачу на веласіпед, і мне дайце павучыцца! Але ж дзе ўзяць час на тую вучобу, калі сябрукоў — плойма. І кожны за шчасце лічыць, як дазволіш яму на педалі націснуць.

Напярэдадні была ў нас дамова з Лёнькам, хлопцам гультаяватым, на якога ты касавурыўся. Але ты не ведаў, што ў яго самапал майму і іншым не раўня: трубка мядзяная, з прыцэльнай мушкай на канцы і рукаяткаю, абкручанай чырвоным дротам. На мой самапал — серы з галовак запалак цэлага карабка трэба саскрэбці. А ў Лёнькаў дваццаць запалак абцэрабіў — і падпальвай. І мішэнь сапраўдная — прывалок з вайсковага стрэльбішча. І радасць стрэліць па той мішэні цяпер адсоўваецца на доўгі час, бо з гэтай кучаю смецця мне да цёмнага завіхацца. А Лёнька ж ля Палаты чакае!

Працаваў напачатку старанна. А потым схітраваў: дробную кару і пілавінне не цягаў у скрыні пад паветку, а запраторыў пад плот на мяжы з суседам у густую крапіву і высокае лапушыстае конскае шчаўе. Скончана праца!

Слаўна было каля рэчкі! Дакладней за ўсіх смальнуў я з самапала па сапраўднай мішэні. Потым па чарзе ганялі на веласіпедзе да Дзвіны па вузкай сцяжыне, дурэлі, зноў бэхалі з Лёнькавага самапала, і вярнуўся я да хаты ў прыцемках.

Затое ранкам... Я падбег да ўмывальніка, і ты загадаў мне голасам, які абяцаў навальніцу: схадзі, маўляў, на вуліцу і паглядзі на сваю ўчарашнюю работку. Чырванець давялося мне...

Выкрылі маё нядбальства нашы куры. Іх раненька выпусцілі з хлява,

і яны тут жа апаролі радовішча мяккага смецця, дзе поўна было мяккіх белых караедаў. Папрацавалі старанна тоўстыя чубаткі — уся вуліца была густа зацярушана пілавіннем і россыпам сасновай кары. А граблі чамусьці болей у бок чужога плота!

Давялося мне ў другі раз брацца за працу, цяпер ужо сумленна. Ты не пайшоў правяраць. Але прысуд быў жахлівы, да слёз крыўдны: два тыдні на веласіпед не сядзеш — забарона. І ўсё тым жа строгім голасам дадаў: калі за справу ўзяўся, дык шчыруй сумленна, ад старання чырваней, а не з таго, што зрабіў нягожа...

Той запавет паклаўся мне ў памяць на ўсё жыццё. Чаму словы Зарбабава абудзілі спамін пра далёкі дзень? Няўжо з таго, што яны закрэслівалі нядаўнюю прапанову, гэткую зманлівую і прывабную? Праца ў сталіцы, праз нейкія два-тры месяцы кватэра... Гэта падобна на казку. І салодкі водар гэтай казкі ўжо не проста запоўз у душу, ён усцешваў самалюбства, прымушаў верыць у значнасць сваёй асобы... Цябе паклікалі не абы куды, прапанавалі не абы што... І не разлічвай, што цябе будуць дужа ўпрошваць! Згадай, як пяць гадоў таму ты шукаў працу, як ветліва табе паказвалі на дзверы...

Мой роздум, мабыць, цягнуўся б і далей. Але Зарбабаў перапыніў яго, усміхнуўся: завагаўся, бачу. Скажу табе шчыра, як роднаму сыну: працоўны хамут у будучым табе гарантаваны. І будзе над галавой дах. А вось мажлівасці аспірантуру скончыць у тваім жыцці больш ніколі не будзе. Яна ёсць толькі сёлета. І гэта трэба ўсвядоміць. І ў гэта трэба паверыць!..

Усмешка Зарбабава на нейкі міг вярнула мяне ў той час, калі ў партком — пад канец вучобы на другім курсе — прыйшоў другі ліст ад Ліны. Нечаканы і крыўдны. Зарбабаў гэтак жа глядзеў на мяне, калі я чытаў ліст, у якім Ліна прасіла сакратара парткома паўплываць на студэнта Смоліча А. А., каб той не цягнуў з дазволам на продаж хаты, што збудавалі бацькі ёй, Ліне. Паколькі маёмасць набывалася ў часе сумеснага жыцця са Смолічам А. А., патрэбен ягоны дазвол — звычайная фармальнасць судовая. Не хачу, маўляў, мець нічога агульнага з чалавекам, які хоча атрымаць вышэйшую адукацыю па фіктыўных дакументах пра сваю адукацыю, свайго бацьку і некаторых родзічаў. Подпіс быў той жа, што і летась: «Маці дачкі Смоліча А. А.». Але цяпер у канверце быў невялічкі зварот і да мяне асабіста — чатыры няпоўныя радкі: калі, маўляў, не хочаш «всяких эксцессов», падпісвай неабходныя для продажу майго дома бланкі і высылай неадкладна.

Тое, што прасіла Ліна, я выканаў у той жа дзень. Ёй асабіста, аднак, не напісаў аніводнага слоўца, і гэтым як бы паставіў апошнюю кропку ў нашых адносінах. Ведаў, што сустрэнемся, напэўна ж, і гаманіць будзем, але ніколі не змагу дараваць Ліне, што яна бэсціла тое светлае, што звязвала нас, не паважала святое для мне — тваё імя і імя дзядзькі Васіля. Афіцыйны адказ яна атрымала ад сакратара парткома, і той адказ Зарбабаў мне паказаў: з членам партыі А. А. Смолічам праведзена адпаведная гутарка, указана на неабходнасць без затрымкі накіраваць вам патрэбныя дакументы. Чыноўніцкая фармальнасць, такім чынам, была захавана. Але Зарбабаў ставіў пад магчымы ўдар і сябе з боку вышэйшага партыйнага чынавенства.

Кароткая згадка пра той ліст усё, мабыць, і вырашыла. Я паверыў тады Зарбабаву. Чаму ж цяпер вагаюся, як бы баючыся паверыць гэтаму чалавеку, нібыта стаўлю пад сумненне яго шчырую і добрую параду? Ён аба-

раніў тады не толькі мяне! Тваё добрае імя, дарагі татка, абараніў, хоць аніколі з табой і не сустракаўся. Ты марыў, каб мы, усе твае дзеці, атрымалі вышэйшую адукацыю. І я не маю права спыніцца на паўдарозе, не выкарыстаць мажлівасць, якая ёсць толькі сёння і болей не будзе.

Да берагоў нашай роднай Палаты я прыехаў у тое лета, маючы дыплом аб вышэйшай адукацыі, дзе прафесія была пазначана двума словамі: «Літаратурная праца». У кішэні ляжала і невялічкае карычневае пасведчанне аспіранцкае, і яно змяніла мой лёс, павярнула жыццё маё на новую зусім дарогу, на якой напаткалася каханне дзяўчыны на дзесяць гадоў за мяне маладзейшай. З ёю мы і сёння разам і штодня цешымся, гледзячы, як растуць, набіраюцца розуму твае нашчадкі. Ім, праўнукам тваім, сёння гэтулькі, колькі было мне ў той год, калі я ў першы ранак клятай ваеннай віхуры апошні раз бачыў цябе.

Мама ўзяла тады дыплом, цёмна-сіняга колеру, унушальны і важкі, і не ўтрымалася, заплакала ад радаснага ўзрушэння. А на аспіранцкае пасведчанне паглядзела з недаверам, і здзіўленне было ў яе словах. Яшчэ тры гады вучыцца? А жыць жа калі?.. Сёння, пажартаваў я, і заўтра, і паслязаўтра, і кожны дзень новы, што дорыць нам неба, сустракаць з надзеяй і верай.

Дні ў тое лета гэтак і ляцелі, іх проста не лічыў, заняты цікавай працай. Клопату хатняга было не проста шмат, а гэтулькі, што нават жах браў: падгнілі жардзіны і слупы плота, пачаў працякаць дах хаты і хлява, у час дажджу ў склепе вышэй калена вада — струхлеў драўляны дрэнаж, які клалі за пяць гадоў да вайны, аселі дзверы, вушакі якіх пабілі асколкі бомбы яшчэ ў сорак першым... Усё гэта вымагала не толькі працы і часу, але, галоўнае — грошай. І, натуральна, немалых. Іх у нас з мамай не было, і таму хатні клопат адсоўваўся на час няпэўны, дакладней, на той час, калі будуць грошы.

Вера ў гэты час была. У адной сталічнай газеце пачаў працаваць мой сябар Віктар Куклеў, з якім правучыліся разам пяць гадоў. Ён ведаў, што я застаўся ў аспірантуры, што еду ў свой родны горад, і пытанне паставіў рубам. У горадзе тваім заводы ёсць якія? Завод шкловалакна? Ідэя, дружа! Рэдакцыя дае табе камандзіроўку, і ты едзеш панам, свае грошы не кідаючы на нейкія там чыгуначныя білеты. Зманлівая перспектыва мяне натхніла. Праблемы рабочай моладзі... Чым не тэма для нарыса?

Віктар пабег да свайго начальства. Ідэя нарыса была ўхвалена, і я паехаў дамоў, маючы ў кішэні камандзіроўку саліднай сталічнай газеты. І зноў — шчаслівая выпадковасць. У тыя часы імкліва набірала абароты ў ідэалагічнай сферы новая форма выхаваўчай работы — таварыскія суды, і вялізная аб'ява пра гэткі суд чакала мяне ў вестыбюлі завода шкловалакна.

Тры дні запар хадзіў на завод, а потым засеў за працу. Уражанняў хапіла і на той нарыс, што паабяцаў Віктару, і на самастойны допіс для абласной газеты. Сядзеў крукам ў засені нашых клёнаў — змайстраваў там са старых дошак невялічкі столік.

Аднойчы адвячоркам маці паклікала мяне вячэраць, і другі, і трэці: хутчэй, сынок, усё ж на стале даўно. Абяцаў ісці, і не заўважаў, як імкліва ляціць час. Якая вячэра! Заўтра адсылаю нарыс Куклеву! Бельскаму таксама падарунак будзе. Праўда, абяцаў, што адразу, як толькі дамоў прыеду, да яго, у рэдакцыю, зазірну. А тут ужо на другі тыдзень верне. Затое не з пустымі рукамі адчыню дзверы яго кабінета!..

Калі дапісваў апошні радок, побач стаяла мама. Стаміўшыся клікаць

мяне на вячэру, яна незаўважна падышла, глядзела на спісаныя аркушы паперы. Потым, калі пачаў ладкаваць старонкі ў вялікі сіні канверт, які склеіў па абедзе, уздыхнула, і голас яе гучаў скрушна і заклапочана. І ўчора, маўляў, гнуўся над гэтымі паперамі да цёмнага, і пазаўчора, і сёння. Заўтра ж дзень будзе.

Прыхінуў маму, супакоіў: заўтра, дарагая матуля, адпачынак. Адпраўляю гэты вялікі канверт у сталіцу, а сам — на цягнік. У рэдакцыю да Бельскага падскочу — ранішнім цягніком. А ўвечары — дома.

Пабачыць Бельскага мне вельмі хацелася. Праз тры месяцы пасля таго дня, як мама праводзіла мяне ў Маскву, адбыліся вялікія змены — колькасць абласцей была скарочана ўдвая, і столькі ж абласных газет спынілі сваё існаванне. Полацкая абласная газета была аб'яднана з Віцебскай, і Бельскаму пашанцавала, ён сеў у крэсла былога намесніка рэдактара, які паехаў на вучобу ў вышэйшую партыйную школу. Наша сяброўства з Бельскім — былі ж і змрочныя дні — вытрымала ўсе выпрабаванні: ён застаўся шчырым і сумленным чалавекам. Кожны мой нарыс, допіс, рэцэнзія, што дасылаў я з Масквы ў рэдакцыю на яго імя, друкаваліся без затрымкі, і гэта — асабліва ў першыя студэнцкія месяцы — было паратункам: ганарар, хоць і не вельмі вялікі, але па вышэйшай, як я здагадваўся, стаўцы аўтарскай, зрабіўся асноўным маім фінансавым апірышчам, пакуль не пачаў атрымліваць стыпендыю.

Бельскі сустрэў мяне сяброўскімі абдымкамі. Калі ж паклаў перад ім на восем старонак нарыс, ён задаволена развёў рукі і, як і ў ранейшыя часы, знаёмым мне рухам падсунуў старонкі бліжэй і схіліўся над імі. Прачытаў толькі першую старонку і прыціснуў яе даланёю: пойдзе, маўляў, у нядзельны нумар. І скажу табе шчыра, як ёсць: а добра, ведаеш, што дала табе некалі партыйная мінская школа «от ворот поворот». Скончыў бы ты яе, скажам, перажыў бы, як дзесяткі іншых журналістаў нашых, пертурбэнц гэты з абласцямі і газетамі... А вынік? Не дакрануўся б ты да таго багацця духоўнага, што чалавека ўзвышае, не было б у цябе нарысаў пра Байкал і Ангару, не гэткім вострым, як зараз, было б тваё журналісцкае вока... Гэтай вясной ішла ў нас «Літаратурная старонка», цяпер альманах рыхтуем... Аселі ў памяці радкі нашай зямлячкі... «Як мала, Расія, бярэш. Як многа даеш, Расія...» Праўда? Так, і мудрэй не скажаш...

Потым ён патэлефанаваў жонцы і сказаў, каб ставіла на стол дадатковую талерку: абедаць будзе з сябрам. Якім сябрам? Гэта — сюрпрыз. Але ты майго госця добра ведаеш...

За стосам газет на сейфе ў кутку пакоя стаяў таніраваны пад бронзу невялічкі бюст Сталіна — Бельскі прывёз яго з ранейшага кабінета. Пакратаў яго рукой, зазначыў, не хаваючы цікавасці: не выкідаеш, не адсоўваеш у кут, як некаторыя?.. На твар Бельскага паклаўся цень. «Не выкідаю і, мабыць, аніколі не зраблю гэтага, — сказаў ён. — І ведаеш, чаму? Мы з табой і летась нямала пра гэта гаманілі... Праўду пра час мінулы павінны і скажуць новыя пакаленні, бо яны народзяцца з новай, сваёй праўдай. А старая — нам застанецца. Ха, Хрушчоў культ Сталіна развянчаў, праўду партыі сказаў... А хто і што стаіць за гэтай праўдай? Нам шчэ да яе до-оўга тэпаць. Але адно я ведаю цвёрда: не знойдзем гэтую праўду, не скажам аб ёй на ўвесь голас — усё паляціць у прорву... Бачыш, зноў на палітыку, як у сядло, ускочылі. Хопіць! Абед чакае, і часу на яго ў мяне дастаткова — два нумары звярстаныя ляжаць. Так што расказваць будзеш падрабязна аб усім і не спяшаючыся!..

Абед у знаёмай і гасціннай хаце зацягнуўся гадзіны на дзве, і Бельскі аповед аб справах маіх маскоўскіх слухаў з цікавасцю. Ухваліў і тое, што адмовіўся ад зманлівай прапановы і паступіў у аспірантуру. А вось выпадак, што адбыўся напярэдадні абароны дыплома, яго адразу і занепакоіў і насцярожыў.

Чаму я расказаў Бельскаму пра той выпадак? І сам не ведаю. Мабыць, з таго, што застаўся нядобры знак у душы ад падзей тых дзён. Дзялілі тады кватэры — яны месціліся ў левым крыле новага інтэрнацкага гмаха. Размяркоўвалі іх дырэкцыя, партком і прафком. Новы дырэктар адну з лепшых кватэр прызначыў свайму сябру, якога за нейкія паўгода да гэтага ўладкаваў у інстытут на пагадзінную стаўку. Выкладчыкі былі абураны — упершыню за ўсю гісторыю інстытута і інтэрнат свой, і кватэры! — тым, што чалавек, якога турнулі з адной навучальнай установы на Украіне, пастаўлены ў роўныя ўмовы з тымі, хто працуе ў інстытуце ад першага дня яго заснавання. Але абурэнне было на ўзроўні «калідора» — адкрыта змагацца з дырэктарам і яго сябрам, чалавекам даволі ўплывовым, аніхто не адважваўся. Іншая справа студэнт, радавы член парткома — асоба аніяк і анічым, апрача справядлівасці, не зацікаўленая. На сходзе, дзе абмяркоўвалі спіс прэтэндэнтаў, я выступіў рэзка, мяне падтрымалі, справядлівасць была адноўлена: кватэра, якую дырэктар прызначыў свайму сябру, была выдзелена аднаму са старэйшых выкладчыкаў, які ў дзень адкрыцця інстытута чытаў першую лекцыю.

Бельскі, пачуўшы ўсё гэта, сумна пахітаў галавой, але вочы яго былі задаволеныя. Ты паўсюль — змагар за справядлівасць. Праўду кажуць: які нарадзіўся — гэткі і будзеш. У цябе дзіўная здольнасць знаходзіць сабе ворагаў. Але ж той не журналіст, у каго сэрца да чужое бяды раўнадушнае. Дарэчы, як прозвішча таго кватэрнага лаўкача? На ўсялякі выпадак пытаюся. Свет гэты, як гаворыцца, дужа ж вялікі, каб з незнаёмым чалавекам не сутыкнуцца. А што твае дарогі з ягонымі некалі скрыжуюцца — хто гарантуе?..

Мы жартавалі, гаманілі доўга, згадваючы гады сумеснае працы. Бельскі папрасіў напісаць для альманаха нарыс пра Байкал — яго дужа зацікавіла тое, што там ловіць омуля і брыгада рыбакоў з Віцебшчыны — і я паабяцаў, што зраблю гэта. Потым мы зноў рушылі ў рэдакцыю, і там Бельскі здзівіў мяне. Завёў не ў свой кабінет, а ў бухгалтэрыю — там чакала ведамасць на ганарар за нарыс, які яшчэ не быў надрукаваны: Бельскі парупіўся аб гэтым, калі я мыў рукі перад тым, як сесці за абедзенны стол.

Развітаўся са сваім сябрам, узрушаны і задаволены. Вагон быў напалову пусты, і вольных месцаў каля акна — на выбор. Паволі сплывалі назад краявіды. На душы было спакойна і хораша з таго, што еду дахаты з грашыма, што Бельскі гэтак добра да мяне паставіўся. Але я думаў і пра яго, і пра сяброў, што засталіся ў Маскве, і сэрца поўніла падзяка слаўным людзям, з якімі пазнаёміла мяне сталіца. «Як мала, Расія, бярэш. Як многа даеш, Расія!» Чые радкі цытаваў Бельскі? Ён казаў, што верш той газета друкавала вясной. Заўтра трэба зазірнуць у падшыўку — абласную газету гарадская ж, напэўна, мае. І Куклеву трэба напісаць, што ў нарыса, які сёння даслаў у рэдакцыю, будзе працяг. Не, не пісаць, а пазваніць, каб не губляць час. Як ведаў мой сябра, што спатрэбяцца мне ягоныя тэлефоны!..

У запісной кніжцы рукой сябра былі напісаны нумары яго рабочых тэлефонаў. І тут, у вагоне, зірнуўшы на іх, я нечакана падумаў пра тое, што ўсе нягоды з майго жыцця сплылі і не вернуцца. Чалавек, відаць, гэтак і

створаны, каб верыць у светлае і добрае, бо яно рэальнае ў дні сённяшнім, а заўтрашні дзень заўжды непрадказальны.

Але радаснага летуцення, што апанавала мяне ў вагоне цягніка, паменела, калі дазнаўся пра кошт новай страхі хаты: атрыманага ганарару хапала толькі на адну палову. А дзе ўзяць грошы на другую? А яшчэ ж неабходна і страху хлява паднавіць, перасыпаць плот, адрамантаваць тэрасу, грубкі ў хаце і кухонную печ...

— Я ўжо не адну ноч думала, — сказала мне мама. — Валечка слушна раіць: прадавай хату і да нас прыязджай. Яшчэ год-два пастаіць хата, а потым, як развальвацца пачне, дык каму ж яна патрэбнай будзе! Каб хата жыла, не толькі грошы патрэбны. Няма мужчынскай рукі — хата сірацінка...

Мама казала праўду, аспрэчваць якую было, вядома ж, неразумна. Але я рабіў гэта, сіліўся пераканаць яе ў тым, што ўсё неяк зладзіцца, не беручы пад увагу дужа ж істотную акалічнасць: маміны сілы фізічныя і духоўныя меншалі, знікалі з катастрафічнай хуткасцю.

А наперадзе чакала новая, жахлівая і непапраўная бяда — заўчасная, трагічная смерць самага малодшага хлопца ў нашай сям'і — Віктара.

Скончыўшы Ленінградскі універсітэт, ён паехаў працаваць на Сахалін, куды ў час вучобы штогод выпраўляўся з геалагічнымі экспедыцыямі. Усё ў жыцці склалася добра: кватэра, сям'я, дача ў гарах, з бляскам абароненая кандыдацкая дысертацыя. У навуковым свеце палеантолагаў лічыўся буйным спецыялістам, і на ягоныя працы часцяком спасылаліся нават замежныя славутасці.

Мне цяжка падлічыць, колькі разоў брат клікаў мяне да сябе на госці ў Паўднёва-Сахалінск, спакушаючы дзівоснымі краявідамі вострава, багатым паляваннем і рыбалкай. Абяцаў, не аднойчы планаваў паездку, але штораз знаходзіліся справы больш пільныя і неадкладныя. І вера невыводная жыла: наперадзе безліч часу. І ў ім, тым часе, жахлівая бяда аніяк не акрэслівалася, нават думкі аб ёй не ўзнікала.

Маміна сэрца, аднак, бяду тую прадчувала. Яна зрабіла ўсё гэтак, як палічыла патрэбным: прадала хату — паехала да Валі ў Новасібірск. Нешта за год да тых пярэбараў Віктар меў камандзіроўку ў горад на Няве і не абмінуў нашу Палату. Усяляк угаворваў маму да яго ў Паўднёва-Сахалінск ехаць: кватэра, маўляў, шыкоўная, аніякіх клопатаў табе, ля дачы нават клён расце. Мама жартавала: як пачне, маўляў, у Валі жыць, дык абавязкова і ў яго пагасцюе — там жа, ад Новасібірска, да Сахаліна, «зусім блізенька».

На пярэбары ў Сібір мама адважылася не адразу. Спачатку паехала месяц-другі пагасцяваць і ўнукаў пагадаваць. Там, у Валі, пад канец лета і склалася канчатковае рашэнне развітацца з нашымі клёнамі назаўсёды. Але, вярнуўшыся з Сібіры, мама яшчэ амаль два гады жыла ў развазе, а потым адважылася аддаць у чужыя рукі дом, дзе нарадзіліся ўсе мы, дзе да кожнага куточка дакраналіся твае працавітыя рукі.

У Маскву мама прыехала на цягніку. Я сустрэў яе і праводзіў на другі дзень у аэрапорт — на Новасібірск ішоў прамы рэйс. Вольнага часу было шмат, каб паказаць сталіцу. Загадзя складзены план, у якім на першым месцы былі тэатры і музеі, мама перакрэсліла адразу — толькі Крэмль і Маўзалей хоча пабачыць.

Маўзалей у той дзень быў закрыты для наведванняў. Па сцежцы ля Крамлёўскай сцяны няспешна рухаўся негаваркі людскі ланцужок. Ля

магілы Сталіна рух яго на нейкі час прыпыняўся. Мы таксама прыпыніліся. Мама моўчкі глядзела на кароткі надпіс на цёмнай пліце, і вусны яе раптам сутаргава падціснуліся. Потым, калі мы сышлі па прыступках на плошчу, яна азірнулася і прамовіла са шчырым шкадаваннем:

— Вось як Гасподзь распарадзіўся... Ляжаць не побач з костачкамі роднымі былому нашаму правадыру. І неба, мабыць, і людзі гэтак схацелі...

Мяне здзівілі яе словы: гаворыць, нібыта шкадуе, што сплыў у нябыт той час горкі, яе слязьмі таксама шчодра паліты.

Мама паглядзела на мяне з асуджэннем:

— А нічога, сынок, я не шкадую, бо не час сплывае, а мы сплываем. Твая бабуля як казала, калі наш Васіль памёр? Тыдзень мінуў, а яна булкі з макам у печ ставіць. Я за галаву схапілася: мама, кажу, Васіля ж толькі што пахавала, якія тут булкі! А яна мне: Бог, маўляў, мне Васілька даў, Бог яго і забраў, і слязою тут нічога не вернеш. Нам пакуты сёння на тое неба дае, каб мы пра заўтрашні дзень дбалі, сваю родную ўладу берaглі. А яна нам ад Бога. Толькі вось адно наша ўласць блага зрабіла: Бога не шанавала. Мае іконкі нікому не замінaлі. А вы ж іх, дзеткі мае, на гарышча запраторылі. Відаць, за тое неба Васільку нашаму дні зямныя і пакарацiла. Але ўжо нядоўга мне тут і засталося пакуту цярпець. Побач з сыночкам лягу...

Я слухаў маму з болем у душы, пачаў было расказваць паэтычную легенду пра дойлідаў, што збудавалі дзівосны Храм, прыгожыя крыжы на якіх зіхацелі ад сонца і на якія мама са здзіўленнем глядзела. Але яна як бы і не чула ўзнёслыя радкі з паэмы паэта, якога я вельмі любіў, нечакана прамовіла з сумнай і горкай развагаю:

— Шкадую, што не побач з мамаю давядзецца спачыць. Але яна мудра мне часцяком казала: на ўсё для нас, зямных, боская воля ёсць. І не мы над ёю, а яна над намі. І мне таксама нядоўга засталося, каб яе, тую волю, пачуць і прыняць... І туды, дзе Онічак мой, легчы...

Сіліўся адцягнуць маміну ўвагу ад змрочных думак, зноў чытаў радкі з дзівоснай паэмы пра трагічны лёс славутых рускіх дойлідаў, якія пакінулі на зямлі казачнае дзіва — боскай прыгажосці Храм, і радаваўся з таго, што водсвет тых казачных купалоў кладзецца на мамін твар, і ён светліцца, пазбаўляецца фарбаў тужлівых і змрочных. Я не разумеў, не мог дапяць, што маміны словы прарочыя, што яна не проста нешта гаворыць мне, а спавядаецца перад тымі крыжамі, што нібыта выцiснуты золатам у блакітнай высі маскоўскага неба.

## 5

Мама памерла ў жніўні. У дамавіне яна была дужа падобная з твару на нашу бабулю, пахаваную на Полацкіх могілках, што па правы бок бруканкі на Віцебск, адразу за чыгуначным віадукам: гэткая ж маленькая, высахлая, з нерухомай усмешкай радасці на губах, радасці з таго, што вось і скончыліся пакуты, і наперадзе толькі ёй відучая і жаданая далеч спакою і недасягальнасці.

Хавалі яе ў сонечны, але халаднаваты дзень, без ветру і сцішана-святочны — пажоўклая трава і шаты бяроз у нізіне за могілкамі зіхацелі ад густой намаразі. Калі на свежы магільны пагурачак былі пакладзены

кветкі і мы ішлі да машыны, што чакала нас на шырокай пляцоўцы каля рудаватай дарогі, Валя зноў пабедавала:

— І года не пажыла пасля Віктара — яго смерць маму і падкасіла гэтак хутка. Па Геначку яна меней плакала — вайна, нічога не паробіш... А тут — малады, усё на лепшае ішло, толькі жыві і радуйся... Яна і ўранні і ўвечары толькі адно і цвердзіла: навошта, Госпадзі, мне жыць? Навошта?..

Гэтае пытанне было першае, што я пачуў ад мамы, прыехаўшы з пахавання брата.

— Навошта мне жыць, сынок? Навошта? — у мамы быў тужлівы і незвычайна тонкі голас, і я адчуў, што пытанне адрасавана не мне, што гэта часцінка, як бы працяг споведзі на плошчы каля дзівоснага маскоўскага Храма, і адчуванне гэтае асела ў душы колкім болем. — Геначка, потым Онічак мой... Геначка раней таткі ў зямельку пайшоў. Цяпер Віценька... І таксама раней за мяне ў доле... І кожнаму тая ж долечка — не побач з магілкамі роднымі... І мяне вы да мамы не вязіце, тут пахавайце. Неба гэтак схацела — наўпярок не пойдзеш.

Гэтак жа, як тады на Краснай плошчы, сіліўся пераключыць маміну ўвагу на нешта іншае, бо быў агаломшаны яе словамі. Пра цябе мама звычайна казала «татка наш», а «Онік» ці «Онічак мой» зрывалася з яе вуснаў у хвіліны тугі і адчаю, душэўнага болю, трываць які не ставала сілы...

Нечаканы тэлефонны званок быў паратункам. Валя ўзняла трубку, нейкую хвілінку паслухала, сказала толькі два словы «Добра, чакаем» і хуценька паклала трубку. Тут жа і патлумачыла:

— Едзем на дачу. Яша зараз падкоціць — выпрасіў у начальства два дні адпачынку...

Амаль усю дарогу швагер — ён сядзеў за рулём свайго блакітнага «Масквіча» — расказваў пра тое, як ён будаваў на дачы лазню, і я бясконца распытваў яго і заахвочваў, бо заўважыў, што наша гаворка маму цікавіць. Адчуў гэта і швагер і пачаў лаяць старшыню дачнага кааператыва, маёра ў адстаўцы, бюракрата і салдафона, у якога «гузікі фрэнча і на грудзях і на спіне». З якога боку ні паткніся — наглуха зашпіленыя. На тым месцы, дзе спланаваў швагер паставіць лазню, расце старая бяроза. На ўсе заявы даць дазвол яе спілаваць «фрэнч гэты» крэмзаў адну і тую ж рэзалюцыю: у адпаведнасці, маўляў, з пастановай райвыканкома высечка дрэў на тэрыторыі дачнага кааператыва катэгарычна забараняецца. Працытаваўшы гэтую рэзалюцыю, швагер закіпеў. А калі бяроза старая, калі пагражае і будынкам і жыццю людзей? Глядзець раўнадушна і чакаць, пакуль старое дрэва нам на дах зваліцца?.. Праз гэтага адстаўніка лазня стала не там, дзе хацелася мне. Але ж глядзець і чакаць, калі бяроза яе раструшчыць альбо на галаву мне грымне? Э-э, братачка, дудкі!

Мама нечакана перапыніла гарачы шваграў маналог:

— Ды яна шчэ сто гадоў будзе стаяць. І ты бярозу гэтую не чапай, няхай расце. Пад ёй у спёку цянёк слаўны, пасядзець добра, пошум лістоты паслухаць. А дроўцы ты з лесу прывязеш...

— А дроўцы тут з якое нагоды? — спытаў я, хоць адразу сцяміў, што да чаго.

— З таго, што ён, каля бярозы праходзячы, языком цокае: а-ах, дроўцы вы мае бярозавыя. Гадоў на пяць іх тутачка...

— Здрадніца, — весела перапыніў швагер жонку. — Хіба ж можна мары мужавы гэтак бессаромна выкрываць? Пра тваё ж шчасцейка тут клопат... Хіба ж няпраўда?

І ад гэтага жартаўлівага запытання крыху прасветліўся мамін твар, і ўсім нам стала лягчэй, і швагер, заўважыўшы гэта, дадаў, падміргнуўшы:

— Па бярозавым пытанні прымаецца маміна прапанова: хай расце бяроза здаровенькая, шуміць голлем нам усім на радасць. І сёння пад ёю мы ўвечары юшку ладзім... Э, не, Валечка, не з бярозавых лісцінак, а з акунёчкаў. Яны за лета ў вірочках дужа ж тлусценькія парабіліся, — і весела засмяяўся, адбіваючы жончыну кпінку. — І тут правільна, Валечка, гаворыш: паразумнелі, вядома ж, акунькі за лета. Але ж і наш галоўны рыбак не марна бавіў лецечка. І дзядзька ягоны нездарма прэзентаваў пляменніку кручочкі японскія — юшка гарантавана класная!..

Юшка ў той вечар зладзілася і сапраўды добрая — была юшка і на другі вечар таксама, але гэтая была нейкая дужа ж адметная! — і швагер меў дачыненне да яе ўскоснае, бо акунёў на Іні мы вудзілі з маім пляменнікам. Валера добра ведаў усе перакаты, малыя і глыбокія віры, і нешта гадзіны праз дзве зялёнае вядзерца было амаль з каптуром поўнае рыбы. Нашу агульную здабычу Валера падлічыў дакладна — трыццаць пяць даволі ладных акунёў, сем плотачак і дванаццаць тлустых вусатых келбанаў.

— Нешта ж вы дужа хуценька ўправіліся. Адна травіца, Валерачка, у вядзерцы. Мабыць, не клявала зусім, — пабедавала мама, а потым шчыра зарадавалася, калі Валера скінуў з вядзерца жмут аеру. — У-у, колькі вы насёрбалі! Вось гэта рыбакі, дык рыбакі!

Пазней, калі мы паласаваліся дзівосна смачнай юшкай і Валя мыла посуд на тэрасе, а швагер нешта падкручваў у сваім старэнькім легкавічку, мама сказала, гледзячы на пакручастыя шматкі агню, што спавівалі сухія грабавыя карчы, — цяпельца гарэла роўна, без дыму і ад буйнага вуголля было нават горача:

— Гэтак вось і Віценька штораз без рыбачкі аніколі з Палаты не прыбяжыць. Вусеняў капусных назбірае — і на рэчку. Азірнуцца не паспею, а ён ужо з поўным бітончыкам імчыць. Акунёў, праўда, не часта лавіў. Галаўні ды язі звычайна. Аднойчы сома ўлавіў вялізнага. Узважылі — без малога пяць кіло. І на вуду? На маленькі кручочак? Ён ледзь тады не заплакаў з недаверу майго. А ты ці памятаеш, якога сома вы з Дзвіны прыпурылі, як з таткам брэдзень па Дзвіне вялі? Тады і Генечка ў рыбу хадзіў... Цяпер Дзвіна наша мне ў снах...

Тая ноч мне згадвалася часцяком — упершыню ты ўзяў нас з братам на начную рыбалку. Не ведаю, ці лічылася гэта тады беззаконнем — брэдзень у восем метраў, які пасля рыбалкі сушылі, а потым латалі на сцяне хлява адкрыта, не тоячыся! — але гэткага прычындалля болей я анідзе не бачыў: два драўляныя стаякі, да якіх мацаваліся дзве тонкія, дбайна адпаліраваныя жардзіны, — доўгая наперадзе ішла, а карацейшая — ззаду. Улетку брэдзень цягалі без іх, жардзіны давалі мажлівасць лавіць рыбу ў познюю восень, калі вада рабілася халодная. Звычайна ранкам, калі брэдзень вісеў ужо на сцяне хлява і сохлі прыслоненыя да падстрэшка жардзіны, я аніяк не мог сцяміць, чаму стаяк, да якога прывязана доўгая вяроўка і якую цягне той, хто ідзе берагам, не выскоквае з вады, як яго ўвогуле, той стаяк, можна роўна і куды трэба скіроўваць.

Спасціг тую рыбацкую мудрасць адразу ж, як толькі абвялі брэднем першую затоку. Звычайна памагатымі ў цябе былі дзядзька Васіль і дзядзька Сцяпан. Ты вёў першую жардзіну, дзядзька Васіль ішоў з другой, а дзядзька Сцяпан быў, як ты казаў, «бурля» — клыпаў наперадзе, ускінуўшы на плечы вяроўку. Цяпер за «бурлю» быў Генка, кароткую жардзіну

веў дзядзька Васіль, а мяне ты паставіў побач, і мае далоні ляжалі на жардзіне побач з тваімі, і я адчуваў, як яны штораз напружваюцца, асаджваючы драўляны стаяк углыб чорнай блішчастай вады, пакропленай густа адбіткамі зорак, паміж якіх роўна і бязгучна сунуліся доўгія, зробленыя з белай бяросты, паплаўкі. І раптам паплаўкі затрымцелі і выгнуліся дугой, і жардзіна здрыганулася, і твой голас зрабіўся сіпатым і загадным: «Убераг, сынок, убераг бяром. Бачыш?!. Яна ж у карму дала! Шчупачына!» Я нічога гэтага не бачыў, але адчуваў, як гнецца і трымціць дзеравіна, і з усяе моцы валок жардзіну. Белы канец стаяка выплыў з вады, ён быў ужо зусім блізка, і тады нейкая чорная і вялізная тарпеда мільганула над ім, бліскавула белая дуга і з плёскатам знікла ў чорнай глыбі Дзвіны.

— Наша старая знаёмая, — сказаў ты вясёлым і радасным голасам, калі брэдзень быў на беразе і мы выбіралі з кармы трапяткіх плотак — белаватых, блішчастых — і чорных вёрткіх ментузоў. — Памятаеш, Васіль? Здаецца, гэта яна той раз каля Сцяпанавага носа шухнула. Мы тут з табой, Шурка, крыху прамарудзілі. Як толькі паплаўкі загрымцелі, дык трэба было што рабіць?.. Стаяк з вады ўзняць і брэдзянёк сушыць. Ну, нічога! Другім разам хітруга гэтая нас не абдурыць!

Маю прапанову абвесці затоку яшчэ раз і неадкладна ты не прыняў. Шчупак, маўляў, недзе далёка цяпер. Сюды ён цяпер толькі пад раніцу вернецца. А ў нас наперадзе — новыя затокі. А ты цяпер будзеш Генку дапамагаць. Паспытай і гэтага хлебца рыбацкага...

«Бурля» з мяне атрымаўся, мабыць, неблагі, і мы з Генкам гэтак увішна цягнулі вяроўку, што шмат разоў да нас ляцела прыцішаная каманда: «Цішэй, цішэй! Не рвіцеся гэтак!..»

А мы не шкадавалі сілы, каб паказаць свой спрыт і лоўкасць. І ў тую ноч рыбацкае шчасце не абмінула наш брэдзень: на апошняй тоні ў карму ўбіўся сом, якога мне адной рукой падняць было цяжкавата.

Згадка пра нашу даўнюю рыбацкую ўдачу, горкае прызнанне пра тое, што тут, у Сібіры, мама сніць нашу Дзвіну зноў пацвердзіла маю ранейшую здагадку: спамінамі пра даўняе яна бароніцца ад балючага суму, які кроіць ёй сэрца штодня, сіліцца згасіць боль непапраўных страт. Знарок пачаў згадваць падрабязнасці дзівоснай начной рыбалкі і нечакана заўважыў, што яны болей маму ўжо і не цікавяць, — думкі яе лunalі цяпер у іншай, толькі ёй вядомай прасторы, спасцігнуць якую мне было цяжка.

— Вось жыла і ўсё на нешта спадзявалася ў дні заўтрашнім, — нечакана прызналася мама. — Нешта яшчэ будзе табе светлае, добрае, дзеля чаго і варта вочы адкрываць. А як дзень сканае, дык у сэрцы ўсё той жа боль: страты, страты, страты... Гэтак, мабыць, і ў таткі нашага, і Геначкі, і Віценькі душа шчымела... Але ж не кожнаму суджана на магілках родных паплакаць, рукою тую зямельку пакратаць...

Пад старой бярозай на Валінай дачы мы праседзелі з мамай да глыбокай ночы. Мне ўвесь час здавалася, што яна супакоілася, змірылася з апошняй цяжкой стратай і аніякія суцяшэнні ёй непатрэбны. Цяпер разумею, што гэта быў самападман: змірыцца з апошняй горкай стратай сілы ў мамы ўжо не было, яна бачыла чорную прорву наперадзе, рыхтавала сябе да непазбежнага і болей ад усяго пакутвала з таго, што не паплакала на магілках родных людзей, не дакранулася рукою да тых гаротных магільных пагуркаў.

Пасля пахавання мамы не было аніводнага дня, каб тая гаворка пад старой бярозай на Валінай дачы мне не згадалася. Нядаўна ад Валі быў

ліст. Яна напісала пра тое, што лета было амаль без дажджоў, але вады ў Іні было поўна, Валерка спраўна цягаў акунёў і юшку ладзілі на ранейшым месцы — пад мамінай бярозай.

Бяроза тая пасля Валінага пісьма мне саснілася. І словы маміны: усё, што адбывалася на зямлі да цябе, было дзеля цябе, і ты з'яўляешся на гэты свет, каб здзівіцца гэтаму свету і зрабіцца яго працягам...

## 6

Згадкі пра боскую наканаванасць чалавечага жыцця — як жа мудра акрэсліла яе ў сваіх горкіх развагах пад старой сібірскай бярозай наша матуля! — зноў, як і шмат разоў дагэтуль, ажылі ў маёй душы ў Нямеччыне, калі сядзеў я на доўгай тэрасе змрочнага каменнага гмаха, што стаіць на левым беразе Рура вось ужо чатыры стагоддзі.

Шыкоўны маёнтак слыннага нямецкага барона — Дом «Філігст» — належыць цяпер адной з дабрачынных арганізацый евангелісцкай царквы зямлі Рэйн-Вестфалія, дзейнасць якой у нас агульнавядомая. На яе сродкі шчырымі намаганнямі спецыялістаў-будаўнікоў горада Швэртэ ў кароткі тэрмін узведзены непадалёк ад Мінска аздараўленчы комплекс «Надзея», абсталяваны найноўшай медыцынскай апаратурай і забяспечаны медыкаментамі — там цяпер круглы год адпачываюць і папраўляюць здароўе дзеці з раёнаў, што пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. На яе сродкі праводзіўся і чарговы семінар па тэме «Мы будуем агульнаеўрапейскі дом», на які ў складзе дэлегацыі Беларускага камітэта міру мне пашчасціла трапіць. На яе сродкі ладзілася і гэтая шыкоўная развітальная вячэра, дзе густа ішлі і вясёлыя, і філасофскія, і разважальныя тосты, звінелі чаркі, гучаў радасны і шчыры смех.

Вечаровае сонца, нібыта радуючыся, што, урэшце, расталі дажджавыя хмары, якія амаль тыдзень віселі ў ваколіцах Швэртэ, лашчыла мяккім святлом ціхую рачную плынь, шырокае голле магутных грабаў, што падпіралі густымі шатамі дзіўна блізкае неба.

Пад гэткімі ж грабамі, але не тут, а на правым беразе Рура, на ўскраіне маленькага нямецкага гарадка, дзе месціцца філіял Бухенвальдскага мемарыяла, падцісnуў мне сэрца боль, паклаўшы ў душы знак, што будзе са мною да скону дзён. З асаблівай вастрынёю адчулася гэта цяпер, калі наўкола гучалі радасныя галасы, калі з мокрай лістоты грабаў лілося вясёлкавае святло, калі тлуміў галаву водар адмысловых нямецкіх кілбасак, што смажыліся тут жа, на вуголлі шырокіх чорных жароўняў. Мне падалося, што я не тут, на тэрасе, па якой тупалі некалі боты нямецкіх баронаў, а там, у змрочнай засені грабаў, на тым самым месцы, дзе ў сорак другім, на адваротным баку фотакарткі ты крэмзаў аслабелай ад голаду рукой адрас нашай полацкай хаты...

У цырымоніі памяці ахвяраў фашызму брала ўдзел бургамістр горада Урзула Зобалт. Я стаяў побач з гэтай немаладога веку жанчынай, са строгім абліччам і стоеным горкім сумам у вачах, і добра бачыў, як ад хвалявання раз-пораз уздрыгваюць яе рукі, што зведалі, відаць, на сваім вяку нямала працы.

Леваруч ад бургамістра, ля цаглянай сцяны, на якой, змакрэлы пасля ранішняга дажджу, злавесна паблісквоў іржой калючы дрот былога лагера смерці, стаяў былы салдат вермахта Марцін Оттман. Летась ён

удзельнічаў у семінары, які праводзіўся ў Мінску, і разам з сваімі суайчыннікамі Герхардам і Эрыкай Макэбенамі гасцяваў два дні ў мяне. Мы абедалі і вячэралі разам, а на другі дзень аглядалі слынныя мясціны Мінска, гаманілі шмат пра што і пра вайну, вядома ж, таксама. Папакутаваў Марцін у нашым палоне, але жывы і здаровы вярнуўся на свой фатэрлянд. Калі мы стаялі на балконе нашай кватэры і глядзелі на чародку качак, што няспешна сунулася па Свіслачы, ён прызнаўся мне, што і дагэтуль яму часцяком сніцца скуголенне ветру ў калючым дроце лагернай агароджы. Скуголенне чужога ветру дапамагло яму тады выжыць: ён чуў у ім шолах травы і пошум грабаў на роднай зямлі.

А што чулася табе, калі трымцеў ад ветру калючы дрот на гэтай сцяне, што застаўся сведкаю жудаснага побыту тых дзён? Дрот і сцяна ніколі і нічога не раскажуць... І тваё слова мне таксама ніколі ўжо не пачуць...

Выбілася з-за хмараў сонца, і ў ямінках цэментаванай падлогі былога лагера смерці зазіхацелі, як расінкі на траве, маленькія лужынкі, на якія Марцін утаропіў свой позірк. Што прымроілася яму ў тых маленькіх зіхатлівых сподках вады? Трацілавы смярдзючы дым? Пякучы агонь бяды? Бляск металу, створанага чалавечым розумам для знішчэння ўсяго жывога, што паўстане на яго шляху? Далёкая ад Рура Волга, вадой з якой ён мыў свае рукі ў далёкім сорак пятым?.. А можа, ён згадваў цябе, чалавека, з якім ніколі не сустракаўся, але які нечалавечыя пакуты цярпеў менавіта тут, у гэтым лагеры — я расказваў Марціну, дзе і колькі год быў ты ў фашысцкім палоне! — і разумеў і сваю асабістую віну ў той злабе, якой ён прысягаў?..

Ціха і журботна шамацела пад слабым ветрам лістота грабаў, і мне падалося, што голас бургамістра горада Швэртэ гучыць на зямлі, побач, а твой голас лунае ўвысі, сярод грабавага голля, і я чую і яго, і галасы тых гаротнікаў, якія былі побач, чые рукі, гэтак жа, як і твае, драпалі цэглу сцяны былога лагера смерці, чую галасы салдат, якіх дратавалі танкавыя гусяніцы нядзельным ранкам сорак першага на левым беразе Нёмана, чую галасы маіх партызанскіх сяброў, мужных народных мсціўцаў, якіх рэзалі аўтаматныя чэргі на росным поплаве каля Матырынскага лесу пад Ушачамі ў час прарыву блакаднага кола ў сорак чацвёртым, чую галасы салдат, якія захлыналіся крывёю ў акопах пад Шауляем і гінулі на берлінскіх вуліцах і плошчах, калі да Перамогі заставаліся ўжо не дні, а гадзіны... Мне падалося ў кароткую хвіліну цішыні, калі мы клалі чырвоныя гваздзікі ля цаглянай сцяны, што гляджу я зусім не на зіхоткія сподкі вады ў ямінках на цэментаванай падлозе былога лагера смерці, а што гэта вочы, заплаканыя, бядотныя вочы вязняў глядзяць на мяне, што не толькі я чую людскія галасы, у якіх гучыць вечны праклён вайне і прароцкія папярэджанні жывым, якія павінны кожную хвілінку памятаць пра боскую наканаванасць чалавечага жыцця.

Мёртвыя нікога не падманулі. Падманваюць толькі жывыя.

Можна падмануць чужаземца. І заўсёды знойдуцца палітыкі, якія вызначаць гэта як дальнабачнасць, тонкі разлік халоднага розуму.

Можна падмануць сябра, і калі змаўчаць палітыкі, дык простыя людзі заўжды абвесцяць свой прысуд справе ганебнай, чорнай і злачыннай.

Нельга падмануць жанчыну, якая кахае, і нельга падмануць сваё мінулае. Нельга таму, што жанчына заўсёды сэрцам адчуе падман, прачытае яго ў тваіх вачах. А мінулае ты аніколі не падманеш, бо яно табе непадуладнае. Але жанчына, якая кахае, можа яшчэ і дараваць, і тады ўсё

зменіцца на лепшае ў тваім жыцці, зыначыцца табе і ёй на радасць. А мінулае табе ніколі і нічога не даруе. Яго не змяніш, не пераробіш, не ўпросіш зрабіцца лепшым, прыгажэйшым, у ім ты не выправіш нават дробненькую памылку, ніводнае слова і гук, і ўсе твае апраўданні і маленні яно, тваё мінулае, маўкліва прапусціць гэтак жа, як прапускае вецер раскінутая нахлашч брама. Тваё мінулае заўжды застаецца гэткім, якім яно было. Мінулае краін і нацый — таксама: на яго паліцах радасць і бяда ляжаць побач. Радасныя часіны дзён, што адляцелі ў нябыт, жывуць з чалавекам доўга, горкія ж — яшчэ даўжэй. І адзіны паратунак тут — паставіць на іх крыж, паспрабаваць выкінуць з памяці.

Права на гэта дало чалавеку неба. Але яно не дало чалавеку права і здольнасці закрэсліць, адкінуць у нябыт горкія ўрокі і вопыт мінулага, якія аплочаны крывёю і горам народным. Адзін з найгалоўнейшых і горкіх урокаў блізкага і далёкага мінулага знітаваны ў выснове простай і неабвержнай: удзень і ўночы, кожны раз, заўжды, дарагі чалавеча, калі твае рукі цягнуцца да зброі з мэтаю прыдбаць, захапіць, — яны цягнуцца да бяды, якая няўмольна ўзнікае і туліцца ў цябе за плячыма.

Адна з найвялікшых трагедый цывілізацый, што зніклі, пакінуўшы пасля сябе камяні цудоўных пабудоў і абломкі адмысловых рэчаў, якія ўпрыгожвалі чалавечы побыт, менавіта і схавана ў тым, што ўладары іх з пагардай ставіліся да гэтай простай і неабвержнай высновы. А люд просты запозненa разгледзеў і зразумеў сутнасць падманных слоў і заклікаў лжывых і бессаромных палітыкаў і палітыканаў-фарысеяў.

Але лёс першых і другіх быў аднолькавы. Плата толькі была розная: за дурноту і прагнасць уладароў, а таксама за сваё запозненнае разуменне падману і ўласнае цемнаты просты люд расплачваўся слязьмі і рэкамі крыві. І ніхто не распытваў і не цікавіўся тым, якім чынам апынуўся чалавек на зямлі, па якой збіраў сваю даніну метал знішчэння і смерці.

Мне падалося, калі я глядзеў на маўклівую плынь Рура, што ты думаў і пра гэта, выводзячы аслабелымі пальцамі на адваротным баку фотакарткі дарагія табе імёны — імёны сваіх дзяцей.

Пад канец другой сусветнай вайны самалёты нашых саюзнікаў па антыгітлераўскай кааліцыі магутным бомбавым ударам пусцілі на пыл велічную плаціну на Руры, і мільёны кубаметраў вады панесліся па рурскіх паплавах, па гарадах і паселішчах. Першы ўдар жахлівага, у дзесяткі метраў вышыні, вала вады прынялі драўляныя баракі, што месціліся адразу ж за вадазлівам. У іх жылі савецкія ваеннапалонныя і людзі цывільныя, сагнаныя на працу ў Нямеччыну з розных куткоў нашай краіны, у тым ліку і Беларусі, і лёс іх ведае цяпер толькі неба. У горадзе Швэртэ на адным з будынкаў вісіць бронзавы прамавугольнічак з учарнелай ад часу рыскаю — мецінай узроўню вады. Бронзавая тая рыска — на вышыні майго пляча, а будынак, на якім гэты мемарыяльны знак прымацаваны, стаіць на самым высокім месцы горада. І калі дакранаешся рукою да бронзавай меціны, міжволі здаецца, што яна і дагэтуль, хоць мінула болей за палову стагоддзя з той жахлівай ночы, трымціць ад напору шалёнай хвалі, што некалі неслася тут.

Плаціна на Руры даўно адноўлена, і з прагулачных цеплаходзікаў, якія велічна плывуць па аграмадным вадасховішчы, акаймаваным прыгожым соснікам і чубкамі маладога бярэзніку, ліюцца бравурныя маршы і вясёлыя песні. Страты таксама падлічаны даўно, але ніхто і аніколі не дазнаецца, што страціла чалавецтва ў тую жахлівую ноч, колькі дабрыні і святла знес-

ла тая рурская хваля ў прорву вечнасці. Мажліва, у тых бараках пад вадазлівам загінуў новы Пушкін, а ў калысцы дома, гаспадар якога рушыў у сумны і крывавы «дранг нах остэн» і сканаў у гурбах пад Масквой, захлынуўся ў віры чорнай вады новы Гётэ. Ніхто і ніколі не дазнаецца, колькі прыгажосці, любові і велічы духу, колькі геніяльных адкрыццяў было пахавана тады на берагах Рура, а яшчэ раней на берагах Нёмана і Дзвіны, Волгі і Дона, на берагах маленькіх рэчак і ручаін, ля азёраў і балацін, на выспах і ў сасновых барах. Мажліва, мажліва... І наш Генка, мажліва, у ліку іх — яго таксама вайна паклала ў чужую яму нямецкую зямлю... А што, каб яны не загінулі і засталіся жыць? Яны, мажліва, даўно пераатварылі б наш шалёны дзень сённяшні, нашпігаваны вар'яцкай атамнай сілай, у светлае свята вольнай працы і зыркай, зіхоткай радасці ўсіх людзей Зямлі.

Кожны, хто сёння жывы, можа дакрануцца рукою да той бронзавай мецiны на мемарыяльным прамавугольнічку ў нямецкім горадзе Швэртэ. Кожны, хто сёння жывы, можа дакрануцца рукой да жахлівых лічбаў, што адліты з металу на мемарыяльных плітах нашай Хатыні. Немагчыма толькі дакрануцца рукой да той нябачнай мецiны, якая, быццам учарнелая бронзавая рыска, ляжыць на сэрцы кожнага, хто ацалеў, перажыў той віхурны, нялюдскі звіў варажнечы і злабы. Жывым дадзена толькі адно: спасцігнуць сутнасць той варажнечы, спасцігнуць яе трагічнасць і боль, спасцігнуць горыч, якая можа гнездавацца толькі ў чалавечым сэрцы.

Калі ў сонечны чэрвеньскі дзень я стаяў, абапіраючыся на цёплы шырокі каменны парапет той рурскай плаціны, мяне дужа ўразіла падабенства абрысаў зеляніны на берагах велічнага мора, якое стварыў чалавек, і сасновага кола, што паклала прырода на пагорках вакол спаленай Хатыні. Здалося, што з сіняга мроіва, у якім хаваецца белы, амаль казачны, карабель, не маршы і песні выплываюць, а сунецца, расцякаецца над люстранай вадой журботнае і тужлівае бомканне хатынскіх званоў, і што белыя, з чорнай аблямоўкаю тулягі на даляглядзе падобны да жахлівага чарнобыльскага шлейфа.

Гэтая думка не пакідала мяне і ў час палемікі, што вялася на семінары заўжды ў межах прыстойнасці і такту, доказнасці, глыбокага ведання справы і дасціпнага гумару. У рамкі пратаколу гаворка гэтая па часе ніяк не ўкладвалася, і штодзённа, недзе праз гадзіну пасля вячэры, яна, тая гаворка, працягвалася ў падвальных пакойчыках Дома «Філігст», дзівосна адкрываючы зусім новыя грані і сутнасці тэмы, людской натуры ўвогуле. Гаспадары пайшлі на выдаткі мудрыя, выключыўшы з вечаровых гутарак у падвальчыку галоўнага былога баронскага будынка, які ўсе дружна ахрысцілі ёмкім словам «кабачок», грашовыя разлікі. Два пакойчыкі, і з іх выхад на шырокую тэрасу, што амаль завісае над берагам Рура, сталы і крэслы, дзверы ў трэці пакой, дзе стаяць халадзільнікі, з якіх ты можаш узяць сухое белае і ружовае віно, піва, яблычны ці апельсінавыя сок, мінеральную ваду. Быццам у сваёй хаце гаспадарыш: адчыніў дзверцу халадзільніка і стаўляй на стол бутэлькі — якія хочаш і колькі хочаш. І — без грошай. Бо тут ты госць дарагі і шаноўны.

Па вечарах у «кабачку» часцяком бралі ўдзел у сяброўскіх гаворках і гаспадары — немцы маладыя і немцы сталага веку, з густой сівізной на скронях. Згадкі пра вайну, пра горыч і боль жылі ў душы, але ў нейкай глыбіннай праекцыі, як бы адсунутыя неадольнай сілай жыццёвых стасункаў. У «кабачку» ў адзін і той жа вечар святкавалі свае дні нараджэння дзве

абаяльныя жанчыны з нашай дэлегацыі — мінчанка Людміла і Тамара з Кобрына. Імправізаваныя віншаванні і падарункі, песні беларускія і ўкраінскія, рускія і нямецкія, жарты, прыпеўкі. І ўсе сышліся на адным: гэткае весялосці, узлёту жартаў, гумару, фантазіі і шчырасці мала ў каго было на сваім вяку. А ўсё было з таго — і ўсе таксама аднадушна з гэтым пагадзіліся, — што да піва, сухога белага і ружовага віна, якое шчодра налівалася ў кубкі, падавалася ад душы адна народная страва, якая ўключана як самая галоўная ў зборнік рэцэптаў «Вестфальские и белорусские блюда». Кніга выдадзена евангелісцкай царквой зямлі Рэйн-Вестфалія на рускай і нямецкай мовах са сціплым тлумачэннем панізе шыкоўнай вокладкі, што ўвесь прыбытак ад выдання — а ён, трэба зазначыць, немалы — выкарыстоўваецца «для жизненной помощи детям, пострадавшим при чернобыльской катастрофе в Белорусии». Вось — я захоўваю мову арыгінала! — гэты рэцэпт: «Берется: 12 месяцев, очистить от горечи, скупости, щепетильности и страха. Разделить месяцы на 30—31 часть так, чтобы запаса хватило на весь год. Каждый день добавлять одну чайную ложку работы, две части весёлости и юмора. К этому три полных ложки оптимизма, и ложку терпения, и крошку иронии, и одну щепотку такта. Потом налить на эту массу как можно больше любви. Готовое блюдо подавать с букетиком маленьких любезностей и сервировать ежедневно с весёлостью».

Цудоўная, трэба прызнацца, народная страва! Далёка за поўнач мы ўжывалі яе, адступіўшы ад разумных рэкамендацый зборніка вымяраць усё чайнай лыжкаю, і карысталіся лыжкай самаробнай, вялікай, чэрпаючы з душы ўсё, што там было, і не шкадавалі таго, што нараджалася ў час дзівоснай бяседы, незвычайнага свята духа, шчырасці і дабрыні.

І калі, здавалася, былі праспяваныя ўсе вядомыя ўдзельнікам вясёлай бяседы песні, адбылося яшчэ адно дзіва. Прафесар Аляксандр Рухля, які выступіў на семінары з бліскучым дакладам на нямецкай мове пра наследкі чарнобыльскай бяды, і заўсёды ўнушальна стрыманы і засяроджаны Алег Новікаў — у дакументах семінара быў пазначаны як прадстаўнік прэзідэнцкай адміністрацыі, — зацягнулі песню, якую ніхто з нас раней, здаецца, не ведаў і не чуў. Струны Алегавай гітары зазвінелі весела і гулліва, і гэткія ж былі і словы — усяго толькі два сказы: «За кустом стоит дерево, а за деревом — куст. А за деревом — дерево, а за деревом — куст». Бясконцая таўталогія — то запытальная, то недаверлівая, то сцвярджальная! — хавала ў сабе дзівосны, невымерны патэнцыял чакання, спадзяванкі на тое, што следам за словамі, якія прагучалі, у новым паўторы табе адкрыецца нейкая дзіўная філасофская глыбіня, і яна, тая глыбіня, якая ўсё не адкрывалася і якой не было, прыцягвала, як магніт прыцягвае жалеза. Песню падхапілі спачатку ў адным пакойчыку, потым у другім, а потым спевакі абодвух пакойчыкаў грымнулі яе разам. Спявалі і не проста смяяліся, а ажно клаліся ад рогату, вясёлага і шчырага, і спявалі зноў і зноў, шалеючы ад радаснага ўзрушэння. Утульныя сутарэнні ў графскай пабудове пад старымі грабамі чулі гэтую песню, бачылі гэткую весялосць, напэўна, упершыню за стагоддзі, што праплылі над берагамі Рура.

Праз два дні пасля гэтага свята — сапраўднага свята душы — мне давялося быць госцем у доме Марціна Оттмана. Былы салдат вермахта, які бачыў Волгу і Нёман, Мінск, Смаленск і шмат іншых гарадоў Расіі і Беларусі, з асаблівай, урачыстай прасветленасцю на твары паказваў мне тое, што створана яго ўласнымі рукамі.

За доўгія гады журналісцкай дзейнасці на Полаччыне, а потым вандро-

вак ад Масквы да Сахаліна, мне давялося нямала пабачыць і напісаць пра людзей працы, апантаных ідэяй стварэння і вынаходніцтва, своеасаблівых Кулібіных, майстроў, як кажуць, ад Бога, здольных ператварыць звычайнае бервянцо ў вытанчаную прыгажосць, адкрыць у звычайным камені ці карчы дзівосныя і непаўторныя грані, якія чаруюць вока і хвалююць сэрца.

Плён тваіх рук — разьбяныя карункі на ганку і тэрасе, альтанка і арэлі ў садзе, лакіраваныя кляновыя і яблыневыя рагулькі ў пакоях нашай хаты, што невядома куды знесла ваенная віхура, — у мяне і зараз перад вачыма. І тое, што паказваў мне Марцін, чалавек, які размяняў восьмы дзесятак і з выгляду зусім не асілак, не проста ўразіла, але і вярнула на нейкі міг у тыя дзіцячыя гады, калі мы з Генкам дзівіліся з умельства тваіх рук. Напачатку нават падалося, што гэты каранасты, не дужа шырокі ў плячах немец, мабыць, крыху перабольшвае. Няўжо ён адзін стварыў, збудаваў тое, што бачылі мае вочы? Схіл невялікага пагарба надзейна падпёрла бетонная сцяна метра на паўтара, і гэта дало мажлівасць зрабіць пляц раўнюткім, як стол, і на ім даць разгарнуцца фантазіі, упартасці, майстэрству рук, якія, здаецца, не ведаюць і не ведалі стомы. Гмах прыгожы ў тры паверхі, два гаражы пры ім, безліч кветак пад вокнамі, дзівосны гародчык і сад, дзе ёсць яблыні і ківі, агрэст і парэчкі, дзе пад капронавай сеткаю — аніводная птушка не дзюбне — чырванеюць буйныя суніцы, а на беражку копанкі, пасярод зялёнай лугавінкі, круціцца млынок, і сістэма пасаў прыводзіць у рух постаці маленькіх кавалёў, якія тукаюць малаточкамі па кувадлах і пазіраюць на рубінавых рыбак, што плаваюць каля зялёнай шчоткі трыснягоў...

І ўсё гэта ён адзін, сваімі рукамі?..

Сумненні зніклі адразу ж, калі я ўбачыў майстэрню, размешчаную ў цокалі гмаха. Унікальныя невялікія станкі, на якіх можна рэзаць, габляваць дрэва, пілаваць і апрацоўваць метал, апараты газаэлектразваркі, стацыянарныя і пераносныя электрадрэлі, гэблікі і пілы розных памераў і канструкцый... Цяжка пералічыць усё начынне гэтай унікальнай і разумна скамплектаванай майстэрні. І, як неабвержны доказ дзівоснай працавітасці вынаходніка і руплівца, абавязковасці і дысцыпліны майстра, ляжалі на стале строгім радочкам, як пад шнурок, дзевяць малаткоў, пачынаючы ад зусім маленькага, да вялікага, якім, мабыць, калі табе спатрэбіцца, можна з аднаго ўдару і дакладна ўвагнаць у патрэбную кропку які хочаш цвік...

Глядзеў на ўсе гэта і згадваў свой дачны дамок на Лысай гары, які будаваўся ў тыя гады, калі цокаль пад хатай альбо гараж пры ёй лічыліся крамолай, якую выкаранялі бязлітасна і паслядоўна, а вільчык, узняты на пядзю вышэй нарматыву, загадна патрабавалі падпілаваць і падкараціць, калі існавала безліч іншых, па сённяшняй мерцы, крыштальна ідыёцкіх табу на рэчы, якія чалавеку патрэбны, як паветра. Былому салдату вермахта гэтыя і іншыя табу нават і ў дурных снах не акрэсліваліся. Ён вярнуўся з нашага палону, і яго ніхто не караў і не дакараў, і ён спакойна шмат гадоў працаваў на заводзе, цяпер атрымлівае ладную пенсію, якую наш, нават самай высокай планкі, пенсіянер можа толькі сасніць, жыве вольна і добра. Летась з жонкай выправіўся на Канары, на пару тыдняў зазірнуў у Канаду і гаворыць пра гэта без захаплення, як пра справу звычайную, вялікай увагі не вартую...

— Не выношу алкаголь і тытунь, — сказаў ён, калі мы пасля вячэры сядзелі на шырокай канапе ў вялікім пакоі на другім паверсе, а потым да-

даў з хітрынкаю ў вачах: — З таго, я усім кажу, Марцін гэткі і багаты... А яшчэ з таго, што мае рукі без працы калі, дык нейкі сверб апаноўвае. А калі працую, дык і рукам лагода, і на душы светла...

Вусцішна зрабілася мне ад гэтага прызнання. Былы салдат былога вермахта паўтарае тое, што некалі ты казаў нам, сваім дзецям!

Летась у Мінску, па абедзе, Марцін угледзеў на ручцы балконных дзвярэй нашае кватэры металічны эспандэр на чатыры вітыя спружыны. Ухвальна паглядзеў на маё фізкультурнае прычындалле, закінуў сабе за плечы і развёў на бакі з такой сілаю, што вітая спружына бэнькнула і колца з яе паляцела ў кут пакоя за кніжную шафу. Тады я захапляўся сілай жылаватых рук немаладога ўжо чалавека, які паспытаў даволі ліха і бяды. Цяпер тут, на беразе Рура, далёка ад роднай зямлі, паглядзеўшы на плён працы гэтых рук і гэтаму плёну падзівіўшыся, яшчэ глыбей спасціг мудрасць тваіх, родны татка, слоў, што казаў ты нам, калі мы былі малыя, зразумеў сутнасць той бацькоўскай высновы-мары, спадзяванкі на тое, што мы, сыны твае, спасцігнем галоўную жыццёвую мудрасць: толькі праца робіць чалавека моцным, загартоўвае, дае сілы ствараць і радавацца, пераконвае ў тым, што небам наканавана яму дарога творцы, а не разбуральніка і знішчальніка.

І асядала ў душы горыч, пра якую я не мог нічога сказаць працавітаму немцу. Ты напісаў у другім сваім лісце з вострава Пуцяцін пра тое, што ў цябе ёсць план перабудовы нашай хаты. Ты марыў, ты верыў, што цяпер у цябе ёсць надзейныя памочнікі, — твае сыны. Але на небе былі складзены планы зусім іншыя. І там, у Нямеччыне, я канчаткова зразумеў, што не на небе, а на зямлі яны, тыя планы, складаліся.

У адпаведнасці з пратаколам семінара, што рыхтаваўся загадзя, мне давялося жыць тры дні ў сям'і Макэбенаў. Герхард і яго жонка Эрыка жывуць у сваім уласным доме, а працуюць у Доме «Філігст». Дачка з мужам жыве на поўдні зямлі Рэйн-Вестфалія. Дом у Герхарда крыху меншы за Марцінаў, на два паверхі, і амаль усё тут таксама зроблена рукамі гаспадара, на кожнай пядзі строга гаспадарыць адзіны закон — мэтазгоднасць. Усё падначалена адной мэце: чалавеку павінна быць утульна і ўдзень і ўночы, зручна працаваць, адпачываць і ўвогуле жыць.

Амаль гэткая ж па аснашчанасці, хоць і крыху меншая памерамі, чым у Марціна, майстэрня на цокальным паверсе, ёмістасці з палівам, якога хапае на два гады. Сістэму воднага забеспячэння кантралюе невялікі камп'ютэр: гаспадар закладвае праграму — час, колькасць вады, яе тэмпература — націскае кнопку, і болей у яго галава не баліць наконт таго, будзе ці не будзе гарачая вада, якую тэмпературу ў пакоях падтрымаюць элегантныя па віду і афарбоўцы радыятары.

І адзінае, бадай што, над чым не мае ўлады аўтаматыка, — кветкі. Культ кветак даведзены да такой ступені, за якой, здаецца, ужо нічога лепшага і прыгажэйшага не прыдумаеш: кветкі пад вокнамі, на сцяне, на прыступках лесвіц, на слупках тэрасы, вакол маленькай копанкі, дзе плаваюць рыбкі і цвітуць белыя гарлачыкі.

Гаспадары прынялі госця гэтак жа шчыра, як і ён прывеціў іх летась у Мінску. У маім распараджэнні быў асобны пакой на другім паверсе, з дзвярамі на балкончык, парэнчы якога аздаблялі дзівоснай формы вазончыкі з кветкамі. У кутку пакоя ганарліва сядзела тоўсценькая мышаня — цацка, з якой, мабыць, вельмі сябравала ў свой час дачка гаспадароў. Першае, што бачылі мае вочы ранкам, калі я прачынаўся, была гэтая цацка, зробленая з

густам і гумарам, і чорныя пукатыя вочкі мышаняці, як мне здавалася, заўсёды з усмешкаю зыркалі на мяне, як бы раячы: прыглядайся, маўляў, дарагі госцейка, вывучай, заўважай, параўноўвай.

Я рабіў і першае, і другое, і трэцяе, і чацвёртае таксама — думаў пра цябе. Там, у тым утульным дамку нямецкім, я зразумеў клопат, які вярэдзіў табе душу ў палоне, тачыў сэрца ў бараку на востраве Пуцяцін: ты параўноўваў жыццё на беразе Рура і на беразе Дзвіны. І я таксама рабіў амаль тое ж, і з горыччу ўсведамляў, што не Марцін з Герхардам распальвалі агонь ваеннай бяды, які аднолькава апёк і іхнюю зямлю. Больш за палову стагоддзя спатрэбілася на тое, каб былы салдат вермахта і былы беларускі партызан змаглі сесці за адзін стол і глядзець адно аднаму ў вочы, у якіх няма нянавісці, варажнечы і злабы.

У тым утульным нямецкім дамку саснілася мне на світанні тое, што прыходзіла ў сны і раней, — поле бою ля дарогі з Панявежыса на Шаўляй. На згоне лета сорак чацвёртага за гэты невялікі літоўскі гарадок грымела крывавая і зацятая калатнеча, у якой быў я — у трэці раз за вайну — паранены. Той дзень зноў, з ранейшай вастрынёю, і сасніўся. Бой тады пачаўся ўначы, а з новай сілай узгарэўся ранкам: рушылі ў наступ нашы танкі, а следам за імі і мы, дэсантнікі дзевятай гвардзейскай брыгады Сталінградскага танкавага корпуса. Ахоплены жахлівым, дзікім шалам наступальнага бою, я імчаў разам з усімі, нешта крычаў і страчыў з аўтамата па салдатах у мышастых мундзірах, і адчуваў дрогкае трымценне прыклада, і трэск аўтаматных чэргаў глух у грымоцці выбухаў мін і снарадаў, у грукаце танкавых матораў і скрыгатанні сталёвых гусеніц...

Удзень не бачыш лёту трасірак, і куля ўдзень дзумкае ля галавы зусім не так, як уначы, — працягла чамусьці і напеўна. Але валіць яна салдата, калі трапляе, з аднолькавай бязлітаснай сілай, і цяжка ўбараніцца ад яе ў чыстым полі. Сагнуўся і асеў на зямлю Іван Піліпенка, курчыўся, абціскаючы правую нагу. А Уладзімір Сальнікаў грымнуўся на спіну. Але грымнуўся не адразу, а спачатку неяк дзіўна пацягнуўся ўверх, быццам сіліўся нешта ўхапіць рукамі ў паветры над сабою, і аўтамат, быццам быў прывязаны да рукі рэменем, слізгануў да пляча і, калі Сальнікаў бразнуўся плячамі на дол, таргануўся і зваліўся яму на грудзі. Потым праваруч, у чорных звівах дыму і пылу, бліснулі жоўтыя агняныя маланкі і гарачая хваля смярдзючага паветра кінула мяне на дол. І аніяк не ўзняцца, левая нага непаслухмяная, боль над каленам тупы, як усё роўна каляным абцугом сціснула скуру, і нешта клякоча ў горле, і я правёў па ім даланёю, і ўбачыў, што кроў ліецца па пальцах, і спалохаўся, пачаў заціскаць горла — падалося, што дыхаю не ротам, а ранаю, якую пакінуў на горле снарадны асколак...

Шмат разоў у мроях і згадках, трывожных снах тое поле паўставала перад маімі вачыма ў аднолькавых фарбах і паслядоўнасці: выбух снарада, жоўтыя маланкі ў чорных звівах дыму і пылу, у густой і рудаватай ад дыму імгле вісіць прыгаслае, быццам з латуні, сонца, вецер круціць чорныя грывастыя султаны дыму над нізкім вольхавым параснікам, і зямля наўкола стракатая ад снарадных варонак, і сярод іх гняды, не дужа ўкормлены конь, блішчасты ад поту і ашалелы ад грукату бою, у дзікім галопе імчыць перадок ад саракапяткі, на які мяне, параненага, ускінулі, а побач, укленчыўшы, прыціскаючы мае плечы да гарачай ад сонца бакавіны снараднай скрыні, прыкіпеў да шырокіх гузаватых лейцаў ездавы, без пілоткі, у разадранай гімнасцёрцы. Галава мая матлялася нізка ля зямлі, з-пад ка-

пытоў каня біў у твар колкі гарачы жвір, і я закрываў вочы, і калі адплюшчваў іх, бачыў жоўта-белыя камякі агню, што раптоўна ўзнікалі і гэтак жа раптоўна знікалі ў рудаватай мгле — нашы гаўбіцы прамой наводкай садзілі па фашысцкіх танках, што паўзлі ўсцяж дарогі...

Праз сорак гадоў мне пашчасціла зноў убачыць гэтае поле — разам з літоўскімі пісьменнікамі мы рыхтавалі кнігу нарысаў да дня Перамогі. Памяць аднавіла ўсё выразна, і я, слухаючы гул машын, што праносіліся непадалёк ад шашы — адны на Панявежыс, другія на Шаўляй, — з хваляваннем азіраў зялёнае жытняе поле, углядаўся ў ільсніста-зялёную рунь, нібыта павінен быў убачыць няроўную лінію акопаў, што была тут у сорак чацвёртым; углядаўся і адзначаў у думках, што знаёмае гэтае поле зусім не такое, якім яно прыходзіла ў снах і мроях, зусім жа не такое, якім было тады, болей за сорак гадоў таму; углядаўся і разумеў, што гэта зусім натуральна, ведаў, што поле бою не магло застацца ранейшым, а вочы ўпарта шукалі гарбатыя брустверы акопаў, адкуль ляцеў знішчальны свінец, што скасіў маіх баявых сяброў...

Вецер паварушыў тонкае голле бяроз, на якіх дзе-нідзе яшчэ рудзела жаўтлявая лістота, і пошум пасохлых лісцінак быў журботны і тужлівы; вецер хваляю прабег па полі, і па левы бок ад чатырох маладых бярозак, што вострым клінам выбіліся з алешніку, рунь прыгнулася; у ёй акрэслілася няроўная паласа заінелай зямлі, і адразу дзіўны халадок асеў у плячах.

«Там, дзе гэтая заінелая зямля, і былі тады яны, фашысцкія акопы...»

І ногі, як хтосьці падштурхнуў іх, зрушыліся з месца, і я зрабіў адзін крок наперад, потым другі, і потым зноў спыніўся, узіраючыся ў зялёны прасцяг жытняга поля. Новы подых ветру залізаў тую заінелую палоску зямлі, і зялёны аксамітны полаг як бы пагойдваўся, ствараючы ўражанне, што маладая рунь не трымаецца на месцы, а ціха спаўзае з пакатага ўзгорка і памалу сунецца ўсцяж гулкай шашы, туды, дзе ў попельнай смузе акрэсліваліся гмахі Шаўляя. Мігнулася і зноў знікла няроўная заінелая палоска зямлі на руні, а замест яе паплылі па полі плямы, густа-зялёныя, белаватыя па краях, увесь час зменлівыя, як вада ў віры, і я, прыгледзеўшыся, сцяўся ад болю ў сэрцы, што гулка забухала ў грудзях.

«Піліпенка грымнуўся на зямлю вось тут, дзе гэтая гарбатая плямка... Сальнікава падсекла бліжэй да шашы, дзе трымціць і вагаецца асабліва густое і цёмнае зеляніва азіміны... А мяне параніла крышку далей, дзе рунь ільсніцца і пакрысе дрыжыць...»

З франтавога шпіталя, пасля аперацыі, мяне перавезлі ў прыфрантавы ў Панявежысе. І калі месца, дзе загінулі мае блізкія сябры ў час атакі, — а загінула на тым полі ля шашы нашых салдат багата, — я вызначыў на ільсніста-зялёнай руні, мабыць, крыху прыблізна, дык месца, дзе стаяў прыфрантавы шпіталь, вызначыў дакладна і адразу ж, хоць і змянілася яно непазнавальна. На высокім беразе ракі, дзе зараз прыгожы будынак палiклінікі, быў тады пустыр і абшарпаныя, абабітыя выбухамі і кулямі дрэвы. Пад імі, тымі дрэвамі, і месціліся тры доўгія, як стадолы, армейскія брызентавыя палаткі. Параненыя ляжалі ў іх цесна, даволі густа і, каб не душыў смурод скрываўленых бінтоў і рудой сукравіцы пад гіпсам, сценкі палатак, скручаныя ў рулоны, падвязвалі да металічных, увагнаных у зямлю расцяжак, і таму — глядзі на ўсе чатыры бакі свету.

Маё месца было ля самага краю палаткі, пра дарозе, што вілася па-над берагам ракі, і добра бачыліся пабітыя будынкі гарадка, пустыя вуліцы, задымленыя коміны на папялішчах. Іх, праўда, было не вельмі шмат, бо га-

радок вызвалілі імкліва, фашысты ўцякалі паспешліва і не супраціўляліся гэтак зацята, як пад Шаўляем. Але разбурэння хапала, і агульная панарама за рэчкай не вельмі радавала.

Цяпер жа ад тых разбурэнняў не засталося і знаку. Я крочыў па алеях маладога парка, што ўзняўся побач з паліклінікай на тым месцы, дзе быў франтавы шпіталь, па чыстых плошчах, роўных прыгожых вуліцах, і ўглядаўся ў твары людзей, з дзіцячым наівам разлічваючы, што стрэну знаёмых, стрэну тых, хто прыходзіў тады да брызентавых палатак прыфрантавога шпіталя, прыносіў параненым яблыкі, маленечкія згортачкі з чырвонымі парэчкамі і парэчкамі белымі, празрыстымі, быццам сляза, хто прыносіў кветкі, дапамагаў урачам, якія з ног валіліся ад стомы. Мажліва, я страчаў гэтых людзей, страчаў, але не пазнаваў, не пазнаваў гэтак жа, як і яны не пазнавалі мяне. Але сэрца маё, душа ўся цалкам і дарэшты, дазвання і кожнай часцінačкай знаходзіла на тварах стрэчных людзей знаёмыя, як мне падавалася, абрысы, і з таго ўся істота поўнілася цеплынёю і павагаю да кожнага стрэчнага.

Даўжэй, чымся там, на полі, дзе стыла пад восеньскім небам ільсністазялёная рунь, даўжэй, чымся там, на беразе ракі, дзе некалі стаялі палаткі прыфрантавога шпіталя стаяў я каля Вечнага агню ля строгага абеліска, ад якога ў два канцы разыходзяцца вузкія мармуровыя пліты з прозвішчамі тых, хто загінуў, прозвішчамі людзей, якія жылі на зямлі і зрабілі ўсё, каб на месцы былых акопаў зазелянела густая аксамітная рунь, што падорыць людзям хлеб, каб на месцы закопчаных і знявечаных комінаў паўсталі новыя хаты, у якіх зазвініць дзіцячы смех, дзе паселяцца любоў і радасць... І кожнае з іх, гэтых прозвішчаў, — яшчэ адзін погалас праклёну фашызму і чорнай сіле знішчэння, жахліваму агню, што нішчыў людскія мары, спадзяванні і прагу жыць і ствараць на зямлі толькі добрае, бо на зямлі для чалавека няма нічога найлепшага, як будаваць дамы, сеяць хлеб, гадаваць дзяцей і штодня сустракаць святло новага дня, бачыць сонца ў блакітнай прасторы неба...

Я ішоў каля тых мармуровых пліт, чытаў незнаёмыя прозвішчы і раптам нібыта каляная страла ўдарыла па вачах. Генка?!. Так! Смоліч Г. А.! Агаломшаны, я азірнуўся: мне падалося, што праваруч, побач зусім прагучаў Генкаў голас!..

Усцяж мемарыяльных таблічак з прозвішчамі ішла нейкая жанчына з кветкамі ў руках, і побач ішоў хлопчык, таксама з кветкамі, дакладней з кветкай — вялізная белая хрызантэма. Ён увесь час перакладваў яе з адной рукі ў другую, і шырокія пялёсткі з ліловымі краёчкамі штораз дзіўна ўздрыгвалі, і я глядзеў, разгублены і збянтэжаны. Генка наш загінуў у кастрычніку сорак чацвёртага і быў пахаваны ў брацкай магіле ля горада Рэтавас — пра гэта я дазнаўся ў лістападзе з мамінага пісьма. Улетку сорак пятага мама ездзіла туды, але Генкава імя на той магіле не знайшла. І сталася гэтак, што месца, дзе ён пахаваны, я выпадкова знайшоў тады, калі мамы ўжо не было...

Прачнуўшыся на мяккім шыкоўным ложку ў нямецкім дамку, я згадваў тое, што саснілася, згадваў апошнюю гаворку з мамай пад старой бярозай на Валінай дачы на беразе хуткаплыннай сібірскай рэчкі Іня, і ўсё маё ўласнае жыццё паўставала ў нейкай дзіўнай, ніколі раней не акрэсленай праекцыі. Мне падалося, што чорныя пукатыя вочкі мышаня-цацкі зыркаюць на мяне не проста з усмешкай здзеклівай і саркастычнай: глядзі, маўляў, былы салдат былой арміі, якая перамагла, у чыіх руках сапраўдны

плён той Перамогі. Ты можаш мне адказаць, колькі спатрэбіцца табе часу, каб мяжа мэтазгоднасці ў тваім дамку была на той жа вышыні, што і тут, у хаце салдата, які прайграў тую вайну, у якой ты перамог?

Пэўнага адказу на гэтае пытанне ў мяне не было тады і няма і зараз. Але горкі вопыт мінулага, горкі ўрок падману і фарысейства, жыцця на палігоне жахлівых эксперыментаў і доследаў перад вачыма і ў душы штодня. І з кожным днём усё больш і больш падціскае сэрца трывога за лёс маіх унукаў і тваіх праўнукаў. Мы крывёю і слязьмі заплацілі за свой горкі жыццёвы вопыт. А ці здолеюць яны, новыя пакаленні, своечасова і выразна ўбачыць і зразумець, што замінала нам і замінае ім жыць шчасліва, ці здолеюць своечасова разгледзець твары драпежнікаў, зразумець іх падманныя словы і абяцанні, каб не скакаць пад лжывыя трэлі тоўстых дудак і тонкіх дудачак, колер і сутнасць якіх аднолькава чорныя?

З твайго фота, што пранёс ты праз фашысцкі палон, я зрабіў вялікі каляровы партрэт і аддаў яго свайму ўнуку Яўгену ў той дзень, калі ён скончыў восьмы клас, — гэтулькі ж было мне, калі бачыў цябе ў апошні раз. Гэта твой прадзед, сказаў я яму. Яўген доўга разглядаў партрэт, пагладжваў рукою, потым пяшчотна пацалаваў.

Я прыгарнуў Яўгенку да сябе, каб схаваць свае слёзы, што набеглі на вочы, і маліў, і прасіў неба, каб хлопцу ніколі не давялося развітвацца са сваім бацькам гэтак, як развіталіся мы з табой у той кляты нядзельны ранак, калі накаціла на нашу зямлю жахлівая бяда, якая зжэрла мільёны людскіх жыццяў і скалечыла мільёны лёсаў людскіх гэтак жа, як і твой уласны.

## 7

У сярэдзіне сакавіка нейкія нягоднікі высадзілі шыбу акна на тэрасе, пагаспадарылі ў нашым дачным дамку. Здаралася гэта і ў ранейшыя часы: за дваццаць гадоў, што існуе наша садова-агародняе таварыства, аніводнае, здаецца, лецішча не засталося па-за ўвагай начной басоты. Нашы шыбы вабілі яе чамусьці асабліва. Гэта ўжо пяты візіт, падвёў я ў думках сумны падлік нярадасных для мяне гасцяванняў, цвяроза разважыўшы, што красці ў дамку асабліва няма чаго. Навучаныя горкім вопытам, мы, як і іншыя дачнікі, вывозілі ўвосень больш-менш каштоўныя рэчы на гарадскую кватэру.

Першы візіт злыдняў, што адбыўся трынаццаць гадоў таму, уразіў нейкай далікатнасцю, падкрэсленай гаспадарлівасцю да кожнага дамка: акуратна выдраны штапік складваўся ў кутку падаконня, цалюткія шыбы адносілі пад яблыні на грады. Тры наступныя гасцяванні гэтым не вызначаліся: штапік крышылі і трушчылі, пабітае шкло кідалі ля падмурка. Гэткай жа паспешлівасцю вызначалася і дзейнасць у дамку, і з кожным разам колькасць шкляння на падлозе павялічвалася.

Па рэчах, што знікалі, мы і не бедавалі, тым больш, што вартасць іх была не дужа вялікая. Праўда, знікалі і рэліквіі, сэрцу дарагія. Але горшым, непрыемным было іншае: нечаканыя гасцяванні невядомых мярзотнікаў на доўгі час пакідалі ў душы адчуванне ўласнай неабароннасці, няздольнасці супроцьстаяць уварванню ў твой духоўны спакой, у той свет, які цешыў тваё вока і сэрца.

След, які пакінула басота ў сакавіцкія ночы, быў асабліва жорсткі і

гнюсны не толькі ў нашым дамку. Абрабаваны і знявечаны былі амаль два дзесяткі лецішчаў нашага садова-агародняга таварыства. Пазней стала вядома, што гэтак жа пацярпелі і нашы суседзі.

Усе ранейшыя разы ў дамок лезлі праз шыбу акна, якое загароджваў ад вуліцы зашклёны ганак. Цяпер жа лезлі, не тоячыся, у акно ад вуліцы, папярэдне высадзіўшы дзве шыбы, — пабітае шкло разляцелася і па зямлі, і па тэрасе, а разадраная штора лягла ў гразь каля падмурка. Калі я адчыніў дзверы, бітае шкло і белае шклянне посуду зарыпела пад нагамі пранізліва, нібыта застагнала ад болю жывая істота.

Люк на другі паверх быў адкінуты, і я ўзняўся па лесвіцы і, збянтэжаны, асеў на паліраваны сасновы корч, што прывалок некалі з лесу. Слаўнае седала атрымалася! Увечары глядзіш, на карчы седзячы, у ацямнелую высь, і шаты бяроз і соснаў узлеску здаюцца блізкімі, хоць рукой кратай, а пад ветрам мудрагеліста выгінаецца гнуткае голле, нібыта лашчыць шыбы акна. Цяпер я глядзеў на растрыбушаную кніжную шафу, перакуленыя скрыні пісьмовага стала, раскіданыя па падлозе кнігі, часопісы, сшыткі, газеты, злавесна заплямленыя адбіткамі брудных чаравікаў. Ля тоўстага карча выгнулася старая газета, з аднаго боку надарваная. Знаёмая назва артыкула «Наша заўтра ў нашым сёння», над якім я апантана працаваў, седзячы на шырокім гэтым карчы-крэсле, не толькі адразу кінулася ў вочы, але здзівіла і ўразіла незвычайна. Няўжо гэта пяць гадоў мінула з тае пары? Так, чатыры з хвосцікам адляцела з таго дня, калі я клаў на паперу свае развагі пра памылкі ў прароцтвах пана Далеса. Тады наўкола гэтага сасновага карча быў строгі парадак. А цяпер шурхалі ад ветру, што ўлятаў у разбітую шыбіну акна, старонкі кніг і часопісаў, пашкамутаных газет, раскіданых па падлозе, і адбіткі брудных падэшваў на паперы былі падобны на чорныя кіпцюры.

Я слухаў шалахценне паперы і чытаў тое, што было надрукавана на абрудзелай ад часу газетнай старонцы.

«Палову стагоддзя таму, калі на знявечанай «новым парадкам» Беларусі жанчыны, упрогшыся ў плуг, узорвалі здзірванелую за вайну глебу, каб пасеяць зерне жыцця і надзеі, калі ў гарадах і селішчах Нямеччыны, што таксама стагнала ад бяды і болю, раставаў трацілавы чад, а на берлінскіх вуліцах пагібельны ненажэрны метал знішчэння яшчэ збіраў сваю крывавую даніну, далёка за акіянам, у багатай і сытай краіне адзін разумны чалавек паслаў разумнаму кангрэсу свае разважанні аб рэалізацыі амерыканскай пасляваеннай дактрыны барацьбы з СССР.

Пісалася ўжо шмат аб тых прароцтвах. Але, каб глыбей да праўды дайсці, варта некаторыя з іх прыгадаць і паразважаць.

«Окончится война, кое-как все утрясется, устроится, и мы бросим все, что имеем, все золото, всю материальную мощь или ресурсы на одурачивание и оболванивание людей… Мы будем, таким образом, расшатывать поколение за поколением, мы будем браться за людей с детских, юношеских лет, будем всегда главную ставку делать на молодежь, станем разлагать, развращать ее. Посеяв там хаос, мы незаметно подменим их ценности на фальшивые и заставим их в эти фальшивые ценности верить. Как? Мы найдем своих единомышленников… своих союзников и помощников в самой России.

Эпизод за эпизодом будет разыгрываться грандиозная по масштабу трагедия самого непокорного на земле народа, окончательного, необратимого угасания его самосознания. Из литературы и искусства мы, напри-

мер, постепенно вытравим их социальную сущность, отучим, отобъем у них охоту заниматься изображением, исследованием, что ли, тех процессов, которые происходят в глубинах народных масс. Литература, театры и кино — все будет изображать и прославлять самые низменные человеческие чувства. Мы будем всячески поддерживать и поднимать так называемых художников, которые станут насаждать и вдалбливать в человеческое сознание культ секса, насилия, садизма, предательства — словом, всякой безнравственности. В управлении государством мы создадим хаос и неразбериху.

Мы будем незаметно, но активно и постоянно способствовать самодурству чиновников, взяточников, беспринципности… Честность и порядочность будут осмеиваться и никому не станут нужны, превратятся в пережиток прошлого… Хамство и наглость, ложь и обман, пьянство и наркомания, животный страх друг перед другом и беззастенчивость, предательство, национализм и вражду народов, прежде всего вражду и ненависть к русскому народу, — все это мы будем ловко и незаметно культивировать, все это расцветет махровым цветом…

И лишь немногие, очень немногие будут догадываться или даже понимать, что происходит на самом деле. Но таких людей мы поставим в беспомощное положение, превратим в посмешище: найдем способ их оболгать и объявить отбросами общества...»

Калі б у тым далёкім маі сорак пятага мне, салдату, які стаяў на прыступках абсмаленага рэйхстага з аўтаматам у руках, хто-небудзь паказаў гэтыя радкі — рука пана Далеса паклала іх на паперу яшчэ да таго дня, як быў падпісаны акт аб капітуляцыі гітлераўскай ваеннай машыны! — я б, напэўна, пасмяяўся на поўны голас, ад душы парагатаў. Якая, маўляў, лухта! Якая несусветная лухта!

Але сёння, болей як палову стагоддзя пасля Дня Перамогі, прароцтвы тыя зрабіліся злавеснай рэальнасцю; і тое, што і сапраўды «махровым цветом» цвіце на вялізнай прасторы былой вялізнай дзяржавы, дае насенне горкае, бедствы велізарныя, слёзы і галечу, агонь і кроў. Горкая і крыўдная гэтая праўда апаліла мільёны сэрцаў не толькі маёй бацькаўшчыны, але і яшчэ невядома да якой бяды падвяла ўсю зямную цывілізацыю.

Аўтар злавеснага майскага прароцтва ўзору сорак пятага года не ўлічыў, аднак, асаблівасць аднаго з асноўных, самага дзівоснага і дасюль вернага закона развіцця нацыі і грамадства. Набліжэнне смяротнай небяспекі нацыя прадчувае беспамылкова, дакладна і на мяжы крывавай бяды знаходзіць у сабе нейкія невядомыя, можа, і ёй самой, магутныя сілы, дасюль нявытлумачаную мудрасць і празарлівасць і бароніць сваё жыццё і сваю будучыню, будучыню бацькаўшчыны і шчасце сваіх дзяцей менавіта тым, што спараджае, як бы зазірнуўшы ў глыбіню пачварнага прадоння, гадуе і потым вылучае са свайго асяроддзя чалавека, які дзівосным чынам акумулюе ў сабе народную чысціню і народную мужнасць, імкненне захаваць сябе і сваю Радзіму, імкненне ўберагчы сваю зямлю, адвесці яе ад пагібельнай чорнай прорвы...»

Без малога пяць гадоў праляжала газета ў шуфлядзе дачнага пісьмовага стала, груваcткага, двухтумбовага, з шырокай шуфлядай у цэнтры і маленькімі доўгімі шуфлядачкамі ў кожнай паліраванай тумбе, што закрываецца тоўстымі, з клямкаю, дзверцамі, — непаўторны ўзор мэблі першых пасляваенных гадоў. Мой добры сусед мінскі — пухам яму зямелька! — падараваў яго мне, параіўшы трымаць у шуфлядках газеты: вельмі зручна,

маўляў, заўсёды пад рукою і ўзяць лёгка. Добрай душы чалавек, ён, вядома ж, не думаў пра тое, што і выкідаць тыя шуфлядачкі са стала таксама будзе нейкаму нягодніку зручна і лёгка.

Ладкуючы цяпер шуфлядачкі на ранейшае месца, я пад апошняй з іх убачыў сярод пашкамутаных запісных кніжак фотаздымак, заплямлены чорнымі пісягамі, — нехта з няпрошаных гасцей і на яго ступіў брудным ботам. Фотаздымак гэты зрабіў мой маскоўскі сябра неўзабаве пасля нашых блуканняў па Плошчы Незалежнасці халаднаватай восеньскай парою напярэдадні рэферэндуму: там я размаўляў тады з абаяльнай маладой жанчынай, і сябра гэты міг падлавіў — націснуў на бубачку маленькага, японскай вытворчасці, фотаапарата.

Сціраючы насоўкай чорныя пісягі з фотаздымка, я ўглядаўся ў цыганскае аблічча жанчыны, з якой болей мне сустрэцца не даводзілася, і са здзіўленнем адзначаў, што, аднойчы ўбачыўшы гэты твар, аніколі з іншым яго ўжо не зблытаеш.

Мой позірк у той восенькі надвячорак адразу выхапіў гэты твар з невялікага натоўпу пад бел-чырвона-белымі штандарамі. Натоўп той быў падобны на няроўны клін, што вастрыём выпаўзаў на плошчу, а шырокай бакавінай асядаў на тратуар, у які ўпіраецца доўгі скверык з роўнымі паласамі нізкага кустоўя, і ля яго, з правага боку стаяла, нібыта выплыўшы з далечы гадоў, маладая цыганка Раксана. Яна нешта даводзіла маладому хлопцу ў доўгім белым плашчы, пра што яны гамanілі мне не было чуваць, бо ўва мне ажылі словы варажбы, што ў памяці і дагэтуль, — варажбы дзіўнай і прароцкай... І сапрана напеўнае і ласкавае, поўнае даверу і спагады:

— Слухай Раксану, сокал ясны, яна толькі праўду гаворыць. Грошы — пыл. Толькі праўда пылам не зробіцца. Ручачку сваю сюды, на калені мае кладзі. Вочы мае позіркам сваім не турбуй: сабе ў душу глядзі, неба пільнуючыся. Памяці розуму, сокал, не давярай — яна лёгка схлусіць. І памяць сэрца людскога — таксама лгаць здатная. Толькі памяць рук людскіх не хлусіць. Памяць рук, што каханую галубілі, што дзіцёнка ўзнімалі на сваіх далонях, каб паглядаў той на гэты свет, паскудны ў свае прагнасці і дзівосны ў сваёй прыгажосці, калі сэрцам чыстым яго бярэш. А сэрца тваё чыстае: таму на руцэ лёс твой чысты бачу. Дзве труны ў твой дом пайшлі: адна адтуль, дзе сонца ўзыходзіць, другая з таго боку, дзе сонца садзіцца: крывёю яны пакроплены. І твая кроў лілася. Але небу была патрэба, каб на сваіх ножаньках дамоў вярнуўся, каб з галоўкай яснай. Бядуеш ты зараз крэпка, о-ох, бядуеш. Але бедаванне гэтае тваё і крупінкі святла, што з неба ліецца, нявартае. Пылам тое бедаванне пойдзе. А дарога твая чыстая. Доўгая дарога і светлая. І ў дзетак тваіх, і ўнукі па гэткай жа дарожцы пойдуць — сонца і ім усміхацца будзе. А паваротак на той дарозе процьма. І як бы тая дарога ні віляла — не азірайся: толькі наперад глядзі. А тое, што ззаду, — у сэрцы пакладзі і воку злому не адкрывай. Любіць цябе, сокал, крэпка будуць. І многа ты любові ў сваё сэрца пусціш. А тая любоў, на якую молішся, табе горачка поўнай мераю адважыць. Але ж яна, любоў тая, сябе па-дурному ўзвысіўшы, табе тваю долю шчасную на гэтую тваю далоньку сама й пакладзе...

Я вяртаўся тады з камандзіроўкі ў Каханавічы, дзе палонныя немцы адбудоўвалі спаленую ў блакаду вёску, якую пазней здымалі кінааператары, каб паказаць усяму свету перасяленне з апошніх зямлянак у новыя дамы, і чакаў цягнік на станцыі Дрыса, а побач з вакзалам у старым парку

былі шатры цыганскага табару, і там, пад разгалістым ясенем, прыгажуня-цыганка выцыганіла з мае кішэні апошнія рублі. Пазней, у цягніку, згадваючы вялікія цёмна-сінія, як добра выспелыя слівіны, вочы, чорныя, крута выгнутыя бровы, быццам з косці точаны нос, і пунцовыя, з гранатавым адценнем вусны, прыадкрытыя, як у Саскіі, якая стулілася на каленях вялікага мастака, я глядзеў на ўзлескі, што праплывалі за акном, і сэрца падціскала скруха, і я шчэ не ведаў, што чорная вестка пра труну з таго боку, «дзе сонца ўзыходзіць», ужо сунецца да нашай хаты...

Згадаўшы даўнюю варажбу, быў на міг ашаломлены дзівосным падабенствам маладой жанчыны з прыгажуняй Раксанай з цыганскага табару ў старым прывакзальным скверыку: мяне, быццам магнітам, пацягнула ў вір бязладных і бяздоказных спрэчак, што віравалі на плошчы.

— Як скажа народ, гэтак і будзе, шаноўная Паліна, — сказаў хлопец у модным плашчы, і, салютнуўшы правай рукою, саскочыў з тратуара, і тут жа натоўп праглынуў яго.

Я лоўка, як мне падалося, працягнуў думку, выказаную невядомым мне хлопцам. Сапраўды, сказаў я, няхай сам народ скажа сваё слова — на тое звычайна і робіцца рэферэндум. Галасаванне тайнае. І не разумею, чаго тыя, пад сцягамі, баяцца рэферэндуму?

— Тыя, пад сцягамі, не баяцца. А вось я — баюся. Бо заўтра ж, у панядзелак, буду за кратамі. Я — супраць Лукашэнкі. А ўсіх, хто супраць яго будзе на рэферэндуме галасаваць, ён на другі дзень — за краты...

Я не паспеў папытаць, хто ўбіў у прыгожую галоўку гэткую несусветчыну. Мой маскоўскі сябра злавіў нас у аб'ектыў свайго фотаапарата, і ў цёмна-сініх, як добра выспелыя слівіны, вачах адбіліся жах і туга, і з вуснаў зляцела скрушнае і абуранае:

— Не маеце права! Не маеце права! — яна ўзняла руку, затуліла твар далонню. — Спыніце фатаграфаванне. Не хачу!

Мой маскоўскі сябар папрасіў прабачэння, што фатаграфаваў без дазволу, паабяцаў даслаць фотаздымак, і даў Паліне сваю візітоўку. Свой нумар тэлефона пакінуў і я, папрасіўшы пазваніць пасля рэферэндуму: калі, маўляў, у панядзелак яе арыштуюць, дык і маскоўскія газеты пачнуць біць у званы, і воля ёй гарантавана.

Развіталіся мы на сяброўскай ноце. Цяпер, яшчэ раз цярнуўшы насоўкай фотаздымак, зроблены маскоўскім сябрам, нечакана заўважыў тое, што не кінулася ў вочы раней, — твар маладога вайскоўца ў правым кутку, за плячыма Паліны. Ці не Анатоль гэта, сын дзядзькі Васіля? Ды не, пляменнік мой жыве ў горадзе на Няве, па святах вялікіх тэлефануе. Не было яго ў тую восень у Мінску. І формы вайскоўца на ім ніколі не было.

Пра форму тую — быў час! — ён марыў.

Сярэднюю школу Анатоль скончыў паспяхова за два гады да смерці Сталіна. Усе хлопцы ягонага класа вырашылі аднадушна: паступаем у Ленінградскае вайскова-тэхнічнае вучылішча. Паехалі паступаць усе, апрача аднаго Анатоля, — не было патрэбнай характарыстыкі, якую рыхтаваў на кожнага абітурыента абком камсамола. Хлопец учарнеў ад крыўды: белая, як гаворыцца, варона сярод шчаслівых арлоў!

Кінуўшы ўсе свае рэдакцыйныя справы, я паляцеў ў абком. Загадчыка аддзела, які тыя характарыстыкі рыхтаваў, я ведаў няблага, і ён усё шчыра мне патлумачыў: асобы, якія ў час вайны жылі на тэрыторыі, што была пад нямецкай акупацыяй, у спецыяльныя вайсковыя вучылішчы не прымаюцца.

Усё ўва мне кіпела ад гневу. Хлопчык у гады акупацыі шчэ на гаршку сядзеў! Якім чынам ён з акупантамі мог быць звязаны?

Высакароднае маё абурэнне разбілася аб непахіснасць чыноўніка: інструкцыя, маўляў. Парушу яе — мая галава пакоціцца. Не чыя-небудзь...

Углядаўся ў аблічча невядомага, але дужа падобнага на Анатоля вайскоўца, і горыч тачыла душу. І яна, гэта горыч, мацнела і абвастралася, калі ладкаваў у шуфляды стала газеты і часопісы, блакноты розных гадоў і старонкі старых запісаў. Чые рукі вывернулі іх? Чые рукі раскідалі па падлозе кнігі і плямілі бруднымі падэшвамі? Не здзіўлюся, калі даведаюся, што гэта быў шкаляр, які шчэ не ўсвядоміў сутнасць бяды, што завісла над яго бацькаўшчынай, і якому абрыдла сядзенне за падручнікамі і якому далі пачак жавальнай гумкі за згоду пранесці па вуліцы былы паліцэйскі штандар і галёкаць словы, сэнс якіх яго зусім мала цікавіць, нешта накшталт таго, што, маўляў, далоў «чырвона-карычневых» альбо «не пойдзем у хамут да маскаля».

Так, той «хаос», аб якім марыў «прарок» узору сорак пятага года, не нараджаецца адразу ў глабальных памерах, не звальваецца з нябёсаў раптоўна, ён гадуецца мудрагелістымі філасофскімі разважаннямі, усё новымі пагрозамі, самымі рознымі хітрыкамі і спекуляцыямі, аднолькава, аднак, хцівымі, бессаромным і бязлітасным вытаптваннем каранёў мужнасці і слаўнага мінулага народа, знішчэннем сілавога поля духоўнасці, што нястомна ўзрошчвалі і пашыралі нашы продкі; і «хаос» гэты жахлівы тым асабліва, што замест навукі спасціжэння і асэнсавання грамадзянскай адказнасці ўсёпаглынаючае поле нікчэмнага і дробнага эгаізму рыхтуецца па-езуіцку тонка, складваецца паступова, з часцінак і непрыкметных на першы погляд, з дзеянняў кшталту самага рознага, але аднолькава разбуральных. Ведаю дакладна і тое, што чалавек, які крочыць па кнігах, грэбліва кінутых сабе пад ногі, сунецца да мэты падманнай, да прорвы, дзе няма нічога, апрача смярдзючай цемры.

Гэтыя думкі адольвалі, калі, так-сяк залатаўшы пабітыя шыбы кардонам, дыбаў да станцыі, а потым доўга сядзеў — на электрычку, якой разлічваў вярнуцца ў горад, спазніўся літаральна на нейкую хвілінку, — у канцы перона на рабрыстай лавачцы. Наступная электрычка была напалову пустая, але я не спяшаўся ў душны вагон — у тамбуры дыхалася лягчэй. На першым прыпынку, як толькі адчыніліся дзверы, пачала караскацца на прыступкі — цягнула добра напакаваную зялёную, з моднымі бліскучымі гаплікамі, сумку — маладая жанчына.

Дапамог ёй, празмерна ўвішна падхапіў сумку і з бакавой кішэні сумкі звалілася на падлогу тамбура газета, складзеная ў вузкую столку. Узняў яе і, абтрэсваючы і слухаючы словы падзякі, заміргаў ад здзіўлення — пазнаў модную, з рознаколерных квадрацікаў і ромбікаў скураную куртку, фасоніста насунутую на каштаваныя валасы берэтку, недаверліва звужаныя прыгожыя цёмна-сінія вочы. І — голас! З напеўным акцэнтам голас. Гэта яна, Паліна! Гэта з ёй мы з маім сябрам з Масквы гаманілі на плошчы напярэдадні рэферэндуму! Пазней не толькі чыста прафесійная цікаўнасць пацягнула мяне на плошчу — паверыў у жартоўнае абяцанне: «Калі на другі дзень Лукашэнка мяне не пасадзіць, дык на гэтым жа месцы і сустрэнемся...»

Цяпер на маім твары, відаць, была дужа ж выразная радасць, і позірк быў празмерна вывучальны, бо тут жа голас жанчыны набыў строгасць і непрыветнасць.

— А вы чаго ўтаропіліся? За дапамогу дзякую, — суха сказала яна, паправіла берэтку, зазірнула ў зашклёны верх шырокай дзверыны і ўзрадавалася. — О, дзякуй Богу, і сесці ёсць дзе...

Я пайшоў следам за ёю ў вагон і сеў насупраць, на вольнае месца ля акна. Працягнуў газетную столку, яна ўзяла яе, падзякавала, глядзела збянтэжана.

— Дык як там, за кратамі было? — спытаў я весела, радуючыся з таго, што збянтэжанасць на яе твары саступае месца цікаўнасці. — На другі дзень прыходзіў на плошчу і ўстрывожыўся. Няўжо Паліну і сапраўды пасадзілі, што супраць галасавала? І сябар мой маскоўскі, між іншым, таксама непакоіўся, тэлефанаваў: ці на волі там «мілая беларусачка»? А мне і адказаць не было чаго.

— О-о-ой! Гара з гарой, як кажуць, — на Палініным твары залунала прыветная і радасная ўсмешка. — Проста неверагодна! Гэта ж мы з вамі тады на плошчы гаманілі! Сапраўды, яго вялікасць выпадак!

Жартуючы, я зноў нагадаў даўнюю сустрэчу на плошчы. Няўжо прароцтва спраўдзілася і ёй давялоя патрапіць за краты?

Смеючыся, яна крутнула перад сабой газетную столку, нібыта адганяла ад сябе нейкую назолу:

— Якія краты, вы што? Я над тымі сваімі жахамі не аднойчы парагатала. Гэта ж дзіва, як пазнякоўская хэўра нам, даверлівым, галовы дурыла! Дзякуй Богу, паразумнела не толькі я адна. Людзі дапялі, што да чаго, гледзячы на іхнія варшаўскія ды амерыканскія гасцяванні. А Зянон той усё аніяк не сунімаецца. На дачу сёння ранкам сабралася, паштовую скрынку адкрыла — новая ўлётка бясплатная. На чарговую гадавіну волі клічуць. Дзень рэспублікі адзначаць. Якой рэспублікі? Той, якую народ не ствараў і ў якой яны не жывуць? Тады пад сцягам кайзераўскім цешыліся, потым пад гітлераўскімі штандарамі гулі вялі, цяпер пад натаўскім зверам волю нашай зямельцы зладзіць удумалі. І хочуць, каб я ім верыла? Дудкі! Вось, толькі сёння, у электрычцы, прачытала, — яна імкліва развінула газетную столку, торкнула пальцам у газетныя радкі, падкрэсленыя тоўстымі рыскамі. — Гэта ж каму сказаць! Рабуюць і не тояцца! «Мы добились того, что собирался сделать президент Трумэн с Советским Союзом посредством атомной бомбы. Правда, с одним существенным отличием — мы получили сырьевой придаток, не разрушенное бомбами государство… За четыре года мы и наши союзники получили различного стратегического сырья на 15 миллиардов долларов, сотни тонн золота, драгоценных камней. Под несуществующие проекты нам передали за ничтожно малые суммы свыше 20 тысяч тонн меди, почти 50 тысяч тонн алюминия, 2 тысячы тонн цезия, стронция и многое другое…» Гэта словы шаноўнага Клінтана. А даражэнькі Буш даводзіць татальнае разбурэнне да лагічнага канца — на месцы былой магутнай дзяржавы расквітнее белае Самалі. А вы чаго ўсміхаецеся?..

Я сказаў, што не магу ўтаймаваць радасць ад нечаканай сустрэчы, ад хвалявання, што выклікае зусім не новая для мяне думка пра непрадказальнасць выпадковасцей, з якіх, часцяком, і тчэцца ланцужок нашага ўласнага лёсу. Каб я не паехаў латаць пабітыя нягоднікамі шыбы нашага дачнага дамка, каб не спазніўся на электрычку, якой планаваў вярнуцца ў горад, каб не сеў у другі вагон наступнай і не стаяў у тамбуры нечаканай гэтай сустрэчы не адбылося б...

Тое, што я рабіў на дачы, уразіла Паліну болей ад усяго. Выяўляецца,

гэткія ж абставіны змусілі сёння ранкам выбрацца з хаты і яе — на іхнім дачным пасёлку таксама павіравала сатанінская хваля. І ўсё той жа «почырк» — пабітыя люстры і плафоны, пашкамутаныя кнігі і часопісы, патрушчаныя шыбы і посуд, жаданне знішчыць усё, што створана стараннай працай.

— Дужа ж пагана на душы, — прызналася яна, сумна ўзіраючыся ў чыстую вечаровую далеч за акном. — Шкада, вядома, рэчаў, што ўжо аніяк не вернеш. У мяне на дачы два кубачкі былі — памяць бабулі з дзедам. Яны тыя кубачкі ў вайну зберaглі: хата дымам пайшла, а кубачкі бабуля захавала. Мая дачушка, Зіначка, дужа з тых кубачкаў піць малако ўпадабала. Гэта ж даведаецца, дык плачу будзе... Але што гэтыя страты? Людзі не тое цяпер губляюць... А ўсё роўна плакала, шклянне тое збіраючы. І такая горыч на душы чорная. Сям'я і дзяржава жывуць па адных і тых жа законах даверу і згоды. Ты разумееш, бачыш, як бурацца гэтыя законы, як з д'ябальскай паслядоўнасцю спустошваюць тваё сэрца, атручваюць памяць аб усім светлым, што было ў тваім жыцці, нішчаць волю да супраціўлення, прывучаюць да ўласнае бездапаможнасці... Не цягніся, чалавеча, да светлага — яно табе не падуладна. З таго і рукі апускаюцца. Вось з чаго сэрца часцяком сушыць, вось з чаго кроіць душу горыч! Відаць, калі гэтай горычы вышэй галавы — тады і ляціць у прорву ўсё ў чалавеку і грамадстве. Мне ўсё часцей і часцей здаецца, што мы да гэтай знішчальнай мяжы ўсё бліжэй і бліжэй...

Слухаў гэтыя разважанні з дзіўным адчуваннем. Паліна нібыта паўтарала мае ўласныя думкі, што кроілі сэрца зусім нядаўна, калі сядзеў на адпаліраваным сасновым карчы ў мансардзе свайго дачнага дамка і глядзеў на растрыбушаныя шуфлядачкі пісьмовага стала. Зусім нечакана для самога сябе не падтрымаў гаворку спадарожніцы, не паспачуваў, а спытаў пра ўзрост яе дачкі. Яна дзіўна паглядзела на мяне, потым паведаміла, што на будучы год Зіначка пойдзе ў школу, што школа ў іх добрая, з музычным ухілам, і зусім блізенька — праз дарогу. Болей яна нічога паведаміць не паспела — сухі голас з дынаміка паведаміў, што электрапоезд прыбывае да месца прызначэння.

Калі выходзілі з вагона, наважыўся быў дапамагчы несці сумку. Але Паліна ад паслугі маёй адмовілася. Нічога цяжкога ў ёй няма, сказала, і я, ведаў, што гэта праўда. Але ў паспешлівасці, з якой яна зрабіла гэта, і ў інтанацыі голасу адчулася, што давер, уласцівы звычайна вагонным размовам незнаёмых людзей, скасаваны і вяртацца да яго патрэбы чалавек не мае; зроблена гэта было тактоўна, але рашуча і цвёрда.

На рагу вузкага скверыка, акаймаванага пазалетась прыгожай металічнай агароджай, сядзеў на чырвоным хатулі даўно няголены мужчына, у капелюшы, які, здавалася, трымаўся не на галаве, а на канцы жалейкі, прыціснутай абедзвюма рукамі да правай шчакі. Перад ім шарэў на асфальце вузкі белы футарал, у якім горбілася жменька грошай. Музыка, што спрабуе нешта зарабіць сваім майстэрствам у людным месцы, не навіна цяперашнім часам. Але не толькі ў паставе гэтага музыкі нейкая дзіўная адметнасць кінулася ў вочы: побач з ім знерухомела дзяўчынка, можа, гадоў пяці ці шасці ў чырвоным, з белымі палосамі, палітончыку, гэткага ж колеру боціках і вялікай чырвонай берэтцы — нібыта нейкі дадатак да чырвонага хатуля, на якім сядзеў музыка.

Я не заўважыў, калі ён прыклаў жалейку да вуснаў. У прыглушаным гармідары прывакзальнай плошчы жаласлівая і тонкая мелодыя загучала

раптоўна, тужлівай і трывожнай нотай. І дзяўчынка тут жа ажыла, рукавы, нібыта маленькія чырвоныя крылцы, пырхнулі ў паветры, а ножкі ў высокіх стракатых боціках пачалі крэсліць ля белага футарала немудрагелістыя танцавальныя колцы.

Паліна ішла ад мяне праваруч, і гукі жалейкі яе бы токам ударылі, яна здрыганулася, нахілілася, і сумка, якую яна несла ў левай руцэ, гупнула ў маю нагу. Я зыркнуў на маю спадарожніцу і быў здзіўлены зменай, што раптоўна адбылася з яе тварам, — белы, як крэйдай пасыпаны, і станчэлыя, дрыготкія вусны.

Ціхі, тужлівы і роспачны стогн зляцеў з гэтых вуснаў, скрыўленых нечаканым і раптоўным болем:

— Божа светны! Ірад гэты зноў за старое ўзяўся! Дзе, дзе мне сілы ўзяць!..

Не ведаю, пачула дзяўчынка гэтае ціхае адчайнае маленне альбо ўбачыла Паліну. Але яна імкліва кінулася да яе, учапілася ў руку, лягла грудзьмі на сумку і, як бы давячыся словамі, прасіпела: «Мамачка, мамачка, мамачка... Ён мяне зноў прымушае танчыць...»

На нейкі міг я аслупянеў, стаяў і глядзеў, агаломшаны, як Паліна падхапіла дачушку правай рукой, прыгарнула да сябе, і тая абшчаперыла яе шыю ручаняткамі. Яны імкліва дабеглі да трамвайнага прыпынку і паспелі ўскочыць у вагон, і дзверы тут жа зачыніліся, і трамвай рушыў з месца, і з-пад шырокай дугі пасыпаліся на дах, а потым імгненна расталі камячкі белага агню. Каціў па рэйках, аддаляўся трамвайны вагон, бакавіны якога былі размаляваны кідкай і незразумелай мне рэкламай, і тое, што давялося толькі што пачуць і пабачыць, асэнсаваць было цяжка.

Звінела, некаму жалілася жалейка, і я стаяў, слухаў, і шчымела сэрца, як шчымела штораз, калі даводзілася чуць дзівосную па танальнасці мелодыю, што можа спарадзіць толькі гэтая немудрагелістая музычная прылада, у якой заўжды жыве народная душа і неразгаданая журба.

Упершыню я пачуў жалейку ў сорак другім годзе, зімою, у вёсцы Завалынка, што па левы бок Дзвіны. У сялянскай хаце месціўся партызанскі шпіталь нашага атрада — разасланая на падлозе жытняя салома, засцеленая зрэбнай посцілкай. Мы ляжалі на ёй разам з Сяргеем, параненыя — мой сябар ўратаваў мяне ад смерці каля Глухога пераезда пад Полацкам. Кацярына, медсястра атрада, рабіла перавязкі звычайна ранкам. А ўвечары, калі сплывала за блізкі сасновы бор сонца, бялявая дачка гаспадыні на два гады маладзейшая за мяне, сарамлівая і палахлівая дзеўчынёха, брала ў рукі жалейку, і самотная мелодыя поўніла хату. У першы адвячорак, калі яна загучала, мне падалося, што за тонкай пераборкай ляжыць на ложку хворая Валя, і мама ёй нешта ціха спявае...

Сястра захварэла ў першую ваенную восень. Чырвоны мост немцы яшчэ не адбудавалі, машыны ішлі праз Палату па мелкаводдзі, ля старых абгарэлых паляў. Ужо гнала снег, каляіны ля берагоў былі гразкія, машына — доўгая высокая брызентавая фура — забуксавала, і немцы прымусілі ўсіх, каго злавілі паблізу, цягаць з вады каменне і гаціць дарогу. Валя першай трапіла ў тую рабочую каманду і ёй дасталося праз меру: лістапад яна пракачалася на ложку, дыбаць па хаце пачала толькі ў сярэдзіне снежня. Амаль кожны вечар мама ціха спявала Валі песні, седзячы каля яе на ложку, і часцяком слоў у тых песнях не было.

Імя бялявай дачкі гаспадыні хаты, дзе месціўся партызанскі шпіталь, было тое ж, што і ў маёй сястры. Сяргей ахрысціў яе па-свойму — Бяля-

начка, і ёй гэта падабалася. Я нават раўніва падумаў, што яна бярэ ў рукі жалейку толькі дзеля таго, каб узрадаваць майго сябра.

Мажліва, ад тых дзівосных мелодый, што гучалі ў хаце штовечар, дужа хутка загаіліся і мае раны, і раны майго партызанскага сябра, і атрад неўзабаве змяніў месца дыслакацыі. Вясною сорак трэцяга, падчас блакады Полацкага бору, Бяляначку скасілі кулі карнікаў, дымам пайшла і хата...

Другі раз у жыцці пачуў напеўную дзівосную народную мелодыю жалейкі ў адным з шырокіх падземных мінскіх пераходаў у канцы восені, калі праводзіў свайго маскоўскага сябра на цягнік і вяртаўся дахаты. Яна загучала, калі я адолеў прыступкі, што вялі ў падземны пераход на плошчы. Біла па вачах халодная пройма, выціскаючы з вока слязу. І я, ашаломлены, стаяў, слухаў, утаропіўшыся позіркам у станістую дзяўчыну, якая трымала ў руках прыгожую, гэткую ж, як у Бяляначкі, жалейку. Падалося на міг, што я не ў падземным пераходзе, а далёка ад яго, ад гэтых шырокіх прыступак, на якіх сядзіць жабрак з зашмальцаванай аблавушкай у руцэ, што гэта яна, дачка гаспадыні хаты ў Завалынцы...

Утрапенне было кароткае, бачыў, што не дзяўчына, а кабета гадоў пад сорак стаіць, прыхінуўшыся плячыма да мармуровай сцяны. Але пераліvы жалейкі былі тыя ж, што гучалі тады, болей за палову стагоддзя таму, у сялянскай хаце, ад якой і знаку не засталося. Калі аціхла жалейка, я падышоў да музыканткі. Маё захапленне майстэрствам выканання было адзначана лёгкім нахілам галавы. А вось як гэта зрабіць, каб запісаць на магнітафон дзівосную мелодыю? Праз гадзіну якую, скажам, падбягу. Буду слухаць і запісваць. Адказ быў катэгарычны і няўмольны: запісваць сваё гранне нікому не дазваляю. Касету купіць? Калі ласка, вунь там, у чалавека з аблавушкай.

Дарагаватая была касета. Але я набыў яе.

Цяпер тут, на плошчы, згадаўшы маленькую вёсачку на беразе Дзвіны з напеўнай назвай Завалынка, дзе была хата, у якой упершыню ў жыцці давялося пачуць, як спявае жалейка, згадаўшы халодны змрочны падземны пераход пад сталічнай плошчай, я нечакана падумаў пра тое, што светлая, нязгасная вера ў дабрыню няўмольна нараджаецца нават тады, калі жыць невыносна цяжка.

Мелодыя абарвалася на высокай, гаротна пранізлівай ноце, і я ўбачыў, што музыка, азіраецца па баках. Калі спявала жалейка, вочы ў яго былі заплюшчаныя, а цяпер яны шырока адкрыліся і тут жа незадаволена звузіліся.

— Зі-іна! Зіначка! Зноў схавалася, чортава кукла, — голас мужчыны прагучаў злосна і пагражальна. — Мы ж з табой дамовіліся, — ён ускочыў са свайго седала, зазірнуў нават за каменную агароджу скверыка, утаропіўся на мяне. — Тут дзяўчынка была. Боцікі, палітончык чырвоны...

Я палічыў неабходным сказаць пра тое, што бачыў. Мае словы яго не ўзрадавалі, ён неяк палахліва паклаў жалейку на жменьку грошай, зачыніў футарал і лёгка падхапіў седала, на якім толькі што сядзеў, і я ўбачыў, што гэта дзіцячая цацка — гумовы кракадзіл.

— Вы яе бацька? — спытаў я, гледзячы на доўгія спешчаныя пальцы мужчыны, што адкручвалі на гумовай галаве кракадзіла карычневы клапан. — Танчыла яна прыгожа. Але без ахвоты...

Вырываючыся з вузкага клапана засіпела паветра, і голас мужчыны таксама быў сіпаты:

— Вы інспектар па падатках? Не? Дык ідзіце сваёй дарогаю! Я чалавек вольны. Гэткага лёсу і вам жадаю. Ад'ю!

Зацiскаючы пад пахай абкручаную чырвоным пледам цацку, ён салютнуў белым футаралам i падыбаў усцяж агароджы скверыка ў бок трамвайнага прыпынку. Тужлiвы i роспачны стогн, што зляцеў з Палiнiных вуснаў, калi яна ўбачыла сваю дачку, адкрыў мне жахлiвую глыбiню людской бяды, i ад той, чужой, бяды зрабiлася мне вусцiшна.

Усцешылася сэрца адразу, калi адчынiлiся дзверы нашай кватэры, i я ўбачыў родныя твары, занепакоены i ўстрывожаны — жончын, i вясёлы, бесклапотны — гарэзнай Алесi, унучкi маёй блакiтнавокай. «Ну, як там, на дачы?» — амаль разам выдыхнулi яны. Аповед мой унучка падсумавала бесклапотна, з неабвержным аптымiзмам маладосцi: не бядуй, дзядуля, не рэчы нас набываюць, а мы iх. Ты лепей паслухай, як твая ўнучка ўрокi ў першаклашак праводзiла. Любата! Дзiвосны серыял!

Смеючыся, яна пачала расказваць пра тое, як пачалася яе вучэбная практыка. Алеся сёлета канчае каледж, i па праграме трынаццатага года навучання практычныя заняткi па мове абавязковыя. Яна рыхтавалася старанна, прывучаючы сябе да таго, што ўвойдзе ў клас сапраўднай настаўнiцай, якую першаклашкi будуць слухаць з павагай i захапленнем. А ў класе — гармiдар, нейкi кучаравы вiсус, карыстаючыся незвычайна багатым наборам ненарматыўнай лексiкi, запатрабаваў, закамандаваў сваiм дружбакам: што нам, маўляў, гэтую цётку слухаць, лепей у футбол паганяем.

Калi ўнучка паехала да мацi позна ўвечары, я ўключыў касету, што некалi набыў у падземным пераходзе. Жалiлася, звiнела жалейка, i я глядзеў праз акно на шэрыя камячкi качак, што пацiху сунулiся па цёмнай плынi Свiслачы, i адчуваў, як падцiскае сэрца знаёмы боль. Падраныя кнiгi, з адбiткамi брудных чаравiкаў, змучаны, ссiнелы ад холаду i болю тварык дзяўчынкi, якую бацька прымушае танчыць ля агароджы прывакзальнага скверыка, шматслойныя мацюкi, што завучана, не па складах, гучаць над школьнымi партамi — гэта маленькiя колцы аграмаднага пачварнага ланцуга, што абцiскае мой лёс, i лёс кожнага з нас, каб потымператварыцца ў гiсторыю.

Так, гiсторыя заўжды робiцца на вачах жывых. Але яна нiколi не бярэ пад увагу анiякiя пажаданнi, а толькi бязлiтасна рэгiструе бег часу: тую старонку, якую яна паклала на свае палiцы ў апошнюю хвiлiнку нашага Сёння, перарабiць, пагоршыць цi палепшыць нiкому не дадзена. Але з таго самага iмгнення, як пачаўся новы дзень, пачынаецца i новая старонка гiсторыi i яна, пакуль не пачнецца Учора, нам усiм i кожнаму паасобку падуладна: мы ўсе разам, i кожны з нас паасобку, наша агульная мужнасць i воля асабiстая, наш розум i парываннi, i парываннi кожнага, i розум кожнага з нас, разуменне асабiстай адказнасцi за лёс уласнай зямлi i цвёрдае жаданне ўзняць, пакласцi гэтую адказнасць у першую чаргу на свае ўласныя плечы — толькi гэта i нiшто iншае! — у сiле паўплываць на тое, якой будзе старонка нашага Сёння, што заўтра ўжо будзе гiсторыяй.

Пiшу гэта табе, мой родны, а ў думках мая маленькая Алесечка, якая толькi што, смеючыся, расказвала пра таго кучаравага вiсуса, што назапасiў процьму ненарматыўнай лексiкi i нi на шэлег павагi да старэйшага. Што чакае яе наперадзе? Можа, — калi, вядома, яна прачытае! — мая начная гаворка з табой дапаможа ёй, шырэйшым зробiць далягляд, дасць тое духоўнае апiрышча, без якога чалавек робiцца падобны на качку, якую цёмная плынь ракi няўмольна панесла ў неаглядную прастору ночы.

## 8

Кожны новы ліст да цябе, дарагі мой татка, усё цяжэй і цяжэй пісаць, бо за кожным словам, што кладзецца на паперу, ажываюць у памяці дні, якія аніяк не кладуцца ў слова, яны жывыя, яны сатканы з радасці і бяды, бяды не толькі маёй, але і тваёй, і тады адразу твае вочы на фотакартцы, і водгулле таго часу поўніць душу не толькі пры святле дня. Прачынаючыся ўначы, я зноў і зноў размаўляю з табою ў думках, але заўжды адчуванне такое, што ты побач і глядзіш на мяне.

Сёння — прачнуўся на досвітку — гэтае адчуванне было вельмі моцнае, я падхапіўся, а потым доўга ляжаў без сну, згадваючы ўсё тое, што давялося пережыць нядаўна ля Суйскага возера, на берагах Дзвіны і Палаты, дзе я ўчора блукаў.

Пасля таго, як мама паехала жыць да Валі, я шмат разоў прыязджаў у Полацк, нават цяжка зараз падлічыць, колькі разоў гэта было. Прыязджаў на партызанскія сустрэчы, рыбачыў з сябрамі, прыносіў кветкі на магілу бабулі і фарбаваў агароджу, за якой знайшлі супакой яна і дзядзька Васіль. Але аніводнага разу я не зайшоў у завулак, дзе стаіць наша хата. Чаму? Не ведаю. Сам не магу зразумець, не магу патлумачыць, што трымала мяне, чаму не ішлі туды ногі. Пасля таго, як хата перайшла ў чужыя рукі, нейкая мяжа паўстала паміж ёю і мной, якую адолець у мяне не ставала сілы, нейкі незразумелы жах пасяліўся ў душы, неўсвядомленае адчуванне: як толькі прайду родным завулкам, пастаўлю нагу на ганак, дык нешта адбудзецца жахлівае, непапраўнае.

Учора, па дарозе на замчышча, дзе высіцца дзівосная Сафійка, я спыніўся каля нашага завулка, але павярнуў не на яго, а ў другі бок, куды некалі ты павёў мяне, павёў у новы школьны свет. Зараз я табе аб усім раскажу, і ведаю, што зноў, нібыта па гарачым вугаллі прайдуся, адсякаючы ад сябе амаль усё сваё жыццё.

Горкую вестку пра тое, што непадалёк ад роднага Полацка мярзотныя вандалы новага сёння знявечылі мемарыял нашай партызанскай брыгады, які ў свой час пабудавалі людзі ў знак памяці пра мужнасць змагароў за волю і незалежнасць Бацькаўшчыны, зямлі беларускай, пачуў я вясною. Паведамілі мне: з бетонных прамавугольнікаў, што ўзвышаліся над замураваным палявым каменем схілам кургана, садралі бронзавыя брылі, на якіх былі адчаканены імёны і прозвішчы каманднага складу ўсіх шасці атрадаў. Зніклі амаль усе дзюралевыя пліты з прозвішчамі герояў, якіх вадзіў у баі праслаўлены партызанскі камбрыг Дзмітрый Васільевіч Цябут, і якія загінулі, мужна баронячы свой родны кут ад фашыстаў, — славутыя вароты ва Ушацка-Лепельскі партызанскі край.

Зашчымела сэрца, і я зразумеў: калі не кінуся туды, не пабачу ўсё на свае вочы, дык сэрца не вытрымае і разарвецца. Цяжка было ўсвядоміць, як жа не разарвалася сэрца ў тых вандалаў, якія білі кувалдаю па бронзавых і дзюралевых літарах, з якіх складаліся прозвішчы і імёны тых мужных герояў, якія аддалі жыццё, каб быў вольны і светлы родны край, каб цемра не запанавала над нашай Бацькаўшчынай, каб у любові і шчасці нараджаліся дзеці, каб нарадзіўся і той, чые рукі ўзняліся на справу мярзотную і ганебную.

Цяжка было ўсвядоміць тое ў дзень сонечны і цёплы, калі я глядзеў з вяршыні мемарыяла на возера па правы бок асфальтаванай шашы з Полацка на Мінск, якая агінае курган. У вочы, як крывавыя дзіды, упіраліся аго-

леныя тарцы бетонных прамавугольнікаў, з якіх, нібыта скуру з жывога цела, садралі бронзавыя, ад часу нібыта попельныя, рабрыстыя брылі.

Добра памятаю, што менавіта гэткага колеру былі тыя бронзавыя рабрыны, а літары імёнаў і прозвішчаў герояў, што не дажылі да светлага дня вызвалення, агняна свіціліся.

Цёплыя, прапахлыя аерам, хвалі салодкага паветра гнала з азёрнай роўнядзі, адтуль, дзе, як казаў паэт, «сінь гаёў за возера ўпала», а на душы было невыносна скрушна. Гэта ж сюды, на гэтае возера і на рэчачку, што з яго выцякае, прывёз ты перад вайною нас з Генкам парыбаліць. Былі з табой тады твае сябры-вайскоўцы, я не памятаю іхнія прозвішчы. Як жа слаўна спявалі вы ўначы каля вогнішча! А як жа пасмейваўся адзін з тваіх сяброў, гледзячы на нашы спробы злавіць вялізных ляшчоў з нешырокага моста! Глыбіня там ладная, але чыстая і асветленая сонцам вада здавалася празрыстай, і добра было відаць кожны каменьчык і травінку на дне і здаравенных ляшчоў, што плавалі каля зялёных ад цвілі паляў. Мы ляжалі на дошках моста, запусціўшы вітыя з конскага воласу лескі ў ваду, а ляшчы грэбліва адпіхвалі насамі прынаду на кручках. Два ляшчы з тоўстымі чорнымі спінамі дык проста здзекаваліся: адзін таўхне чарвяка на кручку носам, а другі па ім хвастом — ма-ахель! Да слёз было крыўдна: аніводнага ляшча ў той ранак мы не ўлавілі. Затое якіх акунёў-гарбылёў цягалі з віра за масточкам! Вуды гнуліся, але аніводная не падвяла: за кожнай паклёўкаю — здабыча. Акунёвая луска вясёлкава зіхацела на ранішнім сонцы, калі акуні-гарбылі падскоквалі на роснай траве. І сябар твой, які толькі што шпількі нам падпускаў, прызнаў наша ўмельства: класныя, маўляў, рыбакі! Бяру вас у сваю палкавую разведку!

Праз тры гады пасля таго ранку грымнула вайна.

Ля той рэчкі ўлетку сорак трэцяга наша партызанская брыгада вяла жорсткія бойкі. У першы дзень баёў карнікі наступалі дужа нахабна і наляцелі на абарону амаль франтавую: акопы ў поўны профіль, дбайна замаскаваныя на флангах два «Максімы». Фашысты ўцякалі, пакінуўшы забітых на полі бою. Трафеі партызанскія былі ўнушальныя. У кішэні фрэнча аднаго забітага знайшлі ліст да жонкі, салдат напісаў яго і не паспеў адправіць. Ён як бы прадбачыў, што жывым з вайны не вернецца, і пісаў жонцы пра адкрыццё, зробленае ў далечыні ад роднага дому: самае горкае, маўляў, для салдата — памерці на чужой зямлі, пакласціся ў дол, аніякай мецінкаю для родных і блізкіх людзей не пазначаны.

Не памятаю прозвішча таго салдата, але імя ў памяці — Курт. Не ведаю лёс таго ліста. Але яго не знішчылі, разам з данясеннямі аб баявых дзеяннях тое пісьмо было адпраўлена ў штаб брыгады. Адтуль, відаць, з іншымі дакументамі яно пайшло ў Беларускі штаб партызанскага руху — наш аэрадром каля Гомлі працаваў у той час добра і самалёты з-за лініі фронту прылятаці даволі часта. Мажліва, ліст таго Курта і зараз ляжыць у якой-небудзь папцы багатага партызанскага архіва.

Мой добры сябра па падрыўной групе, масквіч Коля Паўлаў, няблага ведаў нямецкую мову і прачытаў ліст, седзячы на брустверы акопа. А мы ляжалі на траве, густа пакропленай чорнымі плямамі, што пакінулі фашысцкія міны, і слухалі, і ў кожнага ў галаве былі свае думкі. Кулямётчык Генадзь Прылоўскі, які сваім «Дзегцяром» карыстаўся як аўтаматам, прыўзняўся — замінала яму каляная дзяга, што таксама была трафеем гэтага бою. Пачаў перастаўляць шэрую дзюралевую спражку з надпісам і прамовіў, нібыта нам усім даводзячы:

— «Гот мит унз»... З намі Бог, значыцца. Не-е-е! Бог заўжды з тымі, хто зямельку родную бароніць...

Я міжвольна паправіў твой камсастаўскі рэмень з пяцікутнай зоркай на спражцы. У партызанскі атрад я прыйшоў, падпяразаны ім, а на плячы была твая навюсенькая палявая сумка са светла-карычневай скуры. Камандзір атрада забраў яе сабе, сказаўшы, што «рядовому партизану не положено». У адным з начных баёў на чыгунцы ўзімку сорак другога яна ўратавала яму жыццё — фашысцкая куля трапіла ў металёвае вечка, зашпіленае гэтакай жа зашчапкай. Пазней, удзень ужо, ён сказаў мне: «Бацьку твайму за планшэт гэты ягоны дзве пляшкі пастаўлю пры сустрэчы». Ён зрабіў бы гэта — шчасліва перажыў ваеннае ліха. Але сустрэцца вам, на вялікі жаль, не давялося...

Коля Паўлаў — нібыта ўсё тое ўчора было! — доўга трымаў ліст ў руцэ, потым паклаў у пажмаканы карычневы канверт, на якім не вельмі выразна быў пазначаны адрас: ляжаў, відаць, у кішэні з таго дня, як пачаліся блакадныя баі.

Праз паўгода Коля Паўлаў павёў нашу групу на баявое заданне каля чыгуначнай станцыі Загацце. Уначы хлопцы прывезлі яго на розвалках да штабной хаты ў Бабынічах — там тады стаяў наш атрад. Я прыбег у штаб, абдымаў забітага сябра і горка плакаў... Мне і сёння часцяком здаецца, што тая клятая фашысцкая куля была паслана мне, але трапіла ў ягоныя грудзі, бо ён быў у тую ноч на маім месцы.

Яго пахавалі ў сонечны зімовы дзень на пагорку каля Бабыніцкага возера — у цэнтры кветкавай клумбы, па левы бок ад уваходу ў драўляны будынак вясковай бальніцы... За труной, следам за партызанамі, ішлі ўсе жыхары вёскі...

У той жа дзень мы, камсамольцы атрада, склалі ліст ягонай маці ў Маскву. Побач са словамі смутку і спачування ішлі словы шчырай партызанскай падзякі рускай жанчыне, маці за тое, што яна нарадзіла і выхавала мужнага салдата, сапраўднага героя, які бараніў беларускую зямлю гэтак жа, як бароніць бацька хату сваіх дзяцей...

Ля белай пліты, якой пазначана на Кургане Памяці месца, дзе ляжыць у зямлі Пасланне нашчадкам, нарадзілася ў маёй галаве думка, што і зараз здаецца мне слушнай. Мабыць, варта было б, каб у той капсуле, дзе ляжыць Пасланне нашчадкам, ляжаў і партызанскі ліст да маці масквіча Колі Паўлава, бацьку якога агонь вайны спаліў таксама на зямлі Беларусі, і каб нашчадкі той ліст прачыталі...

Да гэтае даты засталося не вельмі і шмат: болей за пяцьдзесят сем гадочкаў у нас ужо за плячыма. Так што да таго дня, калі новыя пакаленні дастануць з зямлі той запавет, засталося меней, чым ужо адляцела на неўміручыя старонкі гісторыі гэтага азёрнага краю і гісторыі ўсей нашай роднай бацькаўшчыны — толькі чатыры дзесяткі гадоў. Дужа ж вялікі і дужа ж малы час. Вялікі для людзей майго пакалення, якому не суджана пабачыць на свае ўласныя вочы той радасны дзень. І дужа ж малы для тых, хто нарадзіўся ўчора, хто нарадзіўся сёння, хто народзіцца заўтра, малы для ўсіх тых людзей, што прыйдуць сюды на Курган улетку дзве тысячы сорак чацвёртага года і прачытаюць зварот да жывых, слова тых мужных змагароў, што не шкадавалі свайго жыцця, аддавалі яго ў імя іхняга нараджэння.

І новы боль сціскаў сэрца ад думкі, што ўпарта плішчылася ў маю сівую галаву: а ці не здарыцца так, што за будучыя гадочкі з кургана на-

роднай славы гэтак жа, як зніклі бронзавыя брылі з прозвішчамі камандзіраў і камісараў партызанскіх атрадаў, як зніклі попельнага колеру дзюралевыя пліты з імёнамі народных мсціўцаў, герояў, якія лічылі жыццё Радзімы даражэйшым за сваё ўласнае жыццё, бясследна знікнуць і пліткі прыступак на Курган, і чатырохгранная стэла на яго яго вяршыні, на бакавінах якой выбіты на мармуры кароткія. простыя словы: «Яны мужна змагаліся за сваю бацькаўшчыну і перамаглі»?

Да болю ў вачах узіраўся ў густую сінечу, што трымцела ўдалечыні над берагам Суі, дзе некалі ля начнога вогнішча спяваў ты са сваімі сябрамі дзівосныя песні, а пазней я, твой сын, са сваімі партызанскімі сябрамі адбіваў атакі фашысцкіх карнікаў, углядаўся, нібыта там, у боскай сінечы, за далёкімі і бела-белымі, як са снегу злепленымі, тулягамі, што завіслі над азёрнай роўняддзю, таіўся адказ на гэтае горкае пытанне, што вярэдзіла не толькі маё сэрца. Але там не было адказу.

Там, удалечыні, нібыта ахоўваючы бялюткія тулягі, кружляла ў празрыстай сінечы, ані не варушачы крыламі, прыгожая вялікая птушка, і я адразу пазнаў яе — беркут. Гэтак жа некалі за клёнамі бабулінага саду кругліў над Палатой наш гадаванец.

Аднойчы вясною ты прынёс з Экімані птушаня, што даў табе знаёмы ляснік. Гадуйце, сказаў ты нам з Генкам, беркут — птушка няпростая: во-о крылы будуць. І шырока развёў мае рукі, паказваючы, якія гэта будуць крылы. Арлом будзе лётаць!

Спраўдзіліся твае словы: гэткія і былі крылы ў беркута, якога мы выгадавалі. Ён узлятаў над нашымі ясенямі, набіраў вышыню і доўга кружляў над садам, над рэчкай, а потым ляцеў у бок Дзвіны і знікаў, а пад вечар вяртаўся, зноў кругліў над нашым садам і, прыгожа спланіраваўшы над шатамі клёнаў, садзіўся на парэнчы тэрасы і глядзеў немігатлівымі блішчастымі вачыма. Я размаўляў з ім, і ён разяўляў загнутую ўніз дзюбу, і мне здавалася, што ён разумее кожнае маё слова.

Увосень наш гадаванец знік. Ты ўсяляк супакойваў нас: да сваіх сяброў, маўляў, паляцеў. Праз год мы выпадкова дазналіся, што нашага беркута застрэліў нейкі недалуга-паляўнічы з Пагіршчыны.

Ёсць нейкая дзіўная асаблівасць у паводзінах гэтай прыгожай, вельмі асцярожнай і кемлівай птушкі: яна заўжды, невядома адкуль, прыляціць, калі людзі збіраюцца гуртам ці працуюць на полі.

Вось і зараз прыплыў адтуль, з сінечы над возерам, ніжэй апусціўся над курганам, і раптам крута набраў ранейшую вышыню, нібыта спалохаўся зладзейства, што нарабілі тут нелюдзі з чорнымі душамі, і на міг знерухомеў, а потым зноў пачаў кружляць, падставіўшы нерухомыя крылы паветраным хвалям.

У тым далёкім сорак трэцім, апаўдня, калі аціх бой, беркут доўга кружляў над возерам, а сюды, да схіла кургана, дзе абгарэла ад выбухаў мін трава і ў снарадных варонках ляжалі яшчэ не прысыпаныя зямлёй гітлераўцы, ён не наблізіўся. А раніцою над вясковымі могілкамі, дзе хавалі забітых народных мсціўцаў, доўга-доўга кружлялі ў нябеснай высі дзве прыгожыя птушкі.

Бачыў я гэтых птушак і налета, вясною, над полем, дзе мы шчыравалі на пасадцы бульбы. Новая і самая крывавая блакада азёрнага партызанскага краю набірала жахлівы разгон, а тут, бліжэй да Дзвіны, яшчэ быў адносны зацішак, і атрады брыгады выконвалі строгую дырэктыву падпольнага райкома: усе партызанскія коні і не занятыя ў баявых дзеяннях узводы —

на пасяўную. Нашаму атраду дасталося поле каля Вуглоў, і камандзір атрада паставіў у плуг нават свайго камандзірскага каня, а мы гэтак уляглі ў работу, што ўрабілі свае загоны за палову дня. Стомленыя коні скублі маладую травіцу каля ручая, за якім ільснілася на сонцы густая рунь — увосень сорак трэцяга жыта тут сеяў наш гаспадарчы ўзвод, — а мы адпачывалі пад старымі вольхамі і слухалі, як Іван Храпуненка задумліва выводзіць песню, нібыта даверліва гаворыць з тым зялёным загонам, шчодра абласканым сонцам:

Зялёнае поле,
Зялёнае поле!
Зялёнае поле,
Чаго ж ты шуміш?..

Недзе ля Ушачы раз-пораз грымелі выбухі, а тут, над тым зялёным загонам азімага жыта, над блішчастымі скібамі свежаўзаранай зямлі, што схавалі пад сабой не дужа буйныя, з белымі парасткамі бульбіны, высока ў небе плаўна кружлялі два беркуты.

Цяпер беркут быў адзіны, у чыстай прасторы неба выразна акрэсліваліся ягоныя магутныя крылы, і нерухомай была ганарлівая галава, скіраваная ў бок сонца.

Да Сцяны Памяці клаліся вянкі, перавітыя каляровымі стужкамі, гучалі палымяныя словы прамоўцаў, і ў кароткія імгненні цішыні з блізкай густой сцяны чароту, нібыта з нетутэйшага свету, даносілася ціхае крэканне дзікіх качак.

Я ўжо ведаў, што па факце вандалізму на Кургане Памяці ўзбуджана крымінальная справа, што кіраўніцтва раёна падтрымала рашэнне сельсавета аднавіць мемарыял, што пліты, якія вандалы не паспелі сцягнуць, будуць захаваны, як узор, як рэліквія, а імёны герояў аднoўлены ў матэрыялах сучасных, з каляровага пластыку, які і глядзіцца добра, і марозу, спёкі не баіцца. З цягам часу, калі пабагацее дзяржава, гэтыя імёны будуць адліты з самага дарагога металу — золата на самым прыгожым мармуры.

Пра гэта гаварылі і мясцовае начальства, і ветэраны, і я верыў у тое, што гэтак яно і будзе неўзабаве, і ад сэрца пакрысе адплываў боль, які жыў у ім невыводна з таго дня, калі сумная вестка пра чорныя справы вандалаў нашага Сёння даляцела да мяне ў Мінск.

Але цяжкі сум па-ранейшаму цiснуў душу.

У памяці міжвольна ажывалі шчырыя і радасныя сустрэчы народных мсціўцаў тут, каля Кургана Памяці, што праходзілі звычайна, як і цяпер, у дзень вызвалення. І звычайна да гэтага святога дня мілая і абаяльная жанчына, Алена Васільеўна Бародзіч, былы старшыня сельсавета ў Гомлі — жывая легенда гэтага азёрнага краю! — пякла на кляновых лісцінах боханы дзівоснага жытняку, боскі водар якога, здавалася, струменіць кожная былінка на пакатых схілах Кургана.

На асфальтаванай пляцоўцы за шашой у тыя часы было поўна машын: з розных куткоў вялікай нашай дзяржавы — з Масквы, Ленінграда, Кіева і іншых гарадоў — прыязджалі не толькі тыя, хто дапамагаў беларусам бараніць ад чужынца родны край, але сыны і дочкі іх, унукі і родзічы. Цяпер жа хапіла адной машыны, каб прывезці на свята былых салдат і народных мсціўцаў з суседняга сельсавета, з саўгаса ў Тураўлі.

Бязлітасны час няўмольна падводзіць свае рахункі.

Калі выступаў мой партызанскі сябар Васіль Вялюга, з якім мы былі ў адным атрадзе і які потым быў тут, у Гомлі, дырэктарам мясцовай школы,

я нечакана здрыгануўся ад слоў, што зляцелі з ягоных вуснаў. Жывымі не засталіся аніводзін камандзір атрада, не кажучы пра штаб брыгады, аніводзін камісар, аніводзін начальнік штаба, аніводзін намеснік камандзіра атрада па камсамоле, чые імёны былі выбіты на бронзавых брылях мемарыяла. Жывых з нашага атрада ўжо няма аніводнага камандзіра роты, узвода, застаўся толькі адзін камандзір падрыўной групы.

І калі папрасілі мяне сказаць слова ў знак памяці пра народных мсціўцаў, што ляжаць у зямлі і не бачаць, што светлы дзень вызвалення зноў крочыць па роднай вольнай зямлі, я нечакана заўважыў, што сінеча гаёў за возерам, дзе некалі былі нашы партызанскія акопы, неяк вясёлкава расплываецца — слязіна міжвольна выкацілася з маіх вачэй. Гарачае сонца высушыла яе, і я адчуў, як дрыжыць мой голас ад гневу, калі пачаў казаць пра нелюдзяў, якія нішчылі ўначы дзюралевыя пліты з імёнамі мёртвых герояў. Раней, калі мы збіраліся тут на свята вызвалення, сонечныя промні адбіваліся ад бронзавых брылёў, і кожны з нас адчуваў гаючую цеплыню, а цяпер з белых тарцоў бетонных прамавугольнікаў, нібыта сцюдзёная пройма біла ў плечы, і я маліў неба, каб яно абрынула сваю кару на тых двухногіх пацукоў, што намыслілі скрышыць славу людскую, веліч і мужнасць герояў, прасіў абрынуць свой гнеў на галовы вандалаў, якія ўзнялі руку на святыні народныя. Я не зычыў ім смерці, а толькі маліў неба шчыра і ад душы зрабіць так, каб штораз з той чаркі, якую яны, тыя вандалы, набудуць за грошы, што выручаць, прадаўшы святы дзюраль і святую бронзу, гучалі галасы тых, чые імёны некалі былі выбіты на каляровым метале:

голас масквіча Колі Паўлава, якому ўзімку сорак трэцяга фашысцкая разрыўная куля трапіла амаль пад сэрца;

голас украінца Леаніда Запарожца, якога фашысты параненага захапілі ў палон, дзіка катавалі і павесілі на станцыі Загацце;

голас Хведара Куляша, дзівоснага хлопца з вёскі Ліцвінава, што ля Полацкага бору. Паранены ў маі сорак чацвёртага — фашысцкай мінай адарвала абедзве нагі, — калі атрад прарываўся з блакады каля Матырынскага лесу, ён, сцякаючы крывёю, прасіў-маліў нас, жывых: «Гранаты мне, хлопцы, пакіньце, я прыкрыю вас. А вы наперад прарывайцеся....»

Гэта ўсё хлопцы з нашай падрыўной групы, і мы прарваліся тады з блакаднага кола, і гранаты, якія пакінулі Хведару Куляшу, магчыма, ураталі не толькі мяне...

Калі ты можаш, небачка, прасіў-маліў я сонечную высь над Курганам Славы і возерам Суйскім, і возерам Зашчаты, што падступае да мемарыяла з правага боку, зрабі так, каб тыя вандалы прачыналіся сярод ночы ад водгулля выбухаў гранат, якія кідаў пад ногі фашыстам мой сябар Хведар Кулеш, — прыгожы кучаравы беларус, якому ў тую вясну было няпоўных васемнаццаць... Калі ты можаш, небачка, прасіў-маліў я, зрабі так, каб рэха галасоў, тыя перадсмяротныя словы, што зрываліся з акрываўленых, засмяглых вуснаў сотняў і тысяч герояў у апошні міг іхняга мужнага жыцця, штодня гучалі ў вушах вандалаў знявагай і праклёнам...

Удзельнікі мітынгу ля Кургана Памяці паклалі потым кветкі да помніка героям у цэнтры пасёлка, побач з будынкам, мемарыяльная дошка на якім сведчыць, што тут у гады вайны месціўся штаб партызанскай брыгады. Кветкі ляглі і да помніка, што сведчыць яшчэ пра адно злачынства фашысцкіх захопнікаў, — ён непадалёк ад цэнтра Гомлі, на пясчаным касагоры каля возера. Тут гітлераўцы расстралялі ў сорак першым усіх

габрэяў пасёлка — маладых і старых жанчын, нямоглых дзядоў і малых дзетак — усіх пад качалку, у адну пясчаную яміну.

У будынку сельскага Дома культуры быў зладжаны канцэрт мастацкай самадзейнасці. Удзельнікам яго, у асноўным гадаванцам мясцовай школы, дружна апладзіравалі не толькі ветэраны, але і кожны, хто сядзеў у зале. І было за што! І харэаграфічныя нумары, і спевы, і мастацкае чытанне — не сорамна выводзіць на якую хочаш сталічную сцэну. Ды і яна, сталічная сцэна, можа яшчэ і пазайздросціць!

На міг змружыў вочы і выплыў з памяці іншы канцэрт, што зладзіўся ўзімку сорак трэцяга непадалёк ад Гомлі ў хаце Міканорыхі — самай вялікай і прасторнай у Бабынічах. Коля Паўлаў — пісаў я ўжо табе аб ім — быў там завадатарам. Ён разам з бацькам у сорак першым пайшоў у маскоўскае апалчэнне, абодва былі паранены, трапілі ў палон. Колеў бацька загінуў у Баравухскім лагеры, а яму ўдалося ўцячы і адшукаць «палкоўніка Жарава» — гэтак звалі на ўсім Падзвінні камандзіра нашага атрада Пятра Кісялёва. Звычайна мы з Паўлавым стаўлялі міны на чыгунцы — жалезныя нервы, вытрымка і кемлівасць гэтага хлопца здзіўлялі ўсіх нас. І яшчэ — у яго быў прыгожы голас. А Генадзь Прылоўскі добра іграў на гітары. Яны і падбілі нашу групу на той канцэрт.

Рыхтаваліся, вядома ж. У праграме: мастацкае чытанне, маленькая сцэнка пра фюрэра, які едзе па беларускай чыгунцы, спевы... І вось — канцэрт. Ад рагатага вялікага фікуса ў кутку да форткі акна нацягнута стракатая коўдра — сцэна. Слухачоў і гледачоў, як селядцоў у бочцы. Коўдра тая ад воплескаў і патрабавальных воклічаў паўтарыць нумары напінался ветразем.

Коля Паўлаў быў на вышыні недасягальнай. Ён змогся, паўтараючы на «біс» агульнавядомую і вельмі папулярную ў гады вайны песню «Синий платочек», перарobленую, вядома ж, у партызанскім краі на жартоўны лад.

Синенький грязный платочек
Фриц посылает домой.
И между строчек — несколько точек:
Дескать, дела — ой-е-ей.
Лежим, бежим
Мы по просторам чужим…

Скарга, адным словам, акупанта на свой горкі салдацкі лёс.

Пагудка пра канцэрт дайшла да штаба брыгады, ініцыятыва была ўхвалена, і мы рыхтавалі новую праграму. Але замест новага канцэрта нам давялося — пісаў я табе пра тое — хаваць слаўнага маскоўскага хлопца на беразе беларускага возера...

Я слухаў цяпер дзівосна чысціні маладыя галасы, глядзеў на прыгожыя строі маладых танцораў і танцорак, сачыў замілавана за пластычнымі рухамі маладых рук, і сэрца лагодзіла, усцешвала радасць: гэтыя рукі генетычна запраграмаваны на дабрыню, прыгажосць і каханне, гэта рукі людзей, што кладуць кветкі да вялікіх і малых абеліскаў, якіх шмат на нашай зямельцы беларускай; гэтыя рукі будуць абдымаць каханых, люляць сваіх дзетак, што народзяцца ў каханні і шчасці, будуць вучыць іх любові да роднага краю, любові да славы дзядоў і бацькоў, навучаць грэбліва глядзець на пацучыныя сцежкі, па якіх у цемры ночы, баючыся светлага дня, па-бандыцку, з кувалдамі ў руках шныраюць вандалы чужой і ўласнай гадоўлі.

Пасля канцэрта добрая гаворка працягвалася за шчодрым бяседным сталом, а пазней і на вуліцы. Маладыя дзяўчаты вынеслі развітальную

чарку, граў гармонік, і Нічыпар Аляксеевіч Бабіч, высокі, мажны ў плячах, з тварам карычневым ад загару — мне і дагэтуль не верыцца, што яму дзевяноста пяць гадочкаў! — даводзіў старшыні саўгаса Мікалаю Грышчанку ўпарта, голасам бадзёрым і ўпэўненым:

— Ды пракосу, старшыня, я не скрыўлю, шчэ і малады каторы палюбуецца. Толькі з поля сянца выхапіць цяжкавата. Ты тэхніку, Фёдаравіч, глядзі. І на раён цісні, каб саляркі было, колькі трэба. Тады поле ўпарадкуеш, як мае быць. Мой бацька даўней як казаў? Калі працуеш, дак не прападзеш!..

Слухаў шчырую гаворку ветэрана, глядзеў на яго моцныя рукі з павагай і захапленнем. Колькі працы перавярнулі яны на сваім вяку! А колькі пабачылі вочы чалавека, за плячыма ў якога амаль поўнае стагоддзе! І твае ж, твае словы ён паўтарыў! Я іх ад цябе пачуў!..

Глядзеў на рукі гэтага амаль стогадовага асілка, а перад вачыма былі твае, мой дарагі татка, рукі!.. Табе ішоў толькі сорак дзевяты, калі неба забрала цябе. А каб ты пражыў хаця б яшчэ палову гэтых гадочкаў! Колькі б яшчэ дабрыні пакінуў ты на гэтай зямельцы!..

Аднойчы ты ўзяў нас з Генкам на падсобную гаспадарку вайсковай часці, што месцілася ў Экімані, па левы бок Дзвіны. А гаспадарка тая была на правым беразе, за чыгункай з Полацка на Рыгу, непадалёк ад Дрэтуні. Мы ехалі туды ў кузаве палутаркі, сярод мяхоў, напакаваных галетамі, — іх везлі на ферму. Вайсковая санстанцыя знайшла ў тых галетах нейкіх чарвячкоў і вынесла строгі прысуд: для салдацкага ўжытку ані грама, толькі на гаспадарчыя патрэбы. Мы развязалі адзін мех — вельмі ж смачны водар струменілі тыя вялізныя шэрыя мяхі. Галета — тоўсценькі жоўценькі прамавугольнік з палоскамі, над якімі мецінкі, быццам відэльцам паторкана. Мама, калі пякла на свята пячэнне, гэтак і рабіла: паторкае спачатку відэльцам, а потым — у печ. І пах ад тых галет быў гэткі ж зваблівы. Разламалі мы з Генкам адну галеціну, уважна вывучылі. Дзе тут нейкія чарвякі? Ніякіх і блізка няма чарвякоў. А на смак?.. У-ух і смакоцце! Калі ў яблычку — гэта мы ведалі добра! — чарвячок, дык ён сакаўнейшы і смачнейшы, ніж зялёны! Тое ж, вядома, і з галетамі гэтымі. Адну, другую, трэцюю паглядзелі — чысценькія. І якія ж салодкія!..

Два чырвонаармейцы, якія загружалі машыну ў Экімані, соладка па- хропвалі, а мы раскашавалі. Мы не толькі хрумсталі дзівосныя на смак галеты, але і пакавалі іх у кішэні — на запас, і, калі прыехалі ў Дрэтунь, адзін з мяхоў добра патанеў.

Ледзь машына спынілася, да яе падбег мажны, чорнабароды мужчына — пазней мы даведаліся, што гэта старшыня калгаса, на зямлі якога была вайсковая падсобная гаспадарка, — радасна парукаўся з табою, потым сказаў, трымаючы руку на тваім плячы:

— Неба цябе, Якаўлевіч, паслала сёння да мяне. Выручай, дарагі! За мной, ты ж мяне ведаеш, як за царом: не прападзе! Ферадо ў нашага «Зіса» паляцела. А ў Дрэтуні вагон пад пагрузку прыгналі. Дапамажы машынаю, — ён угледзеў нас, засмяяўся: — А-а, гэта твае арлы, пра якіх ты мне вушы пратрубіў! Гвардыя! І ім работка знойдзецца. Папрацаваць, арляняты, ахвотку маеце?

Мы згодна заківалі галовамі, разумеючы, што табе гэта будзе прыемна — не барчукі прыехалі, хоць яшчэ і не ведалі, што давядзецца рабіць. А работка была не дужа складаная: грузіць невялікія альховыя паленцы ў кузаў машыны, а потым з кузава — у вагон. Напачатку мне падалося, што

гэта проста дровы. Але старшыня патлумачыў: акумулятарная вольха — вайсковы заказ. Ад невялікай рачулкі, дзе ў акуратных штабяльках ляжалі тыя паленцы, да станцыі было зусім блізка. Паленцы зусім не цяжкія, тарцы ў іх рудаватыя, а некаторыя быццам вохрай пафарбаваныя, і ўсе роўненькія, нібыта пад лінеечку напілаваныя. Чырвонаармейцы, што добра выспаліся за дарогу ў кузаве, бралі па два паленцы, а мы цягалі па адным. І весела было, і жартаў хапала, і недзе гадзіны праз дзве работа была завершана, бо ты і старшыня пурылі па чатыры бярвенцы — па два на кожным плячы.

А потым быў абед у гасціннай хаце старшыні калгаса, і там таксама хапала і жартаў, і смеху, і гаспадар, чокаючыся з табою, усяляк нахвальваў нашу з Генкам стараннасць на пагрузцы вагона, і ты, вельмі задаволены, сціпла тлумачыў гаспадару хаты, што лічыш галоўным сродкам выхавання працу. Калі працуеш, маўляў, дык не прападзеш.

Цяпер, стоячы побач з асілкам-хлебаробам, якім нельга было не захапляцца, я падумаў пра тое, што філасофія жыццёвай існасці, сплеценая з чатырох слоў — «калі працуеш, дак не прападзеш» — павінна заўсёды пакідацца ў спадчыну новым пакаленням, бо ў ёй і ёсць сутнасць, надзея нашага сёння і нашага заўтра. Вандалы жывуць па законах пацукоў. Грамадства жыць па гэтых законах не можа. Яно можа і павінна жыць па законах закаханых: я ўсё аддаю табе, верачы табе і нічога не патрабуючы ўзамен. Толькі жывучы па гэтых законах грамадства, нацыя, народ ніколі не ператворыцца ў пыл стагоддзяў і не знікнуць з твару зямлі!

Чалавека, за плячыма ў якога амаль стагоддзе, малады дырэктар саўгаса слухаў уважліва, пагаджаўся з усім, і я не без зайздрасці глядзеў на іх, хлебаробаў розных пакаленняў, аб'яднаных магутный сілай любові да той зямлі, за якую яны аднолькавую адказнасць паклалі сабе на плечы. І зноў згадаліся вершаваныя радкі, што ўсплылі ў памяці, калі я слухаў, як шухцяць жоўтыя мяцёлкі святаянніку на схіле Кургана Памяці, як у белых тарцах помніка Героям, знявечанага вандаламі, гудзе вецер, прапахлы аерам і ўгрэтымі на сонцы чаратамі: Разнасцежана далеч, / З паныласцю хіба пазнацца? / Лёс суровы, што поле, — / То зярняты на ім, то асцё. / А на карце жыцця, — на далоні — / Пазначана праца, / І, як помнік героям, уласнае ладзіш жыццё, / бо на болю ўзрос, / і на песнях журбы гадаваны, / і хачу і павінен, / на гэтай зямлі баравой / да апошняга ўздыху / быць кожнай хвілінай адданым / маладым і бясстрашным, / хто горкай абняты травой.

Гэтыя радкі з верша, што напісаў мой добры сябра і выдатны беларускі паэт Генадзь Пашкоў, жылі ўва мне і па дарозе да Полацка. Мы імчалі на саўгаснай «Волзе» — старцёр майго «Жыгуля» зламаўся ў Гомлі і машыну давялося пакінуць саўгасным майстрам, — я ўглядаўся ў гонкія сосны паабапал шашы, у тую пясчаную дарогу, па якой ты вазіў нас рыбаліць на Суйскае возера, і ўсе гады, што давялося пражыць, бачыліся мне праз лёс тых, «хто горкай абняты травой»... Лясы як бы адскочылі назад, наперадзе ў сіняй блізкай далечы велічна паўсталі белыя муры дзівоснай працы, працы нашых продкаў — амаль казачнай «Сафійкі», потым з высокага новага маста праз Дзвіну, які пачынаецца ад дарогі на Экімань і выводзіць на былы аэрадром каля Пагіршчыны, заільсніліся лазнякі на рачных узвалах, бліснула дзвінская плынь, разрэзаная жаўтлявай паласой вады ля вусця Палаты, і знаёмая попельная смуга стуманіла вочы, і сэрца зашчымела ад салодкага болю.

Звычайна, калі сам сядзеў за рулём, я скіроўваў на ўзбочыну, стаяў нейкі час і замілавана глядзеў на велічныя вежы дзівоснай прыгажосці Храма, нібыта ўзіраўся ў тыя шчаслівыя дні, калі вы з мамаю песцілі ўсіх нас, сваіх дзетак. Цяпер за рулём сядзеў старшыня саўгаса, няёмка было прасіць яго, каб спыніўся ды пастаяў крыху на ўзбочыне, і я моўчкі падстаўляў твар пругкім ветравым хвалям, углядаўся ў знаёмыя абрысы і фарбы, услаўляючы неба за боскую ласку бачыць усё гэта зямное хараство, услаўляць і яго, і тыя сцежкі, што засталіся цяпер за плячыма...

Непадалёк ад Дзвіны, на ўзбочыне дарогі, што са скрыжавання вядзе праз стары бор да тваіх родных Кутнянаў, згледзеў я жанчыну з паласатым хатулём за плячыма — звыклая пастава бежанкі даўніх ваенных часоў. Паклажа, мабыць, была немалая, бо жанчына, трымаючы рукамі матузы, звязаныя шырокім вузлом на грудзях, тэпала прыгнуўшыся, убіўшы вочы ў дол пад нагамі. Мільганула постаць, адскочыла назад узбочына — пад коламі машыны загуў насціл маста, — і ў памяці, бы на дужа яркім экране, пыхнуў абрыс даўняга.

Ля гэтага скрыжавання ў жніўні сорак першага я праседзеў амаль два дні ў трывожным чаканні мамы. Яна выправілася ў заробкі пад Празарокі — жаць жыта ў багатых хутаранцаў — і сказала, што вернецца праз чатыры дні. Вярнулася ж толькі на шосты. Утомлены чаканнем, я прыдрамаў крыху і, калі прахапіўся, убачыў маму. Яна рухалася гэтак жа, як і жанчына, якая толькі што мільганула на ўзбочыне: рукі ўчапіліся ў звязаныя вузлом на грудзях матузы хатуля, галава нахілена ўперад вельмі нізка, быццам хатуль гнуў яе да зямлі.

Я кінуўся да мамы, памкнуўся памагчы і захістаўся, калі ўзваліў сабе на плечы той хатуль: у мяху было болей як пуд жыта.

Зерне тое змалолі ўручную ўвечары таго ж дня на Пагіршчыне. Жорны месціліся ў цёмным хлявушку, у кутку, а ля ўваходу, на чорным століку стаяў вялікі белы будзільнік. Ён пранізліва званіў праз кожную гадзіну, і тады з'яўляўся гаспадар, падкручваў яго, адале натрамбоўваў шклянку нашага млíва сабе — гарцавы збор, быццам на сапраўдным млыне. Мы з Генкам абліваліся потам, сілячыся як мага хутчэй змалоць жыта, і з нянавісцю паглядвалі на новую пустую шклянку, што пакінуў гаспадар. Мы ведалі: шклянка млíва — гэта чыгунок дзівосна смачнай заціркі, якую мама варыла праз дзень.

Да гэтай, жытняй, мама рабіла зацірку з вотруб'я, нашкрэбанага ў кадушцы, што стаяла ў хляве: да вайны гэтым вотруб'ем пасыпалі травяную сечку парсюку і куркам. Звараная і прыцярушаная стоўчанымі ў мядзянай ступе каноплямі — канопляў у тую восень на гародзе ў бабулі нарасло густа, як ніколі раней, — зацірка рабілася чорная, нібыта ў кацялку была тарфяная жыжка. Мы сёрбалі яе з ахвотаю, глыталі разам з каняпляным шалупіннем, а мама глядзела на нас і раз-пораз выцірала тыльным бокам далоні свае вочы: мне тады здавалася, што вочы яе слязяцца ад дыму грубкі.

Зацірка жытняя была светлая, намнога смачнейшая. Але маміны вочы, калі яна глядзела, як увішна чыркаюць па талерках чатыры лыжкі, слязіліся па-ранейшаму.

Млíва знікла гэтак жа хутка, як і вотруб'е з кадушкі, і мама зноў выправілася ў чарговую вандроўку па хутарах — даходзіла аж да Крулеўшчыны! — у пошуках якога-небудзь зерня ці бульбіны.

Зараз, калі пішу табе ўсё гэта, я разумею, што няма, мабыць, на зямлі слёз гарчэйшых, ніж слёзы маці, што ліюцца, калі яна плача, не ведаючы,

як і чым накарміць галодных сваіх дзетак. Не разумею толькі аднаго: адкуль знайшліся ў мамы сілы не зламацца, вытрываць невымерны цяжар тых жахлівых віхурных гадоў? Не ведаю і дагэтуль.

У тую ж восень, у лістападзе ўжо, да нас у хату ўваліўся даўгалыгі руды немец. Забінтаваная левая рука вісела на шырокай зялёнай пачопцы — шпіталь быў у былым Доме афіцэраў, і ён, мабыць, адтуль і прыцёгся. Мама толькі-толькі скончыла працу — распусціла старыя пальчаткі і звязала прыгожыя шкарпэткі нашай Валі. Немец убачыў іх — яны ляжалі на стале, — памацаў пальцамі, потым прыклаў да шчакі, задаволена пратрубіў: «гут, гут, гут», — і торкнуў шкарпэткі ў кішэню. На парозе ён спыніўся, павярнуўся ў наш бок, нейкі час глядзеў на маму — Валя і Віцёк былі ў яе за плячыма, а я сядзеў праваруч, — і вочы яго раптам дзіўна звузіліся, вусны сціснуліся, і мне падалося, што немец нечым жахліва збянтэжаны. Але далей было зусім нечаканае для нас: немец ступіў да стала, асцярожна паклаў шкарпэткі на тое месца, дзе яны і ляжалі, і, не азіраючыся, рушыў з хаты.

Што ён, той немец, убачыў у вачах нашай мамы? Якой сілы агонь праменілі маміны вочы? Як завецца той агонь, што прымусіў чужынца не забраць, пакласці на ранейшае месца дабро, што яму аніколі не належала?

Вельмі, мабыць, шчаслівы той чалавек, хто можа дакладна патлумачыць гэта.

А яшчэ больш шчаслівейшы, мабыць, той чалавек, у вачах якога гэткі агонь можа запаліцца.

*Заканчэнне ў наступным нумары.*



## ПЯТРО ПРЫХОДЗЬКА

### ПРАЦЯГ БАЛАДЫ

*Навокал сонца я лячу*
*Зямлі кругазваротным шляхам,*
*Лячу, бо я яшчэ хачу*
*Быць самаго сябе працягам.*

*Аркадзь КУЛЯШОЎ*

Я салдат са званнем простым —
Радавы між радавых.
Не злічыць мне дымных вёрстаў
На дарогах франтавых.

Нас, салдат, ішло мільёны —
Ў маладой былі красе.
Надмагільныя імёны
Шчэ напісаны не ўсе...

Я салдат, які адплату
Нёс фашыстам на вайне.
І — «Баладу пра салдата» —
Фільм стварылі пра мяне.

І пад Русай, і пад Доўскам
Фрыцу горача задаў.
У агні вайны Твардоўскі
Пра мяне свой твор складаў.

Біў штодня фашыстаў орды
І, паглядваючы ўдаль,
Гаварыў: «Ды што мне ордэн, —
Згодзен я і на медаль...»

З перамогаю дахаты
Нёс жыццё палям, лясам,
І здалося мне, салдату,
Што баладай стаў я сам.

### БЛІЗКІ ШЛЯХ

Вядома тое мне, сівому:
Шлях самы блізкі ў свеце ёсць.
Ён адусюль вядзе дадому
І павяртае ў маладосць.

Той шлях — твая зямля святая,
Жыццё і хлеб, і твой спакой.
Ніколі ён не зарастае
Быллём у памяці людской.

Ты заўважаў на лузе, ў полі
Пад мільгатою позніх зор,
Як неба і зямля ў суполлі
Ў адзін зліваюцца прастор.

Ты чуў пад крыламі зарніцы
Птушыны спеў і звон касы,
Ўдыхаў свяжак-настой крыніцы
І пах крамянае расы.

Куды б нас лёс цяжкі ні кінуў, —
Не згубімся ў жыцці нідзе.
Нас адусюль, з усіх краінаў
Да Беларусі шлях вядзе!

## ЧАКАННЕ

Як толькі ў небе зоймецца світанне,
За небасхілам знікне мары цень, —
Душу перапаўняе зноў чаканне,
Што новага нясе вось гэты дзень.

Ці не падскочаць цэны на тавары,
На кнігі, хлеб, на цукар і жытло?
Ці здзейсніцца хоць блёстка даўняй мары,
Каб спакайней на свеце жыць было?

У кожнага ў душы сваё чаканне
Прысутнае заўсёдна-чуйна ёсць:
Адных каханне кліча на спатканне,
Другіх вядзе ўспамін у маладосць.

Часіна ёсць таемная, якая
Нясе ў чаканні больш з нябёс святла.
Але ніхто не хоча, не чакае,
Каб злыбяда чарнечай наплыла.

## ЖАЛЕЙКА

Жалейка родная! О колькі песень
Ты праспявала з радасцю й журбой!
Цябе Купала мужным сэрцам песціў,
Каб змоглы люд павесці за сабой.

Ты абуджала гарады і вёскі
Ў руках музыкаў, цесляў, пастухоў.
З палёў, лугоў ляцелі адгалоскі
У далячыні звабныя шляхоў.

І ні чыноўнік, ні бадзяга нейкі
Абразіць не маглі спеў гучны твой.
А сёння, бы хаўтурны, плач жалейкі
Пачуў я над людской ракой жывой.

Каля метро ў падземным пераходзе
Стаіць студэнт — паклоннік знаных Муз.
Ён грае на жалейцы — людзі ў згодзе
Кладуць яму рублі ў стары картуз.

Хто папракне хлапчыну маладога
За тое, што жалейку ў рукі ўзяў,
І разам з ёю шчыра моліць Бога,
Каб менш было ў жыцці ґаркот-праяў?

## ПАЛЯШУЧКА

Выйдзі раніцай да гая,
Паляшучка дарагая!

Мне дазволь, дзе росы йскрацца,
На цябе налюбавацца.

Твае вусны — журавінкі,
Руж чырвоныя пушынкі.

Броўкі свецяць аганькамі,
Аж двума маладзічкамі.

Ты заўсёды прада мною
З добрай, шчыраю душою.

Для цябе, гарэзы босай,
Знічкі падаюць з нябёсаў.

## ВЯРТАННЕ ДУШЫ

Грукоча бой — і дым радзее
Над узарванаю шашой.
Я на жыццё губляў надзею,
Ужо развітваўся з душой,

Якая ў сечыве метала
Мой пазначала горкі лёс,
Не раз парыўна адлятала
У холад ззораны нябёс.

І я ляжаў на полі, ціхі,
Наскрозь прабіты куляй злой.
І даляцела нейк да слыху
Рулада птушачкі малой.

Яна сабе ў кустах ракіты
Прытульна месцейка знайшла.
І спеў птушыны самавіты
Ахутаў крыльцамі цяпла.

Лягчэй адразу сэрцу стала
У віхры вогненным вайны.
Мне звонка птушачка спявала
Вяснянку роднай стараны.

«Жыві, салдат!» — сказаць хацела.
І я пачуў: грыміць шаша.
І падалося мне: у цела
З нябёс вярнулася душа.



**▸АЛЕСЬ ДЗЯТЛАЎ**

# ХУТАР

## *АПОВЕСЦЬ*

### I

**К**авалевіч не ведаў, што яго чакае заўтра: ці расстраляюць, ці дадуць магчымасць загладзіць віну. Але адчуваў: шанцаў на выратаванне мала, амаль няма. Паставяць перад строем або адвядуць да гнілога ручая, які цурыцца ўнізе за зямлянкамі, — гэта ўжо не мела значэння.

Выратаваць яго мог толькі Пятро Баркун, адзіны сведка здарэння, але ў атрад Баркун не вярнуўся, і ніхто не ведаў, жывы ён ці мёртвы.

За сценамі зямлянкі, дзе сядзеў пад вартай Кавалевіч, трывожна пашумліваў лес, нібы і яму было цяжка. Шум трохі аціхаў, калі вецер не мог праціснуцца праз сцяну дрэў і адбягаўся ў рэдкалессе, але праз хвіліну, набраўшыся моцы, зноў заводзіў у вяршалінах свой панылы, замаркочаны спеў.

Маленькае запэцканае, на паўшыбкі, акенца пад нізкай столлю з тонкіх неакораных бярвенцаў амаль не заўважалася з нараў, на якіх ляжаў Кавалевіч. Звонку даносіліся глухія крокі вартавога — ён то спыняўся каля дзвярэй зямлянкі (відаць, услухоўваўся, і тады не шуршэла пад ботамі сухое шыгалле), то зноўку хадзіў сюды-туды, асцярожна ступаючы ў цемнаце. Зрэдзь ён кратаў дзверы зямлянкі, падпёртыя тоўстым калом.

Пасля паўночы вартавы змяніўся. Па голасе арыштаваны пазнаў і ўбачыў праз акенца маладога партызана Грышку Яроту са свайго аддзялення. Грышку, відаць, было няёмка сцерагчы былога камандзіра, і хлопец, прыхінуўшыся да камля сасны, моўчкі стаяў, мо і перажываў тое, што адбылося з Кавалевічам.

Мулкія вузкаватыя нары, збітыя з танклявых жэрдак і засланыя яловымі лапкамі, на якіх ляжаў арыштаваны, балюча ўпіваліся ў цела; ад дзвярэй цягнула зябкай прахалодай. І ўсё гэта: трывожная ноч, глухі шум лесу, цесная зямлянка, вартавы — прыгнятала, паралізоўвала волю. Кавалевіч глядзеў у густую цямноту, маральна гатовы прыняць наканаванае лёсам, але як даказаць, што ты не здрадзіў, а толькі дапусціў прамашку, недаравальную і, відаць, цяпер ужо непапраўную.

Пятро Баркун, адзіны сведка, не вярнуўся з задання. Прапаў немаведама дзе, калі досвіткам, у тумане яны беглі спачатку па маладой бульбе, а потым па жыце, беглі як у гарачцы, нічога не цямячы, абы ўцячы, зашыцца куды-небудзь далей, каб зноў не запхнулі ў той халодны слізкі пограб.

Ці забілі хлопца, ці дагналі параненага, Кавалевіч не ведаў. Пасля ўжо, як трохі аддыхаўся, лежачы ў гушчарніку, прыпомніў, што быццам у кустоўі чуў нечы вокрык, мо і Пятро ўскрыкнуў, ды ў тым тлуме не разабраўся, што да чаго. Дамовіліся ж бегчы ў розныя бакі: хто-небудзь з іх і ўратуецца.

І вось цяпер цёмная зямлянка, а там — невядомая, страшная раніца, калі будзе апошні і скоры суд. А потым... Вясной расстралялі партызана, з акружэнцаў. Вяртаўся ў групе з задання, адстаў, заначаваў у маладзіцы. Прыцемкамі вёску акружылі карнікі. Партызан двое сутак сядзеў у падполлі — кабета не выдала. А калі прыбег у атрад — расказаў пра свае прыгоды, Вяршкоў не паверыў — партызанскі суд доўга не разбіраўся.

...Заданне, якое даў камандзір атрада Вяршкоў, здалося Кавалевічу нескладаным: разведаць падыходы да Каменкі, вялікай вёскі, што ляжала на шляху да чыгуначнай станцыі, здабыць звесткі пра нямецка-паліцэйскі гарнізон, сістэму абароны. Кавалевіч узяў на заданне толькі аднаго партызана Пятра Баркуна, хлопца гарачага, адважнага і кемлівага.

Да Каменкі яны ішлі гадзіны тры старым, змрочным лесам, абмінаючы рэдкія хутары, якія не паспелі разбурыць у калектывізацыю. Кавалевіч разы два праходзіў міма гэтай вёскі, калі з аддзяленнем падрыўнікоў кіраваў на чыгунку — так што мясцовасць збольшага ведаў. Немцы і паліцаі ўмацаваліся ў селішчы надзейна, ахоўвалі ўсе падыходы. З аднаго боку лес блізка падступаў да крайніх хат, з трох іншых ляжалі палі, шыракаваты лужок, зарослы кустоўем, а сам лужок цягнуўся ўздоўж павілястай рачулкі.

Партызаны толькі перад раніцай падышлі да Каменкі. З узлесся, схаваўшыся ў густым хмызняку, паназіралі за вёскай. Там было ціха. Угнуўшыся, разведчыкі падаліся бліжэй, да пясчанага грудка, парослага маладымі бярозкамі і высокай травой. Адсюль была добра відаць рачулка, драўляны вузкі мосцік, як праехаць калёсам, лужок, а далей два рады хат, некалькі кароткіх завулкаў.

— Вось тут і паляжым, — прыкінуў Кавалевіч. — Відаць, як на далоні. Толькі не вытыркайся, прыкмецяць — хана будзе.

— Паспеем у лесе схавацца, — буркнуў Пятро. — Скоцімся ўніз, і памінай, як звалі.

Кавалевіч нічога не адказаў яму, бо ведаў: Пятро выканае ўсё, што яму загадаюць.

Пакрысе развіднялася, вось-вось пакажацца сонца. За вёскай са змроку праступіў хутар з высокім дрэвам на двары. Справа непадалёк цямнела густое кустоўе, якое падыходзіла да агародаў крайніх хат вёскі.

— З таго канца лацвей падабрацца, — раздумваючы, заўважыў Кавалевіч. — Але там лес далекавата, калі што — на голым месцы перастраляюць. І за хутарам падыход голы.

Выкацілася сонца, наваколле зазззяла ў яркіх промнях. На траве лужка зазіхацела раса, нібы хто паслаў яркі дыванок, засерабрыліся кусты, светлая палоска рачулкі адлюстроўвала сонечныя промні. А за спінай у лесе на розныя галасы заспявалі птушкі. Здавалася, няма вайны, варожасці між людзьмі, і толькі насцярожаная цішыня ў вёсцы, узброеныя людзі на вуліцы сведчылі пра тое, што небяспека зусім блізенька, варта толькі паварушыцца, узняць галаву, выдаць сябе.

Па мосціку цераз рачулку праехала падвода з двума паліцаямі, збочыла на луг і схавалася за густым лазавіннем.

— Во, гады, не баяцца, — прашаптаў Пятро, праводзячы поглядам калёсы. — Няпужаныя «бобікі», жахнуць бы з аўтамата...

— Я табе жахну, — строга папярэдзіў Кавалевіч. — Вунь бачыш: дзот каля крайняй хаты, а на агародах — другі. Зрэжуць з кулямётаў. Той канец немцы займаюць — баяцца, мабыць, нападу. Там шлях вядзе на станцыю. А вось дзе хутар — заселі паліцаі. Абарона ў іх слабая. Толькі за сцяной крайняй хаты нешта ёсць, бо гойсаюць туды па двое «бобікаў». Трэба абысці лесам, праверыць.

К вечару партызаны цішком адпаўзлі ў лес, зашыліся ў гушчарнік, трохі падсілкаваліся з прыпасаў, што бралі з сабой, потым з асалодай пакурылі.

— Здаецца, трохі разведалі, ды малавата, — завагаўся Кавалевіч. — Тут усё ясна, але што на тым канцы, — незразумела. Хата мяне непакоіць. Вунь тая — з краю. Быццам ніхто там не жыве. Значыць, кропку агнявую ўстроілі? Давай рызыкнем, хоць там і лес воддалек. Але цемнатой можна падабрацца.

Партызаны ўзлессем падаліся правей, да пустэльнага канца вёскі. Неўзабаве перад імі адкрылася даволі шырокае поле, зарослае высокім быльнікам, сям-там на ім цямнелі нізенькія кусцікі лазы.

— Калі сцямнее, падпаўзем бліжэй, — паназіраўшы за наваколлем, сказаў Кавалевіч. — Хата падазроная.

Стаіўшыся, партызаны пачалі назіраць. Касы прамень сонца выслізнуў ад лесу, асвятліў сцяну будыніны. Кавалевіч насцярожыўся, папрасіў Пятра:

— Зірні пад вокны — быццам дзёран ляжыць, пажаўцеў ужо.

— Што-та ёсць, — пацвердзіў Пятро. — Бёрны абклалі. Мабыць, амбразура. Замаскіравалі хітра, на ноч, пэўна, адкрываюць.

Раптам з-за глухой сцяны хаты выйшаў паліцай, закінуў за плячо вінтоўку, угнуўшыся, зазірнуў некуды ўніз каля прызбы, ухапіў там два кацялкі і паволі, насвістваючы, пацягнуўся вуліцай.

— Эге, ды тут у іх дзот, — прашаптаў Пятро. — Во, даюць «бобікі».

— Падобна, — пацвердзіў Кавалевіч. — Падыходы да вёскі ад лесу на мушцы трымаюць. Відно, кулямёт тут у іх.

Хвілін праз пятнаццаць на вуліцы зноў з'явіўся паліцай. Але цяпер у адной руцэ ён нёс плоскія нямецкія кацялкі, у другой — мяшэчак.

— Жраць будуць, — з прыдыханнем прашаптаў Пятро. — Прадаліся за баланду, сабакі. Вось бы сцапаць аднаго... Хата наводшыбе, хто пачуе? А Вяршкоў «бобіку» язык развяжа, будзь спок.

— Не спяшайся, паназіраем, пакуль зусім не сцямнее, — аддзялённы нібы завагаўся, бо ведаў гарачага Баркуна. — Будзе відаць. Мо сюды на ноч цэлы ўзвод засядзе.

«Лепей адысці, не ўвязвацца, — думаў Кавалевіч. — Здаецца, што маглі, разведалі, дзоты іхнія засеклі, падыходы да вёскі і вось гэты замаскіраваны пад хату ўзмоцнены пост. Але ж, вядома, палонны паліцай даў бы дакладныя звесткі. Ды і здабыча, здаецца, сама ў рукі просіцца. «Бобікі» — ваякі няважныя, пад крылом немцаў сядзяць, зноў жа, няпужаныя тут, пільнасць не тая... Так, задачка».

Калі апусцілася сонца, да «бобіка» прыйшла змена: нізкарослы паліцай з вінтоўкай за плячамі і малады, высокі, танклявы, з рускім ручным кулямётам, які ён трымаў перад сабой руляй наперад. У яшчэ светлых прыцемках было відаць, як тыя двое, што сядзелі ў схованi, вылезлі наверх — адзін, што хадзіў па вячэру, і другі, пажылы дзядзька, з ручнiком «ПРД». Відаць, задаволеныя тым, што дзяжурства скончылася, яны весела перамовіліся са зменшчыкамі і радыя, што не трэба заставацца на ноч, падаліся па вуліцы, а тыя, што прыйшлі, палезлі ў вузкі лаз пад сцяну.

— Ды іх адтуль і не выкурыш, — засумняваўся Кавалевіч. — Атабарыліся, што трэба.

— Войска нішто сабе, — усміхнуўся Пятро. — Ды я адзін з імі ўпраўлюся, вокам не зміргну, пакладу абаіх.

— Не, Пятро, не палезем, — цвёрда сказаў аддзялённы. — Яны ў схове сядзяць, не выкурыш адтуль, трывогу ўзнімуць. Як зусім сцямнее, адыходзім, і Вяршкоў чакае звесткі пра гарнізон.

Партызаны паляжалі яшчэ з паўгадзіны. Змерклася неўпрыкмет, толькі прамыя промні ўжо нябачнага сонца чырвонілі высокія рэдкія аблачынкі. Са схову вылез пажылы паліцай, — Кавалевіч пазнаў яго па вінтоўцы, руля якой тырчала з-за пляча, — пацягнуўся, узняўшы ўгору рукі. Узбліснуў кволы агеньчык запальнічкі. Колькі часу «бобік» стаяў каля сцяны хаты, потым паволі пасунуўся на дарогу, паўзіраўся наўкол і вярнуўся назад.

— Той, што ў схове, ужо дрыхне, — прашаптаў Пятро, увесь напружыўся, як перад скачком. — Дазволь, самы раз узяць... Ціха ў вёсцы. Адзін вазьму... Сто метраў — і кусты...

— Лес далекавата, дагоняць, — у голасе Кавалевіча пачулася няўпэўненасць. — А калі адразу глушануць па галаве? Не, небяспечна, — аддзялённы яшчэ вагаўся. — Давай падпаўзем бліжэй да дарогі, там кювет... Толькі без каманды не лезь, — строга папярэдзіў ён гарачага хлопца.

Паліцай па-ранейшаму стаяў каля сцяны хаты, бо свяціўся чырвоны, ледзь бачны агеньчык цыгарэты. Партызаны ўжо ляжалі ў неглыбокім утравелым кювеце. «Не, не паспем дабегчы, — думаў Кавалевіч. — Трэба зматвацца. Прыкмеціць, шум падыме, тады хана абаім».

«Бобіку», відаць, надакучыла стаяць нерухома, ён чорным ценем аддзяліўся ад сцяны, пасунуўся на сярэдзіну дарогі, трымаючы напагатове вінтоўку. Паўзіраўся ў кірунку лесу, павярнуўся да кювета спінай, кашлянуў. Лепшы момант для нападу цяжка было прыдумаць — вартавы стаяў за якія тры метры ад кювета.

Кавалевіч імгненна адкінуў усе сумненні, узняў правую руку, даючы знак Пятру, што паліцая бярэ сам, рыўком выскачыў на дарогу, прыкладам аўтамата аглушыў «бобіка». Той няўцямна хрыпнуў, памкнуўся павярнуць галаву і паволі асеў у пыл дарогі. У гэты момант з-пад ягоных грудзей аглушальна ўдарыў стрэл, слуп агню на імгненне асляпіў Кавалевіча. Ён разгубіўся: не чакаў, што ваяка трымаў палец на спуску і, падаючы, паспеў націснуць на курок.

— Адыходзім! — выхрыпнуў аддзялённы ў самы твар Баркуну, які ў гэты момант выскачыў з кювета на дарогу, каб падсабіць справіцца з вартавым.

Ударыла кулямётная чарга з хаты, агнявая траса панеслася да лесу. Недзе ў вёсцы пачуліся крыкі, тупаценне ног. Партызаны штосілы ўжо беглі па полі, у змозе хапаючы ратамі паветра. Ззаду забухалі вінтоўкі, кулі джвікалі і з бакоў, і поверх, але, на шчасце, ніводная не зачапіла: білі ў цемень, наўздагад. З таго, дальняга канца вёскі, дзе атабарыліся немцы, агнянымі пунктірамі рассек цемру буйнакаліберны кулямёт, адразаючы партызанам шлях да лесу. Але агонь быў сляпы, непрыцэльны, каб толькі нагнаць страху.

Партызаны ўжо амаль дапялі да лесу, што чарнеўся наперадзе за якіх метраў пяцьдзесят, як ззаду пачуўся тупат коней. Напярэймы ў шалёным галопе збоку імчаўся коннік, двое ці трое другіх тупацелі і галёкалі

блізенька за спінамі. Кавалевіч зразумеў, што да лесу яны не паспеюць дабегчы, прыпыніўся і з ходу ўдарыў доўгай чаргой па тых, якія насцігалі ззаду. Збоку бухнуў вінтовачны стрэл. «Відаць, Пятро адстрэльваецца», — маланкава мільганула думка. Абярнуўся назад, кароткай чаргой пстрыкнуў у цемень, і ў гэты момант нешта цяжкае выцяла яго па галаве, і, падаючы, Кавалевіч апошнім праблескам свядомасці зафіксаваў збоку грукатлівы стрэл, слуп агню і апусціўся ў цяжкую бездань...

Ачнуўся ён каля самай вёскі. Двое паліцаяў цягнулі яго за рукі, прывалаклі ў нейкі двор, працягнулі па дошках ганка і ў хаце кінулі на лаву, балюча выцяўшы галавой аб сцяну. Кавалевіч зноў страціў прытомнасць.

Грубы, хрыпаты ад злосці голас вярнуў яго ў рэчаіснасць. Кавалевіч адплюшчыў вочы. Сядзеў ён са звязанымі за спінай рукамі, галава як не раскалвалася ад болю. На падлозе ляжаў у непрытомнасці Баркун, твар заліты крывёю. Мардаты паліцай, убачыўшы, што партызан расплюшчыў вочы, паднёс да яго твару лямпу, паўзіраўся з паўхвіліны і зларадна, груба прабурчэў:

— Ага, бандзюга, заарканілі! Гавары, што вынюхвалі? Ну?

Кавалевіч адмоўна хітнуў галавой, і страшны ўдар кулаком у твар аднекуль збоку кінуў яго на падлогу. Мардаты паставіў на стол лямпу, са злосцю прахрыпеў:

— С-сабакі лясныя, заўтра Жулега прыедзе, развяжа языкі, мазгі прачысціць. У пограб іх, ды каб без выбрыкаў. Галавой адкажаце, калі што...

— А чобаты ў іх спраўныя, — вызірнуўшы з-за чыёйсці спіны, сказаў нізкарослы, з птушыным носікам «бобік. — Унь еты, — паказаў пальцам на Баркуна, — армейскія шчэ не знасіў, а еты, мабыць, з немца садраў.

— Зняць! — коратка загадаў мардаты. — Яны ім ужэ не спатрэбяцца, аднасілі, сабакі.

Паліцаі груба паднялі Кавалевіча, балюча тыцнулі ў спіну руляй вінтоўкі, загадалі ісці. Следам павалаклі Баркуна, які быў яшчэ без памяці, толькі ціха стагнаў. Мардаты адкінуў драўляную накрыўку пограба, прысеў наўколенцы, пасвяціў ліхтарыкам у цёмнае сырое прадонне, задаволена рагатнуў:

— Вось тутака хай пакантуюцца, сабакі. Акурат для іх гатэль.

Кавалевіча перад лазам моцна піхнулі ў спіну, ён упаў на калені і ссунуўся ў пограб галавой уніз. Добра яшчэ, што стаяла невысокая лесвічка. Неяк зачапіўся за яе нагамі і крыху змякчыў падзенне, але ўсё ж моцна выцяўся галавой аб цэментавую падлогу і зноў страціў прытомнасць. Ён не чуў, як укінулі ў пограб Пятра, як наверсе грукнула накрыўка, і паліцаі ўскацілі на яе нешта цяжкае — бервяно ці камень.

Колькі ён праляжаў у непрытомнасці, Кавалевіч не ведаў. Ачнуўся ад зябкага холаду, які, здаецца, праняў усё цела, з намаганнем адплюшчыў вочы. Цемень, смярдзіць гнілой кіслай капустай і яшчэ нечым рэзкім, тухлым. У першы момант не зразумеў, дзе ён, што адбылося, але праз імгненне здагадка востра апякла мозг: іх схапілі паліцаі, кінулі ў пограб. Цела спавіта болем, вяроўка ўпілася ў рукі, не паварухнуцца. Раптам трывожна смыльнула думка: а Пятро дзе? У хаце на падлозе ўвесь скрываўлены ляжаў. Мо забілі яго? Памкнуўся варухнуць нагамі, з балючым высілкам трохі прыпадняўся ад падлогі, і кроў шалёна запульсавала ў скронях, бы знутры тысячы вострых джал упіліся ў галаву. І раптам з цемры пачуў ціхі стогн. Прыслухаўся — чалавек ледзь чутна зноў застагнаў. «Пятро? Каму ж яшчэ быць у гэтым сырым халодным склепе?»

— Пятро? Ты? Жывы? — Кавалевічу здалося, што паклікаў гучна, але з грудзей вырваўся толькі слабы, сухі хрып. — Пятро, адклікніся, — ужо атрымалася грамчэй.

У кутку, відаць, каля самага лаза ў пограб, нехта варухнуўся, зашархацеў па падлозе, і з цемнаты пачулася кволае:

— Хто тут? Я — Пятро. Ты — аддзялённы? Дзе мы?

— Не помніш? Паліцаі схапілі...

З намаганнем, каўзануўшыся, Кавалевіч памкнуўся ўзняцца, але не было за што зачапіцца, ногі слізгацелі па шурпатай цэментавай падлозе. Тады ён перакаціўся на бок, падцягнуў непаслухмянае цела да халоднай слізкай сцяны, неяк, памагаючы сабе нагамі, прыгробся бліжэй да апірышча і з натугай здолеў сесці. У гэтым змаганні са сваёй немаччу ён зусім саслабеў і таму колькі хвілін адпачываў, прыхінуўшыся да сцяны. Холад працінаў цела, але думка, што Пятро тут, жывы, што ён, Кавалевіч, можа рухацца, цэлыя рукі і ногі, надала яму сілы. «Заўтра будуць дапытваць, біць і расстраляюць, — падумаў ужо цверазей. — Гэтыя не адпускаюць такіх, як мы. Колькі ж яшчэ засталося жыць? Дзве, тры ці чатыры гадзіны? Якое мае значэнне — памерці гадзінай раней ці пазней? Памерці? — страшная думка болем аддалася ў свядомасці; у нейкі момант Кавалевіч востра адчуў укол у патыліцу, які пранізаў усю яго істоту. — Не, не, гэта бязглузда, нерэальна, — ледзь не закрычаў ён у адчаі, ды толькі стогн выхапіўся з грудзей, балючы, нутраны. — Але што рабіць?»

Ён яшчэ не ведаў, як уратавацца, выбрацца з гэтага халоднага і смярдзючага пограба, з якога адна дарога — да смерці. Вяроўчына балюча ўразалася ў рукі, звязаныя за спінай, наверсе чуваць крокі вартавога, які раз-пораз спыняецца каля лаза, прыслухоўваецца. «Як развіднее, будзе позна, — зноў падумаў з трывогай. — Відаць, яшчэ ноч, бо звонку ніякіх галасоў, ціха».

Кавалевіч, трохі адпачыўшы, адпіхнуўся ад сцяны, наўгад папоўз у цемень, і раптам балюча выцяўся плячом аб нешта рабрыстае, вострае, яшчэ раз даткнуўся галавой і здагадаўся, што гэта кароценькая лесвічка, якая стаіць пад лазам; успомніў, як зачапіўся за яе нагамі, калі «бобікі» піхнулі яго ў пограб.

Пятро зноў застагнаў, ужо зусім побач, азваўся слабым голасам.

— Я зараз, пацярпі, — выхрыпнуў з намаганнем, — зараз дапаўзу.

Перакаціўся на другі бок і дакрануўся тварам да галавы Пятра, аддыхаўся, зняможана паляжаў.

— Піць, — сасмягла прашаптаў Пятро, — пячэ ўнутры...

— Цярпі, — дыхнуў Кавалевіч у самае яго вуха. — Што-небудзь прыдумаем. А галава як?

— Быццам лягчэй, вось толькі рукі знямелі...

— Не хныкай, — Кавалевіч як бы акрыяў. — Цяпер ноч, відаць, ужо за поўнач. Рукі... Што з імі рабіць? — Ён пашавяліў пальцамі. — Хоць паслабіць вяроўчыну, хоць трохі... Але як? Тады лесвічка, зграбная, важкая... Чым не зброя, калі прыйдуць?

І раптам, як боскае азарэнне, што прыйшло аднекуль зверху, каб ратаваць бедакоў, востра смыльнула думка: «Вяроўчыны слабыя, танкаватыя, спехам вязалі, абы-як. Перацяры іх і рві па нітачцы, зубамі, а там будзе відаць, што рабіць. Хоць аднаго пацягнеш на той свет за сабой».

Наверсе пачуліся крокі, галасы паліцаяў, завішчала на петлях накрыўка над лазам. Сляпучы прамень святла абмацаў вязняў, прабег па сценах і падлозе пограба.

— Дрыхнуць, гаўрыкі, шчэ, мабыць, ад учарашняга не ачухаліся, — голас «бобіка» грубы, насмешлівы. — Глядзі, Смык, не кімар, а то Жулега шкуру зніме і павесіць на плот сушыцца, — відаць, вартавы, якога змянялі, быў рады, што нічога не здарылася, і ён ідзе адпачываць да раніцы.

— Будзь спок, куды дзенуцца етыя дахадзягі, — пісклява адказаў яму зменшчык. — Дзве гадзіны — і раніца.

Ляснула накрыўка, сціхлі крокі, заціх і новы вартавы. Кавалевіч счакаў хвіліны дзве-тры, узняў галаву, падгробся бліжэй да Пятра, зашаптаў:

— Чуў? Вартавы змяніўся, слабак... піскявы, як пацан... Выгарыць, не гаруй, цярпі. На бок павярніся, паспрабую развязаць рукі... Зубамі буду рваць. А потым ты мяне... Паняў?

Кавалевіч галавой дапамог Пятру легчы на бок і, хоць было нязручна, у цемнаце адшукаў зубамі рукі сябра, учапіўся ў вяроўчыну, ірваў яе, як дзікі звер ірве путы, якімі аблытаны. Ён страціў адчуванне часу, нічога не чуў вакол сябе, заняты гэтым зацятым змаганнем за жыццё. Змогшыся, адпачываў і зноў ірваў зубамі ненавісную вяроўку, жаваў яе, мачыў слінай, выплёўваў валакно і раптам адчуў, што пута паслабла. Ірвануў за канец да сябе, не ўтрымаўся, упаў на дол.

— Усё, — хвалюючыся і задыхаючыся ад стомы і ад хвалявання, выхрыпнуў Кавалевіч і ў той жа час палахліва зірнуў на лаз — ці не пачуў ягонага вокрыку вартавы. — Развязвай мяне.

Кавалевічу здалося вечнасцю, пакуль Пятро цёр знямелыя рукі, намаганнем, трымаючыся за сцяну, падымаўся на ногі, няўмела, памагаючы сабе зубамі, важдаўся з вяроўчынай, і толькі калі адчуў, што рукі вольныя, абняў Пятра, прашаптаў:

— Трымайся, шанц ёсць. Хоць слабы, але, браток, паміраць не хочацца. Хутка, відаць, развіднее, тады каюк. Бегчы зможаш?

— Галава кружыцца, але ногі быццам цэлыя, — уздрыгваючы ад холаду, ледзь чутна прашаптаў Пятро. — Я, я змагу...

— Слухай мяне, — Кавалевіч і ад холаду, і ад хвалявання таксама ўвесь дрыжаў. — Помніш, як ляжалі на грудку? Хутар помніш? Мы на гэтым канцы хутара, трэцяя хата з краю... За агародам кусты... Як выбежыш, бяры правей, там лес за паўкіламетра. Паняў? Яны правяраюць, ці жывыя, як адкрываюць накрыўку, я — лесвічкай. Станеш за мной. Не адкрыюць, мы самі. Першы грабешся наверх, я падмагну і зразу направа, на агарод. Паняў? Шанц ёсць, усё роўна павядуць... Апошні, больш не будзе. Бяжы, з усіх сіл. Раніцай туман... У нас хвіліна, мо дзве...

Кавалевіч не паспеў дагаварыць, як на двары затупаў вартавы, закашляўся, спыніўся перад лазам. Ссунуў тое, што ляжала наверсе, завішчалі ржавыя петлі накрыўкі. Кавалевіч у цемнаце намацаў лесвічку, знізу ўхапіў яе за ножкі дзвюма рукамі.

Паліцай апусціўся наўколенцы, пацягнуў на сябе накрыўку і нахіліўся над лазам, трымаючы ў руцэ яшчэ не ўключаны ліхтарык. У гэты момант касы, страшны ўдар знізу ў горла кінуў яго назад; вартавы коратка, амаль нячутна, усхрыпнуў, захліпнуўся, паволі кульнуўся на бок, выпусціўшы з рук ліхтарык, заціх...

Партызаны спачатку беглі па бульбе, зямля вязкая, грузкая, а потым убіліся ў неширокі загончык яшчэ зялёнага жыта. Блізенька невялічкі лужок, а там цёмныя кусты. Халодная росная трава апякла босыя ногі, але ўцекачы гэтага не чулі. Задыхаючыся, з усіх сіл імкнуліся туды, дзе няма паліцаяў, бліжэй да выратавальнага лесу.

Першы стрэл гулка сцёбнуў ззаду, ад гумна, якое яны мінулі мо паўхвіліны назад; куля прапарола кустоўе, шуснула па лісці, але ўцекачы не ўпалі, а, угнуўшыся ад стрэлу, з апошніх сіл нырнулі ў зарасці.

Пачала біць другая вінтоўка, справа, ад крайняй хаты, дзе паліцаі абсталявалі дзот; нервова, доўгімі чэргамі па кустах ударыў «дзегцяроў», але непрыцэльна, наўгад, бо над кустамі вісеў хоць і рэдкі, але даволі цемнаваты туман. Інстынктыўна Кавалевіч, ратуючыся ад чэргаў, вільнуў улева, з ходу наткнуўся на нізкаваты лазовы куст, але ўжо не было часу аббягаць яго: прадзёрся на той бок і ў знямозе ўпаў на халодную траву. Цяпер ужо часта бухалі стрэлы, пачулася тупаценне ног. Ён ускочыў і, хоць сіл ужо не было, а падганяла толькі смяртэльная небяспека, памкнуўся направа, бо помніў, што там бліжэй да лесу. Лявей раптам нехта коратка ўскрыкнуў, нават не ўскрыкнуў, а прастагнаў; яго ўскрык-стогн заглушылі стрэлы, якія гучалі за спінай усё бліжэй і бліжэй, здавалася, за дзесяць-пятнаццаць крокаў.

Хоць і было страшна, Кавалевіч пабег на гэты крык, матнуўся між зарасцяў, але тут нікога не было. І ён, каб выратавацца, не трапіць да паліцаяў, пабег не ў бок лесу, а стрымгалоў хіснуўся да поля, адкуль не стралялі, узмежкам прасігаў наперад і ўжо толькі тады павярнуў да лесу. Тут было галева, і яго, відаць, прыкмецілі з кустоў — кулі зашпокалі побач. Быльнёг рэзаў босыя ногі, здавалася, канчаюцца сілы, але ззаду была смерць, і партызан не хацеў паміраць, бо наперадзе, у лесе, яго ратунак. Раптам Кавалевіч спатыкнуўся, бразнуўся вобзем, балюча ўдарыўся грудзьмі. Сцяла дыханне, і ў гэты момант доўгая чарга з кулямёта прайшлася над галавой, ззаду пачулася тупаценне паліцаяў. Кавалевіч у нейкім цяжкім тлуме ўскочыў на ногі і ўжо не цяміў, у які бок бяжыць, абы далей ад стрэлаў, ад той раз'ятранай зграі, што з крыкамі насоўваецца на яго. Ён ужо не зважаў на стрэлы, і толькі адна думка балюча, апасліва білася ў галаве: не ўпасці, вытрымаць, ужо лес недалёчка, туды паліцаі не сунуцца.

Галіны балюча хвасталі па твары, уцякач абмінаў камлі дрэў, кусты; ён ужо не чуў ног, нібы плыў у крывавым тумане, але ўпарта бег і бег далей у гушчарнік. Пад нагамі захлюпала вада, ногі грузлі ў мяккім моху, і ўжо не было сіл рухацца; спыніўся, упаў на вільготны балотны подсціл. На нейкі момант, здалося, страціў прытомнасць, бо не чуў ні стрэлаў, ні тупату, ні крыкаў. Калі ачуўся, на лясным балотцы стаяла цішыня. Усё цела бы знямела, у роце суха, ні дыхнуць. У ямку, дзе на мху ляжаў яго локаць, нацякло крыху вады, і ўцякач прагна прынік да ямкі ротам, піў і піў, пакуль у знямозе не апаў тварам уніз. Паляжаў яшчэ крыху, зноў папіў вады, і, здалося, стала лягчэй дыхаць.

Кавалевіч адчуў, што прыбавілася сілы, папоўз па балоце наперад, дзе бачылася невысокая выспачка, густа зарослая сасняком. Выпаўз на яе ўвесь мокры, зашыўся ўглыб, прылёг на шыгалле, якое густа ўсыпала дол, і адчуў цяпло, што ішло ад зямлі, ад невысокіх сасонак, якія акружалі яго. Балюча кальнула думка: «А дзе Пятро? Ці жывы? Ці паранены? Захапілі ці ўдалося вырвацца? Я вінаваты — палез за тым «языком».

Крывавілі разбітыя ногі, галава нібы наліта нечым цяжкім, атрутным. «А мо і Пятро вырваўся? — падумаў ужо з надзеяй. — Нехта ўскрыкнуў ці застагнаў у кустах, але мо мне падалося? Хлопец малады, хуткі на ногі...» Кавалевіч хацеў сябе заспакоіць, але ж у душы разумеў, што Пятро саслабеў, яму больш папала, а за імі гналіся здаровыя, сытыя людзі. Гэта будзе несправядліва: вырваліся з пограба, і тут, лічы, на волі, дагнала сляпая куля.

Кавалевіч не мог вярнуцца ў атрад, не ведаючы, што сталася з Пятром. З цяжкасцю ўзняўся, ступіў некалькі крокаў і ад болю ў нагах прысеў. Сцягнуў сарочку, павесіў на галіну, каб трохі падсохла, а споднюю разарваў на дзве часткі, абматаў ногі. «Гады, — прастагнаў ад бяссілля і безнадзейнасці. — Сам палез, вось і атрымаў». Ён брыў па сасняку, пакуль не натрапіў на нешырокі ручай, што выцякаў з балотца: папіў халаднаватай чыстай вады, абмыў твар і падаўся бліжэй да вёскі. Пэўнага плана ў яго не было, ішоў наўгад. Даў добрага кругаля па ўзлессі, датэпаў да грудка, на якім яны ўчора ляжалі, узгробся наверх, зашыўся ў густую купку бярозак. Кавалевіч нават не падумаў пра тое, што яго могуць тут схапіць, калі прачэшуць наваколле, бы сам шукаў смерці.

«Бобікі», якія, відаць, беглі за імі, цяпер шнырылі ў кустах каля хутара. На вуліцы вёскі паказалася група паліцаяў, чалавек дваццаць. Наперадзе валокся тоўсты, пахмурны паліцай у расплікнутым на грудзях мундзіры. «Мо той самы Жулега, які павінен быў нас дапытваць? — падумаў Кавалевіч, і дрыжыкі працялі ўсё цела. — Трэба адпаўзаць у лес». Але цікаўнасць, нягледзячы на небяспеку, перамагла.

Паліцаі збочылі на ўтравелую дарогу, што вяла да хутара, лужком пацягнуліся ўзбоч кустоўя, дзе Кавалевіч з Пятром ратаваліся. Тоўсты паліцай прыпыніўся, выцер даланёй пот з ілба, відаць, чакаў, калі падыдуць тыя, што прачэсвалі кусты. Аб нечым перамовіўся з імі, злосна замахаў рукамі, павярнуўся і няспешна пасунуўся да хутара. «Няўжо Пятра не знайшлі? — радасна-трывожна забілася думка. — А мо там, на хутары? Паспеў дабегчы, схаваўся і яго ідуць браць? Ды не, не падобна: калі б ён быў там, то беглі б, акружаючы, а так цягнуцца злыя, незадаволеныя. Упусцілі, вось цяпер і сноўдаюць, шукаюць, вынюхваюць. Значыць, — здагадаўся Кавалевіч, — бачылі толькі мяне аднаго, калі ўцякаў, а Пятра згубілі, не знайшлі».

І Кавалевіч, хоць было і небяспечна ляжаць каля самай вёскі, асабліва цяпер, пачаў назіраць і далей. «А сапраўды, — меркаваў ён, — кусты каля самага хутара. Калі Баркуна паранілі ці, што таксама верагодна, абяссілеў, не мог бегчы, але мог дапаўзці да хутаранскай сядзібы. Поцемкі, туман, вось «бобікі» і пагналіся за мной. А Пятро стаіўся, перачакаў, ды ў сваім безвыходным становішчы падаўся на хутар, бо лес з таго боку далекавата, на полі заўважылі б».

Паліцаі зграяй убіліся на двор хутара, было відаць: рассыпаліся па адным, лазілі ў хлеў, агледзелі невялікую будынінку на агародзе — ці стопку, ці лазеньку, абследавалі соткі. Старшы ў гэты час на дворышчы гутарыў з гаспадаром-хутаранінам, узмахваў рукой, тузануў селяніна некалькі разоў, але, мабыць, хутаранін нічога яму не сказаў. Таўстун урэшце выціснуўся з варотцаў, пачаў спускацца ўніз з пагорка, наўпрасцяк да вёскі — за ім пацягнулася ўся група «бобікаў». «Значыць, не знайшлі нікога, — вызначыў Кавалевіч. — Пятро недзе ў іншым месцы, калі застаўся жывы. А што мне рабіць? — трывога сціснула сэрца. — Як вярнуцца ў атрад? Што сказаць Вяршкову? Як глядзець у вочы таварышам? Паверань ці не? Збітыя, слабыя здолелі ўцячы з-пад варты. Не, Вяршкоў не паверыць. Трэба другі сведка — Пятро. А дзе ён?»

...За сценамі зямлянкі пачуліся прыглушаныя галасы, затупацелі: відаць, на пост заступіў новы вартавы. На палянцы стала ціха, здаецца, нават сосны і елкі сцішыліся, заснулі перад світанкам. «Апошнія гадзіны жыцця? — раптам секанула вострая, балючая думка. — Не, яшчэ ўсё мо-

жа змяніцца — Пятра, сведкі, няма. Ні жывога, ні мёртвага. Значыць, жывы? — заварушылася кволенькая надзея дзесьці далёка мо ў падсвядомасці, не давала душы канчаткова зламацца, загінуць. — Адразу і пад сасну? Так, вінаваты, але не здраднік, вырваўся, да сваіх прыйшоў. Але тут свая вайна, жорсткая і бязлітасная. Засылаюць здраднікаў у атрад. Двух перанялі... Вяршкоў злы, на ўзводзе, можа пайсці на крайнія меры», — нейкі ўнутраны голас настойліва нашэптваў, схіляў шалі то ў адзін бок, то ў другі.

Кавалевіч не мог змірыцца з тым, што яго не будзе на гэтым свеце, знікне і цела, і душа, усё стане зямлёй, пылам. І мозг, ужо не падпарадкаваны яму, быццам хацеў дапамагчы душы не зламацца, выхопліваў з пражытых гадоў самае яркае — і радаснае, і горкае.

Кавалевіч раптам убачыў свайго бацьку. Той сядзіць за сталом, паклаўшы рукі на абрус, і плача, бяссільна і роспачна, не саромеючыся хатніх, што радком паселі на шырокай лаве ўздоўж сцяны. Ён, Андрэй, тады сямікласнік, запомніў бацькавы рукі, вялікія, звычныя да цяжкай сялянскай работы; слёзы ў бацькі цякуць па няголенай шчацэ, капаюць на сівавату бародку. Бацька завёў у калгас адзінага свайго каня, якога сам выгадаваў; здаў калёсы, вупраж, плужок і барану. Андрэй разумеў: бацька, селянін-бядняк, плакаў не ад таго, што стварыўся калгас, а ад таго, што застаўся адзін у гаспадарцы, якой аддаваў усе сілы, і цяпер няма куды прыкласці рукі, палюбавацца ўраджаем, пакарміць каня, завесці яго на начлег, правесці ноч каля вогнішча, паслухаць гамонку суседзяў. Усяго гэтага ўжо не будзе, і нехта другі, мо які лайдак, будзе даглядаць і ездзіць на яго вараным.

Праз восем гадоў у настаўніцкай Андрэй Кавалевіч згадаў гэты эпізод, расказаў так, без ніякіх намёкаў, у сваім асяроддзі. Яны сядзелі ўтрох: ён, завуч сямігодкі, і яшчэ двое настаўнікаў, якім ён давяраў. Узялі яго праз тыдзень, ціха, ноччу. Як не штодзень дапытвалі, але нічога больш не дазналіся: з бядняцкай шматдзетнай сям'і, вучыўся ў педтэхнікуме, не «значаўся», не «ўдзельнічаў». Чамусьці не прышылі тое, у чым вінавацілі тысячы іншых: варожую прапаганду. Відаць, ці следчы трапіўся больш-менш сумленны чалавек, ці вырашылі, што нейкі настаўнічак вясковай школы не ўяўляе для іх небяспекі: калі што, заўсёды можна падабраць.

Вярнуўся праз паўгода і са здзіўленнем убачыў у сваім крэсле аднаго з тых двух, каму расказваў пра бацьку, убачыў маладога, задаволенага нягодніка, які ўсім сваім выглядам сведчыў, што ён больш разумны, умее жыць, чуе момант. І хто ён, урэшце, гэты змарнелы, апляваны чалавек, яго былы начальнік? Кавалевіч глядзеў на нягодніка, каб прыкмеціць у вачах хоць што-небудзь падобнае на раскаянне ці сорам, і не знайшоў. І ён ціха выйшаў з кабінеціка і потым імкнуўся не сустракацца з ім, не размаўляць без патрэбы, бо гэты чалавек перастаў для яго існаваць.

Неяк дацягнуў да канца навучальнага года, выпрасіў паўстаўкі, больш не далі, звольніўся і раніцай, яшчэ прыцемкамі, з'ехаў разам з жонкай і сынам у суседні раён. Зашыўся там, жыў непрыкметна, вычакаў трохі і ўладкаваўся ўчотчыкам у лягас. Дзякуй Богу, трапіўся добры начальнік, паспачуваў і пад сваю адказнасць узяў на працу.

«А калі б і гэта стала вядома Вяршкову? — страшная думка пранізала, нібы вогненная страла. — Божа, што за ліха на аднаго чалавека? Нягоднік не тое робіць, але выкручваецца, а тут... Любая памылка — і не верацъ, ты — не ты».

Пашанцавала, калі ў першы дзень вайны Кавалевічу і іншым мужчынам прызыўнога ўзросту конны пасланец з ваенкамата ўручыў позвы, а там не дапытваліся, хто ты і дзе сядзеў, выдалі старую трохлінейку і як сяржанта запасу паставілі камандавацъ узводам. Тры дні, яшчэ не апранутыя ў вайсковую форму, бегалі, стралялі, вывучалі зброю, а калі немцы падышлі да горада, роту, у якой быў і ўзвод Кавалевіча, пасадзілі ў неглыбокія акопчыкі на скрыжаванні дзвюх дарог — брукаванай шашэйкі і пясчанага прасёлка, які вёў немаведама куды. Немцы нават не спыніліся, пачуўшы бязладныя стрэлы з вінтовак. Пярэдні лёгкі танк крутнуўся на шашэйцы, наблізіўся да кювета і даў доўгую чаргу з кулямёта, а некалькі матацыклаў, што траскацелі следам, вынесліся на поле і пастралялі амаль усіх, хто сядзеў у акопчыках. Толькі некалькі чалавек, якія былі на флангзе, бліжэй да лесу, паспелі сігануць у гушчарнік узлесся. Сярод іх быў і Кавалевіч. Потым яны да змогі беглі па лесе, але немцы не сталі іх праследаваць, бо, відаць, калона мела іншую задачу.

...Пад раніцу сон змарыў Кавалевіча. Няўзнак праваліўся, бы ў глыбокую цемень, і не чуў, што лагер ужо прачнуўся, сонца зрашэціла светлымі палоскамі рассохлыя, няшчыльна збітыя дзверы зямлянкі, заліло яркай жаўцізной акенца.

Слуп яркага святла ўдарыў Кавалевічу ў вочы, нечаканы і страшны. У праёме дзвярэй стаяў чорны чалавек, моўчкі шукаў вачамі арыштаванага ў цёмным прадонні зямлянкі. Не чакаючы вокрыку, Кавалевіч падхапіўся, імгненна прапаў цяжкі, гнятлівы сон. Зрабіў два крокі да дзвярэй, і здалося яму, што там, ззаду, за спінай, ва ўсім ягоным жыцці нічога не было, і ніколі ўжо не будзе...

— Рукі за спіну і на выхад! — грубы, варожы голас бы апёк бізуном.

«Гаркуша павядзе, былы міліцыянер, — мільганула староння, як не свая, а нечая чужая думка. — Як у турме, калі выводзілі на допыт». Нібы ў бездань, Кавалевіч папхнуўся ў яркі слуп святла, што лілося з праёму дзвярэй. Тры земляныя прыступкі, потым сухі колкі дол з ігліцай, далей тоўстыя карані сасны, што звіліся на паверхні, крыху прысыпаныя шыгаллем. Спатыкнуўся на іх, бо ногі раптам сталі цяжкімі, непаслухмянымі. «Пятро? Не прыйшоў? — забухала ў скронях кроў, бы хто біў па галаве цяжкім малатком. — Віноўны, віноўны. Не дакажаш, ніяк не дакажаш. Дваццаць крокаў да камандзірскай зямлянкі, потым — трыццаць-сорак да ўзбалотка па спадзістым, зарослым травой адхоне ля ручая, які абступалі невысокія вольхі... І ўсё. Імгненны боль — і вечнае забыццё...»

Ззаду сапе Гаркуша з нямецкім парабелумам у руцэ, варожы, насцярожаны, як дзікі звер...

І зямлянка камандзіра, і людзі, якія сядзелі там, — усё паплыло перад вачамі Кавалевіча, нібы ў густым гарачым тумане. Яго пасадзілі каля дзвярэй на голы тапчан. Жорстка загаварыў Вяршкоў, і яго голас, здалося Кавалевічу, пранізваў навылёт, бы мноства куль балюча джалілі цела. Строгія, пахмурныя твары прысутных, а потым цішыня, насцярожаная, трывожная. І раптам адтуль, з цемнаты зямлянкі, уладны, нягучны голас:

— Устаць!

Кавалевіч падхапіўся, нібы якая тугая спружына падкінула яго, і тут жа зразумеў, што, можа, апошні раз чуе чалавечы голас, але камісар Беляшонак без аніякай пагрозы папрасіў расказаць, што адбылося ў разведцы. Учора, на допыце, Кавалевіч падрабязна паведаміў пра ўсе падзеі, але не здзівіўся, што вось цяпер трэба яшчэ раз узнавіць тое балючае для яго і непапраўнае.

Галава трохі праяснілася, Кавалевіч ужо бачыў твары прысутных, і яны не здаваліся яму такімі жорсткімі. Расказаў падрабязна, як усё адбылося, і раптам зразумеў, што да канца яму не вераць. «Баркун? — мільганула ў галаве. — Нідзе няма — ні жывога, ні мёртвага. Такога не можа быць. Паліцаі прыціснулі, катавалі, а калі зламаўся, арганізавалі ўцёкі, Баркуна ж пакінулі ў заложніках. Няўжо яны так думаюць?»

Тупая, безвыходная пакорлівасць лёсу гняла Кавалевіча, і яму раптам захацелася, каб хутчэй скончыўся гэты суд, кашмар, у якім ён і жыве апошнія два дні. Яго папрасілі сесці. Гаварылі камандзіры ўзводаў: адны былі за тое, каб яшчэ раз праверыць, ці праўду кажа арыштаваны, іншыя выказваліся за смяротную кару.

Нечакана Кавалевіч ускочыў, у адчаі хрыпата выгукнуў, бы ўхапіўся за кволую саломінку на страшнай вірлівай плыні, якая несла яго ў бездань:

— Віноўны, поўнасцю віноўны, што без аглядкі палез у вёску... Так, злачынца... Але не здраднік я. З пограба вырваліся. Немагчыма паверыць, што такое можа быць. Доказаў у мяне няма. Пашліце туды, загіну ці дазнаюся, дзе Баркун, — апошнія словы выціснуў з сябе ціха, безнадзейна.

Усе паглядзелі на Вяршкова, але той маўчаў. Паволі ўзняўся камісар атрада, няспешна, нібы разважаючы сам з сабой, загаварыў:

— Расстраляць мы яго паспеем, нікуды не дзенецца. Але чую душой, што нешта тут не тое. Не можа чалавек вось так, у адзін момант стаць здраднікам. Не, не можа, калі дагэтуль ваяваў сумленна. Прапаную паслаць разведку ў Каменку. Чалавек не іголка.

Хвіліны дзве ў зямлянцы стаяла цішыня. Кавалевіч сядзеў, нізка схіліўшы галаву, кроў шалёна стукала ў скронях. Як праз густы туман пачуў голас Вяршкова, ужо не гняўлівы, спакойны:

— Згодны з табой, камісар, трэба праверыць. Хай пасядзіць пакуль пад вартай, абмазгуем, што рабіць. Сапраўды, цемнаты тут многа...

Калі Кавалевіча вывелі з зямлянкі, ён раптам убачыў сонца, сосны, елкі, купку бярозак ускрай паляны. І хоць канваір па-ранейшаму быў насцярожаны, пахмурны, ён ужо не здаваўся арыштаванаму такім варожым, як раней. «Жывы, пакуль жывы», — мітусілася ў галаве яшчэ кволенькая, але радасная думка. «Пакуль жывы», — перасцярог нейкі іншы голас, бы не свой, а чужы, далёкі, але, здалося, не такі цвёрды і катэгарычны.

Яшчэ суткі сядзеў Кавалевіч пад вартай у зямлянцы. За яе сценамі ішло звычайнае партызанскае жыццё, і ён, лежачы ў цемнаце на нарах, здавалася, быў у іншым свеце, далёкім і недасяжным, хаця кволілася надзея, што правераць і выпусцяць з гэтай цемры на волю. Часам Кавалевічу здавалася, што Вяршкоў не будзе пасылаць разведку да Каменкі, каб не рызыкаваць, дзень-другі пачакае Баркуна, а калі той не вернецца, то загадае расстраляць арыштаванага.

Але ж Кавалевіч спадзяваўся, што камісар стрымае слова, чалавек разважлівы, цвёрды, не павінен адступіцца, настоіць, каб строга праверылі ўсё да канца, даказалі віну, перш чым расстраляць чалавека. І гэта надзея падтрымлівала Кавалевіча. Але ні хвіліны не давала спакою думка пра Баркуна. Сам адчуваў сваю віну, што палез у тую вёску, не разведаўшы ўсё як след. Але ж яны вырваліся са склепа, і, здавалася, выратуюцца абодва, ды ўсё не прадугледзіш.

Больш за ўсё Кавалевіч баяўся памерці з кляймом здрадніка. Пасля перажытага не так палохала смерць, як адчуванне несправядлівасці да яго. «А калі раптам дазнаюцца, што быў калісь арыштаваны, сядзеў у турме? —

неадчэпна вярэдзіла думка. — Тады канец, не выбавішся, нічога не дакажаш Вяршкову».

Кавалевіч падумаў, успомніў пра былое і ўвесь пакрыўся халодным потам, павярнуўся на мулкіх нарах. «Божа мой, кругом віноўны, — падумаў з безнадзейным адчаем. — Яшчэ гэтага мне не хапала, каб прыпомнілі і трыццаць сёмы... Замараны, выходзіць, па самыя вушы замараны. Тады па тонкім лёдзе хадзіў, баяўся, што трэсне пад нагамі. Але не, цяпер не дазнаюцца, што сядзеў. Вяршкоў з акружэнцаў, рускі чалавек, а камісар быў сакратаром райкома ў суседнім раёне. Ды і хто будзе помніць нейкага настаўніка, да таго ж беспартыйнага. Але ўсё здараецца».

Увечары Кавалевіча зноў павялі ў зямлянку Вяршкова. Сонца яшчэ не зайшло, але стаяла нізка, дзесьці за лесам, на паляне пачало сутонець. У зямлянцы былі двое — Вяршкоў і камісар.

— Не знайшлі Баркуна, — Вяршкоў падышоў да Кавалевіча. — Пасылалі тры групы, усё аблазілі, нідзе няма. Ніякіх слядоў.

Вяршкоў адышоўся ўглыб зямлянкі, прысеў на лаўку, закурыў. Нешта не жорсткае, не катэгарычнае ўлавіў Кавалевіч у яго голасе — нібы якое сумненне, роздум. І зноў слабая надзея на выратаванне варухнулася ў душы. Вяршкоў узняўся, сказаў будзённа, без злосці, з нейкай палёгкай у голасе, як усё роўна скінуў цяжар, які гнёў яго ўсе гэтыя дні:

— Скажы дзякуй камісару, — паглядзеў на арыштаванага, — даём табе шанц даказаць, што невінаваты. Пасылаем з групай у Каменку, трэба «бобіка» ўзяць жывым...

— Мне? Ісці? Давяраеце? — Кавалевіч пахіснуўся, раптам цёмна стала ў вачах, разгублена глядзеў на камандзіра, бо яшчэ не верыў сказанаму. — Мне, давяраеце? — выхрыпнуў чужым, непаслухмяным голасам, і глотку сцяла сутарга.

— Давяраем, пакуль давяраем, — паправіўся Вяршкоў, — а калі што, сам ведаеш... Шагуноў павядзе групу. Двое сутак даю. Карабін нямецкі возьмеш. Паняў? А за ППШ яшчэ давядзецца адказаць. У баі здабудзеш нямецкі — прашчу. Усё, ідзі. Боты ў каго пазыч, — паказаў позіркам на босыя ногі Кавалевіча.

Кавалевіч не помніў, як выйшаў з зямлянкі, ступіў колькі крокаў і не мог ісці ад нечуванай радасці, ногі саслабелі, і ён прысеў на дол каля тоўстага камля сасны, што стаяла непадалёк. «Божа мой, дык ты ёсць на свеце, — шаптаў бяскроўнымі губамі, абхапіўшы рукамі галаву. — Дзякуй камісару, паверыў». Агледзеўся вакол — канваіра Гаркушы нідзе не было. «Вольны, — заскакала радасная думка, — цяпер трэба даказаць, што праўду казаў. Толькі Пятра шкада. А мо жывы? Нідзе ж не знайшлі».

Купкамі да яго падыходзілі партызаны, адны спачувалі, некаторыя яшчэ глядзелі на яго падазрона, з недаверам.

— Хлопцы, паверце, усё так было, як расказаў, — Кавалевіч разгублена азіраўся, прагна лавіў позіркі партызан. — Сам віноўны — паджыгнула нейкая нячыстая сіла, хацелі зрабіць, як лепей... Век не дарую сабе... Пятра шкада... Хлопцы, адзін я віноўны, — не хацеў, трымаўся, але сляза выкацілася з вачэй, і ён не змахнуў яе.

Падбег Грышка Ярота, укленчыў, спагадна зазірнуў у вочы аддзялённага, з трывогай спытаў:

— Выпусцілі? Паверылі? Мо і жывы Пятро, аблазілі ўсе навакольныя вёскі, лес прачасалі — нідзе няма. І ніхто не чуў пра яго.

— Адпусцілі, Грыша, — ціха прамовіў Кавалевіч. — Пакуль адпусцілі.

На заданне іду, «языка» трэба ўзяць. Пазыч на двое сутак боты, у цябе, здаецца, старыя ёсць у запасе.

Кавалевіч цяжка ўзняўся, пабрыў да зямлянкі, якую займала яго аддзяленне. Віна ляжала цяжарам на душы, і ён ведаў напэўна, што гэта адчуванне надоўга, на ўсю вайну і пасля вайны, калі выжыве, калі пашанцуе. А заданне цяжкае, рызыкоўнае, але Вяршкоў і камісар спадзяюцца на ўдачу, бо пасылаюць вопытнага і смелага Шагунова.

## II

На заданне выйшлі ўтрох: наперадзе цвёрда крочыў Шагуноў, прысадзісты, моцны, упэўнены ў сабе, былы старшына-пагранічнік, які да вайны служыў разам з Вяршковым. За ім бадзёра тупаў малады партызан Міша Купрэвіч з аўтаматам ППШ на грудзях, хлопец рызыкоўны, кемлівы, а ззаду моўчкі сунуўся Кавалевіч, раз-пораз папраўляючы на плячы цяжкі нямецкі карабін, нязвычны для яго, бо прывык да лёгкага і зручнага аўтамата.

Выйшлі пасля абеду, каб паспець да Каменкі завідна, агледзецца на мясцовасці, паназіраць за распарадкам у гарнізоне і выбраць месца для засады. Вяршкоў строга наказаў ім, каб у вёскі па дарозе не заходзілі, ішлі толькі лесам, таму і ўзялі з сабой на двое сутак прадуктаў. Рэчмяшок нёс Купрэвіч, як самы малады сярод партызан. Памыляцца ім было нельга — любы неасцярожны крок, і заданне сарвецца.

Па ўсім было відаць, што Шагуноў не ў настроі — не выспаўся як след, бо ноччу вярнуўся з разведкі. І вось новае заданне. Таму і супіўся, маўчаў. Але Шагуноў такі чалавек, што па загадзе Вяршкова ў агонь кінецца. Купрэвіч, наадварот, радаваўся, што паслалі менавіта яго на адказнае заданне, насвістваў нейкі вясёлы матыўчык, жартаваў.

— Ты б памаўчаў, свістун-салавей, — не абарочваючыся, буркнуў Шагуноў. — Распяяўся, не на вяселле ідзём...

Не лез Міша Купрэвіч па слова ў кішэню, але на гэты раз змоўчаў, бо адчуваў настрой камандзіра групы і ведаў яго характар, толькі незадаволена пакруціў галавой, спахмурнеў, прыладзіўся да шырокага кроку старшага.

Гадзіны дзве партызаны тэпалі праз густы сыраваты яловы лес, а калі выбіліся ў малады соснік, які густа абляпіў пясчаны пагорак, прыселі на ствол танклявай бярозкі, якую, мусіць, зламаў вецер, перакурылі і моўчкі пакіраваліся далей. Сонца, хоць і пайшло на схіл, паліла няшчадна, асабліва душна было ў сухім хвойніку. Але хутка ўвайшлі ў стары сасновы лес, дзе на ніжэйшых мясцінах пракідаліся высокія лапушыстыя елкі, ды на доле густа рос ядловец, нешырокія паляны засялілі бярозы і асіны. Павеяла прахалодай, пахам моху, бруснічнікам, і ісці стала лягчэй.

У Шагунова ў палявой сумцы дакладная нямецкая карта, на якой пазначаны нават адзіночныя хутаркі, скрыжаванні кароткіх палявых дарог, не гаворачы ўжо пра чыгунку і магістральныя трасы, вялікія і малыя вёскі. Быў у яго і компас. Таму старшы вёў групу наўпрасцяк, самым кароткім маршрутам. Кавалевіч з такім вопытным чалавекам таксама адчуваў сябе ўпэўнена, хаця, шчыра кажучы, яшчэ не ачуняў ад усяго перажытага. Адступаць яму не было куды: толькі там, у Каменцы, нарэшце вырашыцца яго лёс. Ці возьмуць паліцая, які дасць дакладныя звесткі пра Баркуна, ці здарыцца што іншае, непрадбачанае.

— А ты, браток, уляпаўся капітальна, — Шагуноў хутка азірнуўся, востра зірнуў з-пад брыля фуражкі на Кавалевіча.

— Уляпаўся, па сваёй дурноце ўляпаўся, — пахмурна адказаў Кавалевіч.

— Думаеш, Вяршкоў не адчуў, што па дурасці ўлезлі ў дзярмо, — Шагуноў хрыпата засмяяўся. — Але яму трэба доказы. «Бобіка» не возьмеш жыўцом, ведаеш, што будзе?

— Ведаю, — Кавалевіч апусціў галаву, моўчкі тэпаў за Купрэвічам.

Некаторы час ішлі па адкрытай, даволі шырокай паляне, бо не хацелася лезці ў гушчарнік, і зноў пачаўся лес, але ўжо не такі густы. Усё выдавала, што хутка будзе селішча, добрыя дарогі, дзе можа чакаць небяспека. Пад вечар партызаны падышлі да Каменкі, спыніліся на ўзлессі, перакусілі, пачалі назіраць. Адсюль былі відаць крайнія хаты вёскі, кусты, у якіх ратаваліся Кавалевіч і Баркун. У бінокль Шагуноў уважліва агледзеў падступы да гарнізона, перадаў бінокль Кавалевічу.

— Вунь тая хата, дзе паліцэйскі пост, — пачаў тлумачыць старшаму групы, — лявей пограб, куды нас пасадзілі. Калі выскачылі, беглі па сотках да кустоў. Там разышліся.

— Нямнога, — сказаў Шагуноў, беручы бінокль.

Ён пільна ўгледзеўся ў густое кустоўе, вадзіў біноклем і ўлева, і ўправа, наткнуўся на адзінокі хутар з высокім дрэвам на падворку, зацікаўлена спытаў у Кавалевіча:

— Там, здаецца, ад кустоў да хутара дарога? Цікава, хутар недалёка ад зараснікаў...

— Дарога ці сцежка, — няпэўна адказаў Кавалевіч.

— Н-да, з гэтага боку не падбярэшся, лес далекавата, дагоняць, калі што. А тыя, з дзота, выходзяць на вуліцу?

— Адзін выходзіць, другі сядзіць у схроне, — патлумачыў Кавалевіч. — Таго, хто вылез, мы і паспрабавалі ўзяць.

— Не трэба было лезці, — Шагуноў уважліва агледзеў у бінокль крайнюю хату. — Замаскіраваліся, падлы, хітра. З гэтага канца не возьмем «бобіка», тут яны пужаныя. А там, на горцы, дзе ты з Баркуном ляжаў, лес блізка?

— Бугор амаль голы, за ім адразу гушчарнік, — адказаў Кавалевіч. — Але там вёска зусім блізка, хаты, як на далоні, за вузкай рачулкай. І дарога побач, унізе пясчаны шлях.

— Цікава, — Шагуноў задумаўся. — Мосцік, кажаш? А паліцаі там ездзяць?

— У той дзень, калі мы там ляжалі, два паліцаі на калёсах праехалі да лесу.

Сонца, вялікае, чырвонае, паволі скочвалася за лес, на небе ні аблачынкі — чыстае, бы вымытае.

— Заўтра пагода будзе, — Шагуноў паправіў «шмайсер», які заўсёды насіў на грудзях, каб быў пад рукой. — Ну што ж, сцямнее, пашнарым па тых кустах, дзе вы разбегліся. А потым падумаем, што рабіць.

Калі добра сцямнела, тры постаці вытыркнуліся з узлеску і, як ваўкі, нячутна падаліся да вёскі. Густы быльнік глушыў крокі. Наперадзе, крыху ўгнуўшыся, краўся Шагуноў, гатовы ў любы момант да кідка. Лявей, крокаў за дзесяць, нячутна сунуўся Купрэвіч, трымаючы напагатове аўтамат, а ззаду ступаў Кавалевіч. Абышоўшы крайнюю хату, дзе быў пост, у кустоўі яны сышліся, стаіліся. На вуліцы пачуліся крокі — тупалі тры цёмныя постаці. Відаць, змяняліся паставыя.

— Так, тут іх не вазьмёш, — прашаптаў Шагуноў, — навучаныя. Толькі гранатай можна выкурыць, але шораху нам не трэба.

Партызаны аблазілі кусты, выбіліся на той бок да хутара, але ўсё было ахутана цемрай, толькі на фоне больш светлага неба ледзь-ледзь выяснялася прадаўгаватая крона дрэва. Шагуноў падышоў бліжэй на ўскрай поля, пакратаў рукой ужо высакаватае жыта, задумліва прашаптаў:

— Мо да самага хутара расце? Цікава, адсюль можна неўпрыкмет дапаўзці і схавацца ў якім хляве...

Кавалевіч спачатку не зразумеў, што хацеў гэтым сказаць Шагуноў, але раптам успомніў той сонечны ранак, калі ён ляжаў на грудку пасля ўцёкаў са склепа і бачыў, як паліцаі наведваліся на хутар, нечага ці некага там шукалі.

— Я ўспомніў, — горача зашаптаў Кавалевіч, — сам бачыў, як на хутар у тую раніцу наляцелі паліцаі, нечага шукалі.

— Шукалі, кажаш? — Шагуноў насцярожыўся. — Нічога не знайшлі?

— Нічога, але былі злосныя, — адказаў Кавалевіч. — І нейкі іхні начальнік з пісталетам у руках... Бегаў, крычаў.

— Дык чаму маўчаў, Вяршкову не паведаміў? Возьмем «языка», праяснім. Пойдзем на твой бугор, наша задача іншая. А потым патрасём і гэты хутар.

Партызаны вярнуліся на ўзлесак, не паглыбляючыся ў лес, кустоўем пакрочылі да пагорка. Абачлівы Шагуноў загадаў Купрэвічу і Кавалевічу крыху аддаліцца ў лес, каб у выпадку чаго ўсе адразу не загінулі. Пагранічная навука, здавалася, назаўсёды трывала ўелася ў свядомасць старшыны, і тут, у тыле ворага, яшчэ як спатрэбілася. Мо таму гэта асцярога, дакладны разлік і ратавалі яго ў самых жорсткіх абставінах.

Яны ўзняліся на пагорак, прылеглі ў высокую траву сярод невысокіх бярозак-самасеек. У вёсцы было цёмна, нават абрысы хат не праглядаліся, толькі цьмяная стужка рачулкі ледзь-ледзь выдзялялася на лузе ды цямнелі кусты паабапал вады.

— Зручнае месца, — адзначыў Шагуноў. — Кажаш, дарога ўнізе? — звярнуўся да Кавалевіча. — Раніцай паназіраем і прымем рашэнне. А цяпер адыдзем у лес, пакімарым і да ўсходу сонца сюды. Ясна?

Партызаны спусціліся з грудка, паглыбіліся ў даволі змрочны, нізкарослы ельнік. Кіламетры за два ад узлесся пад глыбокім вываратнем распалілі невялікае цяпельца, каб пагрэцца, бо ў лесе стала зябка.

— Хоць небяспекі няма, але спаць будзем па чарзе, — аб'явіў Шагуноў. — Беражонага, як кажуць, Бог беражэ, — упершыню за ўвесь дзень кораценька засмяяўся. — Спіце, я пакараўулю, прывычны.

Пасля паўночы ён пабудзіў Кавалевіча і наказаў, што калі ледзь пасвятлее неба на ўсходзе, падняць яго. Але заснуць Шагуноў не мог. Паляжаўшы на яловых лапках з паўгадзіны, азяб і прысеў побач з Кавалевічам, пачаў вярцець самакрутку. Прыпаліў ад галавешкі, якая тлела на попеле цяпельца, смачна зацягнуўся дымам, ціха сказаў:

— Не ведаю чаму, а паверыў табе. Я быў у такіх перадзелках, што толькі цудам ратаваўся. Душой адчуваю, невіноўны ты, а здуру палез у пекла. Але ж вырваўся з таго паграба, значыць, не слюнцяй. Калі вярнуўся з разведкі, дазнаўся пра тваю бяду. А тут Вяршкоў пазваў, карашы мы з ім, тэпалі разам ад граніцы. Так і так, кажа, старшына, дзела няяснае, трэба ўзяць жыўём паліцая, прасвятліць, што да чаго. Ну, я згадзіўся, толькі паспаў да паўдня. Браць трэба, кроў з носа, браць «бобіка», як вы іх называеце. Паняў?

Як толькі паблякла неба на ўсходзе, партызаны цішком падняліся на

пагорак, у паўзмроку паўзком дапялі да самай вяршыні і залеглі ў траве. Было росна, цягнуў слабы халаднаваты ветрык, бярозкі ціха шапацелі лістотай. Шагуноў паклаў каля сябе «шмайсер», адчуў жыватом холад, зябка перасмыкнуў плячамі, прабурчаў:

— Вернемся, адагрэемся ў баньцы — хлопцы абяцалі натапіць да нашага прыходу. І-э-эх, калі ж гэта вайна скончыцца.

Неба на ўсходзе ўвачавідкі святлела, выяснілася доўгае попельнае воблака, што, нібы крыга на вадзе, вісела па той бок вёскі, дзе цямнеўся хутар. Унізе, збоку і наперадзе, праступіла жаўтаватая палоска дарогі, бачыўся цёмны мосцік над павілястай рачулкай, густа зарослай лазняком і алешнікам, а далей, за лужком і агародамі, паказаліся здані хат.

Шагуноў адпоўз назад, па схіле спусціўся ўніз да самай дарогі. Вузкі пясчаны шлях выпаўзаў з мосціка, аббягаў пагорак і крута браў управа, да лесу, хаваўся дзесьці за шчоткай сасонніку. З гэтага боку дарогу атуляў нізкаваты, але шырокі і густы лазовы куст, па той бок ляжаў луг. Задаволены аглядам старшына вярнуўся на пагорак.

— Будзем браць тут, — выдыхнуў шэптам. — Закантуем якога. Не можа быць, каб ніхто тут не праехаў ці не прайшоў, бо на дарозе каляіны, сляды ботаў. Будзем дзейнічаць па сітуацыі.

Сонца бліскучым краёчкам паказалася над далёкім лесам па той бок вёскі, неўпрыкмет павышэла, заліло сляпучым святлом наваколле. На лузе скрозь заблішчала раса, а каля кустоўя вузкай палоскай вісеў рэдкі туман, расцёкся касмылькамі па нізовінах. Невысокія лазовыя кусцікі, сямтам паўтыканыя на лужку, таксама свяціліся расой.

Шагуноў прыставіў да вачэй бінокль, паўзіраўся ў прастору, доўга разглядваў вёску, хутар за ёю. Асабліва пільна цікаваў за абаронай ворага на тым краі, дзе атабарыліся немцы. Напружыўшыся, побач пад бярозкай ляжаў Кавалевіч, здавалася, бесклапотна ўмасціўся крыху ўбаку за невысокім кусцікам немаведама як занесенага сюды ядлоўцу, ваяўніча выцягнуўшы шыю, нязводна глядзеў ў бок мосціка, нібы паляўнічы, які выцікоўвае дзікага звера.

Вёска прачнулася, задымілі коміны хат, пацягнула на пагорак гаркавы дымок. Па вуліцы соўгаліся паліцаі, нехта праехаў на калёсах, далятаді вокрыкі каманд. На нямецкім баку было ціха. Той канец вёскі хавала густое кустоўе каля рачулкі, былі відаць толькі агароды ды дзве крайнія хаты і нямецкі бліндаж, загарадзь з калючага дроту.

— Нічога сабе ўмацаваліся, — незадаволена прабурчаў Шагуноў. — Туды не падступішся... Але «языка» павінны ўзяць.

Стук капытоў за рачулкай насцярожыў партызан. З-за кустоўя паабапал рачулкі не было відаць, ці сюды едзе падвода, ці хто кіруе вуліцай вёскі. Шагуноў асцярожна прыўзняўся, поверх травы паўзіраўся ў кірунку мосціка. Нечакана з-за кустоў паказаўся верхавы паліцай — няўклюдна, бы завадная лялька, падскокваў на кані без сядла. Але на мосцік не паехаў, збочыў на луг, непадалёк ад шляху саскочыў долу, пусціў каня пасвіцца. Няспешна, не выходзячы на дарогу, наўпрасцяк пацягнуўся да вёскі.

Мінула яшчэ з паўгадзіны. Сонца павышэла, пачало прыпякаць, туманок на лузе знік, бы і не было яго. Каля вёскі за паваротам пачуліся галасы, данеслася глухое тоўханне капытоў у сухім пыле дарогі, рыпенне колаў. З-за кустоўя павольі выплыла галава каня, потым паказаліся калёсы, на якіх сядзелі вясковыя дзядзькі. Конь усцягнуў падводу на мосцік, колы

дробна залескаталі па бярвенцах насцілу. Следам паказаліся другія калёсы з трыма паліцаямі: пажылы кіраваў канём, вінтоўка яго ляжала побач на сене; двое сядзелі на драбінах тварам да партызан, пра нешта размаўлялі. Вінтоўкі трымалі на каленях. Малады паліцай, амаль падлетак, курыў папяросу, раз-пораз весела смяяўся, ляпаў па плячы свайго сябрука, не нашмат старэйшага за сябе.

Падводы мінулі мосцік, ужо шпарчэй пакаціліся па дарозе, павярнулі направа да маладога рэдкага сасонніку, які мыском выдаваўся да вёскі.

— Самы раз захамутаць іх там, — загарачыўся Купрэвіч. — Уміг павяжам, не пікнуць.

Шагуноў строга, асуджальна зірнуў на хлопца, нібы папярэдзіў таго не вытыкацца, ціха прашаптаў:

— Там, бачыш, садовая твая галава, адкрыты ўчастак. А ля крайняй хаты нямецкі бліндаж з кулямётамі. Уміг зрэжуць. Паняў?

— Паняў, — паныла азваўся Мішка. — Чаму ж не паняць...

— А браць іх будзем тут, — Шагуноў паказаў на дарогу ўнізе. — Перад мосцікам. З-за кустоў шлях з вёскі не праглядаецца, а лес — во ён, за намі. Пакуль паймуць, што да чаго, метраў трыста па лесе прабяжым. Да, а чаго ж яны туды паехалі?

— Мо па дровы? — выказаў здагадку Кавалевіч.

Партызаны працягвалі назіраць. Каля мыска падводы спыніліся, вяскоўцы выцягнулі з калёс пілу, сякеры, распрэглі каня, пусцілі на луг. Тое ж самае зрабіў і пажылы паліцай, што кіраваў канём. Дрывасекі пашыліся ў лясок, а «бобікі» разлегліся воддалек на траве.

— Работнічкі, — пагардліва працадзіў скрозь зубы Шагуноў. — Пачакаем, калі будуць вяртацца. Мужыкоў прапусцім, яны нам не апасныя, а двух «бобікаў» у расход. Аднаго возьмем, таго малакасоса, што папяроску курыў. Расколецца, калі прытарабанім у атрад.

Дзесьці ў гушчары пілавалі маладыя хвойкі, там жа абсякалі сучча і выцягвалі камлі на луг. Было відаць, працавалі неахвотна, часта рабілі перакуры.

— Так яны і да абеду не ўправяцца, — заўважыў Кавалевіч, — «бобікі» падмаглі б, дык не...

— Гэта добра, — падаў голас Купрэвіч, — бліжэй к вечару зручней будзе браць, бо ў лес пабаяцца сунуцца. Э-эх, сасннуць бы, — ён ляжаў на спіне, глядзеў у пабляклае ад спёкі неба.

— Разгаворчыкі, — прасіпеў Шагуноў, злосна зірнуў на Купрэвіча. — Не расслабляцца. Нам усё роўна, калі яны будуць вяртацца, аднаго выхапім. Хрэн дагоняць, слабакі.

Старшы групы сказаў гэтак строга, каб яшчэ раз папярэдзіць партызан, што чакае іх наперадзе.

Сонца паліла на ўсю моц, нават тут, у цяні бярозак, было душна. Дрывасекі ўпарыліся, стаміліся, паселі на ўзлеску, пачалі палуднаваць. Паліцаі ляніва падышлі да іх, умасціліся побач, каб перакусіць ці папіць чаго: пэўна, «бобікі» нічога з яды не захапілі з сабой, бо меркавалі, што да абеду ўправяцца з работай. Людзі павыцягвалі з ляска тонкія бярвенні, пачалі адсякаць вяршалінкі. Падкацілі да ладнай кучы стволікаў калёсы, адсунулі задок, каб канцы жэрдак не цягнуліся па дарозе, даволі спорна нагрузілі воз.

— Пара, — коратка сказаў Шагуноў, падабраўся, драпежна зіркнуў на вёску, затрымаў позірк на мосціку. — Калі адтуль не нахопяцца, возь-

мем. — У голасе чулася ўпэўненасць. — Цяпер уніз, будзем чакаць іх у кустах пры ўездзе на шлях. Кавалевіч пры мне, падсобіш, калі што, Купрэвічу прыкрыць, дагоніш нас у лесе. Вінтоўкі і патранташы забярэш. Калі будуць праследаваць, патронаў не шкадуй, рэж на ўсю катушку. Усім панятна?

Партызаны адпаўзлі ў лес, спусціліся з адхону ў кустоўе каля дарогі, замаскіраваліся. Шагуноў з Кавалевічам заляглі ў неглыбокім кювеце, Купрэвіч стаіўся крыху бліжэй да мосціка.

Цяжкі воз цягнуўся палявой, ледзь прыкметнай дарогай, вознікі стомлена брылі збоч і ззаду; следам, метраў за дзесяць, ехалі паліцаі. Той, якога намеціў узяць Шагуноў, сядзеў на драбінах тварам да партызан, звесіўшы ногі, другі паліцай умасціўся наперадзе, побач з вазаком. Нагружаная падвода цяжка ўспаўзала на шлях, сяляне гуртам дапамаглі каню ўскаціць калёсы, зморана патэпалі збоч.

— Гэтых прапускаем, — яшчэ раз напомніў Шагуноў. — Ты за мной выскоквай, — зірнуў на Кавалевіча, — бяром маладога, хутка тарабанім у лес. З двума пярэднімі адзін спраўлюся.

Воз з бярвенцамі павoлі праплыў за кустамі, паскрыпваючы коламі, пацягнуўся да мосціка. Паліцаі ехалі таксама няспешна, вазак не падганяў каня, толькі трымаў лейцы. Калі калёсы наблізіліся, Шагуноў паволі ўзняў «шмайсер», крыху прыпадняўся, павёў руляй. Рэзка цокнула кароценькая чарга, потым другая, даўжэйшая. Вазак таргануўся галавой назад, выпрастаўся і пачаў хіліцца наперад, паволі ссунуўся між аглобляў пад заднія ногі каня. Той застрыг вушамі, скасавурыўся, ірвануў калёсы і спыніўся наўскасяк дарогі. Другі паліцай паваліўся на драбіны бокам, заціх. Умомант Шагуноў выскачыў на дарогу, з усяе сілы тузануў наперад маладога паліцая, які з жаху здранцвеў на возе, шмякнуў на жвір.

— Хутчэй, у лес цягнем, — прахрыпеў Шагуноў. — Выключыўся, слабак.

Удвух з Кавалевічам яны падхапілі абмяклае цела, волакам пацягнулі цераз кусты. Дрывасекі, учуўшы стрэлы, адразу пападалі на дол, а маладзейшы порстка скочыў за кювет у лазняк.

— Усім ляжаць, — нямоцна крыкнуў Купрэвіч, падбег да калёс, бborздзенька сабраў вінтоўкі паліцаяў, вышмаргнуў патранташы, угнуўшыся, няўклюдна пасігаў у лес.

Нечакана рэзка ўдарыў нямецкі кулямёт, зло, апантана крышыў вербалоз каля дарогі, але чарга нікога з партызан не зачапіла: кулямётчык страляў усляпую, бо дарога не праглядалася.

Задыхаючыся, Купрэвіч адолеў пад'ём, пляснуўся на дол каля камля тоўстай сасны, пачуў крыкі, тупаценне каля мосціка, стрэлы з вінтовак; спяшаючыся, прыцэльна даў дзве доўгія чаргі, каб тыя, што даганялі, заляглі. З лесу ўдарыў аўтамат Шагунова, два ці тры разы стрэліў Кавалевіч. Паліцаі не адважыліся высунуцца на дарогу, забухалі з вінтовак з-за мосціка. Купрэвіч хуценька падхапіў зброю «бобікаў», прадзёрся цераз кусты на ўзлеску, ушыўся ў лес. Ззаду зноў затупацелі, стрэлы пачуліся бліжэй. Купрэвіч вільнуў улева, у нізовіну, з гарачкі праскочыў метраў сто, прыпыніўся, з палёгкай выдыхнуў паветра: кулі прашывалі лес вышэй і дзесьці ўбаку. Дагнаў партызан кіламетры праз два. Тыя ўпарыліся, прыселі на палянцы, з трывогай чакаючы свайго таварыша, бо не ведалі, ці змог ён вырвацца. Калі група злучылася, Шагуноў выдыхнуў з палёгкай:

— Дудкі, цяпер не дагоняць, кішка слабая. — Але на ўсякі выпадак загадаў адысці далей у гушчар, бо паліцаі маглі прачасаць лес.

Старшы групы схіліўся над паліцаем, які ўжо трохі ачуняў і спалохана лыпаў вачамі.

— Уставай, маць тваю! — груба загадаў «бобіку». — На сваіх патэпаеш. Захацелася панам быць, каб цябе неслі? Ублюдак, я цябе тут бы і прыкончыў, каб мая воля была.

Паліцай са спалохам глядзеў на партызан, але не падымаўся. Тады Шагуноў пагрозліва зняў з пляча аўтамат, шчоўкнуў затворам. Хлопец з намаганнем устаў, залыпаў вачамі, белымі ад страху, заікаючыся, пралепятаў:

— Я... я не п-па с-сваёй волі... з-забралі.

— Маўчы, падла нямецкая! — Шагуноў балюча тыцнуў яго руляй аўтамата ў грудзі. — Ідзі, там разбяруцца, — дадаў ужо цішэй, пагрозліва.

Вочы паліцая патухлі, твар сшарэў.

— Расстраляюць мяне? — ледзь здолеў прашаптаць беднымі дрыжачымі губамі. — Я... я не х-хацеў...

— А ты думаў, што на вяселле цябе павядзём? — грэбліва працадзіў Шагуноў скрозь зубы. — Упярод, ды без выбрыкаў...

Глыбокай ноччу партызаны дабраліся да атрада; Вяршкоў вырашыў адразу дапытаць паліцая. Шагуноў увапхнуў палоннага ў зямлянку камандзіра, пасадзіў на нары, таму што «бобік» ад усяго перажытага саслабеў, не мог стаяць. Вяршкоў доўга глядзеў на паліцая, потым спытаў:

— Малады такі і немцам прадаўся? З Каменкі?

Паліцай памкнуўся ўстаць, але Шагуноў паклаў яму руку на плячо, маўляў, сядзі.

— З хутара я, — дрыжачым голасам прамармытаў паліцай. — Хата каля самай вёскі. Кошар маё прозвішча, — цепануў худым плечуком, дадаў: — Якаў.

— Ты не Кошар Якаў, ты — здраднік, — жорстка сказаў Вяршкоў. — Мундзірчык чужы нацягнуў і стаў фашысцкім халуём. Ясна табе?

— Мяне сілком запхнулі ў паліцыю, я-я не хацеў, — ціха пралепятаў паліцай. — Жулега, начальнік, грозіўся бацьку на варотах павесіць, калі...

— Кінь лапшу на вушы вешаць... Бацьку павесілі б?.. Старая байка, — Вяршкоў ляпнуў далоняй па дошках стала. — Да нас трэба было ісці, а не чакаць, пакуль гэты твой Жулега заграбе.

Паліцай у страху адхіснуўся назад, закрыў твар рукамі, прабубніў:

— Не, не, я не вінаваты... Жыць хачу...

— А хто? Я табе гэты мундзірчык надзеў? — грозна рыкнуў Вяршкоў. — А цяпер раскажы пра партызан, якіх вы захапілі і ў пограб пасадзілі. Толькі праўду, а то размова ў нас кароткі.

— Яны ўцяклі... Ноччу, — паліцай выцягнуў тонкую хлапечую шыю, трохі падаўся наперад... — Смык, які вартаваў іх, загінуў. Паднялі ўсіх, кусты прачасалі, нікога не знайшлі. Казалі, што партызаны паспелі ў лесе схавацца... Як развіднела, Жулега сам шукаў, на хутар да бацькі заходзіў, грозіўся яму... Кроў каля кустоў была...

— І ты быў з Жулегам на хутары? — удакладніў Вяршкоў.

— Быў. Чуў, як бажыўся бацька, што нікога не бачыў. І назаўтра шукалі ў кустах, у лесе, бо адзін партызан быў паранены...

— У цябе ўсё? — строга спытаў Вяршкоў.

— Не, не, — паліцай ссунуўся на земляную падлогу, заплакаў. Усхліпваючы, паўтараў: — Я не па сваёй волі... Я да вас хацеў... Не, не страляйце... я жыць хачу...

— Гніда, — з агідай сказаў Вяршкоў. — Запры яго ў зямлянцы, хай да раніцы пасядзіць, — загадаў Шагунову: — Пазаві Кавалевіча, паспее паспаць.

Як толькі Кавалевіч пераступіў парог зямлянкі, Вяршкоў паведаміў:

— Паліцай пацвердзіў, што партызаны ўцяклі з пограба. Вартавы пакалечаны, памёр праз дзень. А вось, і гэта галоўнае, Баркуна не знайшлі, няма яго ў іх...

— Значыць, жывы? — не ўцярпеў Андрэй Кавалевіч, перапыніў камандзіра. — Жывы!

— Гэты «бобік» сцвярджае, што ў кустах была кроў. Не выключана, што Баркуна параніла. Але дзе ён падзеўся? На хутары, які блізка ад кустоў, яго няма. Дык дзе тады?

— Мо як дапоўз да лесу? — выказаў меркаванне Кавалевіч. — А мо дзе схаваўся ў бліжэйшай вёсцы? Хутар гэты мяне непакоіць.

— Паліцай — сын таго хутараніна, ён бы ведаў, — няпэўна сказаў Вяршкоў. — Чорт яго ведае, сплялося ўсё ў адзін клубок. Але трэба шукаць Баркуна, у паліцаяў яго няма. Вось што, адаспіся, бяры сваё аддзяленне і вядзі ў Каменку. Аблазь наваколле, а галоўнае — хутар. Ператрасі ўсё там. Заўтра пасля абеду і выходзь. Ну, ты зразумеў, Кавалевіч, што я зняў усе абвінавачванні ў твой адрас? — раптам спытаў Вяршкоў.

— Зразумеў, — чотка адказаў Кавалевіч. — Я і не крыўджуся, так трэба, вайна...

— Вось і добра, — прыязна ўсміхнуўся камандзір атрада. — Жадаю ўдачы.

Пасля абеду паліцая расстралялі. Калі яго павялі двое партызан, Кавалевіч глядзеў у вузкую спіну хлопца, які ледзь перастаўляў ногі. Андрэй не вытрымаў, адвярнуўся. Неўзабаве з узбалотка данеслася кароткая аўтаматная чарга. Стала ціха. Глухавата шоргала аб зляжалую зямлю лапата, стукала сякера. Відаць, абсякалі карані, якія перашкаджалі капаць яму.

## III

Бегчы па сотках было цяжка. Спачатку трапіўся бульбяны загончык, мяккі, падатлівы пад нагамі, а каля самага лужка расло маладое жыта, яшчэ невысокае, зялёнае. Пятро з апошніх сіл ірвануў ужо да блізкага кустоўя, аднак з жахам зразумеў, што не ўратуецца; галава кружылася, задышка сціяла грудзі, але наперадзе было выратаванне, і гэта надало моцы. Ззаду тупацеў аддзялённы, шастаў нагамі па сцяблінах жыта. «Яшчэ пяцьшэсць крокаў — і кусты, а там лясны гушчар, — неадчэпна білася адна адчайная думка, усе астатнія пачуцці зніклі. — Толькі не ўпасці, тады не падымешся».

Пятро ўжо быў каля самых кустоў, калі блізка ззаду сцёбнуў грукатлівы ў цішы ранку, страшны стрэл. Хлопец ці ад страху, ці ад слабасці спатыкнуўся, тыцнуўся ў траву. Другі стрэл, такі ж страхотны, прагучаў аднекуль збоку, куля джвікнула, здалося, над галавой. У ранішніх сутемках паліцаі не бачылі ўцекачоў, стралялі спяшаючыся, непрыцэльна, наўдагад па кустах. Пятро з цяжкасцю ўзняўся, пабег не прама, у кусты, а матнуўся правей, як наказаў аддзялённы, ускрай зарасцяў, у гарачцы прабег метраў пяцьдзесят і зноў пляснуўся на дол, балюча выцяўся грудзьмі, ажно перахапіла дыханне.

У вёсцы пачалася сумятня, стрэлы гучалі і з сярэдзіны вёскі, паліцаі

ўжо тупацелі ў кустоўі. Нервова, доўгімі чэргамі пачаў біць кулямёт. Пятро на імгненне разгубіўся, цяжка дыхаючы, прыпадняўся, але ўстаць не змог. Спачатку не ўцяміў, хто выцяў яго нечым тупым вышэй калена, зняча ўку ўскрыкнуў ад болю. Зноў загрукатаў кулямёт, чарга прайшла вышэй галавы, кулі зашэрхалі па лістоце кустоў, збіваючы на дол галінкі. «Усё, даваяваўся, — у адчаі падумаў партызан. — Цяпер знойдуць. Чортаў кулямёт! Усляпую смаліў, нізка браў. Дурная куля знайшла».

Нейкі пробліск надзеі гарачкавата слізгануў у свядомасці: пакуль гоняцца за аддзялённым, сюды не сунуцца, а потым вернуцца, прачэшуць кусты. Пакуль цемнавата, трэба адпаўзаць лявей, да поля, там жыта, шукаць на голым месцы не будуць, а далей на ўзвышшы хутар, мо і памогуць схавацца.

Пятро перакаціўся на жывот, заграбаючы рукамі траву, папоўз у той бок, дзе, па яго меркаваннях, павінен быць хутар. Левая калашына набрыняла крывёю, рэзкі боль прастроміў нагу. Запоўз за шырокі куст лазавіння, неяк адарваў падол сподняй кашулі і поверх мокрых ад крыві штаноў моцна абвязаў нагу. Паспрабаваў устаць, бо паўзці было цяжка, і гэта яму ўдалося. Угнуўшыся, ступіў крок-другі, абышоў шырокі куст, падаўся бліжэй да поля, дзе расло жыта, папоўз па мяжы, бо тут была адкрытая прастора. «У жыта нельга, застанецца след, знойдуць, — падумаў разважліва. — Трэба далей адсягнуць, дзе зарослая травой дарога, там слядоў не застанецца. Галоўнае — далей ад кустоў, сюды вернуцца, прачэшуць».

Стрэлы гучалі па той бок кустоўя, бадай, каля самага лесу. «Значыць, — падумаў партызан, — аддзялённы жывы, мо ўжо дапяў да ўзлесся, і туды кінуліся паліцаі». Прыгнуўшыся, Пятро памкнуў па травяным узмежку, саслабела падаў на траву, поўз, абы далей ад кустоў, дзе яго будуць шукаць. Загончык жыта скончыўся, унізе, на лузе, які прымыкаў да рэдкіх вольхаў, ляжаў бялёсы туманок, не суцэльнай паласой, а ашмёткамі, бы першы кволы сняжок, прыцерушыў траву. Лужок амаль напалам рассякала вузкая палявая дарога, утравелая, ледзь бачная ў ранішнім сутонні, відаць, прабітая не частымі тут калясьмі да адзінокага хутара на ўзвышшы. Партызан прыпыніўся, услухаўся ў наваколле. Удалечыні каля лесу шпокалі адзіночныя стрэлы, з боку вёскі далятаі адрывістыя каманды, галасы, тупаценне ботаў. У прыцемках на ўзвышшы выдзяляўся цёмнай плямай хутар, высокае дрэва, вочап калодзежнага жураўля. У партызана не было іншага выйсця: ці паўзці на хутар, да людзей, ці загінуць тут, на ўзмежку. Калі ён рухаўся, зноў адкрылася рана, пайшла кроў, штаны намоклі. Пятро застагнаў ад болю, скрыпнуў зубамі, каб не закрычаць і гэтым не выдаць сябе, з намаганнем узняўся на ногі, хуценька, каб не ўпасці, пачыльгікаў да пагорка, ступіў некалькі крокаў, пахіснуўся і ўпаў у неглыбокую калёсную каляіну, зарослую невысокай травой. Перачакаў якую хвіліну, каб боль у назе прыціх, з натугай стаў на ногі і ў адчайным кідку прабег некалькі метраў. Ён спяшаўся, бо развідняла, на фоне пасвятлелага неба выразна сталі відаць чорныя абрысы хаты, хлява і жэрдка жураўля.

Пятро ўжо не мог ісці, ад страты крыві кружылася галава, нагу паліла агнём. З боку хутара пацягнуў ранішні свяжак, і дыхаць стала як бы лягчэй. Пачулася рыпенне жураўля, звон вёдраў, ціхі голас, і партызан памкнуўся ўзняцца, памагаючы сабе рукамі. Але ад пранізлівага болю ў назе ўскрыкнуў, перад вачамі бліснула маланка, галава закружылася, і ён зноў асеў на траву, страціў прытомнасць. Пятро не ведаў, колькі часу ляжаў без памяці, а калі трохі ажыў, пачуў ціхія крокі на дарозе. Нехта

наблізіўся да яго, шкуматнуў за кашулю, нізка схіліўся. Паранены з намаганнем расплюшчыў вочы, хацеў выціснуць з сябе якое слова, але толькі застагнаў.

— Жывы бытта, — ціха прамовіў густы мужчынскі голас. — Відно, партызан? Ета і страляніна была...

— Маладзенечкі які, — паспачуваў жаночы голас.

Паранены варухнуўся, прыпадняў галаву, слабым голасам прашаптаў:

— Памажыце... Рана, у нагу...

З балючым высілкам, абапёршыся рукою на дол, сеў між каляін. На дарозе стаялі двое: высокі, худы селянін у шэрай світцы і нізкаватая кабета, відаць, яго жонка.

— Памажыце, — зноў ледзь чутна прастагнаў паранены. — Партызан я.

Людзі моўчыкам стаялі, глядзелі на параненага, а потым паволі, задам адступіліся назад. Пятро зразумеў, што яны баяцца, не дапамогуць яму, пакідаюць аднаго, зняможанага, на голым месцы, і ў адчаі, з намаганнем здолеў узняцца на ногі. Хістаючыся, зрабіў крок да людзей, якія стаялі воддаль і ціха перамаўляліся, выхрыпнуў:

— Сволачы... Нелюдзі...

Яму здавалася, што ён галасна крыкнуў, каб тыя, на дарозе, пачулі, але з горла выціснуўся хрыпаты, кволы гук. Людзі, здалося, падступілі бліжэй, нясмела, як баючыся чаго, заспрачаліся. Пятро ўлавіў абрыўкі слоў, гаварыў дзядзька густым, сіпатым голасам:

— Дурніца, баба... А Яша? Прыйдуць з лесу... каюк будзе ўсім. Унь, ужэ світае... І етыя нахопяцца...

Кабета ціха запярэчыла, але гаспадар груба, злосна прыкрыкнуў на яе, памкнуўся да партызана. Жанчына засыкала, нецярпліва пацягнула мужа за рукаво світкі:

— З глузду з'ехаў, стары, пагінем усе...

Той нешта злосна сказаў ёй, загадаў:

— Нясі посцілку, пацягнем, пакуль цёмна.

Пятро здагадаўся, што хутаранін хоча выратаваць яго, бы сляпы, ступіў па дарозе, хістаючыся ад слабасці, кволым голасам, баючыся страціць прытомнасць, прамовіў:

— Я сам... Я магу... ісці...

Кабета пабегла на хутар, а гаспадар ужо смялей наблізіўся да параненага і, убачыўшы, што той ледзь трымаецца на нагах, падтрымаў збоку. Жанчына вярнулася, хапілася за руку параненага, і яны ўтраіх пабрылі да хутара. Пятро бы ў тумане бачыў утравелую дарогу, але трымаўся з апошніх сіл, каб не страціць прытомнасць. Ад вёскі іх затуляў алешнік і вярбняк, далей, каля хаты, рос стары сад. Выратоўца цяжка соп, задышліва заспакойваў:

— Яшчэ трохі, хлопец, пацярпі... Здаецца, ніхто не бачыў...

Увесь час ён са спалохам зыркаў па баках, аглядаўся назад. Па ледзь прыкметнай сцежцы яны ўзгрэбліся ў сад, дапялі да старой стопкі, якая стаяла воддалек ад хаты.

— Вось тутака пажывеш, — хутаранін памог параненаму апусціцца на дол каля сцяны. — Зараз, зараз, пасядзі трохі, — замітусіўся, з трывогай паглядаў на неба, якое на ўсходзе заўважна пасвятлела. — Ручнік чысты прынясі, Прося, ды пляшку з самагонкай не забудзь на паліцы, — загадаў жонцы.

Сам жа хуценька збегаў да калодзежа, прынёс конаўку вады, даў параненаму. Пятро прагна выпіў і, здалося, у галаве праяснілася. Цяпер ён быў

упэўнены, што гэтыя людзі будуць ратаваць яго, схаваюць, пакуль рана не загоіцца.

Спяшаючыся, гаспадар спусціў штаны параненага, першаком прамыў рану, заматаў ручніком, прыкмеціў кроў на галаве.

— І галава ў цябе? Зараз заматаю.

— Прыкладам саданулі, калі бралі, — прашаптаў партызан. — Нічога, зажыве. Схавай мяне дзе, вернуцца ад лесу, шукаць будуць...

Гаспадар хутара адчыніў дзверы стопкі, адгроб бульбу, падняў дзве кароткія маснічыны. Збегаў у хлеў, прынёс абярэмак леташняй саломы, засунуў у падполле.

— Пашэнціла табе, хлопец, — сказаў спагадна, — куля, відно, па мякаці прайшла, бытта костка цэлая. Схаваю, ніякае быдла не знойдзе. Тутака буракі хаваў. Будуць шнырыць, то ты ціха ляжы. На мяне не падумаюць, што партызана хаваю. Яшка наш... — ён змоўк, хутка, падазрона зірнуў на партызана, але заспакоіўся: паранены збялеў, стогне, не да гэтага яму цяпер.

Праз вузкаваты лаз асцярожна апусціў параненага ў падполле, але маснічыны засоўваць не стаў.

— Паляжы трохі, Прося карову падоіць, малака прынясу, — сказаў ціха. — А пакуль павартую, каб якая брыда не прыцягнулася.

Праз некалькі хвілін гаспадар прынёс гладыш сырадою, апусціўся каля лаза на калені, наліў у конаўку малака.

— Папі, еты харч табе палезны, крыві шмат страціў. А гладыш збоч сябе пастаў, захочаш — пі. Пацярпі, пасля абеду прыйду.

Ён засунуў на ранейшае месца маснічыны, нагроб на іх бульбу. Пятро застаўся адзін у поўнай цемнаце. Калі папіў сырадою, адчуў сябе лепей. Недзе далёка гучалі рэдкія стрэлы, з вёскі даносіліся галасы, гудзенне машын. Неўпрыкмет Пятро заснуў. Нават не заснуў, а быццам праваліўся ў цёплую, густую цемень. Прачнуўся ад гучных, грубых галасоў на падворку, бразгату зброі, цяжкага тупацення. Стукалі дзверы, рыкала карова, нехта цяжка хадзіў за сцяной стопкі па садзе. Партызан сцяўся ў сваім цёмным закутку, баяўся дыхнуць. «Паліцаі, збегліся шукаць, — здагадаўся, са страхам чакаў, калі адчыняцца дзверы. — А калі гаспадар хутара не вытрымае, пакажа схованку? Усё можа быць».

Яго пачалі біць дробныя дрыжыкі, глухім, нутраным болем заторгала нага. Раптам зарыпелі дзверы стопкі, рыўком адчыніліся, грукнулі звонку ў сцяну. Паліцаі цяжка затупацелі па маснічынах, нешта гулка бразнулася на падлогу.

— Нікога? — голас быў здзіўлены, насцярожаны. — У кустах жа кроў, не мог, сабака, далёка адпаўзці.

— Зачапіла куля, ды мала, — адказаў другі голас, гусцейшы, хрыплы. — Мо драпіна якая? Пакуль гналіся за тым, гэты ў лес сiганув. Не, калі дзе стаіўся, выкапаем гада.

— І другога ўпусцілі, — працадзіў скрозь зубы паліцай, які казаў пра кроў у кустах. — Смыка шкада, калі і выграбецца, то дзевяць грамаў атрымае ад немцаў.

— Слінцяй, сам нарваўся, — абсек яго другі, хрыпаты голас. — Яму толькі з бабамі ваяваць.

Паліцаі выграбліся са стопкі, злосныя, незадаволеныя; напаследак адзін з іх падкалупнуў наском вядро, яно са звонам ударылася ў сцяну, забрынчала па падлозе.

А на двары шалеў, відаць, старшы над паліцаямі:

— Цельпукі, разявы, двох бандзюкоў упусцілі! Усіх да сценкі пастаўлю! Ну, што? Нічога не вышнырылі? Расцябаі, здам немцам, згніеце ў падвалах. Абшукаць сад, хлеў, гарышча! А ты, стары хрэн, нічога не чуў і не бачыў? Як анёл? Павяду з сабой, шампалоў дадзім — прызнаешся.

— Чаму ж, пачуў, як застралялі, — гаспадар хутара моцна хваляваўся. — Яўхім, ты ж ведаеш, што мая галава мне даражэй, чым які бандзюк. Вызірнуў я ў акно, дак цёмна. Што ўбачыш?

— Дык дзе ён? На неба паляцеў, маць тваю ў вантробы? — голас пагрозлівы, жорсткі. — Кроў у кустох, значыць, паранены...

— А ета, Яўхім, табе лацвей ведаць, — адказаў хутаранін. — Што, яны дурні, каб на поле бегчы?

— Не строй дурня з сябе, Пракоп. Вось гэта бачыш? — тыцнуў у твар руляй нагана. — Калі што якое ўбачыш ці пачуеш, мігам бяжы да мяне. А то на варотах сваёй рукой павешу.

— Ды ўжэ ж, я на ногі порсткі, — гаспадар асмялеў, чуючы, што бяда мінае. — У два скокі прылячу. І Яшка мой у цябе служыць, уміг перадам, — Пракоп яшчэ раз напомніў, што ён не абы-які.

Жулега зіркнуў на селяніна, вышукваючы ў ягоных вачах хоць які намёк на няпраўду, але Пракоп аддана глядзеў на начальніка паліцыі, гатовы ўслужыць у любы момант.

Паліцаі панура папляліся за вароты, Яшка крыху затрымаўся, шэптам сказаў:

— Жулега як сшалеў, двое партызан збеглі з-пад варты, Смыка пакалечылі. Адзін да лесу кінуўся, а другога нідзе няма. Я забягу да вас, калі нікуды не пашлюць. Перадам праз каго.

— Ты ўжэ беражыся, сынок, — наказала маці. — Свет такі паганы, як дзе ўчнуць страляць, сэрца пачынае ныць. — Яна заплакала, правяла Яшу за вароты.

Калі паліцаі пайшлі, Пятро намацаў у цемнаце гладыш з малаком, сербануў трохі, бо ў роце перасохла, губы як не зліпаліся. Пакуль бяда мінула, але хто ведае, што чакае наперадзе. Пятро баяўся, што гаспадара пачнуць біць, і ён не вытрымае, выдасць уцекача. Хутар маглі падпаліць, тады не выбавішся з падполля, смерць. Самая ж добрая вестка, якую пачуў паранены: аддзялённага не злавілі, паспеў схавацца ў лесе. «Калі б не рана, пэўна ўжо сустрэліся б, — падумаў з жалем. — Э-эх, не пашанцавала. А стары водзіць нейкі хаўрус з паліцыяй. Жыццё так закруціць, што і не прыдумаеш».

Пасля абеду, калі ў вёсцы ўсё супакоілася, у стопку асцярожна ўлез гаспадар, ссунуў нагой кучу бульбы, узняў адну маснічыну, пагукаў уніз:

— Жывы? Я табе пасёрбаць трохі прынёс, трымай, — падаў у лаз міску з цёплай капустай, лусту хлеба. — Ты праз сілу еш.

Цяжка ўздыхнуў, прысеў на нізенькі ўслончык, які стаяў збоч сцяны, звярцеў самакрутку.

— Нага як? Як сцямнее, павязку змяню, трыпутнікам рану пераkладу. Уродзе навылёт куля прайшла, не загніецца, то зажыве хутка.

— Цярпець можна, — глухім голасам адказаў з ямы партызан. — Дзякуй табе, дзядзька. Калі б не ты з жонкай, то ўжо мяне патарабанілі б на той свет.

Стары нічога не адказаў, курыў, часам уздыхаў. Акуратна на парозе патушыў недакурак, павольі загаварыў:

— Чуў, як шнырылі? А еты, Жулега, наганам гразіўся, сабака. Начальнік усёй паліцыі тутака. Гад, якіх пашукаць... І вашым, і нашым, падлюка, угадзіць можа... Вазьмі посцілку, ноччу халаднавата будзе.

Стары моўчкі пасядзеў, чакаючы, калі партызан пад'есць, потым нахіліўся, узяў міску.

— Не магу больш, дзядзька, — бы павінаваціўся партызан.

— Запі малаком. Увечары старая карову падоіць, свежага прынясу. А пакуль ляжы, ні пра што благое не думай. Посцілкай накрыйся.

Гаспадар зноў прысеў на ўслончык, уздыхнуў, ціха сказаў:

— А ты ета ведаеш, да каго трапіў?

— Да добрых людзей, — азваўся з ямы Пятро. — Схавалі, не выдалі.

— Э, браток, нічога ты не ведаеш. Яшка мой тутака з паліцаямі быў, служыць у іх... Э-эх, жызня...

Спачатку Пятро не ўцяміў, пра што талкуе стары, а потым да яго дайшоў сэнс слоў, і ён памкнуўся падняцца, але боль у назе праця цела.

— У паліцыі? — глуха перапытаў Пятро і адчуў, што ў роце стала суха.

Стары ўзняўся з услончыка, прысеў наўколенцы каля лаза.

— Ты не думай цяперака пра ета, — уздыхнуў, ціха сказаў: — Адно гора ў нас. А сэрца баліць, калі ўспамінаю пра Яшку... Ат, жыццё ета... А як цябе клічуць?

— Пятро, — азваўся паранены. — Перад вайной прызвалі, тэрміновую цягнуў, ды вайна...

— Бачу, што апратка ў цябе вайсковая. А мяне Пракопам заві. Вось тутака на бугры застаўся. У калгас цягнулі, не ўступіў...

— А гэты, што гразіўся наганам, хто такі? — папытаў Пятро.

— Доўгая гісторыя, — неахвотна адказаў Пракоп. — Жулега, Яўхім, цяпер паліцаямі камандуе. Стары знаёмы, — прытоена ўздыхнуў. — Раскажу як-небудзь... Ты не перажывай, звязаны мы з табой адной вяроўчынай...

Пракоп засунуў маснічыну на ранейшае месца, вышаркаў на двор.

Як уцямнелася, Пракоп прынёс у стопку конаўку сырадою, хлеб.

— Павячэрай, а потым перавяжу цябе. Ёд знайшоў, крыху засталося. Яшка неяк прынёс.

Стары дапамог параненаму вылезці з ямы, запаліў круглы нямецкі каганец.

— Жонка на двары пільнуе, каб якая брыда цішком не нахапілася. Во павязку змяню. Дохтура табе трэба...

Ноч паранены правёў неспакойна. То трохі засынаў, то ачынаўся ад болю ў назе, але пад раніцу сон змарыў яго. Не чуў, як па падворку хадзіў Пракоп, бо і яму не спалася, устаў раненька, да ўсходу сонца.

Мінула яшчэ двое балючых, апаслівых сутак. Раніцай гаспадыня падаіла карову, не заходзячы ў хату, на ганку адліла малака ў конаўку.

— Покуль ціха, занясі етаму, — здалося, сярдзіта кіўнула ў бок стопкі. — Прыдбаў на сваю галаву. Нахопяцца шчэ тыя, трасца на іх. Ды Яшка сёння прыйдзе, блінцы трэба пячы.

— Уродзе як угаманілася, — Пракоп зыркнуў на вёску. — На нас не падумаюць...

Пятро пачуў рыпенне дзвярэй, крокі над галавой. Ссунуўшы маснічыну, гаспадар падаў партызану конаўку, ціха прамовіў:

— Сёння Яшка забяжыць, блінцы старая расчыніла, то і табе прынясу. Патрывай тут, покуль ета таўкатня ўляжацца. Мо ў хляве схову знайду.

— Кажаце, Яша прыйдзе? — перапытаў Пятро. — З вінтоўкай?

— Яны заўсягды аружоныя ходзяць. Ды сюды апасна хадзіць, вашы схопяць. Казаў Яшу пра ета, ды шчэ вецер у галаве гуляе, пацан. Пад весну васемнаццаць споўнілася. Жулега сілком загроб, злыдзень. Пры савецкай уласці камандуваў, з наганам бегаў у калекцывізацыю і цяперака во тыча ім у морду, толькі хворму змяніў. Мяне загроб у турму ў трыццатым, з лапатай на яго кінуўся. Два месяцы патрымалі.

— Сілком, кажаце, хлопца забраў? — пацікавіўся Пятро. — У партызаны трэба было ісці.

Пракоп адказаў не адразу, пачаў вярцець самакрутку, вочы патухлі, у іх з'явілася нешта балючае. Урэшце, выбіў красалам агонь, выдыхнуў дым.

— Пра Яшу пытаеш, Пятро? — голас у старога дрогнуў. — Апошні сын жывы. Меркаваў я захаваць хлопца ў етай катавасіі. Пацан, толькі адно, што вырас, як аглабля. Ну, прыкінуў етак: да партызанаў ісці яму — усім нам амба. Ды і Анютку зачапілі б, дачку маю. У вёсцы жыве, двое ўнучыкаў пры ёй. Мужыка на другі дзень у войска забралі, як вайну аб'явілі. Стрыножаны па ўсіх стаццях, ні ўзад, ні ўперад. Усюды шнах. Ну, мяркую, калі Жулега вока на Яшку кіне, то хворым зраблю яго. Дурны быў. Аднаечы ўвосень Жулега на вазку пад'ехаў, ужэ снег выпаў. Жывеш, кажа, як пан колісь не жыў. Хопіць байструка хаваць, прышлі да нас. Ты, ржэ на ўсю глотку, як пацярпелы ад улады, далжон падсабіць, даўжок сплаціць. Не, кажу яму етак, малы шчэ Яшка, семнаццаці няма, падрасце, тады і будзе гамонка. Ну, тады ён тыцнуў мне ў морду сваім наганам, на вароты паказвае. Цябе першага павешу, патом жонку. І квіты будзем. Паняў, кажа? А праз тры дні прыехаў зноў са сваімі, вяроўку на вароты павесіў і кажа: выбірай — гэта ці тое. Прося, жонка мая, і наперад яму забягала, і плакала, дак Жулега ёй так наском даў, што тыдні з два не магла ўзняцца з ложка. Вось так, раздзяры яе маць, такую жызню. Выходзіць, сам сваё дзіцё на згубу аддаў.

Пракоп матнуў галавой, цяжка ўздыхнуў, раз за разам запыхкаў самакруткай.

— Калі Яша прыйдзе, то не выдавай сябе. Якія тамака ў іх парадкі, халера іх ведае. Просю папярэдзіў, каб язык за зубамі трымала.

Яшка прыйшоў адзін. Насвістваючы нейкі вясёлы матыўчык, прашаркаў ботамі па быльнягу ў садзе, паўз сцяну стопкі падаўся ў двор, прывітаўся з бацькам, які чакаў яго на ганку.

— Ціха ў вас тут? — папытаў і з асцярогай азірнуўся вакол. — Партызана ўсю ноч шукалі, пастоў усюды панатыкалі. Ды хрэн яго дзе знойдзеш. Лёгкая, відаць, рана. Пакуль гналіся за адным, гэты ўлізнуў.

— А ў цябе што? — глухаватым голасам папытаў Пракоп. — Немцы не цягаюць Жулегу, што правароніў партызан?

— Што нам — Жулега за ўсіх аддуваецца. Смык памёр, каторы вартаваў партызан, — Яшка ўздыхнуў, прысеў на прыступку ганка. — Паскудства адно, бацька. Затарабанілі мяне туды, а назад ходу няма. Такіх, як я, тыя, што ў лесе, не шкадуюць.

— Цярпі, Яша, мо як і абыдзецца, — пасля доўгага маўчання з болем у голасе выціснуў Пракоп. — Ты ж не замараны, па людзёх не страляў...

— Ты што, бацька, хто будзе разбірацца? — хлопец нервова хіхікнуў. — Адзін канец. Такая сіла ідзе, ля Курска чырвоныя стаяць. Каюк, бацька, усім будзе.

Пракоп цяжка ўздыхнуў, кіўнуў на вінтоўку, незадаволена прабурчаў:

— Ды пакладзі ты ету пукалку, ніхто цябе тутака не чапне.

Яшка зняў з пляча вінтоўку, прыставіў яе да сцяны і тут жа прызнаўся:

— Заўтра з Каптуром і Усенем у лес пасылаюць. Немцы на бліндаж загадалі жэрдак прывезці. Мужыкі на адной падводзе паедуць, а мы ахоўваць будзем. Блізка, за мастком зразу. На паўдня работы.

— Цяперака апасна ўсюды, — Пракоп пазмрачнеў. — Калі нахопяцца партызаны, то не праціўся, здавайся.

— Не палохайце, бацька, гэта ж каля самай вёскі, — бесклапотна адказаў Яшка. — Якія партызаны?

— А што, немцы мяркуюць зімаваць тутака, што бліндажы будуюць? — Пракоп з трывогай паглядзеў на сына. — К восені ці бліжэй сюды чырвоныя падпнуць. Віш, як самалёты іхнія лётаюць па начах, горад бамбяць, станцыю.

— Ты, бацька, трымай язык за зубамі, — нязлосна параіў Яшка. — Ляпнеш у чужое вуха — і капцы. Немцы сталі нейкія нервовыя, кажуць у нас, што задумалі аблаву ладзіць на партызан. Дапяклі тыя: эшалоны скідаюць, міны на дарогах ставяць. Яшчэ чуткі ідуць, што знімуць нас адсюль, пашлюць чыгунку і станцыю ахоўваць.

— З кажынным днём усё горай, — уздыхнуў Пракоп.— І так ужэ нагараваліся. Ат, жызня ета, — ён узняўся з прыступкі ганка, запрасіў сына ў хату: — Ідзем, маці бліны пячэ, падхарчуешся трохі.

Яны размаўлялі ціха, але Пятро ўлавіў асобныя словы. «Каб толькі Пракоп не прагаварыўся, — падумаў з трывогай. — Не, не падобна. А вось Прося? Ляпне неасцярожнае слова — і чакай «бобікаў». Чорт яго ведае, што наўме ў гэтага Яшкі. Раз назваўся «бобікам», то і скачы пад іх дудку. Ды і ці праўду сказаў Пракоп, што хлопца сілком узялі ў паліцыю. Мужык цёрты, і вашым, і нашым хоча добранькім быць, абы не чапалі. Але ж схаваў партызана, то і дзякуй, а там пагляджу».

Пятро ляжаў насцярожаны, услухоўваўся ў кожны гук, які даносіўся звонку. Але на двары хутара было ціха, толькі з вёскі даляталі ледзь чутныя галасы, гудзенне машын.

Яшка пайшоў гадзіны праз дзве, насвістваючы нешта вясёлае, бесклапотнае. Неўзабаве ў стопку зазірнуў Пракоп, унураны, пацямнелы з твару, прынёс міску яшчэ цёплых бліноў, некалькі кавалачкаў смажанага сала, моўчкі падаў партызану. Як заўсёды, прысеў на ўслончык, закурыў, чакаючы, калі Пятро падсілкуецца.

— Шкада хлопца, — раптам выціснуў скрушліва. — Загіне, хто будзе на гаспадарцы? — горасна пахітаў галавой.

Пятро нічога не адказаў яму, бо стары, відавочна, і не чакаў падтрымкі ад партызана. Моўчкі ўзяў міску, засунуў на ранейшае месца маснічыну. Было чутно, як паволі пашаркаў у хату. Завёў на луг карову, нешта рабіў у хляве, грукаючы ці сякерай, ці малатком. Пасля абеду пачаў некуды збірацца, ваксаваў дзёгцем на ганку боты.

— Ты тамака не швэндайся задужа, занясеш гладыш і назад, — голас у Просі незадаволены.

— Праведаю ўнучыкаў, трохі патаўкуся ў вёсцы, — глуха азваўся Пракоп. — Штось цісне ў грудзёх, бы якую бяду душа чуе. А ты тутака глядзі...

Шаркаючы ботамі па сухой траве, ён пабрыў уніз з грудка напрасцяк, было чутно, працерабіўся цераз густое лазавінне каля высахлага ручая, і хутка крокі яго заціхлі.

Пятро занепакоіўся. Чацвёртыя суткі ён ляжыць у схове, паверыў гаспадару хутара, але ж той нейкі ваўкаваты, насуплены. Паабяцаюць немцы ўзнагароду, то можа пакваліцца. Усё ж незадаволены савецкай уладай, у турме сядзеў, сына ў паліцыю аддаў. Але ў душы Пятро адчуваў, што Пракоп не выдасць яго немцам. Чуе стары, што наша армія блізка, давядзецца плаціць: Яшка ў паліцыі — гэта турма ці смерць. А тут выратаваў партызана, усё ж прымуць да ўвагі, змякчаць пакаранне. На тое, відаць, і разлічвае Пракоп.

Пятро раптам востра адчуў сваю бездапаможнасць, і засмылела ў душы думка аб уцёках адсюль. Ці мала што можа здарыцца: паліцаі вернуцца, абшукаюць хутар, калі ўзнікне нейкае падазрэнне. Ён застагнаў ад бяссілля што-небудзь зрабіць. «Калі б трохі акрыяць, то можна поначы выпаўзці, тут лес далекавата, але дапяць цемнатой магчыма, — з надзеяй падумаў партызан. — А ў атрадзе, пэўна, лічаць, што недзе сканаў». Асцярожна памацаў нагу, крыху заспакоіўся. Боль быццам прыціх, добра Пракоп прамыў першаком, змазаў ёдам, заражэння пакуль няма.

Пракоп вярнуўся з вёскі гадзіны праз тры, паставіў на ганак пусты гладыш, стомлена прысеў на прыступку.

— Унучыкі здаровыя, слава Богу, — сказаў жонцы, — людзі баяцца, што партызаны налёт зробяць на гарнізон. Казалі, мінулай ноччу цягнік скінулі пад адхон, пабілі многа немцаў. — Памаўчаў, спытаў: — Ты пакарміла Пятра?

— Занесла тушанкі бульбяной з салам, трохі паеў, — адказала Прося. — Як ты пайшоў, нешта дужа перажывае.

— Заўтра перавяду хлопца ў хлеў, — вырашыў Пракоп. — Уродзе прыціхла етая катавасія, а Жулегу немцы добра хвост накруцілі. Смыка закапалі.

Прося зласнавата зіркнула на мужа, незадаволена прабубніла, каб не пачуў паранены партызан:

— Казалі ж табе, што не трэба етага браць. Цяперака воваждайся, чакай бяды. Знойдуць, то нас не пашкадуюць, і Яшку ўгробяць.

— Маўчы, не балбачы, дурніца, — злосна абсек яе Пракоп. — Так трэба. Прыйдуць чырвоныя, во, дакумент на руках — партызана выратаваў. І Яшку мо якая палёгка выйдзе. Не плявузгай, баба-дурніца, трэба кумекаць, як уратавацца. І етак ужэ ўляпаліся ў дзярмо па самыя вушы...

Калі яны гаманілі на двары, Пятро ўслухоўваўся, але разабраць нічога не змог. «Мо штосьці ад мяне хаваюць? — занепакоіўся хлопец. — Мо што нядобрае задумалі? Людзі цёмныя, што ў іх у галовах, хіба ўведаеш...»

Толькі ўвечары, калі добра ўцямнелася, у стопку прыцягнуўся Пракоп — прынёс вячэру. Выкурыўшы самакрутку, паведаміў:

— Уродзе прыціхлі паліцэйскія, але, мяркую, шчэ шукаюць цябе. Апасаюся, што зноў на хутар з'явяцца, трэсці пачнуць. Думаў цябе ў хляве змясціць, тамака закутак зрабіў каля сцяны, але паляжы тут трохі. Рана як твая?

— Быццам боль прыціх, — адказаў Пятро. — Хутчэй бы, дзядзька, на ногі стаць, то і табе турбот не было б.

Пракоп нічога не адказаў, уціснуўся ў схову, запаліў каганец, разматаў на назе павязку, абмыў па краях першаком, моцна перавязаў.

— Ляжы, уродзе не гнаіцца, — прамовіў спагадна. — Ніхто пра цябе не ведае, апрача маёй бабы, але ёй наказаў, каб маўчала.

Крэхчучы, вылез наверх, нахіліўся над схронам, прашаптаў:

— Не думай благога, усё будзе добра.

Ноч прайшла спакойна. Дзесьці за вёскай разы два стрэльнулі, а пад раніцу даў дзве кароткія чэргі кулямёт — мо немцу памроілася што ў цемені? Дзень пачаўся, як заўсёды. Пракоп прынёс свежага малака, заспакоіў партызана. Пятро ў абед трохі паспаў. Разбудзілі яго стрэлы, якія даносіліся ад таго боку вёскі, дзе лес падступаў да рэчкі. Спачатку глуха, ледзь чутна, дзвынкнуў аўтамат — не разабраць было, наш ці нямецкі, а потым дзве доўгія чэргі звонка прагрымелі, здалося, зусім блізка. «Наш, ППШ, — ледзь не ўскрыкнуў ад радасці Пятро, памкнуўся ўстаць, балюча выцяўся галавой аб маснічыну, апаў на салому. — Нашы тут, нашы». З трывогай пачаў услухоўвацца. Часта забухалі вінтоўкі, ім адказаў нямецкі «шмайсер» таксама доўгай чаргой, застукаў нямецкі кулямёт, злосна, напорыста. Чуліся крыкі, тупат ног.

«Мо хто з партызан заблудзіўся ды на засаду напароўся? — з трывогай падумаў Пятро. — Адыходзяць, адстрэльваюцца. І са «шмайсера» б'юць. Ага, у атрадзе ёсць адзін, у Шагунова, з ім заўсёды ў разведку ходзіць. Няўжо нашы? Шукаюць мяне? Значыць, будуць граміць гарнізон, а гэта толькі разведка. Паслалі Шагунова, бо, відаць, справа сур'ёзная».

Хвілін дзесяць страляніна была частай, потым стрэлы загучалі радзей, аддаляліся і ўжо зрэдзь бухалі адзіночныя вінтоўкі. У вёсцы чуліся ўзбуджаныя галасы, конскі тупат. «Хлопцы не разгубіліся, бой далі, — Пятро стрымліваў дыханне, каб не прапусціць ніводны гук, які даносіўся звонку. — А цяпер сiганулі ў лес, «бобікі» туды баяцца сунуцца. Э-эх, шкада будзе, калі страцілі каго ці паранілі. Не, калі там Шагуноў, страт не будзе. Вопытны разведчык, усё прадугледзіць». Пятро ляжаў яшчэ гадзіны дзве, услухоўваўся. На двары было ціха, не тупаў Пракоп, не рыпелі дзверы хлява. Раптам на ганак выбегла Прося, закрычала, як без памяці:

— О Божа, што адбылося? Анюта да нас бяжыць! Пракоп, мо бяда якая?

Яна кінулася да раўчука напярэймы дачцэ. Было чуваць, як з хаты выйшаў стары, подбегам патэпаў да варотцаў. Здаля пачуўся задыханы, перарывісты плач Анюты, яна падбегла да маці, без сіл упала на яе рукі. Прося закрычала, віскліва загаласіла на ўсё наваколле. Дачка спаўзла на траву. Да іх, спяшаючыся, прычыльгікаў Пракоп. Удваіх яны прывялі Анюту ў двор, пасадзілі на прызбу, напаілі вадой. Жанчына, усхліпваючы, расказала, што партызаны забілі двух паліцаяў, а Яшку, параненага ці жывога, павалаклі ў лес. Каптура і Усеню напавал з аўтамата...

Пракоп, учуўшы, што яго сына схапілі партызаны, бы аслупянеў, спачатку не мог вымавіць слова, потым балюча прашаптаў:

— Ах, Яшка, Яшка, сынок... Кажаш, тых двух на месцы?.. Як чула бяду душа. А людзі, што з імі былі?..

— Тых не зачапілі, усе жывыя, — вымавіла праз слёзы Анюта. — Пападалі на дарогу. Трое было партызан, Яшку схапілі і ў лес павалаклі. Хацелі адбіць, дык тыя з аўтаматаў пачалі сячы. І тры вінтоўкі забралі.

— Збегаю ў вёску, мо што дазнаюся, — заспяшаўся Пракоп. — А вы пакуль тут пабудзьце. Мо і не так...

Пятро ўжо зразумеў, што нешта адбылося, услухоўваўся ў галасы на двары, але здагадаўся толькі адно — некага забілі з паліцаяў, а з Яшкам нешта здарылася. «Гэта, відаць, нашы былі, — падумаў з трывогай. — Нашы, каму ж яшчэ. А калі Яшку? Што тады будзе? Выдадуць мяне з помсты? — Пятро ажно застагнаў ад бездапаможнасці. — Калі б што было пад рукой, граната якая, то жывым не даўся б».

І ён пачаў чакаць: адзінае, што заставалася яму ў такім становішчы.

Пракоп вярнуўся ўжо ў прыцемках, дрыжачым голасам паведаміў кабетам:

— Не пускаюць нікога, немцы стаяць усюды. Стрэў Дзяміда, ён у лес па жэрдкі ездзіў. Казаў, што страху наглядзеўся. Трое выйшлі на дарогу, двое ў вайсковай хворме, адзін у пінжаку і саданулі з аўтамата. Яшку бразнулі на дол, у лес волакам пацягнулі. Мужыкі пападалі ў пыл, уратаваліся. Адзін з партызанаў забраў вінтоўкі, а калі за ім пабеглі паліцэйскія, трох паклаў з аўтамата, двох параніў. Шчэ і з лесу пастралялі. Дзе ты іх цяпераka дагоніш.

Пракоп апусціўся на прыступку ганка, ашчаперыў галаву рукамі, збалела шаптаў:

— Яшка... Яшка... Як ета ты?..

Памкнуўся ўстаць, але не ўстояў на саслабелых нагах, абсунуўся на дол. Жонка і дачка павялі яго ў хату, паклалі на ложак. Анюта трохі адышла, заспяшалася ў вёску да дзяцей, бо пакінула іх дома адных. Пракоп ляжаў бледны з твару, часта дыхаў. Слабым голасам сказаў Просі:

— Завары святаянніку, мо палягчэе, калі настою вып'ю. Звары бульбы параненаму ды паглядзі, як ён тамака. Хлопец невіноўны, не турбуй яго, сам ледзь трывае.

Пятро змружыў павекі. Разбудзіў яго стук дзвярэй стопкі. «Пракоп, — абрадаваўся Пятро, — раскажа, што адбылося». Але ў лаз зазірнула Прося, спытала, ці не спіць, паставіла на маснічыну міску з ежай і моўчкі выйшла. Але партызан есці не стаў, ляжаў, насцярожана ўслухоўваўся. «Чаму Пракоп не наведаўся? Што з ім сталася? — занепакоіўся Пятро. — Нешта трэба рабіць, выбаўляцца з гэтай ямы». Зноў прыбегла Прося, ад парога спытала, ці паеў, але ў цемнаце намацала поўную міску.

— Дык ты не еў?

Пятро варухнуўся, з трывогай спытаў:

— Што здарылася? Чаму Пракоп не прыйшоў?

— Злыдні вашыя напалі, Яшку на дарозе схапілі, — жанчына адказала са злосцю, не стрымалася, заплакала. — А Пракоп злёг, ногі адняліся. Бандзюкі, жыцця ад іх няма, — кінула ўжо на хаду, засоўваючы маснічыну.

Ноч прайшла ў трывожным, пакутлівым чаканні. На хутары было ціха. «Трэба выбірацца адсюль, — цвёрда вырашыў Пятро. — Баба ненадзейная, плявузгне каму з гора... А Яшку, факт, не выпусцяць. Шкада хлопца. Выграбуся, стопку не замыкаюць. Як-небудзь дапаўзу да лесу». Гэта думка падтрымлівала яго ўвесь наступны дзень. Надвячоркам выбавіўся на ганак Пракоп, з палёгкай уздыхнуў, прысеў на лаўку.

— Замарачэнне нейкае найшло, халера на яго, — сказаў Просі, якая падтрымлівала старога за пляча. — Здаецца мне, на еты раз выграбуся. А наш як? — кіўнуў галавой на стопку.

— Не есць нічога, — паведаміла Прося. — Ляжыць, маўчыць...

— Цяжало яму. Падай кіёк, праведаю.

Пятро чуў, як стары цяжка прашаркаў па двары, адчыніў дзверы стопкі, пастукаў кійком у падлогу, прыўзняў маснічыну.

— Жывы? Ляжыш?

— Ляжу, дзядзька, — абрадаваўся Пятро.

— От і добра. Халера, занядужаў трохі. Чуў, што Яшу вашыя схапілі? — уздыхнуў цяжка, горасна.

Што адказаць Пракопу, Пятро не ведаў. Што ні скажы, не ўцешыш старога, а яшчэ болей развярэдзіш яго рану.

— Трэба чакаць ды спадзявацца, — вымавіў ледзь чутна, бы адчуў сябе вінаватым.

Пракоп доўга маўчаў, цяжка дыхаў. З высілкам узняўся, апіраючыся на кіёк, сказаў:

— Хай маснічына так пабудзе, лягчэй дыхаць. А калі што падазронае ўчуеш, то сам засунь яе. Ды еш, аслабнеш.

Калі стары пайшоў, Пятро задумаўся. «Пракопу цяжка цяпер, але, здаецца, варожасці да мяне не выказвае. Мо яшчэ паляжаць суткі-другія, пакуль паліцаі і немцы ўгамоняцца. «Бобікі» шныраць усюды, пэўна. Выпаўзеш на голае поле, угледзяць».

Раніцай прыплёўся Пракоп, прынёс кубак сырадою, панура выціснуў:

— Пра Яшку нічога не чуваць, мо ўжэ і не жыве.

Змоўк, запыхкаў самакруткай. Маўчаў і Пятро.

— А ты ведаеш, хлопец? — нечакана спытаў Пракоп. — Не, не ведаеш, бо малады. Для цябе проста ўсё, панятна, а я хлебтануў рознага паскудства па самыя вушы. Заплюшчыш вочы, і бытта перад табой усё стаіць. Сам я тутака во ўвесь свой век тырчу, як ад бацькі аддзяліўся. І араў, і сеяў. А як усчалася вайна з германцам, заграблі мяне, на румынскім хронце быў. Дзякуй Богу, жывы застаўся, асколкам цюкнула, дык выграбся. Прыйшоў, жаніўся ў другі раз. Першая жонка ад тыфу пагінула, сын, Федзька, застаўся. Уродзе пасля рэвалюцыі трохі акрыяў. Анюта нарадзілася, потым Яшка. Ды парушылі ўсё, загалёкалі, стапталі. Федзька з фінскай не вярнуўся, цяперака во Яшка... З якога боку ні крутні, адусюль — патырчака. Вось етак жызнь круціць мяне, Пятро.

Партызан маўчаў, бо што ён мог сказаць цяпер бацьку, у якога забралі апошняга сына, і невядома, што з ім будзе. Але ж нешта трэба было гаварыць, хоць чым супакоіць старога, прыбітага горам. Нечакана папрасіў:

— Дай, дзядзька, засмаліць, вушы пухнуць.

— Значыць, адышоў, Пятро, — задаволена сказаў Пракоп. — Цяперака будзеш жыць.

Ён звярцеў тоўстую самакрутку, падаў у лаз, даў прыпаліць.

Пятро пацягнуў, закашляўся ад моцнага самасаду, выдыхнуў напаверх, у стопку, дым.

— Сам саджу, — пахваліўся Пракоп, — лічы, крамныя і не курыў, слабыя для мяне.

— Баюся, дзядзька, не выпусцяць Яшу, — сказаў ціха. — Вось каб мне ў атрад дапясці, то нешта можна зрабіць. Ды каб ведаць, з якога атрада хлопцы захапілі твайго. Сам бачыш, не хадок я.

— Мо шчэ жывы? — голас у Пракопа задрыжаў. — Яны ж не могуць зразу пад расстрэл падвесці, ну, праверка тамака якая, — скончыў няўпэўнена, запытальна паглядзеў на партызана.

— І мяне не пашкадавалі, каб з таго пограба не выкарабкаўся, — Пятро выдыхнуў дым, закашляўся, падаў недакурак Пракопу. — Вайна, хто каго. Але ж трэба спадзявацца на лепшае...

Дзень цягнуўся марудна. Пятро чакаў вечара, каб выбавіцца з гэтага цеснага схову, апынуцца на волі. Памацаў рукой нагу, здаецца, не так баліць, як раней, мо нават можна будзе ступаць. І гэта надавала яму ўпэўненасці. «Толькі б поначы да лесу дапаўзці, а там як-небудзь пратрымаюся, — думаў партызан. — Тут нельга быць. А вылечуся, вярнуся, падзякую гаспадарам за выратаванне».

Увечары Прося прыгнала з лужка карову, злосна сцёбаючы яе дубцом

і гучна лаючы, падаіла, загнала ў хлеў, бомкнула засаўкай дзвярэй. Не заходзячы ў хату, прынесла ў стопку кубак малака, адсунула маснічыну, моўчкі паставіла на падлогу, бурканула:

— Пі, Пракопу зноў дрэнна стала, ляжыць.

На гэты раз Пятро выпіў малако, пачакаў, пакуль улягуцца гаспадары. Брала нецярпенне: хацелася цяпер, неадкладна, вылезці з цеснай ямы, адчуць сябе вольным.

Пятро ляжаў шчэ гадзіны дзве, у думках уяўляў свой маршрут. Калі яго вялі на хутар, адразу за хлявом ён прыкмеціў загончык жыта, а далей, да самага лесу, была адкрытая прастора.

Далёкія крокі людзей ён пачуў, калі ўжо мерыўся поўнасцю адсунуць маснічыну. У яме добра і далёка чутно. З трывогай прыслухаўся: так, ішло некалькі чалавек з таго боку, куды ён меціў паўзці. Ступалі асцярожна, калі-нікалі, відаць, спыняліся, бо крокаў не было чутно. Сэрца затахкала мацней. «А раптам нашы? Шукаюць мяне? Але трэба быць асцярожным». Пятро хуценька засунуў маснічыну на ранейшае месца, напружана сцяўся.

Крокі набліжаліся, вось людзі ўжо, здаецца, ідуць па жыце, шархацяць нагамі. Пачуліся прыглушаныя галасы. Раптам усё сціхла: відаць, спыніліся за хлявом, выслухоўваюць, ці няма якой небяспекі на хутары, потым двое ці трое чалавек асцярожна прайшлі каля самай стопкі, стаіліся на двары.

— Ты ідзі за вароты, у цябе кулямёт, — ціха загадаў глухі голас. — А вы стойце тут, каля хлява.

Пачуўся стук у шыбку, асцярожны, нямоцны. «Так «бобікі» не стукаюць. Нашы, партызаны? — Пятро ўвесь напружыўся, прыўзняў галаву, каб лепей было чуваць. — Не, пачакаю, паліцаі таксама поначы асцярожныя, гвалт не ўзнімаюць».

Гаспадары, пэўна, не пачулі першага стуку, і начны госць зноў забарабаніў ужо ў раму, гучней, настойлівей. Жаночы голас з-за дзвярэй спалохана ўскрыкнуў, з двара загадалі адчыняць. Пачуўся кароткі бразгат — адсунулі засаўку. Цяжкія боты затупацелі на дошках ганка. «Свае, — зарадаваўся Пятро, памкнуўся ўстаць, падаць голас, ды раптам прыціх, апусціўся на салому. — Гаспадар — бацька паліцая, мо «бобікі» поначы забрылі, самагон шукаюць. Трэба пачакаць».

Пракоп першы пачуў нямоцны стук у шыбку, паклікаў Просю, якая спала на палацях каля печы. Тая прахапілася, памкнулася да мужа, як у акно зноў забарабанілі. Жанчына ад страху войкнула, пляснулася на падлогу, падпаўзла да ложка, на якім ляжаў Пракоп, нямогла завохкала.

— Адчыні, Прося, — спакойна сказаў Пракоп, сеў у ложку, спусціў ногі на падлогу, упоцемках пачаў шукаць апратку. — Ці паліцаі, ці партызаны зойдуць, пра Пятра маўчы, — хутка зашаптаў. — Цяперака хворму нацягнуць кажынны можа. Адчыняй ды язык трымай, баба.

Прося, палахліва азіраючыся на вокны, выйшла ў сенцы. Звонку ціхі, але ўладны голас загадаў адчыняць дзверы, і яна хуценька адсунула ўбок засаўку, саступіла да сцяны. Пракоп паспеў нацягнуць штаны, стаяў каля ложка босы. Вузкі прамень святла кішэннага ліхтарыка ўдарыў яму ў вочы, асляпіў і пагас. Той, хто свяціў, строга спытаў:

— Гаспадар? Хто яшчэ ёсць у хаце?

Пракоп, аслеплены святлом, чуў, што яшчэ зайшлі людзі, пасталі каля парога.

— Больш нікога няма — я ды жонка. Усе мы тутака, — адказаў Пракоп.

— Завесь чым вокны ды запалі святло, — загадаў пярэдні. — Не палохайся, мы партызаны, — сказаў ужо спакойней, але ў голасе чулася насцярожанасць.

Прося хуценька завесіла посцілкамі вокны. Пракоп басанож пратупаў у куханьку, намацаў на падаконніку каганец, падаў партызану. Той, што стаяў ля парога, чыркнуў запальнічкай, паднёс да кнота. Успыхнуў невялічкі кволы агеньчык, асвятліў стол, узброеных людзей.

— Нямецкім карыстаешся? — варожа спытаў партызан, узброены нямецкай вінтоўкай, і паказаў на стол, дзе цьмеў каганец. — Даюць, ці як? — пільна паглядзеў на гаспадара хутара. — А сын твой дзе?

Пракопу як што секанула па вачах, ён схаладзеў ад страху, сцяўся, з намаганнем, заікаючыся, выціснуў:

— У паліцыю з-забралі... Жулега, н-начальнік іхні...

— Байкі расказваеш, — рэзка перапыніў партызан з вінтоўкай. — Ладна, разбярэмся пазней. А цяпер скажы: ці чуў ты страляніну з тыдзень назад там, у кустах?

Пракоп толькі цяпер прыкмеціў на шапцы начнога госця чырвоную зорачку.

— Чуў, а чаму не пачуць, калі во, побачкі, стралялі, — адказаў стрымана, але голас выдаў яго хваляванне, здрыгануўся на апошнім слове. — Я, праўда, з хаты не выходзіў, а так, назіркам, цікаваў з акна. — Пракоп зразумеў, што гэтыя ўзброеныя людзі ці сапраўды партызаны, ці пераапранутыя паліцэйскія, магчыма, хочуць дазнацца, дзе падзеўся партызан, таму і падступаюцца здалёк.

— Ну, а нікога не бачыў? — раптам спытаў чалавек з вінтоўкай. — Мо хто бег? Мо сюды паказаўся? Адказвай чэсна, як было.

Пракоп узняў вочы, зірнуў на чырвоную зорачку на шапцы старшага, хацеў ужо прызнацца, што хавае параненага партызана, але раптам успомніў Жулегу, яго хітрыя, пранырлівыя вочы і сумеўся. «Жулега на ўсё здольны, — мільганула думка. — Мо сваіх падаслаў пад відам партызан, каб выпытаць?»

— Не, не бачыў нікога, — адказаў ціха і перавёў позірк на жонку, якая сцялася ў куточку каля печы. — Во і Прося пацвердзіць, што праўду кажу, — гэтымі словамі папярэдзіў, каб маўчала, не вытыкалася. — І паліцаі тады прыходзілі, шукалі бытта партызана,ператрэслі ўсё чыста, грazіліся мне наганам.

— Значыць, нічога не бачыў? — старшы не паверыў гаспадару хутара, насцярожана павёў руляй вінтоўкі, абярнуўся да парога, загадаў пажылому партызану:

— Кузьма, пабудзь у хаце, глядзі, каб ніхто не выходзіў. Астатнія — за мной.

Партызаны пратупалі ў сенцы, выйшлі на двор. З-за рога хлява паказаліся яшчэ трое ўзброеных.

— Агледзьце гарышча, хлеў, — ціха загадаў старшы. — Не падабаецца мне гэты стары. Бацька паліцая, ці мала што... А гэта што? — кіўнуў у бок стопкі. — Праверым.

Партызан асцярожна адчыніў нізкія дзверы, з-за вушака пасвяціў у сярэдзіну будынінкі.

— Здаецца, нікога няма, — угнуўшыся, пераступіў цераз парог, пагуляў праменьчыкам святла па сценах, падлозе, ціха гукнуў у двор: — Ярота, паглядзі, што за стопкай.

Пятро, сцяўшыся, ляжаў каля самай сцяны. Калі нехта зайшоў у стопку, ён нават перастаў дыхаць і раптам пазнаў голас аддзялённага, але ад хвалявання не мог вымавіць слова, каб даць знак, што ён тут, забарабаніў рукой па дошках падлогі, і, урэшце, калі спазма прайшла, выхрыпнуў з падзямелля:

— Хлопцы? Вы? — памкнуўся яшчэ нешта сказаць, але горла зноў перацяў даўкі камяк. Пятро напружыўся, упёрся знізу ў маснічыну рукамі, але ссунуць не змог — ад радасці саслабеў.

— Хто тут? — пачуўся зверху насцярожаны голас.

На гэты раз Пятро гукнуў на ўвесь голас:

— Аддзялённы? Андрэй? Я — Пятро. Тут ляжу, жывы... Падымай маснічыну!

— Ты? Пятро? — голас зверху радасны, усхваляваны. — Ды зараз, пачакай, падыму.

Цяжкаватая дошка паддалася не адразу, але, як толькі адкінулі яе, Пятро зажмурыўся ад яркага святла ліхтарыка. Аддзялённы ўмомант упаў на калені, пасвяціў і ўбачыў зараслага па самыя вушы чалавека, ледзь пазнаў Баркуна.

— Нагу зачапіла, — паведаміў Пятро. — Давай, цягні, — выпрастаў наверх рукі.

На голас збегліся партызаны, асцярожна вынеслі свайго таварыша са стопкі, пасадзілі каля сцяны. Пятро сядзеў, шчасліва ўсміхаўся, разгублена глядзеў на партызан і яшчэ да канца не верыў, што ўсё цяжкае мінула, і толькі паўтараў:

— Хлопцы мае, хлопцы... Як вы знайшлі мяне? Гэта ж трэба...

— Ты цішэй, Пятро, «бобікі» блізка, — папрасіў яго Ярота. — Потым раскажаш, як выратаваўся.

Аддзялённы распарадзіўся зрабіць насілкі, каб несці параненага, і хуткім крокам накіраваўся ў хату.

Пракоп босы стаяў каля печы, услухоўваўся праз адчыненыя дзверы, што адбываецца на двары. Пачуў, як рыпнулі дзверы стопкі, стаіў дыханне. Адтуль даносіліся галасы — быццам гаварыў Пятро. Стары зразумеў, што партызана знайшлі гэтыя ўзброеныя людзі. На ганку затупалі, на парозе паказаўся старшы.

— Кузьма, на выхад, — загадаў партызану, які вартаваў гаспадароў хутара. — Памажы там...

Калі Кузьма выйшаў, партызан падышоў да Пракопа, паклаў яму на плячо руку, ціха сказаў:

— Дзякуй, бацька, выратаваў хлопца. Сам прыпоўз?

— На дарозе ляжаў, з бабай прывялі... Яшку, сына майго, не бачылі? Партызаны заўчора схапілі, — Пракопу было цяжка гаварыць, ён ледзь не задыхнуўся ад хвалявання.

З кутка падала голас і Прося:

— Васемнаццаць яму толькі, памажыце, калі жывы шчэ, — жанчына ўпала на калені, заплакала.

Кавалевіч хутка зірнуў на яе, перавёў погляд на гаспадара, які напружана, з болем чакаў адказу.

— Не, такога ў нашым атрадзе не было, — з натугай выціснуў партызан.

У той момант Кавалевіч не мог сказаць бацькам, што іх сын расстраляны. Не меў права. І калі ўжо крочыў ззаду групы, з болем думаў, ці правільна паступіў, што не расказаў усю праўду пра іх сына. «Так трэба, —

супакоіў сябе Кавалевіч. — Законы вайны бязлітасныя, кожная смерць — трагедыя для жывых і блізкіх, няхай гэтыя няшчасныя людзі хоць дзень, хоць два пацешацца надзеяй, што іх сын жывы».

Аддзялённы прыспешыў крок, параўняўся з насілкамі.

— А Яшку нашы захапілі? — раптам спытаў Пятро.

Кавальчук прамаўчаў, але нехта з партызан з ахвотай адказаў:

— Нашы, во аддзялённы з Шагуновым і Купрэвічам. Выхапілі, каб пра цябе дазнацца. Але паліцай, сабака, нічога не ведаў. У расход пусцілі.

— Як, расстралялі? — Пятро памкнуўся ўзняцца на насілках, застагнаў ад нейкага ўнутранага болю. — Бацька ж яго мяне схаваў, не выдаў, калі яму наганам гразіліся паліцаі. Э-эх, вы...

— Дык хто ведаў, — сказаў той самы партызан, які паведаміў пра расстрэл паліцая. — Не перажывай, адным «бобікам» меней стала. Іхны мундзірчык надзеў, значыць вораг. Цябе не пашкадавалі б...

Праз паўгадзіны партызаны ўбіліся ў маладым саснячок, пашыліся ўглыб па вузкай прасецы. Не прайшлі яны і дзесяці метраў, як ззаду, з цямрэчы, відаць з густога кустоўя, якое яны толькі што мінулі, запознена грукнуў адзінокі стрэл, сляпая куля прашыла сасняк. Партызаны хуценька збочылі з прасекі, подбегам схаваліся за камлём старой сасны. Гарабец, спяшаючыся, сашмаргануў з пляча кулямёт, запытальна паглядзеў на аддзялённага:

— Мо пужанём? Ці мала што...

— Пасты на ноч выстаўляюць, — у роздуме сказаў Кавалевіч. — Мо і сачылі з кустоў за намі, а стрэльнуць пабаяліся. Наўздагон секанулі.

Другі стрэл тукатнуў, здалося, крыху бліжэй, куля шаляснула ў ігліцы сасонніку, цокнула дзесьці ў ствол.

— Асмялелі «бобікі», быццам за намі ідуць. — Гарабец, апіраючыся на ствол кулямёта, чакальна глядзеў на Кавалевіча.

— Мо што задумалі? — сказаў той, але, бачна было, вагаўся. — А мо і пужануць?

— Давай, аддзялённы, камандуй, — асмялела выгукнуў Гарабец. — А то на хвост сядуць.

Кавалевіч у шэрані змроку пашукаў вачамі Яроту.

— Ты — за старшага. Пагляздзі з Гарабцом, што «бобікі» задумалі. Калі будуць лезці, пачашыце з кулямёта. Вас будзем чакаць на дубовай паляне.

Партызаны хуткім крокам паглыбіліся ў лес. Прасека спусцілася ў нізовіну, пачаўся бярэзнік уперамежку з маладым асіннікам, запахла гнілым апалым лісцем, ногі зашаркалі па густой траве. Ішлі моўчкі, толькі час ад часу чуўся бразгат зброі ды нямоцны воклік, калі хто ў цемнаце спатыкаўся аб павалены ствол ці корч.

Ярота з Гарабцом, трымаючыся краю прасекі, подбегам памкнуліся да ўзлеску, высунуліся з гушчэчы крыху лявей ад таго месца, дзе ішла група, упалі на дол і з-пад навісі дрэўных лапак угледзеліся ў пасвятлелае поле. Збоч кустоўя, угнуўшыся, сунуліся тры цёмныя постаці. Двое ішлі полем, трэці цiснуўся да кустоў. Гарабец зручней прыладзіў да пляча прыклад кулямёта, даў дзве кароткія прыцэльныя чэргі. Правёў руляй налева, прашыў кусты доўгай чаргой, беручы прыцэл ніжэй. Наперадзе ў прыцемках нехта заенчыў ад болю, зашархацелі кусты. Адзін з дваіх, што ляжаў на адкрытым месцы, варухнуўся. Відаць, ён і крычаў, і Гарабец кароткай чаргой секанүў па ім, каб дабіць.

З краю вёскі забухала вінтоўка — відаць, вартавы са страху ўсляпую пасылаў кулю за куляй, але браў высока, каб не падстрэліць сваіх.

Партызаны, счакаўшы хвіліны тры, адпаўзлі ў лес, пашыліся на поўны рост у гушчарнік. Гарабец, закінуўшы за плячо кулямёт, весела сказаў:

— Двох парашыў, можна было і вінтоўкі іхнія забраць.

— Далекавата, навошта рызыкаваць, — адказаў Ярота. — У кустах мо сядзяць шчэ. Шораху нарабілі — і годзе. Ваякі саламяныя, — закончыў грэбліва.

## IV

Калі партызаны пайшлі, Пракоп не лажыўся спаць — гняла нейкая няпэўная трывога. Абуўся, накінуў на плечы світку, вышаркаў на двор. Было яшчэ цёмна, але неба на ўсходзе крыху пасвятлела, сталі відаць цёмныя абрысы хат у вёсцы. «А калі там дазнаюцца, што на хутары былі партызаны? — гэта думка ўзнікла нечакана і неадчэпна, трывожна трымцела ў свядомасці. — Не, не павінны, бо цемень, нідзе не было жывой душы. Вось толькі цяперака трохі памякчэла. Хай бы дайшлі партызаны, мо тамака і Яшку будзе якая палёгка. Калі ён, як казалі, і не ў іхнім атрадзе, дык жа там усё звязана. Пятра я ратаваў, хай і сыну паспачуваюць цяпер. Не нелюдзі ж яны, людзі, як і ўсе».

Пракоп раптам успомніў, што партызаны, мабыць, не засунулі на месца маснічыну, не да гэтага ім было, і борздзенька пачыльгікаў да стопкі, хвалюючыся за такі свой промах, засунуў дошку, нагроб наверх бульбы і толькі тады ўздыхнуў з палёгкай. Першы стрэл застаў яго на двары. Пракоп ад нечаканасці як не спатыкнуўся, бо стралялі ў тым баку, куды падаліся партызаны, каля самага лесу. Выпхнуўся на агарод, убачыў палоску склычанага жыта — відаць, партызаны ў цемені не разглядзелі, што пасеяна, пасунуліся напрасцяк, і застыў у здрацвенні, адразу самлелі ногі. Ён зразумеў, што калі на хутар нахопяцца паліцаі, то яму не даказаць, што нікога тут не было.

Другі стрэл грукнуў дзесьці з кустоўя, ужо як бы крыху далей. І зноў стала ціха. «Мо і абыдзецца, — з надзеяй падумаў Пракоп. — Партызаны ўжо ў лесе, навошта ім увязвацца ў бойку. Паліцаі, калі гэта яны, пастраляюць ды і заціхнуць».

Пракоп паўзіраўся ў пасвятлелае поле, якім пайшлі партызаны. Удалечыні цёмнай паласой ледзь віднеўся лес. Раптам кароткімі чэргамі разануў кулямёт. Пракоп ад неспадзеўкі прысеў на балючыя ногі. Кулямётчык яшчэ раз часануў чаргой, у бляклым ранішнім святле квола мільганула агняная траса куль, і ўсё сціхла. Пракоп дацягнуўся рукой да шурпатага бярна хлява, з высілкам узняўся і, палахліва азіраючыся, пацягнуўся ў двор, у знямозе апусціўся на прыступку ганка, задыхана глядзеў на кусты. Трохі выўднела, і ўжо можна было разгледзець шэрыя постаці паліцаяў ці немцаў, якія подбегам рухаліся да лесу. Іх цёмны ланцужок нячутна прамільгнуў каля кустоў, знік у тумане, які густа ляжаў у нізовінцы. Ад вёскі з бразганнем вырвалася падвода, невысока ўзняла волглы з ночы пыл, патарабаніла да кустоў.

«Відно, кагосьці падстрэлілі, — захваляваўся Пракоп. — Э-эх, тады і хутар не мінуць, трасці будуць, — цяжка застагнаў ад безвыходнасці. — Хацеў, як лепей, а выйшла...» Рыпнулі дзверы, з сенцаў высунулася Прося, са спалохам спытала:

— Страляюць? Мо партызаны вяртаюцца? Штосьці задумалі?

— Маўчы, іх тутака не было, — абсек яе Пракоп. — Не было, баба ся-

кая. Дурні паліцаі, зачапілі ету групу. Ну, а тыя агрызнуліся з кулямёта... Хай бы ішлі. А цяперака Жулега зноў да нас прыблудзіць, сабака, — ён цяжка ўздыхнуў, узняўся, пачаў углядацца ў кустоўе. — Тамака ці забілі каго, ці паранілі, — сказаў, не гледзячы на жонку, якая маўкліва стаяла каля дзвярэй. — З лесу секанулі. Цяперака яны далёка, а нам — гаруй!

Мінула яшчэ хвілін дваццаць. Ужо добра пасвятлела, на полі было далёка відаць, ажно да самага лесу. Назад у вёску праехала падвода, на ёй ляжалі двое ці трое. Ад лесу вярталіся паліцаі, мабыць, тыя, што беглі напярэймы партызанам. Панура пляліся цугам каля вербалозу, моўчкі шаркалі ботамі па траве. Пракоп пацягнуўся да стопкі, каб лепей разглядзець. Адзначыў пра сябе, што сярод іх няма палонных партызан. Крыху адлягло ад сэрца: «Не, не прыйдуць сюды. Лес — ён во дзе, кіламетры тры з гакам ад хутара». Пачуццё нейкай блізкай небяспекі дрыгацела ў душы. Трывожыла старога і гэтая нечаканая страляніна, і забітыя ці параненыя на калёсах, пахмурныя, маўклівыя паліцаі, якія вярталіся ад лесу.

Тым часам Прося прынесла з-пад паветкі сухія дроўцы, запаліла ў печы, паставіла чыгунок з бульбай, пабегла ў хлеў даіць карову, а Пракоп усё сядзеў на ганку, апіраючыся абедзвюма рукамі на кіёк, цяжка думаў. «Невядома, што з сынам, і здароўе во якое... Здаецца, нікога не чапаў у жыцці, жыў са свайго мазаля, ды во што атрымалася. Не паслаў бы сына ў паліцыю, усё роўна не ўратаваўся б. Пайшоў бы Яшка ў партызаны, яшчэ большае гора было б. Так, цяперака не адкруцішся ад Жулегі — тыя, што былі ў сакрэце, бачылі, не сляпыя ж, данясуць».

Ад крайняй хаты вёскі вываліўся нястройны натоўп паліцаяў. Ішлі моўчкі, задыхана, расцягнуўшыся па ўтравелай дарозе, якая вяла да хутара, тупацелі ботамі. Наперадзе валюхаўся Жулега, шынель расплікнуты, твар няголены, злосны.

— Пракоп, што ж ета? — жахнулася Прося, якая несла даёнку з малаком і незнарок азірнулася на кустоўе.

— Загуба валачэцца наша, — хрыпата выціснуў сасмяглымі ўраз губамі стары, але нават не зварухнуўся, не ўзняўся насустрач пахмурным, узброеным людзям, якія ўжо мінулі кусты, сапучы, падымаліся на пагорак, дзе стаяў хутар. Пракоп не ўзняўся і тады, калі паліцаі зашархацелі ботамі па траве ў садзе, абмінулі стопку, убіліся ў цеснаваты двор і ўсе разам спыніліся перад ганкам і моўчкі пазіралі на гаспадара. Пракоп ужо не глядзеў на іх, а некуды поверх іх галоў на бляклае, засыпанае невялічкімі чырванаватымі ад ранішняга сонца аблачынкамі і далей, у бязмежную прастору, пустую і халодную.

Жулега, шырока расставіўшы ногі ў мокрых ад расы ботах, злюча зіркаў на хутараніна, памкнуўся выцягнуць наган, але толькі нервова расшпіліў кабуру, падступіў бліжэй да ганка. Яго няголены твар перасмыкнула страшная грымаса нянавісці.

— Ну што, падла старая? — утаропіўся ў Пракопа, пісяг на яго шчацэ пачырванеў. — Прыкідваўся дурачком, мяне за нос вадзіў. Ты, паганы сабака, чаму скрыў ад мяне, што партызана хаваў?

— Я нікога не хаваў, — адказаў Пракоп. — Дапамог чалавеку, які ў бяду трапіў.

Стары зразумеў: апраўдвацца не варта, бо Жулега ўжо ўсё ведае — данеслі паліцаі, якія сядзелі ў сакрэце, што партызаны неслі з хутара параненага, ды жыта склычана, не паспела падняцца.

— Вось як! — выхрыпнуў Жулега. — Яшчэ пасміхаешся, пасобнік бандытаў! Цяпер ад мяне не ўйдзеш...

Стары нават не зварухнуўся, толькі павярнуў галаву, паглядзеў прама ў вочы начальніку паліцыі, якія ад гневу пабялелі і акругліліся.

— Чаму маўчыш, падла? Адказвай! — раўнуў Жулега. — Хацеў паддобрыцца, сына здаў у паліцыю? А той здаўся бандытам, цяпер пасабляе ім...

Пракоп узняўся, стаў на ўвесь рост, высокі, кашчавы, у расхрыстанай на грудзях нацельнай сарочцы, і ад нечаканасці Жулега на крок адступіўся назад, спяшаючыся, вырваў з кабуры наган.

— Ты сына майго не чапай, Яўхімка, — Пракоп загаварыў ціха, цвёрда. — Ты зглуміў яго, душу маю скрывавіў, нутранасці вывернуў. І пры тадышняй уласці сабакам быў, а цяпер яшчэ горшым падлюком.

— Ты шчэ ляпу разяўляеш? — Жулегу затрасло ад гневу. — І вашым, і нашым хацеў угадзіць?

— Я загіну сёння, а цябе заўтра павесяць на асіне, здохнеш на суку. — Пракоп саступіў з ніжняй прыступкі ганка на дол. — Мне цяперака няма чым жыць, усё ты зглуміў, морда твая прадажная, — ён узмахнуў кійком і, каб паліцай борзда не сігануў убок, хвасянуў бы таго па галаве. «Бобікі» гуртам наваліліся на старога, бразнулі яго на дол, пачалі таптаць нагамі.

— Падыміце! — загадаў Жулега.

Кораценька шчоўкнуў стрэл, Пракоп таргануўся назад, балюча паглядзеў на паліцая, але на нагах утрымаўся. Жулега падскочыў бліжэй, пырснуў агнём старому ў грудзі, і той зламаўся папалам, абсунуўся на дол.

Паліцаі са страхам глядзелі, як крывавы ручаёк выцякае з-пад світкі, а цела яшчэ ўздрыгвае ў апошніх сутаргах...

— Сабаку — сабачая смерць, — выдыхнуў Жулега, пхнуў наском бота забітага і хуткім крокам пайшоў да брамы, запіхваючы ў кабуру наган. За ім паціснуліся паліцаі, палахліва азіраючыся на мёртвага...

Касы прамень сонца вылізнуў з-за страхі хлява, асвятліў двор, ганак, парэпаныя бёрны старой хаты, лёг на цела мёртвага селяніна. Да яго падбегла Прося, упала на калені, схілілася над тварам мужа.

Пранізлівы крык вырваўся ў прастору, але яго не пачулі ні людзі, ні неба, ні рэдкія аблачынкі на ім. Толькі здрыганулася лістотай старая ліпа, калі на яе падзьмуў лёгкі ветрык...



## ЮРАСЬ СВІРКА

### КАМЕНТАРЫЙ ДА СЯМЕЙНАГА ЗДЫМКА

Для Маргавіцы — рэдкая сям'я:
У час вайны крывавай уцалела.
Гляджу на здымак: крайні — гэта я,
Дзіця вайны, ад голаду схуднелы.

Фатограф местачковы, ён, відаць,
Прыходзіў сам засняць сямейку нашу...
І пра краўца мне хочацца згадаць,
Усіх вяскоўцаў абшываў ён — Яша.

Шыў буркі, кажухі і армякі,
Ўначы машынка «Зінгер» стракатала.
Тады яго заробак быў такі:
Ён жытам браў, грашыма, часам салам.

І помню Стасянка — з Ваўчы сталяр.
Асаджваў вокны, шафы выштукоўваў.
Лічыў за гонар кожны гаспадар:
Сталярка з-пад фуганка Стасянкова!

І той фатограф не з апошніх быў, —
А добры майстра, спец у сваім родзе:
Па ўзросту і па росту размясціў
Сямейку нашу ў сорак сёмым годзе.

На лаве — мама, тата, сёстры. Тры
Старэйшыя. І брат між іх старэйшы.
Стаяць: сярэдні брат і дзве сястры
І я, шкаляр і пераростак, меншы.

Браты мае той грознаю парой
Змагаліся з чужацкаю ардою.
А бацька бедны з меншаю дачкой
Адгаравалі ў рабстве за мяжою...

Засведчыў здымак: сорак сёмы год,
І радасць тую чэрвеньскага ранку.
Нагода здымка — уцалелы род
І ў хату пераход з сырой зямлянкі.

## БАЛАДА ЖАРОНА

Круціў мяне вецер, вада падганяла.
Спрадвеку вярчэння і шуму хапала.
Ды ўжо намалоўся і наскрыгатаўся.
Да паху гарэлага спод мой сціраўся.
І зноўку каваўся, зубіўся кляўцамі,
Распісвалі рыскамі, як раўчукамі.
І зерне мучыцаю перацякала
У кош. І пытлёўкаю пульхнай ляжала.
За век у млынах накруціўся і ў жорнах,
Ад гукаў аглух манатонных, мажорных.
Мяне абмяталі пальчаткай і вехцем.
Быў ганкам для хаты, прыступкай для клеці.
А зараз качуся да родзічаў-продкаў.
Між іх, валуноў, мне ляжаць пасяродку.
Між іх, неачэсаных і некаваных,
Якім не праніклі зубіламі ў сэрца
І не прабівалі для мліва жарэлцы.
І вось дакаціўся, вярнуўся дадому,
Да пліт, валуноў, мне зусім невядомых.
Замшэлі, да плеха ў зямлю паўрасталі,
Ад лежні зняmелай ледзь бачнымі сталі.
Нібы спатыкнуўшыся, завалюхаўся
І — гупнуўся, злёг і з травою з'яднаўся.
Мукі намалоўся ячменнай, пшанічнай,
Гарохавай, грэцкай, а болей дык жытняй.
Да крушняў вярнуўся — у век старажытны.
І тут мой апошні прытулак паднебны,
Калі ў пантэон не папросяць каменны.

## АСТРАЛЬНАЯ БАЛАДА

Першы раз па зямлі сын ад маці пайшоў.
Ён глядзеўся вялікім прад нізкай травою.
Дакранаўся галовак зямных дзьмухаўцоў,
Штосьці ім бомкаў загадкавай мовай сваёю...

Будзе ён аддаляцца ад маці заўжды,
Адыходзіць у свет непазнаны, таемны.
Будзе матчына просьба гучаць праз гады:
«Ты вяртайся, сынок!» —
«Я вярнуся нязменна».

Будзе вабіць загадка астральных шляхоў.
Залюбуецца зорнаю ён панарамай.
Будзе маці прасіць: «Ты вяртайся дамоў».
І пачуецца з космасу: «Помню я, мама».

І Зямлі будзе ён адгукацца здаля,
Дзе ён зоркай ляціць, зіхаткой, несатлелай.
Яму ўявіцца з бездані маці-Зямля
У праменным святле дзьмухаўцом пераспелым.

## ЗДАВАЛАСЯ ЗОРКАЙ...

У Вільні крывіцкай
Свой век дажывала
І мройна
Радзіму сваю ўспамінала.
А ў небе літоўскім
На досвітку золкім
Спадала, згасала
Над самым пагоркам
Дрыготкая зорка.
І мне Зоська Верас
Світальнай часінай
Здавалася зоркай
Адзінай-адзінай,
Такой, хто жывым яшчэ
Помніў Максіма.
Калісь ён у Крыме
Журбой ахінуты,
Над *сіняю бухтай*
У дзіва-каханне паверыў.
І, можа, такою,
Як, Людвіка, мроіў
Вячэрняй парою:
Маліўся на зорку
Венеру.

* * *

Букет валошак вырасціў мне дол.
О, як яны аздобілі пакой.
Акно — у лета спелае адкрыта,
І кветкі быццам перайшлі на стол,
Каб гаварыць у цішыні са мной
На мове поля, сонца і блакіту.

Я так удзячны водару зямлі
І тым рукам пяшчотным маладым
(Як я да іх жадаю дакрануцца),
І тым вачам, што памяць збераглі,
Што для мяне не зніклі праз гады
І ўмеюць мне валошкамі ўсміхнуцца.

## БУСЛІНЫЯ АРБІТЫ

Буслянка спрадвеку на ліпе.
А кола — аснова пад ёй.
І дробныя птушкі тут ліпнуць,
Прытулак знаходзячы свой.

З блакітам і выссю суладны,
Буслам гэты кут дарагі.
Над домам абжытым
дакладна
Выпісваюць колы-кругі.

Ён, першы, узлёт буслянятак
Паўторыцца многа гадоў.
Ад кола-гнязда іх пачатак,
Ледзь бачных паднебных
кругоў.

Не ўсе каляіны забыты,
Буслы іх вяртаюць зямлі:
Выводзяць тых колаў арбіты,
Што з вёсак сялянскіх сышлі.

## ЛІПА ЦВІЦЕ

Ліпень. У росквіце лета,
Плоднага лета краса.
Крылатым абсыпана цветам,
У гудзе пчаліным уся.

Гуд не змаўкае таемны.
Ліпа глядзіцца стажком
Сена, духмянага сена,
Што ў ліпені пахне мядком.

Цвіцення хапае і долу,
І голлю яго не займаць.
Клубяцца (так рояцца пчолы),
Раёўняй усіх не ўвабраць.

З гудзеннем узняцца гатова,
Ліпу хістае ледзь-ледзь.
А ёй, маладой і мядовай,
Штуршка не хапае ўзляцець.

### ЧАРОМХА

— Чыя ты, чаромха, чыя
У гронках цвіцення, пахучая?
— А лепш запытаць ручая,
Па кім уздыхае пад кручаю.

— Ручай. Ты скажы мне, ручай,
Чаромха табе падабаецца?
— Ты лепш у яе запытай,
Чаму нада мною схіляецца.

Шаптала чаромха ў адказ
Парою цвіцення маёваю:
— Я ўжо гаварыла не раз:
Адна я ў яго — ручаёвая.

Пад кручай ручай уздыхнуў.
Ніколі ў прызнанні не зменіцца:
— Хто любіць цнатліва адну,
Ні з кім таямніцай не дзеліцца.

### БОРЦЬ

Мне борць так уяўляецца выразна,
Хоць месцілася ў лесе, на сасне,
Якую нават бурай не хісне.
Яловы вулей бачыцца паважным.
Нібы падперазаны лесавік
З бяроставым брылём. Прынік
Да высістай сасны кашлатай.
Яна трымае той карэнь пузаты,
Сукамі абхапіўшы з двух бакоў, —
Дамок для пчолак
Іх надзейны схоў.
Бо і мядзведзь (на вулей ён падобны)
Паласавацца мёдам — о як згодны!
Шкрабецца, лезе па сасне з натугай,
Аблапіўшы яе, сапе, звяруга.
Ды над калодаю адвад хістаўся,
І памаўза да пчол не дакранаўся:
З ляткоў жа пчолы пырскалі, як кулі.
І джалілі. Так баранілі вулей.
І пад нападам азвярэлых пчол
Мядзведзь-ласун асоўваўся на дол...
Жывой калыскай борць была ад роду
Для пчолак і для водарнага мёду.

### ЯБЛЫК

«Я райскі!» — так нагадвае ён мне.
Каго такі спакусай не кране!

У ім нічога лішняга няма.
Сферычны ён. Прырода ў ім сама.

Ён вылеплены небам і зямлёй
І ранішняй акроплены зарой.

Ён ветрам цалаваны шапаткім.
Недакранальны райскі сок у ім.

Яго купалі цёплыя дажджы.
Да спеласці крамянай ён дажыў.

О яблык! На далоні ён застыў.
Цалуй яго. Цалуй спачатку ты.

Смакуй яго. Каму такі не люб!
Цнатлівы ён, як дакрананне губ.

Такі калісьці Ева узяла
І плоднаю красою ажыла.

Такі пры ёй пасмакаваў Адам,
І ад спакусы не ўтрымаўся сам.

* * *

Калі я стамлёны ў диброву прыходзіў, —
Ад думак гнятлівых я ў ёй адыходзіў.

Даносіла подыхам мяккім дуброва
Бяроз, і кляноў, і арэшын размову.

Шаптанне спагаднае ліпаў мядовых
І роздум дубоў-мудрацоў стогадовых...

Кудысьці сплывалі трывога, знямога.
Здавалася мне, што яснела дарога.

І я адыходзіў ад тлумнага свету,
І кланяўся нізка дуброве за гэта.



## ▸НІНА РЫБІК

# СВАЕ І ЧУЖЫЯ

***Аповесць***

## I

Вячэра была беднай — як, зрэшты, і снеданне, і абед. Кацярына набрала з бочкі міску перакіслай за зіму капусты, выграбла кавянёй з жару ў кош печаную бульбу, — і дзеці тут жа сыпанулі з печы, апякаючы рукі, хапалі, выбіраючы большую, перакідвалі з далоні на далонь, дзьмухалі, каб хутчэй астыла. Голад змушаў спяшацца.

— Пачакалі б крыху, — нязлосна бурчэла на іх маці. — Кішкі апячэце, чарцяняты. На базар не панясу...

У імгненне апусцелі і кош, і міска з капустай. Малыя, што маглі з'есці яшчэ тры разы па столькі, разумеючы, што на сёння гэта ўсё, неахвотна палезлі на печ — расказваць адзін аднаму страшныя гісторыі пра ведзьмакоў і марыць пра далёкі яшчэ Вялікдзень, калі маці спячэ булку, наварыць аўсянага кісялю і пафарбуе кожнаму па яйку, а можа, нават і па два.

— Рыгор, як жыць будзем? — зграбаючы са стала падгарэлыя лупіны, толькі яны і засталіся — з уздыхам спытала мужа Кацярына. — Мукі на дне, у бульбу ўжо насенную ўлезла, солі мо жменя. Чым во гэтыя сямёра ратоў накарміць, ты думаеш?

Рыгор, спакойны і маўклівы муж, нічога не адказаў — унурыўшы галаву, сядзеў на зэдліку, плёў лапці. А Кацярына не сунімалася:

— Нешта і ад гэтай службы тваёй ніякага толку, адно што начапілі белую анучу на рукаў ды ружжо далі, бойся цяпер, каб каторы з дзяцей не ўхапіў. Гаспадары і там, і тут, а хлеба ніадкуль. Сябрукі твае, што ў партызаны падаліся, відаць, не галадаюць — у таго, чуваць, свінню забралі, у таго — карову. Нябойсь, як Каўпак ішоў, то з ім не пайшлі, хвасты прыціснуўшы, у лазе сядзелі. А цяпер яны героі — па хатах хадзіць ды сала з кублаў выцягваць. Ці хоць забілі аднаго немца гэтыя твае партызаны? Ці бачылі хоць аднаго? А цябе вось тут пакінулі — тожа мне, начальнік, паліцэйскі, сакрэтнае даручэнне выконвае! Дзе што якое было прыхавала, то ўсё павыцягваў на пачастункі — то немцам, то партызанам. А самім што цяпер есці, дзецям чаго ў міску ўліць? Ты думаеш пра гэта, бацька?

— Кацярына, — кінуўшы ў кут недаплецены лапаць, стомлена ахапіў галаву рукамі Рыгор, — ну не чапіся хоць ты. Ты ж сама галасіла: не ідзі ў партызаны, што я буду адна з дзецьмі рабіць. Ну, сказалі мне хлопцы з лесу, каб пайшоў у паліцыю, ім звесткі перадаваў, дапамагаў, калі што — я і

пайшоў, каб ім і табе дагадзіць. А дапамагаць ім, здаецца, няма патрэбы, нечым не тым яны займаюцца. Трэба было не слухаць цябе ды ісці з Каўпаком, як другія, то хоць бы сорамна ні перад людзьмі, ні перад дзецьмі не было. А то во сяджу ля спадніцы, невядома каму служу ды яшчэ папрокі твае штовечар слухаю.

— Дык я ж нічога такога не кажу, — ужо прымірэнча азвалася Кацярына. — Трэба ж толькі нешта думаць, каб дзяцей пракарміць. Мо хай бы хлопцы з лесу табе чаго перадалі? — асцярожна закінула яна тое, пра што цэлы дзень думала.

— Яшчэ што прыдумаеш — ім самім няма чаго есці!

— Ага, па іх відаць, што галадаюць. І вечна, як ні прыйдуць, п'яныя. У людзей, чуваць, і партызаны як партызаны — немцаў б'юць, масты, цягнікі ўзрываюць. А нашы толькі што зброю носяць, каб людзей пужаць.

— Не твайго бабскага розуму гэта справа, — узлаваўся Рыгор. — Прыкусі язык, пакуль не ўкарацілі. У яе, бачыце, забыліся папытацца, каму як ваяваць.

Спрэчка гатова была выбухнуць у сварку, ды яе перапыніў настойлівы стук у шыбіну.

— Во, прыйшлі ўжо твае заступнікі. Ідзі, адчыняй, — незадаволена буркнула Кацярына. — Толькі май на ўвазе: у кубле пуста, нават солі не засталося.

Сярдзіта зыркнуўшы на жонку, Рыгор выйшаў у сенцы.

У хату ўваліліся два мажныя мужчыны. Адзін высокі, плячысты — усё ў ім, і пастава, і выпраўка, выдавала былога ваеннага. Гэта быў Даніла, які ў сорак першым немаведама адкуль прыблудзіў у іх ціхую, абойдзеную бокам рэгулярнымі войскамі вёсачку. Адсюль, як аказалася, быў родам яго сябар-аднапалчанін, Сашка-Чуб, які недзе згубіўся пры выхадзе іх невялічкага атрада з акружэння. А Даніла, апынуўшыся на Палессі, успомніў частыя расповеды сябра пра гасціннасць яго аднавяскоўцаў. Сашкава радня і сапраўды прыняла Данілу, як роднага. А радней за ўсіх аказалася яго малодшая сястра, прыгажуня Хрысціна. Гледзячы ў яе сінія, валошкавыя вочы, Даніла забываўся і пра жонку, што засталася ў Саратаве, і пра маленькага сына. «Што Нюра? Яна недзе там, далёка, у мінулым жыцці, а Хрысцінка — вось яна, мілая, ласкавая...» Дый не ведаў пра яго сям'ю тут ніхто, а сам Даніла быў не такі дурны, каб расказваць: вайна — яна ўсё спіша, а там відаць будзе.

Пакуль немцы ў вёску не заязджалі, то ўсё добра было: жыў ён у Хрысцінкі пад бокам, як сыр у масле качаўся. А як дайшоў «новы парадак» і да іх, то хавацца ўжо стала небяспечна, і Даніла яшчэ з дзесяткам калгасных актывістаў-партыйцаў, якім, як і яму, пагражала смерць, падаўся ў лес. Для адводу вачэй спалілі яны пару стагоў сена, перарэзалі разоў колькі тэлефонны дрот, пастралялі ноччу з трафейных вінтовак — і сталі зваць сябе партызанскім атрадам. А Данілу ў ім прызначылі камандзірам.

Напужаліся яны, як у суседняй вёсцы стаў лагерам са сваім атрадам Каўпак, які толькі вырваўся з мокрага прыпяцкага мяшка і збіраўся з сіламі, каб рушыць рэйдам па нямецкіх тылах. Шмат гарачых галоў — маладых хлопцаў і з вёскі, і з атрада, незадаволеных, што не даюць ім камандзіры па-сапраўднаму ваяваць з фашыстамі, біць іх, гадаў, падаліся да Каўпака. Даніла баяўся, што легендарны партызанскі камандзір і яго «мабілізуе». А як жа тады Хрысцінка, смачныя цешчыны блінцы? Ды там жа і дурную кулю схапіць можна. А на смерць ён ужо наглядзеўся ў першыя дні вайны, з яго хапіла... Але Каўпаку, відаць, было не да таго, каб

шукаць па лясах мясцовых ваяк, бо ён праз некалькі дзён рушыў з атрадам на Украіну — усе яны з палёгкай уздыхнулі ў сваіх ужо добра абжытых зямлянках.

А другі госць быў мясцовы, старшыня іх калгаса Міканор Міхалёнак, да якога за яго жорсткі бязлітасны нораў даўно прыстала мянушка Воўк — ён у атрадзе лічыўся камісарам, але яго пабойваўся і сам Даніла, а ўсе іншыя ўсяляк імкнуліся не пападацца на вочы ўедліваму камісару.

— Вечар добры! — гучна, ледзь не ў адзін голас павіталіся госці. Кацярына буркнула нешта ў адказ і затулілася за печ.

— Непрыветная нешта сёння гаспадыня, — заўсміхаўся Даніла. — Ці Рыгор не шкадуе, не мілуе? Здаецца ж, як муж пры боку, то маладзіца весялейшая павінна быць. Не тое, што мы, лясныя бадзягі...

— Дый вы, я чула, не надта абдзелены ласкай, — не ўтрымалася Кацярына. — Хрысцінка ж у лес падалася, пэўна, не немцаў страляць...

Даніла спахмурнеў. А камісар падскочыў да жанчыны, нават памахаў перад носам кулаком:

— Не твая справа, паліцайка, хто чаго ў лес пайшоў. Твой вось адседжваецца дома, нямецкі паслугач, а мы Радзіму абараняем.

Кацярына ўбачыла, што Міканор добра п'яны, і спужалася: «Пацягнуў жа мяне чорт за язык. Знайшла каго ўкалоць. З Ваўком і цвярозым пагаварыць няможна, а я п'янага зачапіла». І тут жа забегала-замітусілася:

— Ды вы што, Міканор, Даніла? Я ж так, пажартавала. Праходзьце вунь на чыстую палавіну, я зараз бульбы спяку, капусты набяру. Павячэрайце.

— Ха! Знайшла чым здзівіць — капустай! Сала смаж, гаспадыня!

Вочы Кацярыны бліснулі гневам, але на гэты раз яна стрымалася, уздыхнула:

— Дык адкуль жа тое сала? Няма даўно. Дзяцей во не ведаю чым накарміць.

— То не трэба было рабіць іх столькі, — рагатнуў Міканор. — А то, бач, як смачную работу ўпадабалі — калыску з крука не здымаеце.

— Ды цішэй вы — дзеці ж на печы, — падаў урэшце свой голас гаспадар, што ніякавата таптаўся ў парозе. — Сапраўды, пайшлі ў тую хату, там і пагаворым.

— А сала ты нам усё-ткі падсмаж, — скінуў з пляча рэчмяшок Даніла. — Не маеш свайго, то мы пачастуем, — дастаў ён загорнуты ў белую анучку пакунак.

— Дрэнна кормяць цябе твае гаспадары-фашысты, — кінуў, пераступаючы на чыстую палавіну, Міканор — і зрабіў выгляд, што не заўважыў, як перасмыкнуўся ад крыўды ў Рыгора твар. А той, ледзь толькі прычыніў дзверы, не вытрымаў:

— Слухай, Міканор, колькі можна? Што ты мяне перад жонкай, дзецьмі няславіш? Які я паліцай, паслугач? Па вашым жа заданні ў паліцыю пайшоў, каб дапамагаць. Што мне ад гэтай павязкі? Магу хоць сёння скінуць ды з вамі ў лес пайсці.

— Ну-ну, не крыўдуй, а то ты ўжо, як дзеўка на вячорках, — прымірэнча паляпаў яго па плячы Даніла. — Разумець павінен: дзеля канспірацыі ўсё гэта, каб хто чаго лішняга немцам не ляпнуў. Для твайго ж дабра гэта робіцца...

— І яшчэ я хацеў сказаць, — пасмялелы ад злосці працягваў Рыгор. — Не чапалі б вы, хлопцы, удоў ды салдатак. Ну чаго вы ў Мані Ігнатавай апошняга парсюка з хлява вывелі? Ігнат яе на фронце, у яе чацвёра дзяцей

на печы сядзяць. А ў старой Сымоніхі ўсё збожжа выграблі — пасеяць не будзе чым. Недавольства ў людзях расце, крыўда...

— Ах ты, заступнічак, — прашыпеў Міканор, павольна ўздымаючыся з-за стала. — Ігнаціху ты, значыць, пашкадаваў. А пра байцоў, што ў лесе галодныя сядзяць, хто падумае? Ты, нямецкі прыхвасцень? Дык мы ж нават цябе, гада, сваім салам кормім! Ці ты так клапоцішся, каб гаспадарам тваім, фашыстам, больш дасталося? Ім ты, нябось, не будзеш расказваць, што ў Мані муж на фронце, сам таго парсюка выведзеш. Ды я цябе, гад, зараз... — і Міканор стаў расшпільваць пабялелымі пальцамі кабуру.

— Ды суніміцеся вы! — бачачы, што справа можа дрэнна скончыцца, гаркнуў Даніла. — Распетушыліся! Калі ўжо мы адзін аднаго страляць пачнём, то што немцу рабіць застанецца? Сядзь! — цыкнуў ён на камісара. — І ты сядзь! — гэтак жа строга загадаў Рыгору. — І кінь тут жаласць разводзіць. Лозунг чуў: «Усё для фронту, усё для перамогі!» Тут, на месцы, знойдзеце што пад'есці. А на галодны коўбік не надта наваюеш.

«Не надта вы і на сыты ваюеце», — падумаў Рыгор, але змоўчаў, не на жарт спалохаўшыся Міканоравай выхадкі.

Гаспадыня тым часам унесла патэльню са сквірчлівым салам — каваЛачак яна такі адхапіла і схавала ў запечак, будзе заўтра дзецям хоць булён чым заскварыць. Усё з таго ж рэчмяшка вынырнула пляшка самагонкі, крыштальны першачок весела забулькаў у паслужліва выстаўленыя Кацярынай шклянкі. Усе моўчкі выпілі, прыкусілі, астываючы ад нядаўняй успышкі.

— Ну дык што там новага ў тваіх гаспадароў? — смачна чвякаючы салам, крыху лагадней спытаў Міканор.

Рыгор пасля нядаўняй сутычкі пабаяўся агрызнуцца на «гаспадароў».

— Хлопцы ў гарнізоне балаболілі, што чакаецца нейкі спецыяльны нямецкі атрад, карны. Ну, з тых, што вёскі паляць, людзей забіваюць. Быццам пойдзе ён па слядах Каўпака — хто яго прытуляў, адкуль людзі да яго пайшлі, тым не паздаровіцца. Я тут шапнуў каторым са сваіх, каб у выпадку чаго ў лес уцякалі, не чакалі бяды.

— Глядзіце на яго: ён шапнуў, — зноў узвіўся камісар. — Які камандзір адшукаўся! Табе хто-небудзь даваў такія паўнамоцтвы — шаптаць? Табе загадана весці разведку і пра ўсё нам дакладваць, а не выкрываць сябе і не сеяць паніку ў народзе! Вось зараз ламануцца яны ўсе ў лозу — і мігам прывядуць немцаў да нашых зямлянак. У нас жа сам знаеш, якія лясы, моцна не схаваешся. А ён, бачыце, шапнуў! Ты што, знарок на нас немцаў хочаш вывесці? Ты мо двайную гульню вядзеш?

— Дык я ж як лепш хацеў, — стаў апраўдвацца Рыгор. — Каб бяды якой не здарылася. Фашысты вунь як лютуюць, чуваць, і хаты, і людзей паляць. Ад нас таксама шмат мужчын да Каўпака пайшло — сем'і іх, дзяцей шкада. Ды і твае ж родныя тут, — вінавата глянуў ён на Міканора.

— Пра партызанскія сем'і мы самі паклапоцімся, — уставіў сваё, як яму падалося, важкае слова Даніла. — А камісар мае рацыю, ты тут самадзейнасцю не займайся. Будзе загад папярэдзіць насельніцтва — папярэдзіш.

— Не папярэдзіць, — крыва ўсміхнуўся Міканор, — і ад гэтай усмешкі Рыгору зрабілася вусцішна. — Ён, здаецца, да нас у лес хацеў? Вось і забяром яго ў лес, усё роўна ўжо раскрыўся, раз шатаць пачаў. Хай пабачыць, як там сытна партызанам жывецца. Збірайся! — загадаў ён Рыгору.

Даніла недаўменна пазіраў на камісара: што той задумаў? Рыгор быў

іхнім, па сутнасці, адзіным талковым сувязным, іх вачамі і вушамі. Без яго яны ў лесе будуць, што сляпыя кацяняты. Але пытаць, тым больш пярэчыць не стаў — спадзяваўся, што Міканор неяк растлумачыць свой план.

Рыгор ускінуў на плечы паддзёўку, сунуў ногі ў боты.

— Ты куды? — убачыўшы, як нядобра, зацята апранаецца муж, устрывожана ўскінулася з палацяў, дзе прысыпала меншых дзяцей, Кацярына.

— У лес, — коратка адказаў той.

— Не пушчу! — ухапілася за вушак жанчына. — Ты — у лес, а мне што з дзецьмі рабіць, чым карміць? Не пушчу!

— Хопіць, не пусціла ўжо, — зняў яе руку Рыгор. — Дзяцей беражы, калі што якое...

— Хлопцы, ды што ж вы? — кінулася да партызан Кацярына. — Нас жа ўсіх паб'юць, як ён у лес пойдзе. Заўтра ж немцы пастраляюць, не пашкадуюць.

— Не пастраляюць, — па-звярынаму аскаліўся камісар, — і Рыгор міжволі падумаў, што нездарма яго празвалі Ваўком...

Ён узяў у сцёбцы прыхаваную ад дзяцей вінтоўку, ускінуў на плячо:

— Ну, пайшлі.

Кацярына выскачыла следам, стала на ганку — нешта трывожнае, нядобрае разрасталася ўсярэдзіне, сціскала ўсю яе, адымала рукі і ногі. «Рыгорка!» — здавалася ёй, што крыкнула, а на самай справе ледзь чутна прашаптала ссінелымі вуснамі.

У адказ ёй прагучаў стрэл — яна нават не зразумела спачатку, адкуль. Кінулася за адрыну, на сцежку, што вяла праз агароды да рэдкага алешніку.

Рыгор ляжаў на ўзмежку, уткнуўшыся тварам у прэлае леташняе лісце, нязграбна падкурчыўшы ногі. Рука яго яшчэ грэбла сырую раллю, у горле нешта хрыпела і клекатала.

— Ну вось, я ж казаў — не зачэпяць немцы ні цябе, ні тваіх шчанюкоў, — засоўваючы пісталет у кабуру, зноў па-воўчы аскаліўся Міканор. — Скажаш гаспадарам, што партызаны расстралялі іх паслугача. А сама язык вельмі не распускай, паліцэйская морда, бо і на цябе куля знойдзецца. Сустрэнемся яшчэ!

Дзве постаці хутка шыбавалі да лесу. Чалавек на ўзмежку апошні раз здрыгануўся і аціх. Над ім сядзела растрапаная жанчына і ціхенька шаптала: «Рыгорка... Рыгорка мой...»

## II

— Мамо, я сказаць вам нешта хочу...

Кацярына бачыла, што дачка цэлы дзень парываецца з ёю пагаварыць, ды ўсё не атрымлівалася: то дзеці ў хаце таўкліся, то суседка прыйшла солі пазычыць, ды, зачапіўшыся языком за парог, паўгадзіны прамянташыла, то работа рупная была — не да размоў. Толькі цяпер, надвячоркам, калі яна ўскінула на плечы старую, латаную-пералатаную світку, каб ісці ў хлеў, дачка нарэшце падабрала хвіліну. Маці спынілася ў праёме дзвярэй, паглядзела запытальна: ну што там у цябе?

— Мамо, я замуж пайду... — ціха прамовіла Насця.

— За каго? — здзіўлена спытала маці. І аслупянела ад здагадкі:

— За Арцёма? — усё яшчэ баючыся верыць і ўжо ведаючы, што скажа дачка, прытулілася ў знямозе да сцяны.

— За Арцёма! — палыхнулі маладыя вочы не хаванай больш радасцю.

— Як мяне на могілкі завязеш — хіба толькі тады. Ды і то — з таго свету пракляну, як даведаюся, што з Ваўкамі, ворагамі нашымі лютымі, параднілася!

Кацярына гулка бразнула дзвярыма — і пачула, як наўздагон Насця крыкнула:

— Мамо, кажыце, што хочаце — я ўсё роўна за яго пайду!

«Зляглася, сучка! З Ваўком праклятым зляглася, — Кацярына вымяшчала сваю злосць і крыўду на рахманай Рагулі, бязлітасна шкамутаючы яе вялікія, набрынялыя за дзень малаком дойкі. — Дурная я, можна ж было здагадацца — як змяркацца пачынае, то «Мамо, ідзіце порайцеся, а я яшчэ кашэль картоплі накапаю». І дапазна кожны дзень, да змяркання на полі. Накапала, трасца табе. Не дзіва — гароды з Ваўковымі мяжуюцца, то, пэўна, капалі там удваіх пад грушкаю, пакуль зоры не засвецяць. Людзі ёй у вочы пасміхаліся: «Глядзі, Кацярына, хутка малых ваўчанят нянчыць будзеш. А яна веры даць не магла, думала, знарок так кажуць, з яе гора смяюцца, не можа ж быць, каб яе дачка, якая столькі гора ад гэтых Ваўкоў прыняла, хоць глянула на каторага з іх прыхільна, усцешна».

Насця была другой у Кацярыны, пасля Петрыка. Кажуць, маці ўсіх дзяцей любіць аднолькава. Няпраўда. У Кацярыны за Насцюху сэрца заўсёды балела больш, чым за каго. Можа, таму, што надта ж жаласлівае ды старанлівае было гэтае яе дзяўчо — з маленства, што тая мурашка, цягнула на сабе ўсю работу, з якою не ўпраўлялася маці. А пра меншых дзяцей і казаць няма чаго: усе яны выраслі на Насціных руках.

Цяжка ім жылося без Рыгора і ў вайну, і пасля вайны. Міканор, якога пасля вызвалення зноў прызначылі старшынёй, не прамінаў выпадку іх зачапіць. І холадна было, і голадна. Ды Кацярына моўчкі, зацята, без скаргаў валакла на згорбленых да часу плячах свой цяжкі крыж, зрэдку кідаючы ўдзячны позірк на старэйшую дачку, якая ўсяляк спрабавала падставіць пад нялёгкую ношу свой худзенькі плячук.

А як споўнілася дзяўчыне васемнаццаць, завітаў да іх у вёску нейкі залётны вярбоўшчык, агітаваў маладых ехаць на торфараспрацоўкі. Многія, стаміўшыся працаваць у калгасе за Міканоравы палачкі, запісаліся на тую вярбоўку. Падахвоцілася і Насця. А Кацярына і не пярэчыла: меншыя ўжо падраслі, ёй помач будзе, а дзяўчына хай хоць з'едзе ад гэтага вечнага кляйма «паліцайка», якім Міканор памеціў не толькі яе самую, але і ўсіх дзяцей. Там яна будзе такой, як і ўсе! Ці нават і лепшай, бо ўгнацца ў рабоце за яе Насцяй мала хто мог. А як Бог дасць, то, можа, і долю сваю знойдзе. Бо хто ж возьме яе тут? Дарма што і работніца, і прыгажуня, але ж галата беспасажная, ды яшчэ дачка паліцая. Ніхто ж сёння не ўспомніць, колькі яе Рыгор дабра людзям перарабіў, як у той паліцыі служыў, колькіх ад смерці выратаваў, ад угону ў Германію. Але ж хто з Ваўком асмеліцца спрачацца? Раз ён, былы партызанскі камісар, сказаў, што Рыгор — здраднік, фашысцкі паслугач, за што яго і застрэлілі «мсціўцы», — то, значыць, так яно і ёсць. І яна, Кацярына, на ўсё жыццё застанецца паліцайкай, і дзеці яе — нямецкімі вырадкамі. А там, за светам, ніхто пра гэта не ведае, і будзе яе Настачка, як усе.

Усё передумала Кацярына, адпраўляючы дачку, аднаго не ўлічыла: надта ж добрая ды даверлівая яе дзяўчына. І як падкаціўся да яе са сваімі песнямі ды пяшчотамі чубаты хахол Мікола, то і растала дзявочае сэрца. Хахол той — свісь, лясь — ды і знік, а Насця праз колькі часу вярнулася да маці з сынам, Андрэйкам.

Перажыла Кацярына і гэтую ганьбу. Дачцэ даравала — як не даруеш ёй, сплаканай, пакрыўджанай, няшчаснай? Унука шкадавала, як сваё дзіцятка, а мо і больш: свае хоць помнілі бацьку, ведалі яго. А гэты белагаловы рахманы хлапчук у чым вінаваты, што з маленства кпіны слухае? І ўсяляк затуляла Андрэйку ад людскога неміласэрнага слова, ад насмешак: усюды брала з сабой, старалася далёка ад хаты не адпускаць, сачыла, каб з распуснымі дзецьмі не вадзіўся. «Не столькі гора перажылі — перацярпім і гэта. Не першая яе Насця і не апошняя, каго падманулі ды кінулі. А хлопчык харошы расце, уцеха ёй будзе», — думала сама сабе.

З усім змірылася Кацярына, але вось таго, што задумала Насця, перажыць не зможа. «Дачка яе замуж пойдзе за Міканоравага сына? Ды лепей ужо ў пятлю, чым за Ваўка замуж».

Спалохаўшыся гэтай сваёй думкі, Кацярына разоў колькі таропка перахрысцілася: «Даруй мне, Госпадзі, сама не ведаю, што кажу». Ужо спакайней дадаіла карову, важка патэпала ў хату.

Насця, здаецца, чакала маці: як толькі тая пераступіла парог, усхапілася з зэдліка і бухнулася ёй у ногі:

— Мамачка, родненькая, даруйце! І не сварыцеся. Пусціце з мірам, бо ўсё роўна пайду.

Замест ранейшай злосці невыказны жаль агарнуў Кацярыну: паклала русявую галаву дачкі сабе на калені, стала гладзіць мяккі кужалёк яе валасоў — і расплакалася.

— Донечка, што ж ты надумалася, куды галаву шчэміш? Ці ж ты не ведаеш, якія яны — Ваўкі? Хто цябе асіраціў — не Міканор Воўк? Я ж табе расказвала, як ён бацьку твайго ў вайну застрэліў. А з-за каго мы галадалі пасля вайны, не з-за яго, чорта праклятага? А ці не з-за таго, каб не чуць ад ваўчанят вечнага «паліцайка», ты на вярбоўку паехала? Думала, шчасця там ухопіш... Аж вунь яно, тваё шчасце, на вуліцы босае бегае, бо абуць нечага, кавалка хлеба шкадуеш дзіцяці даць. А ўсё з-за каго? З-за іх, з-за Ваўкоў...

— Мамо, ну што вы ўсё — Ваўкі, Ваўкі. Калі ўжо тая вайна была? Арцём тады дзіцем горкім быў, у чым ён вінаваты? І гароды не ён нам абразаў, і кашалі не ён ламаў. Чулі, як гавораць па радыё: сын за бацьку не адказвае.

— Бо Ваўкі — яны і ёсць Ваўкі, добрым людзям такой мянушкі не дадуць. І ўвесь іх род такі кляты! Думаеш, твой Арцём лепшы за бацьку?

— Ой, мамо, лепшы, — задуменна прыкрыла вочы і шчаслíва ўсміхнулася Насця. — Вы нават не ведаеце, які ён добры, які харошы! Каб ведалі, то і не думалі б — пусцілі мяне за яго.

— Ох, ведаю я, донька, ведаю, — скрушліва апусціла галаву маці. — Гэта ты па свеце блыталася, нічога не бачыла, а я тут, у суседстве, усё заўважала. Так фашысты над людзьмі не здзекаваліся, як ён над беднай Маняй-нябожчыцай знушчаўся. Дзень пры дні бядачка чорная хадзіла. Адзін сіняк сысці не паспее, як другі расцвітае. А яна, няшчасніца, і пажаліцца каму баіцца: то ў мяне, кажа, карова такая брыклівая, хвілінкі не пастаіць. Ты памятаеш, якія ў Мані косы былі? Ніжэй спіны. Дык я на свае вочы бачыла, як Арцём тымі косамі яе да грушы прывязваў.

— Гэта вы, мамо, знарок мяне пужаеце. Не мог ён такога рабіць, нагаворваюць на яго людзі...

— А чацвёра дзяцей-сірот — гэта таксама нагавор? З-за чаго, ты думаеш, Маня-прыгажуня без пары на той свет пайшла?

— З-за чаго б ні пайшла, а дзеці без маткі засталіся. Шкада мне іх, мамо. Учора большанькі, Пецька, на полі да мяне падбег, у вочы зазірае: «Цётачка, — кажа, — мо ў вас хлебчык ёсць? Я Грышку куклу нажую, а то ён плача і плача».

— Ваўчанят шкадуеш, а свайго? Твайго Андрэйку хто пашкадуе?

— І Андрэйку я шкадую, мамо. Ну падумайце, як яму ў вёсцы будзе жыць без бацькі? Задзяўбуць жа: «Байструк, байструк». А так хоць не свой, хоць не родны, а ўсё ж бацька, мужчына, — абароніць.

— Дачакаешся ты ад Ваўка абароны, глядзі. Каб ад яго бараніць не прыйшлося... Настачка, дзіцятка маё, адумайся: нашто ён табе, гэты азызлы Арцём — удавец з чатырма малымі дзецьмі? Ты ж у мяне яшчэ такая маладая, прыгожая, у цябе сынок расце — ну нашто табе хто?

— Мамо, ну няўжо вы не разумееце? — уздыхнула Насця. — Я шчасця хачу. Звычайнага бабскага шчасця — каб муж быў, дзеці, каб сям'я — як ува ўсіх. Ну што, апяклася я раз, паверыла свістуну залётнаму, дык цяпер усё жыццё і кукаваць адной? Сёння вунь маладых дзевак колькі павырастала, хто на мяне гляне, порчаную, ды яшчэ з «прычэпам»? А Арцём мяне не на сена пазабаўляцца заве — замуж бярэ. Мамо, не сварыцеся, пайду я за яго. Бо інакш так і звякую — ні ўдава, ні пакідачка. А Андрэйка хай пакуль колькі часу ў вас пажыве, каб я да тых дзяцей прывыкла. А то ж я і не хочучы яму большую скварку падсуну, а тым, сіротам, будзе крыўдна. Ды і касавурыцца ўсе пачнуць — мачыха, маўляў, свайго лепей шкадуе, чым чужых. Не хачу я так. А там, пазней, як прывыкнецца ўсё, абатрэцца, то і Андрэйку забяру. Пецька яму якраз па ўзросце падыходзіць, таварышаваць будуць.

— Ох, і ў каго ж ты такая ўдалася? — зноў заплакала Кацярына — на гэты раз скрушліва, безнадзейна, як жанчына, якая ведае, што выпраўляе сваё дзіця на пакуты. — Наколькі добрая, мяккая, даверлівая — настолькі і ўпартая. Век я не думала, што з Ваўкамі параднюся. Бацька з таго свету скляне цябе, дачка. І мяне ты без пары ў труну пакладзеш сваім замужжам, — галасіла-прычытвала Кацярына.

Насця таксама каўтала слёзы, але маўчала: для сябе яна ўжо даўно ўсё вырашыла, і як ні шкада было сваю бедную маці, яна ведала, што ўсё роўна зробіць так, як надумала.

А старому Ваўку — о, яму яна яшчэ адпомсціць! І за свайго бацьку, і за матчыны слёзы, і за іх пасляваенную нішчымніцу. «Паліцайка?» Вось і добра — будзе ў цябе нявестка-паліцайка. І ўнукаў-паліцанят табе нараджае — і нікуды не дзенешся, твая, воўчая кроў у іх будзе цячы. І паспрабуй тады толькі рот раскрыць, стары Воўк, я табе яго хуценька заткну!

Не плачце, мамо, не гневайцеся, тато... Пэўна, такая мая доля — ісці за Ваўка».

## III

Невялікі хлопчык гадоў шасці вось ужо колькі часу стаяў за плотам. Босыя ногі яго змерзлі ад сцюдзёнай расы, ранішні холад, лёгка прабраўшыся праз тонкую кашульку, прабягаў дрыжыкамі па худзенькай спіне. Яму хацелася дамоў, на цёплую печ, але ён усё стаяў і пазіраў у дзірачку, што робіцца ў суседскім двары. Калупаючы брудным пазногцем у рэдкіх жоўтых зубах і раз-пораз цыркаючы слінай, зачыніў квортачку гаспадар. Ускінуўшы на плячо торбачкі з кнігамі, перасварваючыся на хаду, пайшлі

ў школу большыя дзеці. Раз-пораз выбягала з хаты жанчына: набрала ва-ды ў студні, паманіла курэй і накідала ім у нізенькае карытца тоўчанай бульбы. Вынесла з хаты і раскінула на плоце дзве посцілкі з мокрымі рудымі плямамі пасярэдзіне. «Сцыкуны, — грэбліва падумаў малы. — Вось ён, Андрэйка, ніколі пасцель не намачыў».

Хлопчык і стаяў тут, за плотам, з-за жанчыны: хоць бабуля і сварылася, ён амаль кожную раніцу прыбягаў сюды і глядзеў скрозь дзірачку, як яна спрытна завіхаецца, любаваўся пасмачкай валасоў, што выбівалася з-пад павязанай «у маладзічку» бавалянкі, яе дужымі паўнаватымі рукамі. Хлопчыку не хацелася, каб жанчына яго ўбачыла — яму было сорамна і крыўдна, што ён стаіць вось тут і падглядвае за ёй. І разам з тым ён марыў, што аднойчы яна яго прыкмеціць, пакліча ў хату, смачна накорміць — і ён застанецца там назаўсёды.

— Ма-ма! — ціхенька вымавіў, амаль прашаптаў Андрэйка. І дзіва — жанчына, якая несла есці свінням, пачула, глянула ў яго бок, паставіла вёдры.

— Андрэйка? — паклікала яна. — Што ты тут робіш?

Хлопчык, саромеючыся, выйшаў са сваёй схованкі, моўчкі насупіўся.

— Ты чаго тут стаіш, сынок? Бач ты, змерз зусім, — замітусілася, забыўшыся пра някормленых свіней, жанчына. — Ты мо есці хочаш?

— Ага, хачу, — зманіў Андрэйка. Раніцай бабуля яго смачна накарміла: напякла бліноў і нават яечка падсмажыла — хлопчык заўважаў, што баба Каця яго заўсёды шкадавала больш, чым іншых унукаў і нават сваіх пабольшаўшых ужо дзяцей. Але што значылі бабуліны бліны побач з мамінымі? Такіх смачных, пэўна ж, ніхто ў вёсцы не пячэ, нездарма ж Арцёмавы дзеці заўсёды пасля снедання выскакваюць з хаты сытыя і светлыя, што тыя бліны намасленыя.

— Хадзем у хату, Андрэйка. Няўжо ж гэта баба Каця цябе не пакарміла? Мо захварэла яна, ці што? — замітусілася Насця.

— Ды не, — стаў выкручвацца хлапчук, прыкрываць новым падманам стары. — Я проста пабег рана, снеданне яшчэ не гатовае было... Не хацелася яшчэ есці...

— А чаго ж падхапіўся так рана? — не сунімалася маці.

Андрэйка ўжо не ведаў, што казаць, і, моўчкі ўнурыўшыся, калупаў босым брудным пальцам нагі пясок.

Насця, пэўна, здагадалася пра сынавы хітрыкі і больш не дапытвалася — толькі горка ўсміхнулася і лагодна ўзяла за руку:

— Ну то хадзем у хату. У мяне там і блінцы яшчэ якраз засталіся, і смятанка...

На стале на белым ручніку ляжалі два невялікія бліны — Насціна снеданне. Яна ніколі не паспявала пад'есці разам з усімі, усё ёй рупіла некуды бегчы. Ды ніхто і не зважаў, што яе няма за сталом: хутчэй паснедалі — і хто куды.

Ячныя бліны і сапраўды былі смачныя, і Андрэйка, каб не выдаваць сваю ману, з'еў амаль цэлы. І нават кубак малака выпіў — яно таксама падалося смачнейшым, чым бабіна.

Насця ўвесь гэты час сядзела насупраць і, падпёршы рукой шчаку, павільгатнелымі вачыма ўглядвалася ў сына. «Бач ты, расце, як на дражджах, — з сумам думала яна. — Хутка ў школу пойдзе... У бабы ён, вядома, дагледжаны, але ж во бяжыць сюды, сумуе... А яна ніяк не можа забраць сваё дзіця. Госпадзі, якая ж яна маці — дзеля чужых дзяцей пакінула свайго сына! Але... Андрэйку там, пры яе радні, яна ведае, нядрэнна. А

Арцёмавы дзеці без яе, мачыхі, прападуць. Калі ж забраць Андрэйку сюды — Арцём яго са свету зжыве. Ён і на сваіх з-за ўсякага-ўсялякага кідаецца, што той воўк, каб не яна, то, мусіць, пазабіваў бы. Нездарма ж яны такія напалоханыя, мочацца ў пасцель кожную ноч. А Андрэйку то пэўна ж з'есць. Не, няхай пажыве яшчэ сынок у бабулі, пакуль падбольшае. А там відаць будзе».

Маці праўду ёй казала — Арцём аказаўся такім жа Ваўком, як і яго бацька Міканор. Гэта Насця зразумела праз якіх пару тыдняў пасля свайго замужжа. Тады Арцём позна ўвечары прыцягнуўся дамоў п'яны, і яму падалося, што вячэра нясмачная, не вельмі гарачая — ну і паспытала яна яго пудовых кулакоў, наслухалася «ласкавых» слоў, самымі бяскрыўднымі з якіх былі «паліцайка» і «нямецкая байстручка» — хоць Арцём добра ведаў, што яна нарадзілася за пяць гадоў да вайны. А як муж заснуў, яна, раз-пораз выціраючы слёзы, стала ўвязваць у посцілку свой няхітры пасаг, каб вярнуцца да маці, павініцца, што не паслухала яе. Ды тут дзеці, якія без сну ціхенька ляжалі, накрыўшыся з галавой коўдрамі, каб бацька, крый Божа, не ўгледзеў, што яны не спяць ды не накінуўся з папругай, — пасаскоквалі з ложкаў, кінуліся да яе, ашчаперылі сваімі худзенькімі ручкамі: «Мамачка, не пакідай! Мамачка, забяры нас з сабой»! Не змагла яна расшчапіць тыя ручкі, адпіхнуць ад сябе гэтыя прытуленыя чарнявыя — у нябожчыцу маці — галоўкі. Засталася. А праз год і свайго сына нарадзіла — куды ўжо пойдзеш? Трывала мужавы здзекі, лаянку, старалася схавацца ад кулакоў. Нікому не скардзілася. Ды і як ты паскардзішся, калі ўсе, не толькі маці, папярэджвалі, што Арцём — воўчае племя, усе скрушліва ківалі галовамі: куды, маўляў, дзеўка, галаву шчэміш? Нікога не паслухалася, паляцела за яго — думала, на шчасце сваё ды, відаць, на згубу.

І старому Міканору Ваўку глотку заткнуць не ўдалося, як марыла: ён і слоўца не прамовіў, вокам не зірнуў, нібы і не было яе ў сяле такой, нібы яна — пустое месца. Пра сынаву жаніцьбу нічога не сказаў — ні добрага, ні паганага. Але і ў хату з таго часу, як тут пасялілася Насця, нагой не ступіў. Арцём да бацькоў хадзіў, але заўсёды адзін ці — радзей — з каторым з дзяцей. Вяртаўся адтуль злосны, настроены на лаянку, і тады яна пускала ў ход усю сваю ласку і пяшчоту, каб задобрыць яго, не давесці зноў да бойкі. Але такое ўдавалася не заўсёды, часам даводзілася з дзецьмі і ў хляве начаваць.

Маці яе стары Воўк, цяпер ужо калгасны брыгадзір, мучыў усё гэтак жа люта і са смакам: з задаволенай усмешкай слухаў, як Кацярына слёзна прасіла яго накінуць зямлі — хоць на якую лішнюю граду, — і абразаў усё аж да таго ўзмежка, на якім у вайну застрэліў яе мужа. Пасылаў яе, немаладую і нездаровую жанчыну, на самыя цяжкія работы, а працадзень ёй ставіў заўсёды меншы, чым іншым. І ледзь толькі яна асмельвалася не тое, што пажаліцца — папрасіцца, крычаў: «Што, паліцайка, савецкая ўлада не падабаецца? Немцы цябе лепш кармілі? Калі цяжка гной выкідваць, то я зараз прасігналю куды трэба — паедзеш у Сібір лес валіць». І Кацярына баялася — Ваўку вер, што захоча, тое і зробіць, як з Рыгорам, — і трывала, сцяўшы зубы, суцяшала сябе — такая доля. Вось толькі ніяк не магла змірыцца маці, што яе дзіцяці трэба трываць ад тых жа ненавісных Ваўкоў, ды яшчэ добраахвотна прыняўшы на сябе гэтую пакуту. Ды цяпер ужо Насця адказвала маці яе ж словамі: «Свае горкае долі не абойдзеш, не аб'едзеш».

...Задумаўшыся, Насця не заўважыла, што малы даўно пад'еў і цяпер

ціхенька сядзіць на ўслончыку, дапытліва зазірае ёй у вочы. Яна страсянула галавой, адганяючы сумныя думкі, прытуліла да грудзей сынаву галоўку:

— Ну як ты там, Андрэйка? Як табе ў бабулі? Не крыўдзяць большыя?

— У бабулі добра, ніхто мяне не крыўдзіць, — хлопчык на хвілінку змоўк, нібы збіраючыся з думкамі. — Толькі, мама... Я з табой хачу жыць! — прашчабятаў ён нарэшце запаветнае.

Насця цясней прыгарнула сына, каб ён не ўзняў галавы, не ўбачыў яе вачэй...

Праз колькі часу яна ціхенька прамовіла:

— Ты прабач мяне, сынок... Я цябе вельмі люблю. І вельмі хачу быць з табой разам. Але... няможна нам гэтага пакуль, разумееш? Вось хай трошкі часу пройдзе, тады, можа, усё зменіцца. А пакуль ты пажыві ў бабулі, дзіцятка. Табе там будзе лепш.

— Але чаму? — хліпнуў носам Андрэйка. — Усе дзеці з мамамі жывуць, толькі я з бабуляй. Мне казалі, што без мамы жывуць толькі сіроты. Але ж я не сірата?

— Ну які ж ты сірата — у цябе ж ёсць я. Толькі пакуль мы пажывём паасобку. Так трэба.

— Чаму? — не разумеў хлапчук.

Насця цяжка ўздыхнула — ну як растлумачыць усё дзіцяці?

— Разумееш, мой муж, ён не вельмі любіць дзяцей, а асабліва чужых. І можа цябе незнарок пакрыўдзіць...

— Ён і цябе крыўдзіць? Я ўчора бачыў — ты плакала.

— Ну, гэта я проста палец прышчаміла, вось і пакаціліся слёзы.

— Няпраўда! — рашуча адхіліўся ад маці Андрэйка. — Я чуў, як ён на цябе крычаў, гаварыў брыдкія словы — бабуля не дазваляе мне іх паўтараць.

— А што ты яшчэ падслухаў, шчанюк?

Насця і Андрэйка спалохана ўскочылі — у парозе, прытуліўшыся плячом да вушака, з самакруткай у зубах стаяў Арцём.

— Бач ты, паліцэйскі вырадак, ад зямлі не адрос, а ўжо шпіёніць. І хто ж гэта навучыў цябе? Твая бабка — паліцайка?

— Мая баба добрая! І мама добрая! — ледзь не заплакаў ад крыўды хлопчык. Але Насця прыкрыла яму рот рукой — каб не нагаварыў лішняга, не ўзлаваў яшчэ больш Арцёма.

— Андрэйка, ты ідзі дамоў, да бабулі. Я прыйду да вас увечары, — выпхнула яна хлопчыка з хаты — падалей ад бяды, якая ўжо, здаецца, віселa ў паветры.

— Што гэта ў маёй хаце гэты байструк робіць? — знарок пратэпаўшы ў брудных, у гнаі, ботах на чыстую палавіну, па памытых ёю ўчора ходніках і вярнуўшыся назад, злосна спытаў Арцём.

У Насці, заўсёды пакорнай, вочы раптам загарэліся гневам:

— Арцём, гэта мой сын! І ты ведаў, што ён у мяне ёсць, калі сватаўся!

— Ух ты, як асмялела. Даўно гэтага не спрабавала? — тыцнуў ёй пад нос брудны вялікі кулак. — Сын яе, бачыце! Твой сын вунь, у калысцы ляжыць. А гэта — байструк, і каб нагі яго ў маёй хаце больш не было!

— Але ж я гляджу тваіх дзяцей, як родных, — заплакала Насця. — Чаму ж ты майго на вочы не напускаеш?

— Мае — сіроты. А твой — байструк. І каб я больш яго тут не чуў і не бачыў, а то будзе і табе, і яму. Зразумела!

* * *

Пятнаццаць гадоў пражыла-прамучылася з Арцёмам-Ваўком Насця. Выгадавала ўсіх чацвярых яго дзяцей, павыпраўляла ў горад — каго вучыцца, каго працаваць. За гэты час вырас у бабулі і яе Андрэйка, які з таго часу бачыў маці толькі калі яна сама прыходзіла да іх — сам больш не асмельваўся паказвацца ў айчымавай ў хаце. Ён таксама падаўся ў горад, уладкаваўся працаваць на завод.

І толькі пасля таго, як усе дзеці пайшлі на свой хлеб, Насця кінула даўно пастылага, лайдакаватага, зусім спітага, але такога ж дужага і жорсткага Арцёма. Калгас ёй, як лепшай даярцы, даў невялічкую кватэру, у якую яна і перабралася са сваімі меншымі дзецьмі-школьнікамі: ад Арцёма ў яе адзін за другім нарадзіліся яшчэ два хлопчыкі.

Арцёмавы дзеці прыязджалі з горада не вельмі часта, але заўсёды з гасцінцамі. Да бацькі не заходзілі, адразу ішлі да яе, мачыхі, — хоць яны нікому не дазвалялі яе так называць, з першага дня і заўсёды клікалі яе мамай. Людзі ёй зайздросцілі — не заўсёды родную маці так дзеці глядзяць, як яе пасынкі ды падчаркі. Але Насця ў такіх выпадках заўсёды адмоўчвалася ці пераводзіла размову на іншае. Андрэй да яе заходзіў рэдка, ды і то на пару хвілін, подбегам, павітацца: ён прыязджаў не да маці — да бабулі.

Насця пасля гэтага ўпотайкі плакала. «Я таго заслужыла, я моцна перад ім вінаватая, — паўтарала яна сама сабе, калі туга абцугамі сціскала сэрца. — Я не маю права на яго крыўдаваць...»

А ноччу ёй часта мроілася, як маленькі басаногі хлопчык шэптам кліча яе з-за плота: «Ма-ма...»

## IV

Восень у тым годзе выдалася сырая, гнілая: і дня не праходзіла, каб не папырскаў з неба дождж. А то, здаралася, як зарадзіць, то цэлы тыдзень лье без супынку. Намучыліся людзі: самая работа ў полі — бульбу трэба капаць, на зіму парадкаваць, а тут ніводнага пагодлівага дня. Нават і бабінага лета людскага не было: выбліснула сонца пару дзён з рання, а з абеду зноў неба зацягвалі важкія слязлівыя хмары, дробна сеючы нудную імжу на лясы, на палеткі, на згорбленыя постаці вясковых кабет, што панура корпаліся ў барознах, выбіраючы з набрынялай сырой раллі дробныя клубні.

І лісце на клёнах, якое ў іншыя гады такой парой звінела сваім золатам ды меддзю пры кожным лёгкім дотыку ветрыку, гарэзліва ўбіралася ў пацеркі павуціння, імкнучыся напаследак пакрасавацца, прывабіць светласумны позірк ці скрасці лёгкую ўсмешку, — нават яно ў гэтую восень, не жоўта-барвянае, а рудое і мокрае, не шаптала таямніча аб спазнаным шчасці, а ледзь чутна хліпала і дачасна ссоўвалася са слізкіх галінак на зямлю, у гразь, нават не спрабуючы ўчапіцца за хвост няўрымслівага ветрыку ды пакружыцца, пагарэзнічаць, свет паглядзець і сябе паказаць.

А потым гэтак жа нечакана ўдарылі прымаразкі. Надвячоркам на захадзе сонца выбліснула касым промнем, бы пасылала людзям надзею — чакайце, заўтра сустрэнемся! Раніцай яно і сапраўды весела выкульвалася з-за голых чубоў бярозавага гаю і ад здзіўлення завісла на небасхіле: трава, апалае лісце, счарнелае бацвінне не сарваных яшчэ буракоў пабяліліся густым шорсткім інеем. Расхлюпаная на кісель за два месяцы безупынных

дажджоў вулка ўзялася цвёрдай бугрыстай скарынкай, а шматлікія калюжыны пакрыліся хрумсткім лядком.

Такі неспадзеўна ранні мароз, які ўслед за непагаддзю перапыніў вяскоўцам усю работу, стаў ранкам галоўнай навіной — на яго жаліліся адзін аднаму ў кожнай хаце, ля кожнай студні. Ды раптам узнікла чутка, якая спачатку пошапкам, а затым усё гучней перадавалася з хаты ў хату, ад аднаго другому — і адціснула ўсе іншыя навіны, нават такі нечаканы і непатрэбны прымаразак: ноччу памёр Міканор Воўк!

Міканор ужо каторы месяц ляжаў на божай пасцелі, хадзіў пад сябе, страшэнна пакутаваў ад нясцерпнага болю, крычаў дзень і ноч, даводзячы да ціхага шаленства жонку і дзяцей. З дня на дзень чакалі яго смерці, а ён усё крычаў, усё кідаўся ў ліхаманцы і злосці і — не паміраў. Людзям ужо здавалася, што ён не адыдзе на той свет ніколі, што яго маруднае згасанне, як і ўсё жыццё, дадзена Міканору толькі для таго, каб мучыць іншых, — і вось на табе, памёр!

Бліжэй да вечара, як нябожчыка ўжо памылі, прыбралі і паклалі ў труну, а людзі ўправіліся па гаспадарцы, да Міканоравай хаты пацягнуліся вяскоўцы — паглядзець на смерць. У парозе мужчыны сцягвалі з галавы шапкі, усе таропка хрысціліся, бязгучна варушылі губамі, успамінаючы словы малітвы, а хто толькі рабіў выгляд, што моліцца, бо і малітвы тыя пазабываліся ўжо. Праходзілі на чыстую палавіну, дзе з двух бакоў дамавіны ў галаве, патрэскваючы, гарэлі васковыя свечкі, пастаўленыя ў шклянкі з жытам. І кожны кідаў спалоханы і, здаецца, недаверлівы позірк на нябожчыка: «Няўжо праўда? Няўжо памёр?»

Міканор ляжаў у ababітай белым паркалем труне ў дарагім карычневым шэвіётавым касцюме, прыслаў яму пасля вайны з Масквы баявы таварыш Даніла, ды Міканор яго так і не знасіў, усё шкадаваў, ды і не было куды. За доўгія месяцы хваробы ён схуднеў, і пінжак быў велікаваты, але на гэта ўвагі не звярталі — углядаліся ў дарагі матэрыял, у думках прыкідваючы: колькі ж гэта можа каштаваць?

У твар нябожчыку глядзець баяліся. А тыя, хто ўздымаў вочы, уздрыгвалі, як ад дотыку да нечага агідна-страшнага. Хвароба высушыла некалі чырвонага мардатага Міканора да касцей, да скул і сківіц, абцягнутых рудаватай, як пергамент, скурай. Апошняя хвіліна жыцця расцягнула яго вусны, агаліўшы жоўтыя рэдкія зубы, смерць прыпячатала на яго твары тую ж усмешку-аскал, такую знаёмую ўсім аднавяскоўцам. Дрыготкае полымя свечак кідала наўкола ледзь прыкметныя цені — і тым, хто асмельваўся крыху даўжэй паўзірацца на Міканора, пачынала ўяўляцца, быццам у яго варухнулася няшчыльна закрытае павека, здрыгануўся куточак вуснаў — і здавалася: праз імгненне ён уздымецца з труны і вісклявым галасам заверашчыць: «Ну што сабраліся, сабачае племя? Смерць маю пабачыць захацелі? А трасцу вам! Гэта я ў труну пакладу вас усіх, лайдакоў ненажэрных, ды яшчэ станцую на вашых магілах». Было відаць, як тыя, хто стаяў бліжэй да труны, раз-пораз спехам хрысціліся.

Ля труны, на лаве, унурыўшы галовы, сядзела радня — Міканорава жонка, маўклівая Параска, і яго дзеці — старэйшы сын Арцём, ужо добра падпіты, малодшы Мікалай і сярэдняя дачка Алена. Ніхто не плакаў. Здаецца, жонка і дзеці не так бедавалі, што не стала бацькі, гаспадара, колькі ўзрадаваліся, што безупынны крык і енк, ад якога нідзе нельга было схавацца, нарэшце сціх.

Толькі цяпер, гледзячы на сухія вочы Міканоравых дзяцей і ўнукаў,

людзі зразумелі, што нябожчыка ніхто не любіў не толькі ў вёсцы, але і ў сям'і. Хіба што Арцём, які ўдаўся ў бацьку і тварам, і характарам, больш да яго гарнуўся — ён і зараз раз-пораз п'яна шморгаў носам і шаптаў: «На каго ж ты нас пакінуў, бацька?» Блізкія адплакалі пры жыцці ад Міканора не менш за чужых, толькі ніхто тых слёз не бачыў і бачыць быў не павінен — і сёння ўжо плакаць нават для людскіх вачэй не маглі.

Праўда, яны ніколі, нават у вайну, не галадалі і не мерзлі — бацька заўсёды аднекуль прыносіў то ношку мукі, то амаль што новыя чаравікі ці паддзёўку. Адкуль — ніхто не пытаўся. Неяк Параска паспрабавала пацікавіцца, скуль узяўся ў гаспадара новы кажушок, то так і засталася без двух пярэдніх зубоў. Яе справа была — печ, агарод, кросны, а што рабіць, як і калі — вырашаў толькі Міканор. Жанчына змірылася з такой доляй і суцяшала сябе тым, што ім яшчэ і так добра жывецца: гаспадар ёсць у хаце, муж, бацька, пра сям'ю дбае, усяго ў дастатку — чаго яшчэ хацець?

Доўга плакала яна толькі тады, як бацька не пусціў Алену замуж. Бачыла яна, што горнецца дзеўка да суседскага Васіля, і той вачэй з яе не зводзіць. Хай бы і браліся — хлопец спакойны, працавіты, гараваны. Але ж Міканор заўпарціўся: як гэта, яго, калгаснага брыгадзіра, адзіная дачка-прыгажуня пойдзе за ўдовінага сына — абарванца, у якога за душой толькі і ёсць, што вадзіцельскія правы? Не будзе таго! Ён ёй вучонага мужа знойдзе, гарадскога — вось хоць бы землеўпарадкавальнік, што ў калгас штомесяц прыязджае, чым не жаніх? І прыгожы, і са спецыяльнасцю, і грошыкі, відаць, водзяцца. І стаў таго землямера да сябе зазываць ды частаваць, падсаджваючы поруч прыбраную дачку. Той і сапраўды стаў ухлёстваць за Аленай, а дзеўка, слухаючы расповеды пра гарадское жыццё з багатым мужам ды ведаючы, што за Васіля яе ўсё роўна не пусцяць, не надта ўпарцілася — калі бацька так хоча...

А як стаў у Алены жывот на нос расці, то землямер немаведама куды падзеўся, і дарогу да іх у вёску забыўся. Падаўся Міканор сам яго ў горад шукаць: маўляў, пазабаўляўся з дзяўчынай — то жаніся, а то «прасігналю» куды трэба. А той прайдзісвет яму ў вочы смяецца: «Навошта, — кажа, — мне твая цёмная калгасніца, калі ў мяне праз тыдзень вяселле з дачкой саКратара райкама? Сігналь, як самому па волі хадзіць расхацелася». Словам, нарваўся Міканор на такога, як сам. Пра вяселле не тое што гаварыць — думаць забыў.

Ледзь удалося знайсці знахарку, якая б узялася вытравіць дзяўчыне той грахоўны плод — немалое ўжо дзіцё было, хлопчык. А затым ад сораму і людскіх размоў адправілі Алену да Данілы ў Маскву. Адтуль яна вярнулася праз якіх паўгода з мужам, цемнатварым каўказцам — назло ўсім, каб не мянташылі языкамі.

Зяця Міканор узненавідзеў з першага позірку, на вочы яго не напускаў, хоць хату дачцэ і пабудаваў — на водшыбе, побач са сваёй. А затым ззаду паставіў зруб яшчэ і Мікалаю, які таксама неўзабаве ажаніўся. Але з нявесткай бацьку і ён не дагадзіў: не было ў свеце роўных яго дзецям, вартых іх. Але Мікалаю ды і Арцёму, як надумаў другі раз жаніцца, бацька ўжо не пярэчыў: здаволіўся Аленай. «Бярыце хоць цыганоў, толькі ведайце: мне яны — ніхто», — сказаў, як адрэзаў.

Так пастулова ўтварыўся на ўскрайку вёскі Воўчы завулак, Воўчае царства, дзе правіў і ўладарыў, караў і мілаваў адзін чалавек — Міканор Воўк. І вось сёння ноччу, калі ён, выпруціўшыся, працяжна, надрыўна застагнаў — і заціх, аскаліўшы зубы ў апошнім не то крыку, не то смеху, ніхто з родных не заплакаў — усе ўздыхнулі з палёгкай.

Дык то родныя — а што казаць пра чужых! Ва ўсёй вёсцы не было, відаць, ніводнага чалавека, якога б за гады свайго старшынёўства ды брыгадзірства не пакрыўдзіў Міканор. У таго ён вывез з двара апошні стажок сена на калгасную ферму, у таго загадаў раскідаць напалову складзены зруб, бо вокны, як яму падалося, глядзелі не ў той бок, у таго вывеў з хлява апошняга падсвінка, на таго напісаў данос — і чалавек нізавошта тры гады адсядзеў у турме — не было той хаты, дзе б ні лілі слёз з-за яго самадурства, дзе б ні пракліналі воўчае племя.

Кожны меў да нябожчыка свой рахунак. Але найбольш нацярпелася ад яго Кацярына Рыгорыха. І калі яна пераступіла парог Міканоравай хаты, прыпыніўшыся, перахрысцілася, усе, хто стаяў ля труны, павярнуліся, паглядваючы са здзіўленым чаканнем: а яна чаго прыйшла? Няўжо даравала? Ці зараз во падыдзе і плюне?

Кацярына падышла да труны, стала ў нагах, нерашуча глянула на жоўты, вышчараны Міканораў твар...

— Значыць, праўда... Памёр-такі...

І тут жа, заплакаўшы, выйшла з хаты.

Услед за ёй выскачыла суседка, Вулляна. Дагнала ля веснічак, схапіла за плячо:

— Ты што, звар'яцела? Міканора Ваўка аплакваць прыйшла, царства нябеснае яму вымольваць? Ды па ім жа жонка, дзеці слязы не пусцілі, а яна, бач ты — расплакалася! Мала ты гора ад яго, гада, бачыла?

— Ды не па ім я плачу Вуллянка — па сабе, па сваім жыцці загубленым, — не магла суняць слёз, гаварыла, хліпаючы, Кацярына. — Вось памёр ён, і мне ўжо, мусіць, нядоўга засталося, а я, як падумаю, то і не жыла, толькі мучылася — з таго часу, як застрэліў Міканор майго Рыгора, і да сённяшняга дня. Здаецца, радавацца зараз трэба — прыйшло нарэшце збавенне, а мне не радасна. Горка на душы, пуста. Жыццё не вернеш, загублена яно Ваўком, хай Бог прыме яго душу...

— Бог? Яго душу? — аж захлынулася Вулляна ад крыўды і абурэння. — Ды ў агні яму вечным пякельным гарэць за яго справы — а яна Бога ўспамінае!

— Ох, Вулляна, не мне яго судзіць. І не табе. Я столькі кляла — і яго, і дзяцей ягоных, і ўнукаў. А Бог мяне караў, нібы на мяне тыя праклёны вяртаў. А як мая Насця за яго Арцёма замуж пайшла, я клясці перастала, толькі сказала: Бог усё бачыць. Калі ён ёсць, то адальюцца яму людскія слёзы і на гэтым, і на тым свеце. Так во і сталася. Толькі мне ад гэтага радасці няма. Хай Бог літасцівы даруе і яму, і мне, — і, не слухаючы больш абураную Вулляну, Кацярына, па-старэчы ўнурыўшыся, важка пацягнулася да сваёй прыгорбленай хаціны.

* * *

Хавалі Міканора назаўтра. Былі Пакровы, сярэдзіна кастрычніка, з поўначы дзьмуў сцюдзёны пранізлівы вецер, прыспешваючы вялікія калматыя хмары. Часам яны прыпыняліся на некалькі хвілін — і тады сыпаў буйнымі кроплямі халодны дождж.

Перад абедам падышла калгасная машына, на яе, адкінуўшы барты, паставілі труну з нябожчыкам, наверх узлезлі Параска з Аленай. Ніхто не галасіў, не прычытваў, як звычайна на пахаванні, не спявалі пеўчыя —

Міканор быў партыйны. Машына ціха завуркатала — толькі гэта і парушыла завіслую над вёскай цішыню — і скранулася з месца. За ёй, пацеплваючы плячыма ад холаду, пацягнуліся вяскоўцы, вінавата пераглядваючыся: маўляў, які б ні быў Міканор, а ўсё ж сусед, аднавясковец, пахаваць трэба па-людску. Ды і дзецям яго, унукам тут жыць, удаве.

На могілках усё рабілі хутка, спехам: пакрапілі святой вадой выкапаную ўранні яму, падышлі да труны, нахіліліся-развіталіся родныя.

— Людзі добрыя, просіць Міканор у вас прабачэння, — разнеслася над могілкамі адвечнае.

— Бог прабачыць, — глуха, зацята азваліся хорам прысутныя. І тут кроплі дажджу, што зноў густа сыпануў зверху, ператварыліся ў маленькія льдзінкі, якія падалі з неба і балюча білі людзей — па галаве, па твары, па руках, узнятых для крыжовага знамення.

— То Міканор з намі развітваецца, — прашапацела і сціхла,— ці то нечы ціхі голас, ці шолах мерзлага лісця пад нагамі.



ЯЎГЕН КАРШУКОЎ

# НАД БУГАМ

*Паэма*

Здавён вялося ў родным краі,
Яшчэ з няпамятных вякоў,
Спыняць на межах чужакоў,
Даваць адпор варожай зграі.

І доўг святы не быў інакшы:
Найперш — Радзіму бараніць,
Зямлю, дзе нашы карані,
Дзе будуць жыць нашчадкі нашы.

* * *

Плывуць чароўныя аблокі
З Палесся, з роднае мясціны...
У час трагічны, недалёкі,
Мяне вяртаюць успаміны.

Сярод балот, бароў на выспе —
Сяло, як дзіўная планета...
Доўгачаканы чэрвень выспеў,
Гасціны збаўлівага лета.

Туды, дзе поплаў маладзее,
Трымаем з бацькам мы кірунак.
На сена добрая надзея:
Кароўцы зробім «падарунак».

А з дому выбраліся рана,
Якраз на досвітку, з расою,
Гляджу на свет зачаравана —
На вольны росхліст травастою.

Зіхціць лужок...
Цяпер — за справу.

Як вея снежная, рамонкі.
Буяюць, харашэюць травы.
Крыляе спеўна ранак зконкі.

Шаргочуць косы — лужок будзяць,
Касьба для бацькі, нібы свята:
— Расці, сынок, калісьці будзеш
І сам касіць так зухавата.

Але на першым жа пракосе
Штось прыпыніла раптам бацьку.
Трывожна ў неба вочы косіць,
А з неба — гул. Як гром, знянацку.

І — самалёт... Ужо над намі...
Сачу за ім, стаю, здранцвелы.
Чужы... З драпежнымі крыжамі...
Паветра рэжуць чэргі-стрэлы...

Той скрушны дзень, агнём
працяты —
Зрасіў крывёю густа травы...
На межах бой вялі салдаты,
Стаялі мужныя заставы.

* * *

Яму удзячны я бясконца —
За гонар мець такога друга.
Алесь Махнач...
Ён — абаронца
Геройскай крэпасці над Бугам.

Пралёг праз сэрца і праз раны,
Праз ночы доўгага бяссоння
Той час пакутны ветэрана.
...І вось у Брэст мы едзем сёння.

Аўтобус коціцца няспешна,
Вясновы ранак лашчыць твары.
І цытадэль, і сорак першы
Успомніў зноўку мой таварыш.

— Лёс дапамог мне, хлопцы,
выжыць, —
Скацілася слязінка з вока.
А май паспеў зямлю ўжо вышыць
Зялёным дыванам навокал.

Брэст сустракае ў зыркім сонцы.
Адразу едзем на заставу.
Пачуюць споведзь абаронцы
Тут пагранічнікі па праву.

Не проста ж вабіць нас граніца —
Вядзе дарога праз дубровы
Святым мясцінам пакланіцца,
Натхніць салдата добрым словам.

* * *

Як картка ў зону — дота глыба.
З вайны... Знаёмая карціна.
І ўжо салдацкая сядзіба
Вітае ў лесе нас гасцінна.

Жыве сям'я ў казарме ў згодзе.
Сад побач — яблыні і грушы,
Глядзіш — ідылія дый годзе!
Здаецца, хто спакой парушыць?

Ну, можа, гром-гарэза лясне:
Гуляюць хмаркі ў паднябессі...
Дзянёк суботні цёплы, весні,
Труба дыміцца — будзе лазня.

Лужок сябруе тут з ракою,
Скубе цялуха канюшыну.
І раптам:
«Хлопцы, у машыну!»
Канец ідыліі, спакою.

Бягуць са зброяй...
Маладыя
Дазорцы-зухі знаюць справу.
Падумаў я:
Зусім як тыя,
Што ратавалі тут дзяржаву.

Такая вось яна, «Трывога!»
Дзесь парушальнік на граніцы,
І падае каманду строга
Маёр на росшук чужаніцы.

Дакладна, хутка, за хвіліны
Дазорцы зніклі на дарозе.
Як маці, мудрыя яліны
Над імі ўзнесліся ў трывозе.

* * *

Мы летапіс вайны завершым,
Калі ўсіх назавем герояў.
А Новікаў... У сорак першым...
Ім стаць не думаў і не мроіў.

Аб чым у маладосці марыш?
Каханне кліча... Вабяць далі.
І ён такім быў, наш таварыш,
З тых, хто жыццё сваё аддалі

За родны край, яго абсягі:
Што даражэй яшчэ на свеце?
Ён не забыў сваёй прысягі
У тым абвугленым дасвецці.

Шалёны шквал асколкаў мінных
Накрыў нядрэмную заставу.
З жывых мог Новікаў адзіны
Спыніць фашыстаў пераправу.

Пад кронаю старога дуба,
Заняўшы зручна абарону,
Біў з кулямёта па пантону —
Скрозь ворага чакала згуба.

Пот засцілаў салёны вочы,
Не адчуваў прыклад дрыготкі...
Трымаўся так да сховы ночы:
Пускаў на дно з дэсантам лодкі.

Гарэла родная казарма,
І дзесь званы гудзелі глуха...
Ён, зранены, іх сумна слухаў
І думаў, што пражыў не дарма.

Забітых ворага сам падлічыць —
Нямала на рацэ ён страціў!
Здалося: плача над ім маці,
Твар родны, мілае аблічча...

А цемра напаўзала крэпам.
І ўсё ж жылі яшчэ спадзевы...
Шапталі вусны: «Хлопцы... дзе вы?
Скажыце... як там... Як там
крэпасць?»

Пякло прастрэленыя грудзі.
Пад стромай плёскаліся хвалі.
Яго знайшлі уранку людзі
І ціха, годна пахавалі.

...Гарыць зара ў нябеснай шыры,
Пяшчотна помнік лашчаць промні.
Алёша Новікаў... З Сібіры.
Яго, як роднага, мы помнім.

* * *

Шарэла ноч. Быў блізка ранак.
Не спаў — не бралі мяне сны.
Я выйшаў пастаяць на ганак,
Падыхаць водарам лясным.

Памроілася: нехта крочыць.
Гляджу — баец... Адзін, другі...
Я зблізку іх убачыў вочы,
Нязвыклай поўныя тугі.

Яны ішлі туды, да Буга,
Расхрыстаныя, у бінтах,
І ў небе месяц плыў паўкругам,
І недзе ў лесе плакаў птах.

Над Бугам ноч лічыла зоркі,
Ўзіралася ў салдатаў сны,
І слаўся дым пад імі горкі
Жахлівай, той яшчэ вайны.

Байцы, здавалася, сцяжынай,
Ішлі, і я за імі сам
Кустамі, драплівай ажынай
Ішоў і верыў галасам.

Байцы так прагнулі спакою!
Ды ўжо ім ран не залячыць...
Стаялі доўга над ракою,
Глядзелі моўчкі ўдалячынь.

Байцы, палеглыя пад Брэстам,
Байцы адной з пагранзастаў...
Гарэлі вочы іх пратэстам.
Я боль на тварах іх чытаў.

Што ўбачылі яны за Бугам
Каля маўклівых змрочных хат?
Чужых пагрозлівых салдат?
Урэшце, не сялян за плугам...

Я падзяляў салдат трывогу,
І не хаваў сваіх трывог,
І верыў, як ніколі, Богу:
Больш не дапусціць войнаў Бог.

Але штарміць і сёння ў моры...
І сёння не усё, як трэба.
Чадзіць ад самалётаў неба,
І плачуць людзі ў страшным
горы.

Дарэмна май настроіў бомы —
Паслухаць сэрца нам цяпер бы...
Баліць яно: вунь гінуць сербы,
Іх нішчаць натаўскія бомбы.

І боль пячэ, і крыўда душыць
За тых халодных, як ільдзіны,
За тых злачынна-раўнадушных
Да блізкай, роднай нам краіны.

Я думаў: дружба не завяне.
Але не ўсё, як думаў, выйшла.
Зноў раз'яднаныя славяне...
Вярні ім розум, Усявышні!

Зялёны май кудлаціць вербы,
Ад сонца дрэвы у знямозе,
А маё сэрца — у трывозе
За мір, спакой, за лёс ваш,
сербы.

* * *

Нібы царкоўная званіца,
Над лесам вышка вартавая,
Далёка бачыцца граніца:
Сапраўдная перадавая.

На вяяроў сваіх надзею
Усклала мірная краіна.
Я на дазорцу, як на сына,
Гляджу і сэрцам маладзею.

І па-бацькоўску нешта раю —
Служыць салдату год каторы...
Там, дома, будзе сніць прасторы
Прыбужскага ляснога краю.

Такімі як не ганарыцца?
Вайсковую шануюць славу,
Трымаюць на замку граніцу,
Надзейна берагуць дзяржаву.

*1999*



ВАСІЛЬ ГУРСКІ

# АРТЫЛЕРЫСТЫ

Артылерыю называюць Богам вайны. Ведалі ёй цану партызанскія камандзіры, бо многія самі былі артылерыстамі. Ды гармата — не наган і не аўтамат. З ёй, як з бараной у лесе, за кожны куст зачэпішся. Яна не сцежак, а шырокіх дарог патрабуе і аховы абавязковай. Не кінеш жа гармату, калі бой зацягнуўся, і ворагу падаспела падмацаванне.

Згадваецца жнівень 1942 года, калі мае былыя аднакласнікі і сябры з мястэчка Магільнае Антон Хільчук, Мікалай Туміловіч, Барыс Аўсянік, Іван Жыгалковіч, Павел Ліпіла, Эдуард Петрашэўскі, Павел Лыч, Іван Туміловіч, Валодзя Пукач пайшлі ў партызаны, а праз некалькі дзён прыкацілі ў атрад уручную першую «саракапятку» з-за чыгункі Стоўбцы-Негарэлае. А дарогі — больш за дваццаць кіламетраў. Добра яшчэ, што яна шырокая і прамая — насып былой вузкакалейкі Замосце-Комалава. Такую гармату, прапахлую потам, не кінеш пры небяспецы. Першыя гарматы з'явіліся амаль адначасова ў атрадах імя Катоўскага, імя Чапаева, імя Шчорса. Але і тады хапала клопатаў і артылерыстам, і камандзірам.

У верасні 1942 года гармата катоўцаў абстрэльвала з Тычынак апорныя пункты ворага ва Уздзе — кулямётнае гняздо ў цаглянай лазні, дзоты ля моста праз рэчку Уздзянка.

У Старыцкім баі 7 лістапада 1942 года шчорсаўская гармата першым снарадам падпаліла галоўны танк, другім — спыніла яшчэ адзін. І вораг то адступаў у лагчыну, то зноў ішоў у атаку. І так цэлы дзень. Артылерысты падбілі яшчэ адзін фашысцкі танк і два браневікі. Загаварыла ў гэтым баі і гармата чапаеўцаў — атака ворага ля Лапухоў была адбіта. Артылерысты Іллюша Чэрапаў, Дзмітрый Бабібок, Раман Дзідзенка, Грыша Нікалаеня працягвалі бой да самага вечара. Калі вораг паспрабаваў падысці да Старыцкага лесу з поўначы і калона аўтамаўшын выехала з вёскі Слабада-Кучынка, гарматны абстрэл катоўскай артылерыі з Вялешынскага лесу знішчыў некалькі аўтамашын.

У Лаўскім баі, 3 снежня 1943 года, прыйшлося папацець артылерыстам атрада імя Катоўскага. Дзвюм гарматам процістаялі кулямёты і мінамёты, пяхота гітлераўцаў на кіламетровых падыходах да вёскі Лавы.

У лютым 1943 года грымелі баі ў Арлікоўскіх лясах. Партызаны брыгады з баямі адступалі. Снег быў глыбокі, гарматы тапіліся ў гурбах. Артылерысты змайстравалі спецыяльныя лыжы, каб перавозіць гарматы з месца на месца. Праз некалькі дзён чапаеўцы вырваліся з акружэння і

спыніліся на невялікім пагорку сярод балота ў Ганцавіцкім раёне. Гітлераўцы сабралі вялікія сілы і ў сакавіку рушылі на лагер. Зноў пачаліся баі. Боепрыпасы ў партызан канчаліся. Давялося адступаць. Сонца паднялося ўжо даволі высока, раставаў снег, вада з шумам запаўняла балоты. Зямля адтавала і правальвалася пад нагамі. Вывезці гармату не было магчымасці, нават раненых выносілі на насілках па пояс у вадзе. Да камандзіра атрада імя Чапаева Івана Грыба прыбег усхваляваны камандзір гарматы Іллюша Чэрапаў:

— Што рабіць з гарматай?

— Утапіце ў балоце ці закапайце. Месца добра замаскіруйце і запомніце. Ды хутчэй!

Чэрапаў пабег да артылерыстаў. Яны сустрэлі гэты загад расчаравана, хаця разумелі, што іншага выйсця няма. Таропка разабралі гармату і па частках закапалі ў лесе, а лафет і зарадную скрынку ўтапілі ў канале. Пад свіст і разрывы куль дагналі асноўныя сілы атрада. Рота Аляксандра Малыгіна, якая прыкрывала адступленне, затрымала ворага, пасля павярнула ў другі бок, заманьваючы за сабой гітлераўцаў. Так былі выратаваны сотні мясцовых жыхароў з дзецьмі, якія адступалі разам з партызанамі. Чапаеўцы пераадолелі некалькі кіламетраў залітых вадой балот, шырокі магістральны канал і спыніліся на невялікім пагорку, каб перадыхнуць. І зноў рушылі ў дарогу. Праз тыдзень былі ў Чырвонаслабодскім раёне. Да асноўных сіл атрада далучылася рота Малыгіна.

— Дзе твая гармата, Чэрапаў? — запытаў нечакана камандзір атрада.

— Закапаў, як вы загадалі.

— Замок хоць забралі?

— І замок закапалі. Асобна. Надзейна схавалі.

— Замок трэба было забраць з сабой, — нахмурыўся Грыб.

— І згубіць у балоце ці ў канале?

— Можа, і твая праўда. Гармату лягчэй знайсці на месцы баёў. А замок?! Замок абавязкова трэба было забраць з сабой!.. На сушу будзем выбірацца. Гармата нам спатрэбіцца яшчэ... Які ж ты артылерыст цяпер? Мокрая курыца з вінтоўкай без патронаў. Чым будзеш палохаць ворага? Ростам сваім?! Фашысты грукату гарматы баяцца. Грому нечаканага... Вось што, братка. Бяры сваіх артылерыстаў, назад тэпай і без замка не вяртайся. З вамі пойдзе начальнік штаба Павел Жукоўскі. Штабісты таксама там сякія-такія рэчы закапалі. У балоты летам не палезем. Хай у багне чэрці плюхаюцца, а нас капыльскія ляскі і пералескі схаваюць. Суша, братка, — як падлога для партызан. На сушы і паміраць весялей!.. Ды ежы на дарогу вазьміце. Вада не скора спадзе, нават журавін не знойдзеце...

Артылерысты неахвотна патэпалі назад, не ішлі, а плылі па пояс у вадзе. Пасля шматдзённых блуканняў нарэшце знайшлі свой былы лагер. Як жа абрадаваліся хлопцы, калі ўбачылі, што ўсё схаванае на месцы. Забралі замок, агледзелі астатнія хованкі, штабісты адкапалі дакументы і вярнуліся ў атрад. Гармату прывезлі адразу, як спала паводка і падсохла зямля. З горам папалам вывезлі яе з балота. І зноў грымелі выбухі, і наводзіла жах на ворага партызанская артылерыя.

Снарады з кожным месяцам даставаць станавілася ўсё цяжэй. Бліснула, праўда, неяк няясная надзея на выхад са становішча. Але...

У брыгадзе была ружэйная майстэрня. Навучыліся хлопцы рамантаваць пакалечаную зброю. Летам 1943 года наладзілася надзейная сувязь з

Вялікай Зямлёй. У Любанскім раёне прызямляліся самалёты, у Капыльскім — грузы скідалі на парашутах. Папаўняліся запасы патронаў, толавых шашак, узрывальнікаў — рыхтавалася «рэйкавая вайна». Прыбавілася работы і ружэйным майстрам. Яны рабілі скобы для прыціскання толавых шашак, майстравалі гранаты, тут жа выпрабоўвалі іх. А неяк у майстэрню завітаў камандзір роты атрада імя Катоўскага Іван Цыпкін і хітравата запытаў:

— Ці можаце, хлопцы, «гранату» вашу на метраў трыста шпурнуць і там яе ўзарваць?

— Шпурнём, калі трэба! Шпурнё-ём! — згадзіліся Іван Абрамчык і Фёдар Біёнчык.

— Шпурнуць лягчэй, а вось узарваць там — задача не з лёгкіх, — думаў Мікалай Гершун. — Добрую галаваломку прывёз ты нам, камандзір.

— Дык прымаеце мой заказ?

— Прымаем, прымаем, — быў дружны адказ.

— За пару такіх «гранат» будзе вам і скварка, будзе і чарка, — засмяяўся ротны. — Пастарайцеся, браткі. Дужа мне патрэбна такая зброя.

Пачаліся пошукі. Работа ішла марудна, але хлопцы надзеі не гублялі. У гільзе ад снарада да «саракапяткі» слесар Іван Абрамчык прасвідраваў адтуліну, каб гільза насаджвалася на канец ствала вінтоўкі, столяр Фёдар Біёнчык вытачыў драўляную балванку, каб свабодна ўлазіла ў гільзу. Мікалай Гершун выняў з патрона кулю, закаркаваў, каб не высыпаўся порах. І хлопцы выправіліся выпрабоўваць «гранату» — трэба ведаць, ці выштурхнуць парахавыя газы балванку, як далёка яна паляціць. І во радасць: балванка праляцела пару сот метраў.

— Будзе, хлопцы, наш гранатамёт! — усклікнуў Гершун. — Цяпер можна выпрабоўваць толавую шашку.

Шашка паляцела, як і балванка.

— Ура-а! — закрычаў Біёнчык. — Цяпер табе, Мікалай, прыйдзецца падумаць, як узарваць яе там.

— Узарваць для мяне, як раз плюнуць, — засмяяўся Гершун і ўзяўся вырабляць узрывальнік.

Нарэшце ўсё было гатова, можна было пачынаць апошняе выпрабаванне.

— Адыходзьцеся, хлопцы. Каб не ўзарвалася часам наша «граната» ў руках, — перасцярог сяброў Гершун.

— А ты сам? — захваляваўся начальнік майстэрні.

— З-за ствала гэтай бярозы выстралю.

— Калі табе рукі адарве, мне камбрыг галаву зніме, — не згаджаўся начальнік майстэрні. — Прывяжы вінтоўку да бярозы і вяровачкай пацягні за спускавы кручок. Беражонага, братка, і Бог беражэ!

Так і зрабілі. Выстрал — і «граната» паляцела, а праз пару секунд узарвалася ў паветры.

— Недалёт! — засмяяўся Абрамчык.

— Перамога! — радасна закрычаў Гершун. — Перамога, браточкі!! Ёсць гранатамёт!! А недалёт выправіць, як раз плюнуць!

Ён заспяшаўся ў майстэрню, зрабіў некалькі ўзрывальнікаў, і «гранаты» ўзрываліся пасля прызямлення ці над самай зямлёй.

Забраў Цыпкін новую зброю і пайшоў з ёй на заданне. Пачуў пра гранатамёт камбрыг Васіль Яроменка, прыехаў у майстэрню, паглядзеў на выпрабаванне і засмяяўся.

— Псіхічная зброя атрымалася. Але ўсё ж поспех. Хвалю! Цяпер зрабіце для вашай «гранаты» жалезную рубашку, каб не толькі палохала фрыцаў, а і асколкамі секла. Змайструеце?

— Як раз плюнуць! — запэўніў Гершун.

Пазней майстры выраблялі гранатамёты для многіх атрадаў, і вораг нёс страты ад нябачных партызан, якія нападалі на яго. Майстры ж пакрысе ўдасканальвалі свае вынаходніцтва.

Снарадаў для гармат не хапала. І камандзір артылерыйскага ўзвода Генадзь Старавойтаў прыехаў у майстэрню.

— Пра вашы «гранаты» чуў, хлопцы. А мне снарады патрэбны. Зробіце?

— Снарады?! А што, зробім і снарады! — засмяяўся Гершун. — Заўтра прывозьце гармату на выпрабаванне. Вопыт ёсць. Мы свой «снарад» на кіламетры два шпурнём.

Артылерыст з надзеяй вярнуўся ў атрад.

— Дзе мы такую гільзу возьмем, каб на ствол «саракапяткі» насадзіць? — сумеўся Мікалай Біёнчык.

— Навошта нам гільза? У ствол гарматы засунем «снарад». Прыдумаць толькі, каб не правальваўся, — тлумачыў свой план Гершун.

— Гэта твой клопат, канструктар. Давай чарцёж, а мы табе што хочаш змайструем, — гаварыў слесар Абрамчык.

— Дубовую балванку выточваць для пробы? — запытаў майстар па дрэве Фёдар Біёнчык.

— Навошта? Снарад жа такі самы, як граната. Рыхтуйце толавую шашку, а я ўзрывальнік змайструю.

Зашоргалі напільнікі, закруціўся вал такарнага станка (адзін майстар круціў яго, а другі выточваў дэталь). Справа прывычная — дзесяткі гранат зрабілі. Толькі Гершун марудзіў: узрывальнік павінен спрацаваць праз секунд дзесяць. Урэшце і ён закончыў сваю работу і сказаў, што «снарад» можна выпрабоўваць.

— Калі будзе недалёт, зраблю папраўку. Для мяне гэта — раз плюнуць.

Назаўтра да майстэрні падкацілі гармату. На выпрабаванне прыехаў камбрыг Васіль Рыгоравіч Яроменка. Косця Жабуртовіч саскочыў з зараднай скрынкі і крыкнуў майстрам:

— Загружайце! Магу ўзяць паўсотню снарадаў! Дзе яны?

— Выпрабуем першы, тады і за паўсотню возьмемся, — адказаў Мікалай Біёнчык.

Артылерысты выкацілі гармату на пагорак.

— Снарад вынялі з гільзы? — запытаў Гершун.

— Вынялі, — падцвердзіў Косця Пармон.

— Куды цэліць будзем? — запытаў Мікалай Біёнчык.

— Бачыш дрэва сярод поля? Да яго кіламетр будзе. Бяры на метраў дзесяць правей, каб убачыць разрыў «снарада», — гаварыў Гершун і прыладжваў свой узрывальнік з толавай шашкай. — Адыходзьце ўсе назад. Цяпер можна...

— Агонь! — крыкнуў Старавойтаў.

Гучны выбух аглушыў хлопцаў. Дымам ахутала ствол гарматы.

— Добра грукнула! Са свістам паляцеў! — радаваўся начальнік майстэрні. — Ад такога свісту фрыцы ў порткі наробяць.

— А дзе ж снарад? Ужо, напэўна, даляцеў. Хіба не ўзарваўся? — непакоіўся Старавойтаў.

— Узарваўся, — сумна прашаптаў Гершун і пабег да ствала гарматы, ля канца якога рассейваўся парахавы дым. — Узарваўся, браточкі, на наша гора. Узарваў-ся-яя!

Артылерысты падбеглі да Гершуна і застылі ад здзіўлення: канец ствала быў разарваны, тырчэлі толькі вострыя шыпы. Гершун стаяў здранцвелы і лыпаў вачыма. Ён не мог зразумець, ці тут яго віна з узрывальнікам, ці тол узарваўся ад дэтанацыі.

— Пэцкалі!! — вылаяўся Старавойтаў. — Вам цацкі рабіць, а не снарады! «Як раз плюнуць!!!» Плюйце цяпер хоць тысячу разоў, дыверсанты!! Нажоўкі бярыце і адпілоўвайце канец ствала. Такую гармату сапсавалі! Я ж з яе бранявік падбіў і шэсць аўтамашын! Рамантуйце! Такую не павязу ў атрад.

Гершун апусціў галаву і маўчаў. Маўчалі і астатнія: чакалі пахвалы, а атрымалася вунь што — гармату вывелі са строю. Яны разумелі, што адпілаваць стальны канец ствала не змогуць, і вінавата пазіралі на камбрыга. Яроменка агледзеў гармату, мацюкнуўся і сказаў строга:

— Праз два тыдні гармата каб была гатовая да бою! — і, малайцавата ўскочыўшы на жарэбчыка, паскакаў у лагер.

Да пошукаў новага ствала падключыліся і артылерысты, і майстры, і разведчыкі атрада. З таго часу ружэйныя майстры снарадаў больш не выраблялі, нават гаворкі пра іх не вялі. Пакрысе прыкры эпізод пачаў забывацца. Толькі каб пакпіць з майстроў, хто-небудзь часам скажа:

— Ну, хлопцы, можа, плюнем разок?

Снарады артылерыстам, хоць і ў невялікай колькасці, дастаўлялі самалётамі з Вялікай Зямлі. З'явілася ў партызан неўзабаве і больш лягчэйшая зброя для знішчэння танкаў і бронемашын — ПТР (супроцьтанкавыя ружжы). Іх даручалі самым вопытным і надзейным партызанам, з імі, як з вінтоўкамі, лёгка было прабірацца між кустоў і гушчароў.

У атрадзе імя Чапаева ПТР атрымала група пад камандай Трафіма Журыда. Мсціўцы днём падыходзілі да чыгункі Стоўбцы-Негарэлае і здалёк, з кустоў расстрэльвалі паравозы. За зусім кароткі час было знішчана пяць лакаматываў. Зручнасць новай зброі была відавочнай. Выстраліў, як з вінтоўкі, ПТР на плечы — і ходу далей ад чыгункі. А паравоз патануў у пары і застыў на месцы.

Партызанскія артналёты не толькі прыводзілі ў жах гітлераўскіх салдат, але і адпраўлялі іх на той свет. А выбухі гармат натхнялі партызан на подзвігі, дабаўлялі кожнаму і смеласці, і рашучасці, і адвагі.

— Мы не верылі ў Бога — так былі выхаваны, — але дапамогу Бога вайны паважалі і нават маліліся на яго, — казаў потым лейтэнант Іван Антонавіч Абрамчык, які неўзабаве ўзначаліў атрад імя Багдана Хмяльніцкага. — Гітлераўцам жа не памагаў нават сапраўдны Бог, хаця яго імя прысутнічала на кожнай іхняй спражцы, — «Бог з намі». Чырвонаармейцам і партызанам спрыяла ўдача. Яны абаранялі сваю зямлю, сваю Бацькаўшчыну.

Да гэтых слоў лейтэнанта няма чаго дабавіць.

# АСТРАВОК — БРАТ ХАТЫНІ

Бяда чорнай хмарай насунулася на вёску Астравок у пачатку сакавіка 1944 года. Многія жыхары хаваліся ад акупантаў у лясных зямлянках ці ў вёсках далей ад Узды. У хатах заставаліся старыя, дзеці, тыя, хто не меў сіл уцякаць па глыбокім снезе ад фашыстаў пры іх наступленні.

Група разведчыкаў атрада імя Катоўскага ноччу праехала праз Астравок. Сяргей Пецярымаў, Іосіф Чыгір і яшчэ тры разведчыкі спыніліся ў суседняй вёсцы Буковічы, вялі назіранні за дарогай з Узды. У сем гадзін раніцы іх змянілі Сяргей Рагалевіч, Косця Канстанцінаў, Іван Шамянкоў, Пётр Валчанкоў. Яны ўважліва сачылі за дарогай Сямёнавічы-Буковічы.

Паліцай Віктар Булка добра ведаў мясцовасць і вёў карнікаў з боку пасёлка Лагчына. Партызаны заўважылі ворага зусім блізка і не стрымаліся, абстралялі яго, тут жа ўскочылі на коней і зніклі ў лесе. Услед несліся кулямётныя чэргі. Адна з куль трапіла ў Рагалевіча. Пахіснуўся партызан, нахіліўся над шыяй каня, схапіўся з усіх сіл рукамі за грыву, каб не ўпасці. Конь вынес раненага ў Астравок. Да яго кінуліся Юстаў Казак і Палікарп Герасімовіч, падтрымалі з двух бакоў, каб не ўпаў, пагналі каня ў бліжэйшы лес, а адтуль — у атрадны лагер. Паранены быў і Пётр Дзянісавіч Ваочанкоў, ён паспеў яшчэ даскакаць да Падсадскіх. Рана была смяротнай. Ноччу партызан памёр. Конь пад Косцем Канстанцінавым упаў ля Астраўка. Разведчык паспеў ускочыць у чыйсьці будынак, а выбраўся адтуль у кусты, калі гарэў Астравок, і дым ахінуў усё наваколле.

Партызаны атрада імя Катоўскага занялі абарону ля Падсадскіх. У немцаў жа быў план абкружыць Астравок і знішчыць вёску разам з жыхарамі. Ля Буковіч карнікі раздзяліліся на тры групы, каб з поўначы, поўдня і ўсходу ахапіць вёску.

Юнакі і дзяўчаты ў Астраўку пачулі страляніну і кінуліся ўцякаць на захад, за могілкі, зарослыя соснамі і кустоўем, схаваліся ў бліжэйшы хвойнік. Па дарозе ў лес пранеслася некалькі саней з вяскоўцамі, яны мчаліся ў бок Куля. А выстралы тым часам набліжаліся да могілак — фашысты колам сціскалі вёску, абстрэльвалі бліжэйшыя кусты, потым выставілі навокал пасты і ўзяліся за сваю чорную справу.

На вуліцы збіраліся карнікі, спыняліся сані. З іх саскоквалі карнікі і тут жа групаваліся ля афіцэраў, тыя аддавалі кароткія каманды. Пад'ехала і легкавушка з вышэйшымі чынамі.

Над вёскай са свістам праляцеў снарад, потым — другі. Яны разарваліся недзе побач, ля Астраўка. Гэта партызаны нагадвалі ворагу, што яны гатовы да бою.

Пачалося страшнае. Акупанты ўрываліся ў хаты, выганялі людзей на вуліцу.

— Што нам браць з сабой? Адзенне? Дакументы? — пыталі разгубленыя жыхары.

Ім адказвалі, што нічога браць не трэба, і хутчэй прыспешвалі за дзверы.

На вуліцы з карнікамі снавала некалькі паліцэйскіх у чорных шынялях з шэрымі каўнярамі. Сярод іх бегаў тутэйшы паліцай Віктар Булка.

— Што, Віцька, з намі будзе? — праз слёзы пыталася суседка.

— Што заслужылі, тое і будзе, — адказаў паліцай і пабег да афіцэра паказваць сваю хату.

Ён добра ведаў, які лёс напаткае вяскоўцаў, а таму хацеў выратаваць ад пажару сваё гняздо.

Афіцэр паляпаў паліцая па плячы і супакоіў, што ўсё будзе добра. І паліцай пабег у суседнюю хату, з якой ужо выгналі гаспадароў, хапаў усё, што траплялася пад руку, і насіў у свае сані, каб потым завезці сям'і, якая перад гэтым уцякла ў варожае котлішча.

Вуліцу Астраўка запоўнілі крыкі і плач дзяцей, лаянка салдат, каманды афіцэраў, смех і рогат карнікаў, піск свіней і рыканне кароў. Трое салдат у хлеўчыку лавілі курэй, запіхваючы іх у мяшкі. Нечакана певень дзеўбануў аднаго рабаўніка ў руку, і той выскачыў з пагрозлівым крыкам на двор. Афіцэр выхапіў пісталет і некалькі разоў стрэліў. Певень распластаўся на снезе, афарбаваўшы яго сваёй крывёй.

Доўгая валтузня ўсчалася ў хаце Домны Савошчык. Жанчыну выпіхваюць на двор, а яна ўпіраецца, хоча разбудзіць дзяцей Лілю і Васю, якія спяць. Яе выштурхоўваюць зноў, але яна зноў вяртаецца на крык дзяцей. Смерць даганяе жанчыну на ганку роднай хаты. Бязлітасныя карнікі і да дзяцей. Самі яны ўжо з ахапкамі адзення спяшаюцца да саней ды зноў бягуць у хату па рэчы, не звяртаючы ніякай увагі на перадсмяротныя стогны жанчыны і яе дзяцей, на лужыну крыві, якая сцякае з ганка і чырвоным ручаём расплываецца па снезе.

На вясковай вуліцы сапраўдны гармідар. Адны сані з нарабаваным дабром ад'язджаюць, другія спыняюцца ля апусцелых хат, хутка загружаюцца і пакідаюць вёску. З хлявоў, скляпоў грабежнікі зрываюць замкі, выбіваюць дзверы.

Тут жа выводзяць коней, запрагаюць у сані і адразу загружаюць людскім дабром. На сялянскім двары няма непатрэбных рэчаў: ці то цвік, ці то чыгунок, ці то коўдра — усё тут неабходнае для чалавечага існавання. І ўсё гэта цяпер перастрасаецца, аглядаецца зладзейскім прагным вокам. Навейшае адкідваецца ў адзін бок, старое, але яшчэ патрэбнае гаспадару, падбіваецца кованымі ботамі, трушчыцца, ломіцца, топчацца без жалю і шкадавання. Сабак адразу застрэльваюць. Уся жыўнасць, ад кароў да курэй, ідзе на расхоп. Што засоўваецца ў мяхі, што звязваецца і кідаецца на сані. Апусташаюцца кубельцы і скрыні, кадушкі і шафы. Некаторыя сані нагружаны так высока, як вазы сена на сенакосе, толькі ўціснутыя, не рублямі, а перакрыжаваны вяроўкамі. На некаторыя сані пагружаны і новыя шафы, і жалезныя ложкі са спружыннымі матрацамі, і бочкі з жытам, ячменем ці аўсом, і мяхі з бульбай, і кадушкі з квашанай капустай — вяскоўцы ж рыхтавалі запасы на год. Гвалтаўнікі і рабаўнікі пачуваюць сябе, як на людным кірмашы. Калі выцягвалі з хлявоў кароў, тыя ўпіраліся і не хацелі выходзіць, іх білі ствaламі вінтовак прыкладамі. У ход пайшлі лейцы, вужышчы, пастронкі. Некаторых кароў прывязвалі да аглабель, і яны паволі супакойваліся, толькі касавурыліся на гітлераўцаў. Адна з іх так тузалася, што старая вяроўка не вытрымала і парвалася. Рагуля абрадавалася, наставіла грозна рогі на гурт салдат і паімчала на свой двор. Некалькі салдат кінуліся наўздагон. Карова пераскочыла невысокі плот і выскачыла ў поле. Па вуліцы салдаты якраз гналі ў канец вёскі Косцю Казея, Паўла Сухаверку, Івана Кісяля. Мужчыны замахалі рукамі, нібы запэўнівалі, што яны зловяць карову. Салдаты далі згоду: «бяжыце, лавіце». Мужчыны кінуліся даганяць рагулю, якая ўжо мінала вёску. Яны разбегліся, быццам пераймаючы карову, каб абабегчы яе, а самі падганялі бліжэй да кустоў.

— Ратуйся, Красулька!.. І нас ратуй! — шапталі мужчыны.

Вось і кусты. Карова нечакана знікла з вачэй салдат, за кустамі знікалі і мужчыны. Толькі зараз зразумелі салдаты, што ні карова, ні мужчыны не вернуцца. Са злосці далі некалькі чэргаў па кустах.

А тым часам карнікі, грабячы хаты, рухаліся на ўсходні канец вёскі. Туды ж гналі і вяскоўцаў, скіроўваючы іх да гумна, што стаяла справа ад вуліцы.

Ніна Вайцяшонак з двухгадовай дачушкай Тамарай на руках адышлася ўбок і пільна наглядала за паставымі. Два з іх, як галодныя ваўкі, злосна зіркалі на сялян, а трэці, маладзейшы, быў больш памяркоўны. Да яго падышла Вольга Дубовік з сынам Алікам, якога трымала за руку, нешта прасіла. Да Ніііных вушэй данесліся словы: «Сястра жыве ў Вуздзе... адпусці да сястры...» Паставы прапусціў сані з нарабаваным дабром і махнуў Вользе рукой — ідзі! Як два зласнейшыя паставыя адышліся трохі і загаварыліся з падводчыкамі, Ніна падышла да таго маладзейшага і папрасілася:

— Адпусці мяне, панок, у Вузду. Дзядзька там жыве, паліцэйскім машыны рамантуе.

Не магла ж сказаць Ніна, што яе муж партызан, што ваюе з фашыстамі.

— Ідзі в Узда... Сыдзеш з дарогі — палучыш куля, — і махнуў рукой.

Не верылася Ніне, што выскачыла з лапаў смерці, заспяшалася далей ад вёскі, з трывогай пазірала на салдат, якія, як тэлеграфныя слупы, стаялі паабапал дарогі, утвараючы доўгі калідор ад Астраўка да Узды, але нічога не пыталі ў яе, а прапускалі ў варожы гарнізон. Убачыла Ніна, як Вольга Дубовік з сынам і Ганна Казей з трыма дзецьмі павярнулі ў Буковічы, крайнія хаты якіх амаль падыходзілі да дарогі, але сама не асмелілася звярнуць туды, а са страхам ішла па дарозе на Узду.

— Трымайся мацней за мяне, дачушка... Рукі мае зусім самлелі, — шаптала мама Тамары.

— Я прайду трошкі, — гаварыла малая.

— Хіба трошкі, — казала маці і апускала малую на снежную дарогу. Ды не вытрымлівала Німіна сэрца, зноў брала Тамару на рукі, да болю сашчэплівала пальцы, ледзьве перастаўляла ногі. А ісці да Узды трэба было каля дзесяці кіламетраў.

Ад'ехалі «высокія чыны» на сваёй легкавушцы, аддаўшы апошнія каманды карнікам. Ад'язджалі апошнія сані, апусцелі хаты і двары. Доўгі абоз з нарабаваным дабром, з адзінокімі групкамі жанчын з дзецьмі, якіх адпусцілі карнікі з вёскі, — расцягнуўся на дзесяцікіламетровай дарозе ад Астраўка да Узды.

А тым часам карнікі сагналі людзей у гумно, зачынілі дзверы, паставілі насупраць дзвярэй кулямёты, і тут жа ў заходнім канцы вёскі запалалі хаты, хлявы, гумны. Языкі полымя ўміг абхапілі саламяныя стрэхі, загарэліся смалістыя бярвенні будынкаў, успыхвалі агнём вішні і яблыні, грушы і слівы, якія раслі побач. З дзікім піскам і енкам выскоквалі з будынкаў асмаленыя каты і, як шалёныя, насіліся паміж пякельнага агню. Падпальшчыкі з задавальненнем рагаталі, пстрыкалі фотаапаратамі.

Клубы чорнага дыму падняліся над вёскай. Дайшла чарга і да хаты паліцэйскага. Адзін факельшчык запытаў у другога, што рабіць з ёй. Той з яхіднай усмешкай кінуў:

— Астравок капут, усе хаты капут! — і паднёс факел да страхі. А паліцэйскі ў гэты час распакоўваў нарабаванае і радаваўся, што так многа прывёз дарэмнага багацця.

Нарэшце запалала гумно, аўтаматныя чэргі на сіта пабілі дошкі дзвярэй. Разам з полымем адтуль вырваліся вусцішныя крыкі і стогны людзей. Іх падхопліваў вецер і нёс да недалёкіх Буковіч, да тых астраўскіх жанчын,

што зараз сядзелі ў хаце Івана Казея. Ад гэтых жудасных крыкаў замірала сэрца, валасы станавіліся дыба. Гаспадары хаты бачылі тое страшнае полымя, чулі смяротныя крыкі і таксама калаціліся ад страху, тупалі па хаце і гадалі ўголас, што будзе з імі. Жыхары Буковіч, Сямёнавіч прытаіліся за сценамі хат і чакалі самага горшага — уцякаць ім не было куды. Няўжо ўсіх чакае такі ж самы зыход, які напаткаў жыхароў Астраўка?

Шэсцьдзесят восем чалавек пахавалі партызаны і родзічы, калі прыйшлі ў вёску пасля ад'езду карнікаў. Убачылі яны замест хат абгарэлыя коміны, тлеючыя галавешкі. Асмаленыя каты ўсё яшчэ насіліся па пажарышчы. Чароды варання з жудасным карканнем, з шумным лопатам крылаў пералятаў з аднаго апаленага дрэва на другое і ніяк не маглі супакоіцца, наводзілі яшчэ большую жудасць. Попел і галавешкі засталіся ад прыгожай і вялікай вёскі.

Жанчыны, якія ішлі з Астраўка, аглянуліся і ўбачылі клубы дыму над вёскай, пачулі страляніну. Страшная згадка праняла сэрцы: родныя, суседзі загінулі.

«Што з намі будзе ў іхнім гарнізоне?» — падумала Ніна Вайцяховіч і запаволіла хаду. Астатнія жанчыны таксама не спяшаліся. Па адной адставалі ці даганялі адна адну, перашэптваліся. Перад самай Уздой сабраліся разам з дзецьмі. «Куды ісці? Дзе знайсці ноччу прытулак? Убачыць Булка, не будзе ратунку», — перагаворваліся жанчыны.

— Трэба да старасты воласці ісці, — прапанавала Надзея Казей. — Я ведаю, дзе ён жыве. Свой чалавек. Параіць, што нам рабіць.

Жанчыны задумаліся. Сцяпан Крупнік стаў старастам воласці, можна сказаць, выпадкова. Немцы прыехалі на луг, дзе мужчыны касілі, сабралі касцоў і сказалі, каб тыя выбіралі сабе «начальства». Мужчыны назвалі Сцяпана, як самага талковага сярод іх. Перад вайной ён працаваў у Замосці на вузкакалейцы. Так Крупнік стаў «нямецкай уладай». Акупанты патрабавалі ад яго шмат: нарыхтоўваць прадукты, збіраць падаткі, пасылаць юнакоў і дзяўчат у Германію на работы. Моладзь жа ўцякала ў лес, не хацела ехаць у Нямеччыну. Неўзабаве з'явіліся партызаны, у тых былі свае патрабаванні. Крупнік апынуўся паміж кавадлам і молатам і з сям'ёй пераехаў ва Узду, сказаў ва ўправе, што не можа выконваць свае абавязкі, бо яму пагражае расправа. Цяпер жа толькі да яго рашылі звярнуцца за парадай вяскоўцы. Сцяпан выслухаў іх і параіў пакуль што пабыць у яго хаце.

— Нельга ісці ні ва ўправу, ні ў паліцыю, — пасля цяжкага роздуму сказаў ён. — Вас або ў Германію адправяць, або расстраляюць, — і кінуў трывожлівы позірк у бок Ніны Вайцяховіч, муж якой быў партызанам.

Ніна здрыганулася ўсім целам, але не вымавіла ні слова, зразумела намёк старасты.

— І на вуліцах нельга паказвацца. Убачыць Булка — і вам будуць непрыемнасці, і мне.

— Што ж нам рабіць? — захвалявалася Ганна Нячай.

— Сядзіце ў хаце і не паказвайцеся нікому на вочы, — сказаў Сцяпан. — Праз дзень-два прыдумаем што-небудзь.

— Яды ж у нас няма ніякай. З голымі рукамі прыйшлі, — знічкавелі жанчыны. — Немцы не дазволілі нічога браць з сабой.

— Нават дакументаў ніякіх няма... Мігнуць не далі і выштурхнулі з хаты, — падхапіў нехта.

— У мяне запасы сякія-такія ёсць. Пратрымаемся некалькі дзён. З голаду не паўміраем. Карнікі доўга не затрымаюцца на месцы. Выедуць з Уз-

ды, дадому вернецеся. У лесе жыць будзеце ці ў вёсках якіх. Людзі нашы добрыя — памогуць. З гарнізона б толькі вырвацца вам.

Хаця некаторыя жанчыны раней коса паглядалі на старасту, што ўцёк у варожы гарнізон, але цяпер яго словы абрадавалі іх, пакінулі надзею на выратаванне. Галоўнае — не паказвацца на вочы знаёмаму «бобіку», не трапіць у паліцыю ці ў жандармерыю.

Непрыкметная хатка, у якой жыў староста, знаходзілася ў самым цэнтры гарнізона, амаль побач з жандармерыяй. Таму ўсе былі вельмі асцярожнымі, сядзелі за сцяной, як мышы днём за шпалерамі.

Сцяпан Крупнік стрымаў слова: двое сутак карміў іх сваімі небагатымі запасамі. На трэці дзень вярнуўся ў хату радасны і паведаміў, што карны атрад выехаў у Валяр'яны, што можна ісці дадому, хаця ведаў і ён, і ўсе, што ад іхніх хат засталіся толькі галавешкі ды папялішчы, — спалены Астравок быў да апошняй будыніны, усе 72 хаты злізала бязлітаснае полымя. Стараста правёў вяскоўцаў міма паста, і тыя накіраваліся ў вёску Кухцічы. Ніна Вайцяховіч з дачкой на руках крочыла ўслед за астатнімі. На паўдарозе іх дагнаў немец, спыніў каня каля Ніны і сказаў.

— Зітцэн, зітцэн! (Садзіся, значыцца.)

«Што ж мне рабіць?» — падумала жанчына. І страшна ёй садзіцца да немца, і рукі млеюць ад стомы. І яна са страхам села на сані. Немец давёз Ніну да Кухціч, растлумачыў ёй знакамі, што прыехаў у вёску набраць сена для каня.

— Дзякуй, — ледзь змагла вымавіць жанчына свайму ворагу і падумала, што і немцы розныя бываюць, і сярод нашых людзей вылюдкі трапляюцца.

Вайцяховіч ведала, што ў Кухцічах замужам яе аднавяскоўка Алена Макарэвіч, што жыла ў пачатку вёскі. Ніна пачакала астатніх уцекачоў і яны разам завіталі ў дом да Алены. Гаспадыня накарміла гасцей, і неўзабаве ўцекачы накіраваліся ў Сямёнавічы.

Ляжаў снег, рухацца можна было толькі па дарозе. Праз Вусу ля Сямёнавіч да вайны было тры масты. Зараз над вадой тырчэлі толькі палі — масты спалілі. Калі некалькі дзён назад і немцы, і вяскоўцы пераходзілі раку па лёдзе, пераязджала нават легкавушка, праходзілі чароды кароў з Астраўка, то цяпер, пасля адлігі, ля берагоў стаяла вада, перайсці на другі бераг можна было толькі па нешырокай кладцы. Жанчыны са страхам і войканнем адольвалі тую кладку, пераводзілі дзяцей. А Ніна з дачушкай на руках ніяк не магла асмеліцца ступіць на хісткую кладку, пад якой булькала вада. Убачылі пешаходаў два мужчыны з Сямёнавіч, падышлі да кладкі. Адзін перанёс дзяўчынку, а другі дапамог перайсці Ніне.

У Сямёнавічах зноў прыпынак. Спяшацца няма куды. Пераначавалі яны ў хаце Алеся Жука. А раніцай пакінулі Сямёнавічы, дарога на Астравок была свабоднай.

Вёска сустрэла гаротнікаў мёртвай цішынёй і жудаснай пустэчай. Яшчэ дыміліся чорныя галавешкі. Смурод ад гары еў ноздры, слёзы самі каціліся па шчоках. Колькі ж іх выплакана было і на сваіх дварах, і ля брацкай магілы. Панурыя, знясіленыя, змучаныя горам людзі разбрыліся памалу з роднай вёскі куды вочы глядзяць: хто ў лясныя зямлянкі, хто ў Падсадскія, Куль, Стальбоўшчыну, Пясочнае. Жабравалі, з торбамі хадзілі з вёскі ў вёску, жылі ў холадзе і голадзе... Але выжылі, дачакаліся вызвалення...

Вёска ўваскрэсла з попелу. На месцы гумна, дзе ў муках згарэлі вяскоўцы, стаіць помнік. Злева — чорная мемарыяльная дошка. На помніку — зварот і напамінак: «Сучаснікі і патомкі. Схіліце галовы: тут спяць вечным сном тыя, хто не стаў на калені перад ворагам».

## АКСАНА СПРЫНЧАН

*Аксана СПРЫНЧАН нарадзілася ў 1973 годзе ў Лунінцы. Скончыла БДУ і аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы. Працуе вядучым навуковым рэдактарам у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя». Друкавалася ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісах «Першацвет», «Крыніца», «Маладосць».*

# ВЫСАКОСНАЕ РАЗВІТАННЕ

* * *

Ліпа цвіце.
Прыліпаю да паветра,
пакуль пчолы
не перанеслі яго
ў свае соты.

### У КРАІНЕ РАМОНКАЎ

Імкнуся ў краіну
белых рамонкаў.
Іх жоўтыя сэрцы
каханню раскрытыя.
Іх жоўтыя сэрцы
не хаваюць разлуку.
Іх белыя крылы
лятаюць пасля варажбы,
калі вас кахаюць.
Іх белыя слёзы
льюцца
пасля варажбы,
калі кахаеце
толькі вы.

### НА ПЕРШЫМ ПАВЕРСЕ АД НЕБА

Не залятай, сняжынка,
у маё акно,
каб не чытаць пасля
ў газеце «Снежны кур'ер»:
«На трыццаць сёмым дні зімы
па дарозе да зямлі
каля акна паэткі А.
на першым паверсе
ад неба
бясследна знікла
таленавітая сняжынка —
гонар нашай зімы».

## МАЙМУ НАРОДУ

Вер мне толькі тады,
калі размаўляю
па-беларуску,
бо і сама тады
веру сабе і Табе.

На мяне спадзявайся
толькі тады,
калі размаўляю
па-беларуску,
бо і сама тады
спадзяюся на сябе і Цябе.

Любі мяне толькі тады,
калі размаўляю
па-беларуску,
бо і сама тады
люблю сябе і Цябе.

Вера, Надзея, Любоў
няхай размаўляюць заўсёды
на мове светлай зямлі,
на мове святой зямлі,
на мове свету,
у якім ёсць мы.

* * *

Гляджу на цябе
і заплюшчваю вочы
ад сонца,
і ўсё адно ведаю —
ты ўсміхаешся.
Пра гэта спяваюць птушкі
на дрэвах, якія заўсёды
самотна глядзяць у ваду
і толькі зараз шэпчуць:
«Ладдзя... ладдзя... ладдзя...
шчасця... шчасця... шчасця...»

А над намі воблака
з усмешкай Караткевіча.

* * *

У сяброўстве,
як і ў мастацтве,
застаецца вечнае.

Памятаеш,
як лёталі над намі
і жоўта-гарачымі дзьмухаўцамі
кветкі,
што нарадзіліся раней?..

* * *

А выпіць бы
келіх віна,
настоенага
на радасці...

Ды не хопіць, відаць,
жыцця,
каб паспела
перабрадзіць...

* * *

Падае восень
у сінія астры
грушамі спелымі,
лісцем стамлёным,
ценем ад выраю...

Збіраю грушы,
прыбіраю лісце,
да ценю выраю
дадаю
свой цень.

## ВЁСКА СНОЎ*

Я не была ніколі
ў вёсцы Сноў...
Была ў сусвеце, свеце,
нават леце сноў,
а ў вёсачцы маленькай не была...
А там цяпер,
нібыта ў снах вясковых,
стагуюць сена,
полюць агароды
і кветку-папараць
збіраюцца шукаць,
і вёсачка не ведае пра тое,
што мроіцца ў снах
жанчыне невядомай,
якая разбірае свае сны:
— А вось па валасах зялёных
гуляе аксамітны павучок...
Так-так, ён тчэ дарогу лёсу.
Куды?
У вёску Сноў.

## СВЕДКІ

Паміраюць грушы,
старыя
яшчэ ў маім дзяцінстве.
Смалянкі, у смалянiстай мякацi якіх
нараджаліся бурштынавыя зернейкі,
чырвоныя, што здзіўлялі
сваім нягрушавым колерам,
гнілкі, якія вучылі знаходзіць
залатую сярэдзіну.

Паміраюць
сведкі майго дзяцінства...
І хутка сама не паверу,
што яно было.

* * *

Там,
дзе мы з табою
сустрэліся,
птушкі звілі гняздо,
выкармілі птушанят
і навучылі іх лётаць...

Не заняць месца тых,
хто лётае лепей, —
развітанне высокіх лёсаў...
Высакоснае развітанне.

---

* Вёска ў Нясвіжскім раёне Мінскай вобласці.

* * *

Жоўтае лісце пад нагамі
нашэптвае
столькі светлага.
А я не магу паўтарыць...
Можа, таму,
што гэта
не мае
апошнія
словы?

* * *

Мне не бывае сумна,
ды сум ад таго,
што не бывае
неба
ў небыцці.

**АЛЕСЬ ДОЛЬСКІ**

# ДВА АПАВЯДАННІ

*У Вялікую Айчынную вайну, будучы авіямеханікам у складзе 16-й паветранай арміі, я пабываў на пяці франтах. Маю семнаццаць падзяк за вызваленне Сталінграда, Варшавы і іншых гарадоў, за ўзяцце Берліна.*

*Нядаўна стаў інвалідам 2-й групы. На медкамісіі ў мяне спыталі: «Вы былі паранены?»*

*— «Доктар, — адказаў я, — нават драпіны не было». — «Як жа вам пашанцавала... » — «Не зусім. У мяне было больш за 10 сустрэч са смерцю...»*

*У гэтых нататках — аповед пра некаторыя з іх.*

## КНІГА ВЫРАТАВАЛА

Гэта было пад Новы 1944 год, які ўсе чакалі, які набліжаўся цвёрдай, цяжкай марознай хадой.

Ад залішняй эксплуатацыі матчастка нашага палка пачала хутка зношвацца, і начальства вырашыла правесці переднавагодні агляд. Да яго былі падключаны і мы з Колькам Празаравым — лётчыкі пачалі скардзіцца на недакладнасць паказанняў прыбораў. Трэба было высветліць, хто вінаваты: прыборы або маторы (а можа, і лётчыкі).

Задача — не з лёгкіх.

У адну з непагодных начэй (палёты былі спынены з абодвух бакоў) увесь тэхсклад быў на аэрадроме, каля самалётаў. Механікі і матарысты поркаліся ў маторах; мы з Прозаравым насіліся ад аднаго самалёта да другога, правяраючы прыборы. На аэрадроме стаяў суцэльны гул матораў.

Да гадзіны ночы асноўныя работы былі закончаны, і Кольку Прозарава адпусцілі разам з механікамі. А мяне пакінулі на аэрадроме: трэба было яшчэ сёе-тое праверыць, з чым я і праваждаўся да раніцы.

І пасля сняданку мне драмануць не ўдалося: паклікалі ў штаб палка праверыць «на прадмет адукаванасці» дакументацыю, што адпраўляецца ў штаб дывізіі (акрамя «франтавой нагрузкі» па выпуску «Баявых лісткоў» была ў мяне яшчэ і такая). На гэты конт начштаба падпалкоўнік Палкачоў, не пазбаўлены досціпу, неяк заўважыў: «Не дай Бог нарадзіцца здольным да многагага». Але гэтым разам «здольны», з'явіўшыся ў штаб, хутка пачаў кляваць носам, ламаючы галаву над «тварэннямі» падпалкоўніка Палкачова, чалавека з чатырохкласнай адукацыяй. Ён жа, заўважыўшы мой стан, пажартаваў:

— Ты што? Прагуляў ноч у дзяўчат БАА?*

— Ды не, таварыш падпалкоўнік. Быў у іншых «дзяўчат», што называюцца прыборамі!

— Так-так-так-ак. Ідзі ды гадзінкі дзве, не больш, дабяры, а потым — зноў да мяне. У нас ёсць яшчэ час. Хутка наляцяць фрыцы, і табе на аэрадроме ўсё роўна не будзе чаго рабіць. Прыйдзеш — і дапрацуем што трэба.

Я пацягнуўся ў зямлянку. Лёг на нары ў спадзяванні «дабраць» адпушчаныя мне 120 хвілін. І толькі заплюшчыў вочы, пазяхнуў — фрыцы тут як тут.

Ох, ужо гэтая нямецкая бяздумная стараннасць і акуратнасць! Здавалася б, сам Гасподзь Бог загадаў вайне замерці хоць бы перад Новым годам, але з самага ранку яна зноў успыхнула. Паляцелі на нас бомбы, выючы, як галодныя шакалы. Побач з зямлянкай бухнула адна, ды так, што здрыгануліся сцены і пасыпаўся пясок на галаву і за каўнер курткі (спалі мы з-за пацукоў і холаду ў верхнім адзенні). Я ўстаў і, злуючыся на паганых фрыцаў, што не даюць спакою ні днём, ні ноччу, выйшаў. Атросся ад пяску, выцер твар снегам. Потым, паглядзеўшы, што на гэты раз утварылі немцы, спусціўся ў зямлянку і падышоў да нараў, каб зноў заваліцца на іх. Але яны падаліся мне нейкімі варожымі, непрыемнымі.

— Вось, і вы, як фрыцы... — гучна пазяхнуў і, захапіўшы кнігу Каверына «Два капітаны», выйшаў з зямлянкі. Што ж, паспаць не ўдаецца — дык хоць пачытаю. Камусьці падасца дзіўным такое жаданне пад бамбёжкай, але на фронце я навучыўся чытаць у любых умовах.

Спусціўшыся ў яр, што непадалёк ад стаянак самалётаў, сеў на пянёк і агледзеўся. На густых, магутных елках, на кожнай галіначцы і ў кожнай алмазнай сняжынцы, здавалася, звінела, кіпела жыццё. Вось ён, ідзе-наступае Новы год! Нават вайна прыціхла, пачала паступова затухаць, адступаць перад няўмольным яго шэсцем па спакутаванай зямлі.

У гэтым лірычным настроі і выцягнуў з кішэні доўгачаканы ліст ад Сімы, яшчэ не распячатаны: люблю «прадоўжыць задавальненне», а не чытаць яе споведзі на бягу. З першых жа радкоў Сіма, радасная і ўзбуджаная ад навагодняй весялосці, закружылася ў віхуры вальса, як гэтыя буйныя сняжынкі, што паволі і ўрачыста падалі вакол пянька. «Каралева танга» зноў пацягнула мяне ў круг. Грацыёзна паклаўшы руку на маё плячо, з зіхоткай ад шчасця ўсмешкай зрабіла крок і...

І зноў з дзікунскім выццём і свістам паляцелі бомбы, грукнуўшыся каля зямлянкі...

Сіма павіншавала мяне з Новым годам і пажадала хутчэй вярнуцца да яе. Прачытаўшы гэтыя радкі, я ўспомніў маму: яна, відаць, засталася ў акупаванай Беларусі, бо ад яе няма ніякіх звестак.

Узяўшы кавалак паперы і агрызак алоўка з нагруднай кішэні (рэшткі пасля выпуску «Баявога лістка»), пачаў драпаць: «Дарагая Сіма! Віншую і цябе з Новым годам! Жадаю...». У канцы ліста пасля ваганняў усё ж дапісаў, каб у выпадку чаго ведала: «Нас акружаюць немцы. Чуваць гарматная кананада справа і злева ад аэрадрома...».

І зноў пачуўся характэрны гук-выццё: «ю-у-ю-у-ую-юу-у». Хутка каля нашай зямлянкі пачуўся страшэнны грукат. Бомбы рванулі так, што камякі мёрзлай зямлі і трэскі феерверкам узняліся над дрэвамі, а потым, як іскры

* БАА — батальён аэрадромнага абслугоўвання.

ад навагодніх ракет, пачалі падаць вакол майго пянька. Давялося нават стаць пад густую яліну.

Але вось налёт фрыцаў спыніўся, і я зноў сеў на пянёк. Кнігу схаваў, каб чарговы «феерверк» з камякоў зямлі не папсаваў яе старонкі. Яна, адзіная, была тады вельмі дарагая. Заплюшчыў вочы. Асалодай разлілася дрымота... Пачуў, як хтосьці паклікаў: «Алесь! Алесь!»

Мне падалося: кліча капітан са старонак кнігі. Расплюшчыўшы вочы, выняў яе з-за пазухі і пачаў гартаць, каб знайсці капітана, які мяне кліча. «Ага, вось ён!» — знайшоў патрэбную старонку і пачаў перачытваць яе.

Але хтосьці, па-за кнігай, зноў паклікаў: «Але-есь!» і, дакрануўшыся да майго пляча, усклікнуў: «Ты жывы?»

— А чаму павінен быць мёртвым? — у сваю чаргу спытаўся я ў капітана з кнігі, якую чытаў. І тут да мяне пачаў даходзіць сэнс размовы. Выявілася, гэта ніякі не капітан, а Колька, мой сябар. У нейкім асаблівым стане паміж явай і сном я пачуў ад яго, быццам... загінуў у зямлянцы, якой ужо няма...

— Якой зямлянкі няма? — прыўзняўся я з пянька. — Ты чаго тут? — не верылася мне ў з'яўленне Колькі ў яры. — А не там? — паказаў вачамі ўверх, на аэрадром.

— Дзе там? — глядзеў на мяне сябар як на ненармальнага, вырашыўшы, што са мной «таго» ад узмоцненай бамбёжкі. — Там няма зямлянкі.

— Ты зноў пра зямлянку! Нешта сёння з табой «не тое»...

— Прапала наша зямлянка, — працягваў пераконваць мяне сябар.

— Як прапала? Уцякла, ці што?

— Разбамбіла яе. Цяпер — дайшло?

— Я-як? Я ж толькі што быў у ёй.

— Там, брат, такая варонка, што і «Дуглас» улезе. Пашанцавала табе. Відаць, бухнула «аднатонка», не менш.

Раптоўна адчуў слабасць у нагах:

— Давай пасядзім. Зробім памінкі па маім ценю.

І я апусціўся на пянёк, які стаў маім выратавальнікам і сябрам. Гэта ж ён пацягнуў мяне (разам з кнігай) з зямлянкі, каб выратаваць ад пагібелі.

## ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

Усё наўкола радавалася, святкавала, трыумфавала. А мы стаялі ў шарэнзе — і плакалі...

Яшчэ ніхто гэтага Дня не ведаў, ішла падрыхтоўка да чарговага дня вайны, як раптам тэхнары, пакінуўшы свае самалёты, замітусіліся і, выціраючы па звычцы рукі ветахам, імкліва падаліся туды, дзе спыніўся пасыльны са штаба. Ён, урачыста ўскінуўшы руку ўверх, абвясціў: «Хлопцы! Сябры! Канец вайне! Перамога! Ура!»

— Ура-а-а! — загрымела вакол у адказ.

Калі я падбег да натоўпу, пасыльны гучна перадаў загад: «Дольскі, хутчэй у штаб да камісара!» — і растаў сярод узбуджаных тэхнароў, якія ўпершыню за вайну забыліся на свае самалёты.

«Навошта я спатрэбіўся? Ды яшчэ ў такі дзень?» — падумаў з трывогай. Але загад ёсць загад, і я на ўсю моц пабег да штаба.

Камісар гэтым разам быў гранічна сціслы: «Давай, брат, тэрмінова да пармаўцаў і закажы сцяг. Вось табе палатно».

Падхапіўшы палотнішча, я паімчаў у ПАРМ (палявыя авіярамонтныя майстэрні). Ускочыўшы ў вагон-майстэрню, замёр у здзіўленні: ніколі не бачыў, каб пармаўцы моўчкі сядзелі за сталом і без справы. Гэта былі сур'ёзныя, вясёлыя хлопцы-ўкраінцы: і цудоўныя майстры сваёй справы, і спевакі выдатныя, якіх усе паважалі. Асабліва я, калі падыгрываў ім на гітары, а яны спявалі свае задушэўныя ўкраінскія песні. Аднак гэтым разам яны моўчкі сядзелі за сталом з алюмініевымі кубкамі, напоўненымі спіртам.

— Сядай. Вып'ем за Перамогу, — прапанаваў Кіцук. А Луцэнка хуценька вынес з бакоўкі гітару. Я сумеўся, паглядзеўшы на чырвоную матэрыю, заціснутую ў руцэ.

— Дзякую, сябры, але вось... — працягнуў яе Кіцуку. — Трэба тэрмінова змайстраваць сцяг Перамогі і дрэўка да палкавога сцяга: яго пад бамбёжкай пабіла.

— Зробім, — запэўніў Кіцук і паглядзеў на мяне неяк адчужана.

— Ды ты прысядзь на хвілінку, хоць прыгубі, — падаў кубак Луцэнка.

Я ўзяў кубак і паднёс да рота. З яго патыхнула непрыемным... Паставіў, папрасіў прабачэння:

— І гэта не магу, сябры.

— Шчо ж так? — здзівіўся Кіцук.

— Трэба бегчы да камісара. Загадаў аддаць матэрыю вам — і тэрмінова назад. Раптам з'яўлюся, і ад мяне пахне спіртным? Падвяду вас, і сабе зараблю гаўптвахту ў такі дзень.

Выскачыўшы з майстэрні, я пасляшаўся ў штаб.

— Аддаў тканіну? — сустрэў мяне камісар.

— Так точна!

— А цяпер давай, брат, падумай, як лепш аформіць трыбуну.

Калі ж падрыхтоўка для пастраення асабовага саставу палка была закончана і хлопцы, зняўшы звыклыя, зашмальцаваныя камбінезоны, памаладзелі да непазнавальнасці і папрыгажэлі, камісар паслаў па сцяг, загадаўшы: «Нясі яго адразу на ўзлётную паласу — там будзе пастраенне».

Я куляй паляцеў у ПАРМ і, ускочыўшы ў вагончык са словамі «Хлопцы, давайце...», асекся: яны сядзелі ў тых жа паставах, апусціўшы галовы да алюмініевых кубкаў. Паснулі?

Узяўшы сцяг, што стаяў побач са столікам, я на дыбачках выйшаў.

— Ты запрасіў пармаўцаў на ўрачыстасць? — спытаў камісар, забраўшы ў мяне сцяг.

— Не.

— Чаму?

— Не было на тое ўказання.

— Тады бяжы і запрасі, падзякуем ім за добрую работу.

Я зноў, у трэці ўжо раз, паімчаў у ПАРМ: да пастраення заставаліся лічаныя хвіліны.

Уляцеўшы ў капцёрку, залапатаў проста ад парога:

— Хлопцы, давайце хутчэй на ўзлётную паласу! Будзе пастраенне ў гонар Перамогі!

Але пармаўцы... і вухам не павялі. Яны па-ранейшаму сядзелі нерухома і ў тых жа паставах.

— Вы што, паснулі? — і я страсянуў за віхрасты чуб Кіцука. — Тарас, прачніся!

Зазірнуў яму ў вочы. Але яны, шкляныя і застылыя, нічога не адлюстроўвалі.

Мільганула жудасная здагадка.

— А-а-а! — вырваўся ў мяне стогн. Схапіўшыся за галаву, я куляй вылецеў за дзверы і што ёсць моцы пабег у штаб.

Тэрмінова быў выкліканы ваенурач, які ўстанавіў дыягназ: пармаўцы выпілі атручаны спірт. Потым, пасля ўрачыстасцей, высветлілася, як ён да іх трапіў.

...Мы стаялі ў шарэнзе, апусціўшы галовы. Па тварах цяклі скупыя мужчынскія слёзы. Асабліва — у мяне.

А ў галаве звінела ўкраінская песня, якую задушэўна спявалі яны, нашы баявыя сябры, што так недарэчна загінулі: «Дывлюсь я на нэбо, та й думку гадаю...»

Тады, на магіле франтавых сяброў, я даў сабе слова: у рот не браць спіртнога. І прытрымліваўся гэтага правіла многія гады.



## ІВАН СМІРНОЎ

# ПАЭТ З КРАЮ РАНАСТАЯ

З усяго багацця перш-наперш чалавек багаты сябрамі. Дружба дапамагае жыць і працаваць. Каму не прыемна, напрыклад, што недзе ў далёкім краі цябе помняць і паважаюць.

Такім чалавекам бачыцца мне яраслаўскі паэт Іван Смірноў.

Іван Аляксеевіч нарадзіўся 20 студзеня 1921 года ў Пашахонскім раёне Яраслаўскай вобласці. Той вобласці, дзе і мне ў свой час давялося служыць (г.Пераслаўль-Залескі, легендарнае з пятроўскіх часоў Пляшчэева возера; на зямлі някрасаўскай Карабіхі, дзе пашчасціла пабываць), і... на зямлі Максіма Багдановіча.

Вось што згадвае, да якой думкі прыходзіць Іван Смірноў, разважаючы пра Максіма Багдановіча: «Мне, сённяшняму жыхару старажытнага волжскага горада, цікава, як нашы мясціны ўвайшлі ў творы Багдановіча. У вершы «На чужыне» паэт новае месца жыхарства лічыць гасцінным. Ды ці толькі для аднаго беларуса Багдановіча яраслаўская зямля аказалася такой? — пытае Іван Аляксеевіч у адной з даследчых работ, прысвечаных нашаму класіку, і дадае: — Успомнім Церашковых».

З 1964 па 1981 год Іван Смірноў быў адказным сакратаром Яраслаўскай абласной пісьменніцкай арганізацыі. Менавіта тады арганізоўваўся і будаваўся музей Максіма Багдановіча ў горадзе на Волзе. Але дадзім яшчэ раз слова Івану Аляксеевічу, паэту, перакладчыку, даследчыку і публіцысту. Тут ён зноў гаворыць аб пабрацімстве.

«У снежні 1981 года мне пашчасціла ўдзельнічаць у святкаванні з нагоды дзевяностагоддзя з дня нараджэння паэта і адкрыцця помніка яму ў Мінску. З хваляваннем ехаў я ў сталіцу Беларусі: бо раней чым трапіць на гэтыя ўрачыстасці, я прайшоў дарогамі вайны на 3-м Беларускім і 1-м Беларускім франтах, адкуль прывёз медалі «За ўзяцце Кёнігсберга», «За ўзяцце Берліна», «За адвагу», прывёз глыбокую павагу да беларуса, вялікага працаўніка, воіна, партызана.

Нашай 20-й зенітна-артылерыйскай дывізіі РГК за ўдзел у баях у Беларусі і Літве было прысвоена званне Нёманскай.

Юбілейны вечар адбыўся і ў Маскве, у Цэнтральным Доме літаратараў. На вечар Максіма Багдановіча прыйшла Валянціна Церашкова. Ягор Ісаеў, які старшынстваваў на вечары, запрасіў яе ў прэзідыум. І калі далі слова мне, само сабой я сказаў пра яе беларускія карані.

Падумалася: многія рускія паэты перакладалі Максіма Багдановіча, але яраслаўцаў сярод іх не аказалася... Напісаў я пісьмо выдатнаму беларускаму паэту Івану Муравейку з просьбай прыслаць некалькі даслоўных перакладаў (падрадкоўнікаў) Багдановіча. Ён прыслаў дзесяць. Працуючы над імі, я нібы адчуваў прысутнасць паэта.

У яраслаўцаў з беларусамі заўсёды была сардэчная дружба. Асабліва адказная яна цяпер. Мацаваць яе прызвана і паэтычнае слова».

Беларуская прыказка сцвярджае: што вінен, аддаць павінен. А таму ўзяў я вершы Івана Смірнова ў свайго старэйшага таварыша па пяры і земляка Івана Муравейкі, пераклаў і прапаную ўвазе шаноўных чытачоў.

*Уладзімір ПАЎЛАЎ*

## РАНАСТАЙ

— Добры дзень, ранастай! —
Мой сусед усміхнуўся прыветна, —
Раней сонца ўстаеш,
Запаляеш настольную лямпу
І чаканіш свой крок —
Бачна, клопатна рыфмы шукаеш.
Праца то не па мне, —
Белы верш я гукаю на помач.

Дзіўна так гаварыў!
Не забыць гэтай ранішняй сцэны:
Ён мяне адарыў
Нечаканасцю — словам
бясцэнным.

Ранастай! Ранастай!
Не прыдумаеш слова спрасоння,
Колькі кніг ні гартай...
Зазірні лепш у спрат Пашахоння.

Там прыстанку няма
Працалюбу у клопатах цяжкіх.
Не раняе дарма
Па-пустому ён слоў паўнаважкіх.

Ранастай. Ранастай,
Слова з сэрца і вуснаў рупліўца,
Ты і далей крыляй,
Каб усцешыць зноў недзе шчасліўца.

## ГАРТАЮЧЫ КНІГУ ПАМЯЦІ

Над маёй анкетаю сядзеў
Канцылярычык, бы ва ўсім галоўны.
«Пашахонец», — вымавіў зламоўна
І высакамерна паглядзеў.

Абывацель не ўяўляў такога,
Што, не знаўшы, пахвалу сказаў:
Пашахонцам графа Льва Талстога
Салтыкоў-Шчадрын, бывала, зваў.

Не шукаў ён аніякай ласкі,
Калі ў слове гэтак учыніў[1].
Абышоў яго ўсё ж Беразайсі[2]:
Глухаманцаў першым ачарніў.

Анекдотчык выдумляў фартова,
Метаду яго не прытаю:
Казачку пра шчупака ў Чулкова[3]
Вывудзіў і выдаў за сваю.

Падхапіў азартна эстафету
Знаны валагодзец В. Бялоў:
Зноўку абсмяяў акругу гэту,
Байку ўнёс у выдавецкі ўлоў.

Перастаньце, пашахонафобы
І хвалілы вашы заадно:
Зло і гумар — розныя хваробы —
Чалавеку й простаму відно.

---

[1] М. Салтыкоў-Шчадрын — «Пашахонскія апавяданні».
[2] М. Беразайскі — «Анекдоты, або Вясёлыя прыгоды старадаўніх пашахонцаў» (1798).
[3] М.Чулкоў (1748—1792), аўтар «Каштоўнага шчупака».

Ах, як вы стараліся шыкоўна
Некультурнасць выжыць гізуном.
Жыхароў Шахоні пагалоўна
Білі сатырычным бізуном.

Гледзіцё нядобрымі вачыма,
І пагарда ўсюды, што ні крок.
Але ж тут, напраўду, немагчыма,
Новай журналістыкі выток.

Некалі ў Суханаве аматар,
Той, што меў дзяржаўны п'едэстал,
Лепшы яраслаўскі губернатар
Правінцыйны часапіс звярстаў[1].

Хай загадка тайнаю не стружа —
Стаў вядомы факт яшчэ адзін:
Псеўданім Ульянава — адсюль жа:
Ленін — пашахонскі дваранін[2].

У мінулым нельга памыліцца.
Памяць гаваркая, што агонь:
Падарыла ўсім імператрыца
Нам імя святое — Пашахонь![3]

А лаўцы налімаў ды чахоні
Літарку дабавілі, і вот
Горад назаўжды стаў —
Пашахонне —
Між лясоў дрымучых і балот.

Мой народ ні слоўка
не скалечыць:
Каго хочаш, зможа падкаваць.
Можа нават Пушкіна
палепшыць,
А цароў наогул скасаваць.

Пашахонне, параднён я кроўю,
Вартае само высокіх слоў.
Прад табой схіляюся з любоўю,
Адмятаю ад цябе зласлоўе —
Пашахонафіл
Іван Смірноў.

## МЯДЗВЕДЖЫ КУТ

Надта размаітыя суседзі
Выцвердзілі, хоць прымоўкнуць змусь:
Русічы — хрышчоныя мядзведзі,
Што жывуць у цёмным царстве Русь.

Гэткае й не вызначыш адразу —
Глупства ці чыясьці слепата?
Чэсна — дык не цягне й на абразу.
Проста: несусветная лухта.

Іх прысуд, нібыта незалежны,
Час ад часу хрыпатой сіпіць:
Пашахонскі край — Куток Мядзведжы,
Дзе без стрэльбы й кроку не ступіць.

Стрэльбы культ адкіньце. Тут прынята
У мядзведзя, зайца і лісы
Прызнаваць надзейным інтэрнатам
Нашы пашахонскія лясы.

---

[1] Суханава — пашахонскі маёнтак А.П. Мельгунова (1722—1788), яраслаўскага генерал-губернатара, звязаны са стварэннем першага рускага правінцыйнага часапіса «Самотны пашахонец» (1786).

[2] Мікалай Ягоравіч Ленін, пашахонскі дваранін.

[3] З указа Кацярыны II ад 3 жніўня 1777 г.: «...вёску Пяртому пераіменаваць, назваўшы оную горадам Пашахонь».

Над звяр'ём — зялёнае бязмежжа —
Логава спакойна выбірай!
Добра, што існуе Кут Мядзведжы,
Дабрадушны Пашахонскі край!

Добра: яшчэ ёсць на белым свеце
Той прыют, дзе жыць усім даюць.
Дзе вольналюбівыя мядзведзі
Па мядзведжых правілах жывуць.

## ЛЯ ВЫТОКУ

Па-чорнаму прыпек курыўся.
Падлога — з халоднай зямлі.
Хоць я ў такой хаце радзіўся,
А сёння нялёгка ўявіць.

Сягоння пад сонцам іскрыстым
Стаю ля вытоку свайго.
Цямнее курган травяністы
На месцы дзяцінства майго.

Злучыліся ўзорныя кроны
У вязаў, што вырасціў дзед...
Пакінуў ён помнік зялёны —
Не вечны, а ўсё-такі след.

Мой дзед, мукамольствам
хрышчоны,
З сініцай удачы ў руцэ
Здаваўся прыкметнай персонай
На Кештаме, сціплай рацэ.

Нядарма бязвоблачным самым
Узрост называюць грудны.
Дзяцінства правёў я без мамы,
А той, што бязвоблачны самы,
Напраўду былі мы адны.

Пустэча... Няма з кім сустрэцца.
Звятрыліся й млына сляды.
Ды кліча бяссоннае сэрца
На споведзь прыходзіць сюды.

Шумяць асакою затокі.
Цяплынь. Прытамляюць гады.
Мінулася шмат.
Да вытоку
У роздуме крочу заўжды.

## ПЫТАННЕ

Чахвосціць расіянін Русь
За неахайнасць і дрымоту,
За бесталаннасць і ляноту,
За ўсё, што й выказаць не мусь.

Ды я пытаю з даўніх пор:
Дзе хто яго мазгамі правіць,
І шапяляе і картавіць,
Ды паглядае за бугор?

## ХІБА ШТО...

Не дарос да пірага арцельнага
Свет, што кожным разам на мялі...
Хіба немцы, верыўшыя ў Тэльмана,
На разбой за Гітлерам не йшлі?

Вера ў ідэалы абясцэнена.
Будучыня — ці туман, ці дым...
Хіба Русь, што ўверавала ў Леніна,
Не пайшла за Ельцыным затым?

Можна адамашніць воўка шэрага —
Не забегчы лёсу напярод!
Русь мая, ў што ж засталося вераваць,
Як не ў твой зняверany народ?!

*Пераклад з рускай*
*У. ПАЎЛАВА.*



МІКОЛА ІМШАНЕЦКІ

# МАЯ БЕЛАРУСЬ, або МАЦЯРЫК З СЭРЦАМ МАЦІ

*Мікола Іванавіч Імшанецкі сёння жыве далёка ад роднай зямлі, у Кыргызскай Рэспубліцы. Нарадзіўся і вырас ён у Беларусі. У трохгадовым узросце застаўся сіратою. Маці памерла і пахавана ў Віцебску, але калі паэт праз гады вярнуўся ў гэты горад, каб адшукаць яе магілу, то не змог гэтага зрабіць: на месцы былых могілак стаялі забудовы. Беларусь, як мілая сэрцу Радзіма, злілася ў яго творчасці з вобразам маці. Для паэта родная зямля стала мацерыком, у якім сэрца ягонай маці, мацерыком, які ўсё жыццё ўяўляецца яму самым шчаслівым месцам на планеце. Тэма Беларусі праходзіць праз усю яго творчасць.*

*У гады Вялікай Айчыннай вайны Мікола Імшанецкі вызваляў Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і, як ён сам прызнаецца ў вершах, «тут я двойчы са смерцю братаўся». Узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, ордэнам Айчыннай вайны I ступені, медалямі «За адвагу», «За абарону Севастопаля», «За абарону Ленінграда», «За ўзяцце Берліна», «За баявыя заслугі», «За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне» і іншымі, а таксама памятнымі знакамі і дзвюма замежнымі ўзнагародамі.*

*Мікола Імшанецкі — член Саюза пісьменнікаў СССР і Кіргізіі. Заслужаны дзеяч культуры Кыргызскай Рэспублікі. За шматгадовы ўдзел ва ўмацаванні беларуска-кыргызскай дружбы, за гісторыка-патрыятычную, літаратурную і публіцыстычную дзейнасць, скіраваную на папулярызацыю беларускай культуры і дзяржаўнасці, быў узнагароджаны Ганаровай граматай Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь.*

*Мікола Імшанецкі — дастойны сын свайго народа. Яго паэзія — дар і шчырая даніна любові роднай Беларусі.*

## ЗВАНЫ ХАТЫНІ

Іх звон чуцён далёка,
бы ў пустыні.
Ён — вечны.
Ён жыве ў табе і мне.
Звіняць званы няўцешнае Хатыні,
Той звон —
Праклён найжудаснай вайне.

Яны вайне вызвоньваюць хаўтуры
І заклікаюць нас:
«Рады шчыльней!
Трымайце пад прыцэлам самадураў,
Якія зноўку мараць аб вайне.

Маньякам тым скруціце моцна рукі,
Іначай свет абрынецца ў імглу!..»
Па ўсёй зямлі плывуць Хатыні гукі
Пратэстам войнам, смерці, злу.

Плывуць па нівах,
Па гарах гарбатых,
Па шумных рэках
І густых лясах.
Званы гудуць нясцішаным набатам,
Трывога ў іхніх горкіх галасах...

Мацней за рукі возьмемся, зямляне, —
Гарачыя і дужыя яны, —
Хай захлынуцца ў злобы акіяне
Забойцы і зачыншчыкі вайны!

## Я ІДУ ПА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ

Я дарогаю крочу не вузкай —
Светлым шляхам праз долы, палі.
Я іду па зямлі беларускай,
Легендарнай і любай зямлі.

Гора, болю спазнана нямала,
Колькі слёз тут праліта ў журбе...
Ты стрымала віхуры металу,
Кроў сыноў увабрала ў сябе.

Кожны трэці палёг за свабоду,
За Радзіму — на ратных палях...
Беларускаму славіцца роду
І дзяржаве квітнець у вяках!

## НА ВУЛІЦЫ ШЫРОКАЙ

На вуліцы Шырокай — дом фамільны,
Ён пераржыў і век, і шмат падзей.
Тут быў калісьці лагер перасыльны,
Дзе забівалі, мучылі людзей.

Прывозілі байцоў і патрыётаў
У лагер
з партызанскіх гордых зон.
Тут Гітлера назвала ідыётам
Разалія Захараўна Фрыдзон*.

Падпольшчыкаў дапытвалі, і морам
Марыў фашысцкі злыдзень-камендант.
Без следства, без суда, без прыгавораў
Этапам іх ссылалі ў «фатэрлянд».

А ў Калдычэве колькіх пагубілі —
Яны геройскай смерцю паляглі.
І ў Масюкоўшчыне стралялі і палілі...
Мне сэрца поўніць вечны боль зямлі!

## Я ХАЧУ ВЯРНУЦЦА ДАМОЎ

З кожным годам мацней сум трывушчы
Па Айчыне,
святлыні бяроз...
Сніцца мне Налібоцкая пушча
І зямля, на якой я узрос.

Сняцца родныя долы, дубровы —
Прахалоды зялёны шацёр,
І рачулкі здзіўлёныя бровы,
І блакітныя вочы азёр.

У цвіценні лугі-небасхілы.
А крыніц зорных памяць са мной,
І буслiны палёт белакрылы
Над ракой майго лёсу — Дзвіной.

Тут са смерцю я двойчы братаўся,
Ды вярнуўся з-за чорнай мяжы.
Беларус — ён жывучы!
Застаўся
Я таксама на свеце пажыць.

---

* Мінская падпольшчыца, якая ў час другой сусветнай вайны была ў Францыі камандзірам жаночага партызанскага атрада — «Радзіма».

Ды закінулі буры эпохі
Ў край вятроў і скалістых хрыбтоў.
Мурагамі ўрастаюць дарогі,
Па якіх мне вяртацца дамоў.

Нада мною таполі, як варта:
«Чуйна будзем твой сон берагчы...»
«На Радзіму вярнуцца б!» —
упарта
Я шапчу.
Мне ў адказ:
«Не крычы...»

Я ж пярэчу таполям, як лёсу,
З ветрам горным спрачаюся я:
«З вамі век мне пражыць давялося,
А спачыць кліча маці-зямля...»

### НЕ ВЕРЫЦЦА

Не верыцца,
не верыцца,
не верыцца,
Што мару спраўдзіла жыццё маю...
Асенняя лісцвяная мяцеліца,
Цябе я па дыханні пазнаю.

Па Мінску ты гуляеш важнай паваю,
Зрабіўся горад светлым, залатым.
Не толькі лісце —
ліпы кучаравыя
Віхурацца ўжо ў танцы агнявым.

Ад розгулу вясёлага, шматзвоннага
Закружыць і мяне ў той старане!
Як цуд — салюты золата чырвонага
Па Нёману плывуць і па Дзвіне....

* * *

Мне кажуць:
Усяму свой час,
Але, даруйце, я не згодны.
Душы гарэнне — без прыўкрас.
Мой свет прыгожы і нязводны.
Хто тайну вечнасці спасціг?
Бязмежны свет і неадбымны!
Жыццё ёсць міг.
Цудоўны міг!
І я жыццю складаю гімны.

***Прадмова і пераклад з рускай Алы КАНАПЕЛЬКІ.***

ЛАРЫСА КАРОТКАЯ

# ГОНАР І БОЛЬ

Подзвіг нашай літаратуры перыяду Вялікай Айчыннай вайны прызнаны шырокай грамадскасцю, высока ацэнены і грунтоўна даследаваны літаратуразнаўствам і крытыкай.

Значна менш вядома пра баявыя подзвігі беларускіх пісьменнікаў. Праўда, у розных даведніках даюцца звесткі аб удзеле таго ці іншага пісьменніка ў Вялікай Айчыннай вайне, але агульнага малюнка яны, канешне, стварыць не могуць. Не спадзяюся на тое, што дасягну гэтай мэты, і я, але, магчыма, мае назіранні і падлікі хоць трошкі наблізяць да яе.

Думка падзяліцца з чытачамі сваімі перажываннямі прыйшла знянацку, турбавала, патрабуючы рэалізацыі. Аднойчы, калі мне спатрэбілася штосьці ўдакладніць з бібліяграфіі пра Янку Купалу, я зняла з паліцы трэці том біябібліяграфічнага даведніка «Беларускія пісьменнікі». Том разгарнуўся на сто сорак першай старонцы, і нешта, хутчэй за ўсё прыгожы валявы твар пісьменніка на фотаздымку, прымусіў мяне затрымацца. Чытаю: *«Капусцін Аляксандр Пятровіч... Нарадзіўся 12.II.1924... У чэрвені 1942 А. Капусцін арганізаваў і ўзначаліў у роднай вёсцы камсамольска-маладзёжную падпольную групу. З красавіка 1943 у партызанах, з лістапада таго ж года на фронце. Быў кантужаны і тройчы паранены...»* Так, смерць цікавала за ім, але яму суджана было ад яе адбіцца. А вось бацька яго, Пётр Мікалаевіч Капусцін, які да вайны быў брыгадзірам у адным з калгасаў Жлобінскага раёна, у ліпені 1944-га загінуў на фронце. Так цесна пераплецена ў жыцці юнака гераічнае і трагічнае. Апошняга нават замнога для дзевятнаццацігадовага хлопца.

І захацелася даведацца пра іншых пісьменнікаў. Бяру першы том. Разгарнула, чытаю: Брыль Янка *«з моманту нападу фашысцкай Германіі на Польшчу (1. IX. 1939) удзельнічаў у абарончых баях супраць гітлераўскіх агрэсараў на паўвостраве Вэстэрплягэ. У выніку капітуляцыі польскіх войск трапіў у палон. Знаходзячыся ў лагеры для палонных у Памераніі (Статгард), потым у Баварыі (Вайдэн), прымусова працаваў рознарабочым у гуце крышталёвага шкла, дзе прымаў удзел у акцыі палонных беларусаў за вяртанне на вызваленую Чырвонай Арміяй радзіму, праводзіў асветную і палітыка-растлумачальную работу сярод землякоў. Пасля нападу гітлераўскай Германіі на СССР ён з двума сябрамі ўцёк з палону на радзіму. Пазней у сваіх аповесцях «Ты мой найлепшы сябра», «Сонца праз хмары», «Жывое і гніль» выкрываў нялюдскую сутнасць фашызму, супрацьпастаўляў яму гуманную філасофію суіснавання людзей і народаў. Яму ўдалося наладзіць сувязь з мясцовымі антыфашыстамі, з партызанскай групай Ц. Дуднікава, з разведкай партызанскіх брыгад імя Жукава і «Камсамолец». У сакавіку 1944 разам з маці і братамі пайшоў у партызаны. Быў разведчыкам брыгады «Камсамолец», удзельнічаў у баях, супрацоўнічаў у газ. «Сцяг свабоды», органе Мірскага падпольнага РК КП(б)Б, наладзіў выданне пры гэтай газеце са-*

*тырычнага лістка «Партызанскае жыгала», дзе надрукаваў свае вершы ... і фельетоны...»*

Уражвае выключная мэтаімкнёнасць, цвёрдасць пазіцыі і сіла волі тады яшчэ зусім маладога пісьменніка-грамадзяніна. Я адгарнула старонкі назад і стала паслядоўна (Авечкін Аляксандр, Агіевіч Уладзімір і г.д., і г.д.) чытаць пра кожнага пісьменніка — удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, не аддзяляючы ад тых, хто неяк яшчэ да пачатку вайны заявіў пра сябе ў літаратуры, тых, каму ўжо пасля Перамогі было наканавана пісаць і ўзбагачаць летапіс эпохі. Перад маім унутраным зрокам паўставалі людзі вышэйшай пробы, унутрана цэльныя, якія рабілі тое, што трэба, часта без устаноўкі, не засяроджваючыся на тым жыць ім ці памерці. Любоў да радзімы, вернасць сваім ідэалам былі неад'емнай часткай іх духоўнага жыцця. Пачуццё высокай грамадзянскай адказнасці валодала ўсімі: і старэйшымі, і юнакамі, і падлеткамі, і нават дзецьмі. Так, адзінаццацігадовы Уладзімір Караткевіч, які воляй лёсу некаторы час быў адарваны ад сям'і і жыў у інтэрнаце пад Уралам, некалькі разоў уцякаў на фронт. Яго затрымлівалі і, вядома, вярталі назад. У свае 13 гадоў Валянцін Тарас быў у партызанскім атрадзе. Пятнаццацігадовы партызан-падрыўнік брыгады асобага прызначэння Пётр Лісіцын прайшоў па варожых тылах больш за чатыры тысячы кіламетраў.

У ваенкаматы спяшаліся не толькі прызыўнікі. Спяшаліся, дамагаліся прызыву вызваленыя ад яго па узросце, па хваробе. Юрый Багушэвіч адмовіўся ад «брані», быў пад Вялікімі Лукамі паранены і кантужаны, працаваў потым ваенным карэспандэнтам, дайшоў з арміяй да Берліна.

На фронт ірваліся і незаслужана пакрыўджаныя ўладай, тыя, каму пад час вайны ўдалося так ці інакш вырвацца з учэпістых лап ДПУ. Змітрок Астапенка ўцёк з лагера на пачатку вайны, далучыўся да арміі і, праваяваўшы супраць фашыстаў амаль чатыры гады, у 1944-м загінуў у Карпатах. Магчыма, смерць пазбавіла яго ад новага арышту, як гэта здарылася з Рыгорам Бярозкіным, якога разгублены канвой проста адпусціў. Р. Бярозкін ваяваў пад Сталінградам, пад Кіевам, у Карпатах. Узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны II ступені, Чырвонай Зоркі і медалямі. Тым не менш у 1950 годзе яго паўторна арыштавалі і асудзілі на 10 гадоў. У 1955 года Бярозкін быў вызвалены і толькі ў 1956 канчаткова рэабілітаваны. Васілю Хомчанку давялося жыць пад страхам выкрыцця аж да 1969 года. У 1937-м ён, студэнт 4-га курса БДУ, быў беспадстаўна арыштаваны і асуджаны на чатыры гады пазбаўлення волі. Адбыўшы гэты тэрмін, у 1941 ён быў ужо у арміі, але ўтойваў сваю судзімасць. Праўда, яму шанцавала. Вучыўся ў Буйнакскім ваенна-пяхотным вучылішчы, потым камандаваў мінамётным узводам, удзельнічаў у вызваленні Румыніі, Венгрыі, Югаславіі, Аўстрыі. У 1947 годзе яму ўдалося паступіць і ў 1951-м скончыць Ваенна-юрыдычную акадэмію ў Маскве. У арміі служыў да снежня 1968-га. Рэабілітаваны ў 1969-м. Гэтыя прыклады сведчаць аб тым, як годна паводзіла сябе тая частка беларускай інтэлігенцыі, якая па той ці іншай прычыне не была вынішчана ў 37-38-я гады.

Фронт пасунуўся на ўсход, але на акупаванай тэрыторыі ворагі не адчувалі сябе спакойна. Вайна была і тут. У гарадах, сёлах, мястэчках узнікалі падпольныя групы, беларускія лясы засяляліся партызанамі. І ляцелі пад адхон варожыя цягнікі, узрываліся аўтамашыны, масты, прадпрыемствы, перадаваліся за лінію фронту важныя звесткі, здабытыя разведчыкамі.

...Валянцін Таўлай, сувязны атрада імя Катоўскага Баранавіцкага злучэння, кіраваў навагрудскай сеткай спецгрупы «Буравеснік». Па заданні партызан перамясціўся ў Навагрудак і ўладкаваўся на службу ў абласную ўправу Беларускай самапомачы загадчыкам аддзела культуры. У верасні 1943 года, вяртаючыся з Вільні, зайшоў пераначаваць да бацькі. Там ён разам з бацькам, мачыхай і сястрой быў арыштаваны. Віленскім сябрам-паэтам удалося дапамагчы Таўлаю вызваліцца з турмы. Бацькоў адправілі ў Асвенцім, дзе яны і загінулі.

Яўген Крамко стварыў маладзёжную падпольную арганізацыю, на аснове якой у жніўні 1942 года фарміруецца партызанскі атрад. Крамко быў камандзірам роты, пазней — намеснікам камандзіра брыгады па разведцы.

Яўген Курто быў членам дыверсійнай групы ў г. п. Беразіно, потым партызанам атрада імя Жукава брыгады «Штурмавая». У час апошняй блакады цяжка паранены.

Уладзімір Ляўданскі быў сувязным, потым партызанам, з сакавіка 1943-га камісар атрада «Полымя» і рэдактар газеты «Партызан Беларусі».

Уладзімір Карпаў — падпольшчык, потым партызан-разведчык, намеснік камандзіра спецгрупы Мінскага абкама КПБ.

Мікола Садковіч штабам партызанскага руху двойчы засылаўся з кінагрупай у варожы тыл на Гомельшчыну.

Нічыпар Пашкевіч быў камісарам атрада імя Катоўскага на Віцебшчыне і членам рэдкалегіі падпольнай газеты «Чырвоны хлебароб».

Уладзімір Калеснік з першых дзён акупацыі ў камсамольска-маладзёжным падполлі Мірскага раёна Баранавіцкай вобласці. Па заданні падпольнай арганізацыі ўладкаваўся настаўнікам у Некрашэвіцкую школу Мірскага (цяпер Карэліцкага) раёна, арганізаваў там антыфашысцкую групу. З 1942 года ён сам і яго бацька ў партызанскім атрадзе. Быў падрыўніком у атрадзе імя Чапаева, потым камандзірам узвода атрада «Камсамольскі», нарэшце з лета 1943-га начальнік штаба атрада.

Падпольшчыкі і сувязныя, якім пасля выканання задання ўдавалася пазбегнуць арышту і трапіць у партызанскі атрад, прызнаваліся, што ім у партызанах лягчэй, што тут яны разам з усімі («што ўсім, тое і мне»), а там (у гарнізоне) страшна: арыштуюць, і ты з ворагам сам-насам. Катаванні, знявагі, смерць. Такі горкі лёс выпаў на долю шасці пісьменнікаў.

Алесь Дубровіч актыўна ўдзельнічаў у вызваленчым руху яшчэ ў Заходняй Беларусі. У 1933 годзе прымаў удзел у першым нелегальным з'ездзе пісьменнікаў. У 1934-м г. быў арыштаваны, адбыў два гады ў сумнавядомай віленскай турме на Лукішках. Пасля вызвалення Заходняй Беларусі абраны старшынёй сельсавета. З пачатку Вялікай Айчыннай вайны — падпольшчык. Расстраляны нямецка-фашыскімі захопнікамі ў снежні 1941 года.

Вера Харужая з верасня 1942 года ўзначальвала групу антыфашысцкага падполля ў Віцебску. 13. XI. 1942-га арыштавана і закатавана ў фашысцкім засценку. Герой Савецкага Саюза, пасмяротна.

Уладзімір Кандраценя актыўна ўдзельнічаў у слуцкім падполлі. 23. II. 1943-га па даносе правакатара ўся падпольная група была арыштавана. У. Кандраценя закатаваны ў фашысцкім засценку. Валодзя Кандраценя — першае рамантычнае, узнёслае каханне Веры Сямёнаўны Палтаран. «Вось прыехала я дамоў на канікулы, — успамінала яна, сустрэўшыся са мной пасля вайны, — і мама ў мяне праз колькі дзён пытаецца: «Верачка, а ці ёсць жа ў цябе які хлопец харошы?» Я паказала ёй фотаздымак аднаго юнака, а потым Валодзеў. Яна паглядзела і кажа пра першы: «Ну, хлопец як хлопец». Потым узяла ў рукі Валодзеў і сказала: «А вось гэты — то да! Твар разумны, вельмі прыгожы, і вочы так добра глядзяць». Не давялося Валодзю сустрэцца з Верай пасля вайны…

Іван Дзенісевіч стварыў у Чэрыкаве антыфашысцкую групу, але 5 чэрвеня 1943 года яго разам з таварышамі арыштавалі. Вельмі мужна паводзіў сябе на допытах, перанёс катаванні і нікога не выдаў. 5 ліпеня 1943 года быў расстраляны. На кавалачку паперы менш чым за гадзіну да смерці напісаў жонцы: «Бывайце. Няхай мяне не будзе. Але жыццё будзе прадаўжацца, жыццё будзе вельмі добрае, а я яго ўжо не ўбачу…»

Мікола Ільінскі загінуў у Мінскім СД у 1943 годзе.

Рамуальд Зямковіч у 1943 ці 1944 годзе загінуў у Варшаўскім СД. Іншая версія — у канцлагеры ў Асвенціме.

Новік-Пяюн, паэт, кампазітар, мастак, дырэктар Слонімскага краязнаўчага музея, у чэрвені 1941-га падчас нямецкай бамбёжкі быў паранены. Тым не менш, перамагаючы слабасць і боль, здолеў разам з археолагам, заснавальнікам музея І. Стаброўскім перанесці музейныя экспанаты (а гэта тысячы кніг, дакументаў, прадметаў) на ўскраіну горада і надзейна схаваць у падвале. Стаў партызанскім

сувязным, перадаваў ў атрад агентурныя звесткі, медыкаменты, паперу. У 1943 годзе Новік-Пяюн быў арыштаваны і асуджаны да расстрэлу. Але ў Слонімскай турме захварэў на сыпны тыф. Тады гітлераўцы загадалі палонным дактарам вылечыць хворага. 4 ліпеня 1944 года Новіка-Пяюна з вялікай групай іншых ахвяр фашысцкага рэжыму ў колькасці 600 чалавек (папярэдне іх усіх вывезлі ў лагер смерці Калдычэва) пагналі на расстрэл. Новік-Пяюн быў паранены, прыкінуўся мёртвым, і гэта выратавала пакутніка. 12 ліпеня разам з партызанамі ён вярнуўся ў разбураны Слонім, узнавіў музей і зноў стаў яго дырэктарам. Здавалася б, усё жахлівае адышло. Здавалася б… У канцы 1944 года ён быў арыштаваны ўжо сваімі. Ваенны трыбунал асудзіў яго на 10 гадоў зняволення. Так Новік-Пяюн апынуўся на Калыме, працаваў лесарубам, шахцёрам, і толькі ў 1958 годзе быў рэабілітаваны, прыехаў у Мінск. *«...З яговых рук выбівалі пэндзаль, скрыпку, пяро, а ён рабіў дабро паўсюдна, дзе толькі мог, там, куды закідваў яго лёс, саграваў людзей цяплом душы, для якой найдаражэйшым скарбам была радзіма-Беларусь»,* — гаварылася на ўроку, прысвечаным паэту, які праводзіўся ў бібліятэцы Саюза пісьменнікаў у верасні 2001 года. Пасля вызвалення паэт пісаць ужо не мог: нешта *«надламілася, назаўжды разбурылася ў душы: ён не мог, не хацеў варушыць мінулае».*

Акружэнне, раненне, палон, безнадзейнасць… Многія пісьменнікі прайшлі праз гэта. І вельмі пашанцавала тым, каму ўдалося ўцячы, далучыцца да партызан. Гэта ўдалося Янку Брылю, Аляксею Карпюку, Сцяпану Александровічу, Міхасю Даніленку, Ціхану Панцюшэнку, Навуму Перкіну. Тры разы (апошні раз удала) уцякаў з палону Міхась Скрыпка...

Ніякія пазнейшыя вайсковыя заслугі не ратавалі былых палонных ад недаверу з боку «органаў». На тэрыторыі Беларусі падазроных было вельмі многа, бадай, кожны другі. Жыў на акупаванай тэрыторыі, да таго ж яшчэ і «заходнік», мае сваякоў за мяжой, быў у палоне і вызвалены амерыканцамі, словам, — хапай, лаві, судзі. Вось як абышліся з Аляксеем Карпюком. Карпюк апынуўся ў пачатку вайны на акупаванай тэрыторыі са з'яўленнем партызан стаў сувязным. У 1942 годзе пры выкананні дыверсіі на чыгунцы пад Ваўкавыскам трапіў у палон. Спачатку фашысты трымалі яго ў беластоцкай турме, пасля ў лагеры Штутгарт у Прусіі. У 1943 годзе ўцякае з лагера, далучаецца да партызан. З мясцовай моладзі арганізуе партызанскі атрад і камандуе ім да злучэння з Чырвонай Арміяй. Прымаў удзел у вызваленні Варшавы, за гераізм на прарыве абароны праціўніка на Одэры ў ліку іншых байцоў быў прадстаўлены да звання Героя Савецкага Саюза. *«Указ аб першых узнагароджаных прыходзіць, мяне чамусьці няма,* — піша Карпюк бацькам. І з горыччу тлумачыць: — *Хаця чаму здзіўляцца, я ж «заходнік». Людзям зверху падаюся нейкім контррэвалюцыянерам».* Так думалася яму, хаця, напэўна, галоўнай прычынай адхілення яго кандыдатуры быў палон. А між тым Карпюк, ужо будучы ў дзеючай арміі ў Германіі, быў двойчы паранены. 30. IV. 1945 года ён пісаў бацькам: *«26 красавіка ў Берліне каля гадзіны дня паранены ў другі раз. Рана сур'ёзная. Асколак паміж 9 і 10 рэбрамі прабіў ніжнюю частку лёгкага і застраў. 27 зрабілі аперацыю, падшылі лёгкае, стала лягчэй дыхаць… Крыўдна, што ранілі ў апошнія дні вайны. Я ваяваў не для геройства, не для ўзнагарод, а проста ў мяне ў натуры ляжыць, каб не хавацца ў кагосьці за дужай спіной».*

Быў у палоне... Гэта кляймо, якое салдат вымушаны быў несці праз усё жыццё. Былы палонны, як бы ён ні апраўдаў сябе вайсковымі подзвігамі пазней, заставаўся чалавекам ніжэйшага гатунку: няхай дзякуе ўжо за тое, што не сядзіць. Гэта ў Амерыцы і ў еўрапейскіх краінах вызваленых з палону сустракалі з павагай і спачуваннем. У нас было інакш. Гэтак званыя фільтрацыйныя органы, вядома, былі патрэбныя, але нярэдка сапраўдная фільтрацыя падмянялася самастраховкай і кар'ерысцкімі намерамі. У сувязі з гэтым меркаваннем успомніўся адзін эпізод з майго жыцця. Апошнія паўгода да ўз'яднання з Савецкай Арміяй я была ўпаўнаважанай асобага аддзела партызанскага атрада «За Отечество». На гэтую пасаду мяне як чалавека з вышэйшай адукацыяй перавялі з разведкі. Разам з на-

чальнікам нас было чацвёра. І вось аднойчы, калі мы ўсе сабраліся ў нашай зямлянцы, адзін сказаў: «Ёсць вядомая дылема: сярод дзесяці — адзін правакатар. Часу мала, выявіць канкрэтна хто з іх немагчыма. Дык як тут быць: расстраляць усю дзесятку і выратаваць сотні партызан, ці …» Я ўзвілася: «Што? Страляць невінаватых? А што, калі б сярод іх быў ты сам?» Ён: «Але ж можа загінуць атрад!» І тут сказаў сваё мудрае слова наш начальнік: «Супакойцеся, Ларыса, — звярнуўся ён да мяне. — Я нікога яшчэ без віны не расстрэльваў. Што за сафістыку вы тут разводзіце, М-н? *(Гэта ўжо да майго апанента.)* Якога чорта! Нас чатыры асабісты на атрад, у нас ёсць і ў ротах, і ў вёсках, і ў фашысцкіх гарнізонах, нарэшце, свае асведаміцелі. І мы будзем невінаватых расстрэльваць? Дык на якое ж ліха такі асобы аддзел?!» Людзей у фільтрацыйных органах хапала, а прафесіяналізму, чалавечнасці, інтуіцыі, нарэшце, — з гэтым было горш. Здаралася, што на бядзе чалавека, які пабыў у палоне, спекулявалі дзеля сваёй выгады. Так, камісар брыгады «Штурмавая» Ілья Мартынавіч Фёдараў уцёк з палону, быў адным з арганізатараў атрада і брыгады. Яго баявыя заслугі перад дзяржавай адзначаны высокімі ўзнагародамі (ордэны Леніна, Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны І ступені, медалі). У мірны час, шчыруючы на ніве народнай асветы, атрымаў тры Ганаровыя граматы Вярхоўнага Савета БССР. Гэты адукаваны, вельмі сумленны чалавек і патрыёт быў не пазбаўлены і літаратурных здольнасцей. Ён паказваў мне напісаныя ім успаміны пра партызанскае мінулае. У іх расказвалася пра баявыя справы атрадаў брыгады, пра асобных партызан, хораша гаварылася пра народную падтрымку, і ўсё гэта на канкрэтных прыкладах, і ўсё гэта пра людзей, якіх ён умеў добра ведаў. Я была ўпэўнена, што яго ўспаміны зоймуць сваё, і не апошняе, месца сярод твораў на гэту тэму. Час ішоў. Аднойчы, чытаючы кнігу, толькі намінальна напісаную самім аўтарам (гэта была так званая «літаратурная апрацоўка»), я звярнула ўвагу, што ў ёй ёсць знаёмыя матэрыялы Фёдарава. «Ну чаму ён аддаў іх? Чаму?» — задавала сабе пытанне і не знаходзіла адказу. Пазней высветлілася, што калі Фёдараў сказаў аднаму з былых партызанскіх начальнікаў, што мае намер пісаць успаміны, той падахвоціў: «А як жа, пішы!» Пасля таго, як Фёдараў даў яму азнаёміцца з матэрыялам той, пачытаўшы, сказаў: «Нічога ў цябе не выйдзе. Не забывайся, што ты быў у палоне. Аддай гэта мне. Я выкарыстаю». Фёдараў так і зрабіў. А той не пасаромеўся прысвоіць чужую працу.

Вышэй я прыгадала лёс Сяргея Новіка-Пяюна. Вось яшчэ прыклады. Юльян Сергіевіч, паэт і мастак, трапіў у палон падчас нападу фашысцкай Германіі на Польшчу. Яго пераганялі з аднаго канцлагера ў другі і нарэшце аддалі баўэру як батрака-нявольніка. З палону быў вызвалены Савецкай Арміяй, вярнуўся на родную Маладзечаншчыну, стаў працаваць настаўнікам. У 1946 годзе яго бяздоказна арыштоўваюць і да 1956 Сергіевіч ізноў пакутуе, цяпер ужо ў савецкіх лагерах Поўначы, Сібіры, Казахстана. Лёс яго канчаткова зломлены. Пасля лагераў літаратурнай дзейнасцю ён ужо не займаўся. Працаваў калгаснікам.

Мікола Аўрамчык, праваяваўшы год, зведаў акружэнне, трапіў у палон. Яго прымусілі працаваць на шахтах Рура. Быў вызвалены англічанамі, якія перадалі яго савецкім вайскам. І цяпер ужо свае пасылаюць яго зноў на шахты — у Данбас. Праўда, праз год яго адпусцілі, ён вярнуўся ў Мінск, скончыў філалагічны факультэт (аддзяленне журналістыкі БДУ), і яго паэтычны талент аздабляе беларускую паэзію. У дадзеным выпадку ўсё абышлося адносна добра. Я падкрэслю — адносна. Можна зразумець, што давялося перажыць чалавеку: вельмі балюча ўражвае несправядлівасць.

Тут дарэчы будзе ўспомніць пра юнака, які ў свае 19 гадоў быў у ліку абаронцаў Брэсцкай крэпасці, — Алеся Махнача. У 1941 годзе ён скончыў пяхотнае вучылішча, атрымаў званне лейтэнанта і 18 чэрвеня быў прызначаны камандзірам узвода Брэсцкай крэпасці. 22 чэрвеня Алесь Махнач ужо камандзір роты чырвонаармейцаў і камандзіраў па абароне Цэнтральнага вострава крэпасці. 27 чэрвеня яго, цяжка параненага, гітлераўцы захапілі ў палон. Да 9 красавіка 1944 года Алесь Махнач пакутаваў у канцлагерах на тэрыторыі Польшчы і Германіі. Вы-

жыў, але на ўсё жыццё застаўся інвалідам, хаця пасля вызвалення доўга лячыўся ў эвакашпіталі і інстытуце хірургіі і аднаўленчай артапедыі. Жыццё толькі пачыналася, а колькі пакут чакала юнака. Вядома, што подзвіг абаронцаў Брэсцкай крэпасці доўгі час замоўчваўся. У 60-я гады рускі пісьменнік Сяргей Смірноў сваёй кнігай пра герояў Брэсцкай крэпасці, сваімі выступленнямі па радыё і тэлебачанні ўваскрасіў гераічную эпапею яе абароны. Дзякуй Богу, што Алесь Махнач дачакаўся гэтага. Ён памёр зусім нядаўна.

248 пісьменнікаў Беларусі — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны. Франтавікі. Партызаны. Падпольшчыкі.

Так, Іван Навуменка ў свае 16 гадоў спачатку актыўна дзейнічаў у падполлі, прымаў удзел у выданні падпольнай маладзёжнай газеты «За радзіму», уваходзіў у армейскую разведвальна-дыверсійную групу, потым стаў партызанам брыгады імя П. К. Панамарэнкі і нарэшце разам з часцямі Чырвонай Арміі вызваляў ад фашыстаў г. п. Васілевічы. У 1943-м прызваны ў армію і ваяваў на Ленінградскім і I Украінскім франтах, на Карэльскім перашыйку, ва Усходняй Прусіі і Сілезіі.

Навум Перкін у самым пачатку вайны быў накіраваны на фронт. Камандаваў узводам. Трапіў у акружэнне. Звязаўшыся з партызанамі ў Бранскіх лясах, стаў байцом, затым камандзірам узвода і нарэшце начальнікам штаба атрада Рагнедзінскай партызанскай брыгады, якая ў верасні 1943 года злучылася з Чырвонай Арміяй. Скончыўшы курсы пры вышэйшай афіцэрскай школе, да канца вайны камандаваў артбатарэяй. Двойчы паранены.

Якуб Усікаў у 1942 годзе стаў партызанам атрада Грышына. У чэрвені 1944-га ён ужо ў Чырвонай Арміі. Ваяваў на II Беларускім фронце. Двойчы паранены.

Такім чынам, 248. Загінула 37 — кожны сёмы. Параненых і кантужаных 64 — кожны чацвёрты. Тройчы параненыя: Мікола Ваданосаў, Ілля Клаз, Аляксандр Капусцін, Аляксей Кулакоўскі, Аркадзь Марціновіч, Алесь Савіцкі. Двойчы: Васіль Быкаў, Уладзімір Калеснік, Аляксей Карпюк, Навум Перкін, Аляксей Пысін, Пятро Рунец, Васіль Струмень, Алесь Траяноўскі, Сымон Хурсік. Цяжка параненыя: Сцяпан Александровіч, Мацей Грубіян, Мікола Грынчык, Міхась Ларчанка, Яўген Курто, Андрэй Макаёнак, Барыс Паўлёнак, Аляксей Слесарэнка, Мікола Татур, Канстанцін Цітоў. Прыйшлі інвалідамі: Вісарыён Гарбук, Аляксандр Коршунаў, Мікола Лупсякоў, Эдуард Валасевіч, Навум Кіслік, Мікола Лобан, Яфім Садоўскі, Марк Смагаровіч, Гаўрыіл Шутэнка.

Андрэю Макаёнку цудам удалося вырвацца з кіпцюроў смерці і пазбегнуць калецтва. Пад канец 1941-га дывізію, у якой ён служыў, перакінулі ў Крым, і Макаёнак паўгода ўдзельнічаў у жорсткіх баях. У канцы красавіка 1942 года трапіў у шпіталь. Урачы западозрылі гангрэну і палічылі неабходным ампутаваць ногі. А. Макаёнак, сабраўшы апошнія сілы, стаў пагражаць трафейным пісталетам, ногі свае адстаяў. Як вядома, крымска-феадасійскі дэсант амаль цалкам загінуў. На шчасце, недалёка ад медсанбата, дзе пакутаваў Макаёнак, прызямліўся для запраўкі самалёт, які вывозіў з варожага тылу параненага камандзіра партызанскага атрада. У самалёце аказалася адно свабоднае месца, і ўрачы на яго ўладкавалі будучага драматурга. Больш за чатыры месяцы лячыўся Макаёнак ў шпіталях Краснадара і Баку, рваўся на фронт, але раны адкрыліся, і ён быў канчаткова спісаны ў запас.

Былі выпадкі, калі бацькам на сыноў прыходзіла «пахаронка», а сыны цудам выжывалі. Так, Васіль Быкаў улетку 1942-га быў прызваны ў Чырвоную Армію. Скончыў Саратаўскае пяхотнае вучылішча і з 1943 года ваяваў на II і III Украінскіх франтах. Быў двойчы паранены. У 1944-ым бацькі атрымалі паведамленне аб тым, што іх сын мужна загінуў у баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі пад Кіраваградам. На абеліску пад Кіраваградам пазначана і яго імя. А Васілю Быкаву ўдалося выжыць. Старшым лейтэнантам, камандзірам узвода палкавой артылерыі ён прайшоў Румынію, Балгарыю, Венгрыю, Югаславію, Аўстрыю. Узнагароджаны ордэнамі Леніна, Працоўнага Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны I ступені, медалямі.

«Пахаронку» атрымалі і бацькі Міколы Грынчыка. Васемнаццацігадовы

юнак, апынуўшыся на акупаванай тэрыторыі, настойліва імкнуўся да арганізаванай барацьбы з фашыстамі. Летам 1942 года ўдзельнічае ў Слонімскім падполлі. Смела хадзіў на сувязь з перакладчыкам слонімскага гэбітскамісара Эрэна — падпольшчыкам Пытэлем. Штохвілінна рызыкуючы быць арыштаваным, чакаў Пытэля проста ў будынку СС каля дзвярэй у кабінет Эрэна. З сакавіка 1943-га ён сувязны атрада «Савецкая Беларусь» брыгады імя П. К. Панамарэнкі. У ліпені 1944 года прызваны ў Савецкую Армію. Пад Варшавай на пераправе цераз Віслу падчас дэсантнай аперацыі яго накрыла міна. *«На той бок Віслы ён пераправіўся,* — расказвае сябра Міколы Грынчыка Алег Лойка, — *але тут жа і ўпаў, смяротна паранены. Так, смяротна. Маці ў Быцені ўжо была адаслана, як і маці Васіля Быкава ў Бычкі на Віцебшчыне, пахаронка па сыне. Загінуў смерцю храбрых! Ён, Мікола, аднак не загінуў, хоць быў у той грудзе мёртвых, пахаронкі на якіх разаслалі».* Грынчык так і не даведаўся, як яго знайшлі, як заўважылі, што ён жывы. Ён не памятаў, як яго перавозілі цераз Віслу на Каўказ, дзе ў шпіталі тры месяцы не мог нават успомніць сваё імя і прозвішча. *«Аб гэтым ён не вельмі гаварыў, а я не вельмі распытваў, гледзячы на яго скроню, якая пульсавала, не будучы захінёнай частачкай яго чэрапа, выбітага той мінай пад Віслай,* — успамінае Лойка, — *Па сутнасці, застаўшыся жывым, ён праз усё сваё жыццё хадзіў на ўскрайку бездані: такі безабаронны ён быў з адкрытай пульсацыяй скроні!»* Мікола Грынчык узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны І ступені, медалямі.

Анатоль Вялюгін сваім успамінам пра Аляксея Пысіна даў назву «Рэквіем, перапынены тройчы»: *«Першы рэквіем — калі прагучаў яму развітальны плач восеньскіх жураўлёў над размяклай глінай валдайскіх склонаў. А салдат выжыў, са шпіталя вярнуўся ў строй.*

*Другі рэквіем пратрубілі яму, скрываўленаму, жураўлі вясеннія над разворатым снарадам латгальскім полем. А салдат падняўся, дайшоў да беласыпучых дзюн Балтыкі... гвардыі радавы пяці франтоў — Заходні, Калінінградскі, Ленінградскі, Першы і Другі Прыбалтыйскія...»*

Гучалі і часам, на шчасце, перапыняліся рэквіемы і Міколу Грынчыку, і Андрэю Макаёнку, і многім іншым.

Большасці з пералічаных параненых ужо няма сярод нас, адышлі ў нябыт. Дачасна апынуліся там, не дасказаўшы свае сказы, не дапеўшы свае песні. Крывавая вайна ўсё яшчэ жывіцца, знаходзячы ахвяры і праз гады.

Цяпер пра тых, хто загінуў. Яны загінулі смерцю герояў ва ўзросце ад 23 да 30 гадоў, загінулі на самых адказных участках франтоў. Называючы іх, буду ўказваць месца і абставіны гібелі, калі яны ўстаноўлены.

1941 год. Леанід Гаўрылаў, механік-вадзіцель танка; Рыгор Суніца (Лынькоў); Уладзімір Рагуцкі; Алесь Пруднікаў, разведчык пры выкананні баявога задання — Карэльская АССР; Мікола Сямашка — пры абароне Оршы; Іван Шапавалаў, ваенны карэспандэнт — Барысаў; Андрэй Ушакоў — пры пераправе цераз Сож; Міхась Юдэлевіч; Клімент Якаўчык — пад Масквой.

1942 год. Янка Бобрык, Рыгор Жалязняк — пры абароне Ленінграда; Генадзь Шведзік, кулямётчык — пад Бранскам; Аркадзь Гейнэ, малодшы лейтэнант, камандзір мінамётнай батарэі — пад Сталінградам; Хвядос Шынклер, малодшы лейтэнант — пад Сталінградам; Рува Рэйзін; Леў Талалай.

1943 год. Эдуард Галубок, сын Уладзіслава Галубка; Барыс Іофе; Павел Лявановіч.

1944 год. Змітрок Астапенка — у Карпатах; Мікола Нікановіч — у Чэхаславакіі; Алесь Мілюць — ва Усходняй Прусіі; Сямён Ляльчук — на ІІІ Украінскім фронце; Рыгор Мурашка — на Лагойшчыне падчас блакады.

1945 год. Эля Каган; Аляксей Коршак — ва Усходняй Прусіі; Сяргей Крывец — падчас штурму Гдыні; Уладзімір Ясючэня, малодшы сяржант, узнагароджаны ордэнам Славы ІІІ ступені і медалём — на Одэры (на фронце загінулі і два яго браты). І зусім напярэдадні перамогі — 20 красавіка, у рукапашным баі пад Берлінам, старшы лейтэнант, камандзір узвода ў знішчальным супрацьтанкавым

палку Мікола Сурначоў (на фронце загінулі два яго браты: старэйшы — пад Масквой, малодшы — ва Усходняй Прусіі, бацька і старэйшая сястра былі ў партызанах, а малодшая — ваенфельчарам у блакадным Ленінградзе).

Беларускіх пісьменнікаў можна сустрэць на кожным з тагачасных франтоў, на кожным самым адказным і небяспечным участку. Здаецца, няма такога спецыялізаванага падраздзялення, дзе не было б хоць аднаго з іх.

Пагранвойскі — Веньямін Рудаў.

Авіяцыя — камандзір эскадрыллі Аляксандр Авечкін; Анатоль Вялюгін; Лявонцій Гаранін; Міхась Калачынскі; Іван Сіўцоў.

Марскі флот — Аляксандр Міронаў; Іван Разанаў; Віктар Трыхманенка.

Марская пяхота — Дзмітрый Кавалёў; Віктар Трасцянскі.

Кавалерыя — Рыгор Няхай.

Раз'язны паштавік — Яўхім Кохан.

Артылерыя — старшы лейтэнант, камандзір узвода армейскай артылерыі Васіль Быкаў; Іван Грамовіч; камбат Ігнат Дуброўскі; Іван Шамякін; старшы сяржант Майсей Тэйф; Васіль Матэвушаў; камандзір узвода «Кацюш» Іван Новікаў.

Танкавыя і процітанкавыя злучэнні — Леанід Гаўрылаў; Міхась Даніленка; Аркадзь Марціновіч.

Інжынерныя войскі — генерал-маёр Мікалай Аляксееў; Вісарыён Гарбук; Аляксандр Дракахруст.

Сувязь — гвардыі старшы сяржант Барыс Бур'ян; Аляксей Пысін.

Радыст у варожым тыле Мікола Ваданосаў.

Радыёсувязь — Уладзімір Міцкевіч; Уладзімір Юрэвіч.

Радыёлакацыя — Сямён Дорскі.

Начальнік цягніка-друкарні — Мікола Вішнеўскі.

Медыкі — урачы Антон Алешка, Мікола Герасімаў, Анатоль Іваноў, медсёстры Эсфір Гурэвіч, Валянціна Гапава.

Санітарна-хімічная абарона — Георгій Папоў.

Ветэрынарная служба — Іван Мяла.

Шафёр — Мікола Гарулёў.

Разведка — Якуб Міско, Алесь Пруднікаў, Анатоль Фядосік, Гаўрыіл Шутэнка.

Многія былі палітрукамі, некаторыя супрацоўнічалі ў друку: Аляксей Зарыцкі, Янка Казека, Леанід Прокша, Юрый Рудзько, Сцяпан Сямашка, Лазар Шапіра.

І, безумоўна, большасць несла службу ў стралковых палках: Іван Муравейка, Уладзімір Савіцкі, Алесь Бажко, Мікола Гамолка, Уладзімір Корбан, Захар Бірыла, Аляксей Кулакоўскі, Іван Мележ, Іван Кудраўцаў, Сцяпан Кухараў, Алесь Макарэвіч, Максім Лужанін.

Капітулявала фашысцкая Германія. Прагучалі салюты Перамогі. Дайшлі да Берліна Аляксандр Дракахруст, Аляксей Карпюк, Сцяпан Кухараў, Міхась Лазарук, Хаім Мальцінскі, Якуб Міско, Паўлюк Прануза, Іван Сіняўскі, Юрый Багушэвіч.

А на Далёкім Усходзе ішла вайна з Японіяй. І ў падзеях, якія звязаны з ёй, прымалі ўдзел Артур Вольскі, Анатоль Іваноў, Іван Скарынкін. Успамінае Артур Вольскі: *«Я цяпер часта думаю пра тое, што такое подзвіг... І прыходжу да высновы, што гэта з цяжкасцю паддаецца вызначэнню... Калі мы ўвосень 1945 ішлі ў Кітай, у Маньчжурыю, то пад горадам Цзямусамі вымушаны былі высадзіць марскі дэсант, таму што армейцы не маглі прайсці, і быў такі агонь, што ад яго дрыжэла зямля. Першым узняўся ў атаку мой сябар, старшына першай стацці Коля Галубкоў (я потым пісаў, што ён крыкнуў «За Родину, за Сталина», але прызнаюся цяпер, што пісаў няпраўду. Ён проста выгукнуў: «Матросы, за мной»). За ім рванулі іншыя, і мы змаглі прайсці. За гэты бой я атрымаў медаль «За баявыя заслугі». А Коля — Героя Савецкага Саюза. Пасмяротна...»*

Усе, хто перажыў вайну: ваяваў, пакутаваў на акупаваных ворагам землях, намагаўся з апошніх сіл, працуючы на абарону, — добра памятаюць, як многа ў тыя неверагодна цяжкія часы значыла радыё ці друкаванае слова, як жывіла яно веру ў непазбежнасць перамогі, натхняла на подзвігі.

Многія беларускія пісьменнікі працавалі на радыё, супрацоўнічалі ў армейскім і падпольным друку.

Гучалі па радыё, траплялі на старонкі газет, на лістоўкі палымяныя заклікі Янкі Купалы, Якуба Коласа. Успамінаю зараз, як вясной 1943 года партызанаў нашага атрада «За отечество» спецыяльна пастроілі перад штабам і зачыталі вядомы верш Янкі Купалы «Беларускім партызанам»:

*Партызаны, партызаны,*
*Беларускія сыны!*
*За няволю, за кайданы*
*Рэжце гітлерцаў паганых,*
*Каб не ўскрэслі век яны.*

У нашым атрадзе былі рускія і грузіны, палякі і ўкраінцы; але кожны ўспрымаў заклік народнага паэта Беларусі як зварот да яго асабіста. Грузін Джон Джгамадзе сказаў мне: «Я слухаў, і ўсё зразумеў, і адчуваў сябе адным з беларускіх сыноў, да якіх звяртаўся ваш Янка Купала».

24 чэрвеня ў газеце «Правда» быў надрукаваны першы ваенны верш Якуба Коласа «Шалёнага пса — на ланцуг!»:

*Да зброі, народы раскутай краіны:*
*Разбойнік штурмуе наш дом!*
*Магутнаю раццю, патокам адзіным*
*Абрушым на ворага гром! —*

заклікаў паэт. І многія паэты паўтаралі словы «Мы вернемся!», «адпомсцім!», «адбудуем!» Вершы з назвай «Мы вернемся» напісалі Максім Танк і Пятро Глебка. Паэт Антон Бялевіч сведчыць, як усхвалявана ўспрымаў вершы Аркадзя Куляшова Кузьма Чорны. Верш «Ліст з палону» ён паказваў *«знаёмым, сябрам і таварышам, прасіў іх чытаць уголас, а сам слухаў, крадком змахваў з векаў слязіны горкай тугі»*. Верш быў надрукаваны 27 жніўня 1942 года ў газеце «За свабодную Беларусь». Вядомы факт, што яго зачытаў сваім байцам перад боем франтавы камандзір. Пра верш «Над брацкай магілай» Кузьма Чорны, чытаючы яго, гаварыў: *«Глядзіце, бомбу прыслаў Куляшоў. Бомбу напоўненую праз берагі гневам усёй Савецкай Арміі, усяго нашага народа»*. І дамагаўся, — успамінае А.Бялевіч, каб яго *«надрукавалі і ў беларускіх і ў маскоўскіх газетах, выдалі асобнай лістоўкай, направілі яе за лінію фронту ў тыл ворага, у партызанскія атрады, у вёскі, сёлы, гарады роднага краю»*. Гэта верш пра ахвяры, якія забірае бязлітасная вайна, пра стрыманую жалобу і мужнасць:

*Там магіла ёсць брацкая*
*ў лузе за вёскай Лажыны.*
*Там хлапцы беларускія*
*чэсна галовы злажылі.*
*Мы без слёз іх хаваем,*
*памятаем пра свой абавязак,*
*Нашы слёзы саромяцца*
*мужных вінтовак і касак.*

*Засыпаем мы твары*
*з вачамі і вуснамі тымі,*
*На якіх пацалункі*
*дзяцей і жанок не астылі.*
*Жвірам сыплем на рукі,*
*якія дзяцей тых насілі.*
*Жвірам сыплем на ногі,*
*якія паўсвету схадзілі.*
*Ногі просяцца ўстаць,*
*яны стомы ў дарозе не чулі,*
*Ды ўвагналі ў магілу*
*Іх сілу*
*Варожыя кулі.*

Гэты верш і зараз немагчыма чытаць без душэўнага ўзрушэння.

Патрыярх беларускай літаратуры Кандрат Крапіва, удзельнік грамадзянскай вайны і вызваленчага паходу ў Заходнюю Беларусь, так характарызуе сваю дзейнасць сатырыка ў гады Вялікай Айчыннай вайны: *«Сатырычныя вершы, фельетоны, памфлеты, эпіграмы, подпісы пад карыкатурамі — вось тая сатырычная зброя, якою я па меры маіх сіл наносіў удары ворагу».* Кандрат Крапіва і Міхась Чавускі рэдагавалі газету «Раздавім фашысцкую гадзіну». Рэдактарам сатырычнага часопіса «Партызанская дубінка» быў Ілля Гурскі. Пятрусь Броўка супрацоўнічаў у газеце «За савецкую Беларусь». Якаў Герцовіч рэдагаваў газету «За свабодную Беларусь», літсупрацоўнікам у ёй быў Мікола Вішнеўскі.

Двойчы засылаўся ў варожы тыл штабам партызанскага руху Анатоль Астрэйка. Друкарня слуцкай падпольнай газеты выдала яго зборнік «Слуцкі пояс». Патрыятычным пафасам прасякнуты вершы Максіма Танка. Ён быў на Бранскім фронце, супрацоўнічаў у газеце «За савецкую Беларусь», якую рэдагаваў Міхась Лынькоў, і ў газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну». Камісар атрада імя Катоўскага Нічыпар Пашкевіч прымаў удзел у выпуску падпольнай газеты «Чырвоны хлебароб».

Многія пісьменнікі былі ваеннымі карэспандэнтамі. У ліку іх Васіль Вітка і Авяр'ян Дзеружынскі, Ілары Барашка і Васіль Барысенка, Ісідор Бас і Пятро Дудо, Яфім Садоўскі і Іван Васілеўскі, Іван Муравейка і Леанід Прокша, Пятро Прыходзька і Мікалай Яромушкін. Яны ваявалі і жалезнай зброяй, і зброяй слова. У адным з вершаў успамінае факт са сваёй біяграфіі Пятро Прыходзька:

*Было ў маім жыцці такое:*
*Бы горла мне сціскаў удаў, —*
*Я па-над Віслаю-ракою*
*Засыпаны зямлёй ляжаў...*

Колькі розных небяспек падпільноўвала кожнага з іх! Так, трапна піша Алесь Марціновіч, што *«ўласна перажытае, калі яно падпадае пад вызначэнне чагосьці незвычайнага, само па сабе з'ява».* Мы не ўсё ведаем пра ўласна перажытае ўдзельнікамі Вялікай Айчыннай вайны. А варта было б ведаць.

Сцяпан Майхровіч быў галоўным рэдактарам Цэнтральнага беларускага радыёвяшчання. З радыё звязаны і Міхась Машара, ён супрацоўнічаў у газетах «Звязда» і «Савецкая Беларусь».

Самаахвярна адольвалі віры пакручастай і доўгай ракі, якая вяла да перамогі, беларускія пісьменнікі. У кожнага з іх свой вайсковы лёс, свае цяжкія страты. Мне хацелася хоць раз, хоць мімаходзь назваць кожнага. На жаль, гэта немагчыма. А трэба, каб нашчадкі ведалі пра ўсіх. Павінна быць створана кніга памяці, у якой будзе расказана пра кожнага. Расказана ім самім, яго роднымі, сябрамі. Яна павінна стварацца неабыякавымі людзьмі і на высокім узроўні мастацкасці. Такую кнігу ўключаць у школьныя праграмы, і яна праз гады будзе яўляць маладому пакаленню ўзоры самаахвярнага патрыятызму і чалавечай годнасці.



## ВАСІЛЬ ШЫНКАРОЎ

# ІМГНЕННІ ПРАЗ ЖЫЦЦЁ

### ЗАМЕСТ УВОДЗІН

Кажуць, што салдаты, побач з якімі ўзрываліся бомбы ці снарады і яны пры гэтым выпадкова засталіся жывымі, маглі назіраць, як на смертаносным корпусе паволі з'яўляліся трэшчыны, па краях якіх пакрысе аплаўляўся метал, а затым, быццам не хочучы, нібы матылькі, пачыналі разлятацца асколкі. Імгненні запавольвалі свой бег, станавіліся доўгімі і запамінальнымі.

У жыцці гэта нярэдкасць. Адны падзеі, нават яркія, пралятаюць імгненна, не пакідаючы ў памяці адмецін. Гэта як маланка: святла многа, а чытаць нельга.

Другія ж, нібы запавольваючы жыццёвы бег, моцна западаюць у памяць, больш хвалююць, адкрываюць перад табой нешта новае, раней невядомае, нечаму вучаць, дыктуюць светапогляд, нібы вешкі зімой пры дарозе акрэсліваюць шлях твайго быцця.

Важна, каб на ацэнку падзей не ўплывалі эмоцыі. У іншым выпадку можна згубіць меру аб'ектыўнасці. Эмацыянальна можна прызнавацца ў каханні, але ажаніцца лепей, добра падумаўшы.

Вельмі цяжка быць аб'ектыўным, калі ацэньваеш падзеі ці свае паводзіны, калі не паспела сцерціся гора, сцішыцца боль, калі не загаіліся раны перажытага ці перанесеных страт, калі думы твае яшчэ засціць страх ці крыўда.

І яшчэ. Асаблівасць дзіцячай памяці ў тым, што яна больш утрымлівае нешта дадатнае, добрае і нібы адштурхоўвае ад сябе, не затрымлівае адмоўнае, мабыць, вельмі страшнае ці агіднае. Нават ваенныя жахі ў дзіцячых успамінах — не выключэнне.

Час — лепшы лекар і дарадчык. Ён дазваляе нават на сябе паглядзець іншымі вачыма, сабраць імгненні ў адзін стос, які называецца Жыццё.

### «МАТКА, ЯЙКА!»

Не, гэта не проста адзінкавы, выхаплены карыкатурыстамі факт. Амаль заўсёды, калі нямецкі салдат заходзіў у сялянскую хату, з парогу гучала патрабавальнае: «Матка, яйка, шпэк!» Гэта рабілася быццам па адным сцэнарыі ці адзінай, нейкай напісанай для ўсіх інструкцыі. Да таго так усе прывыклі, што часам нават не звярталі ўвагі.

Вяскоўцы, заходзячы да суседзяў, нярэдка замест «добры дзень» таксама жартаўліва выкрыквалі: «Матка, яйка!» Наконт гэтага хадзіла шмат жартаў і анекдотаў.

Падчас зімовага калядавання ці велікоднага валачобніцтва імправізаваныя канцэрты, спеўкі па хатах таксама звычайна заканчвалі традыцыйным «Матка, яйка, шпэк!» Калі ж хто з гаспадароў пачынаў аднеквацца, спасылаючыся, што няма чым разлічыцца за песеннае прывітанне, у адказ гучала: «Я табе не нейкі немец. Ведаю нават, дзе ў цябе ўсё схавана».

Немцы часцей за ўсё ў адказ чулі, што ні яек, ні сала няма, маўляў, адкуль яно можа быць. Многія з іх верылі і не надта дамагаліся свайго.

Але былі і крыху хітрэйшыя. Тыя адразу шукалі, да чаго б прычапіцца. Вылупіцца такі на малодшаю сястру маёй маці — дзяўчыну з чорнымі валасамі — і безапеляцыйна заяўляе: «Юдэ!». Вось тут без яйка і не дакажаш, што гэта не так. На гэты выпадак быў заўсёды недатыкальны запас. Не было яек — ішлі ў ход сала, смятана. Калі не хапала і гэтага, з'яўлялася чарка гарэлкі. Адным словам, хабарніцтва было паўнейшае. І ніякага зладу.

Найлепшым адчэпным, вядома, у такіх выпадках былі яйкі. Сала не кожнаму з немцаў падабалася. Хапала звычайна аднаго яйка, каб забыўся пра любую прыдзірку. Яйка выпівалася сырым, тут жа, у хаце, заўсёды адным глытком. Я, калі бачыў гэтую працэдуру, заўсёды гідліва моршчыўся, бо больш за ўсё не любіў сыры яечны бялок.

Размову з немцамі заўсёды вяла бабуля. Па-першае, у яе быў нейкі нюх наконт таго, ведае ці не ведае немец рускую мову. Калі немец нічога не разумеў, то дыялог быў прыблізна такі:

— Матка, яйка, шпэк!

— А трасцы ты не хочаш? Ходзяць, як жабракі. Сораму няма. Не напасешся тут на вас. Няма ў мяне для вас, бандытаў, ні яйка, ні шпэку.

Пры гэтым, захоўваючы на твары лагодную ўсмешку, разводзіла рукамі, быццам казала: «І рада б пачаставаць, ды, як бачыш, няма».

Калі ж пасля чарговай прыдзіркі прыходзілася ўсё ж несці яйка, то з тым жа выразам на твары заўсёды заяўляла:

— Ходзяць тут... Дзяцей нечым карміць... На, жары, каб ты падавіўся! Каб цябе пранцы з'елі!

Атрымаўшы яйка, салдат амаль заўсёды дзякаваў: «Данке шон». На што бабуля звычайна адказвала:

— Сама ведаю, што добрая дамка. Толькі не для цябе. Ідзі, ідзі!

Аднойчы, калі ў нашай хаце сабралася шмат моладзі, убачылі, што ідуць два нямецкія салдаты. На выпадак, калі сустрэча з немцамі непажадана, пад хатай была зроблена даволі вялікая зямлянка, адкуль быў ход у другое падземнае сховішча, выхад з якога быў замаскіраваны ў склепе. У гэтым сховішчы часам адпачывалі партызаны, калі ім даводзілася заставацца ў нас на дзень. Папасці туды можна было толькі праз вельмі вузкі лаз або праз склеп. На гэты раз моладзь, быццам гурт мышэй, кінулася ў падпечак. Апошняй палезла вядомая ў вёсцы таўстушка. Галава і грудзі яе туды неяк залезлі, а вось усё астатняе аказалася велікаватым для вузкага лаза. Адным словам, склалася сітуацыя, калі ні туды, ні сюды.

Гэта яшчэ з парога выклікала ў немцаў смех. Доўга стаялі, разважаючы, напэўна, над тым, што гэта значыць. Адзін нават наском бота памацаў тое месца, што перашкодзіла дзяўчыне пралезці цераз лаз. Але, як звычайна, не абышлося без традыцыйнага «Матка, яйка, шпэк!» Бабуля на гэты раз знайшлася, што сказаць:

— Што, не бачыце, палезла за яйкамі, а вылезці назад не можа.

Тут ужо і ў немцаў з'явілася зацікаўленасць, як выцягнуць адтуль дзяўчынку. Памятаю, што неяк тады нават спужаўся, што яны гэта сапраўды зробяць, а потым палезуць туды за яйкамі. Чамусьці ўспомніў, як я, гуляючы, засунуў галаву паміж прутамі металічнага ложка, а потым доўга не мог яе выкараскаць назад. Дапамаглі нямецкія салдаты. Тады гэта было добра, а тут...

Але ўсё абышлося. Намаганні на гэты раз аказаліся дарэмнымі. Патупалі, патупалі ваякі, пакруціліся па хаце, так ні з чым і пайшлі.

Пасля таго, як яны зніклі, справа прыняла сапраўды сур'ёзны характар. Бадай што не менш гадзіны валтузіліся, каб вызваліць дзяўчыну з такога незвычайнага палону. Памятаю, дзед нават ужо прынёс далато і сякач, каб расшырыць лаз. Выхад знайшлі толькі тады, калі з пацярпелай удалося зняць вопратку.

Бывалі выпадкі, калі немец, вымагаючы яйкі, ці то жартуючы, ці то пужаючы, настаўляў на бабулю зброю. На гэта яна заяўляла:

— Вось адбяру зараз гэтую балясіну, ды як агрэю па гарбу… Будеш тады ведаць, як да баб прыставаць, ёлуп ты фашчаўскі.

Калі ж бачыла, што яе суразмоўнік яшчэ і дурны, як яна казала, недароблены, то слова «ёлуп» замяняла словам «статуй». Гэта значыць, няздатны думаць. Такі, якому што ў галаву не ўбівай, усё адно туды не залезе.

Пра выпадак, які адбыўся са мной, землякі ўспаміналі нават у гады майго юнацтва. Аднойчы, лазячы пад былой калгаснай ёўняй, знайшоў там курынае седала, на якім знаходзілася курыца. Хуценька пераклаў яйкі — а іх было дзесяткі са два — у сваю кепку і панёс дамоў. Па дарозе сустрэўся з нямецкім салдатам, які, вядома, адразу ж пераклаў маю знаходку ў сваю пілотку, аддаў мне кепку і накіраваўся да групы сваіх саслужыўцаў, якія адпачывалі на лузе.

Я паклікаў сабаку і таксама адправіўся да сажалкі на краю гэта ж луга.

Праз некалькі хвілін з боку немцаў раздаўся дружны рогат. Не перастаючы смяяцца, яны паклікалі мяне. Адзін з іх аддаў мне яйкі назад. Чамусьці разам з пілоткай.

А на траве трошкі ўзбоч я заўважыў два ці тры разбітыя яйкі, у якіх былі амаль што жывыя кураняты. Нехта з салдатаў, напэўна, ужо зрабіў спробу паласавацца. Мой сабака, убачыўшы выкінутыя яйкі, кінуўся да іх і праглынуў.

Калі ж я прынёс яйкі дамоў і, амаль плачучы, стаў расказваць, што адбылося, дзед, які да гэтага сядзеў на лаўцы, так разрагатаўся, што апынуўся на падлозе і нават задрыгаў нагамі. У жанчын ад смеху на вачах ажно з'явіліся слёзы.

Я здзіўлена глядзеў на іх і напэўна ўпершыню падумаў, што ў немцаў і дарослых нешта не ўсё ў парадку з гумарам. Мне тады было не да смеху: вельмі шкада было загубленых птушанят. Дакараў сябе, чаму не папярэдзіў немца, што яйкі з-пад квактухі і што яны не прыгодныя для ежы. Адным словам, у гібелі птушанят вініў толькі сябе.

Бабуля рэшту нямецкага ласунку тут жа падклала пад квочку і праз некалькі дзён па дварышчы ўжо бегала купка пушыстых куранят.

А ў вёсцы я на доўгі час зрабіўся героем самага здатнага жарту. Ну як жа! Хацеў накарміць немцаў «баўтунамі» (сапсаванымі яйкамі) і амаль выседжанымі куранятамі. Узбагаціўся і бабулін дыялог з немцамі. На патрабаванне «Матка, яйка!» стала адказваць:

— А баўтуноў не хочаш?

## ТАЙНАЯ ВЯЧЭРА

Спаў я заўсёды вельмі чуйна. На стук у дзверы ці акно прачынаўся раней за дарослых. Калі прыходзілі немцы, заўсёды хуценька апранаўся, закідваў за плечы свой рэчмяшок, у якім заўжды былі самыя неабходныя рэчы. Ён у поўнай гатоўнасці стаяў каля прыпечку. Гэта нават здзіўляла немцаў. Пыталіся, чаму я так раблю.

А справа ў тым, што ўсе чакалі: з месцаў будучых баёў немцы будуць выганяць жыхароў. З гэтай прычыны не толькі я, але і ўсе дарослыя заўсёды знаходзіліся ў такой гатоўнасці. Вядома, што перад тым, як ісці спаць, я заўсёды збіраў у адно месца ўсё сваё аддзенне і рэчмяшок.

І на гэты раз, калі нехта пастукаў у акно, я прачнуўся першым і пабудзіў дарослых. Думалі, што гэта партызаны, ці хто з аднавяскоўцаў. Быў нават умоўны сігнал: калі з лаўкі падала пустое вядро, партызанам можна было заходзіць.

Але высветлілася, што гэта быў той немец, які вучыў нас навуцы выжывання: ён быў лёгка паранены. Атрымаў на некалькі дзён адпачынак. Ехаць яму не

было куды, вось ён і вырашыў правесці гэтыя дні ў нас. На радасць дзеду прынёс некалькі пляшак шнапсу, тушонку, хлеб, соль і іншыя прыпасы. Дасталося і мне цукерак і цукру. Жанчыны атрымалі некалькі кавалкаў мыла.

Напэўна, добра перамёрзлы, немец амаль не злазіў з напаленай печы, дзе звычайна спаў і я. Адаграваў свае, як ён казаў, «раматузныя» (пераняў у вяскоўцаў гэтае слова) ногі. Тут жа ён навучыў мяне некаторым фокусам, якія нават зараз прыводзяць у здзіўленне маіх унукаў.

У наступную ноч у дзверы зноў пастукалі. На гэты раз былі партызаны. Немец схапіўся за зброю, але дзед спыніў яго: не трэба — заб'юць. Папярэдзіў, што ён усё сам уладзіць.

Праз колькі хвілін у хату ўвалілася група ўзброеных партызанаў. Усе яны па чарзе, як са старым знаёмым, пачалі за руку вітацца з немцам. На стол быў выстаўлены ўвесь запас шнапсу і закускі. Пачаліся нават тосты: за Сталіна, за нямецкіх камуністаў, за перамогу, за здароўе.

Адзін з партызан, у якога была такая ж, як у немца, вінтоўка, папрасіў, каб той аддаў яму патроны. Пасля таго, як згода была замацавана чаркай шнапсу, немец заявіў, што яго расстраляюць, калі ён вернецца ў часць без патронаў. Партызан ізноў дастаў патроны і палову перасыпаў у «сідар» (так у нас называлі рэчмяшок) немцу.

У гэтую ноч аб перамозе партызаны гаварылі неяк асабліва ўпэўнена, як быццам яна ўжо на вуліцы. Мне нават захацелася выйсці за парог і пaглядзець, ці сапраўды гэта так.

Напрыканцы яны прапанавалі немцу, каб ён, калі стане зусім дрэнна, пераходзіў да іх. Папрасілі дзеда, каб той нікому з партызанскіх камандзіраў не прагаварыўся, якая тут у іх была тайная вячэра.

Да раніцы я так і не заснуў. Усё думаў і ніяк не мог зразумець, што адбылося. Ніколі не бачыўшы іншага, я ўяўляў, што вайна будзе доўжыцца бясконца. Што немцы і партызаны ад самага свайго нараджэння і да апошняга дня заўсёды будуць страляць адзін у другога. Думаў, што калі вырасту, таксама буду ваяваць. Вядома, не хацелася быць забітым, але ў той час, памятаю, баяўся і таго, што самому трэба будзе забіваць. Лічыў, што вайна — гэта такі стан, калі людзі не змогуць ніколі замірыцца. Гэта, маўляў, як кот з сабакам. Хоць заўсёды з цікавасцю назіраў, як сябраваў з катом наш хатні пёс.

Начная сустрэча перайначыла мае ўяўленні. Раніцой, лежачы на печы, спытаў у немца, чаму гэта яны б'юцца, калі могуць мірна піць гарэлку, нават цалавацца пры развітанні.

Той усміхнуўся, а потым сказаў:

— Вось закончыцца вайна, падрасцеш, прыедзеш у госці да маіх дзяцей. Упэўнены, што ты з імі біцца не будзеш. Будзеце сябраваць. Тады я і скажу, чаму. Прыедзеш?

Калі ён жывы, сустрэўся б з задавальненнем. І з ім, і з яго дзецьмі. Адказ на пытанне я ведаю, але выказаць думку — чарга за ім.

## ДЗЕЦІ — УСЮДЫ ДЗЕЦІ

Пры адным нямецкім афіцэры, які месціўся ў нашай хаце, быў хлапчук гадоў дванаццаці. Казалі нават, што гэта яго сын.

Звалі хлопчыка Ганс. Але мы добра ведалі пераклад гэтага слова — гусак, а пагэтаму, каб не так абразліва яно гучала, назвалі яго па-свойму — Геня. Да гэтага імені ён хутка прывык.

Хлопчык цэлымі гадзінамі гуляў з мясцовымі дзецьмі ў лапту ці хованкі. Ад мяне навучыўся гуляць у цурку і ножык. Разам мы рабілі з лазовай кары свісцюлькі, нешта накшталт жалейкі.

Нас крыху здзіўляла тое, наколькі патрабавальна Геня адносіўся да гульні. Ніколі не пагаджаўся, калі яму рабілі нейкую палёгку, што ніяк не вязалася з на-

шымі адносінамі да гэтага: дзе маглі, мы не ўпускалі магчымасці каго-небудзь абдурыць, атрымаць нейкую выгаду. Прызнаюся, Геня на нас вельмі паўплываў. З яго потым нават многія пачалі браць прыклад.

У Гені быў веласіпед, на які ён часта садзіў мяне і вазіў па вёсцы. Салдаты, як добрага знаёмага, віталі хлопчыка.

Часцей за ўсё нашыя паездкі заканчваліся каля вайсковай кухні. Тут нас амаль заўсёды кармілі. У адрозненне ад мяне Геня еў мала. Але напрыканцы стараўся як мага паўней набіць ежай, часцей за ўсё хлебам, кішэні, нават сваю пілотку і маю кепку.

Нагружаныя, адпраўляліся ў канец вёскі, дзе заўсёды збіраліся вясковыя дзеці. Забіраліся ў кусты і калектыўна ласаваліся прывезеным. Сам Геня, памятаю, у сумесным абедзе ўдзелу не прымаў. Умешваўся толькі тады, калі мала даставалася малодшым. На гэты выпадак у яго шматлікіх кішэнях заўсёды быў запас.

Маці мая мыла і цыравала яго адзенне. Нават купала разам са мной. Хлопчык дзесьці даставаў мыла і соль. Неяк прынёс вялікі буталь газы. А гэта тады было найвялікшым багаццем.

Аднойчы хлопчык разам з групай салдат паехаў на аўтамабілі, казалі, у Маслакі, што ў Горацкім раёне. Па дарозе яны былі абстраляны партызанамі. Дамоў Геню і яшчэ некалькі салдат прывезлі мёртвымі.

Смерць Гені ўсе вяскоўцы, асабліва мы, дзеці ўспрынялі вельмі балюча. Клопаты па яго пахаванні вяскоўцы ўзялі на сябе. Дзед са сваім братам зрабілі труну. Пераканалі немцаў, што адпраўляць дзіця ў апошні шлях у вайсковай форме дрэнна. За ноч пашылі яму цывільнае адзенне. Мясцовыя хлапчукі і дзяўчынкі зрабілі з дзеразы вянкі, прынеслі шмат палявых кветак.

Дзень і ноч чыталі каля нябожчыка адну з захаваных у нас царкоўных кніг. Дзед некуды паехаў і прывёз нават святара. Зрабілі адпяванне.

Некаторыя нямецкія салдаты стараліся супакоіць мяне, бо я ні на хвіліну не адыходзіў ад труны, адмовіўся ад ежы і не лёг у тую ноч спаць. Афіцэр-апякун увесь час ляжаў з адкрытымі вачыма, адвярнуўшыся тварам да сцяны. Усе баяліся яго чапаць. Не ведаю, ці прымаў ён удзел у пахаванні наогул.

На мясцовыя могілкі мяне не пусцілі. Палічылі, што мне яшчэ рана глядзець, як закопваюць чалавека. Пакінулі з жанчынамі, якія рыхтавалі жалобны стол. Да памінак дапусцілі нават некаторых нямецкіх салдатаў. Тыя вялі сябе паважліва, выконвалі ўсе патрабаванні вяскоўцаў, што датычыліся пахавальных правілаў.

Праз некалькі дзён, калі немцы пакінулі вёску, маці накінулася на партызан з папрокамі, чаму яны стралялі ў дзіця. Тыя, як маглі, апраўдваліся. Даказвалі, што гэта не яны. Калі адзін з іх заікнуўся пра яблыню і яблык, то рэакцыя на гэта была такой, што ён куляй выскачыў з хаты, а наўздагон паляцела запушчанае ў яго пустое вядро.

Памятаю, што я тады поўнасцю быў на баку маці, на гэты раз стараніўся партызан, нават ад прапанаванага імі сахарыну адмовіўся.

## ВЫЗВАЛЕННЕ

Трэба сказаць, што наша і суседняя вёскі за час вайны амаль што цалкам уцалелі. У пачатку вайны, калі не лічыць бамбардзіроўку аэрадрома ды налёты савецкіх самалётаў, калі тут скапліваліся немцы, вялікіх сутыкненняў не было. Больш даставалася чыгунцы, якая бегла праз Копысь.

Адступалі немцы тут таксама без бою. Пабудаваную перад Дняпром лінію абароны яны пакінулі без супраціўлення. У апошнія дні перааралі поле даваеннага вайсковага аэрадрома.

У дзень адступлення кіламетры за тры ад вёскі стаяла суцэльная сцяна пылу. Гэта за Днепр каціліся нямецкія часці. Часам наляталі савецкія самалёты. Тады парушаўся гэты парадак. Але ў адказ ад дарогі стрэлаў не было чутна.

Партызаны, нават хлапчукі і дзяды, быццам у ціры, пастрэльвалі з бліжэйша-

га лесу. Беспрыцэльна, прама па пыльнай сцяне. Але немцы амаль што не адказвалі. А мо і не чулі з-за моцнага грукату тэхнікі.

Стаялі вельмі сонечныя дні. Усе жыхары высыпалі на вуліцу, махалі рукамі і хусцінкамі, калі пралятаді самалёты. Тыя ў адказ неяк качаліся з крыла на крыло і працягвалі «працаваць» над пронцаўскай і зубаўскай дарогамі. Дарэчы, і купалаўскім Ляўкам даставалася.

І вось аднойчы, калі ўсе выскачылі прывітаць чарговае звяно «ястрабкоў», тыя зрабілі разварот над вёскай і скінулі бомбы на мясцовы могільнік. З другога развароту была ўшчэнт разнесена бліжэйшая пуня, загарэлася хата.

Не паспелі яшчэ затушыць пажар, як убачылі, што ізноў імчыцца тройка самалётаў. Усе кінуліся хавацца. Але самалёты пранесліся над вёскай і зноў высыпалі з дзесятак бомбаў на могільнік суседняй вёскі, дзе, мы ведалі, стаяла некалькі нямецкіх зенітак.

Сталася так, што гэтае ж звяно самалётаў пазней перабазіравалася на наш аэрадром. Выявілася, што на могільніку нашай вёскі мясцовы жыхар гнаў самагон, што першы раз і дэзарыентавала лётчыкаў. Другі раз яны зрабілі сваю справу беспамылкова.

Калі мы прыбеглі на разбомблены суседні могільнік, то ўбачылі перакуленыя і пакарэжаныя зеніткі. Абслуга іх ці то загінула, ці то разбеглася. Убачылі толькі аднаго яшчэ жывога нямецкага салдата, у якога былі адарваны абедзве нагі. У руках яго быў аўтамат, а таму да яго падыходзіць пабаяліся. Калі мы пакідалі могільнік, ён ужо быў мёртвы. Нехта забраў яго зброю.

Праз дзень з'явілася першая невялікая каманда савецкіх салдат. Яны пачалі прыводзіць у парадак перакапанае аэрадромнае поле. Ці то нехта падаў каманду, ці то па сваёй ініцыятыве на дапамогу ім выйшлі жыхары ўсіх навакольных вёсак. Працавалі ўсю ноч і дзень. Маці ўзяла мяне з сабой таксама. Ноччу я спаў на адной са скрынь з фугаскамі.

За ноч з Оршы на аэрадром было завезена столькі боепрыпасаў, што імі заставілі ўсё поле. Заставаліся толькі вузкія праходы для ўзлёту і пасадкі самалётаў.

Транспартныя самалёты, якія перавозілі зброю некуды ў іншае месца, загружаліся толькі мясцовымі жыхарамі. Мяне лётчыкі нават пускалі ў кабіну. Пакуль ішла пагрузка, вельмі цікава было мацаць кнопкі, рычагі і рычажкі або проста сядзець за штурвалам, уяўляючы сябе пілотам. Вядома, кожны з пілотаў стараўся чым-небудзь пачаставаць мяне.

Пілоты «ястрабкоў» часцей за ўсё нават не вылазілі з кабін самалётаў. Папаўняліся гаручым, атрымоўвалі камплект боепрыпасаў і зноў падымаліся ў паветра, нібы выходзілі на звычайную работу. Адзін з іх кожны раз адразу пасля пасадкі нават засынаў на некалькі хвілін. Спаў так моцна, што пасля дазапраўкі яму заўсёды хорам крычалі, каб прачынаўся і вызваляў узлётную паласу.

За ўвесь час не было такога выпадку, каб самалёт не вярнуўся. Таму за пілотаў ніхто нават не хваляваўся. Адзін з іх нават браў з сабой дзяўчат. Жадаючых пракаціцца на самалёце было шмат, але ніхто не адважваўся рабіць гэта паўторна. Звычайна вылазілі з кабіны зусім пазелянелымі, доўга адлежваліся на зямлі.

Перавага нашай авіяцыі ў паветры была такой, што аэрадром амаль ніхто не ахоўваў. Аднойчы паблізу з'явіўся нямецкі самалёт. Два нашы самалёты, якія толькі што падняліся ў паветра, змянілі курс і неяк зусім проста, як бы між іншым, на вачах ва ўсіх збілі яго. А потым леглі на ранейшы курс, адбамбіліся за Дняпром і таксама прывычна селі зноў на аэрадроме.

Яшчэ некалькі дзён за Дняпром чутны былі выбухі бомбаў і снарадаў. Але для нас гэта ўжо было іншае жыццё. Жылі, нягледзячы на ўзрост, надзеямі і спадзяваннямі. Якімі? Аб гэтым мы яшчэ самі не ведалі. Але гэта былі светлыя чаканні.

## «ЗРАЗУМЕЕШ ПОТЫМ, СЫНОК»

Неяк да нас прыехаў адзін раённы начальнік. Нехта напісаў ананімку аб тым, што ў час вайны жыхары вёскі з захаваннем усіх рытуалаў пахавалі забітага партызанамі немца. Пачаўся допыт дзеда. Я знаходзіўся ў хаце і не прапускаў ні слова з таго, аб чым размаўлялі дарослыя.

Дзед расказваў, што адбылося. Тут я не вытрымаў, умяшаўся, з запалам пачаў даказваць, які Геня быў добры хлопчык.

Маці памкнулася вывесці мяне з хаты, але госць папрасіў яе не перашкаджаць мне. Слухаў уважліва. Калі я скончыў, ён адразу пасур'ёзнеў. Памятаю, моцна сціснуў над галавой кулак, зрабіў замах, а потым павол апусціў яго на стол. Я шмат гадоў заўсёды ўспамінаў гэты жэст, асабліва тады, калі ў складаных абставінах патрабавалася вытрымка. Доўга сядзеў, а потым падхапіў мяне, схаваў свой твар на маім плячы і вымавіў:

— Добрыя вы людзі. А вось маю жонку і сына яны не пашкадавалі — забілі.

Я раней думаў, што начальнікі і ваенныя не могуць плакаць. А тут зразумеў, што гэта не так.

Усе дарослыя нашай сям'і пачулі сябе няёмка і пакінулі хату. А мы засталіся ўдвух. Адразу адчуў, што ад гэтага чалавека быццам нешта пераліваецца ў мяне. Напэўна, невыказанае бацькоўскае. У сваю чаргу я вельмі шкадаваў, што ў яго няма сына. Прытуліўся да госця, адчуваючы, як ад мяне самога ідзе да яго сваё, дзіцячае, нявыплаканае, мабыць, сыноўняе. На момант здалося, што мы нешта адзінае, неразрыўнае. Хацелася, каб гэта доўжылася даўжэй, бо без гэтага немагчыма жыць. Неяк захацелася самому замяніць яму сына.

Аляксей — так называлі госця — яшчэ некалькі разоў прыязджаў да нас. Больш размаўляў з маці. Я заўсёды з нецярплівасцю яго чакаў, бо ён шмат увагі надаваў і мне. Прызнаюся, што нават у юнацкія гады я стараўся быць падобным на гэтага чалавека. Пераняў многія яго звычкі. Асабліва патрабавальнасць да сябе. Нават манеру размаўляць, гаварыць толькі самае неабходнае. Да гэтага часу памятаю кінутую ім па-беларуску фразу: «Плявузгаеш нешта абы-што».

Аднойчы Аляксей прыехаў у ваеннай форме з мноствам ордэнаў і медалёў. У прысутнасці ўсіх папрасіў маці выйсці за яго замуж. Тая падышла, прыгарнула да сябе яго галаву, доўга трымала. Потым вымавіла:

— Дзякуй, Лёша. Не трэба больш прыязджаць. Прабач. Я замужняя жанчына і буду чакаць бацьку свайго сына.

Памятаю, дзед, бабуля, цёткі ды і ўсе вяскоўцы доўга яшчэ папракалі яе за гэта. Маўляў, мужа ўжо не вернеш, а тут такое шчасце... Але яна нават і не рабіла спробы пры гэтым апраўдвацца.

Праз некалькі тыдняў Аляксей ізноў прыехаў і прывёз выпраўленую пахаванку на майго бацьку. Справа ў тым, што ў раней атрыманым дакуменце было перablытана імя па бацьку, а таму маці не маглі налічыць грашовую дапамогу на сына загінуўшага салдата.

Паміж Аляксеем і маці адбылася тая ж размова. На гэты раз маці доўга маўчала, а потым сказала:

— Я больш за ўсё, Лёшачка, баюся цябе пакахаць. Прашу, не муч больш мяне.

Праўду кажучы, я быў вельмі засмучаны яе словамі. Нават спытаў у маці, чаму яна так зрабіла. У адказ пачуў:

— Зразумееш потым, сынок.

Праз колькі гадоў я, вядома, яе зразумеў, але ў той час пагадзіцца з ёй не мог.



ВАЛЯНЦІНА ЛОКУН

# У АБСЯГАХ «ЛІТАРАТУРЫ ФАКТА»

## *АРТЫКУЛ ТРЭЦІ**

Томас Ман у прадмове да свайго рамана «Чароўная гара» пісаў, што пасля Вердэна пачалося нешта такое, што сутнасна змяніла свядомасць чалавека і эстэтычную свядомасць. Гэтыя словы пісьменніка можна лічыць прарочымі. Пад імі маглі падпісацца нават і тыя пісьменнікі, якія прыйшлі ў літаратуру праз дваццаць-трыццаць гадоў, змяніўшы толькі геаграфію і ўзмацніўшы эмацыянальнае гучанне. «Пасля Асвенціма паэзія немагчыма», — скажа даследчык сучаснай літаратуры Адарно ў сваёй знакамітай працы «Панарама сучасных ідэй» (1982). Асвенцім раскалоў гісторыю. Ён увасабляў такое жудаснае насілле над асобаю чалавека, што паэзіі, літаратуры ў цэлым прыйшлося перагледзець свае прынцыпы, якія складваліся тысячагоддзямі. Асвенцім не толькі знішчыў паэзію ў ранейшым яе разуменні. Ён яшчэ прымусіў мастацтва задумацца над вялікай каштоўнасцю чалавечага існавання.

Думка аб краху гуманістычнай свядомасці трывала ўвайшла ў абыходжанне XX стагоддзя, і пачатак гэтаму быў пакладзены працай О. Шпенглера «Канец Еўропы» («Закат Европы»). Але Шпенглер быў усяго толькі «разумнай малпачкай Ніцшэ» (выраз Томаса Мана). Жорстка пакрытыкаваўшы хрысціянскую этыку, Ніцшэ аб'явіў аб смерці Бога, пасля чаго пасмяяўся з чалавека («Чалавек — назва хваробы»), што, па сутнасці, было выклікам усёй сістэме гуманістычных каштоўнасцей. Узамен любові да бліжняга, узамен дабрыні і міласэрнасці ў цэнтр увагі былі пастаўлены помста і вайна, «шчасце нажа» і «воля да гібелі». Звышчалавек Ніцшэ проціпастаўляўся чалавеку, які скарыўся і страціў веру. Філосаф даваў свету новага героя — чалавека, які скінуў свае ланцугі і прагнуў абсалютнага самасцвярджэння. У гэтым абсалютызме пранíклівы У. Салаўёў заўважыў і «добры бок», сцвярджаючы, што «Звышчалавек» павінен быць перш за ўсё і асабліва пераможцам смерці». Канцэпцыя чалавека як асобы моцнай і яркай, асобы, якая здольна ўзняцца над існуючымі адносінамі і пераўтварыць свет, — гэта канцэпцыя, дарэчы, пераклікаецца з бальшавіцкай тэорыяй новага чалавека. Прынамсі, новы чалавек, альбо чалавек будучыні, стаўся сакральным вобразам савецкай літаратуры 20 — 30-х гадоў. Малады М. Горкі, рускі пралетарскі пісьменнік, у пэўны час моцна захапіўшыся вучэннем Ніцшэ, ужо ў 1909 годзе

---

* Артыкулы першы і другі чытайце: «Полымя». 2002, №№ 1, 2.

напіша артыкул «Разбурэнне асобы». У той жа час, вызваляючыся з-пад уплыву ідэі чалавека-індывідуаліста, пісьменнік сказаў і нешта зусім іншае: «Сама па сабе, па-за сувяззю з калектывам, па-за сферай якой-небудзь шырокай ідэі, што паядноўвае людзей, індывідуальнасць — інертная, кансерватыўная і варожая развіццю жыцця». У сувязі з гэтым нагадаем: катэгорыя калектыўнага была неад'емнай ад сістэмы сацыяльных узаемаадносін у абсягах сацыялістычнай грамадскасці.

Такім чынам, еўрапейская літаратура першай паловы XX стагоддзя апынулася перад непазбежным выбарам.

З аднаго боку, рэльефна ўзвышалася творчасць Дж. Джойса, чый «Уліс» успрымаўся як «арэчаўленыя ў слове пакуты гуманізму» (М. Астаф'еў). У гэтым жа кірунку працаваў У. Набокаў, які пастаянна, хоць і двухсэнсоўна, азіраўся на аўтара «Уліса»: там, дзе Джойс бачыў страшную, пакутлівую праблему, Набокаў з самага пачатку ведаў яе вырашэнне. У творчасці пісьменніка літаратура XX стагоддзя рашылася на адчайны крок — парвала з гуманізмам. З другога боку, на ўвесь свет заяўляла пра сябе горкаўскае: «Чалавек — гэта гучыць горда». Праўда, быў яшчэ і Л. Талстой, які лічыў чалавека «тварэннем усёмагутнага, найдобрага, усёбачнага бога», а «дабрыню чалавека — у дабрыні іншых істот». Якім жа шляхам ісці? Назад да скампраметаваных, але, магчыма, невычэрпных каштоўнасцей гуманізму, або да «прыгодніцкага пісьма», «пісьма міфалагізаванага», у духу «новага рамана»?

У пошуках адказаў на гэтыя вострыя пытанні позіркі майстроў міжволі спыняліся на Асвенціме. Менавіта гэты страшны сімвал чалавечых пакут, (Асвенцім і ўсё, што ў ім увасобілася), і стаў той трагічнай кропкай адліку новага часу, якая значна паўплывала на агульналітаратурны выбар. Але ў кожнай з нацыянальных літаратур выбар быў — свой. І асабліва гэта датычыць літаратур усходне-еўрапейскіх, якія пасля другой сусветнай вайны пайшлі па сацыялістычнаму шляху развіцця.

Што да літаратур еўрапейскіх, літаратур сацыялістычных краін 40-х — пачатку 50-х гадоў, то ўслед за савецкай літаратурай гэтыя абсягі творчай працы пачалі пранікацца думкай, што другая сусветная вайна стварыла ўмовы для фарміравання новага чалавека, чалавека сацыялістычнага грамадства. «Я разумею, што ў вас не вайна, а рэвалюцыя», — адзначыць адзін з герояў рамана «Раніца» сербскай пісьменніцы Міры Алечковіч. «Гады вайны, панавання фашызму, акупацыі, — адзначыць услед за сербскай пісьменніцай В. Хораў, — былі для еўрапейскіх сацыялістычных краін і гадамі нацыянальнай трагедыі, і часам праяўлення найвысокага гераізму». Канкрэтны гістарычны момант накладваўся на псіхалогію індывіда, у значнай ступені трансфармуючы яе, і працэс гэты быў складаны, балючы, у розных літаратурах працякаючы з улікам нацыянальнага, эстэтычнага і культурнага вопыту. Ці не таму, калі для савецкай літаратуры 40-х гадоў заканамерным быў аспект гераічнасці, дакладней, трагічна-гістарычны, то ў некаторых іншых літаратурах, і найперш у польскай, шмат увагі надавалася сацыяльна-матэрыяльнаму «блуканню па пакутах». Праблема выхавання альбо нават перавыхавання чалавека непасрэдна судакраналася і перакрыжоўвалася з праблемай нацыянальнай свабоды. Рана ці позна павінен быў «перавыхавацца» нават той, хто самаадданa процістаяў фашызму. І ў гэтым — адметнасць польскага рамана, што было вынікам пэўных гістарычных прадпасылак. Прынамсі, варта нагадаць, што акупацыя Польшчы была найбольш працяглай — шэсць гадоў. Краіна ператварылася ў самы вялікі крывавы засценак Еўропы, на тэрыторыі якога былі размешчаны каля 1900 лагераў смерці і лагераў для ваеннапалонных, шматлікія турмы, гета і іншыя «прадпрыемствы» ці «фабрыкі» для знішчэння людзей. Па афіцыйных даных, з 1 верасня 1939 года па 8 мая 1945 года немцы «ліквідавалі» больш за шэсць мільёнаў палякаў. Акрамя таго, каля двух з паловай мільёнаў польскіх грамадзян было вывезена на прымусовую працу ў Германію і іншыя еўрапейскія краіны[1].

---

[1] Даныя ўзяты з артыкула: Пиотровская А. Г. Польская литература «времени бурь» // Литература антифашистского Сопротивления в странах Европы. 1939—1945. М., 1972. С. 103.

Падчас другой сусветнай вайны Польшча страціла 22% насельніцтва, практычна кожны паляк быў пад пагрозай знішчэння, расстрэлу альбо арышту. Што да задач, якія стаялі перад тагачаснай літаратурай, то на першы план выступала праблема асэнсавання трагічных урокаў гісторыі, усяго перажытага нацыяй у «эпоху крэматорыяў». Антыфашысцкі пафас стане галоўнай асаблівасцю польскай літаратуры, якая да таго ж засвойвае і новую для сябе ідэю сацыялістычнай дзяржаўнасці як аснову палітычнага развіцця будучай Польшчы. З гэтага моманту літаратура Польшчы і пачала дыстанцыравацца ад еўрапейскага эстэтычнага вопыту, набліжаючыся да вопыту літаратуры савецкай. З аднаго боку, польская літаратура 40-х гадоў працягвала шматвекавыя класічныя традыцыі Яна Каханоўскага, Адама Міцкевіча, Юліуша Славацкага, Юзафа Ігнацыка, Марыі Канапніцкай, Генрыха Сянкевіча, Стэфана Жэромскага, Станіслава Выснянскага, а таксама традыцыі міжваеннага дваццацігоддзя (1918—1939). З другога — у польскім літаратурным мегаполісе ствараліся жанравыя структуры, што адпавядалі новаму жыццёваму зместу. Наноў адрадзілася «літаратура факта» як адмысловая форма «супрацоўніцтва» пісьменніка і гістарычнага факта ў катэгорыях жывой, рэальнай рэчаіснасці. Гэта была форма прамога ўздзеяння мастацкага твора на чытача. А значны эстэтычны рух атрымаў распаўсюджанне ў 20-я гады, па сутнасці, ва ўсіх еўрапейскіх літаратурах, але пачатак яго варта шукаць у літаратуры савецкай. Што да літаратуры беларускай, то такую ролю ў нашым прыгожым пісьменстве адыгрывала аб'яднанне «Маладняк». І хаця «літаратура факта» як мастацкі кірунак запраграмавала ўнутры сябе «бар'ер», які загадзя абмяжоўваў яе творчыя магчымасці (абсалютызацыя дакумента, факта жыцця, абмежаванне або адмаўленне ролі мастацкага вымыслу, фантазіі), тым не менш узятыя ёю ідэі «аўтэнтычнасці», дакладнасці твора, «адданасць» канкрэтнаму, рэальнаму жыццю, ідэя фактаграфічнай адпаведнасці, распрацаваныя прыёмы літаратурна-мастацкага засваення дакумента — усё гэта, безумоўна, садзейнічала развіццю мастацка-дакументальнай прозы. Менавіта «літаратура факта» аднавіла жанры нарыса, рэпартажа, замалёўкі, якія свабодна ўвайшлі ў сістэму чыста мастацкіх прыёмаў рамана. Абноўлены і ўзбагачаны новым гістарычным часам і эстэтычнымі здабыткамі жанр «літаратуры факта» ў савецкай літаратуры з новай сілай «успыхнуў» у «лейтэнанцкай прозе» канца 50 — 60-х гадоў (В. Быкаў, Р. Бакланаў, Ю. Бондараў). Асаблівы мастацкі дакументалізм стане найбольш распаўсюджаны і ў польскай літаратуры 40-х гадоў, склаўшы асобны яе кірунак, да якога можна аднесці выдатныя творы Е. Путрамента, З. Унілоўскага, А. Рудніцкага.

Гэта быў выпакутаваны дакумент свайго часу, аднак літаратура першых пасляваенных гадоў, як ні парадаксальна, была пры гэтым выразна суб'ектыванай і натуралістычна-пачуццёвай. Такой жа прыходзіла да шырокага чытача і літаратура беларуская, руская, украінская. З'яўляліся кнігі-дакументы, кнігі-абвінавачванні, кнігі, выпушчаныя часам і людзьмі. Свой «Рэпартаж з пятлёй на шыі» Ю. Фучык стварае падчас зняволення ў фашысцкай турме. І. Шамякін і В. Някрасаў (раманы «Помста» і «У акопах Сталінграда») стварылі свае творы па гарачых слядах падзей. Адразу ж пасля вайны ў Балгарыі былі апублікаваны пісьмы Тадора Паўлава «Промні з апраметнай», напісаныя ў перыяд знаходжання аўтара ў турме. Здзіслаў Страінскі напісаў сваё «Апавяданне» пасля таго, як сам правёў некалькі месяцаў у знакамітым Павеку. Згадваюцца і творы нядаўніх вязняў канцэнтрацыйных лагераў: Севярыны Шмаглеўскай — «Дым над Біркенау» (1945), Міхаіла Русінека — «З барыкады ў даліну голаду» (1945), Густава Марцынека — «Запіскі з-пад шаўкоўніцы» (1945). Паводле сцвярджэння даследчыка А. Піатроўскай, у польскай літаратуры акупацыйнага перыяду «не было прозы, якая б займалася «чыстым мастацтвам». Тэндэнцыя «падтрымкі духу» (выраз Г. Сянкевіча), паводле сцвярджэння даследчыцы, стала адным з адметных кірункаў прозы супраціўлення. І ў сувязі з гэтым варта назваць аповесць Аляксандра Камінскага «Каменне для рэдута» (1943). «Каменне для рэдута», як вялікі твор літаратуры супраціўлення (падпольнае выданне на 200 старонак), вядома, было з'явай рэдкай. Гістарычна-канкрэтны змест твора А. Камінскага заснаваны на

агульнавядомых фактах, звязаных з дыверсійнай дзейнасцю «Шэрых шэрагаў» у Варшаве з вясны 1941 па 1943 гады. Героі аповесці — рэальныя людзі, якіх А. Камінскі ведаў блізка. У плане вобразна-стылёвым твор польскага аўтара ў многім набліжаецца да традыцый «Маладой гвардыі» А. Фадзеева. Рэалізм як праўда жыцця саступае месца прынцыпу ідэалізацыі. Створаны станоўчы ідэал барацьбы супраціўлення амаль ідэальна ўпісваецца ў кантэкст савецкай літаратуры канца 40-х — 50-х гадоў.

Ля вытокаў пасляваеннай польскай прозы стаіць і дакументальная творчасць З. Налкоўскай[1]. Пісьменніца перажыла акупацыю Варшавы, адлюстравала фашысцкае нашэсце ў запісах, выдадзеных пад назвай «Медальёны» (1945).

«Медальёны» — найбольш яркі прыклад мастацка-дакументальнага ўвасаблення акупацыйнай тэмы ў польскай прозе першых пасляваенных гадоў. Менавіта з «Медальёнаў» — гэтай наватарскай па глыбіні і характары раскрыцця ваеннай тэмы і канцэпцыі чалавека кнігі — і пачалося адлюстраванне «эпохі крэматорыяў». З. Налкоўская абрала формай адлюстравання прызнанні непасрэдных сведкаў злачынстваў, чые апавяданні пазначаны асаблівай стрыманасцю, аб'ектываванасцю, нібыта ў аснову твораў пакладзены старадаўні эпічны прынцып — «без гневу і заўзятасці». У беларускай літаратуры да гэтай жанравай традыцыі пазней звернуцца А. Адамовіч і С. Алексіевіч. Дакументалізм, які А. Адамовіч назваў «звышлітаратурай», максімальна садзейнічаў стварэнню мастацкага вобраза вялікай эмацыянальнай сілы. Дакладнасць і лаканізм азначаных вобразаў-малюнкаў спалучаюцца з філасофскім абагульненнем, роздумам аб маральнай сутнасці чалавека сярэдзіны XX стагоддзя.

З. Налкоўская, дарэчы, зыходзіла з пераканання, што чытача ў большай ступені, чым аўтарскі каментар, усхвалююць «голыя», страшныя па сутнасці сваёй факты, знешне бясстрасныя сведчанні ахвяр насілля, ад імя якіх і вядзецца гаворка. Называючы «Медальёны» «сапраўдным трагічным дакументам эпохі», крытык Я. Станюковіч у сваёй прадмове да «Выбранага» пісьменніцы папярэдзіў станоўчыя ацэнкі творчасці З. Налкоўскай польскім даследчыкам літаратуры К. Выкам. «Сціплая па задуме кніга Зофіі Налкоўскай, — пісаў К. Вык у 1947 годзе, стала такім адметным літаратурным фактам, што прымушае крытыка спачатку адысці ад уражання: якая гэта цудоўная кніжка! А ўсяго ж толькі некалькі дзесяткаў старонак прозы, настолькі сціслай, быццам яе дасталі з-пад прэса ўсіх жахаў лагернага жыцця. Гэта, бясспрэчна, самы каштоўны ў мастацкім плане і самы ашаламляльны дакумент, які наша пасляваенная творчасць процівпаставіла жахам вайны» (Налковская З. Избранное. М., 1979. С. 12). Руская даследчыца польскай літаратуры А. Піатроўская назвала «Медальёны» з'яваю «глыбокага філасофскага абагульнення», у якой выразная абвінаваўчая накіраванасць арганічна спалучаецца з сапраўдным гуманізмам літаратуры новага тыпу.

Ад адзіноты і горкіх расчараванняў свайго часу З. Налкоўская шукала выратавання ў сферы чалавечага розуму і яго здабыткаў, адлюстраваных у філасофскіх працах і мастацкай літаратуры. Парадаксальна, але творчасць пісьменніцы пачыналася ў рэчышчы мадэрнісцкай прозы. Звяртаючыся да рэвалюцыйных падзей 1905—1907 гадоў, З. Налкоўская адлюстроўвала не столькі самі падзеі, колькі перажыванні герояў. Першая сусветная вайна, як засведчыла сама пісьменніца, радыкальна змяніла яе светапоглядныя арыенціры: «У сваіх кнігах я думала аб каханні і думала, што кожны мае на яго права. Я пісала таксама аб мастацтве, аб прыгажосці філасофскага мыслення... Усё гэта змянілася, калі пачалася вайна. Свет быў парушаны дарэшты. І я ўбачыла, што азначае — іншы чалавек, што такое — людзі. Убачыла тое, аб чым дасюль мне было мала вядома, — чалавечыя пакуты...»

---

[1] Польская пісьменніца З. Налкоўская звязана і з Беларуссю. З 1922 па 1927 год яна жыла ў Гродне. Жыццё «на крэсах» пакінула вялікі след у творчасці пісьменніцы. Ужо ў яе першым палітычным творы міжваеннага перыяду («Раман Тэрэзы Генерт») адлюстроўваецца менавіта гродзенская тэма. Прысутнічае яна і ў адной з апошніх публікацый пісьменніцы «Вузлы жыцця».

Як член Галоўнай камісіі па расследаванні фашысцкіх злачынстваў у Польшчы пісьменніца аперыравала дакладнымі фактамі і лічбамі, што былі ўзяты ёю з дакладных крыніц. Менавіта чалавечыя пакуты — той структурны «цэнтр» «Медальёнаў», той галоўны мастацкі «вобраз», дзякуючы якому пісьменніца засведчыла, што ступень чалавечага болю павялічваецца адпаведна ролі суб'ектыўнага фактара. Нездарма аўтарка падкрэсліла гэта эпіграфам выдання: «Людзі людзям прызначылі гэты лёс». Павернутая да вострай сацыяльна-эстэтычнай праблематыкі кніга З. Налкоўскай моцная найперш у плане ўздзеяння мастацкага тэксту на псіхіку, пачуцці чалавека. Пісьменніца прызнавалася: «Калі мы ў думках паспрабуем сабе ўявіць тую агромністую фабрыку смерці, якая ўвесь час незалежна ад таго, дзе праходзілі ваенныя дзеянні, укаранялася на тэрыторыі Польшчы, то, акрамя жаху, самым моцным з усіх пачуццяў будзе, напэўна, здзіўленне». Дзівяць не толькі маштабы генацыду, дзівіць колькасць ахвяр. У польскіх лагерах смерці «ў сыравіну і тавар» былі ператвораны нават не сотні тысяч, а мільёны чалавечых жыццяў. Попел ад касцей ішоў на ўгнаенне, тлушч — на мыла, скура — на выпрацоўку скураных вырабаў, валасы — на матрацы. Адзін з аповедаў пісьменніцы — пра анатамічны інстытут у Вжэшчы, дзе ўсімі працамі кіруе доктар Шпанер (навела «Прафесар Шпанер»). Сюды завозяць мерцвякоў адусюль: з лагераў Штудгофе, з Кёнігсберга, з Эльблонга, з усяго Памор'я. Калі ж у гданьскай турме пачала дзейнічаць гільяціна, трупаў стала хоць адбаўляй. Анатамічны інстытут, па сутнасці, ператварыўся ў мылаварню, дзе мыла варылі з чалавечага тлушчу.

Пісьменніца ўважліва ставіцца да кожнай дэталі, кожнага адцення, руху ці фарбаў. Усё — значнае, усё — патрэбнае. У выніку ствараецца ўразлівы малюнак вялікай эмацыянальнай сілы, які варта прывесці амаль цалкам: «Спачатку (пераклад на беларускую мову наш. — **В.Л.**) мы спусціліся ў прасторны напаўзмрочны лёх. Асветленыя промнямі дня, якія падалі праз вокны, мерцвякі ляжалі тут гэтак жа, як і ўчора. Іх голыя светла-крэмавыя маладыя, нібыта высечаныя з мармуру, целы добра захаваліся, хоць шмат месяцаў чакалі той хвіліны, калі нарэшце не будуць больш патрэбныя.

Яны ляжалі ў доўгіх цэментных басейнах, як у саркафагах, з адкрытымі накрыўкамі, шарэнга за шарэнгай, адзін за адным. Рукі нябожчыкаў былі выцягнутыя ўздоўж цела, а не складзеныя на грудзях, як таго патрабуюць пахавальныя правілы. Галовы адрэзаны ад торсаў так роўна, нібыта і на самай справе былі каменныя. У адным з такіх саркафагаў на самым версе, на грудзе мерцвякоў, усё гэтак жа ляжаў згаданы намі раней «марак», без галавы, добра складзены, моцны, як малады гладыятар.

Два чаны ўжо былі даверху запоўнены адрэзанымі ад целаў і пабрытымі нагола галовамі. Яны ляжалі як папала, як насыпаная ў лёх бульба: адзін на баку, нібыта ўладкаваўшыся на падушцы, іншыя тварам уніз, трэція на патыліцы. Жаўтаватыя і гладкія, роўненька адрэзаныя ад шыі, нібыта каменныя, яны таксама былі цудоўна закансерваваныя. /.../ Далей зноў былі басейны з мерцвякамі, а за імі зноў чаны, і ў іх разрэзаныя папалам, пасечаныя на часткі чалавечыя целы, з якіх знялі скуру. Жаночыя трупы ляжалі ў асобным басейне, іх было няшмат. /.../ Разам з калегамі Шпанера з лёху мы накіраваліся ў чырвоны домік і там на застылай топцы ўбачылі вялізны кацёл, які быў напоўнены вязкай калатушай. Адзін з прысутных, які, напэўна, ужо пабываў тут раней, падняў засланку і качаргой выцягнуў з катла вывараны чалавечы торс са знятай скурай, з яго сцякала вадкасць.

У двух іншых катлах нічога не было, але непадалёку, на паліцах зашклёнай шафы, радамі стаялі старанна вывараныя чэрапы і бярцовыя косці. Мы ўбачылі таксама скрынку з акуратнымі стосікамі тонкіх пластоў аддзеленай ад тлушчу чалавечай скуры. На паліцы — слоікі з акустыкам, збоку — уманціраваны ў сцяну кацёл і вялікая печ — у ёй палілі косці і іншыя адходы.

І, нарэшце, на высокім стале — кавалкі мыла, белаватага і шурпатага, і некалькі металічных формачак, таксама са слядамі засохлага мыла».

З пункту гледжання высокай літаратуры, чаго ў дадзеным апавяданні больш,

рэалізму ці натуралізму, сказаць цяжка. Аднак найперш гэта жахлівая праўда жыцця, якая стала фактам незвычайнай па жанру літаратуры. Менавіта такой жахлівай праўдай пазней напоўніцца кніга А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калесніка «Я з вогненнай вёскі...» Адгорнем старонку, на якой распавядае адна з гераінь беларускай кнігі, сведка рукатворнага фашысцкага «апакаліпсіса». Паводле яе расказу, фашысты спачатку пабілі і спалілі ў хляве мужчын, потым узяліся за тых, сярод якіх была і распавядальніца: «А нас, шасцярых дзевак і адну жанчыну, якая была ў нас дэпутатам, — павялі ў пустую хату... Ну, мы ідзём туды... Ужо буду я гаварыць усё... Гаварылі, што яны здзекуюцца з дзяўчат. Ну, мы ідзём і пазгіналіся, каб не такімі маладымі здавацца. А той жанчыне, дэпутату, ён паказвае: «Садзіся!» Яна, праўда, не хоча садзіцца. Яна і сюды, і туды, гэтая баба. А ўсе астатнія паўскаквалі: а божа, прашчаюцца са сваімі! А гэтай жанчыне як далі сюды ў затылак, так зразу яна і кончылася. А я ўзяла і ўпала зразу на падлогу.

Адстралялі нас і пайшлі абратна. Другіх прыгналі.

У трэцюю вочарадзь ужо я пачула — сястрычка мая ідзе. Яна ўжо так плача: відна ж ёй — я наверсе яшчэ. Яна прама мне сюды на ногі ўпала... Забілі ўжо ў трэцюю вочарадзь.

Тады я ўжо ляжала, чакала, не ведаю, — чаго... І тут ужо столькі набілі! А потым — раз! — вокны павыбівалі і з кулямёта давай сюды біць... А людзі так ужо стогнуць! А я думаю, што мне рабіць, — ці мне вылазіць? Я думаю, што ўжо ўвесь свет — нідзе на свеце нікога няма. І відна было, што Акцябр гарэў. Дык думалася, што ўжо ўсё...»[1]

Першая сусветная вайна пакінула пасля сябе «згубленае пакаленне». Другая — пакаленне забітых, расстраляных, спаленых. Сімвалічна, што простая вясковая жанчына з беларускага Палесся праз уласны лёс, праз лёс сваіх вяскоўцаў адчула пагрозу і ўсяму свету, і ўсяму чалавецтву. Праз уласны эмпірычны вопыт узнялася да разумення вопыту агульначалавечага. І гэта — найвышэйшая ступень маральнасці, у якой закладзена пачуццё адказнасці за кожнага чалавека, будучыню.

Будучыняй заклапочана і гераіня аповеду «Двойра зялёная» польскай пісьменніцы З. Налкоўскай — яўрэйка з гета, якая была ў Майданаку, застаўшыся пасля ўсіх спазнаных пакутаў зусім скалечанай. Аднак прыслухаемся да яе споведзі: «Я хацела жыць, навошта? Ні мужа, ні сям'і ў мяне не было, адна я была на белым свеце, і ўсё роўна мне хацелася жыць (падкрэслена намі. — **В.Л.**). Я страціла вока, мёрзла, галадала, але хацела жыць. Навошта? Каб расказаць пра ўсё так, як я вам зараз кажу. Няхай свет ведае аб тым, што яны рабілі.

«Літаратура факта» імкнулася данесці трагічную праўду індывідуальных лёсаў. І праз гэтую, «індывідуальна-трагічную» праўду засцерагчы свет ад наступнай катастрофы. Але ці засцерагла?..

Творчасць С. Алексіевіч — якасна новая ступень «літаратуры факта», дзе гістарычны факт саступае месца трагедыі чалавечага лёсу («Зачараваныя смерцю»), трагедыі пакалення («У вайны — не жаночы твар», «Цынкавыя хлопчыкі», «Чарнобыльская малітва»). У З. Налкоўскай і А. Адамовіча катэгорыя зла была персаніфікаванай. Яе яшчэ можна было персаніфікаваць. «Чарнобыльская малітва» С. Алексіевіч прасякнута асаблівым, «чарнобыльскім» «безнадзейна-трагічным» адчуваннем, перапляценнем розных трагічных матываў. З аднаго боку, гэта — Чарнобыль. «У нас іншага свету ўжо не будзе... Адчуванне трагічнай аселасці на гэтай чарнобыльскай зямлі, зусім іншае светаўспрыманне. З вайны вярталецца «страчанае» пакаленне... Успомнім Рэмарка. А з Чарнобылем жыве «загубленае» пакаленне. Мы разгубіліся. Нязменнымі засталіся толькі чалавечыя пакуты...» І далей зноў паралель з вайной: «Увесь час параўноўваем з вайной. Але гэта большае... Вайну можна зразумець... А тут?» (Полымя. 1998, № 4. С. 101, 103).

---

[1] Адамовіч А., Брыль Я., Калеснік У. Я з вогненнай вёскі... Мн., 1983. С. 46.

Сёння выразна акрэслілася думка пра тое, што «літаратура факта» значна паўплывала на далейшае развіццё мастацкай свядомасці, быццам дакумент новай эпохі істотна замацаваў агульныя пазіцыі рэалістычнай літаратуры, традыцыі «Вайны і міру». І асабліва ў іх процістаянні мадэрнісцкай плыні з яе памкненнем у віртуальны свет. Што датычыць самой «літаратуры факта» як літаратуры чалавечага дакумента, то паступова адбывалася частковая трансфармацыя ў мастацка-дакументальныя жанры. У Балгарыі гэта В. Андрэеў («Яны пamіралі бессмяротнымі»), у Польшчы — Е. Путрамент («Паўвека»), у Беларусі — А. Адамовіч («Хатынская аповесць») і інш.

Для першага пасляваеннага дзесяцігоддзя было характэрным развіццё жанру шматпланавага рамана-эпапеі. Такія раманы, як «Памерлыя застаюцца маладымі» А. Зегерс, трылогія М. Пуйманавай «Людзі на раздарожжы», «Гульня з агнём», «Жыццё супраць смерці», Д. Дзімава «Табак», М. Лынькова «Векапомныя дні» і г. д., тыпалагічна збліжаліся з «Ціхім Донам» М. Шолахава і «Блуканнем па пакутах» А. Талстога. Т. Матылёва ўводзіць у абыходжанне тэрмін «раман аб пакутах гісторыі» (Вопросы литературы. 1972, № 5), маючы на ўвазе імкненне раманістаў да адлюстравання вялікіх сацыяльна-псіхалагічных канфліктаў, якімі суправаджалася ўсталяванне новага ладу жыцця, канфліктаў, трагічных па сваёй сутнасці.

У другой палове 40-х — пачатку 50-х гадоў у польскай літаратуры сцвярджаецца жанр панарамнага рамана. Гэта была тая структурная форма, у якой асабліва адчувальнымі былі змены літаратурнага клімату, звязаныя найперш з пераменай у сацыяльным жыцці, палітычнай і грамадскай свядомасці. Можна нават сказаць, што наступаў новы этап у развіцці польскай літаратуры, якая ўступіла ў цесны кантакт з савецкай літаратурай, што развівалася па канонах сацрэалізму. У выніку тэма вайны польскімі аўтарамі пачала асэнсоўвацца найперш з пазіцыі барацьбы і перамогі народна-дэмакратычных сіл, якія ўсведамляліся як сілы з сацыялістычнай арыентацыяй. У творах пераважае сацыяльная праблематыка, дамінуе соцыум. Лёс чалавека, індывідуальны лёс, які, на думку М. Дамброўскай, з'яўляецца «адзіным закончаным прадметам літаратуры і ўсялякага мастацтва», адыходзіць на другі план.

Раманы Е. Путрамента «Верасень» і В. Жукроўскага «Дні паражэння» (1952) пазначаны рысамі мастацкай дакументалістыкі. Пісьменнікі даследавалі прычыны паражэння Польшчы ў верасні 1939 года. Але разам з тым гэта ўжо і творы панарамнай літаратуры — па маштабнасці «геаграфічнай прасторы», па шырыні ахопу ваенных падзей. А яшчэ — гэта раманы дакументальныя і аўтабіяграфічныя. Менавіта на гэтыя важныя «фактары» абапіраецца ў беларускай літаратуры ваенная проза І. Шамякіна, І. Мележа, А. Кулакоўскага, І. Навуменкі. Усе яны прайшлі праз вайну і мелі ўнутраную патрэбу расказаць аб ёй.

В. Жукроўскі ў прадмове да свайго рамана падкрэсліў, што «ўсё ў гэтай кнізе перажыта асабіста». Дарэчы, Э. Хемінгуэй у свой час падкрэсліваў, што пісаць праўду аб вайне можа толькі той, хто сам там пабываў, «бо калі едуць (на вайну. — **В.Л.**) дванаццаць, а вяртаюцца толькі два, — то праўда, якую яны прывязуць з сабою, будзе сапраўднай праўдай, а не скажонымі чуткамі, якія мы выдаём за гісторыю».

В. Жукроўскі, як і беларусы І. Шамякін, І. Навуменка, В. Быкаў, пачынаў вайну «маладым, улюбёным у сваю зброю артылерыстам». Рамантычным было амаль ці не ўсё даваеннае пакаленне беларусаў і палякаў, рускіх і ўкраінцаў. Як у свой час рамантыкамі было пакаленне Э. Рэмарка і Р. Олдзінгтона, Л. Талстога і М. Гарэцкага. «Напярэдадні другой сусветнай вайны, — напіша праз гады В. Токараў, — у грамадстве з'яўляецца тып чалавека, які становіцца занепакоены працяглым мірам, тып чалавека, які апелюе да будучай вайны і з нецярплівасцю чакае яе»[1].

---

[1] Человек и война. Война как явление культуры. Сб. статей. М., 2001. С. 401.

Думкамі пра будучую вайну жыла ўся Еўропа. Для пакалення канца 30-х — пачатку 40-х гадоў вайна становіцца ўжо нейкай сакральнай ідэяй. І гэтая ідэя стала дамінаваць у сістэме чалавечых спадзяванняў, уплываць на планаванне іх паводзін.

Пакаленне В. Жукроўскага рамантычнае і драматычнае адначасова. Такім яно і ўвасоблена ў мастацкіх вобразах польскага пісьменніка: Антонія Новасада, Юзіка Міцкевіча і Бронека Бабіцкага — маладых афіцэраў-артылерыстаў. Аўтар глядзіць на свет іх вачыма. Праз іх успрыманне пададзена апісанне баявых пазіцый, акаляючы ландшафт. Польскага пісьменніка цікавіць асоба ў той ступені, у якой яна прадстаўляе пакаленне вайны. Такім чынам, панарамны раман В. Жукроўскага (як разнавіднасць «літаратуры факта») да ўсяго ўвабраў у сябе тэндэнцыі і заходнееўрапейскага рамана «згубленага пакалення», і «рамана-біяграфіі», і псіхалагічнага рамана.

В. Жукроўскі — вялікі майстар суб'ектывавана-аб'ектываванага пейзажу, аб чым сведчаць узоры створанай літаратарам гарманічнай мадэлі прыроднага свету: «Сонца дагарала, рухомае чырвонае зарыва абхапіла неба, дахі будынкаў акрэсліваліся выразней зубчастай лініяй, кроны дрэў, здавалася, былі пакрыты меддзю. Аконнае шкло гарэла чырванню, адбіваючы промні заходзячага сонца, а над старым рэчышчам Наравы ўжо клубіўся туман. З-за ракі даносілася ціхая песня: салдаты вярталіся з казармы». Свет прыроды — гэта свет спрадвечны, субстанцыянальны. Ён рэзка кантрастуе з жыццёвым і сацыяльным светам людзей, які даўно страціў сваё гарманічнае існаванне. Гэта — як у беларуса Кузьмы Чорнага.

Паняцце радзімы ў Бабіцкага асацыіруецца з памяццю аб дзяцінстве, з домам, які ўвасабляецца ў вобразе «маленькага акенца», у «трэску сухіх галінак, якія маці пераломвае аб калена...», у «разрэзаным бохане хлеба, які пахне вотрубамі». Катэгорыя памяці шматаспектная, глыбоказмястоўная. Гэта і «старая школа», і «свірны, што напоўнены снапамі, і незакончаны галубятнік, і чырвоныя ад сушы вішнёвыя дрэўцы». Усё тое, што і складае ў творах пісьменніка абагулены вобраз радзімы.

Герой В. Жукроўскага перабіраў у памяці ўсё раней зробленае і перажытае дзеля таго, каб узяць з сабой толькі тое, што можа яму дапамагчы, усё, з чым яму, «як з жыццём, цяжка будзе развітацца». Бабіцкі-дарослы адчуў сябе вінаватым перад Бабіцкім-хлопчыкам: «Сядзіць ува мне той малы хлопец, што будаваў крэпасць у кутку двара». Менавіта перад ім, гэтым хлопчыкам, Бабіцкі-салдат і павінен трымаць адказ.

Пагарды «гэтага хлопца», у якім увасоблена маленства, баіцца і Антоній Новасад: «Разумею цябе, — прашаптаў Антоній Бабіцкаму, — гэтага хлопца нам падвесці нельга... Не будзем шкадаваць сябе».

Нялёгка было героям-рамантыкам ужывацца ў рэальнае жыццё на вайне, у ролю камандзіраў, браць на сябе адказнасць за жыцці іншых людзей і нават за іх баявы дух. «Вельмі цікавіць мяне гэтая сапраўдная вайна, — прызнаецца Бабіцкі Мулевічу. — Колькі начытаўся аб той, мінулай, што хацеў бы цяпер параўнаць праўду з кніжкамі». Драма гісторыі ўцягвае ў сваю арбіту ўсіх персанажаў рамана. Пачуццё адчаю і безвыходнасці завалодвае героямі В. Жукроўскага адразу пасля першага бою: «Што рабіць? — звяртаецца Свістацкі да Новасада. — Ну, скажыце ж? — шаптаў ён, кусаючы губы. — Што мы яшчэ можам зрабіць, каб пасля не папракаць адзін аднаго?» Але тут жа, услед за адчаем, героя ахоплівае і бязмежная радасць, калі ён бачыць пераможанага ворага. Такую радасць адчувае і ўся батарэя, якая вырашыла страляць усляпую, без наводчыка і нават без загаду. Ужо нават першы залп змяніў настрой батарэі. «Адбылося, — падумаў Новасад... Антоній бачыў прасветленыя твары канaніраў, у іх вачах ён чытаў падзяку сабе і адначасова недаўменнае пытанне: «А хіба нельга было зрабіць гэта раней, пан падхарунжы». Адзін з маладых афіцэраў прызнаецца Антонію: «...на мяне глядзяць салдаты, і мне сорамна за ўсё гэта... Лепей ужо пусціць сабе кулю ў лоб — і кропка...»

Героі В. Жукроўскага, сутыкнуўшыся з жорсткай праўдай першых дзён вай-

ны, з дэзерцірствам «вярхоў», страчвалі адзін міф за другім: міф у моцную Польшчу, міф у добрую падрыхтоўку да вайны, міф у надзейных саюзнікаў. «Міфы рушыліся, як картачныя домікі». Заставаўся апошні міф — Савецкі Саюз і непераможная Чырвоная Армія.

Крытык К. Анкудзінаў у сваім артыкуле «Маніхейскі варыянт» адзначыў, што «супраціўленне — гэта разуменне зла. Той, хто спазнае зло, той і супраціўляецца яму» (Новый мир. 2002, № 5). Персаніфікацыяй зла ў В. Жукроўскага з'яўляюцца не толькі фашысты з іх бессістэмнай, неўтаймаванай прагай забіваць, разбураць, але і здрадніцкі ўрад Польшчы, і кіраўніцтва польскай арміі. У параўнанні з іншымі польскімі пісьменнікамі 40-х гадоў, у В. Жукроўскага найбольш паслядоўна сацыяльна-гістарычная праблематыка праламляецца праз прызму індывідуальнай свядомасці. У лёсе асобнага чалавека адлюстравана гістарычная драма — з элементамі «апрыорнага» аналізу і абагульнення. Самыя рэзкія сюжэтныя пераходы звязаны з праблемай удзелу чалавека ў «стварэнні гісторыі». Лёс герояў пісьменніка пабудаваны ў духу традыцыйнай еўрапейскай літаратуры 20 — 30-х гадоў, у прыватнасці літаратуры «згубленага пакалення», пераклікаецца ён з лёсам герояў беларускай літаратуры 40 — 50-х гадоў. Разам з тым па ступені псіхалагічнага аналізу і вастрыні пастаўленых сацыяльна-маральных праблем кніга В. Жукроўскага набліжаецца да савецкай ваеннай прозы ўжо «другой хвалі», канца 50 — 60-х гадоў: В. Быкаў, Ю. Бондараў, Р. Бакланаў. Раман «Дні паражэння» пераклікаецца і з трылогіяй «Пакаленне» (1958—1961) славацкага пісьменніка В. Мінача.

У другога польскага пісьменніка Е. Путрамента «панарама» вайны іншая і галоўным чынам закранае верхнія эшалоны ўлады і кіраўніцтва арміі, генеральны штаб. У параўнанні з В. Жукроўскім, вайна ў Е. Путрамента выглядае «хаатычна-статычнай»: узводы, палкі, часці хаатычна перамяшчаюцца па геаграфічнай прасторы, што падзелена на часткі. Вайна разарвана на асобныя эпізоды, якія, дапаўняючы адзін аднаго, складваюцца ў абсурдна-трагічны малюнак жыцця.

Ежы Путрамент таксама прайшоў выпрабаванне вайной, хоць ягоны вопыт жыцця больш цесна судакранаецца з жыццёвым вопытам савецкіх пісьменнікаў, так як пасля нападу Германіі на Польшчу ў 1939 годзе К. Путрамент эмігрыраваў у Савецкі Саюз. Будучы пісьменнік быў у ліку арганізатараў, а пасля байцом, дакладней, палітработнікам польскай дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі. Дывізія была сфарміравана на тэрыторыі Расіі вясной 1943 года, пасля ўвайшла ў склад 1-га Беларускага фронту. Высокага хударлявага паручніка Ежы Путрамента ў дывізіі ведалі ўсе, бо, да ўсяго, ён быў яшчэ і паэтам, пачынаў свой творчы шлях як паэт-рамантык нацыянальна-вызваленчай барацьбы. У прозу Е. Путрамент перанёс свае галоўныя паэтычныя здабыткі — пафас грамадзянскасці і мяккі лірызм пейзажных замалёвак. Відавочна і тое, што пэўны ўплыў таксама зрабілі і традыцыі мастацкага вопыту савецкіх пісьменнікаў Д. Фурманава («Чапаеў») і А. Фадзеева («Разгром»), творы якіх ён пераклаў на польскую мову.

На вачах Е. Путрамента, які быў сведкам вераснёўскай катастрофы, знікала зямля продкаў, знікаў увесь свет. Глыбока і балюча перажываючы трагедыю свайго народа, які стаў заложнікам здрадлівага, прадажнага ўрада, пісьменнік усвядоміў новую для сябе, як і ўвогуле для польскай літаратуры, батальную праблематыку і па сутнасці прадвызначыў спецыфічнасць яе адлюстравання.

Значна пазней з'явяцца эмацыянальныя кнігі-споведзі іншых ветэранаў Верасня. Але В. Жукроўскі разам з Е. Путраментам зрабілі першую спробу ў выяўленні прычын паражэння. І найперш гэта — амаральнасць, прафесійная непрыдатнасць вышэйшых камандзіраў і ўрадавых чыноўнікаў. Е. Путрамент, па сутнасці, паказаў дзве абсалютна розныя Польшчы — ілжэпатрыятычную і сапраўды народную. І першая цікавіць пісьменніка нават больш: сенатар Патоцкі, брыгадны генерал Фрыдэнберг і г. д. Адзін з гэтага асяродку герояў твора віцэ-міністр Бурда называе палякаў «народам дурняў», якога «як мага мацней трэба трымаць у цуглях». Другі, сенатар Патоцкі, пайшоў яшчэ далей, параўноўваючы

свой народ з лічынкай саламандры, якая становіцца дарослай толькі дзеля таго, каб памерці. «Палякі, — пераконваў сенатар, — гэта дзеці, брудныя, дрэнна выхаваныя, ганарлівыя, крыклівыя, імпульсіўныя, няпамятлівыя і ў той жа час яны /…/ толькі гуляюць — у армію, ва ўрад, у магутную дзяржаву». Гэты герой Е. Путрамента бачыць вакол сябе толькі «бяздумны, жывёльны патрыятызм пры поўнай адсутнасці палітычнага нюху»[1].

Расстаноўка сацыяльных сіл у кіруючых сферах і ў прылеглых да іх сацыяльных слаях рэпрадуктыўнай бюракратыі задае сэнсавы малюнак галоўным ідэйным канфліктам і структуры характараў. Е. Путрамент стварае сацыяльна-крытычны раман вялікай сілы, выступаючы пры гэтым і як баталіст, і як псіхолаг.

Невыпадкова вядомая руская даследчыца В. Цімафеева назвала «Верасень» Е. Путрамента «вялікім сацыяльным палатном». У параўнанні з беларускімі пісьменнікамі ваенных гадоў, і нават з В. Жукроўскім, Е. Путрамент больш імкнецца да адлюстравання палітычнага жыцця краіны. Тут можна знайсці адгалоскі дзейнасці розных палітычных партый: Польская сацыялістычная партыя, дробнабуржуазная сялянская партыя «Строніцтво людовэ» (людоўцы), рэакцыйная буржуазна-памешчыцкая партыя «Народова дэмакратыя» і г. д. Як адзін з многіх пісьменнікаў, якія выступалі за сакралізацыю «гістарычна прагрэсіўных» намераў бальшавізму, Е. Путрамент сваіх герояў-камуністаў (Вальчак, Крыгер, Кальва) стварыў менавіта ў традыцыях сацрэалістычнай савецкай літаратуры 20 — 30-х гадоў. Раман «Верасень» прасякнуты разбуральнай крытыкай палітыкі санацыі, і ў гэтым яго галоўная адметнасць у параўнанні з творамі Т. Брэзы «Сцены Іерыхона» і З. Налкоўскай «Вузлы жыцця», дзе аўтары крытыкуюць даверасnёўскую Польшчу з пазіцый псіхолагаў-маралістаў.

Е. Путрамент уважліва сочыць за працэсам маральнай дэградацыі дзяржаўных дзеячаў Рэчы Паспалітай: у сістэме аўтарскіх вобразаў яны з'яўляюцца найбольш адмоўнымі. Гэта — маральна дэградаваныя здраднікі, гатовыя на якія заўгодна ўступкі ворагу дзеля ўтрымання службовых пасад. Але бронемашыны вермахта, паласуючы баявыя рады польскіх войск, трушчылі і іх забяспечаныя жыцці. Э. Хемінгуэй у свой час трапна адзначыў, што на вайне ёсць рэчы, якія горш за вайну: «Баязлівасць — горш, здрадніцтва — горш, эгаізм — горш».

З эпічных пазіцый перададзены вобраз часу — праз супастаўленне мірнага і ваеннага, праз характэрнае дзеянне, рух, гукі і нават фарбы: «Жнівень прыйшоў пагодлівы, як ліпень, і яшчэ больш гарачы. За Наравам і Бэбжай высахлі балоты, торф стаў рассыпчастым і рыхлым.

Зранку, па прахалодзе, падпаскі палілі кастры. Па высахлай траве распаўзаліся прыбітыя да зямлі язычкі полымя. У прыцемках туман быў ужо не белы, а блакітны...

Жнівень спяшаўся. З узбярэжжа імчалі біткам набітыя паязды, а туды ішлі пустыя. Гарам былі напоўнены вясковыя вечары. То тут, то там грымелі ўзрывы, палыхалі пажары — то на складзе з абмундзіраваннем, то ў цэху металургічнага завода... Чэргі ў крамах, таўкатня ў ашчадных касах. Вучэбныя паветраныя трывогі... На вокнах папяровыя крыжы».

Эпікам заставаўся пісьменнік і калі ствараў вобраз вайны. Як з'ява фізічная, вайна паступова ўваходзіць у апавядальную структуру твора. Спачатку ў гуках, праз суб'ектыўнае ўспрыманне герояў. Яна — у незвычайным шуме, які нагадваў «аддалены грукат цягніка або грому». Пасля гук станавіўся больш выразным, — «нібыта тысячы цягнікоў ідуць недзе вельмі далёка. Ці, дакладней, нібыта адзін цягнік, але гіганцкі, калёсы ў яго дзесяціметровай вышыні, а вагоны, як чатырохпавярховыя дамы, і іх не менш чым пяцьдзесят». Гул усё мацнеў, ён запаўняў сабою ўсё наваколле. Здавалася, што ўсё, што прасціраецца перад імі, дрыжыць ад грукату. Уся ноч была насычана грукатам. Але гэта толькі першае знаёмства з вайной. Праз дзве гадзіны «лес... зароў ва ўсю шырыню, зароў і ўскіпеў, зароў і

---

[1] Путрамент Е. Сентябрь. М., 1975. С. 75.

загуў. Лес роў і гуў. Як раней, але яшчэ мацней і бліжэй /.../ І вось ужо ўся прастора перад імі вые і дрыжыць». Неўзабаве гукі вайны дапоўняцца «рухамі» вайны: «...шэрыя пласты зямлі, чорны лес, паміж імі, у гушчыні зарасляў, — рух. Быццам карчы лавінаю рушылі ўперад і ў сваім памкненні страцілі акружнасць, сталі вуглаватымі, нізкімі, прамавугольнымі». І толькі пасля гэтага з'явіўся «суб'ект» вайны, чалавек: «Паказаўся адзін, другі сілуэт — ішлі людзі ў касках, з вінтоўкамі, прыгнуўшыся». Чалавек адчайна супрацьўляецца гэтым гукам, не прымае іх, ім апаноўваюць адчай і трывога, а яшчэ страх, але ён насуперак гэтаму страху, пераадольваючы яго, ішоў наперад, назло сабе. Жыццё героя Е. Путрамента з гэтага часу, як і свет, падзялілася на дзве часткі. На тое, што было дасюль, да гэтага грукату, і тое, незнаёмае, якое пачалося пасярод гэтага гулу, пасярод гэтай начы.

Вайна ў творы прадстаўлена як нешта самадастатковае, яна адпавядае самаму цёмнаму, што існуе ў свеце і чалавеку.

Ноч перад наступленнем вайны распісана літаральна па хвілінах. Усё ў полі зроку аўтара, геаграфічная прастора і псіхалагічны стан людзей. «Дзве гадзіны пяцьдзесят пяць хвілін», «тры пятнаццаць», «тры дваццаць», «тры сорак восем». Адчайны грукат змяняецца на яшчэ больш адчайны спакой. Усё прасякнута пакутлівым чаканнем. Чаканнем хоць якой пэўнасці. І вось нарэшце першая сустрэча з немцамі. Аўтар зноў «пераключаецца» на суб'ект, на ўнутраны стан свайго героя. Агалены рэалізм вайны мяжуе з «псіхалагічным натуралізмам». Змяшаліся людзі і танкі, зямля ўтрамбоўваецца целамі байцоў. Прайшло толькі паўгадзіны з пачатку вайны, а свет зьначыўся, стаў крывава незваротным. Зямля і людзі нібыта забыліся, што яны — частка вялікага, бясконцага ў часе і прасторы аднаго духоўнага космасу.

Прадстаўлена ў кнізе і індывідуальная свядомасць. З усяго хору галасоў аўтар вылучае голас падпаручніка Маркевіча, які першапачаткова ствараўся ў традыцыях прозы Р. Олдзінгтона, але ў фінале ўсё ж перамагла школа сацрэалізму. Па прычыне сваёй палемічнасці — палітычнай, ідэалагічнай, сацыяльнай — раман Е. Путрамента быў успрыняты неадназначна. Зразумела, што эміграцыя ўспрыняла «Верасень» з раздражненнем. Стаўленне крытыкі «левай» накіраванасці было супрацьлеглым. «Верасень, — пісаў польскі крытык Анджэй Васілеўскі, — чакаў свайго эпіка. Пісьменніка, які, дзівячы нас шматбаковым адлюстраваннем вайны, лёсаў народа, трагедыі арміі, агоніі паланёнай краіны, адкажа на пытанне: як гэта адбылося? Таму з такім захапленнем, болем, але перш за ўсё з гаючым пачуццём палёгкі мы чытаем «Верасень» Ежы Путрамента». Арнольд Цвейг у часопісе «Кунс унд літаратур» напісаў наступнае: «Мне не хацелася б удавацца ў падрабязны аналіз усіх досыць каларытна і рэльефна абазначаных фігур і сцэн гэтай кніжкі, аднак павінен адзначыць, што сцэну каля вялізнай апаратыўнай карты пагранічнай мяжы Польшчы на захадзе я хацеў бы мець у сваім асабістым творчым актыве. Імя Ежы Путрамента я стаўлю цяпер у адной шарэнзе з імёнамі французскіх, англійскіх і нямецкіх пісьменнікаў, якія з'яўляюцца найлепшымі эпікамі». Е. Путрамент, выступаючы ў 1944 годзе ў Любліне на 1-м з'ездзе польскіх пісьменнікаў, падкрэсліваў актыўную ролю літаратуры ў грамадскім жыцці. Ён быў прыхільнікам класічных форм рэалізму: «Мастак, — адзначаў Е. Путрамент, — абавязаны аднаўляць сродкі адлюстравання, гэта зразумела. Але не шляхам празмернага іх ускладнення. Вельмі ж шмат нам трэба расказаць, каб яшчэ і траціць час на пераймальніцтва. Перш за ўсё трэба пісаць, а не мудрагеліць». Такіх жа прынцыпаў прытрымліваўся і празаік Б. Чэшка, які прызнаваўся: «Я заўсёды быў і застаюся прыхільнікам сціслай формы. Мая пісьменніцкая любоў — гэта Чэхаў, Тургенеў. Некалі я любіў Хемінгуэя і Фолкнера, але не іх вялікія раманы, а апавяданні» (Чешко Б. Избранное. М., 1986. С. 9).

Польскія пісьменнікі канца 40-х — пачатку 50-х гадоў, застаючыся ў палоне «літаратуры факта», стваралі сваю канцэпцыю рэалізму. Пры гэтым яны ўсё больш абапіраліся на вопыт і мастацкія здабыткі савецкай літаратуры. Празаікі еўрапейскіх краін сацыялізму ўспрынялі ідэю сацрэалізму і як перспектыву на

будучае, і як удакладненне сваіх уласных творчых намаганняў, у выніку чаго марксісцкая крытыка ў Балгарыі, напрыклад, загаварыла аб «новым рэалізме», а ў Польшчы аб сацрэалістычным тыпе творчасці пісалі як аб «пралетарскім рэалізме», «літаратуры новага гуманізму». Найбольш яркім прадстаўніком «пралетарскага рэалізму» можна лічыць Б. Чэшку, аўтара рамана «Пакаленне» (1951).

Раман Б. Чэшкі таксама можна разглядаць у кантэксце «літаратуры факта», але яго «факт» вайны лабіраваўся прапагандысцкім ідэйным заданнем. Прамыя ідэалагічныя маніфестацыі аўтара, у параўнанні з В. Жукроўскім і Е. Путраментам, былі першаснымі ў мастацкай структуры.

Ідэі сацрэалізму былі часткай ідэйнага выхавання Б. Чэшкі. Бацька будучага пісьменніка прытрымліваўся левых перакананняў, быў членам сацыял-дэмакратычнай партыі, удзельнічаў у рэвалюцыі 1905 года, а ў час другой сусветнай вайны загінуў у гітлераўскім канцлагеры Маутхаузена. Камуністычныя перакананні на пачатку ХХ стагоддзя набіралі сілу, яны лічыліся прагрэсіўнымі па тым часе. Гэта ўжо пасля няўдалых вынікаў іх рэалізацыі стала відавочным, што, кажучы словамі акадэміка Л. Ландау, «ідэя, якая ляжыць у аснове камунізму, — гэта іезуіцкая ідэя» (Літаратура і мастацтва. 16 сакавіка 2001 года. С. 13).

Б. Чэшка яшчэ на пачатку вайны зблізіўся з камуністычным антыфашысцкім падполлем, пасля быў членам Гвардыі Людовай (з 1944 года — Армія Людова), уступіў у Саюз барацьбы маладых. У час Варшаўскага паўстання 1944 года сяржант Багдан Чэшка змагаўся з акупантамі на Волі і ў Старым Мясце ў складзе штурмавога батальёна Арміі Людовай («Чвартакі»). Як і іншыя паўстанцы, Б. Чэшка выбіраўся з акружэння праз каналізацыйныя каналы, перажыў смерць блізкіх, родных і шматлікіх сяброў, перажыў капітуляцыю паўстання. «Калі можна ўвогуле гаварыць аб перажываннях, якія вызначылі мой пісьменніцкі лёс, — скажа пісьменнік, — дык гэта былі гады акупацыі — з іх трагізмам для мяне і для ўсяго народа, з падзеямі, у якіх мне давялося браць удзел». Раман Б. Чэшкі пабудаваны як ланцуг эпізодаў ваеннага жыцця, а дакладней, эпізодаў забойстваў, помсты, пакаранняў, бясконцай страляніны і г. д.

Мноства персанажаў, якімі перанаселены твор, складаюць калектыўны партрэт пакалення вайны — пакалення рамантыкаў і летуценнікаў. Маладыя людзі марылі аб «шматтысячных атрадах чырвоных партызан... якія б выраслі на гэтай зямлі і баранілі б гэтую зямлю, марылі аб паўголых хлопцах, якія б, абвешаныя зброяй, спявалі песні на ўскраіне лесу ці ў вёсках, куды б ні адзін немец пад страхам смерці не адважыўся высунуць свой нос з загадам аб рэквізіцыі». «Марыць аб прыгожым неабходна, інакш нам крышка», — такі вердыкт вынесе адзін з герояў рамана.

В. Жукроўскі, Е. Путрамент, Б. Чэшка сталі заснавальнікамі новай тыпалагічнай разнавіднасці рамана ў польскай літаратуры 40 — 50-х гадоў. Гэта быў раман факта, падзеі, дакумента, які развіваўся ў кантэксце савецкай панарамнай прозы 40-х — пачатку 50-х гадоў.

У беларускай літаратуры панарамны раман звязваецца найперш з імем М. Лынькова. Аўтар у рамане «Векапомныя дні» (1949—1954) паспяхова сінтэзаваў жанры «літаратуры факта» і панарамнага рамана. Праўда, у параўнанні з польскімі празаікамі В. Жукроўскім, Е. Путраментам, Б. Чэшкам, яго «мастацкі дакументалізм» выспяваў не на глебе ўласна перажытага: жыццё людзей на акупіраванай тэрыторыі і партызанская барацьба былі якраз той сферай, якую пісьменнік вывучаў галоўным чынам па дакументальных матэрыялах і ўспамінах іншых. Усё гэта, безумоўна, не магло не адбіцца на змястоўным узроўні твора (хоць гісторыя мае прыклад мастацкага вопыту аўтара «Вайны і міру»: Л. Талстой таксама не быў пад Аустэрліцам, не ўдзельнічаў у Барадзінскай бітве...). Галоўная прычына спрошчанасці канцэпцыі вайны была найперш у адсутнасці свабоды палітычнага, эстэтычнага і культурнага жыцця, такой неабходнай для свабоднай творчасці. Канцэптуальна М. Лынькоў вымушаны быў прытрымлівацца пэўных ідэалагічных канонаў, ісці за старымі, часоў вайны, дагматычнымі ўяўленнямі аб характары партызанскай барацьбы ў Беларусі. У гэтым плане яго польскім калегам тых часоў было значна прасцей.

Р. Бялінскі назваў вайну «эпічнай падзеяй». Аднак эпічнай яна падавалася далёка не ўсімі, бо намаляваць шырокую карціну барацьбы з фашызмам не азначае паказаць яе як з'яву ці падзею эпічную. Цяжкасць літаратурнага развіцця на Беларусі 40-х — пачатку 50-х гадоў была ў тым, што тэндэнцыя да «ўзбуйнення» рамана, да эпічнага асэнсавання гістарычных падзей, з аднаго боку, не знаходзіла яшчэ дасканалага ўвасаблення ў самой жанравай форме, з другога — не падмацоўвалася глыбінёй пісьменніцкага погляду на жыццё і падзеі вайны: гістарычны час не даваў яшчэ такой магчымасці.

У час вайны М. Лынькоў пісаў шмат апавяданняў, змест якіх — тыповае эмацыянальна-публіцыстычнае выяўленне глыбокіх узрушэнняў народа. Па тым часе гэтым жыла амаль ці не ўся савецкая літаратура. То быў «канцэнтраваны патрыятычны заклік» (В. Каваленка) да жорсткай бязлітаснай барацьбы з захопнікамі. Задача літаратуры заключалася ў тым, каб гучным словам паказаць патрыятычны настрой усяго народа.

Грамадства знаходзілася ва ўладзе эйфарыі пасля пераломнай польскай кампаніі. «У тыя дні падзеі пераможнай вайны, — пісаў Л. Кантаровіч, — больш за ўсё на свеце хвалявалі савецкіх людзей, і кожны савецкі камандзір марыў аб польскім фронце» (Конторович Л. Пограничники идут вперед. Л., 1940. С. 33). Вераснёўскія падзеі ўзнялі аптымістычныя ўяўленні аб будучай вайне. Нават удзельнікі першай сусветнай вайны, кадравыя афіцэры пачалі пераасэнсоўваць свае ўяўленні аб сучаснай вайне. «Польская кампанія некаторым уяўлялася правобразам будучых вызваленчых войнаў, у час якіх салдаты капіталістычных краін будуць для сваіх генералаў і афіцэраў больш небяспечнымі, чым для байцоў Чырвонай Арміі». Паўсюдна ўладарыла «рамантычнае адчуванне вайны» (А. Токараў).

Вопыт вайны 1812 года, лічыў В. Каваленка, выліўся ў «духоўна-абагульняючую эпапею «Вайна і мір» Л. Талстога, а грамадзянская вайна ў Расіі знайшла сваё адлюстраванне ў «трагічна-эпапейным» рамане М. Шолахава «Ціхі Дон». Падзеі вайны 1941—1944 гадоў на Беларусі таксама чакалі свайго маштабнага мастацкага адлюстравання. «Векапомныя дні» — першая спроба такога адлюстравання. Гэта — «панарамнае люстэрка рэальнай гісторыі сусветнага катаклізму» (Каваленка В. Міхась Лынькоў // Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. У 4-х тамах. Т. 2. Мн., 1999. С. 402).

Твор М. Лынькова — з'ява адметная ў развіцці беларускай прозы. І не толькі таму, што ён быў першым буйным раманам пра вайну 1941—1945 гадоў, але і творам этапным, выніковым — для першага пасляваеннага перыяду развіцця літаратуры. Такімі ж этапнымі, выніковымі ў польскай літаратуры былі творы В. Жукроўскага, Е. Путрамента, Б. Чэшкі.

Як адзначыў І. Шамякін у сваім інтэрв'ю газеце «Літаратура і мастацтва», «наша беларуская літаратура адлюстравала падзеі вайны, партызанскі рух найпаўней, чым любая іншая літаратура былых саюзных рэспублік» (Літаратура і мастацтва. 5 мая 2000 года. С. 5).

Значна раней на асаблівасці барацьбы беларускіх партызан звяртаў увагу рускі пісьменнік А. Твардоўскі, які пісаў, што гэтая барацьба склала «пачэсныя і павучальныя для нашчадкаў старонкі гісторыі нашага народа». Трэба сказаць, што пераважна праз творы ваеннай тэматыкі (маем на ўвазе аповесці і раманы М. Гарэцкага і К. Чорнага) беларуская літаратура першай паловы XX стагоддзя ўпісалася ў еўрапейскі кантэкст. Як слушна адзначыў М. Тычына, «беларускія аповесць і раман набылі ў яго (К. Чорнага. — **В.Л.**) творчасці сваю жанравую сталасць... Кузьма Чорны вёў нацыянальную прозу да маштабных адкрыццяў, якія былі зроблены пісьменнікамі Заходняй Еўропы. Ён мог быць беларускім Дастаеўскім, Камю, Фолкнерам».

Але ўжо ў канцы 40-х — пачатку 50-х гадоў нацыянальная проза адыходзіць ад традыцый Гарэцкага — Чорнага, яна ўсё больш падпадае пад уплыў сацрэалістычнага метаду адлюстравання. Менавіта тады з'яўляюцца «Глыбокая плынь» І. Шамякіна, «Мінскі напрамак» І. Мележа, «Згуртаванасць» М. Ткачова,

«У агні» І. Гурскага, «Расстаёмся ненадоўга» А. Кулакоўскага. Побач з імі можна паставіць і творы рускіх пісьменнікаў: «Вясна на Одэры» Э. Казакевіча, «Белая бяроза» М. Бубеннага і з ўкраінскай літаратуры трылогію «Сцяганосцы» А. Ганчара. Гэта былі творы-міфы, у якіх угадваюцца мадэлі «сацыяльнай казкі». Традыцыя міфалагізацыі была перанята літаратурамі заходнееўрапейскіх сацыялістычных краін, асабліва польскай.

Задума напісаць раман «Векапомныя дні» ўпершыню ўзнікла ў М. Лынькова яшчэ ў 1942 годзе, а завершаны ён быў толькі ў канцы 1956 года. Такім чынам, пісьменнік аддаў свайму галоўнаму твору амаль 15 год. «Я, — пісаў М. Лынькоў, — меў на ўвазе расказаць чытачу аб тым, як наш беларускі народ, нягледзячы на люты тэрор фашыстаў, не скарыўся ворагу, не стаў перад ім на калені... Я хацеў расказаць аб мужнасці і гераізме народа... Якімі б ні былі рознымі людзі па сваіх звычках і схільнасцях — усіх іх аб'ядноўвала палымяная любоў да Радзімы, палаючая нянавісць да ворага, страснае жаданне як мага хутчэй разбіць ворага і вызваліць ад яго родную зямлю».

Перад М. Лыньковым, як і перад польскімі раманістамі 40-х — пачатку 50-х гадоў, стаяла задача: адштурхоўваючыся ад рэальнага факта, стварыць шырокую панараму барацьбы з фашызмам у розных яе праявах — ад знешніх, падзейных да сацыяльна-маральных, духоўных. М. Лынькоў свядома абраў такі жанр рамана, які вымагаў не толькі шырыні ў ахопе падзей, але і заглыблення ў духоўную сутнасць гэтых падзей. Эпічнасць і ёсць менавіта тая станоўчая адзнака, якая набліжае раман М. Лынькова да твораў К. Чорнага 40-х гадоў. Твораў, якія, на думку А. Адамовіча, былі народжаны XX стагоддзем і атрымалі назву «эпапеі-трагедыі».

Эпічным па змесце з'яўляецца зачын рамана. Кожны абзац — нібыта самастойны мастацкі вобраз, а ў сукупнасці яны ствараюць субстанцыяльны малюнак жыцця, метафару гістарычнага часу. «Стары тупаў каля воза. Памацаў шыну на коле — ці не аслабела — і, пануры, заклапочаны, калупаўся нешта ў хамуціне, усё падцягваў супонь. Густыя бровы і вусы, пацямнеўшыя ад поту і пылу, надавалі яму залішняй суровасці. Але гэтая знешняя суровасць знікала, раставала ў сумным позірку заняпалых, выцвілых воч, у мяккім руху яго рук, якімі атрасаў ён пыл з гарачай конскай грывы. Пыл узняўся клубком. Конь незадаволена фыркнуў і пакруціў галавой, косячы вока на зыркія языкі полымя». Тут выразна праяўляецца коласаўска-чорнаўская традыцыя. Спрадвечнае, нацынальнае, вясковае — усе гэтыя характаралагічныя пачаткі, зліваючыся ў адно цэлае, ствараюць мадэль быцця беларуса.

Услед за гэтым пададзены малюнак канкрэтнага часу: «Уперадзе гарэў мост. Сярэдзіна яго завалілася, і там, дзе трымаліся яшчэ на вадзе падгарэлыя бярвенні і дошкі, шалёна шумела вада, круціліся клубы жоўтай пены, гойдаліся і хутка знікалі, нырнуўшы пад бярвенне, рознае ламачча, падмытыя карчы, знесеныя з нізкіх берагоў ахапкі скошанай асакі. Згары падалі гарачыя галавешкі, вялізныя вугалі і з мяккім сіпеннем, пакідаючы над сабою воблачкі дыму і пары, імкліва знікалі ў пеністых водаваротах.

Заходзіла сонца. У бледнай празрыстай пазалоце ззялі вершаліны стромкіх хвой і вячыстых дубоў. На зацемненай і нерухомай лістоце дрэў трапяталі, пераліваліся водблескі пажару. Мост дагараў /.../ Далёка на захадзе гарэў горад». Малюнак досыць дакладны ў дэталях і разам з тым шматстайны ў колерах і гуках. Рушыцца свет, а перадусім вякамі ўсталяваны лад людзей, жыццё анталагічнае пад пагрозай.

Вайна выгнала людзей з дому, з іх жытла. У гэтым моманце прачытваецца скрытая інтэрпрэтацыя біблейскага сюжэту выгнання Адама і Евы, прабацькоў усіх народаў свету, з Раю. У народнай свядомасці дом, жытло, «родны кут», свая зямелька (няхай сабе яна і набыла статус калгаснай зямлі) — гэта сімвал зямнога Раю. Пра такі Рай марыў герой паэмы Я. Коласа «Новая зямля», а пасля і мележаўскі герой (Васіль Дзяцел з «Палескай хронікі»). І менавіта такі свой, зямны Рай баранілі героі К. Чорнага («У пошуках будучыні») і В. Быкава («Знак бяды»).

Пад пагрозай знішчэння апынуўся зямны Рай герояў М. Лынькова ў яго адначасова і панарамнай, і эпічнай трагедыі «Векапомныя дні». Апісанні «роднага кута», якіх у рамане вялікае мноства, — мастацкая аналогія сялянскай сядзібы-раю. Вайна пазбавіла людзей іх «роднага кута». Цяпер яны бежанцы — «жанчыны, дзеці, падлеткі, трапляліся пажылыя мужчыны. Яны ішлі на ўсход». Ішлі ў невядомасць. Сутыкненне людзей і народаў і перамяшчэнне іх даюць куды больш «матэрыялу» для сапраўднай эпапеі-трагедыі, чым бясконцыя сацыялістычныя эксперыменты XX стагоддзя. Пра гэта гаварыў яшчэ А. Адамовіч, ён, дарэчы, і папярэджваў, што «ядзерны век і эпапею тыпу «Вайна і мір» робіць ужо немагчымай — у сэнсе яе аптымістычнай ураўнаважанасці». М. Лынькоў яшчэ «ўраўнаважваў».

Жыццё і смерць, вайна і нараджэнне дзіцяці — гэта таксама біблейская мадэль процістаяння дабра і зла. Такім чынам, пісьменнік арыгінальна ўводзіць у апавядальную структуру матыў ненатуральнасці стану вайны, ненатуральнасці заўчаснай смерці людзей. Бо ўсё гэта пярэчыць законам прыроды, чалавечым і Боскім законам. У гэтым — найвышэйшы гуманізм аўтара «Векапомных дзён».

Матыў трывогі расце і шырыцца. Ён закранае не толькі сферу чалавека, але і сферу прыроды. У гэтым бачацца адгалоскі пантэістычнага светаўспрымання. «Чуліся галасы начных птушак, лесавыя шолахі, нечыя дзіўныя ўздыхі, <u>нібы ўздыхала зямля</u> (падкрэслена намі. — **В.Л.**) і ціха-ціха перашэптвалася з маўклівымі дубамі». Людзі таксама жылі прадчуваннем трывогі. Яны «трывожна прыслухоўваліся да старожкай цішыні ночы, са страхам пазіралі на неба. Паўнеба на захадзе палыхала вялізным зарывам. Яно то патухала, то пачынала ярчэць, набіраючыся трапяткой, залацістай чырванню. Водбліскі зарыва мігцелі, пераліваючыся на цёмных вершалінах дрэў.

Ноч палохала трывогай, нязведанасцю, горкім сумам па страчаным, па загубленым».

А вось першая сустрэча з немцамі. Сцэна трагічная па сутнасці і сатырычная па сваім пафасе. Рэалістычнае апавяданне фальклярызуецца, набывае прыкметы міфалагічных архетыпаў чарадзейнай казкі. Жанчына з сівымі валасамі бароніць дзяўчынку, якую немцы спрабавалі на вачах усяго натоўпу бежанцаў апаганіць, згвалціць. Яна, «нібы арліца, накінулася на бязлітаснага ворага, ратуючы ад яго сваё птушанё». І гэтая бяззбройная і слабая — але моцная духам праз сваю нянавісць — жанчына забіла немца — узброенага і дужага. Так пачыналася рэальнае жыццё на вайне. Жыццё-трагедыя, бо за смерць салдата немцы расстралялі сто мірных жыхароў.

У сцэне з немцамі няма героя індывідуальнага, ён персаніфіцыраваны ў натоўпе, які, як адзіны жывы арганізм, рэагуе на паводзіны немцаў: «Па сэрцах людзей прайшоў калючы халадок і нешта падобнае на дакор сабе, на сорам...», «нібы ўскрык ціхай радасці вырваўся з натоўпу». Людзі паміраюць пакутна і заўчасна, спаўзаючы і зрываючыся з высокай кручы ў вірлівую раку, куды іх, бяззбройных і бязвінных, пагналі нелюдзі ў чалавечым абліччы. Дзіцячы плач, надрыўнае галашэнне жанчын, праклёны, глухія малітвы — усё злілося ў адным «усяленскім» пытанні да неба, да ўсяго свету: «За што гэта ўсё?..» Нават за грахі людскія не павінны разлічвацца дзеці, асабліва нованароджаныя. Пытанне «за што?..» рэфрэнам праходзіць праз усю апавядальную прастору рамана. Як і сцэна з мерцвякамі, якіх было шмат, «мо колькі сотняў», якія павольна плылі па рацэ. «Хто з нас калі забудзе гэта?» Памяць людская — гэта і ёсць той звон, які, пачынаючы з Э. Хемінгуэя, ужо стаміўся званіць...

Як ужо адзначалася, у кнізе адсутнічае індывідуальны герой, тут дзейнічае герой калектыўны, «хор» галасоў народа. Гэтыя галасы аднолькавыя ў сваім жаданні змагацца і перамагаць. Толькі стылёва яны адрозныя. Астап Канапелька, Саўка Чмарудзька, Ганна і Сымон Базылёвы, Васька Чычын, Майка Светлік, Піліпчык — усе яны лічылі абарону радзімы сваім свяшчэнным абавязкам. «Дырыжыруюць» гэтым «хорам» безумоўна камуністы: бацька Мірон, Васіль Саколіч, Канстанцін Заслонаў, Вадзім Слышэня. Па ідэйнай задуме рамана яны

былі праваднікамі волі партыі і галоўнымі арганізатарамі партызанскага і падпольнага супраціўлення.

У савецкай ваеннай прозе (гэта ў пэўнай ступені датычыць і польскай) 40-х — пачатку 50-х гадоў адным з галоўных у характарыстыцы герояў было паняцце «служэння», «адданасці». Герой павінен быць гатовым да самаадмаўлення, самаахвярнасці ці ахвярнай смерці разам з іншымі. «Для таго, каб выстаяць у беспераппынных войнах з ворагам, — пісаў В. Зіма, — наша дзяржава павінна была патрабаваць ад суайчыннікаў столькі ахвяр, колькі іх было неабходна... Менавіта так закладваліся асновы таго, што пасля назавуць загадкавай славянскай душою». Герой перажывае сваю паяднанасць з іншымі і далучанасць да гістарычнага цэлага найперш у моманты падпарадкавання агульнаму лёсу. Такая ў дадзеным кантэксце і калектывісцкая, заведама пазаіндывідуальная, а таму і пазаэтычная семантыка «сумленнасці». А паколькі ахвярнасць у савецкіх раманах 40-х гадоў абазначала не рысу індывідуальнага характару, а калектыўную, як адданасць традыцыйным запаветам продкаў ці нават ідэалагічным «запаветам», дык і вярнуцца да зямнога раю, да свайго роднага кута — ці гэта была шыпшына, ці Галгофа, ці міфічная «калгасная ніва» — герой мог толькі разам са сваім народам.

Пастуліруючы новую гістарычную агульнасць, «савецкі народ», кампартыя мела патрэбу ў такім эпасе, які б паядноўваў розныя нацыі і народы савецкай імперыі не толькі па ідэйна-класавым, але і па кроўнаславянскім прынцыпе. Вялікая Айчынная вайна ўжо нават у сваёй назве — айчынная — замацоўвала выгадную для дзяржавы інтэрпрэтацыю гэтага прынцыпу. Гэта была вайна аднолькава абавязковая для ўсіх — беларусаў, украінцаў, рускіх, татар, узбекаў, для ўсяго народа СССР, бо яны баранілі адну на ўсіх Айчыну. Таталітарны рэжым вымагаў гераічнага эпасу, які б садзейнічаў мабілізацыі масы, прымушаў пакорна несці свой жыццёвы «крыж».

Свой унутраны абавязак калектыўны герой вайны 1941—1945 гадоў бачыў у тым, каб вярнуць страчаны гонар сваёй дзяржавы і яе незалежнасць.

Раманная ідэалогія 40-х — пачатку 50-х гадоў у яе ключавых момантах выглядала наступным чынам. Галоўнай адзінкай існавання тут быў савецкі народ, непасрэдным героем, як правіла, выступаў ён: асобныя дзеючыя персанажы — толькі яго, народа, персаніфікацыя, у тым ліку і персаніфікацыя непрымальных чалавечых памкненняў і якасцей (ворагі, здраднікі).

У «Векапомных днях» эмацыянальная ідэя помсты ворагу цалкам падпарадкоўвае сабе асноўныя прынцыпы адлюстравання. Адсюль гіпертрафіраванае адлюстраванне эпізодаў вайны, нават першых яе дзён. Як прыклад, можна прывесці наступныя эпізоды: невялікі партызанскі атрад у самым пачатку вайны падбівае аж дзесяць нямецкіх танкаў, а сялянка Ганна забівае карніка віламі і г. д. Адсюль і ўніжальна-сатырычныя характарыстыкі ворагаў: «...з адчыненых люкаў (падбітага танка. — **В.Л.**), як прусы са шчылін, пачалі выскакваць нямецкія танкісты». Нават сама прырода, нібыта пратэстуючы супраць здрадніцтва, уносіць у аблічча здрадніка фізічна непрывабныя рысы: Клопікаў «з рэдкай барodкай, з сухім маршчыністым тварам». Што датычыць станоўчых герояў, то яны нібыта ўвасабляюць у сабе прыродныя сілы, падпітваюцца жыватворнымі сокамі зямлі. Нават старасць, як у Селівона Лагуцькі, не мае над ім улады. Гады прайшлі над ім, як «праходзяць яны над гэтай ракой, над глухім борам, над купчастымі, прысадзістымі дубамі, што спакон веку стаяць на левабярэжнай лугавіне».

У савецкай літаратуры 40-х гадоў быў досыць моцным рамантычны пачатак. Лідэрам была ўкраінская проза на чале з Д. Даўжэнкам: герой яго апавядання «На калючым дроце» Пятро Чабан, нібы прарок, вядзе за сабою іншых людзей, якія не з'яўляюцца пакуль гігантамі духу. Сімвалам магутнага духу ў «Векапомных днях» можна лічыць вобраз бацькі Міная. Ён нагадвае біблейскага Іова — у інтэрпрэтацыі літаратуры сацрэалізму. Мінай свядома адмаўляецца ад сваіх дзяцей дзеля барацьбы. Адданасць партыі пераважвае бацькоўскі абавязак. На жаль, у М. Лынькова трагедыя найвялікшага чалавечага болю не атрымала адэкватнага філасофскага адлюстравання. Ды і псіхалагічнага таксама. Увогуле ж, як адзна-

чыў В. Каваленка ў сваім артыкуле пра пісьменніка, задача збліжэння рамантыкі і прозы жыцця, пошукі ідэалу жыцця высакароднага і ў той жа час рэальнага праходзяць праз усю творчасць М. Лынькова, вызначаюць усе яго ідэйнамастацкія асаблівасці. « Гэты пісьменнік умее быць рамантыкам, умее знайсці герояў-рамантыкаў у жыцці, але ў той жа час бачыць рэальныя праблемы жыцця, не дазваляе рамантычнаму пачуццю лунаць у нежывым, халодным паднябессі, а кіруе яго на зямлю» (Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. У 4-х тамах. Т. 2. С. 383).

Такім чынам, «літаратура факта» ўнесла значны ўклад у развіццё еўрапейскага рамана. І ў гэтай сувязі беларускі раман, які развіваўся ў кантэксце «літаратуры факта», акрэсліў яе панарамна-эпічны кірунак.

Вопыт беларускага рамана 40-х — пачатку 50-х гадоў, гэтак жа як і вопыт польскага рамана першых пасляваенных гадоў, быў вопытам трагічнай па сваіму характару літаратуры. У развіцці еўрапейскай літаратуры гэта была адметная жанравая структура.



ТАМАРА НУЖДЗІНА

# ПАМІЖ ВАЙНОЮ І ДНЯПРОМ

Паэзію Аляксея Пысіна мала чытаць. Яе трэба чытаць і перачытваць. Перачытваць і чытаць. Пры гэтым часта лаўлю сябе на думцы, на адчуванні не толькі новай глыбіні, але штораз свежасці і навізны. І чым далей вядзе нас сёння час ад зямнога жыцця паэта, яго быційнай існасці, тым ярчэй свеціць зорка ягонага таленту, тым выразней бачацца абсягі і глыбіня ягонай паэзіі.

Мабыць, сапраўды патрэбна адлегласць — часавая, прасторавая, — каб зразумець, належна ацаніць вялікае, высокае. Чытаеш, прамаўляеш услых пысінскія радкі... Як быццам нічога складанага. Усё проста, зразумела. Ніякіх модных фармальна-стылёвых эксперыментаў напаказ. А вось хвалюе, уражвае, як магніт, прыцягвае. І ўсё таму, што душой напісана, сэрцам выказана. Шчыра, глыбока і па-пысінску далікатна. Відаць, зусім невыпадкова так цікавяцца творчасцю А. Пысіна беларускія даследчыкі на пачатку новага стагоддзя. Прыгадаем, напрыклад, артыкулы Таццяны Хоміч або цікавыя матэрыялы пра асобу паэта, змешчаныя ў часопісе «Крыніца» (2002, № 1).

Аднак убачыць свет пысінскай лірыкі цалкам, ва ўсіх праявах, змястоўна, аб'ёмна бывае не пад сілу. Заўсёды ёсць, застаецца ў яго паэзіі штосьці такое, што не расчытаеш адразу. Захапіўшыся адным, абавязкова ўпусціш нешта іншае, не менш важнае для разумення творчага аблічча майстра.

Яшчэ доўга будзе вабіць даследчыкаў да канца не спазнаны паэтычны свет, да якога А. Пысін прыйшоў не адразу, а толькі тады, калі адчуў патрэбу даць волю памяці, што «незабыўным плешча ў сэрца». Так паступова пачала выбудоўвацца па-мастацку адметная мадэль свету, які абжываўся і засяляўся творцам пасялянску ашчадна і рупна.

Пра што б ні пісаў былы франтавік, якія б з'явы ці падзеі ні займалі яго ўяўленне, якія б думкі альбо пачуцці ні хвалявалі, паэтычны вобраз, мастацкі малюнак ніколі не абыходзіўся без вопыту мінулага: франтавога або прыродна-сялянскага. Пасляваенная рэальнасць бачыцца, успрымаецца і па-мастацку ўвасабляецца таленавітым паэтам у сістэму вобразаў, ацэнак, ідэалаў і эстэтычных каштоўнасцей, здабытых вопытам салдата, вопытам сейбіта, вопытам інтэлігента-мысліцеля.

Лірычны герой Пысіна, што бачыў «дно ўскіпелых пераправаў, // Знікненне армій і дзяржаў», назаўсёды апалены вайной. І як вынік — нечаканыя вобразна-асацыятыўныя карціны. Часта дынаміку думак, настрою, рухомасць і зменлівасць навакольнага жыцця, яго здольнасць да самаабнаўлення выдатна акцэнтуюць вобразы прыроднай стыхіі: навальніцы, маланкі і грымоты, дажджы і ліўні. І хоць тыя ліўні і дажджы ў сістэме паэтычных вобразаў — з'ява даволі частая, аднак у чытацкую свядомасць кожны раз яны ўваходзяць інакшымі. Но-

вымі. Яркімі. Запамінальнымі. Устрывожаная душа, зняможаная памяць, балючыя сны — усё дыктавала паэту адпаведнае мастацкае выяўленне свету і біяграфіі франтавога пакалення. У лірыцы Пысіна гэты свет праступае ў карцінах, вобразах і сцэнах, напоўненых грымотамі і гулам, сляпучымі агнямі баёў, небяспекай пераправаў і бездарожжам. Таму і паяўляецца прамая і адваротная асацыятыўная сувязь. Тады — вайна, **салдацкія калоны** і грымотна-навальнічныя агні баёў, цяпер — навальнічныя грымоты і маланкі, што таксама суправаджаюцца калонамі ліўняў і дажджоў. Вобразы дажджу, навальніц і маланак надзейна прыжываюцца на старонках пысінскіх кніг, стаюць арганічнай часткай светабачання лірычнага героя. Навальнічны фон патрэбен не толькі тады, калі ацалелы франтавік асабліва востра адчувае сваю віну перад памяццю тых, хто не вярнуўся з цяжкіх пераправаў, пад кім і над кім назаўсёды застаўся снег ды «гліна коўзкая, пад зол сыры» («Балада пра начлег», «Іван-чай», «На жалезным кастры самалёта», «Валуеў» і інш.). Дарэчы, такое абвостранае пачуццё асабістай віны перад тымі, хто маладым навек застаўся на вайне, у творчасці паэтаў-франтавікоў назіраецца хіба што ў А.Твардоўскага. Лічы, адначасова з Пысіным, у сярэдзіне 60-х, прагучала пранізлівае, шчырае прызнанне таленавітага і знакамітага паэта са Смаленшчыны:

Я знаю, никакой моей вины
В том, что другие
Не пришли с войны,
В том, что они —
Кто старше, кто моложе —
Остались там,
И не о том же речь,
Что я их мог,
Но не сумел сберечь. —
Речь не о том,
Но все же, все же, все же...

Зусім відавочна, што гэтае «но все же...» паліла і душу беларускага паэта з Краснаполля, паліла такім агнём нясцерпным, што яна дзесяцігоддзямі не ведала спакою. Заходзілася ад болю і спавядалася, шукала пакаяння. Зусім па-хрысціянску. За грахі чужыя і свае.

Так грымела, так свяціла
Пры дажджы і без дажджу.
Ноччу гэтай ноч судзіла
Добрую душу маю.

Я, чакаючы расплаты,
Думаў,— як ты ні глядзі,
А, вядома, вінаваты
Перад светам і людзьмі.

Абяцаў я ўсім даволі
Светлай радасці і свят.
А на свеце войны, войны.
І таму я й сам салдат.

Ужо напрыканцы 60-х, нібы зняўшы з душы неймаверны цяжар былога, вызваліўшы памяць з маўклівага палону, лірычны герой паэта крыху суцішваецца. Ён па-ранейшаму здольны чуць рэха свайго франтавога юнацтва і трагічнае становішча, але танальнасць, эмацыянальнае напружанне ўсёй творчасці А. Пысіна адмяняюць свой рэгістр, усё радзей прарываючыся ў вершы адкрытым болем. Адпакутаваўшы сваё, мастак, відаць, прыходзіць да высновы, што вопыт мінулага (і трагічны, і горкі, і велічны ў ахвярнасці сваёй) — гэта душэўны і духоўны набытак, у першую чаргу, толькі яго. Так, у вершы «Памяць» сустракаем цікавае і дужа пысінскае прызнанне — адпаведна яго маральным прынцыпам і жыццёвым ідэалам — аб тым, што абуджаны пароль памяці, ваеннае водгулле грому і болю

немагчыма перадаць камусьці другому. Светлы розум і разумная душа паэта скіроўваюцца на адно: не апячы, не разбурыць даверлівасць да свету юных душ, што нарадзіліся не пад гром далёкіх кананад, а пад светлы пошум мірнага дажджу:

Пасля дажджу шумяць яшчэ нябёсы,
Яшчэ ў паветры пругкі цень вады,
Спяшаецца па лужах хлопчык босы,
Вяснушкамі абліты, залаты.

Не скажам мы яму, чым аплацілі
Вось гэты лівень і вось гэты гром,
Нявінныя дзіцячыя плаціны,
Бязгрэшную вясёлку над Дняпром.

Ды гаварыць пра сапраўдную цану здабытага права на мірнае жыццё, відаць, няма патрэбы і яшчэ па адной прычыне: сама па сабе, адно сілаю пысінскага таленту, незалежна ад жадання чытача, узнікае ў яго свядомасці абсалютна рэальная, канкрэтна-зрокавая сувязь паміж сённяшнім залаціста-босым хлопчыкам і тым гвардзейцам-хлапчуком, што вясной застаўся ляжаць на выветраным схіле. І аблічча, і ягоны подзвіг паэт і салдат Аляксей Пысін «адліваў» у паэтычнай бронзе верша «Валуеў»: «Малюю казку. І пад ёй малюю // Вучнёўскі твар, вяснушак пух». Партрэт, магчыма, не набыў бы такога мастацкага абагульнення і псіхалагічнай змястоўнасці, каб не метафарычны вобраз чырвоных рукавіц, што «вылятаюць» з рукавоў салдата вясёлымі птушкамі. Помніліся, месціліся тыя вязаныя матчынымі рукамі рукавіцы ў мастакоўскай памяці не адну вясну ці лета. Нарэшце, папрасіўшыся ў радок, так жыва надалі вобліку лірычнага героя эпічную выразнасць і трагічную акрэсленасць. Упаў баец, а па баках застылі рукавіцы-снегіры: абарвалася песня, прыгожая песня юнацтва. На самым узлёце. Вось яна, тая цана і за бязгрэшную вясёлку, і за Дняпро, і за басаногае залацістае маленства.

Ваеннае мінулае навучыла лірычнага героя А.Пысіна цаніць усё жывое: чалавека і птушку, травінку і дрэва, пчалу і мураша, а разам — востра адчуваць і разумець нетрывалую трываласць самога жыцця, яго драматычную сутнасць. Унутраны стан героя вызначаюць павышаная ўстрывожанасць, нервова-эмацыянальнае напружанне. Перадаць жа гэты стан мастак умее стрымана-сурова, пачалавечы праўдзіва і па-мастацку пранікнёна.

У сваім імкненні да максімальнай выразнасці думкі і пачуцця пісьменнік вельмі акуратны і ашчадны ў выбары слова. Відаць салдацкая звычка пазбаўляцца лішняга, непатрэбнага, што абмяжоўвае свабоду ўчынкаў і дзеянняў, думак і пачуццяў. Пабытавай інфармацыі па мінімуме, аднак эпічны пачатак адчувальны і відавочны. Сюжэтна-падзейная аснова вырашае тут далёка не ўсё. Галоўнае — адбор рэалій і акцэнтацыя на іх увагі чытача. І робіць такі акцэнт Пысін з асаблівым тактам, бадай што віртуозна. Бывае, выдзяляецца ў самастойны сказ адно-адзінае слова. Ключавое. Як знак, як мяжа, як рубеж, адкуль бярэ выток-пачатак думка ці малюнак, пачуццё альбо з'ява. Можа быць і цэлы ланцужок назыўных сказаў. У падобнай аўтаномнасці кожнага слова жыве асобая значнасць, знікае пералічальнасць, аднародная цэласнасць і аднатыпнасць. Далей аўтарам пашыраюцца прасторавыя параметры азначанай з'явай. Той жа радок убірае новы сказ, крыху пашыраны пэўнымі звесткамі, але па-ранейшаму лаканічны: два-тры словы. Разумееш, кожны новы сказ — гэта яшчэ адзін віток думкі.

Назіранні над структурай пысінскага вершаванага радка прыводзяць да цікавых абагульненняў. Паэтычны сінтаксіс страфы становіцца падобны да кругоў на вадзе. Новы круг абавязкова шырэйшы за папярэдні. Карціна бачыцца ўсё больш і больш аб'ёмнай, пачуццё набывае максімальную згушчанасць, а думка сваю маштабнасць. Часам бывае і наадварот. Мастак пачынае з вялікага і паступова, круг за кругам, звужае абсягі думкі ці з'явы, дабіраючыся да асноўнай, глыбіннай сутнасці. Падобная арганізацыя, структура паэтычных радкоў прыносіць паэту бясспрэчную мастацкую ўдачу. Варта ўспомніць з гэтай нагоды такія цуды паэтычных адкрыццяў Пысіна, як «Далёкі тупат кананады», «Валун. Гарэлае бало-

та», «Кіпарысы. Смуга. Павалока», «Дарога», «Жніво. Смуга над плёсам. Воз снапоў...» і інш. Аднак і тут у Пысіна ёсць свая цана і мера, што засцерагае яго паэзію ад штампа.

*Мастак выдатна* разумее, што частае выкарыстанне адной і той жа з'явы, вобраза альбо прыёму можа прывесці да страты мастацкай навізны думкі, пачуцця, карціны свету ці малюнка. У такім выпадку інтаніраванне думкі ці пачуцця ў паэтычным кантэксце пысінскай лірыкі адбываецца і за кошт умелага адасаблення пэўнага слова альбо паэтычнай фразы. Часта ў згаданым становішчы аказваецца азначэнне-эпітэт. Логіка мастацкага мыслення тут адкрыта празрыстая. Увага скіравана на сутнасныя прыкметы з'явы. У вершы «Пярэдні край. Чужы. Неразгаданы» ад асноўнага паняцця «пярэдні край», як бачым, адасоблены два азначэнні. Адасоблены ў абсалютна самастойную значнасць. Кожны сказ мае аўтаномны знак прыпынку — кропку. Чужы — значыць варожы, небяспечны, патрабуе насцярогі і асцярогі. Неразгаданы — значыць запатрабуе вялікіх намаганняў, выдаткаў. Фізічных, эмацыянальных, маральных, разумовых. А як хораша загаварыла-засвяцілася ў вершы «Пасля дажджу шумяць яшчэ нябёсы» адасобленае, вынесенае ў канец страфы метафарычнае азначэнне «залаты». Вобраз босага, у вяснушках хлопчыка, што радасна бяжыць па лужынах, бачыцца ў двайным сэнсавым напаўненні. Залаты — бо светлы, сонечны, шчаслівы, шчодра, густа абсыпаны дарункамі вясны і, вядома ж, з галоўкай мядзяна-рыжаватай. Залаты — бо вельмі дарагі, адваяваны ў вайны як жыцця працяг, як будучыня і сваёй зямлі, і чалавецтва.

Дарэчы, паэзія А.Пысіна — гэта незвычайная планета, што выпраменьвае вялікую энергію святла і пачуцця, энергію думкі і настрою. Энергія пульсуючая і нязменна жывая. Па гэтай прычыне і рытм паэтычнага радка, страфы рэдка бывае спакойным, ураўнаважаным. Вібрацыя пачуцця, яго напал характарызуецца перарывістасцю інтанацыі, шматлікімі абрывамі, паўзамі, разрывам сказа, пераносам на другі радок. Адсюль і наяўнасць абавязковых шматкроп'яў, працяжнікаў, пытальнікаў, клічнікаў.

Не лішне будзе сказаць і пра тое, якое месца ў стварэнні паэтам сваёй мадэлі Сусвету, канцэпцыі народнага светабыцця займае паўтор — слова, паэтычнага вобраза, пэўнай інтанацыі. Па вялікім рахунку паўтораў у пысінскай лірыцы безліч. І ўсе абавязкова са знакам аўтарскай асабовасці, пысінскага таленту. Кожны раз адметныя характарам «ужыўлення» ў мастацкае палатно. Паўторы ў лірыцы А.Пысіна — гэта пастаянная мастацкая велічыня. Рэдка які твор абыходзіцца без іх, аднак ніколі не бывае іх зашмат. І яшчэ. Шырокае выкарыстанне пісьменнікам ідэйна-мастацкіх і стылёвых магчымасцей паўтораў не выклікае адчування публіцыстычна-аратарскай завостранасці. Хутчэй наадварот. Бачыш і разумееш, што менавіта гэтакім чынам удаецца мастаку перадаць адчуванне бясконцасці, глыбіні і маштабнасці адкрытага, адчутага, спазнанага, эмацыянальна і фізічна перажытага аўтарам і яго героем, часам і людзьмі, краінай і планетай, светам і Сусветам.

Каб адчуць і ацаніць мастацкую мэтазгоднасць і псіхалагічна-эмацыянальную неабходнасць пысінскіх паўтораў, паспрабуем уявіць, што іх няма, скажам, у такіх вершах, як «На свежым пні глыбокія кругі», «Гудок паравоза ў дрымоце начной», «Палім мы маршанскую махорку», «Цябе, як пушчу, адкрываю», «Лямпачка — паўночнае свяціла» або вось гэты — «Далёкі тупат кананады». Паспрабуйце перачытаць яго без пранізлівага паўтору слова-матыву «Сямёнаўна», якое ў канцы верша паўторыцца без двукосся: рэальныя Сямёнаўны, Іванаўны не дачакаюцца з вайны сваіх салдат. Гэты шэдэўр пысінскай лірыкі цалкам трымаецца на паўторах. Эканомія слова выключная, а глыбіня драматызму бязмежная.

Спяваем мы, пакуль пяецца,
Спявае вецер і сасна;
Не ведаем, дзе абарвецца
Неадспяваўшая струна.
Сухі пясок. Сухія гаці.

Сухі туман балтыйскіх вод.
На дзюны ўпаў сяржант Ігнацьеў,
Пад біўні зломленых грымот.
Чарнеюць спаленыя дзюны,
Чарнее глыба валуна.
Парваныя сцякаюць струны:
Сямёнаўна,
Іванаўна...

Колькі можна даравань паэту магчымых грахоў за той адзіны паўтор «сухі»! Ад нейтральна-інфармацыйнага «сухі пясок» мастакоўскае ўяўленне вядзе нас да адчування немагчымай гарачыні баёў, прагі перамогі і адчайных фізічных намаганняў. Адсюль і вобраз адпаведны — «сухі туман балтыйскіх вод». Без падобных паўтораў Пысін перастае быць Пысіным, а яго паэзія падаецца прэснай, без той бяздоннай глыбіні, зазірнуць куды не кожнаму суджана, без гаркотнага прысмаку трагічнага болю. Цікава, што вершаў з такім вось шырокім дыяпазонам паўтораў у межах адной жанравай формы набярэцца ўсяго два-тры дзесяткі на цэлы том лірыкі паэта.

Быць Пысіну арыгінальным у абыходжанні з паўторамі дапамагае многае. У кантэксце пэўнай мастацкай сітуацыі паўтараецца не толькі адно і тое ж слова, але і вытворныя ад яго. У паэтычнай тканіне верша паўторы маюць «рухомую прапіску», адпаведна логікі законаў развіцця мастацкай ідэі, развіцця думкі або пачуцця. Па гэтай прычыне камунікатыўныя функцыі паўтораў у лірыцы Пысіна досыць шырокія: звязваюць пачатак і канец верша, кульмінацыйныя сцэны і фінал, па прынцыпе ланцужковай сувязі могуць паслядоўна яднаць адну страфу з другой, пашыраючы абсягі думкі, гарызонты эпічнай рэальнасці. Мала прыкметныя, на першы погляд, мадыфікацыі пэўнага слова ці яго перастаноўка ў кантэксце радка-паўтора ствараюць нечаканы мастацкі эфект, як, напрыклад, у вершы пра паэта Анатоля Сербантовіча («Што світанне ў вербах тоіць») альбо ў «Баладзе пра камбата».

У залежнасці ад таго, якія пытанні трывожаць душу лірычнага героя, як у тую ці іншую хвіліну складваюцца яго адносіны з навакольным жыццём, наколькі высокая ступень эмацыянальнага напружання героя і неадэкватнасць яго рэакцыі на змены ў свеце і асабістым жыцці, мяняюцца сацыяльна-эстэтычная змястоўнасць паўтору і яго стылёва-кампазіцыйная фактура.

Адно тое, што Пысін з такой балючасцю і трывожнай памятлівасцю загаварыў пра вайну, абумовіла па-быкаўску суровую праўдзівасць яго паэзіі, пазбавіла прысутнасці ў ёй публіцыстычна-агітацыйнай трактоўкі гераічнага, што не магла сабе дазволіць савецкая паэзія ваеннага часу. Нават такім выдатным мастакам, як А.Куляшоў ці П.Панчанка, А.Твардоўскі або К.Сіманаў, не заўсёды ўдавалася пазбегнуць афіцыйна-прапагандысцкага погляду на гераічнае і спецыфіку яго мастацкага выяўлення ў паэтычным слове.

Прыродная сціпласць і разуменне таго, што залішняя гучнасць і пафаснасць мяжуюць з мастацкай няпраўдай і нават фальшам, абумоўліваюць высокую патрабавальнасць паэта да самога слова і выказанага словам. Вобразнасць пысінскай лірыкі якраз і грунтуецца на спрадвечных (яшчэ з міфалагічных часоў) уяўленнях беларуса пра тое, што несла, на яго думку, жыццядайны пачатак: сонца і неба, зямля і дрэва, агонь і вада. Нашаму далёкаму прашчуру бачылася тут свая, не заўсёды зразумелая, але непарыўная сувязь, пэўная гармонія і хараство. Нездарма ў мастацкім свеце паэта дняпроўскага краю ва ўсе перыяды творчасці такое выключнае месца займае вобраз вады, ідэйна-эстэтычныя і стылёва-выяўленчыя функцыі якога шматстайныя.

Амаль у кожным вершы першых зборнікаў паэта — «Наш дзень», «Сіні ранак», «Сонечная паводка» — сустракаем згадкі пра ваду, раку ці возера, масты і кладкі, чаўны, плыты, разлівы і паводкі. Але пакуль што — гэта толькі адзнака, штрых, дэталь таго прыроднага наваколля, якому так радуецца лірычны герой. Мастак, трывала прывязаны генетычным вузлом да родных каранёў, на розны

лад, з рознай нагоды прыгадвае ўсе свае рэчкі, рачулачкі і рэкі. Ведае і помніць, як родных і блізкіх, землякоў і аднавяскоўцаў, кожную з іх: імя, аблічча, характар і нораў. Гэта Сож і Проня, Друць і Бесядзь, і рачулка Дубравенка, названая ў вершы шнурочкам Дняпра.

Знойдзем у лірыцы А.Пысіна і марскія матывы і вобразы («Знаёмства з морам», «Сабака ў моры», «Ступае мора пругкаю ступою» і інш.). Знаёмства з морам прывяло паэта і яго героя да своеасаблівых назіранняў і высноў:

Ды вось вада, як полымя, высокая, —
Ёй вечна ракатаць, свяціць, звінець.
І ўспомняцца рачулкі перасохлыя,
Што навучылі мора разумець.

Адчуваецца рука сталага майстра: прыйшло ўменне злучыць у мастацкае цэлае далёкае і блізкае, радасную захопленасць і роспачнае шкадаванне. Перасохлыя рачулкі беларускія і мора з яго небяспечна-крутым, як полымя, норавам паяднала слова-вобраз «вада», якая набудзе ключавое значэнне ў сістэме паэтычных вобразаў. Лірыка Пысіна вучыць разумець амаль што па-язычніцку душу вады і яе мову. Як нашчадак рупліўца-сейбіта, Пысін-паэт ведае цану «рачулцы па калена» і рацэ, стаўку і возеру, расінцы і навальнічнаму дажджу, струменьчыку крынічнаму і чысціні калодзежнай вады. І гэтая вада, якой праз сто пластоў зямлі чалавек падаў сваю далонь, — самая чыстая, бо асвечана працай цяжкой і высокай. Ваду ў калодзежы спаганіць — вялікі грэх. Так лічылі продкі. Калі здарэцца паэту бачыць калодзеж, спаганены і пахаваны, то не праміне сказаць ён і пра душу вяскоўцаў-землякоў, яе адкрытую даверлівасць, працавітасць і шчодрасць.

Нічога вы гатовага не бралі,
Ўсё здабывалі ўласным мазалём;
Але яшчэ ніколі не трымалі
Ваду
і ўсё святое
пад замком.

Вобраз вады, як і само жыццё пысінскага героя, існуе ў двухмерным вызначэнні: вада часоў бяздонных пераправаў і плынь паэзіі стваральнага жыцця. Вада не толькі зваблівае хараство і прыцяжэнне, але і небяспека, таямніца. У гэтым свеце плыткай зменлівасці і няўлоўнай загадкавасці ўсё так сутнасна, так сэнсава-значна, што паэт адгукнуўся вершам з адпаведнай назвай — «Вада». Такое выпадковасцю не назавеш. За ўсім — асабістая біяграфія. «Вада тапіла двойчы ўжо мяне», — раптоўнае чуем прызнанне. І тут жа прыгадваецца паэтам аднолькава незразумелы для тутэйшай натуры лад думак і нораў цыганскай душы. Няўрымслівай, вандроўнай, таямніча-варажбітнай. Прывабнай і такой жа небяспечнай, як нечаканыя віры на ціхіх беларускіх рэках. Толькі сапаставіўшы такія вершы, як «Адчыняйце вокны — гром пялёснуў» і «Вада», зразумееш, адкуль у пысінскіх рэк цыганскае аблічча: «Вада — цыганская радня, // Вада — яна з зялёнымі вачыма». І чалавек, сцвярджае мастак, «з упартасцю вярбы нямой», пераадольваючы страх «вечнай варажбы» і «глыбіні відушчай», спаконвеку цягнуўся да пявучай вады.

Пысін не проста малюе свет, ён паспявае напоўніць сваю паэзію высокай думкай, прамовіўшы яе нягучна, але так узважана і мудра, што многае ўспрымаецца як афарызм. Паэт старанна абрабляў, расціў поле сваёй паэзіі, а разам «расціў» і сваю душу, сваю свядомасць. Спяліў і спяліў свае думкі. Па сутнасці, жыццёвае рэчышча лірычнага героя і паэта пралягло паміж двума берагамі — берагам ваеннай памяці і поймаю дняпроўскай.

Было паміж згаданымі берагамі ўсяго: бяды і гора, радасці і смутку, было сталенне таленту, што заяўляў па-куляшоўску насеннем прагавітых дум. Удзячны «пераліўістаму слову» паэт навучыўся «зямное, крэўнае» знаходзіць у тым, «што вызначае корань і аснову». А яшчэ была сям'я, было каханне. Сказаў і пра гэта паэт. Па-мастацку хораша і далікатна. Каб не напаказ. Нямала ў творчасці Пысіна

вершаў пра жанчыну. Працаўніца, салдатка, удава, маці, вясковая бабулька… І яна, каханая. Сказаць пра каханне, адкрыць і гэты мацярык пачуццяў Пысін наважыўся ў сярэдзіне 60-х гадоў — «Свяцілася зялёнае акно», «Прывітанне тваім каравелам», «На схіле дня святла яшчэ даволі», «О, сэрца, адчувальнейшая памяць», «Птушыныя гнёзды пад снегам заснулі», «Цябе, як пушчу, адкрываю» і інш. Тут не юначая паводка і не гаркотны сталы хмель пачуццяў. Ад нагаданых вершаў ідзе святло даверу і цяпла, цэльнасці і шчырасці адносін.

Замкнуліся глыбокія пласты
Над пройдзеным. І ведаю адно —
Што шчодры свет. Ёсць музыка і ты,
І ёсць тваё зялёнае акно.

Інтымна-пачуццёвы змест пысінскай лірыкі 60-х гадоў — гэта таленавітае слова мастака пра гарманічнае сямейнае зліццё мужчынскага і жаночага пачаткаў. Сказана кранальна, чыста і хвалююча.

На схіле дня святла яшчэ даволі,
Вільготны цень кладзе дубоў сям'я.
О, як патрэбны мне твае далоні,
Любоў мая.

Магчыма, сённяшняму чытачу, што «спажывае» набыткі эратычна-сексуальнай рэвалюцыі, свет такіх адносін будзе здавацца старамодным. Аднак, каб чалавек быў чалавекам, жыццё так любіць падкідваць загадкі, таямніцы, многае хаваючы «за кадр». А тое, што «за кадрам», разгадваць цікавей, бо застаецца прастор для думак і фантазій. Герой творчасці Пысіна ў гэтым плане жыве па законах і мерках свайго ўзросту («мой лістапад няшумны»), свайго часу і пэўных літаратурна-мастацкіх абмежаванасцей (не прынята было гаварыць пра фізічны пачатак інтымных адносін), свайго сялянскага паходжання (вяскоўцы рэдка гавораць пра тонкасці сямейных адносін, болей пра зямлю ды хлеб). Прысутнасць, абсалютную значнасць жаночага пачатку ў сваім жыцці Пысін падкрэсліць неаднойчы. Гэта быў яго паратунак ад трывожных сноў, трагічнай памяці былога: паўставала іншаю рэальнасць, пашыраліся творчыя далягляды мастака, прыходзіла вера ў надзейнасць свету і няскончанасць жыцця. Патрэба ў гэтым была такая, што аўтар нават зборнікі свае назваў падкрэслена, тэндэнцыйна: спачатку — «Мае мерыдыяны», а следам — «Твае далоні». Як бачна, назвай цэлага зборніка засведчана паэтам важная з'ява ў яго мастакоўскай канцэпцыі творчасці — абавязковая прысутнасць незнішчальнай сілы харaства кахання, гармоніі душы і свету, чалавека і прыроды.

І я адчую, ўбачу, невідушчы,
Далонямі тваімі ўбачу я
Ў палёце ластаўку, рабіну ў пушчы,
Любоў мая.

Адкрываць па-новаму свет, пачынаць свой новы дзень, дзень мірнага жыцця і новых ідэалаў, Пысіну прыходзіцца вучыцца зноўку. І пачне ён амаль з дзіцячага здзіўлення, адкрыцця і захаплення светам. Маштабнасць бачання тут іншая, як і цана адкрытаму. Пасля бясконцых ліўняў вогненных і пераправ, балючых страт і аглушальнай мірнай цішыні лірычны герой бы ўпершыню зірнуў на свет, адкрыў яго, убачыў новым, нечаканым. Усё цяпер тут стала мець сваю цану і сваё месца, значнасць і філасофскую заканамернасць: будзённа-звыклае, малое вырастае да вечнага, вялікага. Але такое бачанне прыходзіць не адразу. Спачатку праступаюць толькі контуры, абрысы. Усё выпрабоўваецца на дотык. Пройдзе пэўны час, пакуль не стане зрок відушчым і не злучыць два жыцці, два берагі.

І здзіўляцца, напэўна, не трэба,
Калі выйду, апалены, з сну
І, не ўбачыўшы блізкага неба,
Свет абмацваць пачну,
Як сцяну.

І гэта не столькі паэтычная метафара, колькі стан душы, яе сутнасць. Важна не проста чуць і бачыць, але фізічна, адчувальна ўспрымаць плынь мірнага жыцця, кожную яго пясчынку, узгорак ці нізінку, сцежку ці дарогі нечаканы паварот. Дарэчы, ёсць штосьці блізкае пысінскаму разуменню, адчуванню жыцця ў паэзіі Сцяпана Гаўрусёва, які таксама родам з Магілёўшчыны, але пахрышчаны вайной у дзіцячыя дзесяць гадоў. Спазнаў зарана ён цяжар жыцця, навучыўся развязваць быційнай мудрасці вузлы. Сур'ёзны погляд на свет, глыбіня паэтычнага мыслення, унутраная засяроджанасць, няспешная роздумнасць рытмаў і амаль малітоўнае абагаўленне ўсяго прыроднага, вясковага, зямнога С.Гаўрусёвым не магло не ўразіць чуйнага на талент Аляксея Пысіна. Нездарма з усіх сваіх вершаў-прысвячэнняў калегам па пяры самае выдатнае — «Забыта многае ў жыцці» — адрасаваў менавіта Сцяпану Гаўрусёву.

Варта ледзь дакрануцца да лірычнай душы Гаўрусёва, каб адчуць, як пульсуюць у ёй адзіныя з Пысіным крэўныя токі. Гэтак жа, як Пысін, умее ён імгненне ўзняць да вечнасці, касмічнай надзяліць душой ляснога мураша, жыццё якога ў сваёй драматычнай штодзённасці вырастае пад пяром паэта да гістарычнай сутнасці народнага быцця і лёсу.

Не ў прыклад некаторым
Прывык рабіць ён справу найцішэй:
Лес падарыў падобную раскошу —
Разоў у сотню за сябе цяжэй
Штодня патрэбную валочыць ношу.

І злыдзень яго дом знішчаў агнём,
І ненасытныя дзікі лычамі.
Забыўшы на ўсе крыўды, дзень за днём
Ён сноўдае з мазольнымі плячамі.

Ну, як жа тут не прыгадаць той знаёмай і жывучай пысінскай мурашкі, «што цягне штось праз войны, праз гады», ці той, што «сок з пянёчка выпіла», або дзеда з тварам, маршчынкамі пасечаным загуста, які аднойчы ўбачыўся паэту на дарожцы мурашынай «ў звонкім сене мурашак і вос».

Памяць пра вайну прымусіла Пысіна па-асобаму глянуць і на праблему прычыннай залежнасці ўсяго, што было, што ёсць і што мусіць быць. Абсягі пысінскай думкі, бытаванне яго герояў у прасторы і часе пры знешняй абмежаванасці дэталямі, фактамі асабістай біяграфіі паэта і яго выразна-мясцовай, рэгіянальнай прапіскі набываюць агульна-чалавечы характар. І гэта пры тым, што А.Пысін, скажам, у параўнанні з А.Куляшовым 60-70-х гадоў, не імкнецца да падкрэсленай маштабнасці паэтычнага вобраза, глабалізацыі мастацкага мыслення або эпахальнай скандэнсаванасці і дынамікі часу ў лірычным радку.

На працягу ўсёй творчасці Пысін застаецца надзейна прывязаным вузлом памяці да сваіх зямных вытокаў. Кожная новая кніга паэта адкрывала чытачу яшчэ не спазнаныя ім глыбіні і адметнасці гэтай сувязі. Ёсць адносна такой духоўна-псіхалагічнай залежнасці цікавае прызнанне мастака: «Трывала тое на паверхні, // Што даспявае ўглыбіні». Даспявала ж у той загадкавай глыбіні многае. «Даверлівы жыцця пасол», ён не менш абвострана, чым Куляшоў, успрымаў трывожную кволасць і неабароненасць жыцця. І не столькі ў планетарным маштабе, колькі ў дачыненні да кожнага (канкрэтнага) чалавека. І ўвогуле да ўсяго жывога.

Той жа Куляшоў значнасць чалавечай субстанцыі ацэньвае зыходзячы са свайго ўсведамлення адказнасці мастака за лёс Зямлі ў кантэксце часу, вечнасці, гісторыі зямной цывілізацыі. Адсюль і максімальная спрэсаванасць, ушчыльненасць паэтычнага часу або яго дынамічная — касмічная — рухомасць. Лірычны герой куляшоўскай паэзіі 60-70-х гадоў адчувае жыццё і як доўгі ланцуг узаемазалежных з'яў і спраў, духоўных ідэалаў і маральнага вопыту мінулых пакаленняў, акумуляваных у творчым лёсе. Ён — гэта і той, каго жыццё «калісь пазвала ў вандраванне... на многа тысяч дзён», і той, для каго «за годам год, ляцяць дзесяцігоддзі, як дождж, як пыл, як снег на галаву».

У лірыцы Пысіна дзейнічае хутчэй адваротны прынцып адлюстравання глабальнай значнасці жыцця і ўсяго ў ім існага. Паэт умее цаніць кожнае імгненне быцця, праяўленае ў канкрэтным часе, у канкрэтным лёсе, у канкрэтным месцы. І раптам у суцішанай разважлівасці пысінскай думкі або імгненнай азоранасці нейкай быційнай з'явы адкрываюцца такія маштабныя абагульненні, што яго паэзія адразу перасягае межы рэгіянальна-нацыянальнага пачатку і набывае агульначалавечы сэнс і значэнне.

І калі А.Куляшоў вядзе свой дыялог з вечнасцю і славай, гісторыяй і часам ад імя героя-мастака, творцы, то А.Пысін прамаўляе ад імя жывых і мёртвых, франтавікоў і ветэранаў, юнай змены і мудрай сталасці, інтэлігента і сейбіта, землякоў, аднавяскоўцаў, маці... Для кожнага з іх жыццё мела зусім канкрэтнае зямное выяўленне ў штодзённай руплівасці і сціплай усвядомленасці сваёй прысутнасці ў свеце. І калі зноў нечакана нагадае жыццё пра фізічна неадольную плынь часу чарговай «Мінутай маўчання», тады і лірычны герой, і чытач востра адчуюць, што ў кожнага з нас існуе свой час, існуе і сваё вымярэнне яго.

Пад карэннямі, пад малачаем
Ёсць у кожнага хтось дарагі.
«Ушануем
мінутай
маўчання...»
Мы маўчым, як маўчаць берагі.

Паміж намі струмень быстрацечны
З матылямі, ствaламі бяроз,
Нараджэнне чыёсьці і нечы
Міг астатні... Да самых нябёс.

Цішыня вырастае нязвыклая,
Бы знямела ўсё з той пары, —
Толькі чуеш — гадзіннік твой цікае
Ды зязюля кукуе ў бары.

І гэтае загадкава-міфалагічнае куванне лясной варажбіткі, і аглушальнае ў невымоўнай цішыні цікaнне гадзінніка ўладна, але не ў лоб, без усялякага маралізатарства, з філасофскай значнасцю нагадваюць пра цану зямных хвілін. Нездарма некалі так уразіў лірычнага героя верша «На самаркандскіх могілках» надпіс на даўняй грабніцы: «Жыў на свеце ён дзесяць мінут». Задумаўшыся над сутнасцю таго, у дзесяць хвілінаў, жыцця, Пысін прыходзіць да думкі пра незвычайную азоранасць тых дзесяці імгненняў. Толькі яны засталіся ў вечнасці, а ўсё, што было раней, — усяго подступы да гэтай азоранасці вечнасцю.

Сваю прысутнасць у свеце лірычны герой Пысіна акрэслівае не столькі праз спасціжэнне падзей і з'яў, эпахальнай іх сутнасці і планетарнай значнасці, а праз тыя змены, што адбыліся ў прыродным і духоўна-маральным свеце беларуса: зніклі рэкі з вірамі, пушчы і звяры, няма больш месца загадкавай фантазіі, у якой сяліліся русалкі, лесуны, вужакі пад дрывамі. Гэта ўсе адзнакі часу. І не проста канстатацыя, як кажуць, факта, а трывожнае, роспачна-клопатная перасцярога.

Няма той рэчкі, што люляла, —
Час рэчку ў травы перашыў.
Не знаю — многа альбо мала
Ў сваім стагоддзі я пражыў.

Сутнасць тут, вядома, не ў тым, колькі зім і вёснаў доўжыўся твой век. Асобую значнасць набывае падтэкст: як пражыў і што зрабіў. Калі меркаваць па працягласці жыцця А.Пысіна ў рэальным часе, то наканавана яму было доўжыцца да крыўднага мала. Затое сапраўднаму таленту заўсёды выпадае шчаслівы лёс доўжыцца ў праўдзівым слове. У дачыненні да Пысіна іначай і быць не магло, бо слова ягонае было адбеленае так, як той спадчынны ручнік, адбеленае высокім пачуццём дабра і справядлівасці. Паэт жыў і тварыў свой асобы свет, нібы выя-

раючы яго мастацкую сапраўднасць апошнім днём свайго быцця, зямнога існавання.

Пра той апошні прывал, што суджаны кожнаму, Пысін загаварыў занадта рана, амаль саракагадовым. Згадваў часта, помніў пастаянна. Віной таму не толькі трагічная памяць вайны, але і страты незваротныя блізкіх людзей у мірныя дні. Жыве праз доўгія гады ў сэрцы лірычнага героя Пысіна заўсёдны боль па маці. Ім прасякнуты многія вершы — «Не пялёсткі ганак усцілаюць», «Яшчэ мне верыцца, яшчэ мне верыцца», «Жніво. Смуга над плёсам», «І ўсё магла», «У запозненым прызнанні», «Светла так на могілках і суха», «Дарагія сябры і суседзі» і інш.

Рана, нібы прадчуваючы не такі і далёкі трагічны фінал, загаварыў пісьменнік пра свой апошні лістапад, «дзе зразумела ўсё і ўсім», і пра апошняе дыханне, і пра «імгненне апошняй разлукі» з усім, што любіў, дзеля чаго жыў. Бадай, ні ў аднаго з літаратараў франтавога пакалення ў нейкія сорак гадоў не праяўлялася з такой настойлівай паслядоўнасцю вострае адчуванне непазбежнасці завяршэння жыццёвага шляху. На свой мажлівы адыход і Пысін, і яго герой глядзяць па-філасофску мудра і з сялянскай годнасцю гатовы прыняць падобную наканаванасць.

Скажам, праблема жыцця і смерці востра пастаўлена і ў «Новай кнізе» Аркадзя Куляшова, старэйшага за Пысіна сваім узростам, жыццёвым вопытам і літаратурнай біяграфіяй. Куляшоўскі цыкл вершаў таксама ўзнік на пачатку 60-х. Аднак і характар разваг, і прычыны, што абумовілі зварот аўтара да гэтай адвечнай праблемы, зусім іншыя. Куляшова хвалюе магчымасць знікнення ўсяго жывога на планеце ў сувязі з тым, што пад пагрозай аказалася ўвогуле жыццё самой планеты Зямля.

У Пысіна ўражвае іншае. Ён умеў думаць аб зямным і вечным, суперажываючы канкрэтнаму лёсу. Думаў з нейкай асаблівай, бадай што дзіцячай, верай і дарослай упартасцю — насуперак розным ідэалагічным устаноўкам і патрабаванням — у несканчонасць усяго жывога, у пастаянную прысутнасць на свеце жыцця кожнай жывой душы, адвеянай ад цела часам. Вось, «на могілках, нашчадкамі забытых», дзеці, нагуляўшыся «ў вайну», наладзілі мір, замацаваўшы згоду кастром і бульбай, спечанай на вогнішчы.

Без солі смачна бульбу дзеці елі
Ў сухім святле недагарэўшых дроў.
З-пад пліт, з-пад дрэў гусцей сышліся цені:
Даўно не грэліся каля кастроў.

Вядома, толькі Пысін мог намаляваць падобную з'яву так па-чалавечы значна, цёпла, з пачуццём удзячнага даравання мудрымі продкамі дзіцячага свавольства і даверлівай наіўнасці. Мастаку ўдалося не толькі стварыць аб'ёмную і цэласную карціну свету, але і ў самім сабе спалучыць дзве сутнасці жыцця — свет існы і былы, а разам — убачыць і сябе ў той рэальнасці, будучыні.

Мастацкі свет, пакінуты нашчадкам Аляксеем Пысіным, такі бязмежны, неабсяжны, што стварыць яго мог толькі чалавек да апошняй крывінкі родны і роўны гэтаму свету, чалавек, надзелены светлай душой і чулым сэрцам. Паэт жыў і актыўна сцвярджаў сваю прысутнасць у грамадстве. Жыў сярод людзей, хварэў на ўсе іх крыўды і пакуты, быў адкрыты чужому гору, болю і мужна нёс крыж сваіх пакут. Заўсёды ўмеў падняцца над будзённай шэрасцю і злом, каб быць адначасова ў свеце, са светам і па-за ім, быць адасобленым і незалежным, калі такое дыктавала душа і сумленне. А яшчэ — балючым і самотным. Не-не дый прарвецца адчайнае прызнанне лірычнага героя: «І ў сэрцы, не закутым у браню, // Я адчуваю боль нечалавечы». Паводле трапнага мастацкага вызначэння Змітрака Марозава, як і любімыя рэкі і рэчкі Пысіна, сам ён менавіта «адплыў» у вечнасць, пакінуўшы жывым свой след, свой знак: «Адплыў паэт. А мне смяецца // Яго вячэрняя зара».

Цікае гадзіннік жыцця, няспешна адлічвае ўсяму свой час і сваю меру. Адлічвае бясконцыя кіламетры дарог, якімі ідзе да чытача шчырае слова паэта, сэрца якога ўмела быць адкрытым людзям і свету.

АНЖЭЛІКА МЕЛЬНІКАВА

# У ДЫЯЛОГУ КУЛЬТУР

Сёння перад беларускім літаратуразнаўствам надзвычай актуальна паўстала задача «прачытання» твораў нацыянальнага прыгожага пісьменства ў кантэксце набыткаў сусветнай вербальнай культуры. Калі ўлічыць, што кампаратывістыка з'яўляецца адной з самых складаных і адначасова цікавых частак навукі аб літаратуры, то параўнальна-тыпалагічнае вывучэнне мастацкага слова ў гэтай сувязі дазваляе выявіць як агульнае, так і спецыфічнае, самабытнае ў развіцці нацыянальнага прыгожага пісьменства, асэнсаваць яго ўклад у агульную скарбонку сусветнай культуры. Вядомы даследчык сусветнай культуры В. Тапароў пісаў: «Культура заўсёды апелюе да супастаўлення, параўнання; яна не толькі той асяродак, дзе нараджаюцца сэнсы, але і тая прастора, дзе яны абменьваюцца, «правoдзяцца» і імкнуцца быць перакладзенымі з мовы адной культуры на другую» (В. Н. Топоров. Пространство культуры и встречи в нём. //Восток — Запад. Исследования. Переводы. Публикации. Вып. Четвёртый. М., 1989. С.7).

Разгляд нацыянальнай літаратуры праз прызму сусветнай дазваляе не толькі глыбей асэнсаваць заканамернасці развіцця беларускага мастацкага слова, але і сцвердзіць яго сталасць, паказаць жыццяздольнасць і моц нацыянальнай літаратуры, яе адкрытасць свету. Вывучэнне названай праблемы, акрамя таго, дае магчымасць прадэманстраваць не толькі тое, якім чынам адбывалася засваенне беларусамі іншанацыянальных мастацкіх набыткаў, але і тое, што давала ці магла даць наша літаратура сусветнай пры ўмове развіцця ў нармальных умовах.

Першымі пра неабходнасць выхаду беларускай літаратуры на сусветную арэну загаварылі Максім Багдановіч («За тры гады», 1913) і В. Ластоўскі (артыкул «Па свайму шляху», 1914). Сёння айчынныя вучоныя таксама маюць дастаткова грунтоўныя напрацоўкі ў гэтым плане і найбольш поўна нашым літаратуразнаўствам даследавана менавіта пытанне літаратурных узаемасувязей.

Новы істотны крок у гэтым абсягу — з'яўленне «Нарысаў беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей», падрыхтаваных калектывам вучоных Інстытута літаратуры імя Я.Купалы Нацыянальнай акадэміі навук (навуковыя рэдактары М. А. Тычына і У. І. Мархель), што сталі працягам чатырохтомных «Нарысаў па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей» (1993—1995). Выхад названых работ — сур'ёзнае дасягненне айчыннага літаратуразнаўства, паказчык сталасці беларускай літаратуразнаўчай думкі, сведчанне засваення ёю метадалагічнага вопыту кампаратывістыкі. Прынамсі, беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемасувязі не аднойчы траплялі ў поле зроку такіх знакамітых даследчыкаў, як П. А. Ахрыменка (Летапіс братэрства. Мн.,1973); М. Р. Ларчанка (Яднанне братніх літаратур. Мн., 1974); С. Х. Александровіч (Старонкі братняй дружбы. Мн., 1960); Э. М. Мартынава (Беларуска-ўкраінскі паэтычны ўзаемапераклад. Мн., 1973); Т. В. Кабржыцкая, В. П. Рагойша (Карані дружбы. Беларуска-ўкраінскія літара-

турныя ўзаемасувязі пачатку XX ст. Мн., 1976). Што да выдадзенага акадэмічным Інстытутам літаратуры імя Я. Купалы зборніка «Нарысы беларуска-украінскіх літаратурных сувязей», то яго аўтары улічваюць лепшае з названых работ, грунтуючыся на шырокім фактал агічным і гісторыка-культурным матэрыяле і разглядаючы этапныя моманты літаратурных і культурных сувязей беларусаў і ўкраінцаў: гісторыю станаўлення беларускай і ўкраінскай літаратур як нацыянальна-самабытных духоўных феноменаў, узаемадзеянне беларускай і ўкраінскай літаратур у XX стагоддзі і на мяжы тысячагоддзяў.

У сваіх пошуках даследчыкі зыходзяць з ідэі агульначалавечай сутнасці гісторыі і культуры. Ды і само ўзнікненне параўнальнага літаратуразнаўства звязана менавіта з распаўсюджваннем ідэй талерантнасці і гуманізму, усведамленнем агульнасці маральных і духоўных каштоўнасцей чалавецтва. Некаторыя вучоныя ўвогуле схільны лічыць кампаратывістыку «ледзьве не найвышэйшым пунктам у вывучэнні ўсёй літаратуры наогул» (Брунэль П., Пішуа К., Русо А-М. Што такое параўнальнае літаратуразнаўства? Мн., 1996, С.7), называюць параўнальнае літаратуразнаўства «Новым гуманізмам». Асабліва моцны ўздым кампаратывістыка перажыла ў XX стагоддзі, з развіццём міжнародных сувязей, дзейнасцю сродкаў масавай інфармацыі, перакладамі.

Параўнальнае вывучэне літаратур прадугледжвае ўстанаўленне не толькі падабенстваў і супадзенняў, але і адрозненняў і разыходжанняў у іх развіцці, што і наглядаем у новым даследаванні. Кампаратывістыка дапамае больш глыбокаму спасціжэнню ўнутраных заканамернасцей развіцця пэўнай літаратуры, «нагляднa ілюструе глыбінныя з'явы сучаснай нацыянальнай гісторыі». Адпаведна, «Нарысы…» — гэта перш за ўсё асэнсаванне спецыфікі беларускага прыгожага пісьменства, паглыбленне і ўдакладненне ранейшых ацэнак літаратурнага працэсу і творчасці асобных пісьменнікаў.

Азнаямленне з «Нарысамі беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей» дазваляе зрабіць грунтоўныя агульныя высновы, важныя для далейшых распрацовак у плане параўнальнага вывучэння нацыянальнай літаратуры. Нацыянальная своеасаблівасць беларускай і ўкраінскай гісторыі, культуры, літаратуры, «самой чалавечай натуры» бачыцца даследчыкамі «варыянтам агульнаеўрапейскага прагрэсу, які выпрабоўваецца часам». Так, М. Тычына адзначае: «Усходнеславянская і агульнаеўрапейская гісторыка-культурная прастора, складовай часткай якой і з'яўляецца беларуска-ўкраінская міжлітаратурная супольнасць, можа ўспрымацца як структурна-арганізаваная і дынамічная сістэма з усімі прыкметамі, характэрнымі для жывой цэласнасці». Нашымі даследчыкамі пераканаўча даказана прыналежнасць старабеларускай, новай беларускай літаратуры да еўрапейскай мастацкай традыцыі. Аналагічныя меркаванні гучаць і ў «Нарысах…»: «У гісторыі беларускай літаратуры не было перыядаў, калі б яна развівалася па-за сусветным кантэкстам». Важнае значэнне адыгрывае тут і геаграфічнае становішча нашай краіны, якая працяглы час выступала як праваднік пэўных ідэй, поглядаў, пэўнай літаратурнай моды. Менавіта такую ролю выконвала Беларусь у эпоху Сярэднявечча і Рэнесансу паміж Заходняй Еўропай і Расіяй.

Увогуле, зыходным прынцыпам параўнальнага літаратуразнаўства з'яўляецца канцэпцыя цэласнасці літаратуры, прызнанне існавання агульназначных асаблівасцей еўрапейскага мастацкага мыслення, якое ў кожным асобным выпадку праяўляе сябе па-свойму, і, акрамя таго, у кожнай з краін ёсць свае ўласныя цэнтры прыцягнення, свае ўласныя выдатныя мастакі, што адхіляюцца ад агульнага шляху і вызначаюць адметнасць нацыянальнай традыцыі. Аналагічных пазіцый прытрымліваецца, дарэчы, і вядомы румынскі даследчык А. Дзіма, сцвярджаючы «правамернасць такога паняцця, як «еўрапейская літаратура», што выразна ўсведамляецца ў сваіх межах, у сваёй гістарычнай рэальнасці» (Дима А. Принципы сравнительного литературоведения. М., 1977. С. 10). Пры гэтым заў-

важым, што агульнымі культурнымі пачаткамі еўрапейскай літаратуры выступаюць грэка-рымская культура і хрысціянства. Невыпадкова, што менавіта ў час прыняцця беларусамі і ўкраінцамі хрысціянства і пачалі з'яўляцца сапраўдныя мастацкія каштоўнасці». Даследчык падкрэслівае вызначальную ролю хрысціянства ў станаўленні новай беларускай і ўкраінскай літаратур: «новая беларуская і ўкраінская літаратуры, якія станавіліся творча ў полі ўздзеяння іншых еўрапейскіх літаратур, грунтуюцца на асноватворных пастулатах хрысціянства, нават калі асобныя яе прадстаўнікі і сумняваліся ў богацэнтрычнасці светапабудовы».

Канцэптуальнай думкай новага даследавання сталася і выснова пра важную ролю літаратурных сувязей і ўплываў у абсягу эвалюцыі мастацкага слова. Прыгожае пісьменства не можа і не існуе ізалявана. Міжлітаратурныя камунікацыі — моцны стымул развіцця мастацтва слова. Пра гэта ў свой час пісаў яшчэ А. Адамовіч (Маштабнасць прозы. Урокі творчасці К. Чорнага. Мн., 1972; Здалёк і зблізку. Мн., 1976). Пра важную ролю іншанацыянальнага фактару ў развіцці беларускай літаратуры піша М. Тычына: «Творчая эвалюцыя беларускай літаратуры на працягу ўсяго XIX — пачатку XX ст. адбывалася ва ўмовах духоўнага нацыянальнага Адраджэння і ў асаблівай ступені стымулявалася ідэйнымі і мастацкімі інтэнцыямі з боку літаратур славянскіх і, шырэй, еўрапейскіх народаў». Аналагічныя думкі выказвае таксама В. Локун: «Менавіта ўзаемадзеянне з іншымі літаратурамі дало магчымасць нацыянальнай літаратуры развівацца паскоранымі тэмпамі, не замыкацца на сваіх унутраных праблемах і не стаяць на ўзбочыне ад сусветнага руху культуры».

Разам з тым аўтары «Нарысаў...» ні ў якім разе не абсалютызуюць ці перабольшваюць ролю міжлітаратурных кантактаў і ўплываў, што разглядаюцца як сістэма фактараў ўздзеяння. У «Нарысах...» бліскуча рэалізаваны прынцып інтэграцыі гуманітарных навук пры ўліку дасягненняў сучаснай культуралагічнай і гістарычнай думкі. Так, М. Тычына ў артыкуле «Карані: культуралагічны дыскурс», разглядаючы «Радзівілаўскі летапіс», звяртаецца да вытокавых момантаў станаўлення беларускай і ўкраінскай літаратур, калі нацыянальная самабытнасць гэтых літаратур выявілася «досыць наглядна». Аналізуючы летапісы, аўтар робіць шэраг цікавых высноў адносна асаблівасцей нацыянальнага характару беларусаў і ўкраінцаў: «...беларусы і ўкраінцы не прызнаюць фатуму, які нельга змяніць, а прымаюць фатум, на які можна паўплываць, з якім можна дамовіцца». Даследчык падкрэслівае асноватворную ролю мастацкай літаратуры ў закладванні анталагічных асноў нацыі, калі менавіта мастацкая літаратура называе і тым самым вызначае духоўнае аблічча нацыі, яе структуру менталітэт». І сапраўды, кожная літаратура — гэта своеасаблівая паліфанія, дзе зашыфраваны духоўны вопыт нацыі, семантыка нацыянальнай культуры, урэшце, Космас нацыянальнага, таго, што М. Багдановіч назваў «нацыянальнай душой», У. Дубоўка — «спрадвечнай існасцю», П. Фларэнскі — «духоўным генатыпам», І. Ільін — «нацыянальным духоўным актам» (І. Чарота. Пошук спрадвечнай існасці. Мн., 1995. С. 13), а сам І. Чарота — «радаводнай памяццю». Менавіта і з'яўленне Нацыянальнага Тэксту выступае паказчыкам духоўнага нараджэння нацыі, этнакультурнага самаўсведамлення: «Нацыянальны тэкст ёсць найвышэйшай праявай творчага нацыянальнага духу, крэатыўных здольнасцей нацыі. Ён утварае культурную прастору жыццяздольнасці нацыі... і ў кожнай сваёй новай генерацыі нацыя мае магчымасць самааднаўлення сябе праз прачытанне гэтага Тэксту» (Анціпенка Алесь. Этнас, нацыя, нацыянальная самасвядомасць // Культура, 1994. 26 студзеня. С. 6).

У зборніку падкрэсліваецца вызначальная роля эстэтычнага ў станаўленні этнічнага: «Этнічнае самаадчуванне з'яўлялася менавіта тады, калі чалавек племені, прадстаўнік роду, пачынаў асэнсоўваць свет эстэтычна...» Менавіта эстэ-

тычнае пачуццё выступае перадумовай нацыянальнага і мастацкага. Увогуле, мастацкае, літаратура, Слова мае выключнае значэнне для беларускай нацыі. Нашы вучоныя неаднойчы пісалі пра выратавальную і ахоўную ролю Слова для беларусаў. Беларусь — нацыя вербальнай культуры. Так, І. Афанасьеў у манаграфіі «Чарнобыльскае светаадчуванне ў сучаснай беларускай літаратуры» (Мн., 2001) адзначае: «Расейцы шануюць сваю культуру як спадчыну гісторыі. Беларусы намагаюцца зрабіць з нацыянальнай культуры (і літаратуры) падмурак гісторыі». Прыгожае пісьменства для нас больш, чым проста прыгожае пісьменства: «На працягу стагоддзяў яно (Слова. — **А. М.**) было нацыянальным выратаваннем, а сёння, пасля Чарнобыля, «слова ў мастацкай прасторы, акрэсленай усімі магчымымі набыткамі прыгожага пісьменства, абумоўлівае шанц альтэрнатывы ў спрэчцы з непазбежнасцю сапраўднай катастрофы». Бадай, галоўная выснова з манаграфіі І. Афанасьева — «Нацыянальная гісторыя здзяйсняецца як намаганне літаратуры».

Апрыёрнай крыніцай любой культуры з'яўляецца навакольнае асяроддзе, ва ўлонні якога народ сцвярджае сваё гістарычнае быццё, і ў гэтай сувязі тып культуры вызначаецца менавіта спосабам засваення прасторы і часу. Пры гэтым прырода, на думку многіх даследчыкаў, мае першаснае ўздзеянне на фарміраванне нацыянальнага светапогляду, ладу і стылю мыслення.

Прынамсі, у раздзеле «Эпоха будзіцеляў: анталогія «новага слова» разглядаецца падабенства жыццёвага і творчага лёсу Т. Шаўчэнкі і Я. Купалы, эмацыянальнага гучання, пафасу, ідэйнай скіраванасці, мастацкіх асаблівасцей твораў вялікіх паэтаў, калі з розніцай у паўстагоддзе перад пісьменнікамі паўстала неабходнасць «вырашаць адны і тыя ж праблемы», абумоўленыя гістарычнымі абставінамі.

Раздзел утрымлівае канцэптуальныя палажэнні, метадалагічныя падыходы і прынцыпы, якія стануць асновай для далейшых пошукаў кампаратывістаў: «Працэс уваходжання беларускай і ўкраінскай літаратур ва ўсходнеславянскі і сусветна-еўрапейскі літаратурны кантэкст, распад «старой» сістэмы творчых камунікацый і стварэнне «новай» сістэмы інфармацыйнай прасторы мае не толькі чыста тэарэтычнае значэнне: жывая практыка мастацкай творчасці, самога літаратурнага працэсу вымагае значнага пашырэння духоўнай прасторы, стварэння іншай эстэтычнай асновы для ўзаемазбліжэння і ўзаемаўзбагачэння нацыянальных культур...».

Беларускія філосафы традыцыйна называюць два фактары, вызначальныя ў станаўленні нацыянальнага характару: ваеннае мінулае і грунтоўнасць сялянскага побыту. Гэтым праблемам прысвечаны артыкулы Ж. Шаладонавай «Якуб Колас і Міхайла Кацюбінскі: тыпалогія творчасці»,

В. Локун «Вайна і мір» Л. Талстога і развіццё беларускай і ўкраінскай ваеннай прозы першай паловы XX стагоддзя: канцэпцыя гісторыі і чалавека», Т. Андрэйчанкі «Аляксандр Даўжэнка і Алесь Адамовіч».

У даследаванні праблемы стаўлення Я. Коласа і М. Кацюбінскага да зямлі Ж. Шаладонава, прынамсі, звяртае ўвагу на тое, што менавіта ў творах класікаў зашыфраваны пэўны код развіцця нацыянальнай мастацкасці ўвогуле. Для беларускай і ўкраінскай літаратур (і не толькі літаратур, але і для нацый ў цэлым) творы пра вёску маюць фундаментальнае значэнне, так як у творах пра сялян як бы ўвасабляецца Космас нацыянальнага быцця, выяўляюцца нацыянальна каштоўныя рысы характару. Вобраз зямлі, як адзначае Ж. Шаладонава, «уяўляе сутнасную канстанту нацыянальнага быцця і нязменную агульначалавечую каштоўнасць». Даследчыца падкрэслівае: «Спасціжэнне ідэйна-філасофскага зместу твораў «зямельнай», «сялянскай» тэматыкі мае свае прыярытэты, бо дазваляе раскрыць індывідуальна-псіхалагічны воблік аўтараў, адметныя якасці нацыянальнага менталітэту, заўважыць найбольш важныя тэндэнцыі духоўна-культурнага

развіцця народа, яго гістарычных перспектыў». Аналіз творчасці Я. Коласа і М. Кацюбінскага вылучаецца дакладнасцю, падрабязнасцю, добрасумленнасцю. Аўтар разглядае тэматыку і праблематыку, вобразна-выяўленчыя сродкі, жанравую прыналежнасць, стылёвыя асаблівасці твораў Я. Коласа і М. Кацюбінскага, «спецыфіку праяўлення ў іх творчасці нацыянальнага менталітэту», што ў беларусаў «увасобілася ў павышанай адаптыўнасці характару... а для ўкраінцаў — у пасіянарнасці, абвострана-трагічным успрыняцці крытычных сітуацый, імкненні да радыкальных свабодалюбных вырашэнняў супярэчнасцей....» Аўтар праводзіць сваё даследаванне праз прызму хрысціянскіх каштоўнасцей. Скрупулёзны аналіз абодвух твораў дазволіў Ж. Шаладонавай зрабіць наступную выснову: «Замест небяспечнай і ілюзорнай спакусы фарсіраванымі метадамі набыць, злавіць зямное шчасце Я. Колас засяродзіў увагу на імкненні да ўнутранай гармоніі і духоўнай годнасці, разумнай самадастатковасці чалавека і тым самым пераадолеў трагедыю «Fata-morgana». Бо «якая карысць чалавеку, калі ён здабудзе ўвесь свет, але пашкодзіць душы сваёй?» (Мацв. 16:26)».

Артыкул В. Локун «Вайна і мір» Л. Талстога і развіццё беларускай і ўкраінскай ваеннай прозы першай паловы XX стагоддзя: канцэпцыя гісторыі і чалавека» напісаны на багатым фактычным матэрыяле, праз прызму філасофскіх ідэй М. Бярдзяева, К Лявонцьева, Ул. Салаўёва, М. Фёдарава. Трэба нагадаць, што нашы вучоныя (В. Акудовіч, Е. Лявонава, Л. Корань, М. Тычына) неаднойчы звярталіся да праблемы асэнсавання твораў М.Гарэцкага ў кантэксце твораў заходніх пісьменнікаў, прысвечаных першай сусветнай вайне. В. Локун, такім чынам, пашырае абсяг даследавання беларускай ваеннай прозы, параўноўвае творы М. Гарэцкага, К. Чорнага, В. Быкава з творамі А. Ганчара, М. Стэльмаха, І. Мікіценкі, Б. Васільева, В. Астаф'ева, І. Стаднюка, В. Кандрацьева, Л. Первамайскага. Асэнсоўваючы вопыт вялікага рускага пісьменніка і яго ўздзеянне на літаратуру, даследчыца адзначае, што Л. Талстой пазбавіў вайну яе гераічнага арэолу, што ўласціва і аповесці М. Гарэцкага «На імперыялістычнай вайне». Аналагічныя высновы ў свой час былі зроблены і В. Акудовічам. Разглядаючы беларускую і ўкраінскую ваенную прозу, В. Локун вылучае тое, «што паядноўвае іх эстэтычныя сістэмы і што іх раз'ядноўвае». Так, даследчыца адзначае, што і руская літаратура, і ўкраінская не мела такога «глыбокага, эстэтычна значнага твора аб першай сусветнай вайне, як беларуская». Размова ідзе пра аповесць М. Гарэцкага «На імперыялістычнай вайне». У творы беларускага пісьменніка з'яўляецца «матыў «горкай праўды», якая спараджалася «суб'ектыўнай» віной дзяржавы. Матыў віны дзяржавы дамінаваў у еўрапейскай прозе першай сусветнай вайны — у рамане А. Барбюса «Агонь» і асабліва ў літаратуры «згубленага пакалення» (Э. Рэмарк «На заходнім фронце без змен», Э. Хэмінгуэй «Бывай, зброя», Р. Олдзінгтон «Смерць героя», Д. Пасос «ЗША»). У савецкай літаратуры 50—60 х гадоў гэты матыў чытаўся ў падтэксце і толькі часам вырываўся на паверхню — «Мёртвым не баліць» В. Быкава, «Жыццё і лёс» В. Гросмана. Канцэпцыя вайны Л. Талстога такой горкай праўды пазбаўлена». Даследчыца асэнсоўвае спецыфіку выяўлення пачуцця патрыятызму ў творах пісьменнікаў, звяртаецца да праблемы Бога «як вышэйшай маральнай субстанцыі», разважае аб праблемах вайны і свабоды, катэгорый народнасці, асабістага і агульнага. Разважаючы аб ролі талстоўскіх традыцый, В. Локун робіць выснову: «Талстоўская гуманістычная канцэпцыя чалавека і свету, з яе хрысціянскім разуменнем дабра і зла, была ўспрынята пісьменнікамі ўсходнеславянскага рэгіёна па-свойму, з улікам нацыянальнай эстэтычнай свядомасці». Перш за ўсё гэта моцна выражаны нацыянальны пафас у М. Гарэцкага і песімістычнае гучанне яго твора ў адрозненне ад талстоўскага. У той жа час «украінская проза першай сусветнай вайны цесна звязана з традыцыямі рамантызацыі вобраза гісторыі». Даследчыца паказвае таксама першынство беларускіх пісьменнікаў у пастаноўцы пэўных важнейшых праблем.

Прынамсі: «Задоўга да «Чужога» А. Камю М. Гарэцкі з уражлівай сілай паказаў адчужэнне чалавека ў новым свеце...».

Новым этапам пасля «Вайны і міру» Л. Талстога і «Камароўскай хронікі» М. Гарэцкага стала творчасць К. Чорнага. Значным дасягненнем К. Чорнага, сцвярджае В. Локун, стаў разгляд з'явы фашызму як «складанай сістэмы палітычных і маральных адносін, якая спарадзіла два ўзаемазалежныя між сабою тыпы людзей: звышчалавекаў і рабоў»,. што ўвасоблена ў раманах «Пошукі будучыні» і «Вялікі дзень». Даследчыца робіць шэраг істотных заўваг адносна спецыфікі развіцця беларускай літаратуры ўвогуле. Артыкул В. Локун надзвычай цікавы, змястоўны.

«Нарысы…» дэманструюць пэўны плюралізм думак. Так, Т. П. Андрэйчанка ў артыкуле «Аляксандр Даўжэнка і Алесь Адамовіч» сцвярджае, што арыентацыя на творчы вопыт Л. Талстога, да якога звярнулася беларуская ваенная проза, у значнай ступені дзякуючы А. Адамовічу была памылковай, пра што гаворка пойдзе ніжэй.

М. Тычына ў артыкуле «Драма Адраджэння» аналізуе працэс «стварэння новай літаратурнай мадэлі» на Беларусі і Украіне канца XIX —пачатку XX стагоддзя. У артыкуле пададзены вялікі аб'ём фактычнага матэрыялу, дакументаў, літаратуразнаўчых крыніц. Аўтар надае належнае вывучэнню агульнай духоўнай, культурнай і мастацкай атмасферы эпохі, што істотна ўплывае на свядомасць пісьменнікаў і знаходзіць сваё выражэнне ў творах. Даследчык адзначае, што беларускія аўтары часта звярталіся «да гістарычнага і літаратурнага вопыту ўкраінцаў». М. Тычына дэманструе грунтоўнае веданне гісторыі ўкраінскай літаратуры, свой аналіз праводзіць абапіраючыся на творы І. Франко, П. Тычыны, У. Віннічэнкі, М. Хвылёвага і інш. пісьменнікаў. У раздзеле «Энцыклапедызм мастацкага мыслення як феномен» аўтар параўноўвае мастацкія сістэмы Я. Коласа і І. Франко: «...кожны з іх у сваёй нацыянальнай літаратуры накрэслілі новы тып мастацкага мыслення, выпрацавалі новы спосаб паэтычнага і празаічнага апавядання». Падрабязна разглядаючы пераемнасць паміж творчасцю ўкраінскага і беларускага пісьменнікаў, аўтар адзначае сінхроннасць, падабенства літаратурнага працэсу на Украіне і на Беларусі пасля 1917 года, калі «абедзьве краіны хутка сталелі ў сваім культурным развіцці і міжволі больш увагі надавалі таму, што адбывалася ў блізкіх і далёкіх суседзяў, шукаючы сабе духоўную падтрымку і ўзоры для творчай вучобы». Кампетэнтна, грунтоўна аналізуе М. Тычына літаратурна-мастацкі працэс 20-х гадоў з яго складанасцю, разнастайнасцю, супрацьстаяннем розных мастацкіх ідэй, з яго небывалым накалам і трагізмам. Перыяд развіцця літаратуры 20-х гадоў і на Украіне, і на Беларусі з'яўляецца этапным, прадвызначальным для далейшага поступу. Менавіта ў гэты час былі абазначаны мастацкія і эстэтычныя традыцыі, што характарызавалі развіццё абедзвюх літаратур у далейшым. Аўтар яшчэ аднаго раздзела зборніка «Чуття єдниопродини» параўноваe мастацкія сістэмы У. Дубоўкі і П. Тычыны, паэтаў, блізкіх «па таленту, па ўспрыняццю свету, па творчай праграме, па асаблівых адносінах да музыкі верша», паказвае, як сталінская сістэма калечыла людскія лёсы, нішчыла таленты.

У раздзеле «Беларускія рэаліі і «позірк збоку» ў тэксце» асэнсоўваецца ўплыў «іншага» позірку (больш сталых літаратур) на творчасць У. Віннічэнкі ва ўкраінскай і М. Гарэцкага ў беларускай літаратуры. Прынамсі, засведчана, што названыя пісьменнікі, як адзначае аўтар, «стваралі новы тып мастацкай прозы, улічвали набыткі класічнай прозы XIX ст. і арыентаваліся на творчыя здабыткі мадэрнісцкіх напрамкаў». Урэшце — «адкрылі перспектыву «іншай», «новай» літаратуры, прадэманстраваўшы многія перавагі і хібы сучаснага мыслення, якое прадугледжвае ў якасці абавязковай нормы варыятыўнасць, шматзначнасць, супярэчлівасць чалавечых паводзін у свеце і г.д.».

Арыентацыя на сусветныя мастацкія ўзоры, як вядома, спрыяла павышэнню

інтэлектуальнага і мастацкага ўзроўню нашай літаратуры, павышала культуру творчасці, і падобная скіраванасць у пісьменнікаў была свядомая і мэтанакіраваная (дзейнасць літаб'яднання «Узвышша»). Беларускім літаратуразнаўствам і сёння даволі плённа распрацоўваецца пытанне ўплыву мадэрнісцкіх плыняў на айчынную літаратуру (працы Л. Корань, П. Васючэнкі, І. Багдановіч, В. Максімовіча, Дз. Санюка і інш.), пра што сведчаць і «Нарысы…».

У кнізе шмат глыбокіх разважанняў адносна спецыфікі сённяшняй культурнай сітуацыі, сітуацыі мяжы тысячагоддзяў. Так, Т. Андрэйчанка ў артыкуле «Аляксандр Даўжэнка і Алесь Адамовіч» зазначае, што культурныя межы эпох часта не супадаюць з каляндарнымі. Справядліва гэта і ў дачыненні да мяжы XX—XXI стагоддзяў, «толькі ў адрозненне ад XIX ст. з пункту гледжання культурнага развіцця яны не расцягнуліся, а, наадварот, сціснуліся, сплюшчыліся і заканчваюцца ці закончыліся не ў 2000 г., а значна раней». Гэтае сцверджанне, на думку аўтара, слушнае і ў адносінах да беларускай літаратуры, таму што менавіта ў 1981 годдзе (час выхаду «Карнікаў» А. Адамовіча) XX ст. для беларускай літаратуры і «скончылася». Імкнучыся наблізіцца да асэнсавання феномену А. Адамовіча, Т. Андрэйчанка спрабуе пашырыць «той літаратурны кантэкст (і культурны таксама), які дазволіў бы паглядзець і на асобу беларускага пісьменніка, як тып, і на яго творчасць», і параўноўвае творчасць А.Адамовіча з творчасцю Аляксандра Пятровіча Даўжэнкі, «постаццю сусветнага ўзроўню… па значнасці ўплываў на само сусветнае мастацтва». У артыкуле Т. Андрэйчанка выказвае шмат цікавых ацэнак творчасці А. Адамовіча і ўсёй нашай ваеннай прозы таксама. Так, аўтар мяркуе, што талстоўская арыентацыя нашай прозы — «гэта памылка, або, скажам мякчэй, арыентацыя, не зусім верна абраная», паколькі «паміж «аптымістычнай ураўнаважанасцю» (А. Адамовіч) талстоўскай эпапеі і неаптымістычнасцю, неўраўнаважанасцю, трагедыйнасцю беларускіх Хатыняў і беларускай партызанкі зазяла велізарная бездань...». Т. Андрэйчанка адзначае, што А. Даўжэнка, наадварот, арыентаваўся на творчы вопыт М. Гогаля і М. Шолахава, якія здолелі паказаць вайну і як сутыкненне сваіх са сваімі, вайну як нацыянальную трагедыю. А. Даўжэнка, як падкрэслівае Т. Андрэйчанка, ужо ў пачатку вайны «здолеў разгледзець у агні яе той самы грамадзянскі складальнік». Аўтар лічыць, што памылковай з'яўляецца ўстаноўка сцвердзіць права беларусаў на годнае месца ў сусветнай супольнасці праз выяўленне тых непамерных пакут, якія давялося вынесці нашаму народу, «бо свет зусім не лічыць нялюдскія, нечалавечыя пакуты важкім аргументам на карысць нашай чалавечнасці, на карысць нашага права людзьмі звацца». Т. Андрэйчанка сцвярджае, што цікавыя свету мы можам быць толькі праз «творчасць прыгожага». Пра сусветную місію беларускай культуры разважае і І. Афанасьеў у сваёй манаграфіі «Чарнобыльскае светаадчуванне ў сучаснай беларускай літаратуры». Даследчык выказвае меркаванне, што беларусы — «выбраны народ, які ўзнялі свой нацыянальны вопыт на вяршыню чалавечага», паколькі «беларусам толькі і застаецца, што ўсвядоміць сябе ў вымярэнні гісторыі як культуры, што рэалізуе ўсе астатнія варыянты быцця». І. Афанасьеў прыходзіць да высновы не толькі аб жыццядзейнасці беларускай культуры, але і пра яе унікальнае значэнне для астатняга свету: «Дзіўна, але менавіта тое, што беларусы — нацыя невымоўнага, надае жыццёвую актуальнасць першаслову, дакладней нават двум, з дапамогай якіх філосаф і тэолаг М. Бубер вызначаў экзістэнцыяльныя стасункі чалавека з чалавекам і чалавека з светам («Я — Ты» і «Я — Яно»), абгрунтоўваючы «сферу Паміж» як першасную катэгорыю чалавечай рэчаіснасці, адкуль павінна выйсці «сапраўднае Трэцяе».

Артыкул Т. Андрэйчанкі атрымаўся роздумным, праблемным. Аўтар уздымае такія пытанні, што боязна іх «ничтоже сумняшеся» і пераказваць, закранаць. З многімі высновамі нельга не пагадзіцца, іншыя выклікаюць пярэчанне. Аднак адзначым, смеласць аўтара выклікае павагу: Т. Андрэйчанка не баіцца выказаць

сваю пазіцыю. Але важна, што праблемы, узнятыя Т. Андрэйчанка, — варты асобнай гутаркі і абмеркавання.

Культуралагічны ракурс абрала Л. Турбіна ў артыкуле «Эпоха змены парадыгм». Аўтар указвае, што «менавіта паэзія з'яўляецца зараз бясспрэчным «лідэрам» ва украінскай культуры; менавіта тут можна з большай упэўненасцю казаць пра яе еўрапейскі і сусветны ўзровень». Даследчыца звяртаецца да разгляду гістарычнага рамана ў вершах украінскай паэтэсы Ліны Кастэнка «Маруся Чурай» і перакладу двух раздзелаў з яго Н. Мацяш. Паказальным з'яўляецца той факт, што твор, напісаны жанчынай і пра жанчыну, тым больш жанчыну-творцу, гэта значыць, цалкам праз прызму жаночай суб'ектыўнасці, меў вялікі розгалас на Украіне і за яе межамі. Трэба сказаць, што падобныя творы маем і ў беларускай літаратуры: «Крыж міласэрнасці» В. Коўтун, «Стану песняй» Л. Арабей. Нездарма менавіта В. Коўтун з'яўляецца перакладчыцай вершаў Л. Кастэнка. Л. Турбіна цалкам справядліва бачыць у гэтым пэўны знак сённяшняй літаратурнай сітуацыі, «эпохі змены парадыгм», калі жанчына прамаўляе свае права на творчасць, «робіць замах на чыста мужскую прэрагатыву чыстай творчасці». Ды і ў самім артыкуле жанчына выступае як «азначаючае» ў ідэалагічным дыскурсе. Дылема «жанчына-захавальніца сямейнага ачага і жанчына-Творца» асэнсоўваецца і ў паэме «Маруся Чурай». Л. Турбіна такім чынам уздымае ў сваім артыкуле праблемы, якія «блукаюць па Еўропе» ўжо не адзін дзесятак гадоў. Нядаўна дайшлі яны і да Беларусі: працы А. Усманавай, артыкулы І. Шаблоўскай, Л. Рублеўскай. Цэласнае даследаванне гендэрнай праблематыкі на беларускім матэрыяле належыць Т.Фіцнер. Увогуле, варта адзначыць, што гендэрныя даследаванні — даволі перспектыўны напрамак у навуцы.

Пры гэтым адзначым, што, магчыма, у перспектыве, гендэр стане адным з цэнтральных навуковых накірункаў, паколькі падобныя даследаванні ўвогуле прэтэндуюць на стварэнне асобнай навуковай парадыгмы, дзякуючы якім пашыраюцца рамкі традыцыйнага літаратуразнаўства, змяняецца сам модус навуковага мыслення.

Такім чынам, «Нарысы беларуска-украінскіх літаратурных сувязей» — даволі актуальнае даследаванне, аўтары якога пашыраюць нашы ўяўленні пра культурна-гістарычныя і творчыя кантакты народаў-суседзяў, дапамагаюць лепш зразумець мастацкую, духоўную, эстэтычную унікальнасць беларускай і ўкраінскай літаратур.



ГАННА ЗАПАРТЫКА

# З ФРАНТАВОЙ КАГОРТЫ

Беларускі паэт Анатоль Вялюгін у сваіх успамінах пра сустрэчу ў 1942 г. з Хвядосам Шынклерам — вядомым пісьменнікам, які добраахвотна пайшоў на фронт, запісаў: «... давялося сустрэцца з Шынклерам на станцыі Камышын. На Камышын тады часта налятала нямецкая авіяцыя. Ну, як? — спытаў я, калі заціхла чарговая бамбёжка. — Нічога, — Шынклер абтрэсваў з шынеля вапняны пыл.

— Усё ж гэтага ніколі не прамяняю на ціхі, цёплы закутак, дзе можна памерці з нецярплівасці, чакаючы чарговай зводкі, дый да Беларусі нам бліжэй адгэтуль...» Хвядос Шынклер загінуў 25 кастрычніка 1942 г. пад Сталінградам.

Перад многімі з іх была магчымасць выбару: эвакуацыя альбо фронт ці партызанскі атрад. Яны выбіралі змаганне. Мной падлічана, што на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у партызанскіх атрадах, падполлі, франтавым і ваенным друку змагалася 208 беларускіх пісьменнікаў: з іх 104 франтавікі, 36 — партызан, 15 — падпольшчыкаў, 6 — ваенных урачоў і санінструктараў, 2 — лётчыкі, 33 — супрацоўнікі франтавога і ваеннага друку, 10 — працаўнікоў тылу. 26 беларускіх пісьменнікаў, якія яшчэ да вайны мелі зборнікі і шэраг публікацый і былі сябрамі Саюза пісьменнікаў, — загінулі на франтах і ў патрыятычным падполлі.

Больш паловы пісьменнікаў, хто ваяваў, сваю творчую дзейнасць пачалі ў апошняе перад вайной пяцігоддзе і раней. Гэта вядомы ўсім Анатоль Астрэйка, Мікола Аўрамчык, Зінаіда Бандарына, Алесь Бачыла, Антон Бялевіч, Рыгор Бярозкін, Міхась Васілёк, Анатоль Вялюгін, Пімен Панчанка, Пятро Прыходзька, Аляксей Пысін, Аляксей Русецкі, Язэп Семяжон, Васіль Хомчанка, Алесь Якімовіч і многія іншыя. Вайна, што змясціла ў сваім паняцці пакуты і смерць, боль за спаленую і разрабаваную краіну, трагедыі цэлых народаў, кардынальна змяніла тэматыку іх творчасці, яе матывы і жанравую стылістыку. Беларуская літаратура атрымала ў выніку сапраўдныя шэдэўры ваеннай прозы і паэзіі.

Многія былыя франтавікі і партызаны прыйшлі ў літаратуру пасля 1945 г. Гэта была магутная плынь: Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, Янка Брыль, Аляксей Карпюк, Іван Кудраўцаў, Аляксей Кулакоўскі, Андрэй Макаёнак, Іван Мележ, Іван Навуменка, Валянцін Тарас, Іван Шамякін, Уладзімір Калеснік і іншыя. Яны ў сваёй творчасці змаглі па-новаму асэнсаваць перажытыя ваенныя гады і далі свету неперавзыдзеныя па псіхалагічнай дакладнасці і гістарычнай праўдзівасці творы.

З асаблівай увагай беларускія архівісты адносіліся і адносяцца да асабістых архіваў тых, хто прайшоў вайну ў змаганні. На працягу ўсёй гісторыі Беларуска-

га дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва дакументы перыяду Вялікай Айчыннай вайны і архівы пісьменнікаў-франтавікоў і партызан былі пад нязменным заступніцтвам. Створаны і служаць гісторыі архіўныя фонды лётчыка і камандзіра эскадрыллі Аляксандра Авечкіна, партызана Алеся Адамовіча, ваеннага ўрача Антона Алешкі, генерал-маёра Мікалая Аляксеева, санінструктара дывізіі Панфілава Зінаіды Бандарынай, партызана-разведчыка Янкі Брыля, франтавікоў Васіля Быкава, Вісарыёна Гарбука, Алеся Жаўрука, Міколы Лобана, Аляксея Кулакоўскага, Івана Мележа, Івана Новікава, Рыгора Няхая, Пімена Панчанкі, Навума Перкіна, Паўлюка Пранузы, Аляксея Пысіна, Пятра Рунца, Рамана Сабаленкі, Міколы Ткачова, Канстанціна Цітова, Івана Шамякіна, Уладзіміра Шахаўца, Янкі Шарахоўскага, Алеся Якімовіча; партызанаў Валянціна Таўлая, Янкі Непачаловіча, Алеся Савіцкага; карэспандэнтаў франтавога і ваеннага друку Аркадзя Куляшова, Міхася Лынькова, Алеся Астапенкі, Анатоля Астрэйкі, Яўгена Васілёнка, Іллі Гурскага, Пятра Дудо і іншых.

Адной з цікавых старонак у гісторыі Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва з'яўляюцца гады пошуку і збору дакументаў загінуўшых пісьменнікаў. На вялікі жаль, многае страчана з-за няўвагі да рэліквій іх уладальнікаў, многае трапіла ў школьныя і іншыя музеі. Дзе цяпер тыя музеі і ў чыіх руках неацэнныя матэрыялы?

«Вялікай Перамозе аддалі жыцці 26 беларускіх пісьменнікаў:

1. Змітрок Астапенка (н. 1910) — разведчык, па некаторых звестках загінуў у Карпатах у лістападзе 1944 г. падчас выканання спецзадання.

2. Леанід Гаўрылаў (н. 1918) — механік-вадзіцель танка, загінуў на фронце ў 1941 г.

3. Аркадзь Гейнэ (н. 1919) — камандзір узвода механізаванай брыгады, загінуў 16.12.1942 г. пад Сталінградам.

4. Алесь Дубровіч (н. 1910) — падпольшчык у г. Вілейка, расстраляны фашыстамі 7.11.1942 г.

5. Іван Дзенісенка (н. 1913) — падпольшчык, расстраляны фашыстамі ў 1943 г.

6. Рыгор Жалязняк (н. 1914) — загінуў ў 1942 г. пры абароне Ленінграда.

7. Алесь Жаўрук (н. 1910) — загінуў 23.08.1942 г. пад Сталінградам.

8. Эля Каган (н. 1909) — супрацоўнік франтавога друку, загінуў 22.06.1944 г. на фронце.

9. Уладзімір Кандраценя (н. 1917) — супрацоўнік армейскага друку. На пачатку Вялікай Айчыннай вайны вайсковая частка трапіла ў акружэнне і пісьменнік апынуўся ў палоне. Уцёк дамоў. Перабраўся ў 1942 г. у Слуцк, дзе арганізаваў падпольную групу. Расстраляны фашыстамі 23.02.1943 г.

10. Аляксей Коршак (н. 1920) — разведчык, загінуў 27.02.1945 г. ва Усходняй Прусіі.

11. Сяргей Крывец (н. 1909) — загінуў 28.04.1945 г. падчас штурму Гдыні.

12. Павел Леванович (н. 1914) — удзельнік Мсціслаўскага падполля, з 1943 г. — на фронце, быў паранены, памёр ад ран 20.12.1943 г.

13. Алесь Мілюць (н. 1908) — загінуў на фронце 26.10.1944 г. ва Усходняй Прусіі.

14. Рыгор Мурашка (н. 1902) — удзельнік Мінскага падполля, партызан, загінуў у час прарыву блакады ў красавіку 1944 г.

15. Мікола Нікановіч (н. 1902) — прапаў без вестак на тэрыторыі Чэхаславакіі ў кастрычніку 1944 г.

16. Алесь Пруднікаў (н. 1910) — загінуў 5.08.1941 г. каля вёскі Утукі ў Карэліі падчас выканання баявога задання.

17. Уладзімір Рагуцкі (н. 1917) — загінуў на фронце ў 1941 г.

18. Рува Рэйзін (н. 1911) — загінуў на фронце ў 1942 г.

19. Мікола Сурначоў (н. 1917) — загінуў 20.04.1945 г. пад Берлінам.
20. Мікола Сямашка (н. 1914) — загінуў у 1941 г. пры абароне Оршы.
21. Леў Талалай (н. 1906) — загінуў у 1942 г. на фронце.
22. Андрэй Ушакоў (н. 1912) — загінуў у 1941 г. на фронце.
23. Іван Шапавалаў (н. 1907) — загінуў 26.06.1941 г. на фронце пад Барысавам.
24. Генадзь Шведзік (н. 1914) — загінуў 11.10.1942 г. пад Бранскам.
25. Хвядос Шынклер (н. 1903) — загінуў 25.10.1942 г. пад Сталінградам.
26. Міхась Юдэлевіч (н. 1914) — загінуў у 1941 г. на фронце.

І па сённяшні дзень далёка не ўсё сабрана. Але багацейшую інфармацыю па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны нясуць дакументы фондаў Змітрака Астапенкі (лісты, фотаздымкі, рукапісы твораў), Леаніда Гаўрылава (франтавыя лісты), Івана Дзенісенкі (рукапісы, турэмныя лісты), Алеся Пруднікава (лісты і асабістыя дакументы), Міколы Сурначова (лісты да бацькоў), Андрэя Ушакова (рукапісы), Хвядоса Шынклера (рукапісы і лісты да родных і беларускіх пісьменнікаў).

Многае яшчэ не адшукана і схована ў таемных кутках асабістых архіваў. Зусім нядаўна ў Гродне выяўлены дакументы яшчэ аднаго паэта-франтавіка, загінуўшага ў 1945 г. за дзесяць дзён да Перамогі — Сяргея Крыўца. Перад нястомнымі даследчыкамі страты таямніц паступова адчыняюцца.



## *ДЗЯДОЎНІК НА ПАРНАСЕ*

***Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны справядліва называлі краінай-партызанкай. Тры беларускія франты ў гераічнай барацьбе з ворагам падтрымлівалі чацвёрты фронт народных мсціўцаў. Партызанскія брыгады Беларусі налічвалі каля чатырохсот тысяч народных змагарцаў. Гарэла зямля пад нагамі гітлераўцаў, «толам і порахам» размаўлялі з ворагам пушчы і дубровы нашай Бацькаўшчыны.***

***Але была і яшчэ адна зброя ў нашага народа — гэта вусна-паэтычная творчасць. Трапным словам змагаўся з ворагам партызанскі і падпольны друк. Сёння мы хочам прыгадаць некаторыя гумарыстычныя і сатырычныя радкі таго часу. Вы прачытаеце і славутае пісьмо партызан Гітлеру, запісанае пад дыктоўку 127 партызан Арцёмам Чамярыцай. Яно друкавалася ў газеце «Раздавім фашысцкую гадзіну» ў чэрвені 1942 года. Хто ж такі Арцём Чамярыца? А гэта псеўданім класіка нашай літаратуры Кузьмы Чорнага.***

***Зброя, якой з'яўляецца мастацкае слова, не старэе ніколі. Яно і сягоння напамін многім з тых, хто прагне ўбачыць чалавецтва па калені ў крыві — перамагаюць мужнасць і адвага, жыццялюбства і праўда.***

*Казімір* ***КАМЕЙША***

## ЛІСТ БЕЛАРУСКІХ ПАРТЫЗАН ГІТЛЕРУ

Бандыцкаму фюрэру, крывавому людаеду, сусветнаму абармоту і прахвосту, дурному Адольфу Гітлеру — пішуць беларускія партызаны з атрада бацькі Міная.

Слухай! Ты! Які гэта чорт паддаў табе ахвоты шукаць свае згубы на нашай зямлі? Сядзеў бы ты сабе ў сваім берлінскім логавішчы і смуродзіў бы сабе ў сваёй Германіі. Дык не! Павяла цябе твая бандыцкая натура сюды. З свайго фашысцкага свінуха палез ты ў наш зялёны агарод, нават тупога лыча не абскробшы. І ўся твая сабачня пёрла сюды на злом галавы, як бы яе ззаду пярун гнаў, і ўскочыў ты, сукін сын, у такую калатушу, з якое здохнеш, а капытоў не выцягнеш.

Берлінская ты свіння, тырольскі шчанюк, смярдзючы разнік, нямецкі асёл, абдрыпаны свінюк, і будзе табе скора каюк. Пляскатая тупіца, трыбухатая падла, пісклівы ты брахун і вялікі ты дурань. Бо каб ты крыху быў разумнейшы, дык ты мог бы падумаць, што не табе чапацца з намі. Не такіх у нас бачылі і галаву ім мылілі. А ты думаў, што ў нас не знойдзецца сілы, каб расквасіць тваю тупую віславухую даўбешку? Хіба дрэнна табе пад Масквой нашы растаўклі нюхаўку?

Ці доўга ты яшчэ будзеш аціраццa па нашых вёсках і гарадах? Вядома, няма ўжо табе іншай рады, як перціся на ражон. У цябе ж цяпер то хвост угразне, то нос увязне. Куды ні паткнешся, усюды цябе лупяць, як сукінага сына, а ты ўсё хвалішся, што бярэш верх. Быў у нас такі Савоська-канакрад. Бывала, украдзе каня, дык яго зловяць ды як накладуць па карку, дык ён два тыдні чухаецца, а на трэцім пачне выхваляцца, што вельмі ж назад адбіваўся добра. А нарэшце, ён украў кабылу, і яму такіх плескачоў далі, што ён неўзабаве і свой канакрадскі дух спусціў. Вост так выхваляўся, выхваляўся ды і здох.

Зараз так і з табой будзе. Так штурханём з нашай зямлі, што ты сваіх смярдзючых костак не збярэш. Завыеш ты скора, як паганая сука, — і па сваёй змеша-

най з зямлёй фашысцкай сабачні, і па сваёй дубовай галаве. Скора ўвесь свет пачуе скрып жэрдкі пад тугой вяроўкай, на якой будзеш вісець ты, гадзіна, крывапажэрная морда, бандыцкі зладзюга і мюнхенскі сабакар.

Вось так мы табе сказалі пра самога цябе праўду, а больш не маем часу, бо па дарозе пруцца дзве роты тваёй задрыпанай брыдоты, і мы яе зараз паложым, як мае быць. Скажы Герынгу і Гебельсу, што ім таксама пара падумаць аб сваіх душах на тым свеце. Станьце вы ўсе ўтрох і пацалуйце адзін аднаму, куды трэба, і на гэтым на векі вечныя закончацца ўсе вашы справы. А ты пабольш выхваляйся, дык хутчэй здохнеш.

*(Пад дыктоўку 127 партызан запісаў Арцём ЧАМЯРЫЦА.)*

* * *

Ранкам ясным перад спёкай
Сонца мыецца ў расе.
Немцу я за вока — вока,
А за зуб — вымаю ўсе.

* * *

Марыў, марыў рыжы фрыц
Крыж на фронце зарабіць.
Зарабіў, але ніяк
Не падымецца прусак
З-пад крыжа сасновага,
Кургана дзярновага.

* * *

Захацеў фашыст зямлі —
Мы зямлі яму далі:
Для фашысцкае скаціны
Не шкада нам тры аршыны.

* * *

Немцы есці захацелі
Нашых масленых бліноў.
Наступалі ў поўнай форме,
Адступалі без штаноў.

* * *

Афіцэр паставіў чаркі,
Налівае ў іх віно.
А Іван гранату-скварку
Ім падкінуў у акно.

## *ДА ВЕДАМА ЧЫТАЧОЎ І ПАДПІСЧЫКАЎ:*

***на ІІ паўгоддзе 2003 года адкрыта льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.***

***Ведамасны льготны індэкс — 00727;***
***падпісная цана на 6 месяцаў 2003 г. — 16 800 руб.***

*Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.*
*Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца.*
*У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.*

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220005, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 284-80-12;
намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў літаратуры,
грамадскага жыцця і культуры — 284-49-91.

Стыльрэдактар М. І. Гусева. Камп'ютэрная вёрстка С. І. Стараверава.

Падпісана ў друк з гатовых дыяпазітываў 12.05.2004 г. Фармат $70 \times 108^1/_{16}$. Папера газетная.
Друк. арк. 19,60. Ул.-выд арк. 19,37. Тыраж 1607 экз. Зак. 945.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.

